І яшчэ горшым з’яляецца становішча ў тых выпадках, калі нехта параўноўвае час пралёту метэарыта грунтуючыся на сведчаннях шматлікіх асоб, знаходзячыхся ў двух ці ў некалькіх значна аддаленых адзін ад аднаго гарадах.




Мал. 10

Арбіта лістападаўскіх метэарытаў, перыгелій якіх ляжыць на зямной арбіце.

Возьмем хаця б такі прыклад. Будзем лічыць, што некалькі дзясяткаў асоб у Оксфардзе здагадліва схапіліся за свае кішэнныя гадзіннікі, пабачыўшы пралятаючы над імі зіхацячы метэарыт, і пазначылі на ім яго пралёт над сабой у сярэднім роўным 10 гадзінам, 5 хвілінам і 5 секундам вечара. І хай яшчэ больш асоб, гуляючых вечарамі ў Кембрыджы, зрабілі тое ж самае і пазначылі ў сярэднім тыя ж 10 гадзін вечара, 5 хвілін і 5 секунд. Ці можна із гэтага зрабіць выснову, што метэарыт імгненна пераляцеў усю адлегласць ад Оксфарда да Кембрыджа, г.зн. імчаўся з бясконца вялікай хуткасьцю і таму відавочна меў гіпербалічную арбіту і не належаў да сонечнай сістэмы?

Вядома, не!

Хіба метэарыт – птушка, ляцячая ў некалькіх дзясятках метраў над зямной паверхняй? Ён жа, магчыма, ляцеў на вышыні сотні кіламетраў і таму, хаця б хуткасць яго лёту і не перавышала хуткасці руху чарапахі, ён усё адно ў момант свайго яскравага праходжання быў бы бачным адначасна каля зеніту як із Оксфарда так і із Кембрыджа. А між тым яго хуткасць вылічваюць як хуткасць

нізка ляцячай птушкі, і таму натуральна атрымліваюць парабалічныя велічыні. Тут мы бачым ужо просты недагляд уплыву паралакса ў матываванні канчатковай высновы, а таму і не можам сцвярджаць на падставе такіх наіўных разлікаў, што амаль усе яркія метэарыты прылятаюць да нас абавязкова із паміж-зорнай прасторы.




Мал. 11.
Арбіта жнівеньскіх метэарытаў, перасякаючая зямную 10 жніўня.

Я павінен шчыра прызнацца, што і сама матэматычная тэорыя паходжання перыядычных камет із паміж зорных згушчэнняў рэчыва, выпадкова залятаючых у нашы міжпланетныя прамежкі, уяўляецца мне заснаванай на нейкім аналітычным недаглядзе. Ніхто не будзе адмаўляць, што ляцячая з невымернай далечыні нябеснай прасторы камета далучыцца да сонечнай сістэмы, калі закране за Сонца ці ператворыць частку сваёй кінетычнай энергіі ў цеплыню шляхам трэння ў задыякальнай атмасферы. Але якім чынам камета пераменіць парабалічную хуткасць на шмат меншую эліптычную шляхам простага ўплыву на яе прыцягнення той ці іншай планеты, якое згодна з законам адноснасьці так жа паскорыць камету пры набліжэнні, наколькі запаволіць пры аддаленні? Вядома, мне адкажуць: наколькі запаволіцца руху каметы ад уплыву на яе, напрыклад, Юпітара, настолькі ж павялічыцца хуткасць руху Юпітара ад уплыву на яго каметы. Але чаму павінна скарачацца ці павялічвацца хуткасць руху абодвух

нябесных цел, калі сума іхных уздзеянняў адзін на аднаго ў канчатковым выніку павінна параўнацца з сумай іхных адваротных уздзеянняў пры аддаленні? Калі ж трэццяе цела той жа сістэмы паскорыць аддаленне, то зробіць гэта таксама не інакш, як за кошт свайго запавольвання, і ў выніку раўнавага сістэмы не парушыцца. А адсюль вынікае, што ўплыў планет сонечнай сістэмы на камету можа толькі змяніць кут нахілення яе арбіты да Лапласаўскай плоскасьці іхнай абсалютнай раўнавагі, даўгату вузлоў, даўгату перыгелія і адпаведны эксцэнтрысітэт арбіты, але ніяк не даўжыню яе вялікай восі. Змена даўжыні гэтай восі ў дадатак супярэчыць і асноўнаму закону ўстойлівасьці планетных сістэм, згодна з якім ніводнае іх сьвяцілаў не можа быць выкінута ў прастору шляхам простага ўздзеяння ўнутраных магутнасьцей узаемнага прыцяжэння той жа сістэмы, а такім чынам і наадварот, ніводнае сьвяціла не можа быць зацянуа ў ізаляваную сістэму звонку.



Рыс 12

Метэарытны дождж які назіраўся Гумбольтам і Банпланам у Андах, у Паўднёвай Амерыцы 12 лістапада 1799 года.

Я спрабаваў знайсьці недагляд у дасьледаванні праф. Г. А. Ньютана «Захоп камет планетамі»[4], грунтуючыя на выкладанні яго матэматычнага аналізу ў вычэрпваючай кнізе К. Д. Пакроўскага «Паходжанне перыядычных камет», і спрабаваў таксама выразна ўспрыняць матэматычную аргументацыю і самога К. Д.

[4] «On the capture of comels by planets, especially their capture by Jupiter» (Memoirs of the national Academy of Sciences. Vol. VI, 1).

Пакроўскага, якая зводзіцца да таго, што хаця ніякая каметная арбіта і не магла б із разарванай ператварыцца ў замкнёнаю ў тым выпадку, калі б Сонца і планеты былі нерухомымі цэнтрамі прыцягнення, аднак гэтае цьверджанне яшчэ не прадвызначае пытання на той выпадак, калі ўсе сьвяцілы сістэмы перамяняюць свае ўзаемныя становішчы. Так, згодна з Г. А. Ньютанам, калі камета праходзіць наперадзе планеты, то яе кінетычная энергія памяншаецца (і, адпаведна, дададзім, яна ў планеты павялічваецца), а калі камета праходзіць ззаду планеты, то – наадварот.



Мал. 13.
След выпадкова пралятаўшай «падаючай зорачкі» на фатаграфічнай пласьцінцы пры адным із фатаграфаванняў зорнага неба.

І сапраўды, будзем лічыць, што вялікая камета прыляцела ў вобласць нашых планет із міжзорнай прасторы адаротным у дачыненні да іх рухам (мал. 14).

Мал. 14
Ці магчымы такі спосаб прыцягнення недалёка пралятаючай каметы, раней не належаўшай да сонечнай сістэмы?

Будзем лічыць, што яна апісала б каля Сонца гіпербалічную арбіту (парабалічных не бывае ў прыродзе), але ў кропцы А прайшла перад дадзенай планетай на сваім шляху да Сонца, ды і пры выдаленні ад яго прайшла перад ёю ж у кропцы В. Зазумела, што прыцягванне з боку каметы паскорыць рух гэтай планеты па яе арбіце, і такім чынам надасць ёй імпульс вырвацца із сонечнай сістэмы.

Пры яе масе, надзвычай вялікай параўнальна з каметнай, гэта звядзецца толькі да таго, што планета пасьля сыходу такой каметы пойдзе па больш падоўжанай арбіце D; камета ж грунтуючыся на законе захавання энергіі павінна будзе эквівалентна паменшыць сваю кінетычную энергію, што звядзецца пры нязначнасьці яе масы да значнага памяншэнне яе хуткасьці, а таму і яе арбіта можа ператварыцца із гіпербалічнай у эліптычную Е...

Але ж гэты аналіз дастаткова добра матываваны толькі ў тым выпадку, калі Сонца замацавана ў прасторы нерухома. А калі і яно вольна ляціць, то пасьля адлёту каметы і яно ўтварае на сваім міжзорным шляху анты-гіпербалу FG, якую ніяк немагчыма пакідаць без увагі, пры чыста тэарэтычным аналізе разглядаемага

намі дынамічнага працэсу, цесна датыкаючымся з «законам устойлівасьці планетных сістэм». Калі павелічэнне хуткасьці планеты ад уплыву каметы заўсёды бывае дыферэнцыяльна малым, то скрыўленне шляху Сонца будзе, вядома, яшчэ больш дыферэнцыяльна малым, але ўсё ж гэта будуць дыферэнцыялы аднаго і таго ж парадку, а таму і грэбаваць ні адным із немагчыма. Гэта азначае і наша новая (пункцірная на малюнку) арбіта D планеты і наша новая (таксама пункцірная на малюнку) арбіта E каметы прыдатныя толькі пры ўмове нерухома замацаванага на сваім месцы Сонца, і наш аналіз, абмежаваны толькі ўзаемным уплывам каметы і планеты, не вычэрпвае ўсіх умоў задання. Яшчэ застаецца вырашыць пытанне, ці не застанецца кінетычная энергія сонечнай сістэмы той жа самай і пасьля аддалення каметы?

Калі так, то і канчатковая хуткасць каметы будзе ранейшай гіпербалічнай адносна Сонца, і ўсё ўзаемадзеянне звядзецца толькі да ўзаемнага скрыўленне пршапачаковых шляхоў усіх трох сьвяціл.

Тое ж самае, у адваротным сэнсе, дапасуецца і да выкідвання эліптычна абарачаючыхся камет вон із сонечнай сістэмы пры простым праходзе іх ззаду нейкай планеты, дапускаючы, што гэта паменшыць хуткасць абарачэння планеты за кошт павелічэння хуткасьці каметы, і не бяручы да ўвагі ўзаемадзеянне каметы і Сонца.

Ва ўсякім выпадку, калі мы не дапускаем магчымасьці выкідвання сонечнай сістэмай адной із яе частак у сусветную прастору з дапамогай адных толькі магутнасьцей яе ўласнага прыцягнення, то гэтым самым мы выключаем магчымасць і прыцягнення ў яе чужога сусьветнага цела ў якасьці новага спадарожніка Сонца без дапамогі трэння ці іншых працэсаў, ператвараючых частку кінетычнай энергіі дадзенага цела ў цеплавую.




Мал. 15

Загадкавае месцаванне афеліяў цэлага шэрага дробных камет на адлегласьцях ад Сонца, блізкіх да адлегласьці арбіты Юпітара, хаця і не ў той жа плоскасьці.

Найбольш жа незразумелай тут мне ўяўляецца наступная акалічнасць.

Гэтая тэорыя прызначана для таго, каб адказаць на пытанне: чаму афеліі шмат якіх перыядычных камет з'яўяюцца блізкімі да адлегласьці самай вялікай із усіх планет нашай сістэмы Юпітара (мал. 15)?

А менавіта на гэтае пытанне яна і не адказвае. Зірніце на схему Г. А. Ньютана. Вось (зверху малюнка 16) ляціць камета із паміжзорнай прасторы па гіпербалічнай арбіце ў сонечную сістэму і павінна б выляцець із яе па процілегла-сіметрычнаму накірунку (пункцірная лінія). Але прыцягненне Юпітара, намаляванага кропкай угары ('), «прымусіла яе, – пераконвюць нас, – страціць частку сваёй хуткасьці адносна ўсёй сонечнай сістэмы, і прытым (дзякуючы чамусьці незразумеламу), як-раз да такой эліптычнай хуткасьці, пры якой яе афелій апынуўся б каля адлегласьці арбіты Юпітара (а не Сатурна, не Урана, не Нептуна, ці наколькі заўгодна далей)»... Але ж, аналітычна, без штучнага падбору матэматычных аргументаў, заўсёды атрымліваецц, што Юпітар (калі нават і дапусьціць, што ён можа паменшыць хуткасць каметы адносна ўсёй сонечнай сістэмы) здольны наладзіць ёй афелій колькі заўгодна далей сваёй адлегласьці ад сонца (напрыклад да адлегласьці E на мал. 14)... I, акрамя таго, згодна з гэтай тэорыяй вялікія восі ўсіх прыцягнутых Юпітарам камет павінны былі б размясьціцца няйнакш, як у плоскасьці арбіты Юпітара, а не адаляцца ад яе наколькі заўгодна. Відавочна, што ніводная із паказаных на малюнку 15 сарака камет не магла б быць зацягнута Юпітарам, калі вялікая вось яе эліпсіса не размешчна ў плоскасьці гэтага ж малюнка.




Мал. 16.

Мяркуемая прафесарам Г. А. Ньютонам схема захопу паміжзоркавай каметы ў сонечную сістэму. Комета залятае (на малюнку) зверху па ўяўляемай гіпербалічнай арбіце і павінна б выляцець па пунктырнай лініі. Але будзем лічыь што яе загнуў Юпітар, намаляваны ў выглядзе кропкі (зверу малюнка), і «яна пайшла па новай эліптычнай арбіце, згубіўшы частку своей хуткасьці адносна сонечнай сістэмы і пры гэтым як-раз да такой велічыні, каб афелій каметы выявіўся каля самай арбіты Юпітэра, а не насколькі заўгодна далей ад яе.

Із гэтага зразумела, што для тлумачэння «юпітэравых камет» патрэбна шукаць нагоды не ў іх «захопах Юпітарам», а ў тым, што сонечныя эманацыі, дзякуючы якім узніклі гэтыя каметы, маюць уласцівасць (падобна аблокам у зямным паветры) згушчацца ў дадзеным пласьце задыякальнай атмасферы Сонца.

Гэта ж самае можна сказаць і адносна «ўранавых» ці «няптунавых» камет ці метэарытных струменяў. Без штучнага падбору матэматычных аргументаў ніяк немагчыма вывесьці, каб іхныя афеліі атрымаліся як-раз на адлегласьці «завабіўшай» планеты, а не наколькі заўгодна далей.

Я дадам сюды і яшчэ адну здагадку: ці не належаць і некаторыя із так званых касмічных спектравых ліній, напрыклад, лініі прота-кальцыя, праектуемыя на ўсіх сьвяцілах, не паміжзорнаму асяроддзю, а гэтай самай задыякальнай атмасферы сонечнай сістэмы, заходзячай далёка за арбіту Няптуна? Калі так, то інтэнсіўнасць іх магла б быць іншай па экватары задыякальнай атмасферы, у параўнанні з яе воссю і ў накірунку да Сонца падчас зацьменняў ці вечарам пад вострым кутом да Сонца, чым наадварот. Калькайцый жа у ёй больш да месца!

Недахоп часу, напэўна, не дасць мне магчымасьці дэталёва дасьледаваць формулы прафесара Г. А. Ньютана з боку гледання іхнай ізатэзычнасьці і адпаведнасьці з рацыянальным прынцыпам адноснасьці, згодна з якім мы павінны вылічваць не абсалютныя, а ў кожным асобным выпадку адносныя хуткасьці (г.азн. «набліжэнні» і «аддаленні» і дадаваць пры гэтым да аналізавання толькі колькасьці руху ў гэтык набліжэннях і аддаленнях). А перш, чым гэта будзе зроблена, і абгрунтаванне формул Г. А. Ньютана і іншых дасьледчыкаў гэтага надзвычай складанага пытання не ўяўляецца настолькі відавочным для ўяўлення, каб можна было сказаць з упэўненасьцю, што тут няма недагляду. Вось чаму, да канчатковага высвятлення матэматычнага начынення закранутага пытання з усіх бакоў гледжання, было б больш асьцярожным не ўводзіць у навуку «прыцягненне камет у сонечную сістэму планетамі із паміжзорнай прасторы», у сэнсе неаспрэчваемай ісціны[5], і нават не спыняцца на меркаванні Ф. А. Брэдзіхіна, што перыядычныя каметы ўяўляюць сабой «часткі, адарваўшыяся пры разрыве гіпербалічных камет, даўно сышоўшых ў нябесную прастору».

Хаця мы і ведаем, што каметы пры пераходзе праз перыгелій перажываюць вялізныя «прыліўныя ўплывы», што яны вылучаюць, акрамя «хвастоў», яшчэ і «бароды», як эманацыі, накіраваныя да Сонца, і што дзьве каметы ўжо распаліся на

[5] Выкажу больш зразумела сваё непаразуменне. Будзем лічыць, што гіпербалічны рух каметы мы будзем дапасаваць не да нерухомай восі, праходзячай праз цэнтр узаемнага прыцягнення двух сьвяціл, а да восі, абарачаючайся разам з імі вакол гэтага цэнтра. Тады назіральніку ў цэнтры прыцягнення будзе здавацца, што камета ідзе да яго не па гіпербале, а так бы мовіць, па «гіпербалічнай спіралі», і потым аддаляецца ад яго па цалкам такой жа анты спіралі. Выпадак з нерухомымі целамі (пра які кажа праф. Ньютон) будзе толькі прыватным выпадкам гэтага аналітычнага абагульнення, узнікаючым калі хуткасць вярчэння нашай каардынатнай восі будзе блізкай да нуля. І чаму ж гэты выпадак будзе выключэннем, як выходзіць згодна з яго аргументацыяй?

вачах астраномаў (мал. 17 і 18), але ж распаданне тут адбываецца не шляхам выбуху, і таму ў выніку ўтвараецца із адной каметы толькі дзьве ці цэлае «сямейства камет», ляцячых амаль па той жа самай арбіце, а потым камета ператвараецца ў просты рой «падаючых зорачак», лётаючых па таму ж самаму шляху.



Мал. 17
Распаданне каметы Біелы на дзьве ў студзені 1846 года.



Мал. 18
Распаданне каметы Брукса, адбыўшаяся на вачах астраномаў.

За паходжанне камет і метэарытаў выключна із сярэдзіны задыякальнай атмасферы, нябачна атачаючай ўсю сонечную сістэму, сведчыць і вылічэнне Клейбера[6], што ў межах нябеснай сферы, абмежаванай арбітай Нептуна, камет павінна быць каля 6000, не лічачы безлічы метэарытаў. Але калі вы пашырыце гэтую часьціню і тых і другіх на ўсю паміжзорную прастору, то самі пераканаецеся, што на вялізных адлегласьцях, якія прамень сьвятла праходзіць дзясяткі гадоў, выявілася б так шмат камет і метэарытаў, што нават і не самыя аддаленыя із зорак былі б бачнымі праз іх, як праз туман.




Мал. 19
Параўнанне спектра, каметных хвастоў са спектрамі вуглевадародаў.
1. Спектр хваста каметы Вінэкэ 1868 гады.
2. Спектр вуглевадародаў тлушчавага шэрагу.

[6] Joseph Kleiber, «Ueber die Gesammtzahl der Cometen in Sonnensystem» «astronomische Nachrichten». Vol. 130, p. 121).

3. Спектр полымя аліўкавага масла.

Цалкам іншая справа, калі каметы складаюцца із нябачных эманацый Сонца, загусьцеўшых большай часткай у паза-нептуновых абласьцях задыякальнай атмасферы, працягваючайся, магчыма, не ў 30 як Нептун, а ў 300 разоў далей адлегласьці Зямлі ад Сонца. У такім выпадку яны ніколькі не засланяюць нам зоркі і, апроч таго, будзе зразумелым і іхны хімічны склад. Гэта будуць эманацыі тых рэчываў, якія знаходзяцца на Сонца ў газападобным стане. А на ім з'яўляюцца іянізаванымі газамі нават і самыя тугаплаўкія металы, не кажучы ўжо пра больш лёгкія металоіды. Праўда, што спектравы аналіз не змог паказаць нам хімічны склад каметных галоў, уяўляючых сабой нешта накшталт надзвычай разрэджанага туману, даючага суцэльны спектр цьвёрдага ці вадкага рэчыва, але ў каметных хвастах спектраскоп, ужо выявіў нам нейкі газ са спектрам, вельмі блізкім да спектра цыяну ці вуглевадародаў, накшталт этылену, якія усе даюць спектравыя палосы, вельмі падобныя на спектр каметных хвастоў (мал. 19). Жалезныя метэарыты могуць быць такога ж паходжання, як і каметы, а камяністыя вельмі падобныя на прадукты вывяржэння зямных вулканаў, у той перыяд, калі яны былі нашмат больш мацнымі чым сучасныя.



Мал. 20
Ядро каметы далёка ад Сонца.

Самыя вялікія каметы робяцца бачнымі для нашага вока, узброенага самымі дужымі тэлескопамі, толькі ў тых выпадках, калі яны ўжо прыйшлі ў вобласць нябеснай прасторы, знаходзячайся бліжэй сярэдняга кола астэроідаў. Іх першае з'яўленне ў полі зроку тэлескопа заўсёды было ў выглядзе імглістай сферычнай сукупнасьці рэчыва (мал. 20), і толькі потым яны пачыналі выпускаць із сябе хвост (мал. 21, 22, 23) для таго, каб зноў ператварыцца ў імглістую сферычную сукупнасць, сыходзячую ў далечыню ад Сонца.



Мал. 21
Вялікая камета 1811 года.



Мал. 22
Вялікая лістападаўская камета 1882 года.

Гэтая з'ява і да гэтага часу застаецца загадкавай, тым больш, што хвасты часам дваіліся, а часам іх было адразу некалькі (мал. 24). Цеплавое выпраменьванне Сонца нават на адлегласьці зямной арбіты такое слабое, што не можа мець наступствам выпарэнне большасьці  звычайных рэчываў, ды і сучасныя спектраскапічныя назіранні палярных ззянняў прыводзяць да высновы, што нават азот, паднімаючыся ў зямной атмасферы вышэй 80-100 кіламетраў, ператвараецца ў пылаваты цьвёрда-крышталічны стан. А тым часам хвасты камет, як мы толькі-што бачылі, выяўляюць паласаты спектр, характэрызуючы толькі газы і гэты спектр захоўваецца ў іх і далей адлегласьці Зямлі ад Сонца.



Мал. 23
Камета 1910 года згодна з малюнкам Сермасі у Мансуры, у Ягіпце. Налева ад яе Венера і налева ад Венеры – задыякальнае сьвятло.

Патлумачыць гэтую з'яву, мне здаецца, магчыма толькі тым, што рэчывы каметы, пераходзячы ад перыферычных пластоў задыякальнай атмасферы ў яе глыбіню, зведваюць яе моцны ціск і дзякуючы сьціснанню свайго аб'ёму вылучаюць эквівалент цеплыні, дастатковы для прывядзення вуглевадародаў у газападобны стан.



Мал. 24
Камета Шэзо 1743 года з шасьцю хваставымі бруямі згодна са старадаўнім малюнкам.

На прыкладзеных вышэй малюнках я даў некалькі выяваў камет згодна з сучаснымі фотаздымкамі і старажытнымі аперцэпцыйнымі малюнкамі. Яны заўсёды моцна ўздзейнічалі на ўяўленне еўрапейцаў, і таму я пачну іхную хроніку грунтуючыся, перадусім, на больш рэчаісных апісаннях, захаваўшыхся ў Кітаі.

Але перш чым зрабіць гэта, мне патрэбна паказаць, што ўяўляе із сябе кітайская пісьмовасць.

# Глава II.

## Некалькі слоў пра так званую старажытнакітайскую пісьмовасць.

Для таго, каб слушна ацаніць значэнне кітайскіх запісаў, кінем спачатку беглы пагляд на ўсю ўсходне-азіяцкую літаратуру. Я перадусім папярэджу чытача, што ўсе ўласныя імёны ў ёй розныя на розных гаворках, бо пазначаны не з дапамогай фанетычнага альфабэта, а сімвалічнымі значкамі з вызначаным сэнсам. У выніку атрымліваецца, напрыклад, што слова **Кітай** цалкам невядома ў Кітаі, і значок гэтай краіны «сярэдзіна» і «дзяржава» (Чжун-Га) чытаецца кожным на сваёй роднай мове: Сярэдняя імперыя. Тое, што мы завём Манголіяй, там мае назву «Невуцкая даўніна» (Мын-гу па-пекінску), Маньчжурыя мае назву «Суцэльная акруга» (пекінскае Мань-Чжоў-Лі), Карэя – «Ранішняя свежасць» (пекінскае Чжао-Сянь), Японія – «Сонечны базіс» (пекінскае Жы-бень), Пекін – «Паўночная сталіца» (па-пекінску Бэй-Цзын), Кантон – «Прасторны ўсход» (пекінскае Гуан-Дун), Янцэкіанг – «Славутая вялікая рака» (Ян-цзы-цзян на пекінскай гаворцы) і г.д. І кожны чытаючы прамаўляе гэтыя апісальныя назвы на сваёй роднай мове, накшталт таго як у Яўропе Чорнае мора французамі называецца Mer Noire, немцамі Schwarzmeer і г.д.

Тое ж самае можна сказаць і пра каметных хронікі, якія памяшчаю далей.

Пэнгрэ (Pingre) у сваёй «Каметаграфіі» карыстаўся спісам камет, складзеным каталіцкімі місіянерамі Майлья і Гаўбілем (Mailla et Gaubil), спісам даволі

грунтоўным і, быццам бы, узятым із гістарычнай працы напісанай ва Ўсходняй Азіі, толькі што апісаным міжнародным ідэаграфічным пісьмом.



Мал. 25
Сярэдняе сузор'е Цмок згодна з кітайскімі аперцэпцыямі.

Дзякуючы такому спосабу пісання немагчыма сказаць з упэўненасьцю, дзе і на якой мове пісалі гэтую кнігу яе выточныя і нават канчатковыя кампілятары. Гэта ўсё адно, як назваць мову аўтара, які склаў, напрыклад, табліцы лагарыфмаў, дзе, акрамя міжнародных лічбаў 1, 2, 3 і г.д. ды міжнародных жа значкоў N для лічбаў і lg для лагарыфма, нічога няма, а загаловак і прадмова згубіліся. Згаданая мной гістарычная праца, асобнік якой быў надрукаваны толькі ў XVII стагоддзі Майлья і Гаўбілем, носіць назву «Ўсё адбіваючае люстэрка», а па-пекінску: «Тун-Дзянь-Кан-Мух»[7].

Я не буду тут пераймаць сучасных аўтараў, вымаўляючых міжнародныя ідэаграфічныя значкі ўсходне-азіяцкай літаратуры сваім каверканым пекінскім ці шанхайскім вымаўленнем, а буду чытаць іх непасрэдна па-руску, карыстаючыся добрай дапамогай адной сваёй знаёмай, якая добра ведае іхны сэнс. І гэта асабліва патрэбна для маёй мэты. Справа ў наступным. Грунтуючыся на шмат якіх фактах я ўжо даўно падазраю, што каметны спіс Пэнгрэ быў уключаны ў «Ўсё адбіваючае люстэрка» із нейкага ранейшага спіса саміх Майлья і Гаўбіля, прывезенага туды імі із Яўропы, ці са спіса іхных папярэднікаў, патрапіўшых туды із Візантыі з місіянерамі.

Сапраўды, калі дапусьціць існаванне ў гісторыі чалавецтва хаця б нейкай логіку і сэнсу, то апошняя здагадка дастаткова магчымая. Так званая «шматтысячагадовая разумовая і грамадзянская нерухомасць кітайцаў» была б магчымай толькі пад час перыяду рэзкага качавога стану гэтай шырокай краіны, таму што рэдкасць насельніцтва сапраўды мала спрыяе культуры і грамадзкай эвалюцыі. Падобна таму, як у рэдкім растворы не могуць утварацца крышталі, так і ў этнічным басейне не можа быць вылучана дадатковых (г.зн. больш дакладна лішкавых) прадуктаў чалавечай працы, здольных сьледам за гэтым адкрышталізавацца ў выглядзе трывалых пабудоваў, засяроджаных у значнай колькасці ў адных і тых жа месцах краіны, без чаго немагчыма назапашванне ведаў і іхнае пераемнае перадаванне ад пакалення да пакалення.

---

[7] Пры гэтым “н” патрэбна чытаць насавым працяглым спосабам, як французкае канчатковае “n”, ці як ангельскае ng, чаму ангельцы і пішуць гэту назву згодна са сваім шанхайска-ангельскім вымаўленнем: Tung(усё)... Keen(люстэрка)... Kang(глядзець)... Muh(адлюстраванне).

Але нам нададзена цалкам адваротнае. У Кітаі – пераконваюць нас – са спрадвечных часоў існавала і не спынялася вялізная нацыянальная літаратура, таму што без яе немагчыма ўявіць ўзнікненне і захаванне ў гэтай краіне прыдуманай у ёй для пісання надзвычай складанай ідэаграфічнай міжнароднай сімвалістыкі, утрымліваючай 3000 асноўных і 45 000 адмысловых значкоў, пры гэтым кітайцы так і прытрымліваюцца яе да гэтага часу.



Мал. 26
Кітайцы XIX стагоддзя за абедам.

А тым часам з эвалюцыйнага, з псіхалагічнага, ды і проста з практычнага боку гледжання такую складаную сістэму ўмоўных значкоў для разнастайных разуменняў і ўяўленняў, выказваемых асобнымі словамі, а часам і іхнымі камбінацыямі, як у кітайцаў, не ў стане прыдумаць ніякі чалавек і ніякі шэраг пакаленняў, ужо загадзя не спрактыкаваных ў чытанні грунтуючыся на больш лёгкім для запамінання фанетычным, хаця б і сілабічным, алфабэце. Нават жа і сучаснаму адукаванаму еўрапейцу даводзіцца не адзін год вывучаць гэтую міжнародную сістэму значкоў, ўжываемую на ўсім усходзе Азіі, нават і ў японцаў, якія чытаюць і згаданае мной «Ўсё адбіваючае люстэрка» па-японску. Кожная нацыянальнасць (апроч еўрапейскіх сінолагаў) чытае кітайскія значкі на сваёй роднай мове, не вывучаючы кітайскую. І мы са здзіўленнем бачым, што такі спосаб пісання ўяўляе па сваёй сутнасьці толькі завяршэнне сярэднявечнай еўрапейскай навуковай пісьмовасьці, дзе ў алхімічных, астралагічных і медычных значках маюць месца першыя спробы пераходу да такога міжнароднага сімвалічнага пісання (табл. IV). А ва ўсходне-азіяцкай літаратуры такія значкі ўжо выпрацаваліся для кожнага прадмета і з'явы, для кожнага разумення і ўяўлення. Зразумела, што намаляваць імі назву нейкай замежнай мясцовасьці ці імя замежніка цалкам немагчыма інакш, як рэбусічна, грунтуючыся на непасрэдным сугуччы з нейкім сваім нацыянальным словам, г.зн. далучыўшы гэтага чалавека да сваёй нацыі. Так, калі б у нас ва Ўсходняй Яўропе пісалі падобным спосабам, то маскоўскі навуковец адвобразіў бы імя ангельскага філосафа Лока схематычным абрысам вядомай усім гароднай расьліны цыбулі “лук”, найбольш сугучнай згодна з вымаўленне сваёй назвы з Локам, а ўкраінец прачытаў бы яго імя па-ўкраінску: цыбуля. І калі б кніга была знойдзена заходне-еўрапейскімі ўкраіністамі ў Харкаве, то магло б узнікнуць паданне, што навука пра межы чалавечага пазнання яшчэ

раней Лока была адкрыта ўкраінцам Цыбуляй, тым больш, што і астатнія ўласныя імёны ў такой кнізе былі б украінізаваны.

ТАБЛІЦА IV.

Некалькі прыкладаў ідэаграфічных міжнародных значкоў, застаўшыхся ад сярэдневечча у сучаснай еўрапейскай навуковай літаратуры. (Зародкі ўсходне-азіяцкай пісьмовасьці.)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ☉ | Сонца | ♎ | Шалі | + | Знак складання |
| ☾ | Месяц | ♌ | Леў | - | Знак вылічэння |
| ☿ | Меркурый | ♍ | Панна | 0,1..... 9 | Дзевяць простых і ўся не маючая канца пасьлядоўнасць складаных лічбаў |
| ♀ | Венера | ♏ | Скарпіён | √ | Корань |
| ♂ | Марс | ♐ | Стралок | § | Параграф |
| ♃ | Юпітар | ♑ | Казярог | ∫ | Інтэграл |
| ♄ | Сатурн | ♒ | Вадаліў | ∠ | Кут |
| ♈ | Авен | ♓ | Рыбы | Δ | Дадаванне функцыі |
| ♉ | Цяля | α | Прамое ўзыходжанне сьвяціла | v | хуткасць |
| ♊ | Двайняты | δ | Схіленне сьвяціла | F | Магутнасць |
| ♋ | Рак | = | Роўнасць | | |

Само сабой зразумела, што ўсе прадметныя пазначэнні ад пакалення да пакалення спрашчаліся ці змяняліся, як мы бачым, напрыклад, на мал. 27, дзе з левага боку паказаны першапачатковыя кітайскія выявы сонца, месяца, гары, вады, полымя і г.д., а з правага іхныя навейшыя выявы. А ў дадатак да іх я для кур'ёзу размяшчаю ўзор навейшага кітайскага меню ў першакласным рэстаране, дзе кожная страва пазначана з дапамогай кітайскай міжнароднай сімвалістыкі і гукавога аальфабэту па-ангельску (мал. 28). Але ў гэтых сучасных кітайскіх малюнках вы наўрад ці пазнаеце параную рыбу, ластаўкіна гняздо, кураня ці грыбы...




Мал. 27
Ператварэнне некаторых першапачатковых кітайскіх малявана-ідэаграфічных значкоў у сучасныя значкі, ўжо згубіўшымі падабенства са сваімі прадметамі (згодна з М. Іллiным).

# BILL OF FARE.



| | |
|---|---|
| Bird's nest soup. | 燕菜 |
| Fish, stewed & boiled. | 燴鯧魚、炸比目魚、 |
| Shark's fins. | 魚翅 |
| Filet of beef with mushrooms. | 蘑菇牛裡肌 |
| Yüan Yan chicken. | 鴛鴦雞 |
| Chicken, *(an European Dish.)* | 釀凍雞 |
| Silver Fungus. | 銀耳 |
| Pigeon. | 莞豆燴鴿子 |
| Shell-fish, boiled. | 芙蓉干貝 |
| Sheep's tail. | 燒羊尾 |
| Duck, fried & stewed. | 鍋燒鴨子 |
| Boiled Ham with Turkey. | 大腿火雞 |
| Chinese cakes. | 中國點心 |
| Chestnut paste. | 栗子糕 |
| Sweets. | 糖餅 |
| Dessert & Ice. | 水果冰吉林 |



23rd July, 1883.

Мал. 28
Узор мяню ў першакласным кітайскім рэстаране канца XIX стагоддзя з назвамі страў сімвалічнымі ўсходнімі малюнкамі і па-ангельску.

І вось усё тое, што павінна было б быць у пагадненні з лагікай на прыканцы, пачалося ў Кітаі – пераконваюць нас – спачатку, і толькі зараз там пачынаюць з'яўляцца няўмелыя і чыста дзіцячыя спробы перайсьці да больш зручнага і лёгкага гукавога альфабэта, узяўшы за ўзор лацінскі, у якім адсутнічае не толькі цэлы шэраг вельмі частых у Кітаі гукаў, накшталт рускага Ч, ангельскага Ge, і гэтак далей, але нават цэлыя фанетычныя варыяцыі агульнага характару, накшталт цьвёрдага і мяккага, ці чыста палатальнага і насавога вымаўлення. Як вы адрозніце, напрыклад, грунтуючыся на лацінскім альфабэце нават і ў нас слова маці ад слова

мат, люк ад слова лук, нос ад нёс і г.д.? У кітайскай жа аднаскладовай мове амаль кожны галасавы гук непазбежна набыў такія ж цьвёрдыя, мяккія, а таксама насавыя і іншыя вымаўленні, прытым ад кожнага із іх слова набывае там новы сэнс. Для прыстасавання да кітайскай мовы патрэбен такі фанетычны альфабэт, які я тэарэтычна абгрунтаваў у трэццяй кнізе гэтага майго дасьледавання, а з аднабокім лацінскім альфабэтам вы там нічога не зробіце.

Але вернемся да гістарычнай часткі.

Калі б кітайская пісьмовасць была ўведзена ў гэтай краіне візантыйскімі прапаведнікамі хрысьціянства пад час сярэдневечча, то яе міжнародны ідэаграфічны спосаб выявы слоў быў бы патлумачаны вельмі проста. Адчуўшы, што ўжыванне грэцкага альфабэту, з нагоды яго яшчэ большай няпоўнасьці ў параўнанні з лацінскім, мае тут наступствам адны смешныя непаразуменні пры кожным слове і не здагадаўшыся, як рускія грамацеі, дадаць да яго хаця б мяккі знак і значкі гартаннага і насавога вымаўлення, грэцкія ці лацінскія місіянеры і высядзелі б, як куры куранят, гэтыя міжнародныя для ўсёй усходняй Азіі значкі, карыстаючыся зародкамі такога ж спосабу ў сваёй навуковай і ў іерагліфічнай літаратуры, і тым, што ідэаграфічныя значкі, падобна лічбам 1, 2, 3, 4 ці ☉ і ☾ для сонца і месяца і т. д, можна чытаць аднолькава зручна на якой заўгодна мове.

Такім чынам не з'яўляецца цалкам марнай справай і пастаўленае тут мной пытанне ці з'яўляецца ўсходне-азіяцкі міжнародны ідэаграфічны альфабэт, які дарэмна нават і завуць кітайскім, і ўся літаратура, напісаная грунтуючыся на ім ва Ўсходняй Азіі, сапраўды нацыянальна кітайскім, а, напрыклад, не грэцкай і не лацінскай прыдумкамі, усталяванымі там сярэднявечнымі Кірыламі і Мяфодзіямі?

Прыводзячы тут падрабязны рэестр камет, упершыню апублікаваны Майлья і Гаўбілем і пазьнейшымі еўрапейскімі аўтарамі, я не магу не выказаць грунтуючыся і на іншых падставах некаторы недавер да таго: ці сапраўды кітайскага паходжання гэты спіс.

Ён – як я ўжо выказваўся – быў прыведзены ў скарочаным выглядзе і з апрацоўкай у «Каметаграфіі» Пэнгу. Потым Біо (Biot) апублікаваў у «Connaissance des Temps» у 1846 годзе каметныя спісы «Лета-Запісу», пакінуўшы за імі іхную шанхайскую назву Шэ-кэ[8], і амаль такія ж спісы із «Энцыклапедыі», аўтарам якой лічыцца «Лясны конь» (Ма-Туан-Лін у шанхайскім вымаўленні), а аўтар («Лета-Запісу» па-кітайску мае назву «Штал мейстэр» (Сы-Ма-Цянь па-пекінску)[9]. Абодва гэтыя рэестры, хаця і маюць відавочныя сьляды перапісвання адзін із другога, выяўляюцца ўжо значна больш падрабязнымі чым спіс дадзены спачатку Майлья і Гаўбілем. Я бяру для сваёй кнігі іхны пераклад, зроблены Джонам Вільямсам, які па-сутнасьці немагчыма назваць проста перакладам, таму што месяцовае летазлічэнне кітайцаў пераведзена ім на юліянскае і дапасавана да эрэ «Нараджэнння Хрыста», што можа быць безумоўна прынята толькі пры абсалютным даверы да старажытнага кітайскага летазлічэння і спосабаў пераходу ад яго да юліянскага. Акрамя таго, і я сам апрацаваў дакумент, замяніўшы даваемыя Вільямсам кітайскія назвы зорных згуртаванняў, па якіх праходзілі каметы, нашымі назвамі грунтуючыся на слоўніку Вільямса.

Калі ж усе гэтыя запісы пачаліся?

---

[8] She-Ke у ангельскай транскрыпцыі, а ў пекінскім вымаўленні Ші-ці, г.зн. Лета-Запіс.

[9] Дакладная назва «Энцыклапедыі» чытаецца так: «Дасьледаванне і тлумачэнне ўсіх знакаў (па-пекінску Вэнь-Сянь-Тун-Као); Сы-Ма-Цянь азначае Найвышэйшы Ўрадавец Стайні, а Ма-Дуань-Лінь малюецца так: Конь-Востраканечнага (хваёвага) Лесу. Гэта нешта накшталт рыцарскага герба, а не ўласнае імя.

Кітайскія паданні надаюць нам, быццам бы там астранамічныя назіранні вяліся і запісваліся яшчэ з часоў «Духу-земляробства» (Шэнь-Нуага па-кітайску), наступніка «Багацця» (Фу-Сі па-пекінску), заснаваўшага Кітайскую імперыю «ў 3253 годзе да Нараджэнння Хрыста» (3252 год згодна з астранамічным злічэннем), г.зн. якраз у часы росквіту дзейнасьці біблейскага патрыярха Енаха, які нарадзіўся, быццам бы, у 3382 годзе да таго ж славутага «Нараджэнння Хрыста» і быў забраны жывым на неба за 3017 гадоў да таго ж часу.

У Кітаі летазлічэнне вядзецца грунтуючыся на 60-гадовых цыклах мяркуемых злучэнняў Сатурна (геацэнтрычнае абарачэнне якога лічылася і ў Яўропе да Каперніка роўным 30 гадам замест дакладнага геліяцэнтрычнага роўнага 29 гадоў 167 дням) і Юпітара (сярэдняе геацэнтрычнае абарачэнне якога лічылася роўным 12 гадам замест дакладнага геліяцэнтрычнага роўнага 11 гадам 315 дням). Із гэтага бачна, што такое злічэнне магло ўзнікуць толькі ў той час, калі злучэнням Сатурна і Юпітара пачалі надаваць ужо дэтэрмінуючы ўплыў на зямныя падзеі. Сама назва гэтага цыкла «Покрыва» (Kea-Tsze па-англа-шанхайску) паказвае на момант перагону Сатурна Юпітарам. І вельмі верагодна, што ўсё гэта прыйшло ва Ўсходнюю Азію із Яўропы падчас росквіту ў ёй астралогіі. Але сам жа гэты 60-гадовы цыкл дае нам магчымасць вызначыць і час свайго ўзнікнення, які выяўляецца цалкам ужо не такім старажытным, якім го лічаць кітайцы.



Мал. 29
Шанхай на прыканцы XIX стагоддзя



Мал. 30
Пекін на прыканцы XIX стагоддзя

Справа ў наступным:

Для чалавека, знаёмага з іхным летазлічэннем, вельмі лёгка вылічыць, пад час якіх эпох кітайскія 60-гадовыя цыклы налягалі на тую ці іншую са спалучаемых серый Сатурна і Юпітара, прыведзеных у табліцы VII чацвёртай кнігі «Хрыста», і гэтым даць храналагічныя падпоркі для вызначэння і часу самога ўзнікнення летазлічэння.

Фактам з’яўляецца тое, што сучасны нам храналагічны цыкл у кітайцаў пачынаецца з 1924 года і мае назву 77-ы. Да гэтага часу яны лічаць закончанымі 76 цыклаў, г.зн. 76*60 = 4560 гадоў. Але 4560-1923 дае 2637 год да пачатку нашай эры, і ён лічыцца сучаснымі кітайцамі 60-м годам «нейкага імператара на імя Жоўты» (Twang) ці па-пекінску Хуан, сучаснік Ноя, прытым гэта было – пераконваюць нас – не сапраўднае імя, а толькі яго «пасьмяротная мянушка», таму што ў кітайцаў імя імператара памірала разам з ім, і пасьля сьмерці яму надавалася новае. Той жа імператар – кажуць – абнародаваў і 19-гадовы месяцовы цыкл, які ў Яўропе быў апублікаваны згодна з талмудысцкімі паданнямі толькі Гілелем II, імя якога (тое ж што царкоўнае: алілуйя) азначае Услаўлены. А згодна з дасьледаваннямі астранома-гебраіста Хаіма Слонімскага 19-гадовы цыкл быў уведзены ў жыдоўскае летазлічэнне толькі Гасан-га-Даянам із Кордавы ў 953 годзе, адкуль і пашырыўся на Ўсход.

Усё гэта робіць вечна-існуючыя «кітайскія старажытнасьці» вельмі падазронымі і прытым, як я ўжо выказваўся, не адпавядаючымі вялікай разумовай і грамадзянскай рухомасьці, выяўленай кітайскім народам з другой паловы XIX стагоддзя, калі ў іх усталяваліся цесныя стасункі з апярэдзіўшымі іх еўрапейцамі, не кажучы ўжо пра меркаванні, ўзнікаючыя з боку гледжання агульных законаў непазбежнасьці чалавечай эвалюцыі.

Вось чаму, ледзь толькі пазнаёміўшыся з кітайскім 60-гадовым цыклам і пабачыўшы, што гэта цыкл мяруемых злучэнняў Юпітара і Сатурна, у сувязі з якім узніклі і іншыя кабалістычныя ўжыванні лічбы 60, накшталт агаранскага цыкла, я адразу ж вызначыў грунтуючыся на сваё табліцы злучэнняў Юпітара і Сатурна, прыведзенай у IV кнізе «Хрыста» (табл. VII, стар. 38), калі пачатковыя гады кітайскіх 60-гадовых цыклаў супадалі з рэчаіснымі злучэннямі Сатурна і Юпітара, і такім чынам атрымаў прыкладзеную тут табліцу (табл. V), у якой пачатковыя гады кітайскіх цыклаў я усюды пазначыў парай суседніх адзін з адным юліянскіх гадоў, таму што заканчэнні і пачаткі кітайскіх гадоў не супадаюць з нашымі каляднымі вакацыямі.

Вынікі параўнання выяіліся надзвычай цікавымі.

Зірніце толькі на яе трэцці слупок, дзе пазначаны рознасьці паміж пачаткамі кітайскіх 60-гадовіх цыклаў і адпавядаючымі ім рэчаіснымі злучэннямі Сатурна і Юпітара. Вы бачыце самі, што нулявая розніца, г.зн. супадзенне, былі тут толькі паміж 1204 і 1623 гадамі нашай эры. Пачынаючы з 1623 года пачалася паступова павялічвацца розніца, ды і перад 1204 годам нашай эры мы различаем рэтраградную розніцу паступова павялічваюся да мінус 57 года і дасягаўшую 11 гадоў каля пачатку нашай эры, калі гэтая рэтраградная розніца зноў пачала памяншацца. Адразу бачна, што калі працягнуць вылічэнне далей у глыбіню стагоддзяў, то розніца павінна зноў параўнацца з нулём паміж мінус 1200 у мінус 1600 гадамі да

пачатку нашай эры, пасьля чаго павінна пачацца яе новае павелічэнне прыблізна да мінус 2600 года. Атрымліваецца, што менавіта пад час таго перыяду, да якога кітайцы дапасуюць пачатак свайго сатурна-юпітэравага цыклу, разыходжанне яго пачаткаў з рэчаіснымі спалучэннямі гэтых планет зноў дасягала максімуму.

ТАБЛІЦА V.

Суадносіны паміж кітайскім 60-гадовым сатурна-юпітэравым цыклам і геацэнтрычнымі злучэннямі паміж сабой Сатурна і Юпітара.

| 1 | 2 | 3 | 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|---|---|---|
| Пачатковыя гады кітайскіх 60-гадовых цыклаў | Гады геацэнтрычных злучэнняў Юпітара і Сатурна | Рознасць гадоў | Пачатковыя гады кітайскіх 60-гадовых цыклаў | Гады геацэнтрычных злучэнняў Юпітара і Сатурна | Рознасць гадоў |
| 1923-1924 | 1922 у Панне | 1 | 543-544 | 549 у Казярогу | 5 |
| 1863-1864 | 1862 у Панне | 1 | 483-484 | 491 у Казярогу | 6 |
| 1803-1804 | 1802-1803 у Ільве | 1 | 423-424 | 431 у Казярогу | 7 |
| 1743-1744 | 1742-1743 у Ільве | 1 | 363-364 | 371-372 у Казярогу | 7 |
| 1683-1684 | 1682-1683 у Раку | 1 | 303-304 | 310-311 у Стралку | 7 |
| 1623-1624 | 1623 у Раку | 0 | 243-244 | 251 у Стралку | 7 |
| 1563-1564 | 1564 у Раку | 0 | 183-184 | 192 у Стралку | 8 |
| 1503-1504 | 1503 у Двайнятах | 0 | 123-124 | 133-134 у Стралку | 9 |
| 1443-1444 | 1444 у Двайнятах | 0 | 63-64 | 74-78 у Стралку | 10 |
| 1383-1384 | 1383 у Цяляці | 0 | 3-4 | 13-14 у Скарпіёне | 11 |
| 1323-1324 | 1324 у Цяляці | 0 | -57 -56 | -45 -46 у Скарпіёне | 10 |
| 1263-1264 | 1264-1255 у Цяляці | 0 | -117 -116 | -125 у Рыбах | 9 |
| 1203-1204 | 1204 у Авене | 0 | -177 -176 | -184 у Рыбах | 8 |
| 1143-1144 | 1144-1145 у Авене | 1 | -237 -236 | -242, -243 у Рыбах | 7 |
| 1083-1084 | 1085-1086 у Авене | 1 | -297 -296 | -361, -302 у Рыбах | 6 |
| 1023-1024 | 1025 у Рыбах | 1 | -357 -356 | -362, -363 у Вадаліве | 6 |
| 963-964 | 966 у Рыбах | 2 | -417 -415 | -421, -422 у Вадаліве | 5 |
| 903-904 | 906 у Рыбах | 2 | -477 -476 | -480 у Вадаліве | 4 |
| 843-844 | 847-848 у Рыбах | 3 | -537 -536 | -539 у Вадаліве | 3 |
| 783-784 | 788-789 у Рыбах | 4 | -597 -596 | -599, -600 у Казярогу | 3 |
| 723-724 | 728 у Вадаліве | 4 | -657 -656 | -659 у Казярогу | 3 |
| 663-664 | 668 у Вадаліве | 4 | -717 -716 | -718 у Казярогу | 2 |
| 603-604 | 608-609 у Казярогу | 5 | | | |

Я палічыў цалкам безсэнсоўным марнаваннем часу вылічваць з дапамогай маёй табліцы сатурна-юпітеровы злучэнні раней мінус VIII стагоддзя, бо ўжо і ранейшыя дасьледчыкі кітайскай храналогіі грунтуючыся на сонечных і месяцовых зацьменнях давялі, што кітайскія запісы пра іх за пачаткам нашай эры ўяўляюць чыстую фантазію, а такім чынам і ўсё астатняе ў іх фантастычна. Але я звяртаю сур'ёзную ўвагу чытача на тое, што, пачынаючы ад паўтары тысяч гадоў за так званым «Нараджэннем Хрыстовым» і аж да нашага часу, патрабуемае астраноміяй пагадненне пачаткаў кітайскіх 60-гадовых цыклаў з рэчаіснымі злучэннямі Юпітара і Сатурна пачалося толькі з 1204 года нашай эры, г.зн. з моманту заснавання Лацінскай Федэрацыі на Балканскай паўвыспе, калі абодва кіруючыя астралагічныя сьвяцілы злучыліся ў сузор'і Авена.



Мал. 31
Сядзіба кітайскага селяніна заканчэння XIX стагоддзя. Нізкі ўзровень сучаснай кітайскай земляробскай культуры, што мала сведчыць на карысць яе глыбокай старажытнасьці.



Мал. 32
Кітайскі храм заканчэння XIX стагоддзя.



Цянь-Тань – Храм Неба (1420-1530 гг.)

Я, вядома, не маю намеру прыводзіць у сувязь абедзьве пазначаныя падзеі паміж сабой, а толькі хачу пазначыць, што 60-гадовы цыкл не мог узнікнуць нідзе раней 1323 года, калі такое злучэнне паўтарылася ўжо тры разы і прымусіла старажытных астролагаў зрабіць выснову, што так будзе працягвацца вечна. Чытач, паўтараю, ні на хвіліну не павінен забывацца, што да Каперніка (г.зн. пры панаванні геацэнтрычных уяўленнях) не магла нават і ўзнікнуць ідэя пра тое, што абарачэнне планет і час іхных злучэнняў маюць нейкую дакладную велічыню. Непасрэднае назіранне паказвала людзям, якія ніколі не мелі ўяўлення пра эпіцыклы, што Сатурн і Юпітар пры кожным набліжэнні адзін да аднаго праз 60-гадовыя прамежкі праходзяць адзін каля другога тры разы на працягу паўгоддзя: два разы на прамым нікірунку і адзін – на адваротным. Вызначыць дакладныя дні гэтых праходжанняў было немагчыма да ўзнікнення тэорыі эпіцыклаў (ды і пры іх можна было гаварыць толькі пра злучэнні не саміх планет, а толькі іхных дэферэнтаў), і таму 60-гадовы перыяд і быў прызнаны навекі дакладным. І вось мы бачым, што назіранні, здольныя навесьці на такую ідэю, былі зроблены ў дачыненні да кітайскіх цыклаў, якія яны ёсць, не ў 2637 годзе да пачатку нашай эры, як нафантазіравалі аўтары кітайскай гісторыі, а ўсяго за пяцьсот гадоў да нашага ўласнага часу, у прамежак паміж 1204 і 1623 гадамі, калі Юпітар абганяў Сатурн ў першыя гады кітайскіх цыклаў, спачатку ў Авене, потым у Цяляці і Двайнятах і, нарэшце, у Раку, пасьля чаго 60-гадовыя цыклы замацаваліся і ў кітайцаў ужо толькі згодна з механічнай традыцыяй, з забыццём рэчаісных падставаў, быўшых нагодай іхнага ўзнікнення. Калі мы будзем лічыць, што гэтае злічэнне ўсталявана ў Кітаі ў 1563 г., то, дадаўшы сюды 70 цыклаў, мы і атрымаем той 2637 год нашай эры, з якога пачынаюць сваё злічэнне кітайцы.

Да такіх жа адмоўных для кітайскай старажытнасьці вынікаў прыводзіць і паведамленне ўсходне-азіяцкіх летапісаў пра тое, што пад час валадарання ўнука «Жоўтага імператара» (Хуан-Дзі па-пекінску), вясной, пад час першага дня першага месяца, усе пяць планет сышліся пад згуртаванней зорак $\alpha$-$\beta$ Пегаса, г.зн. у Вадаліве і збольшага ў Казярогу.

Час гэтага ўнука «Жоўтага імператара», іерогліф якога шанхайцы вымаўляюць Chuen Kuh, дапасуецца імі да прамежку ад –2513 да –2436 года. Але, зірнуўшы на мае табліцы Сатурна ў IV кнізе «Хрыста», чытач зараз жа пабачыць, што за ўвесь гэты прамежак (пярэдадне біблейскага сусветнага патопу!) ніякіх злучэнняў Юпітара і Сатурна ў Вадаліве не выяўляецца (табл. VI).

ТАБЛІЦА VI.

Злучэнні Сатурна і Юпітара пад час ўяўляемага часу ўнука «Жоўтага імператара» (паміж мінус 2513 і мінус 2436 гадамі).

| Сатурн у Вадаліве | Юпітар у Вадаліве | Юпітар пры Сатурне ў Вадаліве |
|---|---|---|
| -2513 | -2510 | у -2513 у Скарпіёне |
| -2484 | -2489 | у -2484 у Авене |
| -2454 | -2451 | у -2154 у Шалях |
| -2425 | -2427 | у -2525 у Авене |

Гэтым адмоўным адказам і павінна была б справа закончыца. Патрэбна был б проста сказаць: абедзьве кіруючыя планеты аспрэчваюць паданне. А якім жа чынам Байльі (Bailly) раптам «падмацаваў» гэтую псеўда-кітайскую дапатопную храналогію, сцвярджаючы, што злучэнне пяці планет сапраўды было 20 лютага

мінус 2448 года? Вельмі проста. Ён палічыў, што кітайцы, яшчэ за 2448 гадоў да пачатку нашай эры апярэдзілі ненатуральнае сярэднявечнае астралагічнае прыраўнанне Сонца і Месяца да планет, як яны быццам бы апярэдзілі і метонавы 19-гадовы месяцовы цыкл больш чым за 2000 гадоў да еўрапейскага Метона, але раптам выключылі із ліку планет дзьве самыя галоўныя: Юпітар і Сатурн, замяніўшы іх Сонцам і Месяцам (!!).

ТАБЛІЦА VII.

Вясновыя месцаванні Марса пад час злучэнняў Сатурна і Юпітара ў Вадаліве ад мінус 2500 года да нашых дзён. (Гісторыка-астранамічная выведка.)

А. Першая серыя злучэнняў.

| У сярэдзіне Вадаліва | | Веснавыя месцаванні Марса |
|---|---|---|
| Сатурн | Юпітар | |
| 1641 | 1642,4 | 1642, IV у Вадаліве, згодна з дыяграм. 1847 года. |
| 1582 | 1583,1 | 1583, I-V у Двайнятах згодна з дыяграм. 1820 года. |
| 1523 | 1523,1 | 1523, I-V у Ільве, згодна з дыяграм. 1839 года. |
| 1464 | 1463,8 | 1464, II-III у Рыбах, згодна з дыяграм. 1827 года. |
| 1405 | 1404,5 | 1405, IV-V у Вадаліве згодна з дыяграм. 1847 года. |
| 1346 | 1345,1 | *1345, III у Вадаліве згодна з дыяграм. 1819 года. |
| 1287 | 1285,8 | 1886, I-VI у Ільве, згодна з дыяграм. 1822 года. |

Пад знакамі месяцаў I, II, III... на паказваных тут дыяграмах (гл. кн. IV, «Хрыста», стар. 44-47) патрэбна мець на ўвазе для гэтай серыі іхныя 15-16 дні. Вясновае раўнадзенства тады было каля 14-10 юліянскага сакавіка.

Б. Другая серыя злучэнняў.

| У сярэдзіне Вадаліва | | Веснавыя месцаванні Марса |
|---|---|---|
| Сатурн | Юпітар | |
| 728 | 729,0 | 729, III-IV у Двайнятах, згодна з дыяграм. 1818 года. |
| 668 | 669,7 | 669, I-V у Раку, згодна з дыяграм. 1837 года. |
| 610 | 610,4 | 610, II-III у Рыбах, згодна з дыяграм. 1825 года. |
| 551 | 551,1 | 551, IV-V у Казярогу, згодна з дыяграм. 1845 года. |
| 492 | 491,8 | *491, III-IV у Вадаліве, згодна з дыяграм. 1817 года. |
| 433 | 432,4 | 432, II-V у Раку, згодна з дыяграм. 1837 года. |
| 374 | 373,1 | 373, II-III у Рыбах, згодна з дыяграм. 1825 года. |

Пад знакамі месяцаў I, II, III... на паказваных тут дыяграмах (гл. кн. IV, «Хрыста», стар. 44-47) патрэбна мець на ўвазе для гэтай серыі іхныя 9-10 дні. Вясновае раўнадзенства тады было каля 18-20 юліянскага сакавіка.

В. Трэцяя серыя злучэнняў.

| У сярэдзіне Вадаліва | | Веснавыя месцаванні Марса |
|---|---|---|
| Сатурн | Юпітар | |
| -186 | -185;6 | -185, I-V у Двайнятах, згодна з дыяграм. 1835 года. |
| -245 | -244;3 | -224, II-III у Рыоах. згодна з дыяграм. 1840 года. |
| -304 | -304;0 | -304, II-III у Рыбах, згодна з дыяграм. 1827 года. |
| -363 | -363;7 | * -363, III-IV у Казярогу, згодна з дыяграм. 1815 года. |
| -422 | -422;4 | -422, I-IV у Двайнятах згодна з дыяграм. 1835 года. |
| -480 | -481;1 | -481, II у Вадаліве, згодна з дыяграм. 1823 года. |
| -539 | -541;8 | -541, II-III у Рыбах згодна з дыяграм. 1842 года. |

Пад знакамі месяцаў I, II, III... на паказваных тут дыяграмах (гл. кн. IV, «Хрыста», стар. 44-47) патрэбна мець на ўвазе для гэтай серыі іхныя 9-10 дні. Веснавае раўнадзенства было тады каля 18-20 юліянскага сакавіка.

Г. Чацьвёртая серыя злучэнняў.

| У сярэдзіне Вадаліва | | Веснавыя месцаванні Марса |
|---|---|---|
| Сатурн | Юпітар | |

| | | |
|---|---|---|
| -1040 | -1039;6 | -1039, II-IV У Двайнятах, згодна з дыяграм. 1818 года, |
| -1099 | -1098;3 | * -1098, II у Вадаліве, згодна з дыяграм. 1838 года. |
| -1158 | -1157;0 | -1157, I-VI у Шалях, згодна з дыяграм. 1826 года. |
| -1217 | -1157;6 | -1217, IV-V у Казярогу, згодна з дыяграм. 1845 года. |
| -1276 | -1276;3 | -1276, III-IV у Двайнятах, згодна з дыяграм. 1833 года. |
| -1335 | -1336;0 | -1336, I-IV у Раку, згодна з дыяграм. 1862 года. |
| -1394 | -1395;7 | -1395, II-III У Рыбах, згодна з дыяграм. 1840 года. |
| -1453 | -1454;4 | -1454, III-IV У Стралку, згодна з дыяграм. 1813 года. |

Пад знакамі месяцаў I, II, III... на паказваных тут дыягр. (гл. кн. IV, «Хрыста», стар. 44-47) патрэбна мець на ўвазе для гэтай серыі іхныя 28-29 дні папярэднічаўшых месяцаў. Весновае раўнадзенства было тады каля 1-3 юліянскага красавіка.

Д. Пятая серыя злучэнняў.

| У сярэдзіне Вадаліва | | Веснавыя месцаванні Марса |
|---|---|---|
| Сатурн | Сатурн | |
| -1894 | -1893;5 | -1893, II-III у Цяляці, згодна з дыяграм. 1816 года. |
| -1953 | -1952;2 | -1952, II-III у Вадаліве педыятр. 1836 года. |
| -2012 | -2022;9 | -2012, II-III у Рыбах згодна з дыяграм. 1823 года. |
| -2071 | -2071;6 | -2071, II-VII у Скарпіёне, згодна з дыяграм. 1843 года. |
| -2130 | -2130;3 | -2130, II-III у Цяляці, згодна з дыяграм. 1831 года. |
| -2189 | -2189;0 | -2189, III, у Вадаліве, згодна з дыяграм. 1836 года. |
| -2248 | -2249;6 | -2249, III у Рыбах, згодна з дыяграм. 1823 года. |
| -2307 | -2308;3 | -2308, II-VII у Скарпіёне, згодна з дыяграм. 1843 года. |
| -2366 | -2368;0 | -2368, III-IV у Казярогу, згодна з дыяграм. 1815 года. |

Пад знакамі месяцаў I, II, III... на паказваных тут дыяграмах (гл. кн. IV, «Хрыста», стар. 44- 47) патрэбна мець на ўвазе для гэтай серыі 23-24 дні папярэднічаўшых месяцаў. Вясновае раўнадзенства было тады каля 6-8 юліянскага красавіка.

І вось усё выявілася простым. Дзякуючы таму, што геацэнтрычныя спалучэнні Сонца, Месяца, Меркурыя, Венеры і Марса ў кожным сузор'і адбываюцца амаль праз кожныя 15-17 гадоў, то на працягу 77 гадоў уяўляемага валадарання ўнука «Жоўтага імператара» Бальі, выключыўшы са злічэння самыя вялікія планеты, вядома, адразу ж і знайшоў прыдатнае для яго спалучэнне малых, адбыўшаяся ў Вадаліве 20 лютага –2447 г.

Але ён – адкажу я – мог бы і яшчэ знайсьці на такім доўгім прамежку часу калі не тры, то, ва ўсякім выпадку, яшчэ два такія ж спалучэнні, узяўшы замест 20 лютага нейкія іншыя дні гэтага месяца ці нават сакавіка і красавіка. І гэта было б нават нашмат лепш, таму што ў –2447 годзе веснавое раўнадзенства прыпадала на 11 красавіка, а пад час паказанага Бальі дня 20 лютага тады была яшчэ сярэдзіна зімы на паўночным паўшар'і ўсёй Зямлі, а не вясна, як значыцца ў дакуменце. Ды акрамя таго, каму б прыйшло ў галаву захоўваць каля 4 000 гадоў успаміны пра такую звычайную і не звяртаючую на сябе ўвагу падзею, як сыходжанне Марса, Венеры і Меркурыя за Сонца пад час маладзіка? Гэта ж адбываецца ў тым ці іншым сузор'і амаль ці не праз кожныя два-тры гады, і таму ніводзін астролаг не надаваў гэтаму ніякага значэння.

Цалкам іншая справа, калі да гэтага выпадку далучаюцца як Сатурн, так і Юпітар. Такія спалучэнні адбываюцца нават не ў кожным стагоддзі, і таму ўсе еўрапейскія астролагі насьцярожваліся перад імі, і чакалі сусветных катастрофаў, у залежнасьці ад характару сузор'я: у Рыбах і Вадаліве – сусветнага патопу, у Скарпіёне – маравой язвы, у Авене – другога прышэсьця Хрыста і г.д. Адсюль

зразумела, што і ў кітайскіх народнасцей пад сыходжаннем пяці планет у Вадаліве вясной меліся на ўвазе ў разглядаемым намі дакуменце не Сонца і Месяц, якія не лічыліся нават за планеты, а толькі пяць сапраўдных, старажытных планет: Меркурый, Венера, Марс, Юпітар і Сатурн. А мы ўжо бачылі, што нічога падобнага не было пад час паказанага кітайцамі перыяду валадарання ўнука «Жоўтага імператара», а такім чынам не было і яго самога.

Але калі ж усё гэта магло б мець месца?

Мая – даволі складаная гэтым разам, – гісторыка-астранамічная выведка дала для першага свайго кроку, г.зн. для злучэнняў Сатурна, Юпітара і Марса паміж Казярогам і Вадалівам за ўвесь пазначаны 4000-гадовы перыяд толькі 5 дат, годных для далейшага дасьледавання грунтуючыся на Венеры і Марсу (гл. табліцу VII)[10]. Я паказваю тут із яе ўсе выпадкі, якія звяртаюць на сябе хаця б некаторую ўвагу.

**А.** – Із першай серыі злучэнняў Сатурна і Юпітара можна адзначыць толькі:

Год 1345 нашай эры, калі Марс ішоў як у 1819 годзе (гл. табл. VII у IV томе «Хрыста», прытым кропкі на графіках, пазначаныя рымскімі лікамі I, II, III і г.д., лічыце за 15-16 дзень дадзеных месяцаў), і быў разам з Юпітарам, Сатурнам і Меркурыем на самым пераходзе із Казярога ў Вадаліва пад час маладзіка 9 лютага 1345 года, адбыўшаяся ў самай сярэдзіне Вадаліва, прытым і Венера была яшчэ на пераходзе ад Вадаліва ж у Рыбы. Гэта быў сапраўды выдатны выпадак, калі ўсе планеты пайшлі за Сонца і ніводнай з іх не было бачна на небе. Прапаную чытачу звярнуць на яго асабліва сур'ёзную ўвагу, якім бы познім ні здаўся б яму гэты год.

Другое спалучэнне першай серыі, 1642 год, калі Марс ішоў па Вадаліву ў красавіку, з'яўляецца ўжо трохі познім для першага веснавога месяца.

**Б.** – Із другой серыі (у якой кропкі на графіках са значкамі месяцаў I, II, III і г.д., на табл. VIII, кн. IV, пазначаюць 9-10 дні адпаведных месяцаў) можна лічыць найлепшым выпадкам:

Год 491, калі пры Юпітары і Сатурне ў Вадаліву Марс ішоў згодна з графікам 1817 года (табл. VIII, кн. IV) і ў сакавіку быў у Вадаліве ж. Але пад час поўні 26 сакавіка Сонца было ўжо паміж Рыбамі і Авенам, а Венера ў Цяляці. Гэты выпадак не дапасуе дзякуючы Венеры.

**В.** – Із трэццяй серыі (у якой кропкі са значкамі месяцаў I, II, III і т. д, на табл. VIII, кн. IV, пазначаюць 3-4 дні адпаведных месяцаў) можна лічыць лепшымі выпадкамі:

Год мінус 363, калі Марс ішоў адпаведна з графікам 1815 года і быў у красавіку ў Вадаліве пры Сатурне і Юпітары там жа.

Маладзікі тады былі: каля 17 сакавіка на пачатку Авена і каля 16 красавіка напачатку Цяляці. Але Венера была пад час гэтых месяцаў у Цяляці і напачатку Двайнят, а не ў Вадаліве. Не дапасуе дзякуючы Венеры.

Дакладна так жа непрыдатны ў гэтай серыі з’яўляецца (не кажучы ўжо пра астатнія яе выпадкі!) і мінус 481 год, бо веснавае раўнадзенства прыпадала тады на 26 дзень юліянскага сакавіка, і ў лютым ў Кітаі была яшчэ зіма.

**Г.** – Із чацьвёртай серыі (у якой кропкі са значкамі месяцаў I, II, III і г.д. на табл. VII, кн. IV, пазначаюць 28-29 дні папярэднічаўшых месяцаў) можна пазначыць:

---

[10] Я не спыняюся тут на дэталях гэтай выведкі, таму не жадаю запаўняць дзясятак старонак лікавымі выкладаннямі. Чытач можа праверыць мяне сам карыстаючыся табліцамі ў пралогу IV кнігі.

Год мінус 1276, не прыдатны дзякуючы Марсу, і суседні з ім мінус 1277 год, калі Марс ішоў адпаведна з графікам 1832 года і быў, сапраўды ў красавіку ў Вадаліве. Але ён непрыдатны дзякуючы Юпітару. Юпітар быў тады яшчэ далёка ў Казярогу. Не падыходзіць таксама і мінус 1275 год, калі Марс ішоў адпаведна з графікам 1834 года і быў у сакавіку ў Вадаліве, таму што Юпітар быў у гэты годзе ужо ў Рыбах.

**Д.** – Із пятай серыі спалучэнняў Сатурна і Юпітара ў Вадаліве (у якой кропкі на графіках Марса на табл. VIII, кн. IV са значкамі месяцаў I, II, III і інш. пазначаюць 23-24 дні папярэднічаўшых гэтым пазначэнням юліянскіх месяцаў) немагчыма паказаць ніводнага прыдатнага выпадку.

Год мінус 1893 не прыдатны, дзякуючы таму што Марс быў вясной у Цяляці. Суседні з ім мінус 1894, калі Марс ішоў адпаведна з графікам 1815 года і быў у красавіку паміж Казярогам і Вадалівам, таксама не падыходзіць, таму што Юпітар у гэтым годзе быў яшчэ напачатку Казярога. А ў мінус 1892 году Юпітар быў ужо ў Авене. Гэты год яшчэ горшы, чым мінус 1894, для кітайскіх першакрыніц.

Такім чынам, у час, пазначаны знойдзенымі ў Кітаі міжнароднымі кнігамі, не было нават і намёку на злучэнне ўсіх 5 планет каля Вадаліва, а пасьля яго такая падзея цалкам ажыццявілася толькі 9 лютага 1345 года і прытым у вельмі эфектным выглядзе.




3 лютага 1345

І ў гэты ж час, каля 1324 года выявіўся і той 60-гадовы юпітара-сатурнавы цыкл, пра які я выказваўся перад гэтым (гл. табл. V на стр. 47).

Пазначу зараз і іншыя, напісаныя тым жа міжнародным ідэаграфічным пісьмом і цікавыя для нашага пытання кнігі, дастаўленыя на працягу апошніх трох стагоддзяў у Яўропу ездзіўшымі ў Кітай еўрапейскімі навукоўцамі.

Астранамічныя нататкі існуюць у кнізе «Кананічныя вершы»[11], якія былі перарэдагаваны, як быццам бы, яшчэ вялікім мудрацом Канфуцыем, жыўшым, – паведамлюць нам, – у часы біблейскага народнага правадыра Зарававеля (г.зн. у перакладзе: Чужога царкве «Брама Госпада») у мінус VI стагоддзі. А «Чужы Брамы Госпада» дапасуеца тэолагамі да часу ад -536 да -457 года, і яму прыпісваецца пабудова храма богу-Бацьку ў «Ерусаліме». Але калі ён спісаны з Арыя ці з Яна Залатавуста, то ці не спісаны з яго ж і Канфуцый?

Кніга «Кананічныя вершы» лічыцца сучаснымі кітайскімі навукоўцамі адной із пяці кніг іхнага старажытнага «Пяцікніжжа», аналагічна «Майсееву». Нават і Канфуцый – пераконваюць яны нас – лічыў яе надзвычай старажытнай, а еўрапейскія навукоўцы дадаюць: «сам патар Гаўбіль, ўпершыню пазнаёміўшы Яўропу з кітайскай гісторыяй, ні трошкі не сумняваўся ў яе старажытнасьці»[12].

Але ўсё ж, нягледзячы на ўсю нашу павагу да патара Гаўбіля, разгледзім і мы яе змест.

Яна – не паслядоўная гісторыя, а зборнік паведамленняў із розных стагоддзяў.

Першая частка гэтай кнігі, маючая назву «Найвышэйшы імператар», распавядае пра здзяйсненні імператара «Найвышэйшага»[13], які сеў на пасад быццам бы ў 41 годзе пятага цыкла. Лічачы, што першы 60-гадовы цыкл пачаўся ў мінус 2637 годзе, знаходзім для яго ўцаравання мінус 2356 год. І вось, у §§ 3-8 «Кананічных вершаў» дадзена інструкцыя гэтага Найвышэйшага цара яго двум астраномам «Плану» і «Чарцяжу» (Хе і Хо). У першым з іх, г.зн. у § 3, ён загадвае ім: «*назіраць нябёсы, вылічыць каляндар, уладкаваць прыладу, на якой былі б пазначаны 12 знакаў Задыяка, і рух па іх Сонца і Месяца, і, акрамя таго, з належнай павагай паведамляць народу пра поры года*»

Вось калі яшчэ, чытач, былі вядомы грунтуючыся на кітайскіх паведамленнях сучасная армілярная сфера і 12 знакаў Задыяка! А потым і гэтыя знакі, і сама армілярная сфера былі на тысячагоддзі забыты кітайцамі і нанова вынайдзены ўжо еўрапейцамі пад канец сярэдневечча!

Кітайскі каментатар, відавочна ўжо не разумеючы гэтай больш высокай ступені ведаў аўтара, прызнаючага вярчэнне Зямлі, без чаго немагчыма стварыць армілярную сферу[14], дадае, наадварот, што Сонца штосутачна абыходзіць Зямлю і што неба ўяўляе сабой прыладу для ткання, зоркі – яе падставу, а планеты – човен, пры гэтым планет налічваецца пяць – Меркурый, Венера, Марс, Юпітар і Сатурн, як гэта я і паказваў пры вылічэнні часу злучэння пяці планет у Вадаліве.

У § 4 Імператар дае загад «Другому плану» ісьці на ўсход, пакланіцца ўзыходзячаму Сонцу (што вельмі цяжка лакалізаваць у Кітаі, дзе на ўсходзе заканчаецца Стары Сьвет і пачынаецца непераадольваемы тады Ціхі акіян). Там (чамусьці) ён павінен быў пераканацца, ці роўныя дзень і ноч вясной, пры гэтым зорка «Птушка»[15] прызнаецца дакладным паказчыкам гэтай пары года. Яе лічаць за зорку Сэрца Гідры, «кульмінаваўшую – кажуць нам – у мінус XXIV стагоддзі пры заходжанні Сонца каля часу веснавога раўнадзенства, што і лічыцца яшчэ адным падмацаваннем старажытнасьці кітайскай храналогіі да мінус 2306 года... Але ці

[11] Шыцзін (верш-канон), па англа-шанхайску Shoo-King.

[12] Не паказваю, адкуль я ўзяў гэтае выказванне, із павагі да аўтара.

[13] Яо – высокі, па англа-шанхайску Yaou.

[14] Яна складаецца із сістэмы вярцячыхся колаў, із якой ужо выключаны ўяўляемае штосутачнае колаабарачэнне скляпення неба, як залежачы ад вярчэння самой сферычнай Зямлі вакол яе палярнай восі.

[15] Няо (у ангельскай транскрыпцыі Neaou) – птушка.

праўдзівае гэтае падмацаванне? Перадусім: каму і калі прыйшло ў галаву пазначаць поры года кульмінацыямі, а не выйсьцямі із-за Сонца стандартных зорак? Гэта ж цалкам непрыдатны спосаб ужо дзякуючы аднаму таму, што ў момант заходу Сонца яшчэ не бачна не толькі Сэрца Гідры, зоркі другой велічыні і нізкай над гарызонтам, але нават і Рэгула над ёю. Як у клінапісных надпісах так і ў ягіпецкіх іерогліфычных надпісах, і ўсюды, аж да вынаходніцтва тэлескопаў і стварэння сучаснай дакладнай вылічальнай астраноміі, сезоны пазначаліся геліяктычнымі ўзыходжаннямі і заходамі самых буйных зорак (г.зн. іхнымі з'яўленнямі із прамянёў ранішняга світання ці апошняй бачнасьцю над праменямі вячэрняга зарыва). Першая ж практычная спроба кульмінацыйнага спосабу паказала б яго вынаходніку, што ім нічога не вызначыш.

Падобныя «падмацаванні» больш падобны на аспрэчванні.

У § 5 Найвышэйшы імператар дае загад «Трэццяму плану» ісьці (чамусьці) на поўдзень, каб памераць даўжыню сонечнага ценю і грунтуючыся на ім вызначыць сярэдзіну лета (хаця для гэтага было б больш дарэчным ісьці, наадварот, на поўнач). Характэрызуючай гэты час лічыцца зорка, атаясамляемая зараз з Бэтай Скарпіёна (зноў жа грунтуючыся на тым жа недарэчным спосабе нябачнай яе кульмінацыі на заходзе чэрвеньскага Сонца).

У § 6 Найвышэйшы імператар зноў дае інструкцыю «Другому плану», каб ён накіраваўся на захад праводзіць заходзячае Сонца і вызначыць там роўнасць дня і ночы пад час восеньскага раўнадзенства. Зорка, атаясамляемая зараз з β Вадаліва, лічыцца паказніцай гэтай пары года, таксама, відавочна, таму, што час восеньскага раўнадзенства ніяк не магчыма вызначыць грунтуючыся на яе нябачнай кульмінацыі пры заходжанні вераснёвага Сонца ў Шалях нават і пры ўзроўні астранамічнай тэхнікі XV стагоддзя нашай эры.

У § 7 «Трэцці план» камандыруецца на поўнач каб паказаць, што дні там кароткія пад час зімовага сонцастаяння. Паказчыцай гэтага моманту называецца зорка, лічымая зараз за Пляяды, і зноў жа грунтуючыся на тых жа недарэчных для астранома кульмінацыйных меркаваннях.

Не цяжка пераканацца пры першым жа паглядзе на зорную мапу, што гэтыя чатыры зоркі сапраўды аддзелены каля 90° простага ўзыходжання адна ад адной, але практычна цалкам не прыдатныя для прызначанай ім мэты.

У § 8 Імператар кажа сваім астраномам: «*План і Чарцёж! Вы ведаеце, што год складаецца із 366 дзён! Прызначце прамежкавыя месяцы і сто царкоўных службаў, і ўсё будзе добра*». А каментатар гэтага месца дадае, што 366 дзён з'яўляецца толькі праўдзівым часам абарачэння ўсяга неба, а даўжыня сонечнага года роўна $365^1/_4$ дням. Адсюль робяць выснову, што юліянскі год быў усталяваны ў Кітаі яшчэ Канфуцыем у часы біблейскага Зера-Бабеля, калі мы не пагадзімся паверыць, што кітайцы ведалі яго яшчэ ў XXIV стагоддзі «да Нараджэнння Хрыста», і што прэцэсія кліматычнага года была вядомай кітайскаму народу нават і ў той час (хаця і вызначана занадта вялікай).

І з гэтым немагчыма пагадзіцца, калі мы не будзем лічыць, што Найвышэйшы імператар кітайцаў спісаны нейкім чынам, з візантыйска-рымскага імператара Юльяна.

Другая частка гэтых «Кананічных вершаў», маючая назву «Пакорлівы імператар»[16], паведамляе пра здзяйсненні імператара «Пакорлівага», спадкаемцу

[16] Шуі-Дзі (згодна з ангельскай транскрыпцыяй Shun-Teen) – пакорлівы імператар.

«Вышэйшага». Ён загадаў зрабіць прыладу «глядзельную трубу»[17], каб сем рухомых сьвяціл «маглі быць назіраемымі штодня».

Адсюль як быццам магчыма вывесьці з поўнай ідавочнасьцю, што і глядзельная труба Галілея была вядома кітайцам яшчэ за 4000 гадоў да вялікага еўрапейскага навукоўцы... Дык чаму ж тыя, якія лічаць, што і юліянскі год, і армілярная сфера, і раўнадзенствы, і сонцастаянні, і ўсё астатняе, было вядома кітайцам так даўно, спыняюцца, перад гэтым апошнім крокам, і тлумачаць глядзельную трубу як астранамічны квадрант? Тут няма іншага выйсьця, як лічыць, што астранамічныя спазнанні старажытных жоўтых мудрацоў з’яўляюцца на самай справе вельмі пазьнімі прыдумкамі, ці пагаджацца з усімі вынікаючымі наступствамі і толькі бедаваць пра тое, што еўрапейскія вялікія навукоўцы так спазніліся са сваімі вынаходніцствамі[18].

Перайду зараз да паглядаў навукоўцаў і на іншыя дакументы той жа малявальнай міжнароднай літаратуры дасланай нам із Пекіна і Шанхая.

Вялікі гістарычны твор «Лета-Запіс», пра які я ўжо згадваў, пачынае апавяданні з мінус 2650 года. Ён лічыцца створаным нейкім «шталмайстрам» каля мінус 97 года і працягнутым рознымі гісторыкамі да 1644 года нашай эры. У ім некалькі частак прысвечана выключна астраноміі, дзе размешчаны назіранні за Сонцам, Месяцам і пяцю планетамі, а таксама пакрыцці зорак і з'яўленне камет. «Лета-Запіс» па англа-шанхайску вымаўляецца Шэ-кэ, як яе звычайна і завуць еўрапейцы.

У «Энцыклапедыі Ляснога каня», пра якую я таксама ўжо згадваў, знаходзіцца цэлы том з апісаннем камет. Гэты «Лясны конь» (Ма-Туан-Лінь) – паведамляюць нам, – жыў каля 1232 года нашай эры і давёў да свайго часу, невядома, грунтуючыся на якіх адкрыццях, запісы камет ад мінус 611 года. Усё астатняе ў «Энцыклапедыі» даведзена да 1644 года, г.зн. якраз да таго часу, калі закончаны такія ж запісы і ў «Лета-Запісе» «шталмайстрам», а таксама і ў еўрапейскіх каметографаў. Згадаем толькі, што знакамітая каметаграфія Любянецкага выйшла ў 1681 годзе; ёй у Яўропе папярэднічалі зборнікі пачатку XVII і заканчэння XVI стагоддзяў. Мы бачым, як адначасова ўзніклі шырокія каметаграфіі як у Заходняй Яўропе так і ў Кітаі ў перыяд паміж XIII і XVII стагоддзямі, а гэта наўрад ці магло адбыцца незалежна адно ад аднаго.

Больш кароткая «Кітайская гісторыя» – толькі ў 100 тамах! – ад дапатопных часоў па 1367 год была перакладзена на французкую мову яшчэ каталіцкім місіянерам Майлья (Mailla), і ў ёй змешчаны паведамленні пра некаторыя каметы, не існуючыя ў двух папярэдніх першакрыніцах.

найменні зорак ва ўсіх гэтых «Энцыклапедыях», напісаных міжнароднымі ідэаграфічнымі знакамі, маюць, вядома, значэнне на ўсіх мовах. Так, Арктур названы Вялікі Рог, Каноп – Стары, Вялікая Мядзведзіца – Паўночная Мерка, а паміж мерыдыяннае нябеснае крыло, у якім лётаюць па небу Двайняты, мае назву Крыніца. Як у сярэднявечных магаметанаў, так і ў гэтых энцыклапедыях, злічэнне даўгот заснавана не на знаках Задыяка, а на 28 «месяцовых станах», пры гэтым кожны стан уяўляе паміж мерыдыянную пару крылаў, у якой адно крыло ідзе да паўночнага, а другое да паўднёвага полюса.

---

[17] Цюань-Цю (згодна з ангельскай транскрыпцыяй Tseuen-Ke) – глядзельная прылада.

[18] У мяне няма тут месца разбіраць артыкул J. Williams'а пра сонечнае зацьменне мінус 2158 года ў Кітаі («Monthly Notices», XXIII, p. 238 і XXIV, p. 39), а таксама і масу іншых кітайскіх зацьменняў. Я зраблю гэта ў апошнім томе маёй працы і толькі папярэджу зараз, што ўсё яны знойдуцца пад час сярэдневечча.

Для ўсталявання кітайскай храналогіі Вільямс асабліва карыстаўся кнігай японскага прынца Міто, выдадзенай у Японіі ў 1863 годзе, дзе летазлічэнне абедзьвюх краін даведзена ад самых старажытных часоў да 1860 года і нават супастаўлена з сучасным хрысьціянскім «ад Н. Хр.» і «да Н. Хр.» Хаця Міто і пісаў гэтую кнігу на японскай мове, але з дапамогай тых жа самых міжнародных ідэаграфічных значкоў, як і кітайскія. Дзякуючы гэтаму Вільямс, які не ведаў японскую мову, меў магчымасць чытаць яго кнігу і як кітайскую, і як ангельскую. Па-кітайску гэтыя значкі ў загалоўку чытаюцца: Сін-Хуен-Нін-піу, па-ангельску яны вымаўляюцца: «A newly compiled guide to years», а па-руску патрэбна чытаць: «Нанова складзены даведнік па гадах».

Гэты выпадак зноў вымушае мяне падняць пытанне: ці была напісана ўся старажытная кітайская літаратура сапраўды па-кітайску – кітайцамі, ці ёсць у ёй кнігі, напісаныя і японцамі па-японску, і каталіцкімі місіянерамі, накшталт патара Гаўбіля, па-французку, на-лаціне і па-грэцку, хаця дзякуючы міжнароднаму характару пісання ўсе яны далучаны да нацыянальнай кітайскай літаратуры?

Калі б жа вы дакладна не ведалі, што толькі-што цытаваны прынц Міто пісаў сваю кнігу ў Японіі па-японску, то дзякуючы яго ідэаграфічнаму пісанню, такому ж, як ва ўсіх усходніх азіятаў, вы палічылі б яе за кітайскую кнігу. Дык чаму б не дапусьціць, што і «Конь Хваёвага Лесу» прыскакаў у Пекін із Яўропы і перапісаў ідэаграфічнымі значкамі гісторыю еўрапейскіх народаў, палічаную пазьней, дзякуючы іхнаму кітайскаму вымаўленню, за нацыянальную кітайскую?

Я зноў звяртаю ўвагу чытача яшчэ і на тое, што злічэнне месяцаў у годзе ў кітайцаў па-сутнасьці тое ж самае, як і ў сучасных жыдоў, г.зн. вызначаецца 19-гадовым метонавым цыклам, у якім сем гадоў маюць па 13 месяцовых месяцаў, а астатнія па 12, і што замест падзелу неба на 12 знакаў Задыяка ў іх прыняты тыя ж 28 месяцовых начлегаў, якія лічацца прадуктамі арабска-маўрытанскай творчасьці і ўжо прыведзены мной у табліцы LVII (на стар. 242) чацьвёртага тома «Хрыста». Адзінства астранамічнага часазлічэння ад Кордавы да Пекіна мімаволі наводзіць на думку і пра адзінства, а такім чынам і пра адну эпоху паходжання і астатніх кітайскіх і еўрапейскіх ведаў і ўспамінаў.

Вось чаму і кітайская гісторыя павінна быць безстаронне праверана грунтуючыся на маючыхся астранамічных указаннях вырашаючага характару, якімі могуць быць толькі ўзаемныя спалучэнні планет, як паўтараючыяся вельмі рэдка. Толькі бяручы да ўвагі гэтыя тлумачэнні і можна карыстацца прыкладзеным тут каметным спісам, тым больш, што із большасьці адзінкавых камет тут вырасьлі цэлыя гнёзды. Нашы ж сучасныя, дакладныя веды пра колькасць бачаных простым вокам на працягу апошніх трох стагоддзяў камет дастаткова паказваюць, што гэтыя міжпланетныя вандраўніцы не валяцца да нас з неба такім частым дажджом, як у прыведзеным далей спісе.

Кітайская гісторыя раней дынастыі Тан (618-904) вельмі цьмяная і як быццам складзена пазней. Я яшчэ вярнуся да гэтага пытання, калі буду крытычна разбіраць ужо існуючыя ў еўрапейскай астранамічнай літаратуры праверкі ўсходне-азіяцкіх паведамленняў пра сонечныя і месяцовыя зацьменні, а зараз скажу толькі адно.

Чытач бачыў тут, як Найвышэйшы імператар (ці проста: Яго высокасць) загадаў сваім астраномам, траім «Планам» і «Чарцяжам», выправіцца на чатыры бакі сьвету і зрабіць там астранамічныя і каляндарныя вылічэнні. І бяспрэчна, чытач і сам без маіх патрабаванняў ужо лічыць ўсё гэта не за пратакол, напісаны

сакратаром імператара падчас такога прадпрыемства, а за міф значна больш пазняга паходжання, які мог быць створаным толькі тады, калі сапраўдная гісторыя з'яўлення першага календара ўжо была забыта.

Але вось я ўпершыню прачытаў гэты міф на ангельскай мове ў адной гісторыка-астранамічнай кнізе. За «Планам» і «Чарцяжом» там былі пакінуты іхныя шаньдуньскія назвы **Хе** і **Хо**, ды і імя Найвышэйшага цара было пакінута напалову перакладзеным: імператар **Яо**. Не ведаючы кітайскіх моваў, я доўга заставаўся ў поўным здзіўленні. Атрымалася ўражанне сухога летапіснага запісу, кожнае слова якога – гістарычны факт. Але, на шчасьце, я ўжо ведаў, што ва ўсходне-азіяцкай літаратуры, з нагоды адсутнасьці ў ёй фанетычнага альфабэту, не можа быць запісана якое б то ні было імя, не маючае вызначанага сэнсу на мове пішучага; я ведаў, што кожнае замежнае імя непазбежна павінна ператварыцца пры такой пісьмовасьці ў адно із сугучных з ім кітайскіх словаў ці ў іхнае спалучэнне, і што ніякім чынам ніводнае замежнае апавяданне не можа быць трансплантавана ў кітайскую літаратуру, не перапрануўшыся да таго часу ў кітайскае адзенне і не набыўшы кітайскую афарбоўку колеру свайго твару, так што пры навуковых перакладах кітайскіх дакументаў для асэнсаванага чытання патрэбна іх папярэдне зноў распрануць і памыць твары.

Я звярнуўся з гэтай мэтай да адной сваёй знаёмай, добра ведаючай кітайскую мову і літаратуру, і дзякуючы ёй аднавіў толькі-што згаданы ангельскі псеўда-навуковы пераклад у тым выглядзе, як я яго паведаміў тут. І я магу запэўніць чытача, што цалкам падобнае ж пераўтварэнне ў міф адбудзецца і з усёй старажытнай кітайскай гісторыяй пры яе поўным перакладзе на нашу родную мову. Вось, напрыклад, хаця б знакаміты трыўмвірат кітайскіх імператараў, адпавядаючых еўрапейскаму трыўмвірату Цэзар-Пампей-Крас, храналагічна больш прыдатны, як і павінна быць з нашага боку гледжання, да трыўмвірата із Дыяклетыяна, Канстанцыя Хлора і Кастуся Вялікага.

Ва ўсіх кітайскіх гісторыях мы чытаем:

«*У трэццім стагоддзі* (еўрапейскага злічэння) *паміж 221 і 264 гадамі ў Кітаі валадарылі адначасова тры імператары: Чжао-Ле-Дзі, Вен-Дзі і Да-Дзі*»... «*На пачатку чацвёртага стагоддзя існавала дынастыя Сі-Цзінь, самым выбітным царом якой быў У-Дзі*»... «*А потым ад 317 да 419 год існавала дынастыя Дунг-Цзінь, у якой царамі былі: Юань-Дзі, Мін-Дзі, Чэн-Дзі, Кун-Дзі*» і г.д.

Ці не праўда як усё тут гістарычна-дакументальна і па-кітайску-нацыянальна? Але толькі згадайце, што гэтыя імёны напісаны не гукамі, а малюнкамі розных прадметаў з сугучнымі назвамі, ці перададзены ўмоўнымі значкамі, накшталт лічбаў 1, 2, 3..., якія кожны чытае на сваёй роднай мове розна, і тады ўсё гэтае псеўда-дакументальнае апавяданне страціць не толькі гістарычнае, але нават і нацыянальна-кітайскае значэнне. Атрымаецца проста наступнае:

«*У трэццім стагоддзі* (еўрапейскага злічэння) *паміж 221 і 226 гадамі ў Міжземнай імперыі валадарылі адначасова тры імператара: Ясна-Палкі, Літаратурны і Вялікі*»...» «*Напачатку чацьвёртага стагоддзя існавала дынастыя Заходняга росквіту, самым выдатным царом якой быў Вайсковы імператар*...» «*А потым ад 317 да 419 года існавала дынастыя Ўсходняга Росквіту, у якой царамі былі: Першы галоўны цар, Найсвятлейшы цар, Цар-Завяршэнне, Цар-Росквіт*» і г.д.

Скажыце самі, чытач: тут, пры гэтым поўным (а не палавінным, як зроблена вышэй і як робяць зараз усе гісторыкі) перакладзе, ці нават не перакладзе, а асэнсаваным чытанні ідэаграфічных знакаў, ці засталося што-небудзь суха-

дакументальнае, гістарычнае ці нават проста нацыянальна-кітайскае? Нават мімаволі здаецца, што тут пад найменнем Міжземнага царства вельмі добра апісана Міжземная імперыя Дыяклетыяна на берагах Міжземнага мора з яе першым трыўмвіратам, толькі на некалькі дзясяткаў гадоў адсунутая назад, з яе (легендарным з нашага боку гледжання) папярэднім Заходнім Росквітам, калі на чале імперыі лічыўся італійскі горад Рым; з яе наступным Усходнім Росквітам, калі сталіца была перанесена ў Візантыю. Нават жа і храналогія гэтага Ўсходняга Росквіту тая ж самая ў абодвух апісаннях: «Першы Галоўны Цар» кітайцаў храналагічна налягае на «першага галоўнага цара» візантыйцаў Кастуся, а заканчэнне Ўсходняга росквіту кітайцаў амаль супадае са сьмерцю Аркадзя ў 407 і яго брата Ганорыя ў 423 годзе, пасьля чаго абедзьве часткі «Міжземнай імперыі» ў Яўропе пайшлі незалежна адна ад адной.

Мімаволі здаецца, што кітайскае апавяданне перавандравала ў Азію із Яўропы...

А калі як кітайская так і еўрапейская гісторыі былі сапраўды амаль падобнымі без спісвання адзін ў аднаго, а на самай справе, то ці не маем мы права зрабіць выснову: сапраўды астролагі мелі рацыю, калі гаварылі, што ўсе зямныя падзеі вызначаюцца спалучэннямі нябесных сьвяціл! Вось дзьве «міжземныя імперыі» узнікі ў двух процілеглых канцах старога сьвету пад тымі ж найменнямі, і дынастычныя гісторыі абедзвюх ішлі адпаведна той жа самай схеме!

Я не маю магчымасьці выдаткаваць тут шмат месца кітайскай гісторыі і літаратуры, але і раней таго часу, калі я буду крытычна разбіраць вылічэнні Пэнгрэ і яго «падмацаванні» кітайскай храналогіі, у мяне ўнікае жаданне даць зычлівую параду ўсім тым, хто, перадаючы нам значэнне кітайскіх сімвалічных малявальных значкоў у агульнай частцы іхнага апавядання, як і патрэбна згодна з сэнсам, вымаўляюць малюнкі імёнаў дзеючых асоб і мясцовасьцей на шаньдунскай ці пекінскай мовах і гэтым пазбаўляюць натуральнага сэнсу і ўсё апавяданне для не ведаючых гэтых моваў, заснаванае амаль заўсёды, на значэнні ўласных імёнаў. У мяне ўзікае жаданне сказаць ім усім: пакіньце хутчэй гэтую сваю збрую! Імкнучыся надаць такім спосабам псеўда-навуковы і нават лакальна-кітайскі выгляд знаходзімым вамі ва Ўсходняй Азіі старажытным дакументам (магчыма, у шмат якіх выпадках патрапіўшых туды із самой Яўропы), вы ненаўмысна падманваеце сябе, а раам з сабой і іншых. Гэта тое ж самае, што рабілі тэолагі аж да XX стагоддзя ў сваіх перакладах Бібліі. Усе жыдоўскія чыста сімвалічныя імёны, пачынаючы з Адама-Чалавека, Евы-Жыцця і іхных дзяцей: Каіна-Працы і Авеля-Адпачынку і заканчваючы Бацькам Рыма (Абрамам) і Лотам-Латынянінам, – яны пакідалі без перакладу, і таму Біблія да гэтага часу засталася для яе еўрапейскага чытача не цікавым гістарычным дакументам, якім можна разумна карыстацца, а часам і чытаць не без задавальнення, а, – як справядліва выказваюцца, – кнігай за сям'ю пячаткамі.

# Глава III.

## Супастаўленне кітайскіх сузор'яў з еўрапейскімі.

Працягваючы знаёміцца з наіўнасьцю кітайскай астраноміі нават у XIX стагоддзі, я прыкладаю гэтыя шэсць кітайскіх нябесных мап із кнігі Джона Вільямса. На іх ёсць і малявальныя надпісы складальніка, не выяўляючыя яго мову,

і ангельскія надпісы самога Вільямса з яго абрысамі звычайных еўрапейскіх астранамічных звяроў.




Мал. 33.
Паўночныя каляпалярныя сузор'і. Тут чытач адразу пазнае ў правым ніжнім куце Вялікую Мядзведзіцу, а астатнія наўрад ці.




Рис. 34. Область Овна и части Рыб. Рис. 35. Область Тельца.




Рис. 36. Область Рака и Близнецов. Рис. 37. Область Льва.




Рис. 38. Область Девы.

Рис. 39. Область Скорпиона и Весов.




Рис. 40. Область Стрельца.

Рис. 41. Область Водолея и Козерога.




Мал. 42
Паўднёвыя каляпалярныя сузор'і.

Чытач бачыць сам, што амаль усе не вельмі тыповыя зорныя спалучэнні неба, дзякуючы адсутнасьці каардынатнай сеткі, размеркаваны тут так падзіцячаму наіўна, што атаясаміць іх з рэчаіснымі зорнымі канфігурацыямі, часта немагчыма.

# Глава IV.

## Каметы згодна з паданнямі двух знойдзеных у Кітаі энцыклапедый, напісаных міжнародным ідэаграфічным пісаннем.



Мал. 43
Камета насупраць Вялікай Мядзведзіцы. Кітайская выява.

Каметныя запісы старажытных часоў і сярэднявечча ўжо ўжываліся як для вызначэння часу вяртання да Сонца перыядычных камет, г.азн. для чыстай астраноміі, так і для праверкі часу помнікаў старажытнасьці, змяшчаючых указанні на каметы.

Але для таго, каб тут стаяць на праўдзівым шляху, вельмі важна знайсьці нейкі дакладны спосаб з дапамогай якога была б магчыма адрозніваць каметы, сапраўды з'яўляўшыяся пад час старажытнасьці і сярэдневечча, ад камет прыдуманых, ад камет храналагічна дапасаваных да іншых перыядаў часу ад іншых нябесных з'яваў, памылкова палічаных за каметы.

Да нябесных з'яваў, якія маглі быць памылкова палічаны каметамі, перадусім могуць быць дапасаваны: з'яўленне задыякальнага сьвятла, паўночныя ззянні і пралёты асабліва яскравых метэарытаў, пакідаючых за сабой дымавы сьлед.

Каб разабрацца ў гэтым пытанні, я сістэматычна параўноўваў паміж сабой запісы двух ужо згаданых мной энцыклапедый XIII стагоддзя, напісаных ідэаграфічным міжнародным пісьмом, і знойдзеных у Кітаі, пра якія я ўжо выказваўся, з выпісамі із розных еўрапейскіх (большай часткай лацінскіх і грэцкіх) першакрыніц, зробленымі, галоўным чынам, Эксторміусам, Рокенбахам, Рычолі і Амстэдыусам і сабранымі ў вычэрпваючай іх кнізе Любянецкага[19].

Вынікі параўнання атрымаліся больш чым на палову незадавальняючымі для абедзьвюх першакрыніц нават і для часоў сярэдневечча, а да пачатку нашай эры абодва шэрагі запісаў цалкам аспрэчваюць адзін аднаго.

Я не маю тут магчымасьці прывесьці ўвесь фаліянт Любянецкага, пераклад якога, зроблены з лацінскага тэксту маім супрацоўнікам па Астранамічнаму аддзяленню Дзяржаўнага навуковага інстытута імя Лесгафта А. А. Румянцавым пад

---

[19] Stanislai de Lubieniezkl – «Historia universalis omnium Cometarum a Diluvio usquae praesentem Annum 1665». Выданне 1681 года. (Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі). Я не даю тут указанняў на старонкі кніг Вільямса і Любянецкага, таму што матэрыял у іх размешчаны па гадах з'яўлення камет, так што грунтуючыся на маіх выпісах зараз жа можна іх знайсьці ў абедзьвюх.

маёй рэдакцыяй ужо шмат гадоў чакае свайго надрукавання, і таму раблю з яго толькі выпіскі, а сведчанні абодвух знойдзеных у Кітаі міжнародных энцыклапедый дадаю цалкам у перакладзе маёй жонкі Ксеніі Марозавай (таксама пры маёй рэдакцыі) з ангельскага тэксту Джона Вільямса[20], і з заменай яго кітайскіх назваў на еўрапейскія.

Спынімся крыху на тэрміналогіі.

Першую энцыклапедыю пры чытанні яе ідэаграфічнага загалоўка па-руску давялося б, як я ўжо паведамляў, назваць словам Летапіс; пры чытанні яе па-ангельску – Annals; пры чытанні на-лаціне – Chronica; пры чытанні па-пекінску – Шы-Цы, а пры чытанні па-англа-шанхайску – Шэ-кэ (лета-запіс).

Ідэаграфічны малявальны дэвіз аўтара другой энцыклапедыі па-руску вы прачытаеце «**Лясны конь**», па-нямецку – Waldpferd, па-пекінску – Ма-Гуань-Лінь і па-англа-шанхайску – Ма-Туан-Лін (Ma-Twan-Lin).

І, нарэшце, трэцці, знойдзены ў Кітаі летапіс, мае міжнародны ідэаграфічны загаловак, які чытаецца па-руску «Ўсё адбіваючае люстэрка», па-пекінску – Тун-Цзянь-Кан-Мух (пры гэтым канчатковае “**н**” усюды чытаецца як французкае працяглае, ці хутчэй як ангельскае ng), а па англа-шанхайску – Tung-Keen-Kang-Muh (Тун-Кін-Кан-Мух).

І ўвесь астатні іхны змест – яшчэ раз нагадаю – можна чытаць на якой заўгодна мове, таму што ён увесь напісаны не з дапамогай гукавага альфабэту, замацоўваючага мову аўтара, а ідэаграфічнымі маляванымі значкамі, якія падобна лічбам 1, 2, 3, 4, 5, 6, кожны можа прама без перакладу чытаць на сваёй роднай мове.

Аднак для таго, каб пазначыць, што яны былі знойдзены ў Кітаі, і я буду ўжываць, пры спасылках на іх, іхныя англа-шанхайскія назвы: Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, ці Туі-Кін-Кан-Мух.

Мера даўжыні каметных хвастоў, міжнародны значок якой чытаецца пекінцамі чых (chih), ужываемая старажытнымі кітайцамі, не цалкам вызначана. Згодна з Дж. Вільямсам гэта не градусная мера, а ўмоўная, крыху большая чым ангельскі фут. Яна названа тут **локцем**.

Чых складаецца із 10 цунаў (tsun), каля цалі, з дадаткам.

10 чыхаў складаюць чанг (chang).

Сузор'і ў кітайцаў не супадаюць з еўрапейскімі, якімі іх дае Альбрэхт Дзюрэр. Тут кітайскія пазначэнні перакладзены мной на Дюрэравы, згодна з дадзенымі мапамі (мал. 33, 34, 35 36, 37, 38, 39, 40, 41 і 42), дакладна гэтак жа, як і кітайскае злічэнне грунуючаяся на месяцовых месяцах пераведзена на юліянскае.

Тая акалічнасць, што ў большасьці выпадкаў аўтар «Лета-Запісу» (па англа-шанхайску Шэ-кэ) літаральна паўтарае запісы «Ляснога каня» (Ма-Туан-Лінь па англа-шанхайску), паказвае, што іхныя аўтары спісвалі адзін у аднаго, але хто ў каго, яшчэ не вызначана.

## РАЗДЗЕЛ I.

### Сумнеўныя каметы да пачатку нашай эры.

(Злічэнне гадоў астранамічнае (з мінусамі). Для пераходу да гістарычнага злічэння ўсе гады з мінусам патрэбна павялічыць на адзінку).

Мінус 610 г. ЧЭРВЕНЬ (Сонца ў Раку ці ў Ільве). Камета зайшла ў Вялікую Мядзьведзіцу (Ма-Туан-Лінь).

---

[20] John Williams – «Observations of Comets from B. C. 611 A. D. to 1640», extracted from the Chineses Annals. 1871.

–530 г. Зіма. Налева ад Антараса камета прайшла ў Млечны шлях (Ма-Туан-Лінь).

–515 г. Ліпень (Сонца ў Раку ці Ільве). Камета каля Н Геркулеса (Ма-Туан-Лінь.)

–501 г. Снежань (Сонца ў Стралку). Камета на ўсходзе (г.азн. дзе-небудзь у вобласьці Стралка, інакш была б бачнай і на поўдні). (Ма-Туан-Лінь.)

Адсутнасьць запісаў ад –500 да –239 года.

–239 (269) г. Травень (Сонца ў Цяляці ці ў Двайнятах). Камета на працягу 16 дзён. Спачатку на ўсходзе, потым на поўначы, потым на захадзе (Сонца было ў Двайнятах. Гэта азначае, яна з'явілася недзе на мерыдыяне Стралка і, прайшоўшы каля полюса адваротным рухам, прайшла да Двайнят). (Ма-Туан-Лінь.)

–237 г. Красавік (Сонца ў Авене ці ў Цяляці). Дзіўную зорку бачылі на поўдзень ад Вялікай Мядзьведзіцы на поўначы на працягу 80 дзён. Прыйшла туды з усходу (г.азн. адваротна).

–233 г. Студзень (Сонца ў Вадаліве). Камета з'явілася на ўсходзе. (Калі перад узыходам, то недзе ў вобласьці Скарпіёна). (Ма-Туан-Лінь.)

–232 г. Чатыры (хвасты?) каметы, распасьціраючыяся ад небасхілу, былі бачнымі на працягу 80 дзён (Ма-Туан-Лінь).

–213 г. Яскравая зорка з'явілася на ўсходзе (Ма-Туан-Лінь).

–203 г. Жнівень (Сонца ў Ільве ці Панне). Камета каля Арктура (Шэ-кэ).

–171 г. Без месяца. Хвастатая зорка з'явілася на ўсходзе (Шэ-кэ).

–156 г. Кастрычнік (Сонца ў Шалях ці ў Скарпіёне). Камета з'явілася на захадзе. Увесь час была ў вобласьці $\varepsilon$-$\mu$-$\nu$ Скарпіёна. Паказвала на $\beta$ і $\alpha$ Вадаліва і на $\theta$ і $\varepsilon$ Пегаса. Распасьціралася да Млечнага шляху, каля 10 чыхаў (локцяў) у даўжыню (Ма-Туан-Лінь).

–154 г. Ліпень (Сонца ў Раку). Камета з'явілася па паўночным усходзе (Шэ-кэ.)

–153 г. Студзень (Сонца ў Вадаліве ці Казярогу). Бачылі камету на паўднёвым захадзе (г.азн. каля Вадаліва ці Рыб). (Крыніца не пазначана).

–153 г. Люты (Сонца ў Рыбах). Хвастатая зорка была відаць на захадзе (Шэ-кэ).

–147 г. Травень (Сонца ў Цяляці ці Двайнятах). Камета на паўночным захадзе (Шэ-кэ).

–146 г. Сакавік 14 (Сонца ў Рыбах). Белая камета, на паўночным захадзе, 10 чыхаў (локцяў) даўжыні. Каля $\lambda$ Арыёна, была бачнай 15 дзён (Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь).

–146 г. Жнівень 6 (Сонца ў Ільве ці ў Панне). Белая камета на паўднёвым захадзе, у паўднёвай частцы вобласьці $\beta$-$\delta$-$\pi$-$\rho$ Скарпіёна. Калі пакідала яе, яна была 20 локцяў даўжынёй, шырынёй была як two-taw-карабель. 7 жніўня яна была на паўночным усходзе вобласьці Скарпіёна, паменшыўшыся ў даўжыню да 10 чыхаў, 8 жніўня была ў вобласьці $\varepsilon$-$\mu$-$\nu$ Скарпіёна. 11 жніўня прыйшла ў вобласць $\gamma$-$\delta$-$\varepsilon$ Стралка, да поўначы паблізу $\zeta$ Змеятрымальніка (Шэ-кэ).

–146 г. Кастрычнік (Сонца ў Шалях). Камета на паўночным захадзе. (Без пазначэння крыніцы.)

–137 г. Сакавік (Сонца ў Рыбах). У вобласьці $\kappa$-$\lambda$-$\mu$-$\nu$-$\varphi$ Гідры камета. Прайшла паміж Ільвом і Паннай у вобласць Кола вечнай бачнасьці, у Млечны шлях і ў Вялікую Мядзьведзіцу (Ма-Туан-Лінь).

–137 г. Травень (Сонца ў Цяляці). Каля θ Геркулеса, прайшла камета ў сузор'е Ліры (Ма-Туан-Лінь).

–137 г. Жнівень (Сонца ў Ільве). На паўночным усходзе камета. Без падрабязнасьцей (Ма-Туан-Лінь).

–136 г. Кастрычнік (Сонца ў Шалях) На паўночным усходзе камета. Без падрабязнасьцей (Ма-Туан-Лінь).

–134 г. Ліпень (Сонца ў Раку). На захадзе камета (г.азн. у вобласьці Панны) (Ма-Туан-Лінь).

–134 г. Верасень (Сонца ў Панне). Камета на ўсходзе на працягу 30 дзён, з хвастом папярок усяго неба (Ма-Туан-Лінь).

–133 г. Чэрвень (Сонца ў Двайнятах). Часовая зорка ў вобласьці β-δ-π Скарпіёна (Шэ-кэ).

–119 г. Вясной. На ўсходзе бачылі камету (Шэ-кэ).

–118 г. Травень (Сонца ў Цяляці). На паўночным захадзе бачылі камету (Ма-Туан-Лінь).

–109 г. Чэрвень (Сонца ў Двайнятах). Камета ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε-μ-ν Двайнят. Потым у нагах Вялікай Мядзьведзіцы (Тунг-Кін і Ма-Туан-Лінь).

–86 г. Жнівень (Сонца ў Ільве). На ўсходзе камета.

–83 г. Сакавік (Сонца ў Рыбах). На паўночным захадзе камета (Тунг-Кін).

–76 г. Верасень (Сонца ў Панне). Часовая зорка на Коле вечнай бачнасьці, паміж α Вялікай Мядзьведзіцы і Палярнай (Шэ-кэ).

–75 г. Травень (Сонца ў Цяляці). Паміж вобласьцю β-δ-ε Андрамеды, захапляючая і Рыб, і вобласцю α-β-γ Авена (Шэ-кэ).

–73 г. Сакавік (Сонца ў Рыбах). «Вялікая знічка», падобная на Месяц, і шмат зорак ішло за ёй да захаду (відаць – метэарыт) (Тунг-Кінь.)

–72 г. Травень 10 (Сонца ў Цяляці). Рана вечарам хвастатая зорка на ўсходняй частцы (α-β-γ-δ) Арыёна (Шэ-кэ).

–71 г. Жнівень 20 (Сонца ў Панне). Камета ў сузор'і Чаркі (Шэ-кэ).

–69 г. Жнівень 4 (Сонца ў Панне). Камета ў сузор'і Чаркі (Шэ-кэ).

–68 г. Люты ці студзень (Сонца ў Казярогу ці Вадаліве). На захадзе камета (Ма-Туан-Лінь).

–60 г. Ліпень (Сонца ў Раку). На ўсходзе камета (Шэ-кэ).

–48 г. Красавік (Сонца ў Авене). Дзіўная зорка да паўночнага ўсходу вобласьці β Касіяпеі, каля 9 локцяў даўжыні. Накірунак на захад. Прайшла паміж ν-ξ Касіяпеі і навакол вечнай бачнасьці (Шэ-кэ).

–47 г. Красавік (Сонца ў Авене). Дзіўная зорка блакітнавата-белага колеру, падобная на вялікую дыню, з'явілася ў вобласьці ζ-τ-σ Стралка (Шэ-кэ).

–43 г. Зімой? Чырвона-жоўтая камета на паўночным усходзе, васьмі чыхаў (локцяў) даўжынёй, дасягнуўшая праз некалькі дзён 10 чыхаў, паказваючы на вобласць α-β Арыёна. (Калі хвост паказваў на Арыёна, то Сонца было на процілеглым боку, г.азн. каля свайго зімовага становішча) (Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь).

–31 г. Люты (Сонца ў Вадаліве). Камета ў вобласьці α Пегаса, блакітнавата-белая, ад 60 да 70 чыхаў даўжыні і да чыху ў шырыню (Ма-Туан-Лінь).

–11 г. Жнівень 26 (Сонца ў Панне). Камета ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε-λ-μ, Двайнят. Яна ішла да вобласьці θ-ν-τ Двайнят, прайшла да поўначы α-β Двайнят, а потым да вобласьці α-γ-η Ільва і паміж Ільвом і Паннай, праходзячы потым каля 6 градусаў за суткі. Яна была бачнай раніцай на ўсходзе, але на 13 дзень вечарам з'явілася на захадзе, прайшла праз вобласць ζ-μ-η Ільва, накіравалася

ў Кола Вечнай Бачнасьці, прайшла праз Млечны Шлях, павярнула да ўсходу, прайшла праз вобласць Арктура і праз Ногі Валапаса, зайшла ў прастору зорак Змея і заставалася тут да канца месяца. Яна павольна рухалася да сярэдзіны гэтай вобласьці і потым пакінула яе на захадзе. На 56 дзень яна заходзіла разам з вобласьцю Шаляў, Скарпіёна і Стралка (Ма-Туан-Лінь).

Гэтае паведамленне лічыцца першым апісаннем з'яўлення каметы Галея, але яно вельмі сумнеўнае.

–4 г. Сакавік 5 (Сонца ў Рыбах). Камета ў вобласьці α-β Казярога, заставаўшаяся каля 70 дзён (Ма-Туан-Лінь).

–3 г. Красавік (Сонца ў Авене). Камета ў вобласьці α-β-γ Арла (Тунг-Кін).

## РАЗДЗЕЛ II.

### Каметы да 616 года нашай эры.

13 г. Снежань (Сонца ў Стралку). Была камета. (Шэ-кэ.)

22 г. Лістапад (Сонца ў Скарпіёне). Камета ў вобласьці κ-λ-μ Гідры. (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

39 г. Сакавік 13 – красавік 30 (Сонца ў Рыбах ці Авене). Камета ў вобласьці Пляяд. Сьветлая, 30 чыхаў (локцяў) даўжыні, шырокая, разгаліноўваючаяся як дрэва. Ішла на паўночны захад. Зайшла ў вобласць α Пегаса і потым у вобласць λ-μ, η-ο і ν-τ. На 30 красавіка зайшла ва ўсходнюю частку вобласьці γ Пегаса і α Андрамеды і знікла на 49 дзень бачнасьці. (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь.)

55 г. Чэрвень 4 (Сонца ў Двайнятах). Калі Меркурый быў каля 20°, на ўсходняй часцячы вобласьці γ-φ-μ-ν Двайнят з'явіўся белы пар, паказваючы на паўднёвы ўсход. Гэта выявілася камета, сьветлая, 10 локцяў даўжыні. Пайшла на паўночны ўсход, каля заходняй мяжы вобласьці Кола Вечнай Бачнасьці, дзе і знікла. Была бачнайй 31 дзень. (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

60 г. Жнівень 9 (Сонца ў Ільве). Камета да поўначы ад α і γ Пярсея, у два локці даўжынёй. Ішла да поўначы і зайшла ў паўднёвую частку вобласьці ι-κ-λ-θ Панны. Была бачнайй 185 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

61 г. Верасень 27 (Сонца ў Панне). Дзіўная зорка з'явілася на паўночным захадзе ад δ Боатэса, паказвала на Паўночную карону. Была бачнайй 70 дзён. (Шэ-кэ).

65 г. Чэрвень 4 (Сонца ў Двайнятах). Камета з'явілася на 37° у вобласьці δ-ε Гідры. Зайшла ў вобласць α-γ-ε-η Вялікага і Малога Ільвоў, прайшла праз α-γ-δ Пярсея. Прайшла паміж Ільвом і Паннай. Яе пар (хвост) распасьціраўся ў зоркі Панны. Яна была бачнайй 56 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

66 г. Люты 20 (Сонца ў Рыбах). Дзіўная зорка з'явілася ў вобласьці α-β і інш. Казярога, 8 локцяў у даўжыню, прайшла праз вобласць ν-ξ-ο Стралка. Потым на поўдзень ад β-δ-π Скарпіёна і знікла. Была бачнайй 50 дзён (Шэ-кэ). Лічыцца за першае з'яўленне каметы Галея пасьля пачатку нашай эры, але гэта сумнеўна.

71 г. Сакавік 6 (Сонца ў Рыбах). Дзіўная зорка з'явілася ў вобласьці Пляяд. Прайшла ў вобласьці α-γ-ε-η Ільва і знікла направа ад вобласьці α-ζ Панны. Была бачнайй 60 дзён (Шэ-кэ).

75 г. Ліпень 14 (Сонца ў Раку). З'явілася камета ў вобласьці α-λ-μ Гідры 3 локці ў даўжыню. Павярнуўшыся, пайшла ў Валасы Веранікі. Прайшла на поўдзень ад вобласьці Ільва і Панны (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

76 г. Жнівень 9 (Сонца ў Ільве). З'явілася камета ў Змеі, тры локці ў даўжыню. Павольна прайшла ў трэццім градусе вобласьці α і β Казярога. Знікала паступова праз 40 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

77 г. Студзень 23 (Сонца ў Казярогу). З'явілася камета ў трэццім градусе вобласьці α-β-γ Авена, ад 8 да 9 локцяў даўжыні. Павольна зайшла ў сярэдзіну Кола Вечнай Бачнасьці. Паступова знікла праз 106 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

84 г. Травень 25 (Сонца ў Цяляці). Незвычайная зорка з'явілася раніцай на світанні на васямнаццатым градусе вобласьці Мухі, тры локці даўжынёй. Прайшла па-над вобласьцю ξ-ξ-ο-π Касіяпеі. Зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці. Знікла на 40-ы дзень (Шэ-кэ).

102 г. Студзень 7 (Сонца ў Казярогу). Быў бачны зяленавата-белы пар каля 30 локцяў даўжынёй ад вобласьці η-κ-χ-φ Эрыдана, паказваючы на β Вялікага Сабакі. Была бачнайй 10 дзён (Шэ-кэ).

110 г. Студзень (Сонца ў Казярогу). Была бачнайй камета на поўдзень ад вобласьці γ-δ-ε Эрыдана, паказваючы на паўночны ўсход. Была ад 6 да 7 локцяў даўжынёй, зяленавата-белага колеру (Ма-Туан-Лінь).

131 г. (Згодна з Біо 132 г.) Камета з'явілася ў вобласьці δ-τ-σ Стралка і ў вобласьці α Казярога. Знікла ў вобласьці α Вадаліва і γ Пегаса (Ма-Туан-Лінь).

141 г. Сакавік 7 (Сонца ў Рыбах), З'явілася камета на захадзе, ад 6 да 7 локцяў даўжыні, блакітнавата-белага колеру, паказвала да паўднёвага захаду вобласьці α-β Пегаса. Распасьціралсе да зорак γ-η-π Вадаліва. 16 красавіка была на 1° вобласьці β-δ-ε Андрамеды і Рыб, даўжынёй каля 6 локцяў. 22 Красавіка яе бачылі раніцай на паўночным захадзе. Яна прайшла ў вобласьці Пляяд і γ-δ-μ-ν Двайнят, і прайшла праз β-δ-ε Андрамеды і Рыб, δ-ε Гідры і праз 7 зорак у вобласьці α-λ-μ Гідры. Была вельмі яскравая і распасьціралася да вобласьці San-Tae у нагах Вялікай Мядзьведзіцы. Прайшла ў сярэдзіну вобласьці α Ільва і знікла (Шэ-кэ).

Лічыцца за другое з'яўленне каметы Галея пасьля пачатку нашай эры. Але гэта сумнеўна. Згодна з Ма-Туан-Лінь такая камета з'явілася на дзесяць гадоў раней, у 131 годзе, 20 сакавіка, і была бачнайй да 16 красавіка, але і без гэтай супярэчнасьці няма дастатковых доказаў.

147-149 г. Кастрычнік 19 (Сонца ў Шалях). Яскравая камета, пяці локцяў даўжынёй. Была бачнай пасярэдзіне вобласьці аточанай Змеем, на паўднёвым усходзе, жаўтавата-белага колеру. Знікла 22 кастрычніка (Тэ-Кэ). У Ма-Туан-Лінь гэта было двума гадамі раней (а згодна з Любянецкім у 146 годзе).

161 г. Чэрвень 14 (Сонца ў Двайнятах). Дзіўная зорка была бачнай у вобласьці α Пегаса. Яна ішла павольна, яе хвост даходзіў да пяці локцяў даўжыні. Яна прайшла на 1° вобласьці α-σ-τ Скарпіёна (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

178 г. Верасень (Сонца ў Панне). З'явілася камета, чырванаватага колеру, на поўначы вобласьці ν-κ-λ-θ Панны. Прайшла ў сярэдзіну вобласьці Змея. Была ў локаць даўжынёй, але паступова павялічвалася ў даўжыні, пакуль не дайшла да 50-60 локцяў. Была бачнай каля 80 дзён і знікла пасярэдзіне вобласьці γ-δ-ε Эрыдана (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

180 г. З'явілася камета на ўсходзе вобласьці Вялікага Сабакі. Зайшла ў вобласць κ-λ-μ Гідры і знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

182 г. Жнівень (Сонца ў Ільве). З'явілася камета пад нагамі Вялікай Мядзьведзіцы, ідучы на ўсход. Прайшла паміж Паннай і Ільвом. Абмінула Вялікага

Ільва і Валасы Веранікі. Знікла праз 20 дзён (Шэ-кэ). Згодна з Ма-Туан-Лінь гэта было ў 181 годзе.

185 г. Снежань 7 (Сонца ў Стралку). Дзіўная зорка з'явілася ў сярэдзіне вобласьці α Цэнтаўра, падобна вялікай бамбуковай цыноўцы, выявіла шмат колераў як прыгожых, так і брыдкіх. Паступова слабела і ў наступным годзе знікла ў ліпені (Шэ-кэ).

Згодна з Біо яна з'явілася 10 снежня 173 года, але ў Шэ-кэ няма каметы адпавядаючай яго камеце. А ў Ма-Туан-Лінь няма каметы адпавядаючай ні 173, ні 185 году.

188 г. Сакавік (Сонца ў Рыбах). З'явілася камета ў вобласьці β-δ-ε Андрамеды і Рыб. Яна ішла адваротным шляхам у Кола Вечнай Бачнасьці і знікла праз 60 дзён (Шэ-кэ).

188 г. Ліпень 29 (Сонца ў Ільве). Дзіўная зорка роўная тром шынгам (шынг – мера, утрымліваючая 420 тысяч прасяных зернятак) з'явілася ў Паўночнай кароне і накіравалася на паўднёвы захад. Зайшла ў вобласць Змея і ў вобласць ε-μ-ν Скарпіёна (Шэ-кэ).

Біо дапасуе яе да 30 чэрвеня 182 года.

192 г. Кастрычнік (Сонца ў Шалях). Бачылі камету каля 100 локцяў даўжыні, белага колеру, на поўдзень ад вобласьці α Панны і вобласьці ι-κ-λ-μ-ρ той жа Панны (Ма-Туан-Лінь).

193 г. Лістапад (Сонца ў Скарпіёне). З'явілася камета паміж α Панны і Арктурам. Пайшла на паўночны ўсход, зайшла пасярэдзіне ў вобласць Змея, і знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь.)

200 г. Лістапад 7 (Сонца ў Скарпіёне). Была камета ў Та-Лінг (невядома дзе). (Ма-Туан-Лінь).

204 г. Снежань (Сонца ў Стралку). З'явілася камета ва ўсходняй частцы вобласьці δ-ε-λ Двайнят, каля γ-δ-η-θ Рака. Зайшла ў вобласць? Ільва, да Малога Ільва і ў вобласць Панны (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

206 г. Люты (Сонца ў Вадаліве). Была камета ў Вялікай Мядзьведзіцы, з галавой на яе сярэдзіне. Яе бачылі потым у вобласьці ε-(μ?)-ν Скарпіёна і відаць у Паўночнай Кароне, у Коле Вечнай Бачнасьці, а раніцай яна ішла на поўнач (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

207 г. Лістапад 10 (Сонца ў Скарпіёне). Была камета ў Панне (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь.)

213 г. Студзень (Сонца ў Казярогу). Была камета ў вобласьці θ-ι-ν-τ-φ Двайнят (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). (Не праўдападобна).

218 г. Красавік (Сонца ў Авене). Бачылі камету раніцай на ўсходзе каля 20 дзён. Вечарам яна з'явілася на захадзе. Яна прайшла праз вобласць α-β-ο-κ Возніка і β Цяляці ва ўсходнюю частку вобласьці δ-ε-λ Двайнят, вобласць θ-ι-γ-τ-φ Двайнят, вобласць θ-φ-ν Вялікай Мядзьведзіцы, вобласць α Ільвоў і вобласць паміж Ільвом і Паннай. Яна была завостранай і яркравай. Ішла да α Геркулеса (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

Лічыцца за трэццяе (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

222 г. Лістапад 4 (Сонца ў Скарпіёне). Дзіўную зорку бачылі паміж Ільвом і Паннай, налева паміж β і η Панны (Шэ-кэ.)

225 г. Снежань 9 (Сонца ў Стралку). Была камета паміж Ільвом і Паннай. Прайшла праз вобласць α Ілвоў (Ма-Туан-Лінь).

232 г. Снежань 4 (Сонца ў Стралку). Была камета ў вобласьці α Чаркі, каля γ Панны (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

236 г. Лістапад 30 (Сонца ў Стралку). Была камета каля Палярнай зоркі, у тры локці даўжынёй. 1 снежня яна была на ўсходзе, 20 студзеня прайшла каля зорак галавы Афівуха і θ Геркулеса (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

238 г. Верасень (Сонца ў Панне). Бачылі камету ў вобласьці κ-λ-μ Гідры, роўную тром локцям у даўжыню. Ішла накіравай назад да захаду і знікла на 41 дзень (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

238 г. Лістапад 29 (Сонца ў Стралку). Дзіўная зорка была бачна ў вобласьці α Вадаліва і α-θ Пегаса. Ішла адваротным шляхам на поўнач ад α і β Пегаса, потым побач з зоркамі на поўдзень ад Лебедзя, Яшчаркі і Андрамеды. 10 снежня яна была каля зорак галавы Вала Панятоўскага. 15 снежня знікла (Шэ-кэ).

240 г. Лістапад 5 (Сонца ў Скарпіёне). Камета была бачнай на захадзе ў вобласьці ε-μ-ν Скарпіёна, роўная 20 локцяў даўжыні. Прайшла праз вобласць ζ-τ-ς Стралка каля Венеры. 14 снежня зайшла ў вобласць δ-τ-χ Вадаліва і Рыб (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

245 г. Верасень 18 (Сонца ў Панне). Бачылі камету паміж сямю зоркамі ў вобласці α Гідры, роўную два локці даўжынёй, белага колеру. Прайшла ў вобласьці κ-λ-μ Гідры і пасьля 23 дзён знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

247 г. Студзень 16 (Сонца ў Казярогу). Бачылі камету ў вобласьці β Крумкача, роўную аднаму лакцю даўжынёй, знікшую праз 156 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Згодна з Ма-Туан-Лінь яна была бачнай толькі 56 дзён, што больш верагодна.

248 г. Красавік. (Сонца ў Авене). Бачылі (відаць, камету) у вобласьці Пляяд, роўную 6 локцяў даўжыні, блакітнавата-белую, з хвастом паказваючым на паўднёвы захад. У жніўні яе (??) бачылі ў Чарцы, каля двух локцяў даўжыні. Прайшла ў Крумкача і пасьля 42 дзён знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). (Дзьве пазнакі?)

251 г. Снежань 21 (Сонца ў Стралку). Бачылі камету ў вобласьці α-β Пегаса. Яна ішла на захад і знікла праз 90 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

252 г. Сакавік 25 (Сонца ў Авене). Бачылі камету на захадзе каля Мухі, ад 50 да 60 локцяў даўжыні, белага колеру. Хвост паказваў на поўдзень, праходзячы праз вобласць α-β Арыёна. Знікла праз 20 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

253 г. Снежань (Сонца ў Стралку). Бачылі камету ў Крумкачы, 50 локцяў даўжыні. Яна была паміж Ільвом і Паннай, налева ад η Панны, паказвала на паўднёвы ўсход і знікла праз 190 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

255 г. Люты (Сонца ў Вадаліве). Была камета каля ε-ζ Арла да паўночнага захаду, на небасхіле (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

257 г. Снежань (Сонца ў Стралку). Бачылі камету каля α Панны, белага колеру (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

259 г. Лістапад 23 (Сонца ў Скарпіёне). Дзіўная зорка была бачнай пасярэдзіне паміж Ільвом і Паннай. Яна павярнулася і накіравалася на паўднёвы ўсход, прайшла каля β Крумкача і знікла праз 7 дзён (Шэ-кэ).

262 г. Снежань 2 (Сонца ў Стралку). Бачылі камету ў вобласьці ι-κ-λ-θ Панны, белага колеру, роўную палове локця даўжынёй. Яна ішла на поўнач і знікла пасьля 45 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

265 г. Чэрвень (Сонца ў Двайнятах). Бачылі камету ў вобласьці α-β-η-κ Касіяпеі, каля дзесяці локцяў даўжыні белага колеру. Паказвала на паўднёвы ўсход, знікла праз 12 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

268 г. Люты 18 (Сонца ў Вадаліве). Бачылі камету каля β Крумкача, блакітнавата-белую. Ішла на паўночны захад, але потым павярнулася і пайшла на ўсход (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

275 г. Студзень (Сонца ў Казярогу). Была камета каля β Крумкача.

276 г. Чэрвень 24 (Сонца ў Двайнятах). Была камета ў Шалях, у ліпені была паблізу Арктура, потым каля Вялікай Мядзьведзіцы. Прайшла каля α Чаркі таксама ў Вялікую Мядзьведзіцу і да зорак каля яе ног (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

277 г. Люты (Сонца ў Вадаліве). Была камета на захадзе. У красавіку была ў сузор’і Муха. У траўні – каля π Ільва. У чэрвені была на ўсходзе. У жніўні – у Коле Вечнай Бачнасьці (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

279 г. Красавік (Сонца ў Авене). Была камета ў вобласьці δ-ε Гідры. У траўні была каля π Ільва. У жніўні ў Коле Вечнай Бачнасьці (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь) (тая ж, што і ў 277 г.). Патрэбна звярнуць увагу на падабенства з папярэднічаўшай каметай.

281 г. Верасень (Сонца ў Панне). Была камета ў вобласьці Гідры.

281 г. Снежань (Сонца ў Стралку). Была камета ў вобласьці Ільва, каля α Ільва (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). (Не праўдападобна.)

283 г. Красавіка 22 (Сонца ў Авене). Была камета на паўднёвым захадзе (вечарам) (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

287 г. Верасень (Сонца ў Панне). Была камета ў вобласьці ζ-τ-σ Стралка. Знікла праз 10 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

290 г. Травень (Сонца ў Цяляці). Дзіўная зорка ў Коле Вечнай Бачнасьці (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

Патрэбна звярнуць увагу на падабенства апісання абодвух летапісаў, што паказвае на тое, што адзін перапісаны з другога.

296 г. Травень (Сонца ў Цяляці). Была камета ў вобласьці β-δ-ε Андрамеды і Рыб. Прайшла праз Вялікага і Малога Ільва і Панну. Яна перасекла зоркі ў нагах Вялікай Мядзьведзіцы і зоркі каля γ Пярсея (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

Лічыцца за чацвёртае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры. У Блажко паказана 295 г. Красавік.

300 г. Красавік (Сонца ў Авене). Дзіўную зорку бачылі на поўдні (напэўна, метэор) (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

301 г. Студзень (Сонца ў Казярогу). З'явілася камета на ўсход ад вобласьці α-β Казярога (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

301 г. Травень (Сонца ў Цяляці). Бачылі камету каля Геркулеса (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

302 г. Травень (Сонца ў Цяляці). Бачылі камету днём (відавочна, метэор) (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

303 г. Красавік (Сонца ў Авене). Бачылі камету на ўсходзе, паказваючую на ногі Вялікай Мядзьведзіцы (таксама, напэўна, метэор) (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

304 г. Травень (Сонца ў Цяляці). Дзіўная зорка была ў вобласьці α-γ-δ Цяляці (Шэ-кэ).

305 г. Верасень (Сонца ў Панне). Была камета ў вобласьці Пляяд і α-γ-δ-ε Цяляці (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

305 г. Лістапад 21 (Сонца ў Скарпіёне). Была камета ў Вялікай Мядзьведзіцы, каля γ (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

329 г. Жнівень (Сонца ў Ільве). Была камета па паўночным захадзе. Зайшла ў вобласць ζ-τ-σ-φ Стралка. Знікла праз 23 дні (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

336 г. Люты 16 (Сонца ў Вадаліве). Бачылі камету вечарам на захадзе, у вобласьці β-δ-ε Андрамеды і Рыб (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

340 г. Сакавік 5 (Сонца ў Рыбах). Была камета паміж Ільвом і Паннай (насупраць Сонца!) (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

343 г. Снежань 8 (Сонца ў Стралку). Бачылі камету ў вобласьці ι-κ-λ-θ Панны, потым раніцай яна прайшла праз Ясьлі і Ільва. Даўжыня роўная сем локцяў, белага колеру (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

349 г. Лістапад 23 (Сонца ў Скарпіёне). Бачылі камету ў вобласьці ι-κ-λ-θ Панны, яскравую, накіроўваючуяся на захад, белага колеру, роўную дзесяць локцяў даўжыні. 13 лютага 350 года яна была яшчэ бачнай тут жа (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

358 г. Ліпень 1 (Сонца ў Раку). Бачылі камету ў вобласьці γ-η Пярсея і ў сузор'і Муха (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

363 г. Жнівень (Сонца ў Ільве). Была камета ў вобласьці α Панны і ў вобласьці ι-κ-λ-θ Панны. Зайшла ў прастору, абмежаваную Змеем (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

369 г. Сакавік (Сонца ў Рыбах). (Роўна праз год пасьля слупавання евангельскага Хрыста.) Дзіўную зорку бачылі ў Коле Вечнай Бачнасьці, каля яго заходняй мяжы. Яна знікла праз пяць месяцаў (Шэ-кэ).

373 г. Сакавік 9 (Сонца ў Рыбах). Была камета ў ε-μ Вадаліва, у вобласьці β Вадаліва, у вобласьці α-β Шаляў, у вобласьці ι-κ-λ-θ Панны, у вобласьці α і ξ Панны, у Крумкачы, у Чарцы і ў вобласьці κ-λ-μ Гідры, 7 красавіка яна была ў вобласьці Шаляў. 25 верасня (Сонца ў Панне) камета была ў вобласьці абмежаванай Змеем (Ма-Туан-Лінь). Згодна з Шэ-кэ яна была ў лютым і сакавіку 374 г. Лічыцца за пятае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры, але ці не з'яўляецца яно першым пасьля ўзнікнення гэтай каметы?

386 г. Красавік (Сонца ў Авене). Была камета ў вобласьці λ-μ-φ-σ Стралка. Была бачнай да ліпеня і знікла. (Згодна з еўрапейскімі крыніцамі гэта была часовая зорка паміж λ і φ Стралка). (Шэ-кэ.)

390 г. Жнівень 22. (Сонца пераходзіла з Ільва ў Панну). Была камета ў вобласьці α-β Двайнят. Перасекла прастору паміж Ільвом і Паннай, зоркі каля ног Вялікай Мядзьведзіцы, вобласць θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы. Зайшла ў прастору яе сямі зорак. Яна была белага колеру, каля 100 локцяў даўжыні. 11 верасня зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці і знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

393 г. Сакавік-Кастрычнік (Сонца ў Рыбах і ішло да Шаляў). Дзіўная зорка з'явілася ў сярэдзіне вобласьці α-τ Гідры. Знікла ў кастрычніку (Шэ-кэ).

400 г. Сакавік 19 (Сонца з Рыб перайшло ў Авена). Была камета ў вобласьці β-δ-ε Андрамеды і Рыб, больш 50 локцяў даўжыні. Яна была над вобласьцю δ-ε Касіяпеі, на заходняй частцы Кола Вечнай Бачнасьці. Зайшла ў сем зорак Вялікай Мядзьведзіцы, прайшла зоркі каля яе ног. У красавіку зайшла ў прастору паміж Ільвом і Паннай, у прастору каля β Ільва і відаць паміж β-η Панны (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

401 г. Студзень 2 (Сонца ў Казярогу). Была камета ў Паўночным Вянку, у вобласьці абмежаванай Змеем, і ў вобласьці α-β-ρ Лебедзя.

402 г. Лістапад 12 (Сонца ў Скарпіёне і Змеятрымальніку). З'явілася дзіўная зорка белага колеру, падобная на жменю мукі, на захадзе прасторы паміж Ільвом і Паннай. Знікла ў студзені 403 года (Шэ-кэ).

415 г. Чэрвень 24 (Сонца паміж Двайнятамі і Ракам). Дзьве каметы з'явіліся ў прасторы, абмежаванай Змеем і α Геркулеса. Былі на поўначы прасторы β-δ Скарпіёна і вобласьці α-σ-τ Скарпіёна (гэта павінна было быць паўночнае ззянне) (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

416 г. Студзень 26 (Сонца ў Вадаліве). Бачылі камету на паўднёвым захадзе (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, дынастыя Chin).

416 г. Чэрвень 27 (Сонца ў Двайнятах). Бачылі дзьве каметы (Ма-Туан-Лінь. Дынастыя How-Wei).

418 г. Верасень 15 (Сонца ў Панне). Была камета ў Вялікай Мядзьведзіцы каля яе сярэдзіны. 15 верасня яна з'явілася ў вобласьці паміж Ільвам і Паннай. Яна была яскравая, паступова павялічвалася, пакуль не дасягнула 100 локцяў даўжыні. На сваім шляху яна засланіла зоркі Вялікай Мядзведзіцы, Кола Вечнай Бачнасьці і вобласць λ-μ Вялікай Мядзведзіцы (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

419 г. Люты 7 (Сонца ў Вадаліве). Была камета ў заходняй частцы вобласьці паміж Ільвом і Паннай (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

422 г. Сакавік 21 (Сонца ў Рыбах). Бачылі камету ў вобласьці β Вадаліва, у вобласьці α Вадаліва і θ-ε Пегаса (ранняя дынастыя Sung).

422 г. Снежань 17 (Сонца ў Стралку). Была камета ў вобласьці α Пегаса (ранняя дынастыя Sung).

423 г. Люты 13 (Сонца ў Вадаліве). Была камета ва ўсходняй частцы вобласьці паміж γ Пярсея і α Андрамеды (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, ранняя дынастыя Sung).

423 г. Кастрычнік 15 (Сонца ў Шалях). Была камета ў Шалях. (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, рапняя дынастыя Sung).

442 г. Лістапад 1 (Сонца ў Змеятрымальніку). Дзіўная зорка ў Вялікай Мядзьведзіцы. Яна зрабілася каметай і зайшла ў вобласць θ-φ-υ Вялікай Мядзьведзіцы. Зайшла ў Паўночную Карону, у вобласць α-β-θ-κ Возніка і β Цяляці. Засланіла вобласць α-γ-δ Цяляці. Прайшла каля зорак π і ρ Цяляці, каля Гіяд. Перасекла вобласць γ-δ-ε Эрыдана. Знікла зімой (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, ранняя дынастыя Sung).

449 г. Лістапад 11 (Сонца ў Скарпіёне). Бачылі камету паміж Ільвом і Паннай (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, ранняя дынастыя Sung).

451 г. Травень 17 (Сонца ў Цяляці). Бачылі камету каля Пляяд. 13 ліпеня яна была паміж Ільвом і Паннай, над β Ільва (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, ранняя дынастыя Sung). Згодна з Шэ-кэ гэта было 10 чэрвеня. Лічыцца за шостае (ці не другое?) з'яўленне каметы Галея.

501 г. Люты 13 (Сонца ў Вадаліве). Хвастатая зорка была бачнай на небасхіле (Ма-Туан-Лінь. Дынастыя 479-501).

501 г. Красавік 14 (Сонца ў Авене). Была бачнай камета на гарызонце (Ма-Туан-Лінь. Дынастыя 479-501).

532 г. Студзень 6 (?) (Сонца ў Казярогу). Бачылі хвастатую зорку (гэта верагодна III камета 1862 года з перыядам 121 год, распаўшаяся збольшага на метэарыты). (Дынастыя Leang). Лічыцца за сёмае з'яўленне каметы Галея, але яна павінна была б быць у 530 годзе.

539 г. Лістапад 17 (Сонца ў Скарпіёне). З'явілася камета ў вобласьці ζ-τ-σ Стралка, роўная лакцю даўжыні, паказваючая на паўднёвы ўсход. Яна паступова вырасла да 10 локцяў даўжыні. 1 снежня зайшла ў Авена, каля α-β-γ (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, дынастыя Leang).

560 г. Кастрычнік 4 (Сонца ў Шалях). Бачылі камету роўную чатыром лакцям даўжыні. Яе хвост паказваў на паўднёвы захад (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, дынастыя Chin).

561 г. Верасень 26 (Сонца ў Панне). Незвычайная зорка назіралася каля α Чары (Шэ-кэ, дынастыя How Chow).

565 г. (?) Красавік 21 (Сонца ў Авене). Бачылі камету (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, дынастыя Pih-Tse). Запіс сумнеўны.

565 г. Ліпень 24 (Сонца ў Раку. Гэта тая ж, што вышэй). Бачылі камету ў вобласьці θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы, каля $^{1}/_{10}$ локця даўжыні. Прайшла над Валасамі Веранікі і потым перасекла Кола Вечнай Бачнасьці на заходняй мяжы, паступова дасягнуўшы 10 локцяў даўжыні. Паказвала на вобласць α Пегаса, на вобласць γ Пегаса і α Андрамеды. Дзён праз 100 зайшла ў вобласць β Вадаліва і ў вобласць паміж α Вадаліва, θ-ε Пегаса і знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

565 г. Ліпень 22 (Сонца ў Раку). З'явілася камета каля ног Вялікай Мядзьведзіцы. Яна зайшла ў вобласць θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы і ў Валасы Веранікі. Потым перасекла паўднёвую мяжу Кола Вечнай Бачнасьці, зайшла ў вобласць α Вадаліва і θ-ε Пегаса, паступова павялічыўшыся да дзесяці локцяў даўжыні. Яна паказвала на вобласць α-β Пегаса і на вобласць α Цяляці. Дзён праз 100 паступова паменшылася да $2^{1}/_{2}$ локцяў у даўжыню, дайшла да вобласьці β Пегаса і α Вадаліва, і θ-ε Пегаса, і потым знікла (Ма-Туан-Лінь, дынастыя How Chow). Відавочна, гэтая камета – тая ж, што і вышэйпрыведзеная для гэтага года.

565 г. Ліпень 23 (Сонца ў Раку). Была камета роўная дзесяць локцяў даўжыні ў вобласьці ι-κ Вялікай Мядзьведзіцы (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, дынастыя Chin).

568 г. Ліпень (Сонца ў Раку). Бачылі камету ў вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, дынастыя Chin(?)).

568 г. Жнівень 3 (Сонца ў Ільве). Бачылі камету (Ма-Туан-Лінь).

568 г. Жнівень, верасень, кастрычнік (Сонца ў Ільве, Панне і Шалях). (Гэта тая ж, што і вышэй). У жніўні бачылі камету каля Шаляў, у вобласьці β-δ-π-ρ Скарпіёна і ў вобласьці α-σ-τ Скарпіёна. Яна была белая, як мука ці шаўковыя ачэскі, і вялікая, як звязак ачэскаў. Ішла на ўсход. У верасні зайшла ў вобласць, аточаную Змеем. Паступова выцягнулася да 40 локцяў. Яе форма была падобнай на дыню. Яна прайшла праз вобласць β Вадаліва і вобласць α Вадаліва і θ-ε Пегаса. Зайшла ў вобласць α-β Пегаса. Прайшла над вобласцю λ-μ-η-ο-ν-τ Пегаса. У кастрычніку яна зайшла ў вобласць β-δ-ε Андрамеды і Рыб, потым прайшла ў вобласць α-β-γ Авена і потым знікла (каля сузор'я Пярсея) (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Гэта вечаровыя з'яўленні каметы Мані-Факел-Фарэс, а ранішнія апісаны 21 ліпеня 558 года так:

568 г. Ліпень 21 (Сонца ў Раку). Бачылі камету ва ўсходняй частцы вобласьці γ-δ-λ-μ Двайнят, роўную дзесяць локцяў даўжыні, белага колеру ў верхняй частцы і чырванаватую знізу. Яна заканчвалася лязом. Яна паступова ішла на ўсход, 19 жніўня прайшла на поўнач ад вобласьці γ-δ-ε-θ Рака. Была $^{4}/_{5}$ локцяў даўжыні. Потым, у жніўні (калі Сонца перайшло ў Панну) знікла за Сонцам (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Відавочна, што гэта тая ж камета, якая апісана і пад 565 годам некалькі разоў. Гэтая камета зрабіла незвычайна доўгі шлях. Выйдучы ад Шаляў у той час,

калі Сонца знаходзілася ў Ільве, яна прыйшла, абыйшоўшы палову неба, да ног Пярсея, калі Сонца, пройшоўшы праз Шалі, падыходзіла да Змеятрымальніка – Вымерніка Неба. Усё гэта ўяўляе ў дакладнасьці тое, што апісана ў лягендзе пра прарока Данііла, дзе палаючая рука намалявала надпіс: «Шалі, Вымернік, да Пярсея». Цікава, што ў гэты самы час у «Персіі» валадарыў Хазрой I Вялікі (531-579 г.), які заваяваў, – кажуць нам, – Асірыю і Вавілонію, г.азн. якраз тыя месцы, дзе адбываліся падзеі легенды пра Данііла. I сам Валтасар, – згодна з клінапіснымі надпісамі Бел-Сар-Усур, – лічыўся апошнім царом у Вавілоніі, але яго дапасуюць да VI стагоддзя да нашай эры, амаль на столькі ж ад яе пачатку, наколькі мела месца падзея пасьля яго.

574 г. Красавіка 4 (Сонца ў Авене). Дзіўная зорка, падобная на вялікі персік, блакітнавата-белага колеру, з'явілася ў Woo-Chay на паўднёвым усходзе, роўная тром лакцям даўжыні. Яна павольна ішла на ўсход, пакуль не павялічылася (?) да двух локцяў даўжыні. 8 траўня зайшла ў вобласць θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы. 23 траўня зайшла ў сярэдзіну чатырохкутніка Вялікай Мядзьведзіцы. Потым пакінула яго і паступова памяншалася. Была бачнай 93 дні (Шэ-кэ, дынастыя How Chow).

574 г. Травень 31 (Сонца ў Двайнятах). Была камета ў вобласьці Кола Вечнай Бачнасьці, вялікая, як чалавечы кулак, чырванавата-белая, паказвала на вобласць β Ільва, павольна рухаючыся да паўднёвага ўсходу. Яе даўжыня была 15 локцяў. 9 чэрвеня яна прайшла на поўнач ад ι-κ Вялікай Мядзьведзіцы і знікла (Ма-Туан-Лінь. Дынастыя How Chow. Згодна з Шэ-кэ яна была пазьней).

575 г. Красавіка 26 (Сонца ў Авене). Была камета каля Арктура (дынастыя Chin).

588 г. Лістапад 22 (Сонца ў Скарпіёне). Была камета ў вобласьці α-β Казярога (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, дынастыя Suy).

594 г. Лістапад 10 (Сонца ў Скарпіёне). Была камета ў вобласьці β Вадаліва і ў вобласьці α Вадаліва і θ-ε Пегаса. Яна распасьціралася ў вобласць β-δ-ε Андрамеды і Рыб і ў вобласць α-β-γ Авена (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь, дынастыя Suy).

607 г. Сакавік 13 (Сонца ў Рыбах). Бачылі камету ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят і ў вобласьці θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы. Яна прайшла праз вобласць τ Пярсея ў вобласць α-β-θ-χ Возніка і β Цяляці і ў вобласць α-β Двайнят. Зайшла ў прастору паміж Ільвом і Паннай і засланіла вобласць каля β Ільва і знікла дзён праз 100 (Ма-Туан-Лінь, Дынастыя Suy).

607 г. Красавік (Сонца ў Авене). Бачылі хвастатую зорку на заходнім небасхіле. Яна прайшла праз вобласць α-δ-θ Андрамеды і Рыб, праз вобласць α-β-γ Авена ў вобласць α-ζ Панны і яе ж вобласць ι-κ-λ-μ і знікла. 21 кастрычніка павярнулася і была бачнай на поўдні. Яна была чырванаватага колеру на небасхіле Панны каля межаў α-ζ яе вобласьці і ι-κ-λ-μ яе ж вобласьці. Яна засланіла зоркі паміж Ільвом і Паннай, каля β Ільва. Напачатку наступнага года знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Магчыма, што гэта тая ж камета, як і папярэднічаўшая. Лічыцца за восьмае (??) з'яўленне каметы Галея.

615 г. Ліпень (Сонца ў Раку). Камета ў вобласьці θ-φ-ν Вялікай Мядзьведзіцы на паўднёвым усходзе, даўжынёй ад $^{5}/_{10}$ да $^{6}/_{10}$ локця. Колер яе быў цьмяны і канец завостраны. Вечарамі ён меў развяваючыся рух. Яна ішла на паўночны захад і знаходзілася некалькі дзён у вобласьці θ-φ-ν Вялікай Мядзьведзіцы. Ішла паміж $^{4}/_{10}$ і $^{5}/_{10}$ локця ад Кола Вечнай Бачнасьці, але не зайшла ў яго і знікла (Ма-Туан-Лінь).

616 г. Ліпень (Сонца ў Раку). Была камета паміж зоркамі Ільва і Панны (вечаровая), каля β Ільва, жаўтавата-чырвонага колеру, ад 3 да 4 локцяў у даўжыню. Знікла праз некалькі дзён (Ма-Туан-Лінь).

616 г. Кастрычнік (Сонца ў Шалях). Бачылі камету ў вобласьці α Пегаса (дзіўна, адразу насупраць Сонца. Ці не новая гэта зорка ці метэарыт?) (Ма-Туан-Лінь).

## РАЗДЗЕЛ III.

Каметы ад 616 да 912 года нашай эры. (Дынастыя Танг).

626 г. Сакавік 26 (Сонца ў Авене ці Рыбах). Была камета ў сузор'і Муха і Пляяды. 31 сакавіка яе бачылі каля Пярсея (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

634 г. Верасень 22 (Сонца ў Панне). Была камета ў вобласьці β Вадаліва і ў вобласьці α Вадаліва і θ-ε Пегаса. Прайшла праз Вадаліва. 3 кастрычніка знікла (Ма-Туан-Лінь).

639 г. Красавік 30 (Сонца ў Цяляці). Была камета ў вобласьці α-γ-δ Цяляці і Пляяд (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Згодна з Шэ-Кэ гэта было ў 638 годзе.

641 г. Жнівень 1 (Сонца ў Ільве). Была камета паміж Ільвом і Паннай і над Валасамі Веранікі. Знікла 26 жніўня (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

663 г. Верасень 29 (Сонца ў Панне). Была камета ў вобласьці ξ-ο-π Валапаса, каля двух локцей даўжыні. Знікла 1 кастрычніка (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

667 г. Травень 24 (Сонца ў Цяляці). Была камета на паўночным усходзе, у вобласьці α-β-θ-κ Возніка і β Цяляці, паміж вобласцю α-γ-δ Цяляці і Пляядамі. Знікла 12 чэрвеня (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

676 г. Студзень 3 (Сонца ў Казярогу). Была камета роўная пяці лакцям даўжыні на поўдзень ад вобласьці α-ζ Панны і ι-κ-λ-θ Панны (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

676 г. Ліпень 7 (Сонца ў Раку). Была камета ва ўсходняй частцы вобласьці δ-ε-λ-μ Двайнят, паказваючы на іхную вобласць α-β-ρ-σ каля 3 локцяў даўжыні. Яе сьветлая абалонка моцна павялічвалася, пакуль не дасягнула 30 локцяў даўжыні, паказваючы на вобласць λ-μ Вялікай Мядзьведзіцы і θ-ν-φ яе ж. Знікла 3 верасня (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Згодна з Шэ-кэ яна засланіла сабой абедзьве вышэйпазначаныя вобласьці Вялікай Мядзьведзіцы.

681 г. Кастрычнік 17 (Сонца ў Шалях). Была камета пасярод прасторы, аточанай Змеем, роўная 50 локцяў даўжыні. Яна паступова памяншалася і ішла да заходу ў вобласць α-β-γ Арла. 30 лістапада знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

683 г. Красавік 20 (Сонца ў Авене). Была камета на поўнач ад α-β Возніка і β Цяляці. Знікла 15 траўня (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

684 г. Ліпень 8 (Сонца ў Раку). Была камета на захадзе каля 10 локцяў даўжыні. Знікла 10 жніўня (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Лічыцца за дзевятае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

684 г. Верасень 12 (Сонца ў Панне). Была зорка, падобная на палову месяца на захадзе (верагодна метэор).

707 г. Лістапад 16 (Сонца ў Скарпіёне). Была камета на захадзе. Знікла 17 снежня (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

708 г. Сакавік 30 (Сонца ў Авене). Паміж Мухай і Пляядамі была камета (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

708 г. Верасень 21 (Сонца ў Панне). Была камета ў Коле Вечнай Бачнасьці.

710 і 713 гг. Была камета, прайшла ад Рэгула і ад іншых зорак у Ільвах у вобласць паміж Ільвом і Паннай. Яна прайшла да Арктура і знікла.

730 г. Чэрвень 30 (Сонца ў Двайнятах ці Раку). Была камета ў абласьцях α-β-γ Возніка і β Цяляці. 9 ліпеня яна была паміж Пляядамі і вобласьцю α-γ-δ-ε Цяляці (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

739 г. Была камета ў Коле Вечнай Бачнасьці, яскравая. Прайшла праз чатырохкутнік Вялікай Мядзьведзіцы. Праз 10 дзён яе засланілі аблокі, і больш яе не бачылі (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

760 г. Травень 15 (Сонца ў Цяляці). Бачылі камету на захадзе, у дзесяць локцяў даўжыні. Знікла ў чэрвені ці ліпені (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

760 г. Травень 16 (Сонца ў Цяляці). Была камета на ўсходзе паміж вобласьцю α-β-γ Авена і трыма зоркамі Мухі, белага колеру, чатырох локцяў даўжыні. Яна хутка ішла на ўсход, прайшла праз Пляяды і вобласць α-γ-δ-ε Цяляці ў вобласць λ і зорак галавы Арыёна, ішла праз вобласць α-β-γ-δ Арыёна да вобласьці γ-δ-η-θ Раку, да вобласьці δ Гідры і вобласьці α Ільва. Прайшла на захад ад β Панны. Была бачнай 50 дзён (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Лічыцца за дзясятае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

767 г. Студзень 12 (Сонца ў Казярогу). Была камета ў вобласьці Дэльфіна, каля локця даўжыні. Прайшла праз вобласць ε-ι Змеятрымальніка і праз 20 дзён знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

770 г. Чэрвень 15 (Сонца ў Двайнятах). 25 траўня была камета ў вобласьці α-β-θ-κ Возніка і β Цяляці. Яе сьветлавая абалонка здавалася вельмі бязладнай, каля 30 локцяў у даўжыню. 15 чэрвеня яе бачылі на поўначы, белага колеру. 19 чэрвеня яна пайшла на ўсход і наблізілася да сярэдняй зоркі вобласьці δ-ξ Возніка. 9 ліпеня прайшла каля зорак у галаве Астэрыёна. 25 ліпеня знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

773 г. Студзень 17 (Сонца ў Казярогу). Была хвастатая зорка ў ніжняй частцы вобласьці α і іншых зорак Арыёна. Яе хвост распасьціраўся праз нябёсы да зоркі «Танг» Арыёна (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

815 г. Красавік (Сонца ў Авене). Была хвастатая зорка паміж Ільвом і Паннай. Яе хвост распасьціраўся да вобласьці α-γ-ε-λ Ільвоў (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

817 г. Люты 17 (Сонца ў Вадаліве). Была камета ў вобласьці α Цяляці (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

821 г. Люты 27 (Сонца ў Вадаліве). Была камета ў Чарцы (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

821 г. Сакавік 7 (Сонца ў Рыбах). Была камета паміж Ільвом і Паннай на ўсход ад α Ільва, у ліпені яна была ў вобласьці Пляяд, уроўная дзесяці лакцям даўжыні, на працяг 10 дзён, пасьля чаго знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

828 г. Ліпень 5 (Сонца ў Раку). Была камета на поўдзень ад вобласьці η-υ-τ Валапаса, роўная два локці даўжынёй (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

829 г. Снежань (Сонца ў Стралку). Дзіўную зорку бачылі ў вобласьці ζ-θ-ο Малога сабакі (Шэ-кэ).

834 г. Кастрычнік 9 (Сонца ў Шалях). Была камета паміж Ільвом і Паннай, роўная дзесяці лакцям даўжыні. Ішла на паўночны захад. Прайшла Валасы Веранікі. Перастала быць бачнай 18 кастрычніка (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

837 г. Сакавік 22 (Сонца ў Рыбах). Была камета ў вобласьці α Вадаліва і θ-ε Пегаса, роўна сем лакцей даўжыні. Паказвала на вобласць δ-μ Стралка. 24 сакавіка яна была на паўднёвы захад ад вобласьці α Вадаліва, і θ-ε Пегаса. Была яскравая і

хутка рухалася. 29 сакавіка прайшла ў вобласць β Вадаліва. 6 красавіка яе даўжыня была каля 10 локцяў. Ішла на захад, паступова паказваючы на поўдзень. 7 красавіка была ў вобласьці ε-μ-ν Вадаліва, каля 20 локцяў даўжыні і 3 локцяў шырыні. 8 красавіка яе хвост быў яшчэ шырокі. 9 красавіка была ў вобласьці δ-μ Стралка. 10 красавіка яе даўжыня была 50 локцяў, і канец хваста падзяліўся на два адгалінаванні, адно паказвала на Шалі, другое пакрывала вобласць β-δ-π Скарпіёна. 11 красавіка яе даўжыня была 6 локцяў, і хвост больш не разгаліноўваўся, паказваючы галавой на поўнач. Ён (?) быў на 7° вобласьці ι-κ-λ-θ Панны. 12 красавіка камета накіравалася на поўночны-захад, паказваючы (хвастом?) на ўсход. 14 красавіка яе даўжыня была каля 80 лакцей, а месца (хваста?) у вобласьці κ-λ-μ Гідры. 28 красавіка яна была роўнай толькі тры локці даўжыні, направа ад α Ільва, пасьля чаго яе больш не бачылі (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Лічыцца за адзінаццатае гістарычнае з'яўленне каметы Галея.

837 г. Красавік 29 (Сонца ў Цяляці). Дзіўную зорку бачылі ў ніжняй частцы вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят на ўсходзе (Шэ-кэ).

837 г. Травень 3 (Сонца ў Цяляці). Дзіўную зорку бачылі ў вобласьці β-η Панны, каля ν (Шэ-кэ).

837 г. Травень 21 (Сонца ў Цяляці). Дзіўную зорку бачылі ў ніжняй частцы вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят (гл. вышэй – 29 красавіка) (Шэ-кэ).

837 г. Чэрвень 17 (Сонца ў Двайнятах). Дзіўная зорка паміж β і η Панны знікла (гл. – 3 траўня) (Шэ-кэ).

837 г. Чэрвень 26 (Сонца ў Двайнятах). Дзіўная зорка, падобная камеце, была бачнай ў вобласьці δ-μ Стралка, каля Teen Yo (Шэ-кэ). Усе шэсць запісаў лічацца за адзінаццатае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

837 г. Верасень 9 (Сонца ў Панне). Была камета ў вобласьці β Вадаліва, α Вадаліва і θ-ε Пегаса (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

838 г. Лістапад 11 (Сонца ў Скарпіёне). Была камета ў вобласьці Крумкача і γ-δ Раку, каля 20 локцяў даўжыні. Яе хвост паступова паказваў на захад (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

838 г. Лістапад 21 (Сонца ў Скарпіёне). Была камета на ўсходзе, у вобласьці γ-δ Скарпіёна і вобласьці γ-δ-ε Стралка. Ад усходу да захаду распасьціралася праз неба. 8 снежаня знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Гэта можа быць працягам папярэднічаючай.

839 г. Люты 7 (Сонца ў Вадаліве), Была камета ў вобласьці δ-τ-χ Вадаліва (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

839 Марта 12 (Сонца ў Рыбах). Была камета ў вобласьці ε-ν Пярсея, на паўночным усходзе. 14 красавіка знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

840 г. Сакавік 20 (Сонца ў Рыбах). Была камета ў вобласьці α Пегаса, на ўсходзе, у накірунку γ Пегаса. На 20-ы дзень знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

840 г. Снежань 3 (Сонца ў Стралку). Была камета на ўсходзе (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

841 г. Ліпень (Сонца ў Раку). Была камета ў вобласьці δ-τ Вадаліва, паміж вобласцю α Пегаса і ўсходняй часткай вобласьці Пегаса і α Андрамеды (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

841 г. Снежань 22 (Сонца ў Стралку). Была камета каля Фомаханда. Яна зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці, прайшоўшы праз вобласць α Пегаса. 9 лютага знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

851 г. Красавік (Сонца ў Авене). Была камета ў вобласьці λ і зорак галавы Арыёна, таксама α-β-γ-δ Арыёна каля зоркі «Tang» (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

856 г. Верасень 27 (Сонца ў Панне). Была камета ў вобласьці β-δ-π Скарпіёна, роўная тры локці даўжыні (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

864 г. Чэрвень 21 (Сонца ў Двайнятах). Была бачнай вечарам камета на паўночным усходзе ў прамежку паміж аблокамі, не больш як на 15 хвілін, жаўтавата-белага колеру, роўная тры локці даўжыні, у вобласьці α-β-γ Авена (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Відавочна перапісана адным летапісам із другога.

868 г. Люты (Сонца ў Вадаліве). Была камета ў вобласьці α-β-γ Авена і трох зорак Мухі (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

869 г. Верасень (Сонца ў Панне). Была камета на паўночны ўсход ад вобласьці τ Пярсея (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

877 г. Чэрвень (Сонца ў Двайнятах). Бачылі камету (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

885 г. Бачылі камету ў вобласьці λ-μ Пярсея, паміж ёю і вобласьцю χ Двайнят і μ Рака (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

886 г. Чэрвень 13 (Сонца ў Двайнятах). Была камета ў вобласьці ε-μ-ν Скарпіёна і ў вобласьці γ-δ-ε Стралка. Яна прайшла праз α-β-γ Вялікай Мядзьведзіцы і зоркі ў нагах Валапаса.

891 г. Травень 12 (Сонца ў Цяляці). Была камета ў нагах Вялікай Мядзьведзіцы. Ішла на ўсход. Зайшла ў вобласць паміж Ільвом і Паннай. Засланіла Арктура і вобласць, абмежаваную Змеем. Была каля 100 локцяў даўжыні. 5 ліпеня знікла (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

892 г. Снежань (Сонца ў Стралку). Была камета ў вобласьці ζ-τ-σ-φ Стралка і ў вобласьці α-β Казярога (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

893 г. Травень 6 (Сонца ў Цяляці). Разышліся аблокі, і была бачнай камета вечарам у вобласьці ι-κ Вялікай Мядзьведзіцы, каля 100 локцяў даўжыні. Яна ішла на ўсход, зайшла ў вобласць паміж Ільвом і Паннай і засланіла Арктура. Зайшла ў вобласць, абмежаваную Змеем. Праз 37 дзён павялічылася ў даўжыню да 200 локцяў (!). Больш не была бачнай з нагоды хмарнага надвор'я (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Відавочна спісана абодвума летапісамі із адной першакрыніцы ці адзін з другога.

894 г. Люты (Сонца ў Вадаліве). Была камета ў Двайнятах і Раку (Ма-Туан-Лінь).

905 г. Травень 22 (Сонца ў Цяляці). Была камета ў вобласьці α-β-ρ-σ Двайнят, Паўночнага вянка, вобласьці θ-φ-ν Вялікай Мядзьведзіцы, каля 30 локцяў даўжыні. Зайшла ў ногі Вялікай Мядзьведзіцы і 12 чэрвеня вечарам была на левым куце вобласьці Ільвоў, распасьціраючыся на захад прасторы абмежаванай Змеем. Раніцай яе яскравая абалонка мела надзвычай угневаны выгляд і распасьціралася праз неба. 13 чэрвеня было хмарна, а калі 18 чэрвеня ненадоўга перастаў дождж, яе больш не было бачна (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

## РАЗДЗЕЛ IV.

Каметы ад 912 да 1066 года нашай эры. (пяць кароткіх дынастый).

912 г. Травень 13 (Сонца ў Цяляці). З'явілася камета ў вобласьці κ-λ-μ Гідры. 15 траўня яна была каля χ Ільва (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Лічыцца за дванаццатае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

928 г. Кастрычнік 14 (Сонца ў Шалях). З'явілася камета на паўднёвым захадзе, каля дзесяці локцяў даўжыні, паказваючы на паўднёвы ўсход, на 5°

вобласьці α-β Казярога. Праз тры вечары яе больш не бачылі (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

936 г. Кастрычнік 28 (Сонца ў Шалях). З'явілася камета ў вобласьці β Вадаліва і α Вадаліва і θ-ε Пегаса, каля локця даўжынёй, вельмі маленькая. Прайшла праз зоркі вобласьці ξ Вадаліва, λ Казярога і μ Казярога (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

941 г. Верасень 18 (Сонца ў Панне). З'явілася камета на захадзе. Засланіла прастору абмежаваную Змеем. Была каля дзесяці локцяў даўжыні (Ма-Туан-Лінь).

941 г. Жнівень 7 (Сонца ў Ільве). Была бачнай камета, каля κ Геркулеса (малая дынастыя Leaou).

943 г. Лістапад 5 (Сонца ў Скарпіёне). Была бачнай вечарам камета на ўсходзе, паказвала на захад. Даўжыня хваста была роўнай дзесяць локцяў. Месца на 9° вобласьці α і ζ Панны (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). Згодна з Ма-Туан-Лінь яна мела локаць даўжыні.

956 г. Сакавік 13 (Сонца ў Рыбах). Была камета вечарам у вобласьці α-β-γ Арыёна. Хвост паказваў на паўднёвы ўсход. (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь).

975 г. Красавік (Сонца ў Авене). Бачылі камету на ўсходзе.

975 г. Жнівень (Сонца ў Ільве). З'явілася камета ў вобласьці δ-ε-ζ-θ Гідры, роўная сарок локцяў даўжыні, раніцай на ўсходзе. Паказвала на паўднёвы захад. Прайшла над вобласьцю γ-δ-η-θ Рака. Накіравалася да ўсходняй часткі вобласьці α Андрамеды і γ Пегаса і знікла пасьля 83 дзён (Ма-Туан-Лінь).

989 г. Жнівень 13 (Сонца ў Ільве). Была камета ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε-λ-ν Двайнят, на захадзе ад λ і μ Пярсея, блакітнавата-белага колеру. Яе сьвяцячаяся абалонка паступова павялічвалася ў даўжыню. Была бачнай раніцамі 10 дзён на паўночным усходзе і на паўночным захадзе вечарамі. Прайшла над вобласьцю η-τ-ν Валапаса. Была бачнай 30 дзён і знікла (Ма-Туан-Лінь). Лічыцца за трынаццатае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

998 г. Люты 23 (Сонца ў Рыбах). Была камета да поўначы вобласьці α-β Пегаса. Яе сьветлая абалонка была каля локця даўжыні. Ішла да 8 сакавіка, калі знікла пасьля 14 дзён бачнасьці (Ма-Туан-Лінь).

1003 г. Снежань 23 (Сонца ў Стралку). Была камета ў вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят і вобласьці γ-δ-η-θ Рака, падобная на вялікую чарку, блакітнавата-белага колеру. Яе сьвечаяся абалонка была каля чатырох локцяў даўжыні. Яна зайшла ў вобласць θ-γ-τ Двайнят, праз вобласць α-β Возніка і вобласць α-β-γ-δ Арыёна. Была бачнай каля 30 дзён і знікла (Ма-Туан-Лінь).

1014 г. Люты 10 (Сонца ў Вадаліве). Была бачнай камета на захадзе (малая дынастыя Leaou).

1018 г. Жнівень 4 (Сонца ў Ільве). З'явілася камета ў чатырохкутніку Вялікай Мядзьведзіцы, на паўночны ўсход ад другой зоркі, больш за трох локцяў даўжыні. Прайшла на поўнач ад першай зоркі Вялікай Мядзьведзіцы. Прайшла каля ω і над θ-γ-φ Вялікай Мядзьведзіцы. Тады яе даўжыня была каля 30 локцяў. Прайшла праз Кола Вечнай Бачнасьці і каля зорак у нагах Вялікай Мядзьведзіцы і Рэгула і іншых зорак Ільва. Ішла на захад, пакуль не прыйшла ў вобласць α-σ-τ Гідры. Знікла пасьля 37 дзён (Ма-Туан-Лінь).

1035 г. Верасень 15 (Сонца ў Панне). Вечарам была камета ў вобласьці κ-λ-μ Гідры і ў Чарцы, роўная сем локцяў даўжыні і палову локця шырыні. Знікла праз 12 дзён (Ма-Туан-Лінь).

1036 г. Студзень 15 (Сонца ў Казярогу). Вечарам з'явілася камета ў вобласьці α-β-ε Рыб. Мела сьвяцячуюся абалонку (Ма-Туан-Лінь).

1049 г. Сакавік 10 (Сонца ў Рыбах). З'явілася камета ў вобласьці β Вадаліва, раніцай на ўсходзе. Паказвала на паўднёвы захад. Прайшла праз Кола Вечнай Бачнасьці і прайшла ў вобласць α-β-γ Авена. Знікла пасьля 114 дзён (Ма-Туан-Лінь).

1056 г. Жнівень (Сонца ў Ільве). З'явілася камета ў Коле Вечнай Бачнасьці. Прайшла праз сем зорак (відаць – Вялікай Мядзьведзіцы), белага колеру, каля дзесяці локцяў даўжыні. Знікла ў верасні ў дзень «Kwei Hoe»

1066 г. Красавік 24 (Сонца ў Авене). Была бачнай камета на ўсходзе (малая дынастыя Leaou).

1066 г. Красавік 2 (Сонца ў Авене). З'явілася камета ў вобласьці α Пегаса, на ўсходзе, раніцай, больш за ў сем локцяў даўжыні. Паказвала на паўднёвы захад, на вобласьць ε-μ-ν Скарпіёна, дасягаючы да зорак α-η-π Вадаліва. Паступова накіроўвалася далей на ўсход. Наблізілася да Сонца і таму не магла быць бачнай. 24 красавіка яе зноў бачылі вечарам на паўночным захадзе як зорку без сьветлай абалонкі. Яна накіравалася на ўсход, павялічваючыся ў памерах і будучы падобнай на белы пар, больш чы тры локці ў шырыню. Яна закранула Кола Вечнай Бачнасьці, зоракі каля Палярнай вобласьці α-δ-π-ρ Скарпіёна. Яе галава і канец хваста былі заслонены аблокамі. Яна ішла на ўсход, прайшла θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы і яе зоркі α-β-γ-δ і перасякла вобласць ε-μ-ν Скарпіёна. 25 красавіка яна зноў атрымала бліскучую абалонку, была каля 10 локцяў даўжыні і 3 шырыні. Паказвала на паўночны ўсход. Прайшла над вобласьцю α-β Возніка і β Цяляці, калі яе белыя выпарэнні падзяліліся на два адгалінаванні. Ён перасякаў неба, праходзячы праз вобласць α-β Двайнят, вобласць θ-ι Двайнят і малых зорак паміж галовай Панны і Валасамі Веранікі, Рэгула і зорак Ільвоў, прастору паміж Ільвом і Паннай, вобласць β Ільва, і хвост яе заходзіў у вобласць θ-ι Двайнят. Ён распасьціраўся да вобласьці α Панны, вобласьці ι-κ Панны, вобласьці α-β-γ-ν Шаляў і вобласьці α-δ-π-ρ Скарпіёна. 26 красавіка камета была 15 локцяў даўжыні і мела вакол сябе выпарэнні, падабныя на Sching Ke (меру). Ішла тады ад вобласьці α Пегаса да вобласьці κ-λ-μ Гідры. Была бачнай 67 дзён, пасьля чаго ўсё знікла (Ма-Туан-Лінь).

Лічыцца за чатырнаццатае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры. Цікава, што гэта не пазначана ў Шэ-кэ. У летапісе «Toon-Keen-Kang-Moo» пра яе напісана: была бачнай камета на захадзе на працягу 3 месяцаў» (Ма-Туан-Лінь).

У Яўропе яна нарабіла шмат трывогі. Сучасныя ёй пісьменнікі глядзяць на яе як на прадвесніка вялікіх няшчасьцяў, між іншым сьмерці Гаральда і наступнай заваёвы Англіі Вільгельмам Нармандскім. Грэцкі гісторык Занарас у апавяданні пра валадаранне імператара Кастуся Дукі апісвае яе шырокай як Месяц і спачатку без хваста, пры з'яўленні якога яна паменшылася ў велічыні.

1080 г. Студзень 6 (Сонца ў Казярогу). Прайшла камета над вобласьцю ε-μ-ν Скарпіёна (малая дынастыя Leaou).

1080 г. Жнівень 10 (Сонца ў Ільве). З'явілася камета ў паўночна-заходняй частцы паміж зоркамі Ільва і Панны, на поўдзень ад Валасоў Веранікі, роўная дзесяць локцяў даўжыні, падобная на белыя выпарэнні. Паказвала ў касым накірунку на паўднёвы ўсход. Была ў сярэдняй частцы вобласьці β Крумкача. 13 жніўня ішла ў паўночна-заходнім накірунку, пасярэдзіне вобласьці α Чаркі. 15 жніўня была роўная тром лакцяў даўжыні і ішла праз зоркі Волас Веранікі. 20

жніўня зайшла ў вобласць Рэгула і іншых зорак Ільвоў. 24 жніўня яе не маглі бачыць з нагоды імглістага надвор'я. 27 жніўня яна зноў з'явілася раніцай пасярэдзіне вобласьці κ-λ-μ Гідры да 14 верасня. Знікла пасьля 36 дзён.

1095 г. Лістапад 17 (Сонца ў Скарпіёне). З'явілася зорка на паўднёвым усходзе пасярод Крумкача, падобная на Сатурн, блакітнавата-белая. 18 лістапада вылучыла ў накірунку на паўночны захад сьвяцячуюся абалонку трох локцяў даўжыні ў касым накірунку да Крумкача. Была падобнай на камету. 19 лістапада сьвецячаяся абалонка была каля пяці локцяў даўжыні. 20 лістапада яна была каля сямі локцяў, паказваючы ў косым накірунку да η Крумкача. 29 лістапада схавалася ў аблоках і больш не была бачнай.

1097 г. Кастрычнік 6 (Сонца ў Шалях). З'явілася камета пасярэдзіне вобласьці Шаляў, падобная на Сатурн і сьветла белыя выпарэнні трох локцяў даўжыні. Паказвала ў касым накірунку на ε Змея. 9 кастрычніка яе сьвяцячаяся абалонка была каля пяці локцяў даўжыні. Зайшла ў прастору, абмежаваную Змеем. 1 кастрычніка запоўніла прастору, абмежаваную Змеем. 6 лістапада была каля α Геркулеса. 14 лістапада знікла (Ма-Туан-Лінь).

1097 г. Снежань 6 (Сонца ў Стралку). Была бачнай камета на захадзе (малая дынастыя Leaou).

1106 Люты 10 (Сонца ў Казярогу). З'явілася камета на захадзе, падобная на вялікую пасудзіну. Яе сьвяцячаяся абалонка была раскідана і здавалася распаўшайся зоркай. Яна мела 60 локцяў у даўжыню і тры ў шырыню. Накірунак на паўночны ўсход. Прайшла вобласць β-δ-ε Андрамеды і зоркі ў Рыбах. Прайшла праз вобласць α-β-γ Авена, Муху, Пляяды і вобласць α-μ-δ-ε Цяляці. Схавалася ў аблоках (Ма-Туан-Лінь). Відаць, гэта быў метэарыт.

1110 г. Травень 29 (Сонца ў Цяляці). З'явілася камета ў вобласьці β-δ-ε Андрамеды і зорак у Рыбах і ў вобласці α-β-γ Авена. Яе сьвяцячаяся абалонка была каля шасьці локцяў даўжыні. Ішла на поўнач і зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці, на паўночным усходзе зайшла ў аблокі, і яе больш не бачылі (Ма-Туан-Лінь).

1126 г. Травень 20 (Сонца ў Цяляці). З'явілася камета ў Коле Вечнай Бачнасьці. Каментатар у «Tung-Keen-Keang-Muh» дадае: яе даўжыня была роўнай каля дзесяці локцяў, накірунак да поўнач. Прайшла над Палярнай (ці α Геркулеса) і засланла вобласць φ-μ-ν Вялікай Мядзьведзіцы (Ма-Туан-Лінь).

1126 г. Снежань (Сонца ў Стралку). Была бачнай камета на небасіле (Ма-Туан-Лінь).

1131 г. Верасень (Сонца ў Панне). Бачылі камету (Ма-Туан-Лінь)

1132 г. Студзень 5 (Сонца ў Казярогу). Бачылі камету (Ма-Туан-Лінь).

1132 г. Жнівень 14 (Сонца ў Ільве). Бачылі камету ў сузор'і Мухі. Знікла 3 верасня (Ма-Туан-Лінь).

1133 г. Верасень 29 (Сонца ў Панне). З'явілася камета ў вобласьці θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы (малая дынастыя Kin, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1145 г. Красавік 26 (Сонца ў Авене). З'явілася камета на поўдні. Знікла праз 50 дзён. 14 траўня была бачнай у вобласьці α-β Арыёна (Ма-Туан-Лінь).

1145 г. Чэрвень 4 (Сонца ў Двайнятах). Камета блакітнавата-белая (тая ж, якая папярэднічала) (Ма-Туан-Лінь). Лічыцца за пятнаццатае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

1147 г. Студзень 6 (Сонца ў Казярогу). З'явілася камета на паўднёвым захадзе вобласьці α Вадаліва і θ-ε Пегаса (Ма-Туан-Лінь).

1147 г. Люты 12 (Сонца ў Вадаліве). З'явілася камета на паўночным усходзе вобласьці ε-μ-ν Вадаліва. Пачынаючы ад 7 сакавіка яе больш не бачылі (Ма-Туан-Лінь).

1151 г. Жнівень 21 (Сонца ў Ільве). Бачылі камету на паўночным ўсходзе вобласьці γ-ε-λ Двайнят. 22 жніўня гэтая зорка была падобнай на Юпітар. Яе сьвяцячаяся абалонка была роўнай локцю даўжыні (Ма-Туан-Лінь).

1222 г. Верасень 15 (Сонца ў Панне). З'явілася камета ў вобласьці η-θ-ν Валапаса. Яе сьвяцячаяся абалонка была роўнай 30 локцям у даўжыню, а цела малое, як Юпітар. Была бачнай на працягу двух месяцаў. Прайшла праз Шалі, вобласць β-δ-π Скарпіёна і праз Антараса і знікла (Ма-Туан-Лінь).

Лічыцца за шаснаццатае (??) з'яўленне каметы Галея пад час нашай эры. Кітайцы сцвярджаюць, што гэта апошняя із камет энцыклапедыі Ма-Туан-Лінь. Астатнія гады Ма-Туан-Лінь лічацца напісанымі іншым аўтарам. Але ці так гэта?

1226 г. Верасень 13 (Сонца ў Панне). З'явілася камета ў вобласьці α-ξ Панны і ў вобласьці ι-κ-λ-θ Панны, паміж вобласьцю η-τ-ν Валапаса і Валасамі Веранікі. Яна паказвала на Арктура. 12 верасня 1227 г. яна знікла (?) (Занадта доўга). (Малая дынастыя Kin, «Дадатак да Ма-Туан-Лінь).

1232 г. Кастрычнік 18. (Сонца ў Шалях). З'явілася камета ў вобласьці α і ζ Панны («Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1237 г. Верасень 21. (Сонца ў Панне). Пабачылі камету на ўсходзе каля дзесяці локцяў даўжыні, сагнутую падобна іклу слана. Яна з'явілася ў вобласьці α-ξ Панны і вобласьці β Крумкача, ішла на поўдзень. На 12-ы дзень дасягнула 20 локцяў даўжыні. На 16-ы дзень яе не маглі бачыць з нагоды яркага сьвячэння Месяца. На 27-ы дзень, пад час пятай долі ночы, яна з'явілася на паўднёвым усходзе і была каля 40 локцяў даўжыні. Пад час першага дня наступнага месяца яна пачала слабець. Была бачнай 48 дзён (малая дынастыя Kin, «Дадатак да Ма-Туан-Лінь).

Біо дапасуе гэтую камету да 17 кастрычніка 1232 года. Аднак ніякай каметы для 1232 года не згадваецца ў Шэ-кэ.

1240 г. Студзень 31 (Сонца ў Вадаліве). Камета з'явілася каля α Пегаса.

1240 г. Люты 23 (Сонца ў Рыбах). Камета прайшла над Касіяпеяй на паўночны захад ад другой зоркі. (Гэта працяг папярэднічаўшай каметы.)

1264 г. Ліпень 26 (Сонца ў Раку). З'явілася камета ноччу ў вобласьці δ-ε Гідры. Яе хвост распасьціраўся праз неба. 31 ліпеня яна прайшла праз вобласць γ-δ-ε-θ Рака. 2 жніўня яна зайшла ў вобласць γ-ε-λ-μ Двайнят. 8 верасня яе не маглі бачыць. 14 верасня яна зноў з'явілася і яе бачылі ў вобласьці α-β-γ Арыёна. 21 верасня яна разышлася ў выглядзе чырванаватага выпарэння (Шэ-кэ).

1264 г. Ліпень 26 (Сонца ў Раку). З'явілася камета ў вобласьці γ-δ-η-θ Рака і вобласьці δ-ε Гідры. Яе бачылі вечарам на паўночным захадзе, і яе сьвятло асьвятляла неба. Яна распасьціралася на 100 локцяў у даўжыню, прайшла праз ι-κ Вялікай Мядзьведзіцы. Яна засланіла Кола Вечнай Бачнасьці θ, ν, φ Вялікай Мядзьведзіцы і α і β Вялікай Мядзьведзіцы. Раніцай была бачнай на паўночным усходзе на працягу 40 дзён (другое згадванне Шэ-кэ).

1277 г. Сакавік 9 (Сонца ў Рыбах). З'явілася камета на паўночным усходзе каля чатырох локцяў даўжыні.

1283 г. Лістапад 7 (Сонца ў Скарпіёне). Камета зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці, у чатырохкутнік Вялікай Мядзьведзіцы. Яе сьвяцячаяся абалонка была больш локця даўжыні. Праз месяц знікла.

1299 г. Студзень 24 (Сонца ў Казярогу). Камета з'явілася пад λ-θ-κ Голуба.

1301 г. Верасень 16 (Сонца ў Панне). З'явілася камета на 24° 40' вобласьці γ-ε-λ Двайнят. Яна была падобнай на вялікую зорку ў вобласьці α-β Малога Сабакі (Прэкіёна). Потым прайшла на поўдзень ад θ-ν-φ і чатырохкутніка сямі вялікіх зорак Вялікай Мядзьведзіцы. Яна засланіла χ і γ Вялікай Мядзьведзіцы, Кола Вечнай Бачнасьці, San Kung і зоркі Паўночнага Вянка. Яе даўжыня была каля 10 локцяў. Прайшла ў вобласць, акрэсленую Змеем, на ўсход ад зорак ε, α і λ Змея і на поўдзень ад зорак δ і ι Змеятрымальніка і над зоркай η Змеятрымальніка. Была тады роўнай поўнаму локцю ў даўжыню. Яе бачылі 46 дзён, і пасьля гэтага яна знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

Лічыцца за сямнаццатае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

1304 г. Люты 3 (знікла) (Сонца ў Вадаліве). Бачылі камету каля локця даўжынёй, паказваючую на паўднёвы ўсход, белага колеру, на 11° вобласьці α-β Пегаса. Яна паступова павялічвалася да лакця ў даўжыню і тады паказвала на паўночны захад. Яна засланіла π Лебедзя і зоркі Андрамеды і Яшчаркі, зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці, і 3 лютага знікла. Яе бачылі каля 74 дзён.

1313 г. Красавік 13 (Сонца ў Авене). З'явілася камета ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят (Шэ-кэ, «Дадатак» Ма-Туан-Лінь).

1315 г. Лістапад 28 (Сонца ў Скарпіёне). Дзіўная зорка з'явілася і ператварылася потым у камету. Зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці, прайшла праз вобласць β Крумкача да γ Пегаса і α Андрамеды на 15° гэтага дзялення. На наступны год 12 сакавіка яна знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1337 г. травень 4 (Сонца ў Цяляці). З’явілася камета ў Касіяпеі. Яна была бачнай да 31 ліпеня, калі закончыла свой шлях у Паўночным Вянку.

1337 г. Чэрвень 26 (Сонца ў Двайнятах). Бачылі камету на паўночным усходзе. Яна была падобнай на α Пярсея, была белага колеру, каля локця даўжыні. Хвост паказваў на паўднёвы захад. Яна была на 5° вобласьці Пляяд. Пад час дня Woo Shin ішла на паўднёвы захад і на наступны дзень моцна павялічыла сваю хуткасць. 30 чэрвеня яе сьвяцячаяся абалонка падаўжылася да двух локцяў. 6 ліпеня яна засланіла зорку A 579 Жырафы. 8 ліпеня яе сьвяцячаяся абалонка, дасягнуўшы трох локцяў даўжыні, зайшла ў зоркі Цмока. 11 ліпеня яна засланіла зоркі Жырафы і зорку Keang. 14 ліпеня засланіла зорку α Вялікай Мядзьведзіцы і распасьціралася да Палярнай Зоркі, 15 ліпеня прайшла праз чатыры малыя зоркі каля полюса. 23 ліпеня яна пакінула зоркі Цмока. 26 ліпеня выйшла із Кола Вечнай Бачнасьці. 27 ліпеня зайшла ў Паўночны Вянок і засланіла θ і суседнія зоркі Геркулеса. 29 ліпеня засланіла γ Геркулеса. 1 жніўня прайшла праз зоркі γ Змея і χ Геркулеса і зайшла ў вобласць, акрэсленую Змеем. 4 жніўня засланіла λ Змеятрымальніка. Камета пакінула вобласць акрэсленую Змеем і засланіла δ Афіуха. 19 жніўня яе сьвяцячаяся абалонка моцна паменшылася ў даўжыні. Яна тады была над ν Скарпіёна і якраз на захад ад сярэдняй зоркі вобласьці ε-φ-ο Шаляў. Было вельмі цяжка дакладна вызначыць месца каметы, пасьля таго як яна паступова сыходзіла на поўдзень. Яе назіралі 63 дні. Яе шлях быў ад Пляяд да вобласьці β-δ-π Скарпіёна. Прайшла 15 сузор'яў («Дадатак» Ма-Туан-Лінь і ў Шэ-кэ).

1340 г. Сакавік 24. (Сонца ў Рыбах). З'явілася камета, падобная на вялікую зорку вобласьці β-δ-π у Скарпіёне, белага колеру. Яе выгляд быў падобным на жмут шаўковых ачэсак. Яна была ў 7° ад β Скарпіёна. Даўжыня была каля лакця. Хвост паказваў на паўднёвы захад. Яна павольна ішла да паўночнага захаду да 24

красавіка і была бачнай 32 дні (магчыма, што пад вялікай зоркай тут маецца на ўвазе Антарэс) (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1351 г. Лістапад 24. (Сонца ў Скарпіёне). Была бачнай камета ў вобласьці α Андрамеды і Рыб. 26 лістапада была ў вобласьці α-β-γ Авена. 27 лістапада яна была ў сузор'і Мухі. 28 лістапада яна яшчэ заставалася тут. 29 лістапада яна была ў вобласьці Пляяд. 30 лістапада – у вобласьці α-γ-δ Цяляці (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1356 г. Верасень 21 (Сонца ў Панне). Бачылі камету проста на ўсходзе. Яна з'явілася ў вобласьці Рэгула ў кутку налева ад вялікай зоркі гэтага сузор'я. Яна была блакітнавата-белая. Хвост паказваў на паўднёвы захад, даўжыня да лакця. Яна была ў 17,1° ад сузор'я Chang. Яна ішла да паўночнага захаду каля 40 дзён (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1360 г. Сакавік 12 (Сонца ў Рыбах). Была камета на паўночным усходзе (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1362 г. Сакавік 5. (Сонца ў Рыбах). Бачылі камету са свячайся абалонкай каля лакця даўжынёй, блакітнавата-белага колеру ў вобласьці α Вадаліва і θ-ε Пегаса. 17 сакавіка яна прайшла каля заходняй зоркі вобласьці λ-μ-ν-η-ο-τ Пегаса. Пад канец другога месяца яе сьвяцячаяся абалонка была каля 20 локцяў даўжыні. 28 сакавіка камета не магла быць бачнай як зорка, а толькі як белыя выпарэнні, сагнутыя на выгляд, распасьціраючыяся праз неба і паказваючыя на захад. Яны засланілі Арктур. 1 красавіка камета прайшла перад χ Вялікай Мядзьведзіцы, мела выгляд зоркі без хваста. Яна была падобнай на вялікі кубак для віна, белага колеру, падобна змярканню, на 6° ад вобласьці Пляяд, 7 красавіка пачала знікаць (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1362 г. Чэрвень 29 (Сонца ў Двайнятах). Была бачнай камета ў Коле Вечнай Бачнасьці амаль на 3° вобласьці Казярога, белага колеру. Яе сьвяцячаяся абалонка была каля лакця даўжыні, паказвала на паўднёвы ўсход, ішла на паўднёвы захад. 6 ліпеня яе хвост засланіў θ Цмока. 2 жніўня яна пачала знікаць (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1363 г. Сакавік 16 (Сонца ў Рыбах). Была бачнай камета на ўсходзе на працягу месяца (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1366 г. Кастрычнік 25 (Сонца ў Шалях). Бачылі камету ў Коле Вечнай Бачнасьці, каля δ Вялікай Мядзьведзіцы і α-β Вялікай Мядзьведзіцы. Колерам яна была падобнай на жменю мукі. Яна ішла на паўднёвы ўсход і прайшла паблізу зорак β-γ Цмока. 26 кастрычніка яна была на $23^{1}/_{2}°$ вобласьці ε-μ-ν Вадаліва. 27 кастрычніка яна была на $2^{1}/_{2}°$ вобласьці ε-μ-ν Скарпіёна. 28 кастрычніка яна была на 10° гэтай вобласьці. 29 кастрычніка яна была на 1° вобласьці β Вадаліва. 30 кастрычніка з'явілася ў Коле Вечнай Бачнасьці паміж зоркамі δ Вялікай Мядзьведзіцы і ε Вялікай Мядзьведзіцы. Потым была ў вобласьці β Крумкача. Накіравалася на паўднёвы ўсход і прайшла праз вобласць β-γ Цмока. Перасекла вобласць β-δ Ліры, η-θ Ліры і вобласць β Вадаліва, на захад ад маленькіх зорак Вадаліва і Рыб і тады пачала знікаць (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

Можна думаць, што непаслядоўнасць гэтага шляху залежыць ад таго, што што больш позныя назіранні былі занесены як папярэднічаўшыя.

## РАЗДЗЕЛ V.

### Каметы ад 1368 да 1644 года нашай эры. (Дынастыя Мінг).

1368 г. Люты 7 (Сонца ў Вадаліве). Бачылі камету ў вобласьці Пляяд і Цяляці (Шэ-кэ, «Дадаткі» да Ма-Туан-Лінь).

1368 г. Красавік 8 (Сонца ў Авене). З'явілася камета на поўнач ад Пляяд, паміж β Пярсея і вобласьцю α-γ-δ Пярсея, каля васьмі локцяў даўжыні, паказваючая на зоркі θ-ν Вялікай Мядзьведзіцы. Прайшла каля вобласьці α-β Возніка і β Цяляці. 26 красавіка знікла на поўнач ад гэтай вобласьці (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь). Магчыма, што гэта працяг папярэднічаўшай каметы.

1373 г. Травень (Сонца ў Цяляці). Тры каметы зайшлі ў Кола Вечнай Бачнасьці (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1376 г. Чэрвень 22 (Сонца ў Двайнятах). Бачылі вялікую зорку, падобную на круглы мяч, белага колеру ў вобласьці ι-θ-η Кіта. Яна прайшла α, δ, ε Рыб і ν Пярсея, зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці, засланіла θ, φ і ν Вялікай Мядзьведзіцы і паказвала на δ Цмока. Зайшла ў вобласць κ-λ-μ і іншых зорак Гідры і 8 жніўня знікла (Шэ-кэ).

1378 г. Верасень 26 (Сонца ў Панне). Была бачнай зорка на паўночным усходзе ў вобласьці α-β Возніка і β Цяляці. Яна распусьціла хвост каля дзесяці локцяў даўжыні. Яна прайшла над τ і іншымі зоркамі Вялікай Мядзьведзіцы і зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці. Засланіла пяць зорак каля Палярнай, у тым ліку і апошнюю. Прайшла над η Цмока і зайшла ў прастору абмежаваную Змеем. Там заставалася да 10 лістапада, калі, з нагоды хмарнага надвор'я, зрабілася нябачная (Шэ-кэ). Лічыцца за васямнаццатае (??) гістарычнае з'яўленне каметы Галея.

1385 г. Кастрычнік 23 (Сонца ў Шалях). Была бачнай камета паміж Ільвом і Паннай. Яна ішла паблізу β Панны і прайшла праз прастору паміж β і η Панны. 30 кастрычніка яна зайшла ў вобласць α-β і інш. зорак Чаркі, і тады яе даўжыня складала каля дзесяці локцяў. 4 лістапада яна зайшла ў вобласць Гідры паміж Чаркай і Крумкачом і засланіла зоркі ў Караблі (Шэ-кэ).

1388 г. Сакавік 29 (Сонца ў Рыбах). З’явілася зорка ва ўсходняй частцы вобласьці γ Пегаса і α Андрамеды (Шэ-кэ).

1391 г. Травень 23 (Сонца ў Цяляці). З'явілася тры каметы. Адна зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці, праз месца паміж α і ι Цмока, прайшла паблізу θ Цмока. Другая прайшла каля зорак Жырафа, захапіла дробныя зоркі каля Палярнай (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1407 г. Снежань 14 (Сонца ў Стралку). Бачылі камету (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1430 г. Верасень 9 (Сонца ў Панне). Была бачнай зорка паблізу вобласьці α-β і іншых зорак Малога Сабакі, падобная на вялікі круглы мяч, цёмна-блакітнага колеру. Праз 26 дзён яна знікла (Шэ-кэ).

1430 г. Лістапад 14 (Сонца ў Стралку). Незвычайная зорка была бачнай на поўдзень ад δ-ε-μ-ν Рыб, накіраваная на паўднёвы ўсход. Яна перасякла вобласць ν-θ-η Кіта і малыя зоркі ніжэй Кіта. Праз 8 дзён знікла (Шэ-кэ).

1431 г. Студзень 3 (Сонца ў Стралку). Была бачнай зорка падобная на круглы мяч, паблізу μ, ω і іншых зорак Эрыдана, жаўтавата-белага колеру. Яна была не яскравай і праз 15 дзён знікла (Шэ-кэ).

1431 г. Травень 15 ці 27 (Сонца ў Цяляці). Была камета ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε-λ Двайнят, каля пяці локцяў даўжыні (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь). Біо дапасуе яе да 27 траўня, што таксама магчыма.

1432 г. Люты 3 (Сонца ў Вадаліве). З'явілася камета на ўсходзе каля дзесяці локцяў даўжыні. Яе хвост засланіў вобласць α-γ-δ-ε Лебедзя. Ішла на паўднёвы ўсход. Праз 9 месяцаў пачала знікаць (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь). Біо лічыць замест 9 месяцаў 9 дзён, што больш верагодна.

1432 г. Люты 29 ці кастрычніка 26 (Сонца ў Рыбах ці ў Шалях). З'явілася другая камета на ўсходзе. Знікла пасьля 17 дзён (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1433 г. Верасень 15 (Сонца ў Панне). З'явілася камета ў вобласьці θ-ι-κ Валапаса, больш дзесяці локцяў даўжыні. 2 кастрычніка зайшла ў Паўночны Вянок і засланіла вобласць δ-μ Валапаса. 12 кастрычніка зноў зайшла ў вобласць, абмежаваную Змеем, і засланіла α Геркулеса. Была бачнай 24 дні (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1439 г. Сакавік 25 (Сонца ў Рыбах). Бачылі камету ў вобласьці δ-κ-λ-μ Гідры. Была вялікая, як шар. 2 красавіка дасягнула 50 локцяў у даўжыню. Ішла на захад, засланіла вобласць Ільва і κ-ξ Рака. Потым прайшла на поўнач у вобласць γ-δ-η-θ Рака (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1439 г. Ліпень 12 (Сонца ў Раку). Бачылі камету ў вобласьці γ Пегаса і α Андрамеды, каля дзесяці локцяў даўжыні. Паказвала на паўднёвы захад. Была бачнай 55 дзён (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1444 г. Жнівень 6 (Сонца ў Ільве). Была камета ў вобласьці паміж Ільвом і Паннай на ўсходзе, больш дзесяці локцяў даўжыні, паступова павялічвалася ў даўжыню да 15 жніўня, калі зайшла ў вобласць α-ζ Панны і знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1449 г. Снежань 20 (Сонца ў Стралку). Пабачылі камету ў вобласьці, акрэсленай Змеем, каля μ Змеятрымальніка. Прайшла да вобласьці ε-μ-ν Скарпіёна, была роўнай два локці даўжынёй. Знікла 12 студзеня 1450 года (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1450 г. Студзень 19 (Сонца ў Казярогу). З'явілася камета ў вобласьці, акрэсленай Змеем. Засланіла зоркі каля θ Геркулеса (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь). Відавочна тая ж самая, што і папярэдняя.

1452 г. Сакавік 21 (Сонца ў Рыбах). Была камета ў вобласьці α-γ-δ-ε Цяляці (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь). Біо дапасуе яе да 5 сакавіка, што няслушна.

1453 г. Студзень 4 (Сонца ў Стралку). Была бачнай зорка, ішоўшая павольна да захаду, у вобласьці γ-δ-η-θ Рака, паблізу згуртавання Ясьлі (Шэ-кэ).

1456 г. Травень 27 (Сонца ў Цяляці). Пабачылі камету на паўночным усходзе трох зорак Мухі, роўную два локці даўжыні, паказваючую на паўднёвы захад. 7 чэрвеня яна паступова павялічылася да дзесяці локцяў. Потым яе бачылі на паўночным захадзе ад вобласьці δ-ε-ζ-θ Гідры. Тады яна была дзевяці локцяў даўжыні, засланіла Рэгул і зоркі Ільва. Пад час дня Kea Woo яе бачылі ў вобласьці κ-λ-μ Гідры каля сямі локцяў даўжыні, яна засланіла паўночную частку вобласьці паміж Ільвом і Паннай. Ішла на паўднёвы захад. 6 ліпеня зайшла ў вобласць паміж Ільвом і Паннай, была роўнай каля локця даўжыні (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь). Лічыцца за дзевятнаццатае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

1457 г. Студзень 14 (Сонца ў Казярогу). Пабачылі другую камету ў вобласьці α-γ-δ-ε Цяляці, у $^1/_2$ локця даўжыні. Ішла на паўднёвы ўсход, увесь час даўжэла да 23 студзеня і знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1457 г. Чэрвень 15 (Сонца ў Двайнятах). Пабачылі камету ў вобласьці α Вадаліва і θ-ε Пегаса, падобную на зорку β Валапаса. Яна ішла на ўсход. Яе сьвяцячаяся абалонка была $^1/_2$ локця даўжыні, паказвала на паўднёвы захад. 22 чэрвеня яна была бачнай ў вобласьці α-β Пегаса, каля дзесяці локцяў даўжыні і яе хвост распасьціраўся на усход у вобласць γ Пегаса, α Андрамеды і Трохкутніка да

3-яй зоркі каля ν Пярсея, да вобласьці δ-ε-λ-μ Двайнят і другой паўднёвай зоркі ў вобласьці ζ-θ-ο-π Малога Сабакі (Шэ-кэ «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1457 г. Кастрычнік 26 (Сонца ў Шалях). Бачылі камету каля α Панны роўную каля $^1/_2$ локця даўжыні, паказваючую на поўнач. Прайшла каля Паўночнай зоркі (ζ) вобласьці Панны і ўсходняй зоркі вобласьці θ Панны (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1458 г. Снежань 24 (Сонца ў Стралку). Была бачнай зорка белага колеру ў вобласьці θ-τ і іншых зорак Гідры, якая павольна ішла на захад да 27 снежня, калі яе цела пачало блякнуць. Яе выгляд быў падобным на муку ці шаўковыя ачэскі. Месца яе было каля α-γ і іншых зорак Ільва. 31 снежня яна выпусьціла хвост, каля 0,5 локця даўжыні. Яна засланіла паўночна-заходнюю зорку ў вобласьці λ-μ і іншых зорак Рака і 12 студзеня знікла ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят (Шэ-кэ).

1461 г. Чэрвень 29 (Сонца ў Двайнятах). Была бачнай зорка, падобная на белую муку, паблізу β і γ Змеятрымальніка, у вобласьці, акрэсленай Змеем. 2 жніўня яна ператварылася ў белае выпарэнне і знікла (Шэ-кэ).

1461 г. Жнівень 5 (Сонца ў Ільве). Бачылі камету на ўсходзе. Паказвала на паўднёвы захад. Зайшла ў вобласць λ Двайнят. Пачала знікаць 2 верасня (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1462 г. Чэрвень 29 (Сонца ў Двайнятах). Была бачнай блакітнавата-белая зорка каля δ Касіяпеі, зайшоўшая ў Кола Вечнай Бачнасьці. Яна засланіла ω і іншыя зоркі ў Вялікай Мядзьведзіцы. 16 ліпеня яна была ніжэй ад λ і μ Вялікай Мядзьведзіцы. Яе абрыс паступова пацямнеў (Шэ-кэ).

1465 г. Сакавік (Сонца ў Рыбах). Бачылі камету. На наступны месяц яе зноў бачылі на паўночным захадзе, каля 30 локцяў даўжыні. У красавіку знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1468 г. Верасень 18 (Сонца ў Панне). З'явілася зорка на 5° вобласьці α Гідры. Пяць дзён яна ішла на паўночны ўсход. Яе сьвяцячаяся абалонка была 30 локцяў даўжыні. Хвост паказваў на паўднёвы захад. Яна потым ператварылася ў камету і была бачнай раніцамі на ўсходзе. Вечарамі яна была бачнай на поўдзень ад вобласьці α-β Пегаса. Прайшла праз San Kong, вобласць α-β-γ Вялікай Мядзьведзіцы, η Вялікай Мядзьведзіцы, δ-μ Валапаса, павярнулася і зайшла ў вобласць акрэсленую Змеем, пакінула яе і паступова памяншалася. 8 снежня знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1472 г. Студзень 16 (Сонца ў Казярогу). Бачылі камету ў вобласьці σ-τ Панны; паказвала на захад, раптам павярнула на поўнач. Прайшла праз вобласць η-ν-τ Валапаса, засланіла Shang Tseang вобласць паміж зоркамі Ільва і Панны, а таксама зорку Hing Chin у Валасах Веранікі, ε Ільва і 2567-ую Ільва. Хвост паказваў прама на захад, засланіў вобласць паміж Ільвом і Паннай і Валасы Веранікі. 21 студзеня яе бліскучая абалонка моцна павялічылася, распасьціралася з усходу на захад праз неба, ішла на поўнач на 28°, прайшла каля вобласьці ν-θ-κ Валапаса і засланіла сем зорак Вялікай Мядзьведзіцы, тры зоркі ў галаве Астэрыёна і χ Вялікай Мядзьведзіцы. Зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці і, кажуць, была бачнай пры поўным дзённым сьвятле. Прайшла каля β Малой Мядзьведзіцы, у чатырохкутнік Вялікай Мядзьведзіцы і ζ Малой Мядзьведзіцы, α Вялікай Мядзьведзіцы, вобласьць φ-σ Вялікай Мядзьведзіцы і малых зорак Вялікай Мядзьведзіцы, вобласьць φ-μ Вялікай Мядзьведзіцы да Палярнай Зоркі, Shang Wei у Жырафе, да Цэфея, вобласьці ν-ξ-ο-π Касіяпеі, вобласьць θ-υ-φ Вялікай

Мядзьведзіцы і ι-κ яе ж. 27 студзеня накіравалася на поўдзень, прайшла праз вобласць ε-β-ο-ζ Авена, δ-ξ Авена, вобласць α-δ-ε Рыб і зоркі Кіта. 17 лютага прайшла праз згуртаванне α-δ-ε Рыб у вобласць β-δ-ε Андрамеды. Пачала слабець і пасьля гэтага хутка канчаткова знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1490 г. Снежань 31 (Сонца ў Стралку). Пабачылі камету на поўдзень ад вобласьці α-β-γ-δ Лебедзя. Яе хвост паказваў на паўночны ўсход. Яна прайшла праз зоркі Пегаса. 10 студзеня 1491 г. зайшла ў вобласць α Пегаса. 22 студзеня зайшла ў вобласць η-θ-τ Кіта (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1491 г. Студзень 19 (Сонца ў Казярогу). Была бачнай зорка ў вобласьці, акрэсленай Змеем, ішоўшая на паўднёвы ўсход; 30 студзеня яна была бачнай ніжэй ад ι-η-θ Кіта. Паступова накіроўвалася да γ Пегаса і α Андрамеды (Шэ-кэ).

1495 г. Студзень 7 (Сонца ў Казярогу). Была бачнай зорка паблізу θ Змеятрымальніка. Яна павольна ішла да ζ-τ-σ Стралка да 20 лютага, калі яна зайшла ў вобласць α Вадаліва і θ-ε Пегаса (Шэ-кэ).

1499 г. Жнівень 16 (Сонца ў Ільве). Была бачнай камета каля зоркі Tsung у вобласьці акрэсленай Змеем. Яна зайшла ва ўсходнюю частку Кола Вечнай Бачнасьці, прайшла Shao Tsae і Shang Shoo. Закранула γ і β Малой Мядзьведзіцы і выйшла» із заходняй часткі Кола Вечнай Бачнасьці ў вобласць λ Цмока. Знікла 6 верасня (Шэ-кэ).

1500 г. Травень 8 (Сонца ў Цяляці). Бачылі камету ў вобласьці малых зорак Вадаліва і Рыб. Зайшла ў вобласць паміж α-β Пегаса ў γ Пегаса і α Андрамеды. Паступова падаўжэла да трох локцяў, паказваючы на тры згуртаванні із двух зорак у Пегасе і засланіла вобласць δ-ε-ζ Цэфея. Прайшла вобласць паміж Ільвом і Паннай, паступова слабеючы і, зайшоўшы ў Кола Вечнай Бачнасьці, наблізілася да ψ Цмока, прайшла праз α Цмока. 10 ліпеня знікла (гэтая камета III 1862, рассыпаўшаяся на метэарыты?). (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1502 г. Лістапад 28 (Сонца ў Скарпіёне). Паблізу Карабля была бачнай зорка ў вобласьці κ-λ-μ Гідры; яна дасягнула α і іншых зорак у Чарцы і, павярнуўшы назад, знікла 8 снежня (Шэ-кэ).

1506 г. Ліпень 31 (Сонца ў Раку). Пабачылі зорку на захадзе па-за Колам Вечнай Бачнасьці, падобную на вялікі шар, блакітнавата-белую. Праз некалькі дзён у яе з'явіўся маленькі хвост, калі яна была паміж вобласьцю α-β Арыёна і вобласьцю γ-ε-λ-μ Двайнят. Паступова даўжэючы, яна стала падобнай на венік, распасьціраючыся ў паўночна-заходнім накірунку да θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1506 г. Жнівень 10 (Сонца ў Ільве). Пабачылі сьветлую камету, ідучую на паўднёвы ўсход, роўную тром локцям даўжыні. Праз 3 дні яна падаўжэла да пяці локцяў. Яна засланіла верхнюю зорку вобласьці ν-ξ Вялікай Мядзьведзіцы і зайшла ў вобласць паміж Ільвом і Паннай (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь). Верагодна папярэднічаўшая.

1520 г. Люты (Сонца ў Вадаліве). Бачылі камету (Шэ-кэ. «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1521 г. Люты 7 (Сонца ў Вадаліве). З'явілася зорка на паўднёвым усходзе падобная на калышучыяся языкі полымя, белага колеру, даўжынёй ад 6 да 7 локцяў. Яна перасекла неба з захаду на ўсход і рассеялася (Шэ-кэ).

1523 г. Ліпень (Сонца ў Раку). Бачылі камету пасярэдзіне вобласьці Змея (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1529 г. Люты 5 (Сонца ў Вадаліве). Доўгая вялікая зорка перасекла неба. Тое ж адбылося і ў месяцы жніўні. (Шэ-кэ). (Відавочна метэарыты.)

1531 г. Жнівень 6 (Сонца каля Ільва). Бачылі камету на ўсходзе вобласьці γ-ε-λ Двайнят, каля лакця даўжыні. Яна засланіла α Ільва. Яе хвост паступова павялічваўся і ішоў да α Чары, дасягнуў сямі локцяў даўжыні, засланіў ψ Вялікай Мядзьведзіцы на паўночным усходзе. Яна зайшла ў вобласць паміж Ільвом і Паннай і засланіла Валасы Веранікі. Прайшла на паўднёвы ўсход, засланіла другую зорку на поўнач ад вобласьці ι-κ-χ-θ Панны. Паступова памяншаючыся, знікла праз 34 дні (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь). Лічыцца за дваццатае (??) з'яўленне каметы Галея за час нашай эры.

1532 г. Сакавік 9 (Сонца ў Рыбах). Была бачнай блакітнавата-белая зорка, з хвастом, на паўднёвым усходзе, знікшая праз 19 дзён (Шэ-кэ).

1532 г. Верасень 2 (Сонца ў Ільве). Была бачнай камета ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят. Яна была каля локця даўжыні. Потым яна дайшла да паўночнага ўсходу і прайшла праз α і іншыя зоркі Лебедзя. Паступова павялічылася да 10 локцяў у даўжыню. Засланіла зорку Choo паміж Ільвом і Паннай і зоркі паміж Коласам і γ Гідры, у прасторы паміж Коласам і ξ Панны. 26 снежня, пасьля заканчэння 115 дзён, яна знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1533 г. Ліпень 1 (Сонца ў Двайнятах). Бачылі камету ў вобласьці α-β-θ-κ Возніка і β Цяляці, роўную пяці лакцям даўжынёй. Яна засланіла Tse Ling і вобласць γ Андрамеды, Трохкутнік і суседнія зоркі. Паступова павялічылася прыблізна да 10 локцяў даўжыні. Засланіла ν-ε, ο, π Касіяпеі і прайшла над ω Лебедзя і зоркамі каля Яшчаркі. 16 верасня знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1534 г. Чэрвень 12 (Сонца ў Двайнятах). Была бачнай зорка ў вобласьці Лебедзя, Яшчаркі і Андрамеды. Яна прайшла праз θ-ρ-δ і іншыя зоркі Андрамеды і зайшла ў вобласць ν-ξ-ο Касіяпеі. На 24 дзень знікла (Шэ-кэ).

1536 г. Сакавік 24 (Сонца ў Рыбах). Паблізу β-γ Цмока была бачнай зорка, рухаючаяся на ўсход. Яна прайшла праз δ і іншыя зоркі Цмока на захад, зайшла ў Млечны Шлях і 27 красавіка знікла (Шэ-кэ).

1539 г. Красавік 30 (Сонца ў Авене). Была бачнай камета каля трох локцяў даўжыні. Была яскравая і паказвала на паўднёвы захад. Засланіла 8-ю зорку ў вобласьці α і іншых зорак Ільва. Знікла праз 10 дзён (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1545 г. Снежань 26 (Сонца ў Стралку). З'явілася зорка ў вобласьці β-γ Цмока, зайшла ў вобласць γ-δ-ε Стралка і павярнула на паўночны ўсход. Знікла пад канец месяца (Шэ-кэ).

1554 г. Чэрвень 23 (Сонца ў Двайнятах). Бачылі камету паблізу δ Вялікай Мядзьведзіцы. Яна зайшла ў прастору паміж θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы і прайшла блізка каля α Зьмея. Была бачнай 27 дзён (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1556 г. Сакавік 1 (Сонца ў Рыбах). Бачылі камету паблізу ψ, κ і іншых зорак у сузор'і Панны, даўжынёй больш локця. Яна паказвала на паўднёвы захад і паступова падаўжэла да трох локцяў. Засланіла прастору паміж Ільвом і Паннай, да паўночнага ўсходу ад δ Панны. Зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці і прайшла каля θ Цмока. 27 траўня знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1557 г. Кастрычнік 10 (Сонца ў Шалях). Бачылі камету ў вобласьці, акрэсленай Змеем, паблізу λ Змеятрымальніка і суседніх зорак, на паўночны захад (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1569 г. Лістапад 9 (Сонца ў Скарпіёне). Бачылі камету ў вобласьці абмежаваную Змеем, паказваючую на паўночны ўсход і знікла 28 лістапада (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1577 г. Лістапад 14 (Сонца ў Скарпіёне). Бачылі камету на паўднёвым захадзе, блакітнавата-белага колеру, даўжыня якой была вызначана ў 10 локцяў. Хвост быў чыста белага колеру. Ад вобласьці γ-δ-ε Скарпіёна і γ-δ-ε Стралка яна прайшла над ζ-τ-σ Стралка і α-β Казярога. Наблізілася да вобласьці ε-μ і іншых зорак Вадаліва, была бачнай на працягу месяца і потым знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1578 г. Люты 22 (Сонца ў Вадаліве). На захадзе з'явілася вялікая зорка, падобная на Сонца, аточаная з захаду вялікай колькасьцю іншых зорак (Шэ-кэ). (Метэарыт.)

1580 г. Кастрычнік 1 (Сонца ў Панне). Бачылі камету на паўднёвым усходзе, якая з кожнай ноччу патроху павялічвалася ў памерах. Яна прайшла ўздоўж Млечнага Шляху, была бачнай ў агульнай складанасьці на працягу 70 дзён, пасьля чаго знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» Ма-Туан-Лінь).

1582 г. Травень 20 (Сонца ў Цяляці). Бачылі камету на паўночным захадзе, падобную на клубок пафарбаванага шоўку. Яе хвост паказваў на вобласць α-β-θ-ι Возніка і β Цяляці. Яна знікла праз 20 дзён (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1584 г. Ліпень 1 (Сонца ў Двайнятах). З'явілася зорка ў вобласьці β-δ-π-ς Скарпіёна (Шэ-кэ).

1585 г. Кастрычнік 3 (Сонца ў Панне). З'явілася камета паблізу вобласьці δ-τ-α Вадаліва, больш локцяў даўжыні. З ночы ў ноч яна пасоўвалася на ўсход, паступова блякла і канчаткова знікла 17 лістапада (Шэ-кэ. «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1591 г. Красавік 3 (Сонца ў Авене). З'явілася зорка на паўночным захадзе, каля локця даўжыні, падобная на венік. Прайшла над α і іншымі зоркамі Вадаліва, вобласьцю α-β Пегаса і вобласьцю γ Пегаса і α Андрамеды. 13 красавіка зайшла ў вобласць α-β-γ Авена (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1593 г. Ліпень 20 (Сонца ў Раку). Была бачнай камета ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят. 9 жніўня яна пайшла адваротным шляхам, зайшла ў Кола Вечнай Бачнасьці і шчыльна наблізіліся да Hwa Kae (адна із маленькіх зорак у Касіяпеі ці Жырафе) (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1596 г. Ліпень 26 (Сонца ў Раку). Была бачна камета на паўночным захадзе, падобная на круглы мяч. Зайшла ў вобласць α і суседніх з ёй зорак Чаркі. Яна была даўжынёй каля локця і накіравалася на паўночны захад (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1604 г. Верасень 30 (Сонца ў Панне). Была бачнай зорка ў вобласьці ε-μ-ν і іншых у Скарпіёне, падобная на круглы мяч, чырванавата-жоўтага колеру. Яна была бачнай на паўднёвым захадзе каля месяца, а потым зрабілася нябачнай. 14 студзеня яна зноў з'явілася на поўднёвым-ўсходзе той жа вобласьці неба. Паступова пачала цьмянець і знікла 21 сакавіка (Шэ-кэ). Згодна з Біо – у другім выпадку – з'яўленні гэтай зоркі замест ε-μ-ν Скарпіёна адбываліся ў вобласьці β-δ-π Скарпіёна. Але згодна з Шэ-кэ – як апісана вышэй.

1607 г. Верасень 11 (Сонца ў Панне). Была бачнай камета ва ўсходняй частцы вобласьці γ-ε і іншых зорак Двайнят. Паказвала на паўднёвы захад і павольна ішла да паўночнага захаду. 2 кастрычніка яна прайшла ад β-δ Скарпіёна ў вобласць Антарэса і іншых зорак у тым жа Скарпіёне і знікла (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь). Лічыцца за дваццаць першае (??) з'яўленне каметы Галея з часу пачатку нашай эры.

1609 г. Была бачнай вялікая зорка на паўднёвым захадзе, хвост якой меў чатыры прамяні (Шэ-кэ).

1618 г. Лістапад 16 (Сонца ў Скарпіёне). З'явілася камета ў вобласьці α-β-γ Шаляў каля 10 локцяў даўжыні, паказваўшая на паўднёвы ўсход, і потым паступова перамяніла сваё становішча і пачала паказваць на паўночны захад. Засланіла χ Вялікай Мядзьведзіцы. Зайшла ў вобласць ι-κ-λ-θ Панны каля градуса да паўночнага захаду. Засланіла сем зорак Вялікай Мядзьведзіцы, β і γ яе ж, потым θ, ν, φ Вялікай Мядзьведзіцы і вобласць α-β-θ Возніка і β Цяляці. Мінула Кола Вечнай Бачнасьці і знікла 25 снежня (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1618 г. Лістапад 24 (Сонца ў Скарпіёне). Былі бачнымі белае выпарэнне на паўднёвым усходзе, каля локця шырыні і 20 локцяў даўжыні, пашыраўшаеся ад усходу да захаду ў вобласьці β і іншых зорак Вадаліва. Яно прыйшло ў вобласць α і іншых зорак Чаркі і знікла праз 19 дзён (Шэ-кэ).

1618 г. Снежань 5 (Сонца ў Скарпіёне). Раніцай была бачнай зорка, падобная на белую кветку (Шэ-кэ).

1619 г. Люты (Сонца ў Вадаліве). Бачылі камету на паўднёвым усходзе, роўную прыблізна каля 100 локцяў даўжыні. Яе бліскучая абалонка паказвала якраз у адваротны бок, заканчэнне ж было акругленым і завостраным (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь.)

1621 г. Травень 12 (Сонца ў Цяляці). На ўсходзе была бачнай зорка чырванаватага колеру (Шэ-кэ).

1639 г. Была бачнай камета ў вобласьці α-β-γ-δ і іншых зорак Арыёна (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

1640 г. Снежань 12 (Сонца ў Стралку). Была бачнай камета (Шэ-кэ, «Дадатак» да Ма-Туан-Лінь).

---

Заканчэнне Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь.

# Глава V.

## Класіфікацыя камет папярэдняй главы па сузор'ях для праверкі еўрапейскай храналогіі і еўрапейскіх запісаў пра каметы.

У дадатак да гэтага рэестра камет я дадаю спіс усіх сузор'яў у якіх яны пазначаны ў вышэйпаказаных энцыклапедыях XVII стагоддзя нашай эры, знойдзеных у Кітаі, для таго каб бачачы ў еўрапейскіх пісьменнікаў, прэтэндуючых на старажытнасць, указанне на камету ў нейкім сузор'і, зараз жа праверыць яго грунтуючыся на толькі што прыведзеных паведамленнях.

ТАБЛІЦА VIII.

Сузор'і і гады камет.

Андрамеда. Мінус 75, плюс 39, 141, 188, 238, 296, 336, 400, 423, 565, 594, 607, 841, 975, 1106, 1110, 1304, 1315, 1351, 1439, 1457, 1472. 1500 гады.

Двайняты. Мінус 239, мінус 109, мінус 11, плюс 55, 204, 213, 218, 390, 568, 607, 676, 837, 885, 894, 905, 989, 1003, 1066, 1151, 1264, 1301, 1313 1431, 1457, 1461, 1506, 1531 гады.

Вянок (паўночны). 61, 188, 206, 401, 442, 1301, 1315, 1337, 1433, 1472 гады.

Шалі. Мінус 11, плюс 276, 373, 423, 568, 837, 1066, 1095, 1222, 1337 гады.

Вадаліў. Мінус 157, мінус 154, плюс 131, 141, 238, 240, 373, 422, 565, 568, 594, 634, 837, 839, 841, 936, 1049, 1066, 1147, 1362, 1366, 1457, 1500 гады.

Вознік. 218, 442, 607, 663, 667, 683, 730, 770, 1003, 1066, 1368, 1472 гады.

Валапас. Мінус 203, мінус 11, плюс 61, 193, 276, 575, паміж 710-713, 828, 886, 891, 893, 989, 1222, 1226, 1362, 1433, 1457, 1468 гады.

Валасы Веранікі. 75, 182, 565 (2 разы), 641, 834, 905, 1066, 1080, 1226, 1531 гады.

Крумкач. 247, 248, 253, 259, 268, 275, 373; 1080, 1095, 1237, 1366 гады.

Геркулес. Мінус 515, мінус 137, плюс 218, 236, 301, 415, 941, 1095, 1126, 1337, 1433, 1450 гады.

Гідра. Мінус 137, плюс 22, 65, 75, 141, 180, 238, 245, 279, 373, 393, 760, 837, 912, 975, 1018, 1035, 1066, 1080, 1264, 1439, 1456, 1468 гады.

Голуб. 1299 год.

Панна. Мінус 137, мінус 134, мінус 11, плюс 60, 65, 71, 75, 178, 182 (181), 192, 193, 204, 207, 218, 222, 225, 232, 253, 257, 259, 262,296, 340, 343, 349, 363, 373, 390, 400, 402, 418, 419, 449, 451, 568, 607, 615, 641, 676, паміж 710-713, 760, 815, 821, 834, 837, 891, 893, 943, 1066, 1080, 1226, 1232, 1237, 1444, 1456, 1457, 1472, 1500, 1506, 1531 гады.

Дэльфін. 767 год.

Цмок. 1337, 1362, 1366, 1391, 1500 гады.

Жырафа. 1337, 1391, 1472 гады.

Зьмей. Мінус 11, плюс 76, 149, 178, 188, 193, 363, 373, 401, 415, 568, 681, 891, 893, 905, 941, 1095, 1301, 1337, 1433, 1449, 1450, 1468, 1523 гады.

Змеятрымальнік. Мінус 146. Плюс: 123, 236, 767, 1301, 1337, 1449 гады.

Касіяпея. Мінус 48, плюс 84, 265, 400, 1240, 1315, 1472 гады.

Кіт. 1472, 1490 гады.

Казярог. Мінус 4, плюс 66, 76, 131, 301, 588, 891, 928, 936,1362 гады.

Лебедзь. 238, 401, 1304, 1432, 1490 гады.

Леў. Мінус 137, мінус 11, плюс 65, 71, 75, 101, 141, 182, 204, 218, 222, 225, 253, 277, 279, 281, 296, 340 (?), 343, 390, 400, 402, 418, 419, 449, 451, 574, 607, 615, 641, 760, 815, 821, 834, 837, 891, 893, 905, 912, 1018, 1066, 1080, 1356, 1439, 1444, 1456, 1472, 1500, 1506, 1531 гады.

Леў Малы. 65, 204, 236 гады.

Ліра. Мінус 137, плюс 1366 гады.

Мядзьведзіца Вялікая. Мінус 610, мінус 238, мінус 138, мінус 110, мінус 77, плюс 182, 206, 218, 276, 296, 303 (?) 305, 390, 418, 442, 565 (3 разы), 574 (два разы), 607, 615, 676, 739, 886, 891, 893, 905, 1018, 1056, 1066, 1126, 1133, 1264, 1293, 1301, 1337, 1362, 1366, 1368, 1468, 1472, 1506 (два разы), 1531 гады.

Мядзьведзіца Малая. Мінус 76, плюс 236,1066,1126,1337,1391,1472 гады.

Муха. 81, 252, 277, 358, 616, 708, 760, 864, 1106, 1132, 1351, 1456 гады.

Авен. Мінус 75, плюс 77, 539, 568, 594, 607, 760, 864, 868, 1049,1106, 1110, 1351, 1472 гады.

Арыён. Мінус 146, мінус 72, мінус 49, плюс 252, 760, 773, 851, 956, 1003, 1145, 1264, 1506 гады.

Арол. Мінус 3, плюс 253, 388, 681 гады.

Пегас. Мінус 156, мінус 32, плюс 39, 131, 141, 161, 238, 251, 422, (два разы), 565 (два разы), 568, 594, 615, 634, 837 (два разы), 840, 841 (два разы), 936, 975, 998,1066, 1147,1240,1304, 1315, 1362, 1439, 1457, 1468, 1490, 1500 гады.

Сабака Вялікі. 107 (?), 180 гады.

Сабака Малы. 102, 829, 1457 гады.

Пярсей. 60, 65, 296, 358, 423, 568, 607, 616, 839, 869, 885, 989, 1368, 1457 гады.

Рак. 204, 343, 568, 760, 885, 894, 975, 1003, 1264, 1439 гады.

Рыбы. Мінус 158, мінус 75, плюс 141, 188, 240, 296, 336, 400, 594, 607, 1036, 1106, 1110, 1351, 1366, 1472, 1500 гады.

П. Рыба. 481.

Скарпіён. Мінус 530, мінус 234, мінус 156, мінус 146, мінус 133, мінус 11, плюс 66, 161, 188, 206, 240, 415, 568, 837, 838, 856, 886, 1066, 1080, 1222, 1337, 1340, 1366, 1449 гады.

Стралок. Мінус 501, мінус 239, мінус 146, мінус 47, мінус 11. Плюс 66, 131, 240, 287, 329, 386, 539, 837 (два разы), 838, 886, 891 гады.

Цяля. 39, 71, 141, 218, 248, 304, 305, 442, 451, 565, 607, 616, 639, 667, 683, 708, 730, 760, 817, 821, 1066, 1106,1337,1351,1362, 1368,1452,1457 гады.

Трохкутнік. 1457 год.

Цэфей. 1472, 1500 гады.

Цэнтаўр. 173 ці 185 гады.

Чарка. Мінус 71, мінус 69, плюс 232, 248, 276, 373, 561, 821, 1035, 1080, 1531 гады.

Эрыдан. 102, 110, 178, 442 гады.

Яшчарка. 238, 1304 гады.

* * *

Каб паказаць, як хутка робіцца грунтуючыся на гэтым рэестры праверка еўрапейскіх першакрыніц на знойдзеных у Кітаі, прывяду прыклад, які я ўжо разбіраў у першай кнізе «Хрыста».

Кожнаму вядома біблейская легенда пра баль Валтасара, калі «на сьцяне палаца Валадара» (г.азн. не самога Валтасара, як няправільна перакладаюць, а на злёгку затуманеным небе, як палацы «валадара ўсіх людзей») з'явілася палаючая рука напісаўшая фатальныя словы: «Мані, Фарел, Фарэс» згодна са славянскім тэкстам і «Мене-мене, Тэкэл у Парсін» згодна з жыдоўскім, што азначае: «Вымяраючы памераў, Шалі і Пярсея» (пры гэтым пярсей тут азначае персіянін ці нават парыжанін, parisien).

Я ўжо даводзіў у першай кнізе «Хрыста», што гэта проста паданне пра камету прайшоўшую із сузор'я Шаляў да сузор'я Пярсея праз сузор'е Змеятрымальніка, які, згодна з біблейскай сімвалістыкай, лічыцца вымяралькам неба, таму што праз пэндзаль яго рукі праходзіць нябесны экватар, гэтая «вымяральная верв» (вяроўка).

Калі магло быць напісана нешта падобнае? Грунтуючыся на еўрапейскіх першакрыніцах мы нічога тут не вырашым, таму што ў іх нідзе няма апісання шляху камет па сузор'ях, а толькі супастаўленні іх з рознымі незвычайнымі падзеямі на Зямлі, накшталт, напрыклад, такога ў Рокенбаха (нават у вельмі больш позніх апісаннях):

«*У 1254 годзе ад Н. Х. на працягу некалькіх месяцаў была бачнай камета ў Германіі. За ёй прыйшлі незвычайныя вятры, перакульваўшыя халупы, сядзібы і дрэвы і*

*прынёсшыя вялізныя бедствы і людзям, і быдлу. Фларэнтыйцы і пізанцы жорстка варагавалі і ўступілі ў бой каля Атэінскай гары. У Веронскай вобласьці кабыла нарадзіла чатырохногую пачвару з чалавечай галавой. На яго мармытанне, віск і смутнае гудзенне чалавечай гаворкі прыбег селянін той вёскі і, здзіўлены ніколі нябачаным відовішчам, забіў пачвару вялізным мячом, пацягнуў яе ў суд, і «запытаны пра нагоды такога незвычайнага нараджэння і пра нагоду забойства, адказаў, што зрабіў апошняе ад перапалоху і агіды, і пасьля гэтага быў адразу вызвалены ад якога б то ні было пакарання* (Lubienietzki, CCLVIII).

Што можна выкарыстаць із падобных апісанняў? У іх можна толькі бачыць адмысловы намёк на з'яўленне каметы пад час пазначанага года і на абуджаныя ёю забабонныя апавяданні. Але, правяраючы гэты выпадак грунтуючыся на прыведзеных мной кітайскіх паведамленнях, мы бачым, што ў 1254 годзе ў іх не паказваецца ніякай каметы, гэта азначае не толькі народжэнне жарабёнка з чалавечай галавой, але і сама камета 1254 года сумнеўная.

Зробім зараз такую ж праверку каметы «Мані-Факел-Фарэс», ход якой біблейскі аўтар патлумачыў як прадвесьце пераходу нечыяй улады да «персаў», як пад час сярэдневечча называлі як малаазійскіх магаметанаў (зараз туркі), так, магчыма і французаў (parisiens).

Дзякуючы таму што Змеятрымальнік, Змей і Скарпіён зліваюцца сваімі контурамі, то пазначым з левага боку табліцы IX усе гады, пад час якіх у іх з'яўляліся каметы, узяўшы годы із толькі што прыведзенага паказальніка шляхоў камет па сузор'ях (таб. VIII). Гэта будзе «першапачатковы радок» нашага дасьледавання. А на правым боку той жа таблічкі напішам паралельна з імі гады праходжанняў камет не толькі праз самога Пярсея, але і праз цесна кантактуючыя з ім сузор'і Андрамеды і Авена (табл. IX), і паглядзім, калі на абодвух баках выявяцца каметы тых жа самых гадоў, таму што толькі ў гэтым выпадку іх можна лічыць за тую ж самую камету, прыйшоўшую із вобласьці Шаляў і Змеятрымальніка ў вобласць Пярсея. У табліцы мы знаходзім толькі тры супадзенні першапачатковага радка з канчатковым: у «188» годзе, у «568» і ў 838-839. Які із гэтых гадоў задавальняе апісанню Бібліі?

ТАБЛІЦА IX.

Вызначэнне часу V главы (біблейскага прадказаня «Боскі Суд» (Данііл).

| Першапачатковыя шэрагі | | | Канчатковыя шэрагі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Скарпіён | Змеятрымальнік | Змей | Пярсей | Андрамеда | Авен | |
| –530<br>–234 | | | | | | –VI ст. |
| –156<br>–146<br>–133 | –146 | –11 | | –75 | –75 | –I ст. |
| + 66<br>161<br>**188** | + 123 | + 76<br>149<br>178<br>**188**<br>193 | + 60<br>65 | + 39<br>141<br>**188** | + 77 | + I ст.<br>II ст. |
| 206<br>240 | 236 | 363<br>373 | 296<br>358 | 238<br>296<br>336 | | III ст.<br>IV ст. |
| 415<br>**568** | | 401<br>415<br>**568** | 423<br>**568** | 400<br>423<br>515 | 539<br>**568**<br>594 | V ст.<br>VI ст. |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 594 | | |
| | 767 | 681 | 607<br>616 | 607 | 607<br>760 | VII ст.<br>VIII ст. |
| 837<br>**838**(?)<br>856<br>886 | | 891<br>893 | **839**(?)<br>869<br>885 | 841 | 864<br>868 | IX ст. |
| | | 905<br>941 | 989 | 975 | | X ст. |
| 1066<br>1080<br>1222 | | 1095 | | 1106<br>1110 | 1049<br>1106<br>1110 | XI ст.<br>XII ст.<br>XIII ст. |
| 1337<br>1340<br>1366<br>1149 | 1301<br>1337 | 1301<br>1337<br>1433<br>1449<br>1450<br>1468 | 1368<br>1437 | 1304<br>1315<br>1351<br>1457<br>1472 | 1351<br>1472 | XIV ст.<br>XV ст. |
| | | 1523 | | 1500 | | XVI ст. |

Паглядзеўшы на тэкст кітайскіх паведамленняў, мы зараз жа бачым, што ўказанне табліцы IX на «188» год не адпавядае падрабязнасьцям. У гэтым годзе, відавочна, былі дзьве каметы, а не з'яўленне той жа самай спачатку ў Скарпіёне, а потым у Пярсеі. Камета ў Пярсеі была ў сакавіку, а камета ў Скарпіёне (а таму магчыма і ў Шалях, і ў Змеятрымальніку) была ў ліпені, г.азн. ход яе быў бы адваротным паказанаму нам у Бібліі.

А ў «568» годзе ўсё адбывалася цалкам так, як апісана ў біблейскім тэксце. Паглядзеўшы ў наш каметны каталог пад «568» годам, мы бачым камету, якая, згодна з апісаннем кітайскіх гісторыкаў, з'явілася ў Двайнятах 21 ліпеня «568» года, калі Сонца было ў Раку. Гэта азначае яна была направа ад Сонца і, такім чынам, у стане ранішняй бачнасьці. Яна была тады «10 локцяў» даўжынёй, белая зверху і чырванаватая знізу і заканчвалася лязом. Праз месяц, 19 жніўня, калі Сонца перайшло ў Ільва, яна ішла за ім і знікла, відавочна, у праменях ранішняга світання за Сонцам у Раку. У другім запісе таго ж года мы бачым відавочна гэтую ж камету, перайшоўшую ў жніўні праз Ільва і Панну ў Шалі, хутка перагнаўшы Сонца ў Ільве. Пасьля гэтага яна перайшла ў Скарпіёна і Змеятрымальніка і апынулася ўжо налева ад Сонца, г.азн. у стане вечаровай бачнасьці, «белая як мука, як ачэскі шоўку». Яна «была вялікай, як вяроўка», і ішла на ўсход (ад заходзячага Сонца). У верасні, пры Сонцы ў Панне, яна перамясьцілася (і няйнакш, як праз Шалі) у Змея, павялічыўшыся ў даўжыню «да 40 локцяў» і робячыся «падобнай на дыню», што можна ўявіць і ў выглядзе кулака, і ў выглядзе грэцкай ω. Ідучы далей на ўсход (ад Сонца), яна прайшла (відавочна праз Арла) паміж Вадалівам і Пегасам, і ў кастрычніку, калі Сонца перайшло ў Шалі, прайшла паміж Андрамедай і Рыбамі ў Авена, г.азн. проста пад ногі Пярсея, дзе і знікла.

Увесь гэты доўгі шлях «каметы 568 года», яе незвычайная велічыня і трохмесяцовая працягласць сапраўды маглі абудзіць не мала астралагічных варожбаў, самай натуральнай із якіх і была тая, якую мы знаходзім у Бібліі ў кнізе «Суд Боскі» (Данііл па-жыдоўску). Здавалася, што Змеятрымальнік, у якім бачылі выяву Хрыста ўзносячагася на неба, стрымліваў Змея-спакусніка і, растаптаўшы нагой сьмерць у сімвале Скарпіёна, паказваў, што падчас знаходжання гэтай каметы ў Шалях, за Сонцам, ён узважыў справы людзей і прадказаў пераход улады да «персаў», як звалі тады як малазійцаў, так і французаў (parisi). Аднак ці

праўдзівая сама кітайская храналогія? У еўрапейскіх першакрыніцах, апроч гэтага біблейскага падання, згадваецца пра камету каля таго ж часу і ў Грэгарэвіуса, цытуючага вялікую КаметаграфіюЛюбянецкага.

«*Перад вялікай паразай авернаў, у тым годзе, калі ў Галіі на працягу двух месяцаў гулі горы, і ад адной із гор імкліва ўпаў у Рону адарваўшыся кавалак, над Арверніяй на працягу цэлага года паказвалася на падпаленым небе зорка з праменямі, падобнымі мячу, якую некаторыя звалі каметай*» (Greg. 4, з. 31).

Гэта таксама дае прамежак часу ад 560 да 570 года.

Але тут мы бачым тую ж астранамічную нявыразнасць еўрапейскіх апісанняў камет пры шматлікасьці фантастычных супастаўленняў, дзякуючы якой без знойдзеных у Кітаі запісаў мы былі б не ў стане ўсталяваць якую б там ні было навуковую храналогію калматых наведвальніц бачнай намі вобласьці неба, а з імі і старажытных дакументаў у якіх пра іх паведамляецца. Нават дакладнага года тут не паказана.

Ды і ў кітайскіх першакрыніцах мы бяром гады па-сутнасьці на веру. У кітайцаў жа, як я ўжо выказваўся, не існуе рукапісаў больш старажытных за XVII стагоддзе, калі Летапісы Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь кампіляваліся, магчыма, пры ўдзеле каталіцкіх місіянераў, кіраваўшых тагачаснымі кітайскімі абсерваторыямі і нават будаваўшымі іх для кітайцаў. Без сумневаў, тут шлях каметы 568 года апісаны так падрабязна і натуральна, што няма ніякіх падставаў сумнявацца ў дакладнасьці: такім яго мог даць толькі рэчаісны назіральнік, а не фантазёр, ды і месяцы, відаць, перакладзены тут із кітайскіх месяцаў на еўрапейскія юліянскія цалкам слушна. Няма сумневаў і ў тым, што гэта тая ж самая камета, якая апісана ў Бібліі, але дапасавана хрысьціянскімі хранолагамі да часу амаль на тысячу гадоў раней. Ды і год канчатковага стварэння біблейскага падання пра яе можа быць нашмат больш пазьнейшым за 568 юліянскі, хаця усё апісанне і адпавядаюць дайшоўшым да нас паданням пра жыццё таго часу.

Кніга «Данііл» напісана без сумневаў у Яўропе і хутчэй усяго там жа, дзе і прароцтва «Іезекііл», у якім прама паведамляецца, што аўтар рабіў свае астралагічныя назіранні сярод «жыдоў» на рацэ Эбра (Хабур па-жыдоўску), г.азн. у Гішпаніі. А згодна з гістарычнымі паведамленнямі маўры (г.азн. тыя ж жыды) ператварыліся тут у пануючы стан праз некалькі дзясяткаў гадоў пасьля гэтай каметы, сьледам за тым, як агаране (меўшыя нашмат больш падабенства з біблейскімі жыдамі згодна са сваім сямейным уладкаваннем, чым сучасныя жыды) сталі пануючым станамм у Ягіпце. Адпаведна гэтаму і ў прароцтве, складзеным, вядома, a posteriori, паведамляецца, што шлях «Палымянай Рукі» ад сузор'я Шаляў да Пярсея прадказваў пераход улады ад Брамы-госпада (Вавілона) да мідзянаў і персаў, пры гэтым Мідыяй магла звацца сучасная Мадзьярыя а не Персія, імя якой паходзіць ад жыдоўскага ПРС – сектант, адшчапенец, як пад час сярэдневечча паўсюдна называліся грэкамі не нашы сучасныя персы, а туркі-агаране, ціснуўшыя на прыканцы VII стагоддзя на лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкую імперыю Юстыніяна (527-565 гг.), і камета «Плымяная рука» згодна з гэтым вызначэннем прыпадае на час валадарання яго сына Юстына II (565-578 гг.), калі яе датаванне ў Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь (відавочна перапісаных адзін з другога) праўдзівая.

Такімі з’яўляюцца гістарычныя абставіны першых двух нашых астранамічных рашэнняў.

А трэццяе рашэнне, даваемае табліцай VIII, прыводзіць нас да каметы 838-839 гадоў, і пры ёй біблейскі пышны цар (Валтасар) атаясаміўся б з Людовікам

Набожным, якому пагражалі мадзяры і сарацыны, а цар-Прарок (Нова, па-славянску Навуходаносар) атаясаміўся б з Карлам Вялікім. Гэта была б камета Галея, якая, дзякуючы недакладнасьці тагачаснай храналогіі, падзялілася **дачасу** ў запісах на цэлае гняздо камет (837, 838, 839, 840 і 841 гг.).

# Глава VI.

## Наколькі праўдзівымі з'яўляюцца гістарычныя паведамленні, знойдзеныя ў выглязе міжнароднай пісьмовасьці на азіяцкім усходзе.



Мал. 44
Кітайская сьцяна. Дзіўная пабудова, адмяжоўваўшая нядаўні «нерухомы» Кітай ад паўночных качэўнікаў.

У IV главе я прывёў захаваўшыяся на азіяцкім Усходзе запісы пра каметы, пачынаючы з самых аддаленых часоў і паказаў, як імі карыстацца. Але ці можам мы, ведаючы што гэта не старажытныя рукапісы, а толькі позьнія кампіляцыі ведаў XVII стагоддзя без пазначэння першакрыніц і без гарантый праўдзівасьці перадачы, цалкам давяраць ім, і калі – так, то да якога часу?

Наколькі далёка ў глыб стагоддзяў заходзіць праўдзівая кітайская гісторыя?

Я ўжо выказваўся пра гэта, але маючы на ўвазе важнасць гэтага пытання для ўсталявання агульных законаў эвалюцыі чалавечай культуры, пагавару і яшчэ.

Нават і без прыведзеных у другой главе астранамічных меркаванняў, мы павінны сьмела сказаць, што праўдзівая гісторыя Кітайскай дзяржавы пачалася нашмат пазьней, чым запэўніваюць нас артадаксальныя гісторыкі «Нябеснай імперыі».

Адна думка пра тое, што знакамітая кітайская сьцяна (мал. 44), вышынёй ад 6 да 7 метраў, і таўшчынёй да трох (!?), цянучаяся на 3000 кіламетраў, была пачата будавацца яшчэ ў 246 годзе да пачатку нашай эры імператарам Шы-Хаангці і была закончана толькі праз 1866 гадоў, кля 1620 года нашай эры, да таго недарэчная, што можа дастаўляць толькі прыкрасць сур'ёзнаму гісторыку-мысляру. Кожная ж вялікая пабудова мае загадзя запланаваную практычную мэту і нават зараз, калі

буйныя дзяржаўныя дзеячы прызвычаіліся глядзець у сваіх пачынаннях праз галовы свайго пакалення ў аддаленую будучыню сваёй краіны, каму прыйшла б у галаву думка пачынаць вялізную пабудову, якая можа быць закончана толькі праз 2000 гадоў, а да таго часу будзе з’яўляцца толькі не маючым сэнсу цяжарам для насельніцтва? І калі нават першыя захапіўшыя ўладу ў Кітаі валадары і былі настолькі легкадумнымі і неразважлівымі, што палічылі, як міфічныя тытаны, што змогуць закончыць усю гэтую гіганцкую справу пры сваім жыцці, то на працягу першага ж стагоддзя пасьля іхнай сьмерці яна была б кінута іхнымі наступнікамі.

Пабудова такой сьцяны магла пачацца і завяршыцца толькі ў тым выпадку, калі вялікі лішак вельмі размножыўшагася і загусьцеўшага, дзякуючы шматстагоддзеваму мірнаму жыццю, насельніцтва ў Кітаі адчуў патрэбу адысьці ад земляробчай, прамысловай, абменнай ці дробна-індустрыйнай працы да нейкага новага вялікага занятку, і дзяржава, атрымліваючая штогадова ў сваё распараджэнне вялізную колькасць дададзеных каштоўнасьцей, надумала ўжыць гэты лішак як сродкаў, так і людзей на агараджэнне межаў сваёй краіны ад набегаў атачаючых качэўнікаў, выкарыстоўваючы для гэтага лішак свайго насельніцтва.

Але дапусьціць, што Кітай быў такім жа густа населеным 2000 гадоў таму назад, як і пад час апошніх стагоддзяў, мы не маем ніякай магчымасьці. У гэтым выпадку лішак яго народа паступова засяліў бы ўвесь захад Азіяцкага кантынента, на якім жыхароў было тады вельмі мала, і знакамітая «кітайская небяспека» непазбежна ўжо даўно была б рэчаіснасьцю. Толькі на прыканцы сярэднявечча, калі тэхніка на захадзе Старога Сьвету паднялася нашмат вышэй кітайскай, пераход ад наступальнай палітыкі да абарончай з дапамогай вялікую сьцяны мог стаць там адпавядаючым рэчаіснасьці. Ды і захавацца ў такім добрым стане як зараз, Кітайская сьцяна магла толькі ў тым выпадку калі ёй не больш за некалькі соцень гадоў.

Нам паведамляюць, што яшчэ за 522 гады «да Нараджэнння Хрыста», якраз адначасова з біблейскім Зарававелем, быццам бы яшчэ ў -536, -457 гадах паклаўшага падмурак адноўленаму ерусалімскаму храму і юдэйскаму набажэнству на захадзе Азіі, з'явіўся, дзякуючы нейкаму цудоўнаму супадзенню, і на ўсходзе гэтага кантынента заснавальнік новага культу св. Канфуцый ( -551, -479 гг.)[21]. Ён вучыў людзей, падобна апосталу Паўлу, падпарадкоўвацца дзейнічаючым законам і ўладам, чалавекашанаванню, правасуддзю, павазе да праўды і сумленнасьці ва ўсім. А ў Іране, у сярэдняй Азіі, – пераконваюць нас – з'явіўся, зноў жа ў той жа аддалены час («не пазьней V стагоддзя да пачатку нашай эры»), яшчэ трэцці знакаміты мараліст – Зараастр, ці Заратустра, які таксама вучыў праўдзівасьці, чысьціні жыцця і шанаванню бога сьвятла (Аўра-Маздзе) у вобразе полымя.

Ды і ў Індыі, і ў Тыбеце – дадаюць гісторыкі «Эпохі гуманізму» – з'явіўся якраз перад гэтым «Мудрэц» (такім з’яўляецца значэнне слова Буда), памёршы ў 543 годзе «да Нараджэнння Хрыста», і гэта было нагодай да з’яўлення рэлігіі прамудрасьці (будызма) з манашым, як у каталікоў, сьвятарствам і з кнігамі, напісанымі на санскрыцкай мове, карані слоў якой, як я ўжо паведамляў у III кнізе «Хрыста», большай часткай славянскага, грэцкага і лацінскага паходжання.

Калі верыць усім гэтым паведамленням, то атрымліваецца, што ў V-VI стагоддзях да пачатку нашай эры ўся Азія ад «узрушанай Юдэі да сьцен нерухомага Кітая» адначасова была ахоплена рэлігійным і маральным рэфарматарствам. А потым быццам бы ўсё гэта абвалілася...

[21] Я называю яго сьвятым, таму што такім ён лічыцца ў Кітаі, дзе яму моляцца і будуюць храмы.

«У трэццім стагоддзі да пачатку нашай эры – паведамляюць нам кітайскія гісторыкі XVII стагоддзя – ледзь толькі была пабудавана «першая знакамітая загараджаючая сьцяна», з'явіліся намаганні кітайскіх вяльможаў падзяліць толькі што адгарадзіўшуюся дзяржаву на асобныя часткі, і яны спасыліся на старажытныя кнігі, быццам бы паведамляючыя пра тое, што так і будзе. І вось праз гэта ўсе **кнігі ў Кітаі былі знішчаны** згодна з загадам імператара і такім чынам быў загадзя дадзены неаспрэчваемы адказ і на мае сумневы ў іхным існаванні. А старажытна-кітайская дзяржава ўсё ж распалася, г.азн. з рацыянальнага боку гледжання ніколі і не існавала да таго часу разам са сваім настаўнікам св. Канфуцыем, дапасаваным разам са св. Зараастрам і са св. Зараовавелем да V стагоддзя да пачатку нашай эры, з нейкага нашмат больш пазьняга часу.



Мал. 45.
Знак сузор'я Цмока вартуючага полюс экліптыкі, перайшоўшага ў Кітай у якасьці сімвала яго апекуна.

І вось, адпаведна з паведамленнямі кітайскіх гісторыкаў XVI-XVII стагоддзяў нашай эры, з'явілася ў Кітаі за паўтары тысячы гадоў да іх (ад -202 года да +223 года) дынастыя «ханаў», існаванне якой, асабліва пад час другой паловы

гэтага тэрміна, ужо немагчыма адкідваць простым смехам, як увесь папярэднічаўшы перыяд, кнігі якога «былі спалены імператарам».

Лічыцца (хаця гэта і вельмі цяжка з боку гледжання псіхалагічнай аперцэпцыйнасьці чалавечых уражанняў, выяўляючайся пры кожнай перадачы падамленняў ад асобы да асобы!), што перш чым патрапіць у маючыяся ў нас кітайскія манускрыпты і літаграфіі, старажытнасьць якіх, паўтараю, не пераходзіць XV стагоддзе нашай эры, старажытныя рукапісы сотні разоў перапісваліся кітайцамі з **бездакорнай дакладнасьцю**.

Нам надавалі ў якасьці тлумачэння падобнага цьверджання, што кітайцы з'яўляюцца нечым нападобе палеанталагічных закамянеласьцей якія застаюцца навекі нязменнымі ў струмені нясучыхся праз іх стагоддзяў.

«*У кітайца* – пераконвалі нас нашы настаўнікі, – *не існуе ўяўлення, ён здольны толькі памятаць сваю даўніну, але не думаць і ўяўляць, ды і сама яго мова з аднаскладовымі каранямі не прыдатная для тлумачэння складаных разуменняў і ўяўленняў. Яго вытанчаная літаратура і мастацтва з'яўляюцца* (мал. 45) *да гэтага часу дзіцячым лопатам, нягледзячы на дзіўную тэхніку іхных цацачных мініятур. Яго дзяржаўнае ўладкаванне існуе нязменным са спрадвечных часоў і ён няздольны да засваення іншага ладу*».

Але вось, ужо пад час нашыж дзён, грымнула кітайская рэвалюцыя. У Кітаі была абвешчана рэспубліка і ўяўленне пра нерухомы, закамянелы Кітай адразу знікла, як не адпавядаючае рэчаіснасьці. Зараз ужо немагчыма параўноўваць жоўтую расу з тымі відамі суставістых жывёл, якія, замкнуўшыся ў свае хітынавыя броні і скарацiўшы свой рост да межаў мурашак, прайшлі нязменнымі праз дзясяткі геалагічных перыядаў. Немагчыма зараз сцвярджаць і пра нязменнасць іхнай літаратуры на працягу тысячагоддзяў. Гэта азначае, нам патрэбна і кітайскія паведамленні правяраць астранамічнымі метадамі, не задавальняючыя тым, што зрабіў Біо і іншыя астраномы, распрацоўваўшыя сонечныя і месяцовыя зацьменні Шэ-кэ і Ма-Туан-Ліньа і зрабіўшыя выснову, што яны могуць лічыцца падмацаванымі вылічэннямі аж да пачатку нашай эры і нават стагоддзі за два да яе. Мы і тут ні на хвіліну не павінны забывацца, што сонечныя і месяцовыя зацьменні вельмі частыя, і таму пры заўсёды існуючай значнай нявызначанасьці старажытных паведамленняў можна для кожнага дзесяцігоддзя знайсьці прыдатнае зацьменне, а пра гараскапічныя запісы, якія адны здольны даць дакладны адказ пра час старэння ўтрымліваючага іх дакумента, мне да гэтага часу невядома ніводнага із кітайскіх ці із японскіх першакрыніц, самыя старажытныя рукапісы якіх, як я ўжо паведамляў, не ідуць глыбей за XV стагоддзе нашай эры.

У іх нават і для XVI і XVII стагоддзяў мы знаходзім не мала дзівацтваў.

Возьмем хаця б такое незвычайнае супадзенне. Каметныя запісы захавалі для нас, акрамя знойдзеных на азіяцкім Усходзе ў міжнародных зборніках Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь, яшчэ і еўрапейскіх зборніках Рокенбаха, Фабрыцыуса, Рычыолі, Эксторміуса і Любянецкага. І што ж мы бачым?

Апошняя камета датуецца:

у Рокенбаха –1596 годам,

у Фабрыцыуса –1604 годам,

у Рычыолі –1607 годам,

у Эксторміуса –1618 годам,

у аўтара «Летапісу (Шэ-кэ)» –1640 годам,

у «Ляснога каня (Ма-Туань-Ліна)», з так званымі; суплементамі таксама 1640 годам.

Што ж мы тут бачым? Цэлы шэраг каметаграфій ці дакументаў надаючых вялікую ўвагу каметам, з'яўляецца адначасова ў XVII стагоддзі як у Заходняй Яўропе, так і ў Кітаі, з якім тады Яўропа была ў цесных навуковых стасунках дякуючы каталіцкім місіянерам. І вось з'яўляецца пытанне: ці не прыклалі яны сваю руку і да давядзення самой «кітайскай гісторыі» назад да спрадвечных часоў?

І калі мне запярэчаць: кітайскія запісы пра каметы ўжо правяраліся астраномамі, якія выявілі ў іх нават перыядычнасць некаторых камет, то я адкажу: а ці дакладна гэтыя запісы з'яўляюцца кітайскімі, а не прынесены туды із еўрапейскіх першакрыніц каталіцкімі ці наогул хрысьціянскімі місіянерамі ў Кітаі?

Згадаем з гэтага боку гледжання сярэднявечную гісторыю Кітая і асабліва яго стасункі з захадам Старога Сьвету.

З падзеннем дынастыі Ханаў (у III стагоддзі нашай эры), Кітай – кажуць нам – распаўся (быццам бы ў другі раз!) на часткі, і татары ад 538 года заснавалі асобнае царства на прасторах яго паўночных абласьцей, а гэтае татарскае царства ў 552 годзе далучыла да сябе і Паўднёвы Кітай. Яшчэ да іх – пераконваюць нас –ў Кітаі з'явілася прыйшоўшая туды праз Тыбет «рэлігія мудрасьці» (будызм)[22], апошнія патрыярхі якой жылі ў Кітаі да 713 года, але толькі ў XIV стагоддзі іхны правадыр выяўляецца ў Тыбеце пад найменнем Да лай Лама (г.азн. Заморскі Пасьвячальнік) і каля гэтага ж часу, г.азн. у VIII стагоддзі, у Кітаі выяўляюцца нестарыяне, г.азн. прыхільнікі канстантынопальскага патрыярха Несторыя, памёршага, – кажуць нам, – каля 440 года нашай эры і вучыўшага, што Хрыстос быў простым баганосцам, а не богачалавекам, а яго маці Марыля была не баганараджальніцай, а хрыстанараджальніцай. Гэтае вучэнне, па сваёй сутнасьці тоеснае з арыянствам, было – кажуць нам – упершыню аспрэчана і праклята ў Візантыі на Эфескім саборы ў 423 годзе, але моцна пашырылася пасьля гэтага ў Азіі аж да Кітая.

Так было да 1279 года, калі манголы пад правадырствам Кублай-хана завалодалі Кітаем і зрабілі сваёй рэзідэнцыяй Пекін (1280-1367), і ў гэты ж час у Пекін прыехалі морам дзякуючы развіццю ветразёвага караблеплавання ў Яўропе каталіцкія місіянеры, якія пачалі ўкараняць там разам з навукай пра боскасць Хрыста і свае навукі; астралогію, алхімію, медыцыну, гісторыю дзяржаў і г.д.

Пасьля падзення мангольскай дынастыі ў 1368 годзе, у Кітаі заваладарыла дынастыя Мінг (1368-1644 гг.), і дзякуючы моцнаму развіццю еўрапейскага акіянскага караблеплавання Кітай наладзіў цесныя стасункі з Яўропай, як гандлёвыя, так і ідэйныя. У 1582 годзе партугальцы заснавалі там факторыі ў Макао. У 1583 годзе у Кітай прыбыў навуковец езуіт Матыяс Рычы, і кітайцы-каталікі, побач з прыхільнікамі іншых рэлігій Кітая, вольна багаслужылі там і засноўвалі свае школы.

Гэта працягвалася і ў XVII стагоддзі, калі манчжуры ад 1644 года захапілі ўладу ў Кітаі і кіравалі ў ім аж да абвяшчэння рэспублікі. Яны далучылі да Кітая паміж 1662 і 1722 гадамі ўвесь Тыбет і Туркестан, захапілі выспу Фармоза і спрыялі хрысьціянам да 1722 года, калі ўпершыню ў Кітаі пачалося варожае стаўленне да еўрапейцаў і да прыняўшых іхную рэлігію кітайцаў. Але толькі ў 1815 годзе, пасьля таго як у Кітай прыехалі пратэстанты, алтуль пад іхных уплывам былі прагнаны каталікі.

Такой з’яўляецца палітычная гісторыя Кітая, а іхная літаратура амаль уся апакрыфічная, і мы **нават не ведаем, на якой мове яна напісана**, бо ў кітайцаў,

[22] Пішу гэта слова з адным “д”, таму што яно таго ж кораня, як і будзіць азначаючае абуджэнне.

паўтараю, адсутнічае гукавы альфабэт, а існуюць толькі ідэаграфічныя значкі накшталт 1, 2, 3, 4 ... для нашых лічбаў, ці значкоў ☉ і ☾ для Сонца і Месяца ў нашых астраномаў, якія кожны і чытае на сваёй роднай мове. Напішыце такімі значкамі цэлае апавяданне па-руску, не маючы ніякага разумення пра кітайскія мовы, а кітайцы будуць яе чытаць грунтуючыся на гэтых значках, як свой нацыянальны твор і ўсе ўласныя імёны, пазначаныя сугучнымі з імі прадметамі, яны вымавяць па свойму. Дык якая ж існуе ў нас гарантыя нават таго, што ўсе іхныя навуковыя старажытныя і сярэднявечныя творы не напісаны насамрэч на-лаціне каталіцкімі місіянерамі Эпохі Адраджэння? Я не сцврджаю, што гэта так і ёсць, але скасаваць такую магчымасць нельга.

Зірніце толькі на зробленае далей (табл. X) параўнанне кітайскіх і еўрапейскіх запісаў пра гады з'яўлення каметы Галея.

Згодна з вылічэннямі яна павінна была з'явіцца ў 837 годзе. Але дзякуючы недакладнасьці розных першакрыніц, сабраных Любянецкім у 1681 годзе, яна распалася на цэлае гняздо камет (837, 838, 839, 840 і 841 гадоў), і цалкам такое ж гняздо мы назіраем і ў «Ляснога каня» (Ма-Туан-Ліня). Гэтая ж камета павінна была з'явіцца, згодна з вылічэннямі, у 1456 годзе, але дзякуючы тым жа падствам ператварылася ў Любянецкага ў тры (1456, 1457 і 1458 гадоў), і гэтую ж уяўляемую тройцу мы бачым у «Ляснога каня». Яна ж у 1578 годзе дала ў Любянецкага адгалінаванні ў 1578 і 1580 гады, і яны ж прараслі і ў кітайскім летапісе, і г.д. Выходзіць як быццам бы, што і для Любянецкага, і для Ма-Туан-Ліня (а з ім і для Шэ-кэ) першакрыніцай служыў той жа самы, ужо папоўнены ўяўленнем летапіс XVI стагоддзя, але і той, і другі яшчэ больш дапоўнілі яго, незалежна адзін ад аднаго, нейкімі мяркуемымі каметамі.

Першымі лірычнымі паэтамі лічацца ў кітайцаў Ту-Фу і Літайцэ, дапасуемыя да VIII стагоддзя нашай эры. Першым кітайскім гісторыкам лічыцца Се-Матсяп, жыўшы быццам бы за 100 гадоў да «Нараджэнння Хрыста», але памятаўшы дзякуючы нейкаму цудоўнаму спосабу тое, што абывалася ў Кітаі за паўтары і за дзьве з паловай тысячы гадоў да яго і напісаўшы быццам бы з дапамогай нейкага сьвятога духа дынастычную гісторыю Кітая паміж 2637 і 1643 гадамі «да Нараджэнння Хрыста».

Самай важнай энцыклапедыяй у іх лічыцца Ма-Туан-Лінь (ці Матданлін згодна з іншым вымаўленнем), складзеная ў XIV стагоддзі нашай эры (але закончаная ўсё ж пазьней). А ў XVII стагоддзі з'яўляецца «Лета-Запіс» («Шэ-кэ»), паведаленні якой у шмат якіх выпадках выяўляюцца такімі падобнымі на паведамленні Ма-Туан-Ліня, што без сумневаў перапісаны з яго (ці наадварот). А ў некаторых выпадках абодва летапісы маюць значныя варыяцыі, што відавочна паказвае нам, што і кітайскія летапісцы не горш умелі дадаваць «адсябяціну» ў першакрыніцы сваіх паведамленняў, чым і евангелісты Лука і Мацвей пры перапіванні сваіх апавяданняў ад Марка.

Што ж было б дзіўнага ў тым, калі б, паўтараю, выявілася, што і ўся старажытная гісторыя Кітая ўяўляе сабой толькі трансплантацыю на кітайскую глебу нейкіх еўрапейскіх летапісаў, завезеных туды нестарыянамі ці каталікамі з Яўропы і толькі аздобленую кітайскай вокладкай з перанясеннем падзей з захаду Старога Сьвету на яго ўсход і з дапасаванем часу іхных падзей на шмат стагоддзяў назад?

Я не маю жадання выказваць цверджанне, што a priori аспрэчваю самастойную гісторыю Кітая да пачатку нашай эры. Геаграфічныя, геафізічныя і

кліматычныя асаблівасьці кітайскай тэрыторыі і японскага архіпелага павінны былі непазбежна стварыць тут самастойны культурны басейн, хаця ініцыятыўная роля ў ім павінна бы, відаць, належаць, да развіцця чыгунак, толькі Японіі з яе звілістай берагавой лініяй і магутнымі вулканамі, спрыяючымі развіццю ўяўлення.

Кітайская раўніна з яе вялізнымі рэкамі магла служыць выдатным прымальнікам японскай культурнай расады, якая і павінна была б тут шыкоўна разрасьціся, і калі такога не адбылося, то падставай гэтага, напэўна, быў недахоп блізкіх і лёгкіх для масавай апрацоўкі жалезных і медзяных рудняў і драўнянага паліва каля іх, да адкрыцця каменнага вугалю.

Мы ж ўжо ведаем, што падставай магутнасьці Ўсходняй Рымскай імперыі былі вялікія жалезныя рудні ў лясах Штырыі і Багеміі недалёка ад Вены, а ў падставе магутнасці Заходняй Рымскай імперыі былі такія ж рудні Саксоніі, Цюрынгіі, Гарца, Эльзаса і ніжняга Рэйна каля Аахена, як натуральнага цэнтра. Далейшае развіццё той жа жалезнай прамысловасці ў XV стагоддзі паслужыла грунтам эканамічнага развіцця Англіі і Нідэрландаў, а срэбра – Гішпаніі. Падобна таму як не валодаючае рукамі чалавецтва не пайшло б у сваім разумовым і эканамічным развіцці далей сабакі, так і не валодаючы жалезнымі прыладамі для працы народ не пераступіў бы праз патрыярхальны побыт.

Ці нельга патлумачыць і сярэднявечную адсталасць кітайцаў ад заходне-еўрапейцаў выключна адсутнасьцю зручных жалезных рудняў ці недахопам добрых шляхоў стасункаў для вывазу адтуль прадуктаў выплаўлення ў культурныя цэнтры краіны.




Мал. 46.
Рудныя вобласьці Кітая (згодна з Г. І. Івановым).

Іншых фізічных тлумачэнняў як быццам бы няма. А калі лічыцца з гэтай адсталасьцю як з фактам, то вельмі цяжка дапусьціць, каб такія дакладныя запісы камет, сонечных і месяцовых зацьменняў, якія мы знаходзім у кітайскіх летапісах, тысячагоддзямі асьцярожна захоўваліся і перадаваліся ад пакалення ў пакаленне кітайскімі навукоўцамі, ніводнага разу не навёўшы іх на нейкія абагульняючыя высновы і не надаўшы ім ніякіх думак.

Акрамя таго, дакладныя ж астранамічныя назіранні патрабуюць асобных абсерваторый, гнамонаў, сонечных гадзіннікаў і г.д. А дзе ж мы знаходзім іхныя старажытныя сьляды на кітайскай тэрыторыі, дзе іхныя апісанні ў праўдзівых старажытных кітайскіх дакументах? Мы бачым там толькі кляштары мудрых (будыстаў), розныя храмы і ніводнай навуковай установы раней знаёмства з еўрапейскай культурай. Усе гэтыя непаразуменні яшчэ патрабуюць безстаронняга дасьледавання, зробленага не так, як згодна са сведчаннем Седыла (якога я падрабязна цытаваў у чацьвёртай кнізе «Хрыста») зрабіў яго бацька. «Западозрыўшырабіўшы здагадку пра існаванне ў сярэднявечных арабаў шырокай астранамічнай літаратуры, – паведамяе гэты працавіты навуковец, – мой бацька

пачаў упарта шукаць падмацаванні гэтага». І вось, ён у выніку адкрыў дзіўную рэч, што нейкі сярэднявечны араб Абул-Вефа ведаў тры няроўнасьці месяцовага руху лепш, чым Ціха-Браге...

Із гэтага зразумела, што перш чым карыстацца кітайскімі паведамленнямі як безумоўным сродкам для праверкі старажытных еўрапейскіх паданняў, мы павінны пераканацца ў тым, ці сапраўды яны з'яўляюцца вынікам чыста кітайскіх запісаў, акуратна вёўшыміся з пачатку нашай эры.

Паглядзім спачаку, наколькі кітайскія паведамленні адпавядаюць еўрапейскім ў сваіх датаваннях. Я тут звяртаю ўвагу толькі на падабенства датавання, а не на сутнасць саміх апісанняў камет, таму што ў гэтым дачыненні ні для адной еўрапейскай каметы мы не знойдзем апісання, падобнага з кітайскім, аж да з'яўлення ў Кітаі каталіцкіх місіянераў. А наколькі супадаюць даты, чытач можа бачыць на вышэйдададзенай табліцы (табл. X), у якой я выпісаў для кітайскіх паведамленняў нават і сумнеўныя каметы, а для еўрапейскіх амаль усё, што знайшоў у «Theatrum Cometicum» Любянецкага.

## ТАБЛІЦА X.

Гады з'яўлення бачных простым вокам камет, грунтуючыся як на еўрапейскіх, так і на знойдзеных у Кітаі гістарычных зборніках ад мінус 610 астранамічнага года па 1640 год нашай эры.

(Для пераходу да гістарычнага злічэння патрэбна дадаваць 1 год да ўсіх гадоў да пачатку нашай эры, лічбы ў дужках пазначаюць, што ў дадзеным годзе пазначана не адна, а паказаная колькасць камет.)

| Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Да пачатку нашай эры | | -134(2) | – | – | 17 | 182 | – | 287 | Заканчэнне еўрапейскага зсоўвання |
| -610 | – | -133 | – | 22 | – | 185 | – | 290 | |
| -530 | – | – | -128 | 39 | – | **188 (2)** | **188** | 296(*) | |
| -513 | – | -119 | – | – | 40 | – | 190 | 300 | |
| -501 | – | -118 | -118 | – | 48 | **192** | **192** | 301(2) | |
| – | -479 | – | -117 | – | 51 | 193 | – | 302 | |
| -466 | -465 | – | -116(2) | – | 54 | – | 193 | 303 | |
| -432 | -430 | **-109(2)** | **-109** | – | – | 200 | – | 304 | |
| – | -429 | -108 | – | 55 | 56(2) | **204** | **204** | 305(2) | |
| – | -413 | – | -98 | – | 57 | 206 | – | – | 307 |
| – | -411 | – | -92 | **60** | **61** | 207 | – | – | 308 |
| – | -409 | – | -89 | **60** | **61** | **213** | **213** | – | 324 |
| – | -372 | **-86(*)** | **-86(*)** | – | 62 | **218** | **217*** | 329 | – |
| – | -352 | **-83** | **-83** | 65 | – | – | 220 | – | 335 |
| – | -347 | -76 | – | **66*** | **66*** | 222 | – | 336 | – |
| – | -340 | -75 | – | – | 68 | 225 | Вялікае зсоўванне еўрапейскай храналогіі ў якім увесь | **340** | **340** |
| – | -335 | -73 | – | – | 69(2) | 232 | | 343 | – |
| -304 | – | -72 | – | – | 70 | 236(2) | | 349 | – |
| -302 | – | -71 | – | 71 | 72 | 238(2) | | 358 | – |
| -295 | – | -69 | – | – | 73 | 240 | | **363** | **363(2)** |
| -239 | – | -68 | – | 75 | – | 245 | | – | 367 |
| -237 | – | -60 | -59(2) | 76 | 76 | 247 | | 369 | – |
| -233 | – | -48 | -49 | 77 | – | 248 | | – | 370 |
| -232 | – | -47 | – | – | 78 | 251 | | 373* | – |
| – | -219? | – | -46 | – | 79 | 252 | | – | 375 |
| -213 | – | -43 | -45 | – | 81 | 253 | | – | 377 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| -203 | -203 | – | -44 | 84 | – | 255 | прамежак ад 220 да 307 года застаўся цалкам без камет. | – | 380 |
| – | -199 | – | -42 | 102 | – | 257 | | – | 383 |
| – | -182 | – | -40 | 110 | – | 259 | | – | 384 |
| -171 | – | -31 | -30 | – | 130 | 262 | | **386** | **386** |
| – | -167(2) | – | -29 | 131 | – | 265 | | 388 | 389 |
| – | -163 | – | -28 | 141* | – | 268 | | **390** | **390** |
| – | -164 | – | -22 | – | 145 | 275 | | – | – |
| -156 | – | -11 | -12 | 147 | 146 | 276 | | **393** | **393** |
| -154 | – | -4 | – | 149 | – | 277 | | – | 394 |
| -153(2) | – | -3 | – | – | 160 | 279 | | – | 396 |
| – | -149(2) | Пасьля пачатку нашай эры | | **161** | **161** | 281(2) | | **400** | **399** |
| -147 | – | | | 178 | – | 283 | | – | – |
| -146(2) | -145 | 13 | 12 | 180 | 181 | | | 401 | – |
| – | -143 | – | 14 | | | | | 402 | – |
| -137(3) | – | – | 16 | | | | | – | 405(2) |
| -136 | -135 | | | | | | | | |

| Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| – | 410 | – | 620 | 856 | – | – | 1064 | **1264(3)** | **1264(6)** |
| – | 412(2) | – | 622 | 864 | – | 1068(2)* | 1068(2) | – | 1267 |
| – | 413(2) | – | 623 | **868** | **869** | – | 1067(2) | – | 1268 |
| 415 | – | – | 631 | 869 | – | – | 1071(2) | – | 1269 |
| 416(2) | – | 634 | 633(2) | 877 | 876 | – | 1077 | – | 1273 |
| **418** | **418** | 639 | – | – | 882(2) | 1080 | – | 1277 | – |
| 419 | – | 641 | – | 885 | – | – | 1092 | – | 1282 |
| 422(2) | – | – | 660 | 886 | – | **1095** | **1095(3)** | – | 1285 |
| **423(2)** | **423(2)** | 663 | – | 891 | – | **1097(2)** | **1097(4)** | – | 1286 |
| – | 434 | **667** | **667** | 892 | – | – | 1098 | **1293** | **1293** |
| **442** | **442** | – | 674 | 893 | – | – | 1102 | – | 1298(3) |
| – | 443 | – | 675 | 894 | – | – | 1103 | **1299** | **1299** |
| **449** | **448(2)** | **676(2)** | **676** | – | 900 | **1106** | **1106(5)** | – | 1300(2) |
| – | – | – | 678(2) | – | 902(2) | – | 1107(2) | **1301*** | **1301(6)** |
| 451* | *450 | 681 | – | **905** | **905** | – | 1108 | – | 1302 |
| – | 453 | 683 | – | – | 906(2) | – | 1109 | – | 1303 |
| – | 454 | **684(2)** | **684(3)** | – | 910 | **1110** | **1110(3)** | **1304** | **1304** |
| – | 457 | – | 685 | **912*** | **912(2)** | – | 1111 | – | 1305(3) |
| – | 459 | – | 687? | – | 913 | – | 1112 | – | 1307 |
| – | 488 | 707 | – | 928 | – | – | 1115 | – | 1312(3) |
| 501(2) | 500 | 708(2) | – | – | 939 | – | 1119 | **1313** | **1313(4)** |
| – | – | 713 | 715 | 936 | – | **1126(2)** | **1125** | – | 1314(5) |
| – | 519(2) | – | 719 | **941(2)** | **941** | 1131 | – | **1315** | **1315(5)** |
| 532* | *531 | 730(2) | 729(5) | – | 942 | **1132(2)** | **1132(2)** | – | 1318 |
| – | 533 | 739 | – | **943** | **944(2)** | **1133** | **1133** | **1337(2)** | **1337(7)** |
| – | 535 | – | 744 | 956 | – | – | 1141 | – | 1338 |
| – | 538 | – | 745 | – | 964 | **1145(2)*** | **1145(2)** | – | 1339 |
| **539** | **540** | 760(2) | 761 | – | 968(2) | 1147(2) | – | **1340** | **1340(4)** |
| – | 541 | – | 763 | **975(2)** | **975(2)** | 1151 | – | – | 1341(2) |
| – | 550 | 767 | – | – | 979 | – | 1165(2) | – | 1345 |
| – | 557 | 770 | – | – | 983 | – | 1169 | – | 1347(3) |
| **560** | **560** | 773 | – | 989* | – | – | 1172 | **1351** | **1351(2)** |
| 561 | – | – | 791 | – | 996 | – | 1180 | – | 1352(2) |
| 565(2) | – | – | 800 | **998** | **999** | – | 1200(2) | – | 1353(2) |
| 568(2) | – | – | 809 | – | 1000(2) | – | 1202 | 1356 | – |
| – | 570 | – | 812 | 1003 | 1004 | – | 1211(4) | 1360 | – |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 574(2) | – | – | 814(2) | – | 1005(2) | – | 1214(2) | **1362(2)** | **1362(2)** |
| 575 | – | **815** | **815** | – | 1006 | – | 1215(2) | **1363** | **1363(3)** |
| – | 583 | **817** | **817** | – | 1009(2) | – | 1217 | 1366 | 1365 |
| **588** | **587** | – | 818 | 1014 | – | – | 1219 | **1368(2)** | **1368** |
| – | 589 | 821(2) | – | 1018 | 1017(2) | **1222*** | **1222(2)** | 1373 | – |
| **594** | **594** | **828** | **828** | – | 1027 | | 1223(3) | **1376** | **1376(2)** |
| – | 597 | **829** | **829** | – | 1031(2) | 1226 | | 1378* | 1379 |
| – | 599 | – | 830 | 1035 | – | – | 1230 | – | 1380 |
| – | 601 | 834 | – | 1036 | – | 1232 | – | – | 1382(3) |
| – | 602 | **837(7)** | **837(3)** | – | 1038 | 1237 | 1238 | 1385 | – |
| – | 603(2) | **838(2)** | **838(4)** | – | 1042(2) | **1240(2)** | **1240(3)** | 1388 | – |
| – | 604 | **839(2)** | **839(2)** | 1049 | – | – | 1241(2) | – | 1390 |
| 607 | 607 | **840(2)** | **840** | – | 1053 | – | 1234(3) | **1391** | **1391(2)** |
| 615 | – | **841(2)** | **841(2)** | 1036 | – | – | 1255 | – | 1394(2) |
| 616(3) | 617 | – | 844(2) | – | 1058(2) | – | 1256 | – | – |
| | | 851 | – | | | | | | |

| Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | Еўрапейскія | Кітайскія | ЕўрапЕйскія |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| – | 1399(2) | **1453** | **1453** | – | 1510 | – | 1538(3) | 1591 | 1590(2) |
| – | 1400(3) | | 1460(2) | – | 1511(3) | **1539** | **1539(6)** | **1593** | **1593(3)** |
| – | 1401 | **1461(2)** | **1461** | – | 1512 | – | 1541(2) | **1596** | **1596(3)** |
| – | 1402(5) | 1462 | – | – | 1513 | – | 1542(3) | – | 1597 |
| – | 1403(3) | 1465 | – | – | 1514 | 1545 | 1545(2) | – | 1602 |
| **1407** | **1407(2)** | – | 1467 | – | 1516(3) | **1554** | **1554** | **1604** | **1604(2)** |
| – | 1408 | 1463 | 1463(2) | – | 1517 | **1556** | **1556(8)** | **1607*** | **1607(2)** |
| – | 1414 | – | 1470 | 1520 | – | **1557** | **1557(3)** | 1609 | – |
| – | 1426 | – | 1471(3) | **1521** | **1521** | – | 1558 (6) | **1618(3)** | **1618(2)** |
| 1430(2) | – | **1472** | **1472(6)** | – | 1522 | – | 1559 | 1619 | – |
| 1431(2) | – | – | 1475(2) | **1523** | **1523(2)** | – | 1560(2) | 1621 | – |
| 1432(2) | – | – | 1476 | – | 1524 | – | 1564 | 1639 | – |
| **1433** | **1433(5)** | – | 1477(4) | – | 1526 | – | 1566 | 1640 | – |
| – | 1434(2) | 1490 | – | – | 1527(4) | 1569 | 1569(3) | Заканчэнне Ма-Туань-Лінь | 1652 |
| **1439(2)** | **1439(5)** | 1491 | 1491(4) | – | 1528 | – | 1572(6) | | 1653 |
| **1444** | **1444(4)** | – | 1492 | – | 1529(3) | – | 1576(2) | | 1661 |
| – | 1445 | 1495 | 1493 | **1529** | **1529(3)** | 1577 | 1577(9) | | 1664 |
| 1449 | – | 1499 | – | – | 1530(4) | 1578 | 1579(3) | | 1665 |
| **1450** | **1450** | **1500** | **1500(4)** | **1531*** | **1531(6)** | **1580** | **1580(2)** | | 1682 |
| 1452 | – | 1502 | – | **1532(2)** | **1532(6)** | **1582** | **1582(5)** | | |
| **1453** | **1454** | – | 1504(2) | **1533** | **1533(5)** | 1584 | 1583 | | |
| **1456*** | **1456(7)** | – | 1505(2) | 1534 | – | **1585** | **1585(2)** | | |
| **1457(3)** | **1457(2)** | **1506(2)** | **1506(6)** | 1536 | 1537 | | | | |

У дачыненні да камет да пачатку нашай эры, мы бачым тут нешта дзіўнае. Выпадкова цалкам супалі толькі каметы -109, -86 і -83 гадоў да нашай эры, а даты астатніх камет разышліся да такой ступені, што там, дзе існуюць запісы ў кітайцаў, яны цэлымі згуртаваннямі адсутнічаюць у еўрапейцаў і наадварот: там дзе існуюць цэлыя згуртаванні еўрапейскіх запісаў, там няма ніводнага кітайскага. Еўрапейцы тут аспрэчваюць кітайцаў, а кітайцы аспрэчваюць еўрапейцаў. Відавочна, што да пачатку нашай эры ніякіх запісаў не было ні ў тых, ні ў другіх і ўсе яны апакрыфікаваны з нейкіх больш пазьніх пазначэнняў, пры гэтым кітайскія зборнікі перамясьцілі храналогію назад яшчэ больш, чым еўрапейскія.

Паглядзім зараз на перыяд ад пачатку нашай эры да валадарання Кастуся (ад 0 да 306 гг.). І тут мы бачым тую ж неадпаведнасць кітайскіх і еўрапейскіх дataванняў аж да Аляксандра Сявера (222 г.), дзе выпадкова супадаюць толькі 60, 61, **66**, 161, 188, 192, 204, 213 і **218** гады (із якіх 66 і 218 лічацца за вяртанні каметы Галея), а астатнія непасрэдна аспрэчваюць адзін аднаго. Яшчэ больш цікавым атрымаўся прамежак роўны 85 гадоў ад Аляксандра Сявера да ўцаравання Кастуся (306 г.). На працягу гэтага прамежку кітайскія паведамленні даюць нам 38 камет, а еўрапейскія ніводнай, за выключэннем невыразнага паведамлення пра нешта ў 252 годзе! Такі прамежак адсунасьці камет у Яўропе ўжо ніяк немагчыма патлумачыць выпадковасьцю, а толькі тым, што даты камет, з'яўляўшыхся на працягу гэтага перыяду, былі храналагічна ссунуты наступнымі еўрапейскімі гісторыкамі, апрацоўваўшымі да-канстанцінаўскія гістарычныя запісы, калі такія існавалі.

Але і пасьля гэтага перапынку еўрапейскія і кітайскія датаванні камет не адпавядаюць адзін аднаму, хаця робяцца больш шматлікімі і таму дастаўляюць больш прыкладаў для выпадковых супадзенняў згодна з тэорыяй верагоднасьці. Толькі пачынаючы з XII стагоддзя супадзенні абедзьвюх першакрыніц робяцца такімі частымі, што іх немагчыма патлумачыць выпадковасьцю, тым больш, што яны даводзяцца і выяўляемым ў іх 76-гадовым перыядам вяртання каметы Галея, як бачна із дададзенай табліцы (табл. XI, стар. 139).

Пачынаючы з 607 года і да нашага часу мы бачым у кітайцаў бесперапынны рэестр вяртанняў каметы Галея, а ў еўрапейцаў толькі чатыры недахопы. Раней жа гэтага часу мы знаходзім пропускі і ў кітайцаў пры такім жа частым чаргаванні з еўрапейскімі пропускамі, якое мы заўважылі і на табліцы X. Гэта азначае, што раней 607 года нашай эры ўжо цалкам немагчыма давяраць ні на тым, ні другім сведчанням.

Цікава яшчэ пазначыць, што пачынаючы з 900 года і да 1577 нашы рэестры (табл. IX) паказваюць у еўрапейцаў нашмат больш каметных запісаў, чым існуе ў «Шэ-кэ» і ў «Ляснога каня», і што каметы еўрапейцаў, бачныя простым вокам, пазначаюцца вельмі часта, чаго, відаць, ніколі не было ў рэчаіснасьці. Даводзіцца зрабіць выснову, што дзякуючы нявызначанасьці тагачаснага храналагіравання, амаль кожная камета, адпавядаючая ў «Шэ-кэ» толькі аднаму запісу, распадалася ў еўрапейцаў на цэлае гняздо камет. Так, напрыклад, насупраць запісу «Шэ-кэ» для 1304 года знаходзім адпаведныя еўрапейскія 1303, 1304, 1305 гадоў. Насупраць запісу 1313 года ў еўрапейцаў бачым 1312, 1313, 1314; насупраць запісу 1337 года у еўрапейцаў існуюць 1337, 1338, 1339; насупраць 1351 года знаходзім 1351, 1352 і 1353 і г. д.

Каб знайсьці хаця б нейкі крытэр праўдзівасьці паведамленняў у «Шэ-кэ» і ў «Лясным каню» (Ма-Туан-Лінь) пра каметы, я вызначыў, грунтуючыся на прыкладзенай табліцы, адсотак іхных супадзенняў з еўрапейскімі паведамлннямі, лічачы за супадзенні нават і тыя выпадкі, калі кітайскі запіс адступае ад еўрапейскага на ±1 год (таму што камета можа быць бачнай і некалькі месяцаў). Выявілася што супалі

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ад | - 400 | да | 0 | года | . . . | 23% |
| Ад | 0 | да | +400 | года | . . . | 23% |
| Ад | 400 | да | 800 | года | . . . | 44% |
| Ад | 800 | да | 1200 | года | . . . | 55% |
| Ад | 1200 | да | 1600 | года | . . . | 81% |

Аднак гэта яшчэ не азначае, што нават і да пачатку нашай эры 22% паведамленняў «Шэ-кэ» і «Ляснога каня» падмацаваліся еўрапейскімі, і наадварот.

Калі б жа на шкале гадоў мы натыкалі еўрапейскія каметы як патрапіць, і тое ж самае зрабіў бы і аўтар «Шэ-кэ», ад якога іх парадкова спісаў «Лясны конь», то пры дадзенай колькасьці камет і лічачы за супадзенні нават і тыя выпадкі, калі еўрапейскія гады на ± 1 адыходзяць ад Шэ-кэ, мы лёгка маглі б атрымаць 23% выпадковых супадзенняў. А адняўшы гэтую колькасць ад дадзеных у нашай табліцы, мы і атрымаем для ацэнкі праўдзівасьці ўсёй сумы паведамленняў дадзеных перыядаў часу такую таблічку:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ад | - 400 | да | 0 | года | . . . | 0 | шанцаў |
| Ад | 0 | да | +400 | года | . . . | 0 | шанцаў |
| Ад | 400 | да | 800 | года | . . . | 21% | шанцаў |
| Ад | 800 | да | 1200 | года | . . . | 32% | шанцаў |
| Ад | 1200 | да | 1600 | года | . . . | 58% | шанцаў |

Гэта азначае, толькі ад 1200 да 1600 года мы можам больш чым на палову давяраць запісам «Шэ-кэ» і «Ляснога каня», а раней 400 года нашай эры іхная вартасць блізкая да нуля, не гледзячы нават на падрабязнае і праўдападобнае апісанне руху каметы па сузор'ях, якое магло быць апакрыфікавана із нашмат больш пазьнейшых выпадкаў.

Толькі з гэтымі папраўкамі і абмоўкамі мы і можам ужываць паведамленні «Шэ-кэ» і «Ляснога каня» пра старыя каметы для праверкі еўрапейскіх дакументаў, змяшчаючых указанні на гэтыя блукаючыя сярод планет сукупнасьці іянізаванага рэчыва, заўсёды пададзенага ў фантастычных формах.

# Глава VII.

## Праверка паведамленняў «Лета-Запісу» і «Ляснога Каня» пра каметы грунтуючыся на камеце Галея.

Для таго, каб яшчэ больш праверыць праўдзівасць старажытных каметных запісаў, хаця б толькі з боку гледжання іхнага датавання, паглядзім больш дэталёва, да якой глыбіні стагоддзяў даходзяць пагаднячыяся з указаннямі тэарэтычнай астраноміі апісанні камет у «Шэ-кэ» і ў «Ляснога каня» (Ма-Туан-Лінь) і ў нашых еўрапейскіх першакрыніцах?

Возьмем спачатку знакамітую камету Галея, якая вяртаецца прыблізна праз кожныя 75-79 гадоў. Лічачы назад ад нашага часу, мы знаходзім сем верагодных еўрапейскіх запісаў пра яе праходжанне праз перыгелій, якія я даю ў юліянскім злічэнні:

| Год | Месяц | Дзень юліянскае злічэнне | Дзень рыгарыянскае злічэнне | Прамежак |
|---|---|---|---|---|
| 1910 | красавіка | 7 | 20 | |
| | | | | 74 гадоў 5 мес. |
| 1835 | лістапад | 3 | 15 | |
| | | | | 76 гадоў 8 мес. |
| 1759 | сакавік | 1 | 12 | |
| | | | | 76 гадоў 8 мес. |
| 1682 | верасень | 4 | 14 | |
| | | | | 74 гады 1 мес. |
| 1607 | кастрычнік | 6 | 26 | |
| | | | | 76 гадоў 2 мес. |
| 1531 | жнівень | 25 | 4 верасня | |
| | | | | 75 гадоў 2 мес. |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1456 | чэрвень | 8 | 20 | |

Мы бачым, што сярэдні час яе абарачэння вагаецца ад 74 гадоў амаль да 76 (мал. 47), як лічаць, у залежнасьці ад уздзеяння на яе сустракаемых на яе шляху планет сонечнай сістэмы, тым больш, што яе рух адваротны іхнаму руху. Пра яе назіраемасць з Зямлі раней 1456 года нічога немагчыма сказаць грунтуючыся на еўрапейскіх сярэднявечных летапісах, хаця яны і паведамляюць нам пра вялікую колькасць камет. Але грунтуючыся на вышэй дададзеным спісу паведамленняў «Шэ-кэ», «Ляснога коня (Ма-Туан-Лінь на англа-шанхайскай гаворцы) і «Ўсё адбіваючага люстэрка» (Tung-Keen-Kang Muh на англа-шанхайскай гаворцы), астраномы Лаж'е, Гайнд і Коўэл з Крамелінам паказалі на яе верагодныя вяртанні да перыгелія яшчэ і ў такія юліянскія гады:

| Год | Месяц | Дзень юліянск. злічэнне | Прамежак |
|---|---|---|---|
| 1378 | лістапад | 8 | |
| | | | 77 гадоў 1 мес. |
| 1301 | кастрычнік | 22 | |
| | | | 79 гадоў 1 мес. |
| 1222 | верасень | 10 | |
| | | | 77 гадоў 5 мес. |
| 1145 | красавік | 19 | |
| | | | 79 гадоў 5 мес. |
| 1066 | сакавік | 27 | |
| | | | 76 гадоў 5 мес. |
| 989 | верасень | апошнія дні | |
| | | | 77 гадоў 3 мес. |
| 912 | ліпень | 20 | |
| | | | 75 гадоў 5 мес. |
| 837 | люты | 25 | |
| | | | 76 гадоў 8 мес. |
| 760 | чэрвень | 10 | |
| | | | 75 гадоў 5 мес. |
| 684 | лістапад | | |
| | | | 77 гадоў 8 мес. |
| 607 | сакавік | заканчэнне | |
| | | | 76 гадоў 4 мес. |
| 530 | лістапад | сярэдзіна | |
| | | | 79 гадоў 4 мес. |
| магчыма | | | |
| 451 | ліпень | 3 | |
| | | | 77 гадоў 8 мес. |
| 373 | лістапад | | |
| | | | 78 гадоў 7 мес. |
| 295 | красавік | | |
| | | | 77 гадоў 0 мес. |
| 218 | красавік | | |
| | | | 77 гадоў 1 мес. |
| 141 | сакавік | 29 | 75 гадоў 2 мес. |
| | | | |
| 66 | студзень | | 76 гадоў 3 мес. |
| | | | |
| -11 | кастрычнік | | 75 гадоў 1 мес. |
| | | | |
| -86 | жнівень ці верасеь | | |

А далей і ў знойдзеных у Кітаі міжнародных ідэаграфічных дакументах нічога прыдатнага не выявілася. Дасьледуючы больш верагодныя із гэтых

прыходаў, Коўэл і Крамелін намалявалі для яе праходжанняў праз перыгелій хвалепадобную крывую, паказаную на мал. 48, але гэтая крывая пры першай жа спробе выкарыстаць яе для прадказання надыходзячага прыходу на $1913,_7$ год, не апраўдалася. Камета прыйшла ў $1910,_3$ годзе, на $3^1/_2$ гады раней прадказання, і гэтая акалічнасць вымушае западозрыць некаторую штучнасць у падборы і сярэднявечных дат з мэтай апраўдаць сінусоіду паскарэнняў і запавольванняў, запланаваную дасьледчыкамі апрыёры.

Вось некалькі выяваў каметы Галея згодна з больш позьнімі здымкамі (мал. 49, 50, 51).

Праверым жа іх зноў грунтуючыся на кітайскіх і еўрапейскіх крыніцах, пачынаючы ад самых пазьніх, як больш надзейных, і ідучы ад іх углыб стагоддзяў.

Я не ведаю самастойных кітайскіх астранамічных запісаў пазьней XVI стагоддзя і таму пачынаю толькі са з'яўлення каметы Галея ў 1531 годзе.

ТАБЛІЦА XI.

Вяртанне каметы Галея грунтуючыся на трох спосабах праверкі.

| Тэорыя | | Запісы | |
|---|---|---|---|
| год | месяц | ў «Шэ-кэ» | Еўрапейскія |
| 1910 | Красавік | – | 1910 |
| 1835 | Лістапад | – | 1835 |
| 1759 | Сакавік | – | 1759 |
| 1682 | Верасень | – | 1682 |
| 1607 | Кастрычнік | – | 1607 |
| 1531 | Жнівень | 1531 | 1531 |
| 1456 | Чэрвень | 1456 | 1456 |
| 1378 | Лістапад | 1378 | – |
| 1301 | Кастрычнік | 1301 | 1301 |
| 1222 | Верасень | 1222 | 1222 |
| 1145 | Красавік | 1145 | 1145 |
| 1066 | Сакавік | 1066 | 1066 |
| 989 | Верасень | 989 | – |
| 912 | Ліпень | 912 | 912 |
| 837 | Люты | 837 | 837 |
| 760 | Ліпень | 760 | – |
| 684 | Лістапад | 684 | 684 |
| 607 | Сакавік | 607 | – |
| 530 | Лістапад | – | 531 |
| 451 | Ліпень | 451 | – |
| 373 | Лістапад | 373 | – |
| 295 | Красавік | 296? | – |
| 218 | Красавік | 218 | 217 |
| 141 | Сакавік | 141 | – |
| 66 | Студзень | 66 | 66 |
| -12 г. | Кастрычнік | – | -12 |
| -86 г. | Жнівень | -86 | -86 |

13 жніўня **1531** года, пры Сонцы ў Ільве, Апіян пабачыў яе ўпершыню і потым яна прайшла сузор'і Рака, Ільва, Панны і Шаляў. Хвост яе быў кароткі і самая вялікая даўжыня яго была 15°.

Іншы яго сучаснік згадвае, што 25 ліпеня, г.азн. пры Сонцы ў Раку, у Рыме бачылі «Палаючае бервяно».



Мал. 47
Шлях каметы Галея з 1830 па 1915 г.



Мал. 48
Меркуемыя Каўэлем і Кромелінам стагадовыя паскарэнні і запавольванні руху каметы Галея з перыядам каля 770 гадоў.

А «Шэ-кэ» і «Лясны конь» сведчаць, што 5 жніўня (пры Сонцы ў Ільве) яна была на ўсходзе сузор'я Двайнят (г.азн. у стане ранішняй бачнасьці) даўжынёй роўнай аднаму «кубіту». Прайшоўшы Альфу Ільва, яна павялічыла свой хвост і пайшла да Чаркі, пры гэтым была 7 кубітаў даўжыні. Яна прабегла праз Псі Вялікай Мядзьведзіцы і зайшла ў прастору паміж Ільвом і Паннай, зачапіла (хвастом) Валасы Веранікі і вобласць Альфы Панны, потым, абмінуўшы вобласць κ-χ-θ Панны, пачала паступова памяншацца і на 34 дзень назіранняў знікла. Мы бачым, што апісанне шляху ў абедзьвюх нашых першакрыніцах для гэтага выпадку даволі падобныя.



Замест мал. 49.
Камета Галея ў 1910 годзе.

Папярэднічаўшае вяртанне каметы Галея адзначана ў Яўропе напачатку чэрвеня **1456** года, калі яе галава «была круглая, а хвост быў падобным на паўлінавы». 6 чэрвеня яна была ў Пярсею, даводзячы свой хвост да 22°, і праз 50 дзён знікла напачатку ліпеня. Палічыўшы яе прыход у Пярсея за прадвесьце нашэсьця персаў (як зваліся туркі), папа Каліст прызнычыў адменную малітву – Angelus, – у якой камета замаўлялася разам з туркамі не ісьці на хрысьціян. А «Шэ-кэ» і «Лясны конь» паведамляюць: 27 траўня была камета ў вобласьці Мухі, даўжынёй два «кубіты». 7 чэрвеня яна павялічылася да 10 кубітаў і была на паўночным захадзе ад вобласьці δ-ε-ς-θ Гідры, і даўжыня яе паменшылася да 9 кубітаў. 6 ліпеня (пры Сонцы ў Раку) яна зайшла ў прастору паміж Ільвом і Паннай і была роўнай аднаму кубіту даўжыні. Тут адсутнасьць падрабязных апісанняў яе шляху ў еўрапейцаў папаўняецца апісаннем у «Шэ-кэ».



Замест мал. 50
Склад галавы каметы Галея. Здымак 26 траўня 1910 года (па Graff: Astrophisik).

Папярэднічаўшае вяртанне каметы Галея пазначана еўрапейцамі 20 верасня **1378** года паблізу Вялікай Мядзьведзіцы і гэтае яе становішча так не дапасавала вылічэнням яе арбіты, што Пэнгу абвясьціў яго прыдатным толькі для таго, каб змучыць занадта руплівага шукальніка каметы Галея. А «Шэ-кэ» пазначае яе 26 верасня 1378 года на паўночным усходзе ад Альфы Возніка і Бэты Цяляці, з хвастом роўным 10 кубітаў даўжыні, потым яна прайшла над τ Вялікай Мядзьведзіцы, зайшла ў каля-палярнае кола, прайшла праз палярную зорку, праз η Цмока, зайшла ў вобласць Змея і была там да 10 лістапада, пасьля чаго яе немагчыма было назіраць дзякуючы дрэннаму надвор'ю. Тут зноў запіс у «Шэ-кэ» захаваўся лепш чым еўрапейскі.

Папярэднічаўшае з'яўленне гэтай каметы ў **1301** годзе пазначана ў шмат якіх еўрапейскіх летапісах, але зноў без апісання месцавання і толькі ў адной першакрыніцы яна паказана ў Скарпіёне ў верасні. Атаясаміць жа яе з каметай Галея атрымалася толькі дзякуючы «Шэ-кэ» і «Лясному каню». «З'явіўшыся 16 верасня 1301 года ў сузор'і Двайнят, – паведамляюць яны, – яна прайшла ў вобласць θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы, прайшло ў кола незаходзячых зорак і дайшла да Паўночнага Вянка даўжынёй роўнай 10 кубітаў. Яна зайшла ў вобласць Змея, прайшла на поўдзень ад δ і ι Змеятрымальніка і знікла над яго η, паменшыўшыся да 1 кубіта 31 кастрычніка. Назіралася ж яна 46 дзён».

Пра яе папярэднічаўшае з'яўленне ў **1222** годзе паведамляюць некалькі еўрапейскіх летапісаў. Яны пазначаюць камету ў жніўні і ў верасні, даюць ёй 17 дзён існавання, але не пазначаюць яе шлях, таму што аўтары былі не астраномы. А запіс «Ляснога каня» (Ма-Туан-Ліня, які, кажуць, заканчваецца гэтай каметай, лічачы астатнія гады за працяг таго ж летапісу іншым невядомым аўтарам) дае нам і яе шлях па небу: «15 верасня – паведамляе ён – у сузор'і Валапаса з'явілася камета роўная 30 кубітаў даўжыні і з маленькім целам, падобным Юпітару, якую назіралі два месяцы. Яна прайшла Шалі, вобласць β-δ Скарпіёна, прайшла каля Антарэса і знікла».

Пра яе папярэднічаўшае з'яўленне ў траўні 1145 года згадваюць таксама некалькі еўрапейскіх хронік (у тым ліку і руская Ігнацьеўская). А аўтары «Шэ-кэ»

пазначаюць яе яшчэ 26 красавіка раніцай на ўсходзе. Потым яна знікла за Сонцам (гэта значае ў Авене) і вечарам 14 траўня з'явілася зноў у сузор'і Арыёна, распасьціраючыся на 10 кубітаў на паўночны ўсход, блакітнаватага колеру. 9 чэрвеня яна была паміж Сэрцам Гідры і Чаркай. Яе бачылі, згодна з Ма-Туан-Лінь, каля 50 дзён. Ды і жыўшыя ўжо ў гэты час у Кітаі еўрапейскія астраномы-місіянеры Mailla і Gaubil, верагодна прыклаўшыя сваю руку да гэтай хронікі, паведамляюць, што назіралі яе да 14 ліпеня.

Пра яе з'яўленне перад гэтым у **1066** годзе ў Яўропе нам паведамляе «Саксонская хроніка», і сведчыць, што нарманы, кіруемыя гэтай каметай, заваявалі Англію. Лічаць, што да гэтага ж часу дапасуе і выява каметы на адным старажытным дыване (мал. 50). Яе пазначае і руская хроніка Нестара, а «Лясны конь» апісвае яе так: «*2 красавіка 1066 года назіралася раніцамі камета ў Пегасе* (пры Сонцы ў Авене). *Даўжыня яе была больш чым 7 кубітаў, а накіроўвалася яна да вобласьці ε-μ Скарпіёна, распасьціраючыся да зорак η-π Вадаліва і знікла ў праменях Сонца. 24 красавіка яна з'явілася із-за Сонца* (месцаваўшагася пры пераходзе із Авена ў Цяля) *на захадзе, ахінутая белым туманам, больш чым 3 локці ў шырыню, дасягаючы* (хвастом?) *да кола незаходзячых зорак і да Палярнай зоркі і зайшла ў вобласць ρ-δ-π Скарпіёна. Яна прайшла вобласць θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы, 25 красавіка зноў набыла сьветлую абалонку і дасягнула 10 локцяў даўжыні. Потым яна ішла над вобласьцю α-β Возніка і β Цяляці, і ў гэты час яе белы туман падзяліўся на два адгалінаванні. Яна перасекла неба, прайшоўшы праз вобласць Двайнят, вобласць Ільва і прастору паміж Ільвом і Паннай, распасьціралася ў Шалі і ў Скарпіёна і, нарэшце, знікла ў α Гідры*». Тут, акрамя экскурсіі каметы да Палярнай зоркі, увесь яе шлях апісаны дастаткова праўдападобна.




Мал. 51

Камета Галея, намаляваная на старажытным дыване (гісторыкамі дапасуецца да яе з'яўлення ў 1066 годзе)

Пра яе з'яўленне перад гэтым у **989** годзе ў еўрапейскіх летапісах існуюць толькі блытаныя згадванні, а «агаранскі» гісторык Эльмацын паведамляе, што ў

нядзелю 28 ліпеня 989 года[23] заўважылі на захадзе валасатую зорку, якая была бачнай больш 20 дзён і не заходзіла ўсю ноч. Ды і «Лясны конь» пазначае 13 жніўня 989 года (пры Сонцы ў Ільве) камету ва ўсходняй частцы Двайнят на захад ад вобласьці μ-λ Пярсея. Потым яе пабачылі на захадзе і яна знікла, пройшоўшы над вобласьцю η-θ-υ Валапаса.

Пра яе папярэднічаўшае з'яўленне ў 912 годзе ці каля гэтага часу ў Яўропе Нестар паведамляе: «у лета 6419 ад стварэння сьвету з'явілася вялікая дзідападобная зорка на захадзе». А «Шэ-кэ» і «Лясны конь» пазначаюць: 14 траўня з'явілася камета ў вобласьці κ-λ-μ Гідры і 15 траўня знаходзілася каля χ Ільва.

Пра яе папярэднічаўшае з'яўленне ў **837** годзе нам паведамляюць такія словы невядомага астранома ў Аахене пры двары Людовіка Набожнага (814-840): «на Вялікадні (пры Сонцы ў Авене) з'явілася ў сузор'і Панны камета, якая за 25 дзён абыйшла сузор'і Ільва, Рака, Двайнят і развіла доўгі хвост у сузор'і Возніка (г.азн. была ў стане вечаровай бачнасьці і ішла да Сонца). Кароль паклікаў мяне, – выказваецца астролаг, – і запытаў пра значэнне гэтага жудаснага знака, а я паспрабаваў супакоіць яго, паўтараючы словы Пісання: «не бойцеся знакаў неба».– «Я і не баюся іх, – адказаў мне набожны манарх, але я баюся ўсемагутнага, стварыўшага і іх, і мяне! Без сумневаў бог паказвае мне гэтым знакам, што я павінен рыхтавацца да сьмерці» (Calvisius).

А «Шэ-кэ» і «Лясны Конь» пачынаюць свае запісы з 22 сакавіка 837 года (калі Сонца было ў Рыбах). «З'явілася камета ў вобласьці α Вадаліва і θ-ε Пегаса (г.азн. у ранішняй бачнасьці). Яна мела 7 локцяў даўжыні і накіроўвалася (хвастом?) да вобласьці δ-μ Стралка. 29 сакавіка яна прыйшла да β Вадаліва, 7 красавіка была ў вобласьці ε-μ-ν Вадаліва, і даўжыня яе стала роўнай 20 локцяў і шырыня роўнай 3 локці. Каля 3 красавіка яе хвост стаў яшчэ большым, а 9 ён быў у вобласьці δ-μ Стралка. На 10 дзень ён дасягнуў 50 локцяў і падзяліўся на два адгалінаванні, із якіх адно паказвала на Шалі, а другое паказвала на Скарпіёна. 11 красавіка (пры Сонцы яшчэ ў Авене) яе хвост падоўжыўся да 60 локцяў, але падзел на адгалінаванні знік, і камета была ў вобласьці ι-κ-λ-θ Панны. 14 красавіка даўжыня каметнага хваста дасягнула 80 локцяў і сама камета знаходзілася ў вобласьці λ-μ Гідры. 28 красавіка (пры Сонцы ў Цяляці) яна стаяла каля Рэгула ў Ільве і даўжыня яе стала не больш чым 3 локці».

Грунтуючыся на апісанні гэтага шляху патрэбна зрабіць выснову, што яна за адзін месяц абышла з невялікім усе дванаццаць сузор'яў Задыяка; мы бачым, што еўрапейскі астраном заходне-рымскага імператара Людовіка Пія пазначыў яе вечаровую бачнасць, калі яна ішла да Сонца, а «Лясны конь» апісаў яе ранішнюю бачнасць, калі яна ўжо аддалялася ад Сонца. Тая акалічнасць, што пазначаны накірунак на Шалі і Скарпіёна двух яе адгалінаванняў, пры Сонцы пад Пярсеем, вельмі нагадваючае біблейскае прадказанне Данііла пра палаючую руку, вымушае дапусьціць для гэтага прароцтва і тое рашэнне, якое атаясамляе Людовіка Набожнага з Валтасарам, а Карла Вялікага з Нева-царом (Навуходаносарам па-славянску), якому пагражалі мадзяры і сарацыны (так званыя персы). А пра тое, што і ў Яўропе гэтая камета дала нагоду для з’яўлення шматлікіх прароцтваў, сведчыць і апісанне невядомага астранома ў «Жыццяапісанні Людовіка Пія», (якое я разгледжу трохі далей), пералічыўшага нават сузор'і, па якіх яна ішла, чаго мы амаль не сустракаем у еўрапейскіх апісаннях камет. Пра гэта ж сведчыць і вялікая колькасць іншых яе еўрапейскіх апісанняў.

---

[23] 20-ы дзень Сонца другога Рабі 379 года Геджры.

Так, у «Фульдзкім летапісе» паведамляецца: «у 837 годзе, пад час трэццяга дня да красавіцкіх ідаў, тры ночы была бачна камета». А ў Сігонівуса чытаем: «у 837 годзе пад час дня ўсшэсьця госпада заззяла ў сузор'і Панны валасатая зорка да вялікага здзіўлення назіраючых». Іншыя аўтары дапасуюць яе ўжо да 838 года. «У 838 годзе, – паведамляе Рокенбах, – падчас валадарання імператара Людовіка, з'явілася камета ў сузор'і Шаляў. За ёй хутка наступіла спусташэнне выспы (?!) Валахіі». «У 838 годзе, – выказваецца Эксторміус, – з 11 красавіка была бачнай на працягу 25 дзён жудасная камета». «У 839 годзе, – яшчэ больш пераносіць яе час аўтар «Жыццяапісання Людовіка Набожнага» (Ludvici Pii), – пад час сярэдзіны сьвята Вялікадня ў сузор'і Панны з'явілася камета, што як заўсёды прадвесьціць жахі і смуткі, у той частцы дзе плашч Панны над хвастом Змея выгнуты нападабе рога. Дзякуючы таму, што наперакор звычаю ўсіх сямі планет – пра што дзіўна выказвацца! – гэтая блукаючая зорка імкнулася рухацца па сузор'ях задыяка з усходу на захад, яна праз 25 дзён прайшла сузор'і Ільва, Рака і Двайнят і пакінула ў галаве Цяляці пад нагамі Возніка сваё палаючае ядро і шырокі хвост, які раней накіроўваўся то сюды, то туды». «У 839 годзе, – паведамляе Рокенбах, – пад час 29 года валадарання Людовіка Набожнага, у сузор'і Авена была бачнай камета разам з бегаючымі па небу агнямі ў выглядзе зорак (дождж метэарытаў) і ў тым жа годзе, крыху пазьней, імператар Людовік перадаў дзяржаўную карону і цэзарскае званне свайму сыну Лотару, пры гэтым яны ўзаемна замірыліся». «У 839 годзе – паведамляе Функцыус – была бачна камета ў сузор'і Авена». «У 840, 841 і 842 гадах, – відавочна трыпліруе тую ж камету Альстэдыус,– з'явіліся тры каметы перад сваркай і вайной паміж братамі і сынамі Людовіка Набожнага із-за падзелу дзяржавы. Сарацыны прыйшлі із Афрыкі ў Італію, разрабавалі Рым, але ўтапіліся па дарозе назад».

Гэтая ж камета, відаць, была перанесена з красавіка і на студзень: «Пад час студзеньскіх календаў 838 года, – паведамляе Кальвізівус, – зноў (?) з'явілася камета ў сузор'і Скарпіёна» (як у кітайскім апісанні на 10 красавіка 837 года). І яна ж, відавочна, перанесена на 840 год. «У 840 годзе, пад час студзеньскіх календаў, крыху пазьней пасьля заходу Сонца з'явілася жудаснае полымя каметы ў сузор'і Скарпіёна».

Такім чынам із адной каметы 837 года, пазначанай кітайцамі і відавочна тоеснай з каметай Галея, у напалоханых летапісцаў атрымаўся цэлы каметны букет. І дзіўна, што букет тут амаль аднолькавы, як у дакументах, знойдзеных у Яўропе, так і ў дакументах, знойдзеных у Кітаі. Падобнае ж мы бачым і ў шмат якіх іншых выпадках.

Папярэднічаўшае з'яўленне каметы Галея тэарэтычна прыпадае на час каля **760** года, і ў гэты ж час мы чытаем у еўрапейцаў, што «пад час 9 года валадарання Кастуся V з'явілася вельмі яскравая камета ў выглядзе бервяна. Яе бачылі 10 дзён на вечаровым небе і 21 дзень на ранішнім». Яна ж, – паведамляюць нам, – была бачнай падчас сонечнага зацьмення, пры гэтым здавалася вельмі яскравай і белага колеру.

Але сонечнае зацьменне 15 жніўня 760 года ў 14 гадзін 40 хвілін ад грынвіцкай поўначы прайшло ў поўным выглядзе толькі па Еўрапейскай Расіі (ад паўночнага полюса ў Персію). На Балканскай паўвыспе яно было толькі частковым, так што ніякай каметы пры ім немагчыма было там пабачыць. А ў «Шэ-кэ» і ў «Лясного каня» паведамляецца, што камету назіралі 50 дзён. «16 траўня 760 года (пры Сонцы ў Цяляці) яна з'явілася паміж сузор'ямі Авена і Мухі – белая,

даўжынёй роўная чатыры кубіты і хутка мінула Пляяды і вобласць α-γ-δ-ε Цяляці, прайшла праз Арыёна і Двайнят у Рака, у вобласць δ Гідры і α Ільва (г.азн. у стане вечаровай бачнасьці). На захад ад β Панны яна знікла»

Папярэднічаўшае гэтаму з'яўленне каметы Галея было згодна з астранамічнымі разлікамі каля **684** года, і якраз пад час гэтага года, згодна з паведамленнем Эксторміуса (у Любянецкага), «з'яўлялася жудасная камета цэлых тры месяцы, і ў той жа час адбыліся моцныя віхуры, дажджы, маланкі і грымоты да таго, што асьцерагаліся знікнення шмат якіх земляў і народаў, і крыху пазьней загінуў усходні імператар Гераклій». Пра яе ж паведамляе і Альстэдыус: «у 684 годзе з'явілася камета, прадказваючая мор, гром, голад і паводкі». А Кальвізіус, згодна з Анастасам, паведамляе: «У 684 годзе паміж Нараджэннем Хрыста і Богаз'яўленнем каля Вяргілік (Пляяд) з'явілася зорка не яскравага сьвячэння, падобна як у Месяца». Сігонівус у сваёй кнізе «пра Італійскую дзяржаву» (кн. 2, стар. 49) дапасуе яе ўжо да студзеня 685 года (што, дарэчы, адно і тое ж): «Напачатку студзеня 685 года з'явілася зорка пры яскравым небе ноччу, афарбаваная так жа цьмяна, як Месяц, праходзячы праз воблака. У лютым прамчалася іншая зорка на паўднёвай частцы неба з вялікім бляскам з захаду на ўсход (відавочна метэарыт). У сакавіку Вязувій у Кампаніі на працягу некалькі дзён вырыгваў полымя і спаліў навокал усё знаходзіўшаяся ў стане квітнення. Было прызнана, што тая зорка абвяшчала сьмерць пантыфекса Бенедыкта, які закончыў апошні дзень свайго жыцця пад час травеньскіх ідоў». Відавочна, гэтую ж камету Рокенбах дапасуе ўжо да 687 года: «З’явілася камета жудаснага выгляду каля Вергілік (Пляяд) і ззяла днямі і начамі да Богаз'яўлення. Хутка пасьля гэтага памёр Бенедыкт II». Мы бачым, што і на гэты раз камета Галея зрабіла на еўрапейцаў моцнае ўражанне і нават ператварылася ў цэлае гняздо камет, калі далучыць сюды некалькі няпэўных згадванняў пра яе ў іншых еўрапейскіх аўтараў пад час суседніх гадоў. А ў «Шэ-кэ» і ў «Лясным каню» мы знаходзім:

«12 верасня 684 года вечарам на захадзе (г.азн. каля Шаляў ці Скарпіёна пры Сонцы ў Панне) назіралі дзіўную зорку без хваста, падобную на палову Месяца».

Тут уражвае тое, што і ў Кітаі яе параўноўваюць з Месяцам, як і ў Яўропе, хаця гэтае параўнанне відавочна штучнае, і таму ўзнікае думка: ці не карысталіся там еўрапейскімі астранамічнымі першакрыніцамі, якія пазьней згубіліся ў сябе на радзіме? У Кітаі ж пад час Эпохі Адраджэння пры імператарскім двары былі еўрапейскія місіянеры-астролагі, якія маглі захапіць з сабой сярэднявечныя астралагічныя хронікі, і адзін із іх, Габіль (Gobil), сам піша: «6 верасня (684 гада) была бачнай на захадзе (пасьля заходу Сонца ў Панне) камета з хвастом роўным 10 локцям у даўжыню і схавалася 9 кастрычніка».

Папярэднічаўшае гэтаму з'яўленне каметы Галея тэарэтычна вылічваецца на час каля **607** года, але для гэтага года мы не маем еўрапейскіх паведамленняў. Толькі Эксторміус знаходзіць у Занараса, што ў 605 годзе «ў красавіку і траўні з'явілася камета», а «ў лістападзе і снежні была бачнай валасатая зорка, пры якой Хазрой – цар персаў (як пад час сярэдневечча звалі ўсіх агаран сугучна з евангельскімі парысеямі)[24] – зрабіў напад на рымскія землі». Гэтая ж камета як быццам бы памылкова дапасуецца і да 617 года Рокенбахівусам: «У 617 годзе была бачнай на працягу цэлага месяца падпаленая на небе камета і хутка наступілі суровыя бедствы сярод смяротных. Пярсідзкі цар Хазрой з персамі спустошыў Ерусалім і ўсю Палестыну, і яны забралі да сябе патрыярха Захара з народам і

[24] Інакш фарысеі, таму што па-жыдоўску і “Ф”, і “П” пазначаюцца адной і той жа літарай.

каштоўнасьцямі». Такім было сярэднявечнае «вавілонскае паланенне», і ў гэты трывожны час адну і тую ж камету розныя еўрапейскія аўтары маглі тэндэнцыйна перасоўваць і далей па гадах. Так Альстэдывус піша: «У 620 годзе з'явілася камета і пярсідзкі цар Хазрой разрабаваў Ерусалім, а ў 622 годзе яго ўзяў «Магамет» і былі бачнымі ў гэты час розныя дзівы і чуліся грымоты». Тут «Магамет», вядома, згаданы дарэмна.

А «Шэ-кэ» і «Лясны конь» (XV стагоддзя) згадваюць для 607 года дзьве каметы, і пра першую із іх паведамляецца: «У сакавіку 607 гады ў вобласьці γ-ε-λ-μ Двайнят і θ-ν-φ Вялікай Мядзьведзіцы назіралася камета. Яна прайшла вобласць τ Пярсея, вобласць α-β-θ-χ Возніка, прастору на мяжы Панны і Ільва, прабегла праз β Ільва і знікла».

Яе назіралі 100 дзён і Коўэл з Крамэлінам знайшлі, што паказаны шлях дапасуе да каметы Галея, калі яе праходжанне праз перыгелій лічыць прыпадаючым на 26 сакавіка 607 года.

На гэтым 607 годзе заканчаюцца сістэматычныя запісы каметы Галея, як у дакументах, знойдзеных у Кітаі і напісаных міжнародным ідэалагічным пісаннем, так і ў дакументах, знойдзеных у Яўропе і напісаных большай часткай на міжнароднай тады лаціне. Раней VII стагоддзя мы знаходзім і тут і там толькі ўрыўкавыя паведамленні, якія толькі з рызыкай можна дапасаваць да тэарэтычна вылічаных дат вяртання каметы Галея. Але я паведамлю і іх.

Для тэарэтычна вылічанага вяртання каметы Галея ў **530** годзе мы не знаходзім у азіятаў ніякіх паведамленняў, а ў еўрапейцаў толькі візантыйскі аўтар пачатку XII стагоддзі Занарас (памёр у 1118 годзе) паведамляе для 530 года: «на заходнім боку неба (г.азн. пасьля заходу Сонца) на працягу 20 дзён бачылі вельмі вялікую і вельмі жахлівую камету. Яна распасьцірала свае лучкі да самых высокіх частак неба, нагадваючы запаленую агніцу, чаму яна і атрымала назву «Лампадыя». Ці дае нам права такое няпэўнае паведамленне XII стагоддзя атаясаміць гэтую «Лампадыю» з каметай Галея, вярнуўшуюся каля 530 года? Коўэл і Крамэлін лічылі, што – так. Галей і Пэнгрэ, што – не. Да гэтай апошняй думкі варта далучыцца і нам.

Папярэднічаўшае гэтаму з'яўленне каметы Галея вылічваецца тэарэтычна прыпадаючым на ліпень **451** года нашай эры. Але на гэты год еўрапейскія гісторыкі нічога не даюць, а для 450 года Эксторміус пазначае камету пасьля якой адбылася бітва на Каталаўнскім полі паміж рымскім правадыром Аэцыем і царом Атылай, у якой з абодвух бакоў загінула 180000(!!) чалавек. Гішпанскія біскупы Гідацый і Ісідор із Сявіллі (Гіспаліса) прыпісвалі ёй перамогу над гунамі. А кітайскія аўтары паведамляюць, што 17 траўня 451 года была камета ў Пляядах і 13 ліпеня (пры Сонцы ў Раку) яна знаходзілася на мяжы сузор'яў Ільва і Панны (Ма-Туан-Лінь). Цалкам магчыма, што гэта і была камета Галея, але для атаясамлення зноў жа нехапае дадзеных.

Папярэднічаўшае гэтаму вяртанне каметы Галея тэарэтычна вылічваецца прыпадаючым на **373** год. Але ў еўрапейцаў зноў няма пра яе дакладных паведамленняў, таму што да простага выказвання Экстормівуса: «у 375 годзе за некалькі дзён да сьмерці імператара Валентыніяна зіхацелі бліскаючыя валасатыя каметы», немагчыма ставіцца сур'езна: падобныя выказванні можна знайсьці ў большасьці еўрапейскіх гісторыкаў амаль ці не ў кожным сярэднявечным годзе. А ў «Шэ-кэ» і «Лясным кані» мы маем тут супярэчнасць. «Лясны конь» паведамляе: «9 сакавіка 373 года (пры Сонцы ў Рыбах) была бачнай камета ў вобласьці β

Вадаліва (г.азн. у стане ранішняй бачнасьці). Яна была ў вобласьці Панны (неверагодны скок!), у Крумкачы, у Чарцы і ў вобласьці κ-λ-μ Гідры. 7 красавіка (пры Сонцы ў Авене) яна была (зноў!) у вобласьці Шаляў, 25 верасня (пры Сонцы ў Панне) – у вобласьці, акрэсленай Змеем. Падобны шлях можа існаваць толькі ў фантазіі ці пры змешванні двух камет. А «Шэ-кэ» ў дадатак датуе гэтую ж камету годам пазьней (люты і сакавік 378 года). Такімі апісаннямі можна падмацаваць што заўгодна калі браць да ўвагі тое, што каметы часта згадваюцца не толькі еўрапейскімі сярэднявечнымі аўтарамі, падзяляючымі кожную камету на цэлае гняздо камет і напаўняючымі імі некалькі суседніх гадоў, але і ў кітайскіх пісьменнікаў, усе рукапісы якіх не даўней XV стагоддзя нашай эры.

Папярэднічаўшае гэтаму вяртанне каметы Галея тэарэтычна вызначаецца прыпадаючым на год каля **295** года. Грунтуючыся на еўрапейскіх першакрыніцах мы для гэтага года, вядома, нічога не знойдзем, таму што ён прыпадае якраз на сярэдзіну храналагічнага зруху еўрапейскіх запісаў ад 220 да 307 года нашай эры (гл. табл. LXLIX натр. 130).

А згодна з «Шэ-кэ» і «Лясным канём», у якіх гэты прамежак утрымлівае асабліва шмат камет, мы натуральна і знаходзім вельмі прыдатную, якая, згодна з паведамленнем Ма-Туан-Лінь, з'явілася ў 296 годзе: «У траўні яна была ў вобласьці β-δ-ε Андрамеды і самых блізкіх да яе зорак у Рыбах. Яна прайшла праз α Ільва і Львяняці, праз мяжу Ільва і Панны, перасекла зоркі ў назе Вялікай Мядзьведзіцы і γ Пярсея».

Але гэтае паведамленне дапасуецца ўжо да наступнага (296) года, тады як тэорыя дае 295 год. Ці не выпадковае тут напалову-супадзенне?

Папярэднічаўшае гэтаму з'яўленне каметы Галея тэарэтычна вылічваецца прыпадаючым на **218** год, і адпаведна гэтаму Дыён Касій паведамляе: «Незадоўга да сьмерці імператара Макрына жудасная зорка далёка распасьцірала свае прамяні з захаду на ўсход і шмат начэй запар з'яўлялася перад нашым позіркам, надаючы разнастайныя жахі».

Дакладна так жа Ксіфілін для 217 года паведамляе: «на працягу шматлікіх начэй была бачнай зорка, расьцягнутая ад захаду да ўсходу». А Ракенбах паведамляе для 220 года: «Пад час валадарання Антаніна Каракалы на працягу 18 дзён з'яўлялася камета ў сузор'і Рыб, якая рухалася ад усходу да захаду. Крыху пазьней наступіла сьмерць Каракалы. Макрын быў два разы пераможаны ў вайне супраць Артабана і купіў мір коштам вялікіх грошай. Імператар Геліагабал быў забіты сваімі жаўнерамі ў прыбіральні».

А «Шэ-кэ» і «Лясны конь» паведамляюць: у 218 годзе «ў красавіку была бачнай камета на ўсходзе каля 20 дзён (гэта азначае ў Рыбах ці Вадаліве пры Сонцы ў Авене). Потым, вечарамі, яна ішла праз вобласць α-β-ο-κ Возніка і β Цяляці, праз Двайнят і вобласць θ-φ-ν Вялікай Мядзьведзіцы праз вобласць α Ільва і прастору паміж Ільвом і Паннай.

Папярэднічаўшае гэтаму з'яўленне каметы Галея вылічваецца тэарэтычна на **141** год, але ў гэты перыяд, пачынаючы з 130 года, мы не знаходзім ніякіх паведамленняў пра яе ў нашых еўрапейскіх першакрыніцах. Толькі ў 145 годзе, згодна са сведчаннем Ракенбаха, «пад час Антаніна Пія з'яўлялася на працягу 6 начэй зіхацячая камета ў сузор'і Вадаліва», і за ёй, згодна са сведчаннем Юлія Капіталійскага, хутка наступілі: «жорсткі голад, лютая чума, шматлікія паводкі і незвычайны землятрус, узрушыўшы Родас і іншыя важныя месцы. Нарбон у Францыі, Антыёхія і Форум Картагена загінулі ў полымі. Тыбр насуперак звычаю

затапіў усе наваколі, а Валянтын і Цэрдон пашыралі сярод людзей свае бязбожныя дагматы». Пра яе ж, напэўна, паведамляе і Стулпіус у гісторыі войн Генрыха IV згодна са сведчаннем Кекерманна[25]: «Доўгі час паказвалася камета на ўсім зямным шары».

А «Шэ-кэ» паведамляе: «27 сакавіка 141 года з'явілася на ўсходзе блакітнавата-белая камета каля 6-7 кубітаў даўжынёй. Яна паказвала на паўднёвы захад, на вобласць α-β Пегаса, і распасьціралася да вобласьці γ-η-π Вадаліва. 16 красавіка яна была ў вобласьці β-δ Андрамеды і схавалася, дасягнуўшы 6 кубітаў у даўжыню 23 красавіка (пры Сонцы ў Авене). Потым яна была бачнай на паўночным захадзе вечарамі (памылкова паведамляецца: раніцамі), прайшла праз Пляяды і вобласць β-δ-ε Цяляці; 23 красавіка яна зайшла ва ўсходнюю частку вобласьці γ-δ-λ-μ Двайнят, прайшла праз вобласць α-λ-μ Гідры, у вельмі яскравым выглядзе, у вобласць α Ільва і потым знікла». Так паведамляе «Шэ-кэ», і тут усё праўдападобна, акрамя пераходу каметы на Двайнят праз Андрамеду і Рыб і Гідру. А Ма-Туан-Лінь дапасуе гэтае ж апісанне на 20 сакавіка 131 года, г.азн. на 10 гадоў раней, што ўжо выкінула б яе із шэрага вяртанняў каметы Галея.

Папярэднічаўшае гэтаму з'яўленне каметы Галея тэарэтычна вылічваецца (грунтуючыся на 76-гадовым цыкле) на час каля **64** год нашай эры. Але для гэтага года еўрапейскія запісы не даюць нам ніякай каметы. Толькі апакрыфіст кніг, выдадзеных ад імя Тацыта, паведамляе, што «ў 66 годзе з'явілася камета, прадказваўшая разбурэнне Юдэйскага царства», тады як іншыя дапасуюць яе да 68 і 69 гадоў.

А ў «Лясным каню» і ў «Шэ-кэ» для 65 года пазначана: «4 чэрвеня (пры Сонцы ў Двайнятах) з'явілася камета па 37 градусе вобласьці δ-ε Гідры і κ-λ-μ Гідры (г.азн. у стане вечаровай бачнасьці). Яна зайшла ў вобласць α-γ-ε Ільва і прайшла праз вобласць α-γ-δ Пярсея (што немагчыма). Яе хвост распасьціраўся да Панны і была яна бачнай на працягу 56 дзён» (Шэ-кэ, Ма-Туан-Лінь). І, акрамя таго, Шэ-кэ яшчэ апісвае камету на 20 лютага 66 года: «дзіўная зорка роўная 8 кубітам у даўжыню з'явілася ў вобласьці β Казярога, прайшла праз вобласць ν-ξ-ω Стралка ў вобласць да поўдня ад β-δ-π Скарпіёна і знікла пасьля 50 дзён бачнасьці».

Гайд лічыць, што гэта і была камета Галея. Але тут мала дадзеных для ўпэўненасьці.

І вось мы прыходзім, нарэшце, да тэарэтычна вылічваемай магчымасьці з'яўлення каметы Галея ў **мінус 11** годзе нашай эры («12 год да Н. Х.»). Даўнасць ужо як быццам цалкам міфічная, але і тут мы знаходзім паведамленні, якія можна прывесьці ў якасьці падмацавання разлікаў каметы Галея... Так, у еўрапейцаў у 12 годзе пазначаецца камета, у якой можна б западозрыць камету Галея, а ў гісторыка-астранамічным летапісе Ма-Туан-Лінь, хаця яна і напісана не раней XVII стагоддзя нашай эры, знаходзім нават і апісанне яе шляху.

«26 жніўня мінус 11 года (пры Сонцы ў Ільве) на ўсход ад Двайнят (г.азн. у стане ранішняй бачнасьці) з'явілася камета, накіроўваючаяся да вобласьці θ-ν-τ Двайнят і рухаючаяся да вобласьці θ-ν-τ Ільва і κ Панны з хуткасцю 6 кубітаў за дзень. На трынаццаты дзень вечарам яна была на захадзе над сузор'ем Ільва, зайшла ў сярэдзіну кола незаходзячых зорак, мінула Млечны шлях і пайшла на поўдзень. Прайшоўшы над Арктурам і зоркамі на назе Валапаса, яна зайшла ў Змея і заставалася там падчас маладзіка, павольна рузаючыся да сярэдзіны сузор'я.

[25] Keckermann: Systema Phys. Кн. 6. гл. V.

Пакінуўшы яго ў заходнім накірунку, яна на 56 дзень ад з'яўлення заходзіла ў вобластці Шаляў, Скарпіёна і Змея.

Такім з'яўляецца апісанне «Ляснога каня», а ў «Шэ-кэ» пра гэтую камету не паведамляецца нічога, хаця там апісваюцца непараўнальна больш нязначныя каметы і раней, і пасьля яе (напрыклад, для -44 і +13 гадоў нашай эры). Ці маем мы права «лічыць толькі што прыведзенае апісанне Ма-Туан-Лінь за першае згадванне, за час гістарычных запісаў чалавецтва, пра праходжанне каметы Галея праз перыгелій?

Мне здаецца, што такая выснова якраз азначала б пра апантанасць тым дасьледніцкім захапленнем, якое, як я ўжо выказваўся, не рэдка мае наступствам вельмі памылковыя высновы. Калі ж выключыць із гэтага апісання скок каметы ў Млечны Шлях, якога няма ў гэтай вобласьці неба, то хаця гэтае паведамленне робіцца падобным на рэчаісны шлях нейкай каметы, ён усё ж недастаткова вызначаны, каб атаясаміць яго з арбітай каметы Галея. А калі так, то і яго дата можа выявіцца перанесенай на некалькі стагоддзяў назад і дададзенай да «Ляснога каня» ўжо пасьля таго, як ён быў перапісаны із «Шэ-кэ» (ці наадварот), з нагоды чаго ў «Шэ-кэ» і не выявілася гэтага апісання.

* * *

Такім чынам, камета Галея не дастаткова падмацоўвае паведамленні «Шэ-кэ» і «Ляснога каня» ў той іхнай частцы, якая паведамляе пра падзеі, дапасуемыя да першых стагоддзяў нашай эры. Якое ж права мы маем лічыць, што гэтыя кнігі могуць падмацаваць храналогію нават і за пачаткам нашай эры? І яшчэ ў большай ступені гэта мае дачыненее да запісаў знойдзеных у Яўропе. Мы ўжо бачылі, што еўрапейскія летапісы цалкам не паведамляюць амаль нічога пра саму камету, а выключна пра тое, што яна «прадвесьціла», і не пазначаюць каметныя шляхі па зорнаму небу, таму што іхныя складальнікі не былі астраномамі. Пры такіх умовах камета Галея можа пацвердзіць які заўгодна фантастычны запіс, блізкі да тэарэтычна вызначанай даты вяртання да нас гэтай дзіўнай міжпланетнай вандраўніцы.

Кожная ж рэчаісная камета на небе распадалася, як мы бачылі ў розных еўрапейскіх запісах, на цэлую серыю камет з нагоды недакладнасьці датавання, і таму непазбежна павінен выявіцца хаця б адзін із гэтых недакладных запісаў паблізу ад кожнага рэчаіснага з'яўлення каметы Галея ці ад якой заўгодна іншай перыядычнай каметы.

А акрамя гэтага патрэбна яшчэ рашыць пытанне: ці могуць такія далікатныя і эфемерныя ў касмічным сэнсе стварэнні, як каметы, існаваць, не распаўшыся на метэарыты, на працягу 2000 гадоў?

# Глава VIII.

## Агульныя высновы пра ідэаграфічныя каметныя запісы знойдзеныя ў Кітаі.

Увесь характар апісанняў каметных шляхоў пасьля пачатку нашай эры ў кітайцаў да такой ступені адрозніваецца ад апісанняў іхных шляхоў да яе, што немагчыма не звярнуць увагу на гэтую трансфармацыю. Непазбежна даводзіцца зрабіць выснову, што ўсе каметы, калі не раней 607 года нашай эры, то раней мінус

12 года, з'яўляюцца апокрыфамі, г.азн. уяўляюць сабой варыяцыі нашмат больш пазьніх апісанняў, перанесеных у глыбіню стагоддзяў.

Асабліва ж даводзіцца тут дзівіцца таму, якім чынам у навукова-адсталым Кітаі захаваліся дакладныя апісанні каметных шляхоў ад самага пачатку нашай эры, тады як у непараўнальна больш адукаванай, культурнай і разумова ініцыятыўнай Заходняй Яўропе мы не знаходзім нічога, акрамя недарэчных меркаванняў пра прадказваемыя каметамі бедствы? І вось, я зноў пытаю: ці немагчыма выказаць здагадку, што кітайскія гісторыка-астранамічныя летапісы Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь уяўляюць сабой толькі эміграваўшыя ў Кітай творы сярэднявечнай еўрапейскай астралогіі, пасьля таго як царква і свецкае заканадаўства пачалі прыраўноўваць астролагаў да атрутнікаў і выганяць іх на ўскраіны сьвету?

Яшчэ раз выкажам здагадку, што асноўныя кітайскія дакументы былі напісаны каталіцкімі місіянерамі ці эміграваўшымі ў Кітай еўрапейскімі сярэднявечнымі навукоўцамі на сваёй лацінскай ці грэцкай мове, але не з дапамогай лацінскага ці грэцкага гукавых альфабэтаў, якія цалкам не прыдатны для разнастайных гукаў кітайскай мовы, а гэтымі прыдуманымі імі міжнароднымі ідэаграфічнымі значкамі для таго, каб зрабіць чытанне зразумелым для кожнага кітайца і не кітайца, незалежна ад яго нацыянальнасьці. Тады кітайцы, чытаючы гэтыя прышчапіўшыяся толькі ў іх значкі на працягу некалькіх пакаленняў на сваёй роднай мове і даючы розным ідэаграфічна ж намаляваным гістарычным тварам свае ўласныя найменні, маглі падумаць, што ў дадзеным выпадку гаворка ідзе пра іхную родную краіну, тады як насамрэч тут апісана гісторыя візантыйска-рымскіх ці ягіпецкіх імператараў?

Тады і тут выявіцца не меншае непаразуменне, чым здарылася з «гісторыяй цароў ізраільскіх і юдэйскіх», якой я распрацаваў яе ў другім томе гэтай маёй працы. Але тут жа можа выявіцца і нейкі станоўчы бок. Ідэаграфічная малявальная пісьмовасць Кітая, распрацаваная з гэтага боку гледжання не раней сярэдневечча і мала спрыяючая дзівацтвам аўтарскай фантазіі, магла непараўнальна лепш захаваць нам у сябе храналогію і агульную схему падзей у культурных дзяржавах Яўропы пад час старажытнасьці, чым еўрапейская гукавая пісьмовасць, спрыяўшая разнастайным варыяцыям, дадаткам і новым моўным выказванням. А выпадкі пераносу гістарычных паведамленняў на чужыя мовы ўжо не раз бывалі раней: без грэцкай літаратуры мы б амаль нічога не ведалі, напрыклад, пра сярэднявечнае жыццё блізкага Ўсходу. Што ж да кітайцаў, то апошнія падзеі іхнага палітычнага жыцця, як я ўжо выказваўся і раней, дастаткова аспрэчылі ўсталяваныя ў XVIII і XIX стагоддзях уяўленні пра іхную незвычайную закаснеласць і арганічную няздольнасць да ўдасканаленняў. А з сучаснага боку гледжання, не аспрэчваючага рухомасьці ў кітайцаў, даводзіцца, як быццам, западозрыць на раўнінах Гоанга і Яндзыдзяна, замест самага старога із вялікіх культурных дзяржаўных утварэнняў зямнога шара, ледзь ці не самае маладое...

Але якім бы ні было паходжанне гэтых кітайскіх запісаў пра каметы, а ўсё ж дзіўныя супадзенні некаторых з іхных каметных апісанняў з тэарэтычна вызначанымі перыядамі вяртання каметы Галея вымушаюць ставіцца да іх сур'ёзна, як да надзейнага сродку для праверкі старажытных дакументаў, змяшчаючых каметныя апісанні.

Праўда, што за выключэннем каметы Галея мы не ведаем ніводнай добра назіраемай простым вокам перыядычнай каметы, здольнай пацвердзіць нам

дакладнасць еўрапейскіх і кітайскіх паведамленняў. У наш час усталявана перыядычнасць шматлікіх, большай часткай маленькіх камет, але ніводная з іх не згадваецца ў летапісах так, каб можна было пераканаўча атаясаміць яе з нейкай із іх.

Возьмем хаця б вялікую «камету Карла V», з'явіўшуюся ў 1556 годзе і так напалохаўшую гэтага імператара, што ён адмовіўся ад пасаду на карысць свайго брата Фердынанда, а гішпанскую карону перадаў свайму сыну Фердынанду, усклікнуўшы: «у гэтым яскравым сьцягу я бачу сваю смерць!». «Яна – паведамляе «Саксонская хроніка» (кн. 18) – раскідала свае бякла-жоўтыя прамяні нападобе венікаў напачатку сакавіка 1556 года (пры Сонцы ў Рыбах). Пройшоўшы вельмі хуткім рухам да Арктура, яна потым прайшла каля паўночнага полюса да Цэфея і Андрамеды і была бачнай ўсю ноч. У красавіку яна падышла да Авена (у якім знаходзіліся Сонца, Сатурн, Марс і Венера), і потым назіралася некалькі дзён перад узыходам Сонца». «Пачынаючы ад 8 сакавіка 1556 года, – апісвае яе ж Рокенбах, – вечарамі на захадзе аж да заканчэння красавіка з'яўлялася камета бляклага колеру, якая вельмі хуткім бегам пасьпяшалася ад Коласа Панны да Валапаса і да Вялікай і Малой Мядзьведзіц, а адтуль да Цэфея і да Сатурна, які быў у сузор'і Авена. Яна так апярэдзіла Сонца перад днём Вялікадня, што не раз заўважалася перад узыходам Сонца, і за ёй наступіў такі голад, што шмат людзей памёрла». Амаль даслоўна тое ж паведамляе і Рычыолі, а Кардан у сваіх каментарах да другой кнігі Альмагесты (кн. 2, стар. 54) нават усклікае: «Я маю жаданне паведаміць пра з'яву, якую я назіраў пад час калі быў юнаком і вучыўся. З'явілася камета, тоўстая частка якой была круглай формы ўтрая большая за Венеру, асьвятляўшая сваім бляскам увесь зямны шар, як калі б сьвяцілася чацвёртая частка Месяца». Яна ж, напэўна, фігуруе ў Рокенбаха ў 1557 годзе ў форме мяча.

Усё гэта даводзіць, што «камета Карла V» была із вялікіх, і такой жа апісана яна ў кітайцаў. А за 292 гады да яе ў 1264 годзе была такая ж вялікая камета перад сьмерцю папы Урбана:

«Калі рымскі (г.азн. візантыйскі) імператар Міхал – паведамляе Эксторміус – знаходзіўся ў Фесаліі, на небе перад світаннем з’явіўся, трохі вышэй небасхілу, нябесны знак, прарок і прадвеснік бедстваў, знакамітая камета побач з сузор'ем Цяляці. Наколькі перамяшчалася наперад Сонца, на столькі ж яна адыходзіла ад небасхілу, пакуль не прайшла праз сярэдзіну неба. Калі яна зрабілася ўпершыню бачнай, было летняе сонцастаянне (сярэдзіна чэрвеня) і Сонца праходзіла праз сузор'е Рака, а калі яна пачала слабець і згасаць, Сонца дайшло да восеньскага раўнадзенства. Гэтая камета знікла, зацвердзіўшыся ў сузор'і Цяляці. Бачачы, што яна пагражае няшчасьцем, імператар, развітаўшыся з Фесаліяй, падняў ветразі, паспешна адплыў у Візантыю і даведаўся пры гэтым, што скіфы, жывучыя каля Дуная, маюць намер уварвацца ў рымскія (г.азн. візантыйскія) межы. І перш чым ён вярнуўся ў горад, яны падобна ўсхваляванаму мору, далёка выйшаўшаму із берагоў, атачылі Фракію з усіх бакоў».

Пра гэту ж камету паведамляе і Рокенбах, а Бельгійская хроніка (стар. 254) называе яе «такой выдатнай каметай, якой да гэтага часу ніхто не бачыў».

Яна ж апісана ў «Лета-Запісе (Шэ-кэ)» і Пэнгрэ грунтуючыся на ёй, вызначыў, што яе арбіта вельмі блізкая да арбіты «Каметы Карла V».

| | Нахіленне | Даўгата вузла | Даўгата перыгелія | Адлегласць перыгелія |
|---|---|---|---|---|
| Камета 1556 г. | 30°12' | 175°26' | 274°14' | 0.50 |
| Камета 1264 г | 30°20' | 175°30' | 172°30' | 0.43 |

Ён палічыў абедзьве каметы за тую ж самую камету, маючую перыяд вяртання да Сонца каля 292 гадоў. Згодна з гэтай тэорыяй яе патрэбна шукаць яшчэ і ў 972, і ў 680, і ў 388, і ў 96 годзе нашай эры. Але што ж выявілася?

1. Каля паказванага гэтым разлікам 972 года (у 975), згодна з Эксторміусам, сапраўды «блішчэла камета на працягу амаль 8 месяцаў, пры гэтым быў атручаны цар Ян Цымісхій». Згодна з «Брытанскімі старажытнасьцямі» у 975 годзе «з'явілася зорка-камета, за якой наступіў голад сярод людзей і мор сярод клуначнай і дробнай жывёлы». А згодна з Рокенбахам пад час гэтага года была бачнай ў Рэгіі камета, атрымаўшая назву «лысая», пасьля якой «памёр кароль Эдгар і лютавалі жорсткія маразы ад першага лістапада да вясновага раўнадзенства». У гэтым жа годзе апісвае камету і «Лясны-конь» (Ма-Туан-Лінь на англа-шанхайскай гаворцы.

2. Каля тэарэтычна вылічанага 680 года (у 684) знаходзім у Эксторміуса «жудасную камету, якая з'яўлялася тры месяцы, пасьля чаго хутка прыйшлі дажджы, маланкі, грымоты і памёр усходне-рымскі імператар Гераклій. Яе ж мы бачым і ў Альстэдывуса, і ў Кальвізія, і ў «Шэ-кэ» кітайцаў, хаця мы ўжо прызналі гэты выпадак (гл. вышэй) за з'яўленне каметы Галея. Праўда, што ў «Шэ-кэ» і ў «Лясным каню» існуе яшчэ вялізная, роўная 50 локцяў даўжыні, камета і для 681 года, якую пры патрэбе можна палічыць за патрэбную нам.

3. Каля тэарэтычна вылічанага 388 года мы знаходзім у еўрапейскіх аўтараў камету 389 года, якая згодна з Рокенбахам, «ззяла падобна Люцыферу 20 дзён у сузор'і Двайнят, і ад граду на працягу двух дзён былі вялікая страты ў дробнай скаціне і ў дрэвах». А згодна з Рычыолі ў 390 годзе «была камета пад Юпітарам» (знаходзіўшымся тады ў Ільве). У гэтым жа годзе «Лета-Запіс» і «Лясны конь» пазначаюць вялізную камету «роўную 100 локцяў даўжыні», хаця таксама без патрэбных падрабязнасьцей.

4. Каля тэарэтычна вылічанага 96 года гісторыкі гэтай каметы знаходзяць запіс 102 года, у «Шэ-кэ» тлумачачы, што пры такім вялікім перыядзе абарачэння, адрозненне роўнае 6 гадам цалкам дазволена, як гэта паказваюць варыяцыі вяртання каметы Галея....

Здавалася б тут таксама, як і ў выпадку каметы Галея, усё выдатна: і кітайскія, і еўрапейскія запісы «даводзяць» перыядычнасць вяртанняў «каметы Карла V», а сама «камета Карла V» у сваю чаргу даводзіць праўдзівасць гэтых запісаў аж да пачатку нашай эры... Але хутка здарылася і нечаканае расчараванне. Калі паспрабавалі, грунтуючыся на гэтым жа 292-гадовым перыядзе, прадказаць «вяртанне каля 1858 года, даючы прамежак ад 1856 да 1860, то яна не з'явілася не толькі пад час пазначанага тэрміну, але і да гэтага часу, і разам з тым гэта мела наступствам недавер і да ўсіх яе меркаваных старажытных «падмацаванняў кітайскімі запісамі».

Калі яна да нашага часу распалася на метэарыты падобна камеце Біелы і іншым, то зноў паўстае паднятае мной пытанне пра даўгавечнасць камет... Магчыма, што яна і з’явілася толькі пад час сярэдневечча і распалася пасьля двух-трох абарачэнняў...

І гэты выпадак зноў даводзіць, як скептычна павінны мы ставіцца да такіх двухбаковавострых доказаў, нават і тады, калі яны з выгляду «даводзяцца і тэорыяй». Таму ж я не вельмі даверліва стаўлюся і да запісаў пра саму камету Галея раней 607 года нашай эры, калі як у еўрапейскіх, так і ў кітайскіх сведчаннях пра яе пачынаюць выяўляцца чаргуючыяся недахопы. А працягваючы іх і за

пачатак нашай эры, як спрабуюць некаторыя, мы можам патрапіць у такое ж смешнае становішча, як і ангельскі філосаф і багаслоў Вістан. Прачытаўшы гіпатэтычнае меркаванне таго ж Галея, што не толькі камета 1682 года, якая справядліва носіць яго імя, але і папярэднічаўшая ёй вялізная камета 1680 года можа быць перыядычнай пры дапушчэнні, што яна абарачаецца вакол Сонца каля 575 гадоў, Вістан палічыў яго верагоднае вылічэнне за дакладнае і патлумачыў ім нават і сам біблейскі «сусветны патоп» такім спосабам:

«У пятніцу 28 лістапада 2349 года да Нараджэнння Хрыста, – выказваецца ён, – ці 2 снежня 2926 года, – гэта ўсё адно, бо цалкам дакладны час патопу невядомы! – камета знаходзілася каля свайго вузла, г.азн. перасякала зямную арбіту, і ў тым жа вузле знаходзілася Зямля. Збліжэнне (а не сутыкненне)[26] адбылося ў той момант, калі быў поўдзень у Пекіне, дзе, як патрэбна меркаваць, жыў Ной да патопу. Здарыўся вялізны прыліў, самая жудасная паводка. Горныя ланцугі Арменіі і суседнія вяршыні, знаходзіўшыяся ўсяго бліжэй да каметы, трэснулі ад ціску прыліву падземнай распаленай масы і расчыніліся. І такім чынам зямная паверхня пакрылася вадой, адбыўся сусьветны патоп. Але гэтым спусташэнне не абмежавалася. Атмасфера каметы і яе хвост закранулі Зямлю і напоўнілі яе паветра вадой і зямлёй, якія падалі на працягу сарака дзён. Так «расчыніліся ўсе прорвы нябесныя».

Глыбіня вады падчас патопу была, згодна з Вэстанам, «роўнай шасьці ангельскім мілям (5 кіламетрам), із якіх каля адной мілі паходзіла ад вывяржэння ўнутраных вадкіх мас зямлі, амаль чатыры мілі ад атмасферы каметы, і толькі нікчэмная частка ад хваста каметы».

А іншы аўтар, канонік св. Жэнеўевы ў Парыжы, дадаў сюды і наступныя радкі:

«Калі адбылося грэхападзенне чалавека, маленькая камета прайшла вельмі блізка ад Зямлі і, перасякаючы нахільная плоскасьць яе арбіты, надала планеце круцільны рух. Без сумневаў, тая ж камета зноў надала зямной арбіце амаль цалкам круглую форму, якая, як кажа Вэстан, была ў Зямлі да патопу».

А далей ён жа дадае:

«Бог прадбачыў, што чалавек саграшыць і што за свае жудасныя грахі ён будзе жорстка пакараны. Таму падчас стварэння сьвету ён стварыў і камету, якая паслужыць яму прыладай пакарання. Гэтая прылада – камета 1680 года».

Не будзем жа і мы, чытач, падобна набожнаму каноніку пры царкве св. Жэнеўевы ў Парыжы пры праверцы старажытна-гістарычных паведамленняў абмяжоўвацца аднымі каметамі, інакш і мы будзем жорстка высечаны гэтымі нябеснымі бізунамі.

# Глава IX.

## Еўрапейскія паданні пра каметы.

Асабліва небяспечна карыстацца для нейкіх сур'ёзных храналагічных вызначэнняў еўрапейскімі каметнымі запісамі, у якіх амаль ніколі няма апісання ходу каметы па сузор'ях, у чым можна пераканацца на наступных прыкладах.

[26] Камета прайшла вельмі блізка ад Зямлі (нататка Вістана).

Вось, напачатку каметаграфіі Любянецкага прыведзена перадусім «Камета сусьветнага патопу». Перакладаю для азнаямлення дакладнае яе апісанне Любянецкім:

«Эксторміус, – грунтуючыся на сведчанні Герміцыуса, – паведамляе, што яна з'явілася ў сузор'і Рыб (знак паводкі) пад Юпітарам у 1667 годзе пасьля стварэння сьвету і за 2312 гадоў да Нараджэнння Хрыста, калі Ною было 600 гадоў».

Але ў 2312 годзе да пачатку нашай эры Юпітар, згодна з маімі вылічэннямі, быў цалкам не ў Рыбах, а ў Скарпіёне[27], а ў Рыбы прыйшоў толькі ў лютым мінус 2307 года адпаведна астранамічнаму злічэнню, а адпаведна звычайнаму гістарычнаму ў лютым 2308 года «да Н. Х.». Ужо толькі із гэтага зразумела, што гэтая камета прыдумана.

Другая камета, прыведзеная Любянецкім із таго ж Эксторміуса, з'явілася, «калі Абрама было 70 гадоў, у Халдэі, пад Марсам у Авене ў 2018 годзе ад стварэння сьвету і за 1949 гадоў да Нараджэнння Хрыста і была бачнай дваццаць два дні».

Адсутнасьць указання месяца не дае мне магчымасьці праверыць яе грунтуючыся на руху Марса, які абыходзіць усе сузор'і амаль за два гады[28]. Але і яе легендарнасць не выклікае сумневаў ужо дзякуючы аднаму таму, што яна была бачнай толькі ў адной Халдэі.

Трэцяя камета згодна з той жа крыніцай была «ў часы Ісака, сына Абрама, у Ягіпце ў 2128 годзе ад стварэння сьвету, за 1841 год да Нараджэнння Хрыста ў сузор'і Ільва, і за ёй наступіла падаражанне прадуктаў харчовання».

Месцаванне планет тут не паказана, і дзякуючы гэтаму немагчыма праверыць гэтае, як запэўніваюць, «сведчанне старажытных».

Чацвёртая «камета нападобе кола» з'явілася, згодна з тым жа Эксторміусам, «у 2237 годзе ад стварэння сьвету і за 1732 гады да Нараджэнння Хрыста ў Аравіі паблізу Стралка пад Юпітарам і «без сумневаў была прадвесніцай голаду пры Ёсіфу (сыне Якава)». Але Юпітар у 1732 годзе да пачатку нашай эры быў згодна з маімі вылічэннямі грунтуючыся на табліцах размешчаных у чацьвёртым томе «Хрыста» не ў Стралку, а ў Панне і ў Шалях[29] і прыйшоў у Стралка толькі ў мінус 1730 годзе.

Пятая камета, з'явіўшаяся згодна з Эксторміусам «ў 2454 годзе ад стварэння сьвету», за 1515 гадоў да Нараджэнння Хрыста, «ішла перад ізраільцянамі, выходзячымі із Ягіпта пад правадырствам Майсея». Планет пры ёй не паказана. Эксторміус дадае, што гэта была тая самая камета, пра якую згадвае Пліній у 25 главе 2-й кнігі «Historia Naturalis» і меўшая назву Тыфон, згодна з імем ягіпецкага цара, сына бога Азірыса.

У мяне няма патрэбы пераконваць чытача ў міфічнасьці гэтых пяці камет, відаць апакрыфікаваных з нейкіх больш позьніх. Я пакажу тут толькі, што калі мы да першай із гэтых камет (2312 гады) будзем паслядоўна дадаваць лічбу 540 як перыяд яе абарачэння, то атрымаем яе з'яўленні яшчэ ў -1772, -1232, -692, -152, у +388, +928 і ў +1468. Адносна дат да пачатку нашай еўрапейскай эры мы не

[27] У сярэдзіну Шаляў ён прыйшоў у ліпені мінус 2311 года; у сярэдзіне Скарпіёна быў у чэрвені 2310 г. (а Сатурн у Стралку і ў Казярогу).

[28] Юпітар у мінус 1948 г. быў у Двайнятах, а Сатурн – у Авене.

[29] У сярэдзіну Панны прыйшоў у верасні -1732 г., а ў сярэдзіну Шаляў у лістападзе -1731 г. Сатурн у гэтыя гады ішоў з Ільва ў Панну.

знаходзім нідзе ніякіх указанняў, але для дат пасьля яе маем усе тры. У 390 годзе ёсць указанне на з'яўленне каметы ў «Шэ-Кэ» і ў «Лясным кані», а еўрапейскія запісы (згодна з Рычыолі) датуюць яе 389 годам (калі Юпітар ішоў з Цяляці ў Двайняты). Адносна 928 года ёсць указанне ў тых жа Шэ-кэ ў Ма-Туан-Лінь, а еўрапейскія хранікёры датуюць яе 930 годам, калі Юпітар быў у Вадаліве. І, нарэшце, адносна 1468 года, калі Юпітар быў у Двайнятах, ёсць цалкам пагадняючыяся ўказанні як ў кітайскіх так і ў еўрапейскіх першакрыніцах. У гэтым годзе была вельмі вялікая і бліскучая камета ў Гідры ці Вадзяным Змеі насупраць Сузор'я Рыб.

Мне здаецца, што гэтая ж самая ілжывая перыядычнасць вяртання камет праз 540 гадоў магла быць заўважана ў XV, XVI, ці XVII стагоддзях, хаця б сам Галей і пачаў свае першыя працы па вырашэнню пытання пра навуковую апрацоўку перыядычнасьці камет толькі ў 1705 годзе. Такім чынам, камета 1468 года магла быць прыстасавана да мяркуемай загадзя даты сусьветнага патопу, які быццам бы здарыўся ў -2312 годзе да пачатку нашай эры. А Юпітар мог быць памылкова вылічаны ў сузор'і Рыб дзякуючы няведанню часу яго геліяцэнтрычнага руху, бо вызначыць дакладны час зорнага абарачэння планет не грунтуючыся на кропцы поглядаў Каперніка, цалкам немагчыма. Усе планеты будуць падыходзіць да той жа зоркі то раней, то пазьней, мяркуючы па таму, у якой перспектыўнай кропцы заспее іх Зямля ў сваім гадавым абарачэнні вакол Сонца. Вось чаму ўсе сярэднявечныя аўтары аж да самога Каперніка і даюць велічыні абарачэння толькі ў цэлых лічбах: для Юпітара 12 гадоў, для Сатурна 30, а для Марса роўна 2 гады.

Памылка ў вызначэнні мясцаванняў Юпітара на чатыры гады пры пазначэнні часу яго прыходу ў сузор'е Рыб (каб засядлаць імі камету падчас сусветнага патопу) дастаткова паказвае, што ў абодвух выпадках гаворка ідзе не пра рэчаісныя, а пра няправільна вылічаныя нябесныя падзеі.

Грунтуючыся на велічыні памылкі ў вызначэнні месцавання Юпітара, як мне здаецца, дае магчымасць вызначыць нават і час, калі было зроблена ўсё гэтае вылічэнне.

Калі б аўтар лічыў сярэдні час зорнага абарачэння Юпітара хаця б прыблізна, як мы зараз (каля $11,_{86}$ гадоў), то ў яго б не атрымалася такой вялікай памылкі. А як толькі мы будзем лічыць, што ён лічыў, як і старажытныя, поўнае абыходжанне Юпітарам усіх знакаў Задыяка роўным 12 гадам, так зараз жа і вылічваем, што ён жыў у XII ці ў XIII стагоддзі нашай эры, каля 1168 года, калі Юпітар таксама знаходзўся ў сузор'і Рыб (а Сатурн ішоў із Казярога ў Вадаліва), ці, яшчэ больш верагодна каля 1228 года, калі Юпітар быў у сярэдзіне Рыб, а Сатурн непасрэдна ў Вадаліве, што выклікала ў астролагаў трывожнае чаканне патопу. І вось грунтуючыся на гэтым месцаванні аўтар меў намер вылічыць месцаванне Юпітара пад час «Ноевага патопу». Ён адняў для гэтага ад 1168 года 290 поўных абарачэнняў Юпітара, па 12 гадоў кожнае (г.азн. 3480 лет[30]) і зрабіў выснову, што ў Рыбах жа Юпітар быў і ў мінус 2312 годзе. А ён на самай справе ў гэты час, як я ўжо паведамляў, быў яшчэ ў Стралку. Калі б аўтар грунтаваўся на нейкім іншым месцаванні Юпітара ў Рыбах на працягу тысячы гадоў назад і наперад ад пазначаных мной 1668 і 1228 гадоў, то не атрымалася б паведамляемай аўтарам неадпаведнасьці – Рыбы замест Стралка, а атрымалася б – Рыбы замест Скарпіёна ці Рыбы замест Казярога, ці яшчэ большае адхіленне ад Стралка па меры аддалення ад XII стагоддзя.

---

[30] Ці ад 1228 года 295 абарачэнняў Юпітара, г.азн. 3540 гадоў.

Справа ў тым, што самая меншая (прыблізная) кратная колькасць паміж поўнымі 12 гадамі, у якіх лічылі раней абарачэнні Юпітара і рэчаіснай лічбай яго абарачэння, роўная 1032 гадам, і толькі праз такі прамежак, вылічэнні як грунтуючыся на 12-гадовым, так і наа $11{,}_{86}$-гадовым спосабе супадаюць адзін з адным, а ў прамежках паміж імі памылка пры ранейшым спосабе дасягае аднаго сузор'я праз кожныя 84 гады г.азн. за сем абарачэнняў Юпітара. Таму, калі мы адкінем 1228 і 1668 гады, як час стварэння гэтага апокрыфа, то самым блізкім да іх тэрмінам будуць 196 і 139 гады нашай эры, але гэта ўжо занадта раннія даты. Дакладна так жа, лічачы час зорнага абарачэння Сатурна роўным 30 гадам, замест $29{,}_{467}$, як лічылі аж да Каперніка, аўтар мог прыйсьці да высновы, што ў Вадаліве ж ён быў і падчас «Сусветнага патопу» за 2312 гадоў да «Нараджэнння Хрыста».

Дакладна так жа мы вызначаем, што і час вылічэння каметы Ёсіфа Выдатнага, прадвяшчаўшай голад у Ягіпце, пры якой Юпітар быццам бы знаходзіўся «каля Стралка» ў 1732 годзе да «Р. Х.», магло быць зроблена такім жа спосабам грунтуючыся на месцаванні Юпітара тут жа ў 1628 годзе, незадоўга да стварэння кнігі Любянецкага, выдадзенай у 1681 годзе. Сатурн у гэтым годзе ішоў із Панны ў Шалі, што і магло быць палічана за ўказанне на хуткі голад.

Такім чынам, у першых жа главах нашай першакрыніцы еўрапейскіх запісаў пра каметы – кнізе Любянецкага – мы бачым пяць відавочна легендарных камет. За імі ідзе поўная адсутнасць якіх бы то ні было паведамленняў ці прыдумак у сярэднявечных еўрапейцаў аж да 480 года, пасьля чаго назіраецца усёпавялічваючыся шэраг камет аж да 1655 года нашай эры, калі Любянецкі закончыў сваю «Ўсеагульную гісторыю камет».

Не маючы ні патрэбы, ні магчымасьці перапісаць тут увесь фаліянт Любянецкага пра каметы, я абмяжуюся толькі ўказаннем на апакрыфічнасць іх усіх аж да самага пачатку нашай эры, калі ж не аж да Кастуся І.

Зірнуўшы на дададзеную таблічку (табл. XII), чытач сам пабачыць, што амаль увесь іхны шэраг паміж *480 і *59 гадамі (дзе * пазначаюцца так званыя «гады да Н. Х.») апакрыфікаваны з шэрага ад +60 да +423 года нашай эры. Вазьміце якую заўгодна із камет Любянецкага ад *480 да *59 года (на правым боку табліцы), і вы знойдзеце сярод больш пазьніх камет левага боку яе аналог праз 540 гадоў (ці 540 мінус 1, калі лічыць іх грунтуючыся на астранамічным злічэнні). Толькі каметы *110 і *373 гадоў не знаходзяць сабе аналогаў паміж каметамі ад +60 да +423 года нашай эры (адрозненне на ±1 год не можа лічыцца за непагадненне, таму што каметы застаюцца бачнымі на працягу некалькіх месяцаў).

ТАБЛІЦА XII.

Апакрыфічныя каметы ад 480 г. «да Н. Х.» да 85 г. «да Н. Х.» у еўрапейскіх і ў кітайскіх запісах і іхныя арыгіналы праз 540 гадоў.

Еўрапейскія запісы згодна з Stanisl. Liubienetski і кітайскія згодна з Williams. Зорачка (*) перад лічбай трэццяга слупка пазначае, што злічэнне гадоў тут гістарычнае. Для пераходу да астранамічнага злічэння патрэбна адняць 1 год.

| Каметы, апісаныя ў еўрапейскіх і ў знойдзеных у Кітаі першакрыніцах паміж I і VI стагоддзямі нашай эры | Гады камет I, II, III, IV і V стагоддзяў | Вылічаныя гады за 540 гадоў да іх. | Псеўда-старажытныя каметы, апісаныя ў Theatrum cometicum Любянецкага | Розніца гадоў |
|---|---|---|---|---|
| Камета +60 г. у еўрап. і кіт. | +60 г. | *480 | У Любянецкага *480 г. | 0 |
| Каметы 61 і 62 г. у еўрап. | +61-62 | | | |
| Камета 66 г. у кітайцаў | +66 | | | |
| Камета 69 г. у еўрапейцаў | +69 | *471 | У Любянецкага *472 г. | -1 (-2) |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Камета 72, 73 г. у еўрапейцаў | +72-73 | | | |
| Камета 73 г. у кітайцаў | +75 | *465 | У Любянецкага 466 г. | -1 |
| Камета 76 г. у еўрапейцаў | +76 | | | |
| Камета 78 г. у еўрапейцаў | +78 | | | |
| Камета 81 г. у еўрапейцаў | +81 | | | |
| Перарыў у запісах камет на 29 гадоў злева і на 35 гадоў справа гэтай табліцы. | | | | |
| Камета 110 г. у кітайцаў | +110 | *430 | У Любянецк. *431, *430 г. | 0 |
| Камета 130 г. у еўрапейцаў | +130 | *410 | У Любянецк. *410, *412. г. | 0 (-2) |
| Камета 141 г. у кітайцаў | +141 | *399 | У Любянецкага *400 г. | -1 |
| Камета 145 г. у еўрапейцаў | +145 | | | |
| Камета 161 г. у еўрап. і кіт. | +161 | *379 | У Любянецкага *373 г. | +6 |
| Камета 181 г. у еўрапейцаў | +181 | | | |
| Камета 188 і 190 г. у еўрап. | +188, 190 | | | |
| Камета 192 г. у еўрап. і кіт. | +192 | *348 | У Любянецкага *348 г. | 0 |
| Камета 195 г. у еўрапейцаў | +195 | | | |
| Камета 200 г. у кітайцаў | +200 | *340 | У Любянецкага *341 г. | +1 |
| Камета 204 г. у еўрап. і кіт. | +204 | *336 | У Любянецкага *336 г. | 0 |
| Камета 213, 217, 220 г. у еўрап. | +213, 220 | | | |
| Перарыў у запісах камет на 32 гады злева і на 46 гадоў справа нашай табліцы. | | | | |
| Камета 252 г. у еўрап. і кіт. | +252 | | | |
| Камета 307, 308 г. у еўрап. | +307, 308 | | | |
| Камета | +320 | | | |
| Камета 324 г. у еўрапейцаў | +324 | | | |
| Камета 336 г. у еўрап. і 335 г. у кіт. | +336 | *204 | У Люб. і кіт. *204 г. | 0 ( -1) |
| Камета 340 г. у еўрап. і кіт. | +340 | *200 | У Любянецкага *280 г. | 0 |
| Камета 358 г. у кітайцаў | +358 | *182 | У Любянецкага *183 г. | -1 |
| Камета 363 г. у еўрапейцаў | +363 | | | |
| Камета 367 г. у еўрапейцаў | +367 | | | |
| Камета 370 г. у еўрапейцаў | +370 | | | |
| Камета 373 г. у кітайцаў | +373 | *167 | У Любянецкага *168 г. | -1 |
| Камета 375 г. у еўрапейцаў | +375 | *165 | У Любянецкага *166 г. | -1 |
| Камета 380 г. у еўрапейцаў | +380 | | | |
| Камета 383, 384 г. у еўрап. | +383, 384 | | | |
| Камета 386 г. у еўрапейцаў | +386 | | | |
| Камета 390 г. у еўрап. і кіт. | +390 | *150 | У Любянецкага *150 г. | 0 |
| Камета 393 г. у кіт. і 394 г. у еўр. | +303, 394 | *147-146 | У Люб. *146, у кіт. *147. | 0, 0 |
| Камета 405 г. у еўрапейцаў | +405 | *135 | У кіт. –135, у Люб. *136. | 0 (1) |
| Камета 410 г. у еўрапейцаў | +410 | *130 | У Любянецкага *129 г. | +1 |
| Камета 412 г. у еўрапейцаў | +412 | *128 | | |
| Камета 418 г. у еўрапейцаў | +418 | | | |
| Камета 419 г. у кітайцаў | +419 | | | |
| Камета 422 г. у еўрапейцаў | +422 | *118 | У Люб. і кіт. *119 г. | -1 |
| Камета 423 г. у еўрапейцаў | +423 | *117 | У Любянецкага *116 г. | +1 |
| Камета 434 г. у еўрапейцаў | +434 | *106 | У Люб. і кіт. *110 г. | -4 |
| Камета 442 г. у кіт. і еўрап. | +442, 443 | *98-97 | У Любянецкага *99 г. | +1 |
| Камета 448 г. у еўрапейцаў | +448 | *92 | У Любянецкага *93 г. | -1 |
| Камета 450 г. у еўр. і 451 г. у кіт. | +450, 451 | *90-89 | У Любянецкага *90 г. | 0 |
| Камета Галея 453 г. у еўрап. | +453 | *87 | У Люб. і кіт. *87 г. | 0 |
| Камета 457 г. у еўрапейцаў | +457 | *83 | У Люб. і кіт. *84 г. | +1 |
| Камета 459 г. у еўрапейцаў | +423 | *57 | У Любянецкага *59 г. | +2 |

Розніца ў адзін год у апошнім слупку не мае значэння, таму што злічэнне года пад час старажытнасьці пачыналася часам з вясны, часам з восені, часам з лета, часам з зімы. Гэта

азначае і адступленні на +1 ці -1 год не маюць значэння, а два выпадкі большага адступлення чым гэтае (+6 гадоў для -373 года і -4 для +110 года) тлумачацца выпадковымі памылкамі лічыльніка ці перапісчыкаў, і больш таго цяжка чакаць, каб нідзе не было недакладнасьцей.

Тое ж самае, але больш навочна, мы бачым на дыяграме (табл. XII), з якой зразумела, што ў абедзьвюх першакрыніцах колькасць камет моцна перабольшана: з кожнай рэчаісна існаваўшай зроблена цэлае гняздо.

Так, напрыклад, у перыяд ад +60 да +460 года мы бачым амаль удвая больш каметных паведамленняў, чым у перыяд ад *480 да *80 (да «Н. Х.»), але гэты лішак цалкам зразумелы. Кампілятар старажытных камет, калі ён жыў нават пад час сярэдневечча ці Эпохі Адраджэння не мог ведаць усе каметныя гады, якія збяруць першакрыніцы Любянецкага: Эксторміус, Рычыолі, Рокенбахівус і іншыя аўтары XII стагоддзя.

Ці можа быць такое значнае супадзенне амаль усяго шэрага камет паміж 480 і 80 гадамі «да Н. Х.» з каметамі, запісанымі праз 540 гадоў пасьля іх патлумачана простай выпадковасьцю? Вазьміце да ўвагі тое, што нават із трох не паўтараючыхся за гэтыя 400 гадоў камет у адной із самых старажытных (-412 г.) розніца з быўшай праз 540 гадоў пасьля яе ўсяго два гады, г.азн. у межах памылкі памяці пры вызначэнні часу камет на самым пачатку нашай эры!

Вядома, выпадковасьці тут няма, і таму могуць быць толькі два тлумачэнні. Першае, што толькі дзьве каметы, не маючыя аналогаў у правай частцы, г.азн. каметы -373 і -110 гг. (ды яшчэ, дадаткова адшуканыя Любянецкім, 288 і 220 гг.), з'яўляюцца сапраўды існаваўшымі ці ж прыдуманы іхнымі аўтарамі, незалежна ад цыкла 480 гадоў (ці 480 без 1), падобна пяці дапатопным каметам, апісаным намі вышэй. А ўсе адпавядаючыя з 540-гадовым цыклам каметы апакрыфікаваны із шэрага камет ад +60 да +460 гг., пры гэтым усе паслядоўныя даты, якія былі вядомыя аўтару гэтага апокрыфа, толькі перанесены ім згодна з нейкімі меркаваннямі на 540 гадоў.

ТАБЛІЦА XIII.

Навочная храналогія камет згодна з еўрапейскімі (Е) першакрыніцамі і згодна з першакрыніцамі знойдзеным у Кітаі (К).

| ГОДЫ | Е | К | ГОДЫ | Е | К | ГОДЫ | Е | К | ГОДЫ | Е | К |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| — 480 | | | + 60 | | | 600 | | | 1140 | | |
| — 470 | | | + 70 | | | 610 | | | 1150 | | |
| — 460 | | | + 80 | | | 620 | | | 1160 | | |
| — 450 | | | + 90 | | | 630 | | | 1170 | | |
| — 440 | | | + 100 | | | 640 | | | 1180 | | |
| — 430 | | | 110 | | | 650 | | | 1190 | | |
| — 420 | | | 120 | | | 660 | | | 1200 | | |
| — 410 | | | 130 | | | 670 | | | 1210 | | |
| — 400 | | | 140 | | | 680 | | | 1220 | | |
| — 390 | | | 150 | | | 690 | | | 1230 | | |
| — 380 | | | 160 | | | 700 | | | 1240 | | |
| — 370 | | | 170 | | | 710 | | | 1250 | | |
| — 360 | | | 180 | | | 720 | | | 1260 | | |
| — 350 | | | 190 | | | 730 | | | 1270 | | |
| — 340 | | | 200 | | | 740 | | | 1280 | | |
| — 330 | | | 210 | | | 750 | | | 1290 | | |
| — 320 | | | 220 | | | 760 | | | 1300 | | |
| — 310 | | | 230 | | | 770 | | | 1310 | | |
| — 300 | | | 240 | | | 780 | | | 1320 | | |
| — 290 | | | 250 | | | 790 | | | 1330 | | |
| — 280 | ЕВР. ПЕРЕРЫВ | | 260 | ЕВР. ПЕРЕРЫВ | | 800 | | | 1340 | | |
| — 270 | | | 270 | | | 810 | | | 1350 | | |
| — 260 | | | 280 | | | 820 | | | 1360 | | |
| — 250 | | | 290 | | | 830 | | | 1370 | | |
| — 240 | | | 300 | | | 840 | | | 1380 | | |
| — 230 | | | 310 | | | 850 | | | 1390 | | |
| — 220 | | | 320 | | | 860 | | | 1400 | | |
| — 210 | | | 330 | | | 870 | | | 1410 | | |
| — 200 | | | 340 | | | 880 | | | 1420 | | |
| — 190 | | | 350 | | | 890 | | | 1430 | | |
| — 180 | | | 360 | | | 900 | | | 1440 | | |
| — 170 | | | 370 | | | 910 | | | 1450 | | |
| — 160 | | | 380 | | | 920 | | | 1460 | | |
| — 150 | | | 390 | | | 930 | | | 1470 | | |
| — 140 | | | 400 | | | 940 | | | 1480 | | |
| — 130 | | | 410 | | | 950 | | | 1490 | | |
| — 120 | | | 420 | | | 960 | | | 1500 | | |
| — 110 | | | 430 | | | 970 | | | 1510 | | |
| — 100 | | | 440 | | | 980 | | | 1520 | | |
| — 90 | | | 450 | | | 990 | | | 1530 | | |
| — 80 | | | 460 | | | 1000 | | | 1540 | | |
| — 70 | | | 470 | | | 1010 | | | 1550 | | |
| — 60 | | | 480 | | | 1020 | | | 1560 | | |
| — 50 | | | 490 | | | 1030 | | | 1570 | | |
| — 40 | | | 500 | | | 1040 | | | 1580 | | |
| — 30 | | | 510 | | | 1050 | | | 1590 | | |
| — 20 | | | 520 | | | 1060 | | | 1600 | | |
| — 10 | | | 530 | | | 1070 | | | 1610 | | |
| 0 | | | 540 | | | 1080 | | | 1620 | | |
| + 10 | | | 550 | | | 1090 | | | 1630 | | |
| + 20 | | | 560 | | | 1100 | | | 1640 | | |
| + 30 | | | 570 | | | 1110 | | | 1650 | | |
| + 40 | | | 580 | | | 1120 | | | 1660 | | |
| + 50 | | | 590 | | | 1130 | | | КОНЕЦ СТАРЫХ ПЕРВОИСТОЧНИКОВ | | |

**ДОПОЛНЕНИЕ**

Кометы последних трех веков, которые были видимы невооруженным глазом, по европейским записям. Мы видим, что эти достоверные кометы были далеко не так часты как мы находили их в более ранних европейских записях и в записях, найденных Майлья и Гибелем в Китае.

| | |
|---|---|
| 1610 | 1601 |
| 1620 | 1618 |
| 1630 | |
| 1640 | |
| 1650 | |
| 1660 | 1652 |
| 1670 | 1664, 1665, 1668 |
| 1680 | 1672 |
| 1690 | 1680, 1682 1686, 1689 |
| 1700 | 1695 |
| 1710 | 1702 |
| 1720 | |
| 1730 | |
| 1740 | |
| 1750 | 1744, 1748 |
| 1760 | 1759 |
| 1770 | 1766, 1769 |
| 1780 | |
| 1790 | 1781 |
| 1800 | |
| 1810 | 1807 |
| 1820 | 1811, 1812, 1819 |
| 1830 | 1823 |
| 1840 | 1830, 1835, |
| 1850 | 1843, 1845, |
| 1860 | 1850, 1853 |
| 1870 | |
| 1880 | 1881, 1882 |
| 1890 | 1887 |
| 1900 | 1883 |
| 1910 | 1907, 1908 |
| | 1910 |

Рысачкі налева ад сярэдніх ліній адзначаюць гады з'яўлення камет згодна з еўрапейскімі першакрыніцамі, а рысачкі направа – згодна са знойдзенымі ў Кітаі. Чытач адразу бачыць, што да 300 года нашай эры яны супярэчаць адна адной, акрамя некалькіх непазбежных выпадковых супадзенняў.

Другое ж тлумачэнне (калі мы чаго б гэта ні каштавала не жадаем дапусьціць тут існавання сістэматычнага апокрыфа), можа заключацца толькі ў тым, што рэчаісныя каметы, падобна аблокам у нашай атмасферы, узнікаюць із нейкіх сонечных эманацый, згушчаючыхся на такіх адлегласьцях ад Сонца, якія прыблізна разоў у 130 большыя адлегласьці ад Зямлі да Сонца. Тады час іхнага

абарачэння і будзе каля 540 гадоў, як гэта атрымліваецца грунтуючыся на трэццім законе Кеплера, калі іхны перыгелій будзе блізкім да Сонца пры вельмі эксцэнтрычных арбітах. Тую акалічнасць, што большасць гэтых каметных запісаў ужо не паўтараецца ў дакладнасьці праз новыя 540 гадоў у трэццім цыкле, магло б быць, у выпадку справядлівасьці такой высновы, патлумачана тым, што ўсе каметы перажываюць на сваім доўгім шляху шэраг уздзеянняў з боку планет і таму не могуць мець дакладна такога ж часу вяртання да перыгелія, ды і адлегласць ад Сонца, на якой яны ўтвараюцца, не можа быць ва ўсіх аднолькавай. Акрамя таго, магчыма і звычайная працягласць жыцця каметы рэдка перавышае паўтары тысячы гадоў і таму вярнуцца больш чым два-тры разы да Сонца могуць толькі асабліва вялікія каметы ці тыя із іх, вялікія восі якіх значна не перавышаюць радыус арбіты Няптуна, і якія, такім чынам, вяртаюцца за больш кароткі тэрмін.

Асабіста я даўно прыйшоў да пераканання, што каметы (як я ўжо меў выпадак паведаміць раней) не прыхадні ў нашу сонечную сістэму, а з’яўляюцца яе ўласнымі прадуктамі, утвараючыміся ў асяроддзі парэшткаў першапачатковай сонечнай імглістасьці большай часткай далёка за арбітай Няптуна, як дажджавыя кроплі ў зямной атмасферы, і таму маюць некаторы сярэдні перыяд абарачэння роўны некалькім сотням гадоў. Аднак у дадзеным выпадку я лічу сябе вымушаным прыняць для тлумачэння мною дзіўнага факта першае тлумачэнне, г.азн. ідэю пра апакрыфічнасць усіх камет паміж -480 і -60 годам да пачатку нашай эры, як у еўрапейскіх, так і ў знойдзеных у Кітаі першакрыніцах, таму што далейшыя каметныя запісы, пачынаючы з сярэдневечча, не даводзяць існаванне гэтага цыкла. Гэта азначае што нам застаецца толькі патлумачыць, кім і калі гэтыя старажытныя каметы апакрыфікаваны і чаму менавіта на 540 гадоў. І ці не з’яўляецца разгадкай справы тое, што аўтар гэтага апокрыфа грунтуючыся на нейкіх сваіх меркаваннях прыйшоў да высновы (ігнаруючы трэцці закона Кеплера, якога, вядома, ён не ведаў), быццам бы ўсе каметы вяртаюцца праз 540 гадоў, і таму бяручы за падставу вядомыя яму каметы ад 60 да 456 года нашай эры ён і размеркаваў іх жа і ў дагістарычныя часы, а адняць адзінку пры пераходзе ад арыфметычнай сумы дадатных і адмоўных гадоў да злічэння гадоў «да Н. Х.» не здагадаўся.

Мне здаецца, што думку пра існаванне агульна-каметнага перыяду роўнага 540 гадам падзялялі і галоўныя першакрыніцы нашых паведамленняў пра каметы: Эксторміус, Рокенбах, Рычыолі, г.азн. аўтары XVII стагоддзя, жыўшыя напярэдадні Галея. Большасць камет яны датуюць ад сябе, бездоказна і без пазначэння больш старых, чым яны самі, дакументаў на карысць іхнага існавання, і таму мімаволі з'яўляецца здагадка, што яны маглі і самі пазначаць вядомыя ім сярэднявечныя каметы не толькі ў гады іх рэчаіснпга з'яўлення, але і за 540 гадоў назад (ці нават за перыяд 1080 гадоў роўны двум цыклам), кіруючыся ідэяй, што ўсе рухі нябесных сьвяціл маюць свой уласны перыяд. Потым, супастаўляючы свае вылічэнні з гістарычнымі падзеямі, традыцыйна дапасуемымі гісторыкамі да таго ж часу, яны маглі прыйсьці і да ідэі пра існаванне сувязі паміж з'яўленнямі камет і рознымі падзеямі на Зямлі.

Я не магу пакінуць тут без увагі таксама і трэццяе магчымае тлумачэнне такога псеўда 540-гадовага зруху назад цэлага шэрага паслядоўных камет нашай эры.

Ён магчымы ў тым выпадку, калі самі гістарычныя падзеі, у сувязь з якімі прыводзяцца ўсе еўрапейскія каметы, былі храналагічна ссунуты на 540 ці 1080 гадоў назад.

Не паглыбляючыся пакуль у далейшае абмеркаванне гэтага апошняга цьверджання, я разбяру тут толькі адно злучанае з ім пытанне. Якія із гэтага старажытнага шэрага апакрыфічных камет дапасуюцца ў гадах свайго з'яўлення з запісамі ў энцыклапедыях «Шэ-кэ» і «Лясного каня»?

Далёка не ўсе. Вось іх поўны рэестр.

1. Камета ***466** (г.азн. 466 года «да Н. Х.»), паведамляемая Экстормівусам, можа адпавядаць запісу пра камету *467 года ў зборніку Ма-Туан-Лінь, але яна там пазначана без якіх бы то ні было падрабязнасьцей: «бачылі камету», і больш нічога. А ў Экстормівуса мы адпаведна чытаем: «на 2-гі год 78 алімпіяды на небе была бачна камета на працягу 75 дзён і ад Сонца зваліўся камень у раку Эгас». Што можна вывесьці із такіх дадзеных, акрамя таго, што абодва не маюць ніякай навуковай каштоўнасьці? Лічыць іх, як гэта зараз некаторыя робяць, за першае гістарычнае згадванне пра камету Галея – вельмі цяжка, асабліва, калі справа мае дачыненне пра еўрапейскага запісу Экстормівуса.

2. Еўрапейская камета ***430-*431** гадоў магла б адпавядаць камеце *433 года, пра якую Ма-Туан-Лінь таксама паведамляе лаканічна: «бачылі камету». У Альстадывуса пра яе ж паведамляецца: «на 6-ы год пелапанэскай вайны з'яўлялася камета на працягу 60 дзён», а Экстормівус паведамляе пра яе ж: «за 431 гады да Н. Х. ззяла камета на працягу 60 дзён, а перад ёю была жудасная маравая пошасць, якая ледзь не загубіла Афінскую дзяржаву».

І тут мы бачым насолькі цьмянае ўказанне, што супадзенне ўсходніх і заходніх рукапісаў можна лічыць ці выпадковым ці прыйсьці да высновы, што азіяцкія рукапісы не былі невядомымі для еўрапейскім гісторыкаў сярэдневечча і Эпохі Адраджэння, канчаткова адрэдагаваўшых еўрапейскія паданні і летапісы, ці ж, наадварот, азіяты запазычалі свае веды ў еўрапейцаў.

3. Еўрапейская камета ***146** г. магла б адпавядаць камеце *147 г., пра якую Ма-Туан-Лінь (а згодна з ім і Шэ-кэ) паведамляе, што яна была «белая, 10 локцяў (градусаў) даўжыні; каля Ламбды Арыёна і была бачнай у сакавіку на працягу 15 дзён». Гэтае апісанне кітайцаў ужо мае навуковы выгляд, а ў еўрапейскіх крыніцах Экстормівуса згодна з Пэйлерам паведамляецца проста: «за 146 гадоў да Н. Х. ззяла на небе камета цэлых 32 сутак і следам за ёй Карфаген быў разбураны Сцыпіёнам». Зноў занадта цьмянае паведамленне для таго, каб лічыць яго падмацаваннем праўдзівасьці азіяцкага «Лясного каня».

4. Еўрапейская камета ***136** года магла б адпавядаць камеце *135 года, пра якую Ма-Туан-Лінь паведамляе: «у верасні бачылі камету на ўсходзе на працягу 30 дзён з хвастом папярок усяго неба». А ў еўрапейскіх крыніцах выказваюцца: «за 136 гадоў да Н. Х. у Прэнэстэ сваціла камета і грукатаў пры чыстым небе гром». Але гэтае апісанне «каметы ў адным Прэнэстэ» больш падобна на пралятанне метэарыта, чым на сапраўдную камету.

5. Еўрапейская камета ***119** года магла б адпавядаць камеце *119 і *120 гг., пра якую Ма-Туан-Лінь паведамляе: «у траўні бачылі на паўночным захадзе камету», а Шэ-кэ: «бачылі вясной *120 камету на ўсходзе». Із еўрапейскіх жа каметографаў Рычыолі, згодна з Юстынам, паведамляе: «напачатку валадарання Мітрыдата, 119 год «да Н. Х.» сьвяціла камета 70 дзён». Але і гэтыя тры паведамленні вельмі невыразныя для таго каб надаваць ім сур'ёзнае гістарычнае значэнне.

6. Еўрапейская камета ***87** года магла б адпавядаць камеце таго ж года ў кітайцаў, пра якую паведамляецца: «у жніўні 87 года бачылі камету на ўсходзе». А

ў Экстормівуса (згодна з Плініем, кн. 2, гл. 25) паведамляеццае: «з'явілася камета, за якой наступілі дзяржаўныя хваляванні». Каля гэтага часу сапраўды павінна была з’явіцца камета Галея, калі яна тады ўжо існавала і мела той жа перыяд абарачэння вакол Сонца, як і зараз (77 гадоў). Але лічыць прыведзенае намі месца за гістарычнае згадванне пра яе зноў жа было б не асьцярожным.

Такімі з’яўляюцца адзіныя 6 камет із 30, змешчаныя ў еўрапейскіх каталогах за чатырохсотгадовы прамежак паміж *480 і *60 гадамі да пачатку нашай эры, якія супалі з 6 із 36 камет, прыведзеных у летапісах Ма-Туан-Лінь і Шэ-кэ. Астатнія ідуць цалкам адасоблена ад іх і абодва шэрагі не апавядаюць адзін аднаму. Згодна з тэорыяй верагоднасьці, і гэтыя шэсць супадзенняў мы павінны, хутчэй усяго, палічыць выпадковымі і таму прыняць як асноўнае наша цверджане, што ўсе маючыяся ў еўрапейскіх першакрыніцах указанні на каметы да -60 года перад нашай эрай, не даводзяцца запісамі «Шэ-кэ» і «Лясного каня», і наадварот. Іхны выпадковы характар выразна бачны на прыкладзенай вышэй табліцы на стр. 165 (табл. XIII, дзе кітайскія гады з'яўленняў камет амаль не адпавядаюць еўрапейскім).

Гэтая неадпаведнасьць яшчэ больш выразна выстаўляе фантастычны характар еўрапейскіх каметных дат дадзенага прамежку часу, і вымушае думаць, што яны апакрыфікаваны на 540 гадоў з маючыхся у аўтараў еўрапейскіх крыніц ад +60 да +460 гадоў нашай эры. Тая акалічнасць, што не ўсе запісы гэтага больш позьняга перыяду апакрыфікаваны назад на 540 гадоў, паказвае толькі на тое, што апокрыф, як я ўжо выказваўся, быў складзены раней з'яўлення кнігі Любянецкага і не ўсе яго каметы былі вядомы аўтару.

Не з’яўляюцца праўдзівымі еўрапейскія запісы і для меркуемага сучаснымі класікамі часу жыцця іхных галоўных герояў – Юлія Цэзара і Актавіяна Аўгуста, – як бачна із наступных выпісаў зробленых мной із Любянецкага.

«У 3889 г. ад стварэння сьвету, за 50 гадоў «да Н. Х.» была міжусобная вайна паміж Цэзарам і Пампеем, чаму папярэднічала камета (Экстормівус із Пэйлера і Любянецкага § XXXV). Але такой каметы няма ў «кітайскіх» летапісах і, акрамя таго, я ўжо даводзіў, што Юлій Цэзар спісаны з Канстанцыя Хлора, так што і камету патрэбна шукаць каля 284-305 гадоў. А каля гэтага часу ў еўрапейскіх запісах мы бачым вялікі зрух камет, тады як «Шэ-кэ» і «Лясны конь» даюць на працягу таго ж прамежаку часу каметы для гадоў: 287, 290, 296, 300, 301 (цэлых дзьве!), 302, 303, 304 і 305 (таксама дзьве! гл. табліцу X, на стр. 130). Еўрапейцы ж як быццам іх праспалі!

Дакладна так жа і еўрапейскія каметы мінус 47, 46-45 і 42 гадоў не падмацоўваюцца кітайскімі запісамі. За імі ідуць:

Камета **мінус 29** года, апісана так: «У 3939 г. ад стварэння сьвету, за 30 гадоў да Н. Х. быў жудасны землятрус у Краіне Богаслаўя (Юдэі), ад якога загінула 1000 чалавек і была вялікая страта быдла». Ёсіф Флавій (кн. 7, гл. V) распавядае, што гэтым бедствам папярэднічала камета, якая на працягу 95 дзён здзейсніла свой шлях у сузор'і Шаляў». У кітайцаў жа няма такой каметы, а паказана толькі за два гады камета ў Пегасе (у лютым 32 года). Але яна была ў процілеглай частцы неба і не падмацоўвае паведамленні Флавія, які, як я ўжо даводзіў у першых чатырох тамах «Хрыста» і ў кнізе «Прарокі», увесь апакрыфічны.

Камета **мінус 12** года. Вось як пра яе выказваецца Рычыолі: «У 13 годзе да Н. Х., які папярэднічаў сьмерці Ірада Агрыпы згодна са сведчаннем Дыёна ў кнізе 54, – была камета на працягу шматлікіх дзён над горадам. Потым яна распалася на шмат частак. Магчыма гэта тая, пра якую паведамляе Сэнэка ў кн. 7 гл. XVII такімі

словамі: «Яе мы бачым у часы Аўгуста». (Ricciolus, у Любянецкага, § XI). Ці можна лічыць, што гэтае месца з’яўляецца ўказаннем на прыход каметы Галея ў 12 годзе да пачатку нашай эры, як быццам бы пазначаныі ў азіяцкіх летапісах? Там, у Ма-Туан-Лінь, гэта першая камета, пра якую паведамляецца падрабязна і грунтоўна. Яна «з'явілася раніцай 26 жніўня (калі Сонца было ў Панне) ва ўсходняй частцы Двайнят і прайшла да Сонца праз Ільва і Панну. Праз 13 дзён яна з'явілася на захадзе, прайшла на поўнач, павярнула назад да Панны і прайшла над ёю, каля Арктура да Змеятрымальніка, прабыўшы на небе 56 дзён». Пра яе велічыню нічога не паведамляецца. А тут яна «распалася на шмат частак», і таму я не бачу ў гэтым апісанні ніякага «падмацавання» здагадак пра існаванне астранамічных запісаў на ўзбярэжжах Міжземнага мора перад пачаткам нашай эры, хаця бы і дзякуючы аднаму таму, што Ірад Агрыпа лічыцца гісторыкамі памёршым у +44 годзе. Ды і Актавіян Аўгуст, як мы бачылі, спісаны з Кастуся I, перад сьмерцю якога ў «Шэ-кэ», сапраўды пазначана камета ў Андрамедзе і Рыбах 16 лютага 336 года.

Пасьля ж пачатку нашай эры першы год не адзначаны ў «Шэ-кэ» ніякай каметай. Іх не было там ад –5 да +13 года. А ў еўрапейцаў маем:

Камету **+12** года, ўяўляючую другое згадванне еўрапейскіх гісторыкаў пра камету з пазначэннем сузор'я: «У 12 годзе на працягу 32 начэй у сузор'і Авена з'яўлялася камета. За ёй адбыліся жудасныя войны» (Rockenbachius, у Любянецкага, § LXIII). Гісторыкамі гэта дапасуецца да часу за два гады да сьмерці Актавіяна Аўгуста, і, такім чынам, мае дачыненне да той жа каметы ў Рыбах 16 студзеня 336 года. А ў «Шэ-кэ» ў +13 году толькі цьмяна апісана камета без дэталяў, як быццам гэта із Яўропы.

Камета **плюс 40** года. «У 40 годзе пасьля Н. Х. пасьля сьмерці Тыверыя Цэзара, пры валадаранні Кая Калігулы з'явілася камета ў сузор'і Двайнят. За ёй адбылося выгнанне Ірада, адсёкшага галаву Яну Хрысьціцелю» і г.д. (Rockenbachius у Любянецкага, § LV). А ў кітайцаў пазначана ў 39 годзе камета роўная 30 локцям даўжыні, ішоўшая адваротным шляхам вечарамі із Цяляці ў Пегаса ў сакавіку-красавіку, калі Сонца пераходзіла із Рыб у Авена. Яна наўрад ці магла быць бачнай ў Двайнятах, г.азн. раніцамі. Акрамя таго, Калігула згодна з нашай храналогіяй спісаны з Юльяна Філосафа (361-363 г.), у год сьмерці якога, у жніўні 363 года, сапраўды пазначана камета ў Панне і ў Змеі, як у «Лясным Каню», так і ў «Шэ-кэ».

Камета **+66** года нашай эры. На працягу прамежку ад 48 да 84 года паказана ў еўрапейцаў згуртаванне із 14 камет, што адпавядае згуртаванню із 10 азіяцкіх камет. Пасярэдзіне іх, у лютым 66 года, астранамічныя вылічэнні паказваюць нам вяртанне да Сонца каметы Галея. Лічаць, што яе ранішнія з'яўленні ў Казярогу (пры Сонцы ў Рыбах) і вечаровыя ў Ільве і Панне (пры Сонцы, ідучым у Рака) і падзяліліся на цэлае згуртаванне аперцэпцыйных успамінаў.

Вось адно із іх:

«У 70 г. «пасьля Н. Х.» (замест 66) з'явілася камета, падобная назіраемай у часы Нярона. За ёй наступілі самыя вялікія пераeasвароты і перасьледы боскай царквы (Rockenbachius у Любянецкага, § XVII). Гэта, згодна з гісторыкамі, было пры «Ціту». Але ў «Шэ-кэ» няма яе адпаведніка, ды і не можа быць, таму што «Ціт» спісаны з Валентыніяна II (363-376 гг.), пры якім 9 сакавіка 373 года ў Шалях сапраўды і была камета, як паказвае і яе другое апісанне: «Была камета ў Шалях у 70 годзе на працягу 40 дзён». А ў «Шэ-кэ» для сакавіка 71 года калі Сонца было ўжо ў Рыбах, пазначана камета, ішоўшая із Цяляці ў Ільва і знікшая каля Панны

праз 60 дзён, не даходзячы да Шаляў. Тут існуюць адпаведнасьці, але не поўныя, і таму я не лічу гэты запіс адпавядаючым вылічанаму з’яўленню каметы Галея.

Камета **130** года нашай эры. «Камета была бачнай 39 начэй у сузор'і Вадаліва ці Казярога. За ёю адбыўся самы вялікі землятрус, якім былі знішчаны Ніраміс і Цэзарэя – гарады ў Сьвятой Зямлі (Ricciolus у Любянецкага, § LXXII). А «Лясны конь» паведамляе: «У 131 годзе з'явілася камета ў вобласьці Стралка і Казярога і знікла ў вобласьці Казярога і Вадаліва.

Тут на неадпаведнасць на адзін год было б магчымым не звяртаць увагі, калі б мы ўжо не ведалі, што ў 130 годзе, згодна з еўрапейскімі гісторыкамі, валадарыў Адрыян (117-138), апакрыфікаваны з Ганорыя (395-423). А пры гэтым імператары 21 сакавіка 422 года і запісана ў «Шэ-кэ» камета ў Вадаліве: «бачылі камету ў вобласьці Вадаліва і Пягаса».

Камета **145** года нашай эры. Згодна з Рокенбахам яна ззяла 6 начэй у Вадаліве, і за ёй «прыйшла жорсткая чума, шматлікія паводкі і жудасны землятрус, якім быў скаланатуты Родас». А ў «Шэ-кэ» кітайцаў паказана камета ў Вадаліве толькі ў сакавіку 141 года, на 4 гады раней. Яна была даволі яскравая, хвост яе дасягаў 6 локцяў у даўжыню.

А калі мы прымем да ўвагі, што 145 год прыпадае на Антаніна Пія (138-161 г.), спісанага, магчыма з Аэцыя (423-446 гг.), то знаходзім у «Шэ-кэ» камету 13 лютага 423 года каля Альфы Андрамеды, г.азн. амаль абавязкова праходзіўшую і паблізу Вадаліва.

Камета **160** года нашай эры. «Загінуў Антанін Пій. Над ім зіхацела валасатая зорка (Экстормівус, у Любянецкага, § LXXV). А ў «Шэ-кэ» і ў «Лясным каню» знаходзім для наступнага года: «Дзіўная зорка была 14 чэрвеня 161 года ў вобласьці Пегаса. Яе хвост дасягаў да 6 локцяў даўжыні. Яна прайшла да Скарпіёна».

Здавалася б тут – значная пагадненне... Але калі Антанін Пій спісаны з Аэцыя (423-446 гг.), то і тут выходзіць супадзенне: раней яго сьмерці «Шэ-кэ» паказвае 1 лістапада 442 года (пры Сонцы ў Скарпіёне) вялікую камету, падышоўшую ад Возніка, а пасьля яго сьмерці 11 лістапада 449 г. камету паміж Ільвом і Паннай».

Нават калі будзем лічыць, што Антанін Пій спісаны з Людовіка Пія, памёршага ў 840 годзе, то і тут знойдзем яшчэ большае, нават проста здзіўляючае супадзенне. У «Шэ-кэ» і ў «Ляснога каня» стаяць тут цэлых шэсць запісаў: для лютага 839 года камета ў Вадаліве для сакавіка 839 – у Пярсею, для сакавіка 840 – у Пягасе, для снежня 840 – на «ўсходзе», для ліпеня 811 – у Вадаліве і Пягасе, для снежня 841 – у паўднёвай Рыбе і Пягасе. І ўсе яны пазначаны таксама і ў еўрапейцаў (табл. X, стар. 130). Ды і раней таго ў «Шэ-кэ» для 837 года пазначана камета Галея 7 разоў, а ў еўрапейцаў 3 разы, і для 838 года яна ж два разы ў «Шэ-кэ» і чатыры разы ў еўрапейцаў. І яшчэ раней пры «Піі» паказаны каметы: у 814 – дзьве, у 815, 817, у 818 і ў 821 годзе – дзьве. Было праз што папалохацца набожнаму, падзяліць сваё царства паміж сынамі і, нарэшце, памерці!

Гісторыкі адміністрацыйнага боку дзяржаўнага жыцця народаў пад час манархічнага перыяду яе эвалюцыі часта адзначаюць уплыў на яе не толькі асабістага характару саміх манархаў і іхных жонак, але нават іхных фаварытаў і фаварытак. А як жа яны ігнаруюць, і прытым нярэдка сістэматычна, уплыў на ўсе незвычайных з'явы прыроды, накшталт сонечных зацьменняў, камет, эпідэмічных хвароб ці фізічных катастроф, абуджаўшых тады забабонны жах, дзякуючы таму,

што яны лічыліся прадвесьцем будучых бедаў ці пакараннем народам за грахі іхных валадароў? Даўно патрэбна было б папоўніць гэты недахоп.

Камета **192** года. «Падчас забойства Комада з'явілася камета і ў шмат якіх гарадах была бачнай, як праходзяць выявы богаў, падобна ценям» (Extormius ex Fulgosi кн. 1, гл. IV). А ў «Шэ-кэ»: «У 192 годзе бачылі камету роўную 100 локцям даўжыні, белага колеру, на поўдзень ад Панны».

Тут упершыню мы маем поўнае пагадненне еўрапейскай першакрыніцы з кітайскай. Але ці не было да гэтага запісу толькі пазьней штучна далучана «забойства Комада»?

Табліца XIV.

Распадзенне адзінкавых каметных запісаў XIV стагоддзя, маючыхся у Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь, на тры і на чатыры запісы ў еўрапейцаў.

| *Европейские записи.* | *Найденные в Китае* | *Разности их лет.* | |
|---|---|---|---|
| 1300 | | — 1 | |
| 1301 | ....1301..... | 0 | **комета Галлея.** |
| 1302 | | + 1 | |
| 1303 | | + 1 | |
| 1304 | ....1304..... | 0 | |
| 1305 | | + 1 | |
| 1312 | | 1 | |
| 1313 | ....1313..... | + 0 | |
| 1314 | | + 1 | |
| 1315 | | 0 | |
| 1318 | ....1315..... | + 3 | |
| 1337 | | 0 | |
| 1338 | ....1337..... | + 1 | |
| 1339 | | + 2 | |
| 1340 | | 0 | |
| 1341 | ....1340..... | + 1 | |
| 1345 | | + 5 | |
| 1347 | | — 4 | |
| 1351 | | 0 | |
| 1352 | ....1351..... | + 1 | |
| 1353 | | + 2 | |
| — | ....1356..... | — | |
| — | ....1360..... | — | |
| 1362 | ....1362..... | 0 | |
| 1363 | ....1363..... | 0 | |
| 1365 | ....1366..... | — 1 | |
| 1368 | ....1368..... | 0 | |
| — | ....1373..... | — | |
| 1375 | ....1376..... | — 1 | |
| 1379 | | + 1 | **комета Галлея.** |
| 1380 | ....1378..... | + 2 | |
| 1382 | ....1385..... | — 3 | |
| 1390 | ....1388..... | + 2 | |
| 1391 | | 0 | |
| 1394 | ....1391..... | + 3 | |
| 1399 | | — | |
| 1400 | **не достает** | — | |
| 1401 | **у китайцев.** | — | |
| 1402 | | — | |
| 1403 | | — 4 | |
| 1407 | ....1407..... | 0 | |
| 1408 | | + 1 | |

Ва ўсякім разе толькі пачынаючы ад III стагоддзя магчыма сур'ёзна ставіцца да каметных каталогаў, знаходзімых як у еўрапейскіх, так і кітайскіх запісах, і правяраць іх адзін па другому.

А як сродак паказаць, наколькі сучасныя еўрапейскія паведамленні пра каметы адрозніваюцца ад адпавядаючых ім у «Шэ-кэ» і ў «Лясным Каню» нават і ў больш познія часы, я раблю тут прыкладнае накладанне іх ад 1300 да 1408 гадоў нашай эры на еўрапейскія, маючыяся ў Любянецкага (табл. XIV).

Мы бачым, што нават і пад час гэтага позняга перыяду няма поўнага пагаднення паміж знойдзенымі ў Кітаі і еўрапейскімі запісамі. Еўрапейскія значна больш шматлікія і агульнае ўражанне складаецца такое, як калі б амаль кожная

рэчаісная камета на небе падзялілася ў еўрапейцаў (і ў Любянецкага ў прыватнасьці) на дзьве, тры і нават больш камет.

Ды і ў «Ляснога каня» і ва «Ўсёадбіваючым люстэрку» і ў «Шэ-кэ», перапісаўшых літаральна адзін у аднаго амаль усе паведамленні, не нашмат лепш.




Мал. 52

Размяркаванне ўсіх еўрапейскіх і знойдзеных у Кітаі запісаў пра каметы па васьмідзесяцігоддзях. Звяртае на сябе ўвагу пустое васьмідзесяцігоддзе паміж 220 і 300 гадамі ў еўрапейцаў, тады як у кітайскіх запісах тут асабліва шмат камет.

Цікава, што калі мы будзем лічыць гістарычны час не па стагоддзях, а па васьмідзесяцігоддзях, то васьмідзесяцігоддзе паміж 220 і 300 гадамі (мал. 52) застаецца ў еўрапейскіх запісах цалкам без камет, тады як у «Лета-Запісе» і ў «Лясным каню» яно змяшчае асабліва шмат камет. І не меншую цікавасць таксама выклікае тая акалічнасць, што ўвесь папярэднічаўшы перыяд, ад мінус 180 да плюс 220 года па колькасьці паслядоўных камет падобны на перыяд паміж 300 і 700 гадамі нашай эры, як быццам бы дублюе яго, так што пры перанясенні ў становішча А-А, (мал. 52) усе яго выпукласьці і западзенні паўтараюцца. Вядома,

поўнага пагаднення ў дэталях апісання тут няма, і гэта не простая копія, перанесеная храналагічна на 480 гадоў назад, але вельмі магчыма дапусьціць, што існаваў іншы незалежны спіс, які храналагісты размясьцілі перад першым.

Із гэтага мы бачым, што прыведзеныя намі каталогі камет не могуць служыць самастойным спосабам для вызначэння часу старажытна-гістарычных дакументаў, змяшчаючых не дэталізаваныя згадванні пра калматых вандраўніц. Іх немагчыма выкарыстаць нават і для падмацавання старажытнасьці з'яўлення на вачах людзей вылічаных намі перыядычных камет. Зірніце толькі на мае дыяграмы (табл. XIII на старонцы 168) і вы самі пабачыце, што запісы пра іх такія частыя, што могуць пацвердзіць што заўгодна. І толькі ў тых выпадках, калі мы можам дакладна храналагіраваць дакумент іншымі спосабамі, згадванне ў ім пра камету без пазначэння яе шляху па сузор'ях можа лічыцца адразу і яго падцверджаннем, і падцверджаннем праўдзівасьці змешчанага ў нашых каталогу запісу.



Замест Мал. 53
Задыякальнае сьвятло – ніжняя частка задыякальнай атмасферы сонечнай сістэмы, у якой утвараюцца каметы (пасьля заходу сонца пад тропікамі). (із архіва Н.А.Марозава)

# Частка першая

## Чароўная казка пра заснавальніка прававер'я на зямлі



Мал. 54
Фантастычны партрэт Магамета згодна з заходне-еўрапейскай аперцэпцыяй эпохі гуманізму.

# Глава I.

## Цудоўнае нараджэнне ісламіцкага Хрыста і яго прыдуманае юнацства.

Павага да чужых веравызнанняў не павінна распасьціравцца да дагаджэння перад імі.



Мал. 55
Арабскі ўніверсітэт, г.азн. духоўная вучэльня, у Каіры ў XIX стагоддзі (із фатаздымка).

Для таго каб крытыкаваць нешта, патрэбна, перадусім, ведаць тое што крытыкуеш. Так я рабіў у першых пяці тамах, выкладаючы змест розных старажытных кніг перш чым пачынаць доказ іхнай фантастычнасьці. Так я буду рабіць і тут, паведаміўшы спачатку звычайныя ўяўленні пра жыццё «Славутага» (Магамета па-карэйшыцку), а потым ужо пакажу, што ўся яго біяграфія з'яўляецца гістарычным снобачаннем. Матэрыяламі для выкладання фактычнай часткі будуць служыць для мяне шматлікія другасныя і першапачатковыя паданні, асабліва кніга «The Life of Mohammad from original sources» by sir William Muir у выданні 1923 года. Яе першае выданне выйшла ў 1861 годзе, другое ў 1876 і трэццяе ў 1894 годзе, якім часта карысталіся і ранейшыя нашы біёграфы прававерната прарока. Што ж да самога сэра Вільяма Мьюра, то галоўнымі першакрыніцамі яму служылі тры манускрыпты, купленыя ім у нямецкага прафесійнага шукальніка-арабіста д-ра Шпрэнгера, напісаныя на ісламіцкай літаратурнай мове ад імя «Ібн-Хішама», «Ад-Табары» і «Ібн-Саада».

Гэтыя кнігі былі «знойдзены» Шпрэнгерам у няблізкім сьвеце у трыдзясятым царстве ад месца апісваемых у іх падзей на Аравійскай паўвыспе, – у Індыі, у XIX стагоддзі, – і выдадзены за копіі з самых старажытных біяграфій Магамета. На справе ж яны ўяўляюць толькі канчатковае развіццё чароўнай казкі пра заснавальніка ісламу і напісаны, хутчэй усяго, самім «знайшоўшым».

Усе выпраўленні, якія я зраблю ў выпісах із розных аўтараў, будуць зводзіцца да таго, што я буду па магчымасьці называць людзей і мясцовасьці іхнымі праўдзівымі карэйшыцкімі значэннямі. Так храм Каабы я буду называць храмам Метэарытнага каменя, таму што яго метэарытная прырода зараз даказана, Медыну, як і яе жыхары, – Ясрыбам, фараона – фіргаунам і самога Магамета, проста Прарокам, таму што Магамет, як я ўжо шмат разоў паведамляў, не з'яўляецца ўласным імем, а пасмяротным найменнем, азначаючым «славуты». Сапраўднае ж яго імя, – як паведамляюць нам самі ж гэтыя першакрыніцы, – было Абул-Казем, сын Абдалы, унук Муталіба, што даволі цяжка для нашага

вымаўлення, ды і ў перакладзе азначае проста: Бацька Сусьвету (Космасу)[31], сын Богаслужкі, Унук Выпрабоўваючага.

Грунтуючыся на сваіх старых успамінах, я часта буду карыстацца тут пры характарыстыцы сучасных уяўленняў пра асобу і справы ісламіцкага Хрыста кнігай Чараванскага: «Сьвет ісламa і яго абуджэнне», таму што згодна з маёй думкай псеўда рэалізацыя легендарнага аўтара Карана дасягае ў ёй сваёй кульмінацыйнай вышыні, сярод усіх астатніх яго жыццяапісанняў, якія даводзілася мне чытаць. Асабліва бліскуча распрацаваны ў аўтара псеўда-псіхалагічны бок дзейнасьці прарока, якую пакідаюць у баку іншыя гісторыкі, а тым часам без яе абыйсьціся ніяк немагчыма.

* * *

Горад Мека, – пераконваюць сучасныя нам гісторыкі ісламу – узнік не раней V стагоддзя нашай эры[32], хаця нас запэўніваюць, быццам бы даліна каля яго была «са спрадвечных часоў» заселена плямёнамі аравійцаў, месцаваўшыміся каля каўчэга Метэарытнага-каменя, кінутага туды «арханёлам Гаўрыілам», і «спрачаўшыміся паміж сабой за права яго аховы і пра злучаныя з ёю зборы із багамольцаў». Адзін аравіец, маючы мянушку Эль-Карэйш (імя падобнае з біблейскімі братамі Карэямі, якім прыпісваецца некалькі біблейскіх псалмоў)[33], стаў родапачынальнікам знакамітага роду карэйшытаў, і гэты сьвятарскі род пазьней набыў вялікі ўплыў у Мецы. Карэйшыты мелі ў сваіх руках правільна ўладкаваную ўладу, і іхны ўплыў і павага да іх пашыраліся на далёкую адлегласць, таму што з нагоды вялікага наплыву багамольцаў да каўчэга метэарыта, імя карэйшытаў разносілася па ўсіх частках Аравіі. Да пачатку VII стагоддзя – паведамляюць нам – яны набылі значныя багацці быццам-бы дзякую транспартыроўцы вырабаў Йемена ў Сірыю, у Месапатамію і ў Ягіпет, дзе яны мянялі іх на тканіну, хлеб і іншыя вырабы (а на справе, вядома, маглі набываць багацці ў сваім нязручным для гандлёвага цэнтра месцы ніяк не дзякуючы гандлю, а толькі дзякуючы прынашэнням пілігрымаў-багамольцаў).

«*Адзін з іх, Сівавалосы, сын Раздрабляльніка, быў празваны таксама служкай Спаганяльніка, таму што быў усыноўлены сваім дзядзькай Спаганяльнікам*», – паведамляюць нам нашы першакрыніцы гэты сапраўды першаступенна важны факт. – «*Яго вялікадушнасць і шляхетнасць набылі яму ўсеагульную павагу, але гэтыя якасьці ў вачах яго суайчыннікаў не маглі* – дадаюць яны – *паменшыць яго няшчасьце з нагоды таго што ён меў толькі аднаго сына, таму што ў арабаў, падобна жыдам, высока шануюцца шматлікія нашчадкі мужчынскай стаці*». У гары ён звярнуўся да бога з малітвай даць яму дзесяць сыноў, із якіх аднаго ён абяцаў як і біблейскі Бацька-Рыма (Абрам) прынесьці ў якасьці ахвяры богу перад метэарытным каменем.

Малітва «Служкі Спаганяльніка» была пачута. Пасьля нараджэння яго першага сына ў яго нарадзілася (з 528 па 569 год нашай эры) 12 сыноў і 6 дачок.

Маючы жаданне выканаць свой зарок, ён сабраў 10 старэйшых сыноў і абвясьціў ім дадзенае богу абяцанне. Іх прывялі ў Каабу да стода Нобала, каб кінуць жэрабя, каму паміраць. Жэрабя абрала самага шануемага сына Абдалу (Богаслужку). Калі яго ахвяраванне ў прызначаным месцы было ўжо гатова, раптам з'яўляюцца карэйшыты, затрымліваюць руку Служкі Спаганяльніка (Абд-ул-

[31] Абул-Казем гэта па-руску: Бацька Кузьма.

[32] Гл. «Каран Магамета». Прадмова Казімірскага.

[33] Псалмы 84, 85, 87, 88 згодна з жыдоўскай нумарацыяй.

Муталіба па карэйшыцку) і прапануюць яму параіцца з прадракальніцай ва ўмацаваным горадзе Хайбары, населеным жыдамі.

Прадракальніца запытала, якая пяня прызначана за забойства, і калі ёй паведамілі, што дзесяць вярблюдаў, яна параіла паставіць з аднаго боку Абдалу, а з другога – дзесяць вярблюдаў, і кінуць жэрабя. Калі яно прыпадзе на Абдалу, то кідаць жэрабя зноў, дадаючы кожны раз па дзесяці вярблюдаў, да таго часу пакуль жэрабя прыпадзе на іх. Служка Спаганяльніка згодна з навучаннем прадракальніцы быў вымушаны дзесяць разоў дадаваць па дзесяці вярблюдаў, таму што жэрабя дзевяць разоў не спрыяла «Богаслужцы»; зарок богу быў выкуплены сотняй вярблюдаў. Менавіта з гэтай пары ў аравійцаў кошт чалавечай крыві і быў – паведамляюць нам – вызначаны роўным сотні вярблюдаў. Услед за тым Служка Спаганяльніка адружыў Богаслужку з Амінай, дачкой Дараносца, аднаго із нашчадкаў Абд-Менафа. Ад гэтага адружання і нарадзіўся прарок адзінабожжа, (як быццам бы яно ўжо не было да таго часу «абвешчана Майсеем» і «зацверджана на Нікейскім саборы ў першым пункце Знака веры»!

Год яго нараджэння – пераконваюць нас – у дакладнасьці невядомы. Прынята лічыць, што Славуты (Магамет на карэйшыцкай гаворцы, ужываецца толькі ў літаратурна-адукаваным ісламіцкім грамадстве) памёр ва ўзросьце 63 гадоў ад нараджэння ў 632 годзе. Такім чынам – кажуць нам – ён нарадзіўся ў 569 годзе нашага летазлічэння, але пры гэтым яшчэ застаецца пытанне, як паказаны яго 63 гады: ці згодна з месяцовым злічэннем гадоў, ўжываемым у ісламітаў, ці браліся ў разлік высакосы, усталяваныя, як кажуць, толькі ў 413 годзе нашай эры, г.азн. ужо пры Ганорыі. Аднак само сабой зразумела, што ўсе гэтыя мудрагельствы прыдатныя толькі для дзяцей: самаж лічба 63 гады з’яўляецца кабалістычнай 7*9 ці 7*3*3, куды ўключаны містычныя лічбы: 7 і два разы 3.

Ідучы следам за прыроджаным імкненнем атачаць дзівамі калыску знакамітых людзей ісламіцкая набожнасць не прамінула таксама пазначыць час нараджэння свайго прарока звышнатуральнымі з'явамі. Так, у гэты дзень згарэў палац Хазроя ў Ктэзіфоне і чатырнаццаць яго веж разбурыліся; патухла сьвятое полымя ў храмах Зараастра, нягледзячы на пастаянны нагляд чараўнікоў; перасохла возера Сава і вялікі пярсідзкі жрэц пабачыў у сне нашэсьце на Персію аравійскіх вярблюдаў і коней. Аміна, маці прарока, пазьней паведамляла свайму свёкру, што падчас сваёй цяжарнасьці яна бачыла сьвятло, асвятляўшае ўвесь сусьвет із яе чэрава, а Абд-ул-Муталіб, прыйшоўшы паглядзець на свайго нованароджанага ўнука, са здзіўленнем заўважыў, што ён нарадзіўся – можаце сабе ўявіць! – ужо абрэзаным!

«Сама імя Магамет, азначаючае «славуты» – паведамляюць нам – было дадзена нованароджанаму яго дзедам, насуперак пярэчанням сяброў, якія не разумелі, як можа сапраўдны карэйшыт не насіць імя аднаго із багоў, але Абд-ул-Муталіб зрабіў так дзякуючы асобнаму натхненню. Яму было звыш нададзена богам, што імя «Славуты», якім не зваўся яшчэ ніводзін аравіец, будзе ўслаўлена і на небе і на зямлі». Аднак сучасны чытач наўрад ці задаволіцца гэтым тлумачэннем, а таму і мы, найлепш, прыйдзем да высновы, што найменне Магамет было толькі тытулам, атрыманым нейкім правадыром ужо пасьля яго перамог, а да таго часу ў яго было, відавочна, іншае найменне. Акрамя таго немагчыма не пазначыць, што і Юда на біблейскай гаворцы таксама азначае Славуты, г.азн. пры перакладзе на арабскую мову – Магамет. Ці не вынікае із гэтага, што як юдаізм, так

і магаметанства, ці інакш ізраэліцства і ізмаэліцства, былі спачатку адным і тым жа? Паглядзім далей.

Легенда пра цудоўнае народжэнне Магамета ўжо ў абрэзаным выглядзе дадае яшчэ, што ў дзень з'яўлення яго на сьвет усе легіёны анёлаў і сьветлых бязцялесных істот выдалі радасныя ўсклікanні, як пры нараджэнні евангельскага Хрыста, што загарэліся на небе вялікія вогнішчы і нябесныя магутнасьці прагналі адтуль нячыстых духаў у іхныя смуродныя сховішчы, а рака Еўфрат выйшла із берагоў і затапіла шмат паселішчаў, цураўшыхся адзінага бога. Ці не з'яўляецца гэта ўспамінам пра падзенне таго метэарытнага каменя, які зараз захоўваецца ў Мецы? Гэта было б вельмі праўдападобным і патлумачыла б, як пабачым далей, і само ўзнікненне агаранства ў VII стагоддзі нашай эры, дзякуючы жахліваму метэарытнаму выбуху над Чырвоным морам. Менш «гістарычнымі з’яўляюцца» паданні пра дзяцінства Магамета. Вось некаторыя із іх.

Аднойчы, гуляючы з таварышамі, ён пабачыў наблізіўшыхся да яго двух анёлаў. Яны распласталі яго на зямлі, расчынілі яго грудзі, вынялі із яго сэрца кроплю чорнай крыві, потым памылі і ачысьцілі яго сэрца і, залекаваўшы рану, як сучасныя аператары, выдаліліся ў нябесную прастору. А падняўшыся пасьля гэтай прыгоды, дзіцёнак не адчуў ніякага болю. Паводле іншых жа варыянтаў ачышчэнне будучага прарока ад спадчыннага граху было здзейснена не двума анёламі, а толькі адным Гаўрыілам, якія і служыў яму да яго апошняга дыхання. А абмыванне яго сэрца было зроблена – кажуць нам – снегам, які знаходзіўся ў анёлаў у залатой пасудзіне.

Неабходнасць ачышчэння Магамета ад нейкай прыкрасьці тлумачыцца ісламіцянамі тым, што сатана, прыводзячы да памылак увесь чалавечы род, дакранаецца рукой да кожнага нованароджанага і пакідае ў ім след свайго дакранання, упускаючы ў яго кроплю чорнай крыві. Ад гэтага нованароджаныя і плачуць у хвіліны свайго з'яўлення на сьвет. Так здзяйсняецца псаванне ўсяго чалавечага роду, пры гэтым прававерныя выключаюць ад дакранання сатаны толькі панну Марылю і яе сына – Хрыста.

Ачысьціўшы сэрца будучага прарока, анёлы напоўнілі яго галаву рознымі ведамі і здольнасьцю прадказанняў, і яго цела пачало вылучаць сьвятло, падобна арэолу, які ўпрыгожваў, на думку мусульманаў увесь сьвяты шэраг прарокаў да Ізмаіла ўключна. Для пазначэння ўсяго гэтага паміж плячамі дзіцёнка з'явілася пячатка у выглядзе радзімай плямы.

Але не адно толькі дзяцінства ісламіцкага Хрыста суправаджалася, звышнатуральнымі падзеямі. Не меншыя дзівы адбыліся і пры наступным жыцці прарока:

Аднойчы на вачах ўсяго народа ён рассёк на дзьве часткі Месяц[34]. Пры яго малітве, як у апавяданні пра Езуса Навіна, у лягендзе пра вычыны якога шмат агульнага з вайсковымі вычынамі Магамета, бог загадаў спыніцца Сонцу, каб ён мог закончыць справу, для здзяйснення якой Алі не разбудзіў яго своечасова, бачучы яго заснуўшым на каленях. Кожны раз, калі ён ішоў з кім-небудзь побач, ён здаваўся вышэй яго на галаву. Яго твар заўсёды выпраменьваў сьвятло, цалкам як у Майсея пасьля яго спаткання з богам, і калі ён трымаў перад сабой пальцы, то і яны сьвяціліся падобна паходням. Атачаючыя часта чулі, як яго віталі і схіляліся перад ім камяні, дрэвы і расьліны. Газелі, ваўкі і яшчаркі ўвесь час раіліся з Магаметам, і аднойчы нават цалкам засмажанае казляня перад яго з’ядзеннем пяшчотна

[34] Каран 32.

загаварыла з ім. Аднойчы прарок здабыў із нябыту накрыты абрусам стол з разнастайнымі стравамі, калі Алі і яго сям'я былі галоднымі і яны насыціліся лепш чым ад нейкага іншага абеду.

Але ўвесь гэты шэраг звышнатуральных з'яваў уяўляецца не маючым вялікага значэння ў параўнанні з частымі стасункамі Магамета з богам пры дапамозе анёла Гаўрыіла. Дваццаць тры гады анёл штодня рабіў для гэтага пералёты паміж зямлёй і боскім пасадам, ды і сам прарок аднойчы лётаў для асабістага спаткання з богам на самае высокае із нябёс.

Нават і супернікі ісламa, падчас крыжовых паходаў, калі ўпершыню давялося лічыцца з «магаметанствам», таксама загаварылі пра дзівы, здзейсніўшыяся пры нараджэнні ісламіцкага Майсея, але толькі пра дзівы, поўныя жахаў і злавесных прадказанняў. Сталіца Хрысьціянства – Канстантынопаль – напоўнілася быццам бы ў гэты дзень нованароджанымі вырадкамі. Сонца паменшылася на трэцюю частку. Па небе зазіхацелі крывавыя дзіды, і ў хвалях Нілу з’явіліся пачвары...

І вось, із усіх гэтых дзіваў я магу тут пазначыць толькі сонечнае зацьменне 1 жніўня 566 года, праходзішае ў поўным выглядзе ад Сахары ў Індыю амаль праз сярэдзіну Аравіі, гадзіны за тры да поўдня і за тры гады да пазначаемага гісторыкамі года нараджэння прарока, але яно нічога не даводзіць, бо сонечныя зацьменні ў няпоўным выглядзе здараюцца амаль кожнае дзесяцігоддзе ў кожнай мясцовасьці.

Бацька прарока – кажуць нам – памёр за два месяцы да яго з'яўлення на сьвет, а маці праз шэсць гадоў пасьля таго. Дадаюць, што Абдала памёр у нястачы, так што яго сыну дасталіся ў спадчыну толькі некалькі авечак, тры вярблюды, ды старая нявольніца эфіёпка. Вялікае багацце продкаў даўно разышлася «на дабрачынныя справы». Вайна з эфіёпскім царом запатрабавала таксама крайняга выдаткавання сродкаў усіх карэйшытаў, і таму збяднелы род абмежаваў урачыстасць у гонар нованароджанага прарока толькі закланнем аднаго вярблюда, і пазьней дзіцёнку, – паведамляюць нам, пераходзячы ад цудоўнага да сентыментальнага – давялося выпрабаваць горкую долю выхаванца па-за бацькоўскай сядзібай, у шатры беднай бедуінкі «Крошкі» (Галімы).

Да якога менавіта рэлігійнага культу шматбожнікаў належаў бацька новага Майсея – працягваюць разважаць яго біёграфы, забываўшы, што яго бацька выпрасіў сабе дзяцей у «праўдзівага бога», невядома, але існуюць нейкія таямнічыя ўказанні на тое, што асобы роду Гашэм ушаноўвалі Сірыуса ці Рэгула, г.азн. былі астролагамі.

Валодаючы дзіравым шатром і некалькімі козамі, гераіня гэтай сентыментальнай часткі ісламіцкага рамана, Крошка, падтрымлівала існаванне сваёй сям'і тым, што брала на грудное кармленне дзяцей мекскіх патрыцыяў. Хлопчыкі заставаліся пад яе шатром да ўзросту, калі ўжо было можна пасадзіць дзіцёнка на каня, а дзяўчынкі да ўмення скруціць нітку із поўсьці. Такі курс выхавання не патрабаваў вялікіх клопатаў і выдаткаў, і таму бацькі ўзнагароджвалі карміцельку не вельмі каштоўнымі запясьцямі, ці дзясяткам баранаў, і толькі заможныя людзі адорвалі яе пальмай у іхных фінікавых гаях.

Потым раман ад сентыментальнага зноў пераходзіць у разрад фантастычнага і паведамляе пра незвычайны дабрабыт, напаткаўшы сям'ю Крошкі, пасьля прыёму ёю да сябе прарока.

Сабакі больш не падпускалі ніякіх звяроў да яе коз, і козы знаходзілі нават сярод голага пяску сакавітую пашуі выдатную ваду. Нікому невядомыя бараны ішлі прама да яе шатра, накіраваныя нечыяй валадарачай рукой. Маленькі лапічак засеянага поля даваў ёй столькі проса, колькі не атрымлівалі і заможныя ўладальнікі аазісаў. Чалавек Крошкі, да здзіўлення ўсіх арабаў, страціў якое б то ні было разуменне пра сваю перавагу над жонкай, і калі ў яго руцэ яшчэ і заставаўся бізун, то толькі для лянівых аслоў. Нават дзеці, застаючыся ў яе на выхаванні, перасталі сварыцца, так што вакол яе шатра панавала ўрадлівасць, а пад дахам – агульнае шанаванне і дабрачыннасьці. Мала таго, у вушах яе хатняга бога з'явіліся залатыя завушніцы, невядома кім надзетыя.

На трэццім месяцы ад нараджэння дзіцёнак ўжо не меў патрэбы ў падтрымцы і пераганяў стэпавую газель. На дзясятым месяцы ён ужо нацягваў лук, пускаў стрэлы і выяўляў, як евангельскі Езус, незвычайную мудрасць у размовах з螺 рознымі людзьмі.

Так усё ішло да здзіўлення добра... Але патрэбна ж было нейкі чынам вярнуць падрастаючага прарока і ў сьвяты горад... І вось, звычайныя прыпадкі істэрыі ў ісламіцкіх дэрвішаў далі для гэтага выдатную нагоду. Калі ж рэлігійныя прыпадкі ад бога, то не маглог ж іх не існаваць і ў яго прарока.

Галіма – паведамляюць нам – не развіталася б са сваім гадаванцам, але некаторыя незразумелыя для бедуінкі з'явы навялі яе на думку: ці не пасяліўся ў ім нячысьцік? Прызнакі таго, што хлопчыкам завалодаў сатана яна пабачыла, калі хлопчыку мінула толькі тры гады, і ён запаў спачатку ў рэлігійны экстаз, а потым у непрытомнасць, так што яго таварышы па гульнях палічылі яго памёршым. Яны прыбеглі да карміцелькі з паведамленнем, што ён ляжыць за шатром з пенай каля рота, як укушаны змяёю. Меўшаяся ў запасе вада са студні Зям-Зям апрытомела яго, але Крошка, баючыся адказнасьці за гадаванца, адвезла яго назад да маці. А тым часам гэты прыпадак быў не ад сатаны, а наадварот з'яўляўся наступствам ускрывання грудзей хлопчыка анёлам Гаўрыілам для таго каб вызваліць яго вантробы ад кроплі сатанінскага яду, як гэта бывае і ў іншых сьвятых.

Потым раман зноў пераходзіць у сентыментальны жанр.

Здабываючы з вялікімі намаганнямі сродкі для існавання, маці прарока вырашылася, нарэшце, паспрабаваць знайсьці шчасьце на сваёй радзіме, куды і выправілася з сынам і з адданай ёй нявольніцай. Але яна не знайшла ні спагады, ні спачування ў старэйшын свайго роду вандраваўшага ў наваколлях горада, і ёй давялося вярнуцца назад у Меку.

Тут у яе была хаця і не заможная, але спачуваючая радня. І вось, не дайшоўшы да Мекі, Аміна саслабела да таго, што не магла ўжо трымацца на хрыбце свайго мула і ціха памёрла ў полі, заручыўшыся клятвай сваёй нявольніцы, што яна не пакіне яе сына. Яе пахавалі добрыя людзі ў вёсцы Абве, паміж Мекай і Ясрыбам, а эфіёпка-нявольніца выправілася з шасьці гадовым сіратой у Меку, проста да сядзібы яго дзеда, які ветліва прыняў унука. Гэты паважаемы захавальнік адломкаў метэарытнага выбуху быў дарагім для Мекі не толькі сваёй праўдзівасьцю і ўстойлівасьцю перакананняў, але і тым, што клапатліва ахоўваў усе тонкасьці ўтварыўшыхся тут рэлігійных звычаяў і цырымоній. Ён аднолькава аберагаў вартасьці ўсіх культаў, меўшых прадстаўнікоў каля каменя кінутага з неба арханёлам Гаўрыілам. З аднолькавай павагай ён клапаціўся і пра простыя і пра залацістыя камяні, здабытыя ім са студні Зям-Зям, відаць, выбітай метэарытным выбухам.

Дзіцёнак, знайшоўшы ў сядзібе дзеда далікатнае стаўленне да сябе, ахвотна пагадзіўся дапамагаць яму ў догляданні за храмам. Састарэлы ўзрост апекуна метэарытнага каменя перашкаджаў яму весьці змаганне з нябеснымі птушкамі, якія знаходзілі выдатнае сховішча ад дзённай спёкі пад дахам гэтага будынка і з дзёрзкімі наземнымі жывёламі, забягаўшымі сюды скарыстацца халаднаватай вадой, прыгатаванай для багоў і наведвальнікаў. Першы ключ ад двара Метэарыта з'явіўся пры Абд-ул-Муталібе, калі ён даведаўся, што лісіцы пачалі забягаць туды, каб пажывіцца ахвярным мясам, і калі знайшліся блюзнеры, вырваўшыя завушніцы з вушэй статуй...

І вось, сентыментальны раман пачынае тут пераходзіць у сучасны нам псіхалагічны, навочна сведчачы гэтым, што да яго стварэння ўжо прыклаў сваю руку пісьменнік не раней заканчэння XVIII ці нават пачатку XIX стагоддзя...

«Правёўшы першыя гады свайго існавання, – паведамляюць нам яго аўтары, – у стэпе, пад шатром паганкі, а потым пры хворай маці, страціўшай пасьля сьмерці чалавека сувязь з яго культам і не меўшай свайго бога, будучы прарок адзінага бога яшчэ ніводнага разу не наведваў каменя, кінутага з неба арханёлам Гаўрыілам. А зараз, калі ён зайшоў пад дах яго храма, трымаючыся за крысо дзедава плашча, для яго тут усё было новым і незразумелым. Трыста шэсцьдзесят статуй, якім аддаваліся божыя ўшанаванні, спарадзілі ў юнаку хаатычнае ўяўленне пра бязмежную моц боскіх магутнасьцей. А багі і багіні складаліся із match разнавялікіх і па рознаму выглядаючых каменных і драўляных статуй, і нават пнёў і толькі нешматлікія із іх мелі чалавекападобны выгляд. Яны былі дастаўлены сюды із Сірыі, таму што дойліды Аравіі не былі ў стане ператварыць каменную камлыгу ў выяву багінь Алаты, Уль-Узы ці Менаты...

«Назіраючы за гэтым зборам багоў, хлопчык мімаволі звярнуў увагу на пустыя месцы, на якіх дзеля адной сіметрыі патрэбна было б красавацца нейкім багам. Дапытліваму ад прыроды розуму дзіцяці немагчыма было не задацца пытаннем: чаму сярод шэрагу багоў утварыліся гэтыя пустыя месцы? На яго пытанне давялося адказваць Абд-ул-Муталібу, якому сумленне не дазволіла ўхіліцца ад праўды:

– «Гэтае месца належыць племені Бэн-Хатыфа, якое ўшаноўвала бога прыгатаванага із цеста. Ён спрыяў ураджаю хлябоў, але пасьля двух гадоў неўраджаю прыхільнікі вырашылі з'есьці яго самога – і з'елі».

Падобнымі ж – згодна са сведчаннямі гісторыкаў, прыкладаўшымі намаганні да надання гэтаму раману псіхалагічнай афарбоўкі, – былі і іншыя тлумачэнні.

«Гэтае месца пустое дзякуючы правіне аднаго із маіх папярэднікаў. Ён не заўважыў, як сюды забегла лісіца і зрабіла тут пад кумірам непрыстойнае дзеянне. Куміра давялося знішчыць, як не здолеўшага пакараць за падобны бязбожны ўчынак».

«Із падобных тлумачэнняў дзеда, – працягваюць складальнікі гэтай чароўнай казкі, лічачы свае меркаванні за факты, – будучы прарок зразумеў, што наглядальнікі за храмам надаюць невякае значэнне сваім божышчам, і часта закідваюць іх як састарэлыя і больш непатрэбныя рэчы і нават знішчаюць, як сапсаваныя вярблюжыныя сёдлы. У стэпе ён маліўся таму богу, якому малілася і яго карміцелька, а ў прастаце сэрца прызнаваў толькі бога, які знаходзіўся па-над небам. Правёўшы паралель паміж гэтым богам і тымі, якія яму патрэбна было зараз прыводзіць у парадак, юнак мімаволі пачаў скептычна ставіцца да безадказных

статуй. Што гэта за апякун, якога можна было безпакарана з'есьці ці да якога нават лісіцы адважваліся ставіцца, як быццам бы яны знаходзіліся ў сваёй нары?».

Ці не праўда, чытач, як усе падобныя меркаванні падобны на павучанні навейшых хрысьціянскіх тэолагаў? Той жа стыль, той жа трафарэт, а тым часам яны прыпісваюцца старажытнаму ісламіцкаму настаўніку! Я працягваю далей, грунтуючыся непасрэдна на кнізе Чараванскага: «Сьвет Ісламa і яго абуджэнне», таму што гэтая кніга далёка не самая горшая сярод усіх, якія мне давялося чытаць, як рускіх так і замежных. Усе яны падобнага зместу, толькі нашмат больш пазбаўлены таленту і сухія, на жаль! (не ўсё, што больш безталаннае і сухое, больш гістарычнае).

Прыгатаванні храма да прыёму прыхільнікаў-пілігрымаў нікольki не ўзмацнілі рэлігійны настрой памагатага яго паважаемага апекуна. «Із адных статуй даводзілася саскрабаць тоўсты пласт ахвяравальнага мёду з наліплымі на яго казуркамі; іншыя былі да такой ступені закураны фіміямам із сухога лісьця і са старых стравусавых пёр’еў, ці із грывы паважаемага, але загінуўшага ў змаганні каня, што яны мелі выгляд чорных чурбакоў. Вось гэтых акраплялі ахвярнай крывёй так шчодра, што ўтваралася смярдзючая скарынка, перашкаджаўшая свежай крыві прыліпаць да каменя. Перад перыядам сьвята прыхільнікаў Нябеснага каменя ў яго храме была вялікая мітусьня: адны статуі забіраліся прэч і замянялі новымі, у другіх дарагія запясьці замянялі менш каштоўнымі і, наадварот, некаторым прыстаўлялі адбітыя ці адваліўшыяся часткі і наогул прыхарошвалі рознымі сродкамі ўсю процьму сваіх бажышчаў».

Сьвята працягвалася каля месяца, на працягу якога дапытлівы юнак мог дастаткова наглядзецца на разнастайнасць культаў і на такія іхныя бакі, якія выклікалі кплівую ўсмешку.

«Але ён адчуваў, – зноў выказваюць здагадку аўтары, – і пачуццё задавальнення, калі сабраўшыяся ў Мецы паэты Аравіі пачыналі паэтычнае спаборніцтва. Шчырасць іхнага ўдзячнага пачуцця за паднесены ім мех з халаднаватай вадой са студні Зям-Зям глыбока адкладалася ў яго маладой душы і потым маляўніча адлюстравалася ў вучэнні Карана. Не праходзіла не пакінуўшы сьледу і паэтычная прыгажосць твораў, прачытаных каля дзьвярэй нябеснага каменя. Тут высокі лірызм баладаў пра прыгажосць і мужнасць, пра ўзмахі мяча і пра шэпт кахання, напаўнялі захапленнем і спевакоў, і слухачоў, і будзілі ў самых патаемных сховішчах чалавечай прыроды імкненне да бязмежнай высі і да здзяйсненняў, перавышаючых магчымасьці зямных валадароў».

Храмавая служба будучага прарока скончылася разам са сьмерцю Абд-ул-Муталіба, перадаўшага ўнука незадоўга да сваёй сьмерці пад апеку свайго брата Абу-Таліба. Гэты прыняў пляменніка, які ўжо паспеў выявіць сур'ёзныя душэўныя задаткі, таксама паважліва і прапанаваў яму абмежавацца на пачатку сьціплай роллю пастуха мекскага статка.

«Пакінуўшы храм Метэарытнага каменя з непрыязным стаўленнем да яго багоў, юнак усё ж працягваў заставацца ў паганстве, таму што культы юдэйскі і хрысьціянскі былі яму яшчэ невядомымі».

«Летуценны ад прыроды, і вельмі ўражлівы ён быў пакінуты самаму сабе і нішто не перашкаджала яму наладжваць асабістыя стасункі з зямлёй ці небам адпаведна свайму жаданню».

Зямля Аравіі непрывабная, але яе неба пераўзыходзіць сваёй чароўнай прыгажосьцю усё, што калі-небудзь стварыла паэзія, усё, што даступна фантазіі. І

вось, «праводзячы пад адкрытым небам паўднёвыя ночы, навяваўшыя прахалоду і мроі, юнак не мог не пачаць параўноўваць балваноў намазаных мёдам і аблепленых мухамі, са стваральнікам усяго, што ён бачыў у блакітнай вышыні».

«Будучы прарок пастухаваў (падобна Майсею ў свайго зяця Лавана) восем гадоў і на працягу ўсяго гэтага доўгага перыяду вёў таемную размову з прыродай. Пры сваёй нярвовасьці ён пачаў чытаць у кнізе нябёс тое, чаго не маглі прачытаць і пісьменныя людзі. Часьцяком ён прапаноўваў небу свае пытанні і атрымліваў адтуль на іх адказы, то з дапамогай дыяментавых праменяў ранішняй зарніцы, то з дапамогай падняўшайся із-за гары хмурынкі, то з дапамогай шэпту ветрыка, варушыўшага доўгімі галінкамі ветлівай пальмы».

Ці не праўда, чытач, як гэта ўсё цудоўна апісана? Але толькі... адкуль жа аўтары даведаліся пра ўсе гэтыя думкі і адчуванні будучага прарока? І вось, мы не знаходзім іншага адказу, як такі: са сваіх уласных галоў! Гэта раман, а не гістарычнае дасьледаванне.

Працягнем жа і далей нашу напалову чароўную казку.

Мека выбрала Абу-Таліба важатым каравана. Гэты караван выпраўляўся ў Сірыю і Муталібу было не цяжка ўладкаваць пры ім і будучага прарока. Важаты быў у тую пару камендантам каравана, яму падначальваліся падчас шляху ўсе знаходзіўшыяся ў караване, свае і чужыя. Без строгай дысцыпліны каравану пагражала знішчэнне, калі не ад стэпавых разбойнікаў, то ад недахопу вады, няведання шляху і шмат якіх іншых выпадковасьцей. Ён звычайна складаўся із гандляроў і камісіянераў, абменьваўшых жамчужыны, пахучыя рэчы і вострыя прыправы на сірыйскую тканіну, ювелірныя вырабы, на хлеб і на нявольнікаў, калі на апошніх узнікаў попыт з боку багацеяў Мекі і Йемена. Фінікі былі пераважаючым грузам».

«Пра ежу клапаціўся кожны для сябе, але забеспячэнне вадой належала важатаму каравана. Караваны суправаджала варта, якая ніколі не павяртала свае дзіды супраць гаспадароў і хутчэй пачала б бітву са сваімі бацькамі і дзецьмі, чым выдала хаця б адзін цюк фінікаў аматарам лёгкай нажывы».

«Падыйшоўшы да марскога берага – псіхалагуюць далей жыццяапісальнікі прарока – юнак, які бачыў да гэтага часу толькі студні і дажджавыя ручаі, быў уражаны процьмай вады, за якою было відаць неба, але не было відаць зямлі. Ён доўга заставаўся ў стане чалавека, апынуўшагася перад звышнатуральнай з'явай. У дзяцінстве ён чуў пра існаванне на сьвеце мораў і нават ведаў, што бог паставіў паміж марамі нейкую непрыступную сьцяну, але гэтае апісанне не давала яму ніякага разумення пра памеры мора. Пераадолеўшы ў сабе хвваляванне, ён доўга потым задаваўся невырашальнымі для яго пытаннямі: які із вядомых яму ў яго храме багаў быў здольным захаваць жывое стварэнне ў гэтай салёнай вадзе? Хто із іх можа стварыць на дне мора такія прыгожыя рэчы, як жэмчуг і каралы? Чаму спакойнае мора раптам ператвараецца у жахлівую кіпучую магутнасць? На гэтыя і шмат падобных пытанняў не было для яго адказу. Ён разумеў, што ні багіні Алата, Уль-Уза і Мената, ні сам вярхоўны Габал, не былі ў стане не толькі падняць і ўспеніць неаглядную масу воды, але не маглі б прымусіць нават вось гэтую чайку так мірна лашчыцца на грозным вадзяным грэбні. Відавочна, усё, што ляжала перад позіркам будучага прарока, мела пачатак у ствараючай магутнасьці нечага больш вялікага чым тое, што ўяўлялі сабой усе трыста шэсцьдзесят бажышчаў каля храма Нябеснага каменя».

Я знарок зрабіў гэты амаль літаральны выпіс са «Сьвету Іслама», бо ён асабліва яскрава малюе нам тыя метады, якімі сучасныя гісторыкі імкнуцца зрабіць у літаральным сэнсе із нічога псеўда-рэалістычную біяграфію заснавальніка магаметанскай рэлігіі, і нават грунтуючыся на псіхалагічным падмурку. Мы павінны прызнацца, што ўсё гэта напісана не без таленту. Рэлігійнае пачуццё чалавека сапраўды выпрацавалася із шанавання назіраемага таямнічага для яго стыхійнага жыцця атачаючай прыроды, але хіба мы не бачым, што і зараз яно яшчэ мірыцца, напрыклад ў хрысьціян, з ушанаваннем, крыжа ці царкоўных выяваў, таксама няздольных ні ўсхваляваць спакойнае мора, ні спыніць ляцячую над ім чайку? Мы бачым, што ўсё гэта толькі простыя меркаванні, а не гістарычныя факты, і такія ж меркаванні замест фактаў працягваюцца паведамляцца і далей, паступова ствараючы пад назвай «Жыццё Магамета», ужо не фантастычны, а цалкам рэалістычны раман накшталт бальзакаўскага «Жанчына ў трыццаць гадоў».

Разгледзім жа і яго бальзакаўскую частку.

У кожным сірыйскім караване ўтрымлівалася не менш тысячы чалавек. У іхным ліку знаходзіліся і дасьведчаныя вандраўнікі і прымудроныя жыццём старыя людзі і вельмі адукаваныя людзі; гэтымі апошнімі былі пераважна рабіны, падтрымліваючыя маральную сувязь аравіцянаў з Палестынай. Зразумела, што будучы прарок, як пляменік кіраўніка каравана і яго памочнік, карыстаўся асобнай павагай. Яго дапытлівасць прыцягвала да яго людзей, прывыкшых павучаць слухачоў.

Асабліва ўзбагаціўся ён гістарычнымі і рэлігійнымі паданнямі ў межах Сірыі. Асуджаючы ідалашанаванне, тамтэйшыя нестарыяне таксама не ўхвалялі і абразашанаванне і нават ушанавання агульнай эмблемы хрысьціянства – крыжа. Прыняты імі зараз пяшчотна, будучы прарок пазьней згадаў у сваім Каране і пра «назаранаў», як пра набожных стараннікаў, не апантаных рабінскім гонарам».

Пагаджаючы гандлёвыя інтарэсы гаспадароў са станам сваіх душэўных патрабаванняў, будучы прарок даўно ўжо існаваўшага тады адзінабожжа здолеў набыць у супляменнікаў назву «аль-аміна», што азначала праўдзівага чалавека ў вышэйшай ступені. Каля 25-ці гадовага ўзросту яго гандлёвая спрактыкаванасць была ўжо такой вялікай, што дачка Хавейліда – Хадыджа – з радасьцю даручыла яму вядзенне сваіх гандлёвых аперацый. Яна страціла да гэтага часу свайго другога чалавека, які пакінуў ёй, як і першы, вялікую спадчыну, даваўшую ёй магчымасць весьці гандлёвыя справы як з Сірыяй так і з паўднёвымі партамі Аравіі.

«Ніводзін з яе ранейшых загадчыкаў не даваў ёй такіх зразумелых справаздач, як малады Магамет, які ўмеў злучыць нудныя лічбы з прыемнай размовай. Хадыджа не ведала пры ім страт і таму плаціла свайму загадчыку ўдвая больш звычайнай узнагароды за працу. І яна дапаўняла сваю плату пяшчотнай увагай, на якую здольна толькі жанчына ў саракагадовым узросьце, захаваўшая пры гэтым усе прывабныя рысы прыгожых аравіцянак. Можна думаць, што, прыхільна выслухаўшы падлікі пра купленыя на поўдні і прададзеных на поўначы з добрым барышом каралы і жэмчуг гэтая бальзакаўская Femme a trente ans не менш прыхільна слухала і яго апавяданні пра бачанае і пачутае, і цалкам падзяляла яго пагляды, таму што апавядальнік валодаў мастацтвам рабіць ураджанне сваім вобразным красамоўствам пры развіцці сваіх думак і апісанняў».

І тут ужо не адны ўяўленні аўтараў XIX стагоддзя: само «Люстэрка істот» – адна із класічных кніг мусульманства – паведамляе: «яго блаславёны язык выказваў мудрасць, злучаную з салодкім красамоўствам». Таму з’яўляюцца

зразумелымі і здагадкі нашых арабістаў, што «яго павучанні былі кароткімі, але пераканаўчымі і паказальнымі, што сьмех яго быў толькі сьветлай усмешкай, пры гэтым яго благаславёныя зубы былі бачнымі ледзь-ледзь». А нашы першакрыніцы яшчэ дадаюць, што «ён ніколі не рагатаў гучна, а калі смяяўся, то із яго вуснаў выходзіла сьвятло, асьвятляючае процілеглыя сьцены. Ужо толькі адно адкрыццё яго вуснаў рабіла лякуючае ўздзеянне на людзей ад усіх хвароб».

Усе гэтыя вартасьці былі, вядома, выяўлены астатнімі людзьмі ужо пасьля прызнання Магамета пракорам, але і да гэтага часу Хадыджа заўважала анёлаў, ахоўваўшых яго. Аднойчы, выйдучы на дах сваёй сядзібы з натоўпам нявольніц, каб хутчэй пабачыць набліжаючыся да Мекі караван, яна спыніла пагляд на будучым прароку, выдатна сядзеўшым на статным кані і не падазраваўшага, што сваёй вытанчанай і прыгожай постаццю ён ужо прыцягнуў яе палкія пагляды. І вось, у тую ж хвіліну, яна пабачыла, як над яго галавой, ледзь прыкрытай тканінай лёгкага каптура, лунаіі анёльскія крылы і навявалі на яго асвяжаючую прахалоду.

Праўда, прыслужніцы Хадыджы не бачылі парыўшых анёлаў, але ўсё ж гэтае бачанне паслужыла для яе апраўданнем, калі яна сама прапанавала летуценнаму прыгажуну сваю руку, сэрца і маёмасць. Пасярэдніцтва паміж ёю і нарачоным вёў для прыстойнасьці адданы ёй раб Майсар...

Адружальны баль не абыйшоўся без віна і скокаў, якімі прыгожыя нявольніцы заможнай маладой цешылі суровыя позіркі старых аравійцаў. Бог ісламу яшчэ драмаў і не перашкаджаў свайму пасланніку, да часу яго абуджэння, паводзіць сябе шматбожнікам. Са свайго боку будучы прарок распарадзіўся ахвяраваць на парозе сваёй новай сядзібы маладога вярблюда для раздачы яго мяса бедным людзям, якія сабраліся палюбавацца баляваннем.

Падарожнічаючы з караванамі, ён завёў знаёмствы з чужынцамі, якія аддавалі належнае яго ўнікліваму розуму, узорнаму вымаўленню, бязмежнай фантазіі і непахіснай волі.

«Але гэтая далеч увагі натоўпу, – працягваюць далей фантазіяваць біёграфы псеўда-заснавальніка адзінабожжа, цалкам не заўважаючы, што ён толькі паўтарыў першую запаведзь Майсея, – менш за ўсё магла задаволіць душэўныя патроэбы чалавека, якога ўсе ўмовы жыцця штурхалі на шлях містыцызму. Адчуваючы сваю разумовую перавагу над масай шматбожнікаў, зараз матэрыяльна забяспечаны адружаннем з заможнай ўдавой, ён цалкам прысьвяціў сябе філасофскім разважанням».

Ці навучыўся ён пад час гэтага вольнага і забяспечанага для яго перыяду жыцця чытаць і пісаць ці толькі задавальняўся паведамленнямі сваіх «адукаваных суразмоўцаў»?

Аўтары Карана называюць яго неадукаваным прарокам (7.156-158 і 62.2) і толькі выказванне ў главе, што аднойчы анёл Гаўрыіл, падаўшы яму кнігу, загадаў: «чытай!» і што перад сваёй сьмерцю ён папрасіў паперу і чарніла для тэстаменту (у чым яму было, аднак, адмоўлена), вымушаюць яго біёграфаў лічыць, што ў сталым узросьце ён далучыўся да гэтага мастацтва.

Плоскі дах сядзібы Хадыджы, – паведамляюць нам – быў месцам збораў суразмоўцаў. Спачатку месіянец Варака, сын Натана, быў тут быццам бы аракулам і аўтарытэтам пры вырашэнні рэлігійных пытанняў. Ён жа быў і апавядальнікам гістарычных легендаў і выкладчыкам навуковых ісьцін, у якіх уся аўдыторыя слухачоў не змагла б разабрацца ўласнымі намаганнямі. Ці вызнаваў Варака спачатку хрысьціянства і потым перайшоў у юдэйства, ці наадварот? Над гэтым

пытаннем гісторыкі ісламу працавалі шмат, але безпаспяхова. Варака – кажуць нам – быў такім майстам ў юдэйскім пісанні, што пераклаў на карэйшыцкую мову яшчэ не існаваўшага тады Карана, некаторыя часткі абодвух «Запаветаў». З другога боку, ён, як шукальнік правільнай веры, не саромеўся ўхваляць і веру Заратустры. Пасьля гэтага ён паглыбіўся ў Новы Запавет, пасьля чаго і спыніўся паміж юдэйствам і хрысьціянствам, як пан Твардоўскі, прадаўшы душу чорту, павіс навекі паміж небам і зямлёй, дзякуючы таму што па дарозе ў пекла закрычаў: «сьвяты, сьвяты, сьвяты, пан Бог Усемагутны!». Іншымі суразмоўцамі прарока былі рабі Абдала-ібн-Садам і Фінхас, валодаўшыя шырокімі ведамі, але такія сьціплыя, што Абдала паступіў да свайго маладога сябра на пасаду сакратара, што і дало нагоду рабінам прыпісваць яму лепшую частку павучанняў Карана... А із гэтага мы робім толькі тую выснову, што старажытныя равіністы прыпісвалі аўтарства асноўнай часткі Карана юдэю Абдале і Вараку, а магаметане бацьку Касіму, сыну Абдалы, адмаўляючы што абодва Абдалы былі адной і той жа асобай.

«Вольнасць рэлігійных меркаванняў заахвоціла прыйсьці, – кажуць нам – на дах Хадыджы і хрысьціяніна, які некалі сустрэўся ў караване з яе новым чалавекам, які яшчэ раней не па гадах уражваў шпаркасьцю і выразнасьцю свайго розуму. То быў Багіра, ці Сергій, які быццам бы паступіў у адзін із сірыйскіх кляштароў з вольнадумствамі. Кляштар не адзін раз прызначаў яму эпітыміі, але, пераканаўшыся ў яго невыпраўнасьці, выключыў із шэрагу сваіх братоў і нават абвясьціў яму анафему. Перабраўшыся ў нейтральную Аравію, ён без цяжкасьцей знайшоў у ёй прытулак у пячоры і ежу ў сядзібе шукальнікаў прававерʼя. Супернікі ісламу пазьней пераконвалі, быццам бы «Славуты прарок» склаў свой Каран грунтуючыся на павучаннях гэтага адлучанага манаха і, каб захаваць таямніцу яго супрацоўніцтва, пазбавіў яго жыцця. Але ісламіцяне абʼяшчаюць гэта паклёпам».

У гуртку Хадыджы можна было сустрэць і быўшага паслядоўніка вучэння Заратустры, перайшоўшага потым у хрысьціянства. То быў персіянін Салман, выйшаўшы са шляхетнай сямʼі, але чакаўшы, падобна Вараку, прышэсьця Месіі. І ён быў прыняты ў сядзібе Хадыджы, як рэлігійны аднадумец.

Мусульманскія паданні паказваюць у ліку рэлігійных суразмоўцаў маладога яшчэ тады ісламіцкага Майсея і хрысьціян-нявольнікаў, належаўшым заможным карэйшытам, Аміру-ібн-Гадрамі і Магіры. З гэтай нагоды карэйшыты здзекваліся над прарокам, кажучы, што ён чарпае сваё натхненне із крыніцы, якую кожны мекінец можа зрабіць чыстай ці бруднай па свайму жаданню.

Згодна з тымі ж псіхалагічнымі меркаваннямі, дзякуючы якім еўрапейскія біёграфы ўяўляемага імі аўтара Карана, зрабілі яго спачатку летуценнікам і назіральнікам, а потым і трэццім чалавекам заможнай бальзакаўскай жанчыны ва ўзросьце трыццаці гадоў, яны зрабілі яго і дэмагогам, сябрам беднаты і ворагам заможных, цалкам як евангелісты свайго Хрыста.

Яго размовы з рабамі – паведамляюць нам – да крайнасьці абуралі іхных гаспадароў, якія не спыняліся перад іх катаваннем, каб запалохаць непакорлівых, а новы прарок быццам бы даводзіў рабам, што нават багі ў храме «Каменя» не патрабуюць праліцця перад імі чалавечай крыві і што ніводзін бог яшчэ не ўслаўляў выгоды ад прымусовай і непасільнай чалавечай працы. А карэйшыты, трывожымыя падобнымі павучаннямі, абяцалі Хадыджы знішчыць яе сядзібу.

Шмат разоў новы прарок выказваў перад суразмоўцамі тую думку, што рана ці позна павінны мінуць «дні невуцтва Аравіі» і калі бог таго захоча, то ад яго абвесьціцца пасланнік, які накіруе яе народ на шлях праўды. Гэтую думку падзяляў

і Варака, і рабі, чакаўшы прыходу Месіі. Без Месіі, ці хаця б толькі без прарока і боскага пасланніка, выпраўленне Аравіі ад яе хібаў з’яўлялася б цудам, на які быў няздольны ні вярхоўны кумір Гебал, ні ўсё начыненне храма Нябеснага каменя з яго драўлянымі і глінянымі маўчальнікамі. «Так, – кажуць нам, – ідэя пра прыход Месіі расчышчала шлях нараджаўшамуся на даху сядзібы Хадыджы прароку іслама».

І вось наступіла пара, калі новы прарок, не абмяжоўваючыся пашырэннем сваіх ідэй у асяроддзі сям'і і гуртка рэлігійных суразмоўцаў, перанёс іх на грамадзкія падмосткі. Пад час кірмашовых перыядаў, калі ў Меку з'яўляліся жыхары Ясрыба і Йемена, прарок павучаў сярод іх пра патрэбу аддаць перавагу адзінаму богу перад старым Габалам. Ад моманту адружання на Хадыджы да моманту, калі яго павучанні дасягнулі кульмінацыйнай вышыні, прайшло не менш чым пятнаццаць гадоў. Яшчэ не робячы замах на ўсталяванне самастойнага веравучэння, ён абраў біблейскага Аб-Рама бацькай Аравіі, а яго рэлігію – прататыпам сапраўднай рэлігіі, патрабуючай толькі абнаўлення.

Першакрыніцай такой думкі служыць наступная легенда.

Згодна са словамі Карана бог абраў Абрама сваім сябрам, якому ў якасьці праўдзівасьці будучага ажывання памёршых паказаў дзіва. Ён загадаў яму ўзяць чатыры птушкі, рассекчы іх на кавалкі і іхны часткі раскласьці па гарах. Потым ён загадаў паклікаць забітых птушак. Абрам паклікаў і ўсе чатыры птушкі прыляцелі.

Пасьля падобнага дзіва ў Абрама ўжо не магло застацца сумневаў у магчымасьці ажывання памёршых.

Так легенда пра аўтара Карана злучаецца з легендай пра Абрама, г.азн. у перакладзе на нашу мову пра бацьку Рыма, які, як я ўжо паказаў у папярэднічаўшым томе «Хрыста», атаясамляецца ў Бібліі не з італійскім Рымам, а з балканскай Рамеяй, г.азн. Візантыяй.

На чале новавераў – паведамляюць нам – стаялі ў тую пару, акрамя Барака, сваяк прарока Асман і паэт-выкрывальнік Зейд. Апошні граміў ідалашанаванне і апяваў веліч адзінага бога, але ён загінуў ад рукі разбойніка, якога падаслалі староверы, абвясьціўшыя, што падобная ж сьмерць чакае кожнага, хто накладзе руку на храм Нябеснага каменя ў Аравіі. Сам прарок, кажуць, баяўся, што народ прызнае ў ім толькі паэта, а не сур'ёзнага рэлігійнага рэфарматара, і таму палічыў больш разважлівым адрачыся пазьней як ад паэзіі так і ад паэтаў, як ад пустой балбатні і невыносных людзей, не здольных да сур'ёзнага мышлення і празарлівасьці.

«Так! Кажуць, што Каран з’яўляецца толькі блытанінай снабачанняў, што Каран прыдуманы Славутым, што ён, Славуты, толькі паэт, і не больш. Пачакаем, што скажа час пра яго павучальніцства». «А я клянуся, што Каран не з’яўляецца толькі славамі паэта. – Бог не вучыў Славутага вершаванню і яно яму непрыстойна»[35].

Але нас мала пераконваюць гэтыя апраўданні. Вывучаючы сам змест Карана мы пабачым, што ён з’яўляецца тварэннем не аднаго чалавека і нават не зборнікам чужых твораў, сабраных і адрэгаваных адной асобай, а кангламератам паступова назапасіўшыхся паданняў і лірычных твораў, падобна гораду паступова складаючамуся із асобных сядзіб, будаваўшыхся рознымі асобамі цалкам самавольна, без загадзя зацверджанага плана. Тут не было нават агульнай рэдакцыі, як бачна дзякуючы хаатычнасьці размяшчэння разнастайных п'ес. Ды і наогул, яго

[35] Каран 76.

сувязь з наладжвальнікам ці рэфарматарам храма Метэарытнага каменя ў Мецы, як цэнтральнага месца ісламіцкіх пілігрымаў, усталяваць немагчыма. Само арабскае паданне паведамляе, што ў кровапралітным змаганні пры Скарпіёне (Акрабе), адбываўшымся на апошнім годзе жыцця Магамета, калі было забіта больш за 600 яго таварышаў, разам з іншымі загінулі і «носьбіты Карана», якія быццам бы ведалі яго напамяць са слоў самога Магамета. А каб яго змест не згубіўся, Абу-Бекр быццам бы загадаў самым адукаваным са спадарожнікаў Магамета сабраць усё памятаемае імі ў адну кнігу, пры гэтым храналогія не выконвалася, і некаторыя главы, напрыклад, пятая, размешчаны напачатку Карана, хаця у іх паведамляецца ўжо пра заканчэнне прароцтва.

Акрамя таго, грунтуючыся на шматлікіх іншых супярэчлівых і анахранічных месцах зразумела, што паведамленні пра стварэнне поўнага тома Карана, адразу пасьля сьмерці Магамета і на падставе адных яго павучанняў і выслоўяў, з’яўляюцца чысцейшай прыдумкай. Заўважым, што ў Яўропе змест гэтай кнігі стаў вядомым не раней XVI стагоддзя дзякуючы лацінскаму перакладу Бібліандэра, які вельмі моцна адрозніваецца ад сучасных і нават ад лацінскага перакладу Маракі, зробленага ў XVII стагоддзі. У друкаваным жа выглядзе Каран з'явіўся на арабскай мове толькі ў 1696 годзе, у выданні Гінкельмана. Пасьля гэтага з'явіліся адно за другім і жыццяапісанні Магамета, якімі з’яўляюцца «Жыццё Магамета» Абул-Феды ў лацінскім перакладзе Ганье, выдадзеным у Оксфардзе ў 1723 г., і «Жыццё Магамета» ў выпісах із магаметанскіх аўтараў таго ж Ганье, у Амстэрдамскім выданні 1732 года. А іншыя жыццяапісанні Магамета і часоў першых каліфаў «былі знойдзены» пры падазроных умовах толькі на прыканцы XIX стагоддзя. Але пра ўсё гэта будзе больш падрабязна гаварыцца далей.

# Глава II.
## «Няма прарока ў сваёй бацькаўшчыне».

Духоўнай смагаю нудзімы,
У пустыні змрочнай я валокся,
І шасьцікрылы серафім
На раздарожжы мне з'явіўся.
Пальцамі лёгкімі як сон
Маіх вачэй крануўся ён:
Адчыніліся прарочыя вочы,
Як у напалоханай арліцы.
Маіх вушэй крануўся ён,
І іх напоўніў шум і звон,
І пачуў я неба ўздрыганне
І нябесны анёлаў лёт,
І гад марскіх падводны ход,
І дальняй лазы гібенне.
І ён да вуснаў маім прыпаў,
І выдраў грэшны мой язык,
І марнаслоўны і хітры,
І джала мудрае змяі
Ў вусны замёршыя мае
Ўклаў правіцаю крывавай.
І ён мне грудзі рассёк мячом,

I сэрца трапятлівае дастаў,
I вугаль, палаючы полымем,
У грудзі адчыненыя ўклаў.
Як труп у пустыні я ляжаў,
I бога голас да мяне заклікаў:
«Падніміся прарок, і глядзі, і прыслухоўвайся,
Напоўніся воляю Маёй,
I, абыходзячы моры і землі,
Выказваннямі запальвай сэрцы людзей!».

А. Пушкін.

Мы зараз разгледзелі першую палову жыцця ісламіцкага «прарока» і бачылі, што яго біяграфія адносіцца да катэгорыі ні то казак, ні то раманаў, выпрацаваных чыста абстрактным і перааймальным шляхам, без апірышча на якія б то ні было ўсталяваныя гістарычныя факты. Да катэгорыі казак дапасуюць дзівы пры яго нараджэнні, а да катэгорыі псіхалагічных раманаў дапасуюць ўсе паведамленні пра тое, як із яго спачатку выпрацаваўся скептык у дачыненні да пантэона Метэарытнага храма ў Мецы, у якім яму даводзілася штогадова і непачціва саскрабаць ад 360 багаў розны насеўшы на іх смярдзючы бруд, каб паказаць іх насам багамольцаў у прыстойным выглядзе, а таксама амаль штодзённа чысьціць іхныя галовы ад лайна птушак, якія былі вельмі схільнымі на іх садзіцца. Сюды ж адносіцца і апавяданне пра тое, як пазьней, пад уражаннем непасрэдных судотыкаў з прыродай на сваёй пустэльнай радзіме і пад час вандраванняў, і дзякуючы вольным размовам з навукоўцамі ў сядзібе яго жонкі, якая дала яму цалкам забяспечанае існаванне, із яго выпрацаваўся співак адзінага бога, стваральніка сусьвету і стваральніка усякага жыцця, якога ён усё ж уяўляў у чалавекападобным выглядзе.

Разгледзім зараз апавяданні яго біёграфаў і пра тое, як гэты паэт і энтузіяст ператварыўся быццам бы потым у фанатыка і заваёўніка.

«*На саракавым годзе жыцця* – паведамляе ўжо згаданы намі арабскі пісьменнік Абул-Феда[36], *– пад час месяца Рамадан, Славуты выдаліўся* (як і Хрыстос) *у пустыню, у пячору гары Хіра. Тут пад час ночы Аль-кадр да яго з'явіўся анёл Гаўрыіл і загадаў*:

– «*Чытай*!»

– *«Як я прачытаю не ўмеючы чытаць?»* – адказаў Славуты.

– «*Чытай! Бог навучыць цябе*».

*Прарок раптам усё прачытаў і пачуў яшчэ раз яго голас:*

*– «Я – Гаўрыіл, а ты – божы прарок».*

*Вярнуўшыся да Хадыджы, ён паведаміў ёй пра гэтае бачанне і пра тое, як ён стаў пісьменным, а яна ўсклікнула:*

*– «Клянуся, ты будзеш прарокам нашага народа!»*

Так непраўдападобна пачынаецца апавяданне пра пачатак прароцкай дзейнасьці заснавальніка ісламa, а далейшае яго развіццё ўжо адбываецца на псіхалагічнай глебе.

«*Знаходжанне ў пустыні* – запэўніваюць нас – *не магло ўмацаваць ненармальную нярвовую сістэму такой вытанчана-ўражлівай натуры. Наадварот, пад уплывам трапічнага сонца, адзіноты і недахопаў, самыя ардынарныя эфекты маглі здавацца* (ісламіцкаму варыянту Хрыста, таксама выдаліўшамуся перад пачаткам павучання на 40 дзён у пустыню) *з'явамі звышнатуральнымі і чужымі гэтаму сьвету. Гэтаму*

---

[36] Abulfeda: La Vie de Mahomet, p. 12-13 (Французкі пераклад з арабскай мовы).

*спрыяла і ўласьцівая летуценным аравійцам з'ява, вядомая ў іх пад назвай «рагль». Яе можна назваць парывам запалу пры назіранні атачаючай стыхійнай прыроды, пад покрывам якой уяўляецца таямнічая, усёведаючая і ўсёздольная магутнасць, пры гэтым захопленыя мроі дасягаюць ступені галюцынацыі. Перад вачамі энтузіяста-летуценніка знікае звычайны краявід з яго хвалепадобнымі пяскамі, блукаючымі вярблюдамі, цюкамі адпачываючага каравана і замест таго бачацца ўяўляемыя палацы з нябеснымі дахамі і з тысячамі вогнішчаў і гаёў, падымаючых кроны сваіх пальмаў да самога неба. Там і тут з'яўляюцца і знікаюць ва ўяўленні ручаі салодкай вады і срабрыстыя басейны, аточаныя мяккай лугавой смарагдавай расьліннасьцю. Не паспее шчаслівы акунуцца ў халаднаватую хвалю басейна, як ён ўжо чуе баявы кліч і адчувае, як ён імчыцца, пранізваючы дзідай не толькі варожыя целы, але і нечакана паўстаўшыя вакол яго цьвярдыні; потым праз некалькі імгненняў як быццам бы нечая магутная рука зграбае ўсё, што было відаць, а із нябеснай прасторы спускаюцца сьцены, то дакранаючыячя да зямлі, то паднімаючыяся да неба*»...

Усё гэта – запэўніваюць нас біёграфы – **без сумневаў** выпрабаваў і ісламіцкі прарок. Не будзем нічога пярэчыць супраць такой іхнай здагадкі і будзем сачыць далей.

«*Адзінота ў сталым узросьце ў пячоры, дзе ў непарушным спакоі і прыцемках нішто не абмяжоўвала палёт фантазіі, магло толькі ўзмацняць* – паведамлчць нам – *схільнасць Магамета да такіх мрояў*».

І вось біёграфы прарока, у адрозненне ад жыццяапісальнікаў Хрыста, бяруць сабе на дапамогу і прыродазнаўства.

«*Псіхіятрыя ведае падобныя віды нярвовых хвароб і ў нас,* – выказваецца Чэравамскі, – *яны прадказваюць хворым суб'ектам надыходзячыя бедствы. Так, выпрабаваўшы розныя стадыі экстазу і прарок паціху перайшоў ад адчуванняў сузіральнага тыпу да рэчаісных праяваў галюцынацый. А псіхічная галюцынацыя настолькі валадарачая, што развівае і сам механізм прамовы; адсюль ужо недалёка да ператварэння экстатыка ў прапаведніка і імправізатара. Пры экстатычным стане з'яўляецца фізічная неадчувальнасць, чаму і варта прыпісаць стаянні чалавека Хадыджы ў захапленні і сузіральнасьці аж да апухання ног. Ён шмат начэй праводзіў у пячоры гары Хіры,* – паведамляюць нам арабскія паданні, – *іншы раз тры ночы, іншы – дзевяць, а часам і цэлы месяц. Пад час перыяду сталага ўзросту, а магчыма і дзякуючы ўмацаванню нярвовай сістэмы, у ім адбылося зліццё двух элементаў, перадаўшыхся яму ад продкаў: летуценнасьці і разважлівасьці. Як летуценнік ён лічыў сябе, дзякуючы шматгадовай распрацоўцы ў сабе рэлігійнай ідэі, прызначаным богам да ролі пераўтваральніка; а як чалавек розуму і практыкі ён спачатку майстэрскі вёў гандлёвыя справы, а потым падрыхтаваў сабе і сваю асноўную праграму – правадыра і заканадаўцы*».

І вось псіхалагічны раман зноў пераходзіць у чароўную казку ў дакладным сэнсе гэтага слова.

Наблізілася «ноч вызначэнняў».

Прачнуўшыся ў пячоры, асьвятляемай наяўнасьцю анёла, чалавек Хадыджы пабачыў, як жыхар неба разгарнуў перад ім шаўковую тканіну, спісаную пісьмёнамі. То быў выпіс із Карана – кнігі, перанесенай пад час гэтай ночы з вышэйшага неба на ніжэйшае, каб адтуль было лягчэй перадаваць новаму прароку павучанні, якія патрэбна будзе пазьней прамаўляць перад людзьмі шукаючымі праўду...

Падобна аўтару Апакаліпсіса, ён прачытаў разгорнуты перад ім скрутак, на якім была напісана першая песьня Карана.

«Такім нечаканым чынам скончыўся смутак чалавека Хадыджы пра сваю непісьменнасць. Ён перайшоў ад стану няведання альфабэта да ведання і нават з

дасягненнем здольнасьці пазнаваць тое, пра што яму не было вядома». Начны холад на горнай вышыні развеяў – пераконваюць нас намагаючыяся ператварыць непраўдападобнае ў праўдападобнае, – памаленьку яго галюцынацыю, але ўсё ж, калі ён прыйшоў дахаты, ён тросся так, што папрасіў накрыць яго адзеннямі. Клапатлівая Хадыджа адразу ж заўважыла ненармальны стан яго духу і не замарудзіла выпытаць, што здарылася з ім у цёмнай і душнай, як яна ведала, пячоры адзіноты. Прыйшоўшы ў сябе і ўсё яшчэ вагаючыся паміж высновамі, ці сапраўды то было анёльскае бачанне, а не выхадка сатаны, ён паведаміў пра тое, што адбылося ў вельмі сціплай форме. Перадусім ён, – кажуць нам, – папярэдзіў Хадыджу, што прызначэнне яго боскім прарокам патрэбна да пары хаваць ад людзей, таму што ён баіцца запасьці ў самаспакусу, баіцца прыняць здань за боскага вестуна.

Згодна з аднымі паданнямі, ён заставаўся ў недасведчанасьці на конт свайго становішча некалькі тыдняў, а згодна з другімі – цэлыя два гады, на працягу якіх не ведаў маральнага спакою. Смага прапаведніцтва зрабілася ў ім непераадольнай да таго, што ён, не маючы яшчэ ўпэўненасьці ў здзейсніўшымся прысьвячэнні яго ў праркі, кінуўся было з высокай скалы, але ў паветры яго падтрымала нябачная рука анёла ахоўніка...

Згадаем, што падобнае ж прапанаваў зрабіць сатана і евангельскаму Хрысту, абяцаючы, што анёлы падтрымаюць яго ў паветры, але Хрыстос разважліва адмовіўся ад такога досьведу.

Нарэшце, пасьля надмернай душэўнай напругі і знаходзячыся паміж баязлівасьцю і надзеяй, Магамет – кажуць нам – зноў адчуў ліхаманкавае пачуццё, як пад час ночы прысьвячэння. У гэтым стане ён захутаўся ў плашч і прылёг на зямлю, а больш правільна запаў у несьвядомы стан з канвульсіямі, халодным потам, моцнымі ўздрыганнямі і заплюшчанымі вачамі. І вось ён пачуў знаёмы ўжо голас анёла Гаўрыіла.

– «*О, захутаўшыся ў адзенне! Падніміся, павучай*!»...

Пасьля гэтага другога з'яўлення Гаўрыіла, чалавек Хадыджы абвясьціў сваёй сям'і, што ён больш не сумняваецца у тым, што Алах удыхнуў у яго здольнасць прароцтва і магутнасць боскага пасланніка. Гэтая вестка хутка пашырылася ў Мецы ў асяроддзі карэйшытаў, асабліва пасьля таго як на дзьвярах Храма метэарытнага каменя з'явілася 73-я песьня Карана:

«*О прарок, захутаўшыся ў адзенне! Стой на малітве ўсю ноч ці крыху менш, і апявай Кнігу. Мы адкрыем табе словы вялікага значэння. Пры наступленні ночы ўражанні больш мацныя і словы больш цьвёрдыя. Перадайся з поўнай адданасьцю валадару Ўсходу і Захаду. Акрамя яго няма іншага бога. Вазьмі ж яго сабе апекуном. Пераносъ цярпліва прамовы няверных і аддзяліся ад іх прыстойным спосабам. Пакінь мяне аднаго для сутычкі з атрымліваючымі асалоду ад даброт гэтага сьвету. Дай ім невялікую адтэрміноўку. У нас ёсць для іх цяжкія ланцугі і палаючае полымя, прыдатная для іх ежа і жахлівыя пакуты, калі зямля згарыць, і горы зробяцца кучай рассыпанага пяску. Мы выправілі да вас апостала абавязанага сведчыць супраць іх, таксама як паслалі аднаго да фіргауна. Фіргаун пры голасе апостала абурыўся, і мы пакаралі яго жахлівай карай. Калі вы застанецеся няверными, то як вы засьцеражэцеся ад дня, які і дзяцей зробіць з сівымі валасамі? Неба ад перапалоху прасядзе. Вось вам перасьцярога! Хай жадаючы накіруецца да бога*».

– Хто – пытаюцца арабісты – напісаў ноччу гэты верш у прозе на дзвярах паганскага храма Нябеснага каменя?

Асабіста я лічу, што ніхто і што гэта спатрэбілася толькі для ўпрыгожвання рамана, гэтак жа як і наступныя радкі.

Ідучы да метэарытнага каменя для ўшанавання атачаючых яго статуй і для прынясенні ім ахвяр, аравійцы павінны былі праходзіць па схілу гары каля сядзібы Сафы, якая знаходзілася недалёка ад сядзібы Хадыджы. І вось тут, пад чыстым небам, на схіле гары, была заснавана новая катэдра адзінабожжа, з вышыні якой прагучаў натхнёны голас чалавека, надзеленага палымяным красамоўствам і спяваўшага гімны адзінаму богу.

Аравійцы ахвотна апускалі тут свае дзіды, непазбежныя спадарожнікі іхных вандровак, адкідвалі цюрбаны і ператвараліся ў слых і зрок. Выслухаўшы са сталай годнасцю несціхаемыя спевы новага месіі пра існаванне ў сьвеце адзінага Стваральніка, абсыпаючага чалавека дабрадзействамі і пагражаючага супернікам жахлівай помстай у будучым жыцці, яны накіроўваліся далей да храма Метэарытнага каменя – гэтага ісламіцкага апостала Пятра (нагадаю, што Сымон-Пятро па-грэцку азначае знак-Камень), каб прынесці ў славу сваіх уласных багаў ахвяры ад сваіх статкаў і здабычы. Спявак-прапаведнік здаваўся ім толькі ашалелым, а некаторым нават звар'яцелым чалавекам.

Ён з'явіўся і ў скініі метэарытнага каменя, каб ухваляць у рэчытатывах імя Алаха і дакараць сляпых, ушаноўваючых чалавечыя статуі. Але ў той час, калі яго натхнёны голас раздаваўся ў атачаўшым натоўпе ў гонар адзінага бога, каля яго з'яўляўся імправізатар, выліваўшыся ў стансах у гонар вясёлых жанчын, ці сатырык, выкрываўшы падманшчыкаў, сцвярджаўшых, што яны ведаюць усе нябесныя таямніцы, тады як не ўмеюць нават падцягнуць папругу на аслінай ношы. Канцэрт – паведамляюць нам біёграфы ісламіцкага Майсея, як быццам бы самі былі сведкамі, – атрымліваўся не вельмі стройны. Асабліва зласьлівым вулічным паэтам, імкнуўшымся крытыкаваць узнёслыя ідэі прапаведніка, выявіўся нейкі Амру і яго гумарыстычныя мадрыгалы затрымалі поспехі прарока. Збіраўшыяся да дзьвярэй храма слухачы ахвотней прыслухоўваліся да яго дасьціпных нападаў, чым да натхнёнага спевака, якому даводзілася сыходзіць з апушчанай галавой і павучаць у сваёй сядзібе блізкіх.

Пасьля Хадыджы і Барака першымі паслядоўнікамі вучэння новага прарока старога адзінабожжа былі: юнак энтузіяст Алі і нявольнік Зеід. Алі, сын Абу-Таліба, даводзіўся прароку стрыечным братам і адным із тых нешматлікіх сваякоў, якія не былі заражаны наданымі ідэямі супраць новага вучэння. Такім жа энтузіястам выявіў сябе і нявольнік Зеід, падараваны прароку Хадыджай. Незвычайная адданасць быўшага раба да яго гаспадара даставіла апошняму некалькі паслядоўнікаў із самага беднага стану Мекі і асабліва із нявольнікаў, якія знаходзіліся ў кожнай заможнай сядзібе карэйшытаў.

Так паведамляюць нам сучасныя біёграфы прарока, і мы смела можам ім сказаць: se non e ben trovato. Грэцкае Евангелле яшчэ не магло быць вядома аравійскай беднаце. Магамет, калі ён існаваў у VII стагоддзі, першы пачаў апяваць у сваёй краіне яго ідэалы: гуманітарныя – пры стасункамі з культурнымі станамі і дэмагагічныя – пры стасункамі з некультурнымі. Ён па-сутнасьці быў адным із галоўнейшых апосталаў евангельскага хрысьціянства, не прызнаны такім толькі таму, што быў чужым для напалову паганскага вучэння пра Сьвятую Сямуху, у склад якой Юпітар увайшоў пад імем бога-бацькі, Латона пад імем панны Марылі, а Апалон – ён жа Дыяс і Дыёніс – бог сонца і прароцтваў – у выглядзе Хрыста Езуса. Акрамя таго ў еўрапейскіх хрысьціянаў Артэміда-Дыяна была атаясомлена з

адной із сясцёр Езуса, якая засталася не адружанай і была чамусьці выключана праваслаўнымі тэолагамі із ліку багінь, хаця і стала сімвалізаваць Месяц пад імем Селены ці Гекаты. Ды і Адоніс, згадваемы і ў Біблii, як вялікі бог і сімвалізаваўшы Месію, чамусьці знік із хрысьціянскіх святцаў.

Чалавек Хадыджы, калі ён сапраўды быў заснавальнікам ісламу і завяршальнікам Карана, нават больш блізкі да першапачатковага хрысьціянства, чым сярэднявечныя нова-хрысьціянскія настаўнікі.

Ён быў сапраўдным апосталам (ці жыў ён у Аравіі ці дзе заўгодна) дэмагагічных па сваёй натуры евангельскіх ідэй з усімі іхнымі маральнымі і сацыяльнымі супярэчнасьцямі, шырокае ўжыванне якіх не магло скончыцца нічым, акрамя катастрофы сучаснага ім грамадзкага ўладкавання.

Каб выразна ўявіць сабе становішча справы, зірнём на ўсё гэта з агульнага боку гледжання, так бы мовіць з аэраплана. Што мы пабачым на зямной паверхні, бяручы да ўвагі і гістарычную перспектыву?

Дзякуючы набегам і захопу палонных, у старажытным сьвеце ўтварыліся спадчынныя станы заможных рабаўладалькаў і бедных рабоў; дзякуючы замежнаму гандлю і яго вялікім адсоткам пры абмене прадуктаў розных краін, павялічваючыхся пры гэтым на працягу кожнага года адпаведна колькасьці разоў абарачэння тавараў, выпрацаваўся заможны пласт знакамітых гарадзкіх грамадзянаў; дзякуючы хваробам і неабароненасьці асабістага жыцця, абумовіўшых попыт на прадказанні і загаворы ад розных бедстваў, выпрацаваўся із ліку шчырых энтузіястаў ці із ашуканцаў, карыстаўшыхся дзеля сваіх даброт агульнымі забабонамі, трэцці пласт – жрацы. І ў кожным із гэтых трох заможных станаў, калі не ў другім, то ў трэццім і ідучым за ім пакаленні дзякуючы самаму факту забяспечанасьці, дазваляўшаму ім з дзяцінства вольна аддавацца разважанням і бескарыслівым узаемным дачыненням, выпрацоўвалася ў перыяд пісьмовасьці і чытання больш мяккая псіхіка і нараджаліся ў душы пытанні, «чаму я ўсім забяспечаны і магу выдаткаваць свой час на разважанні, а раб і нявольнік майго бацькі ў гэты час павінны працаваць і мала мець часу, каб паразмаўляць ці пацешыцца?». Гэтаму памякчэнню дачыненняў вышэйшых станаў і ніжэйшых шмат спрыяла, вядома, і паміж-стацевае прыцягненне, таму што нявольніца, якая мала адрознівалася ў той час адносна сваёй інтэлігентнасьці, ад сваёй гаспадарыні, магла нават больш падабацца свайму гаспадару, чым сама гэтая гаспадарыня, а шматжонства спрашчала справу.

Само сабой зразумела, што пры натуральным развіцці гуманітарных ідэй павінны былі ўзнікнуць вялікія сумневы ў першабытнай душы, яшчэ не дайшоўшай да разумення пра эвалюцыйную справядлівасць, у падставе якой з'яўляецца клопат пра выгоды не столькі аднаго свайго, але галоўным чынам усіх будучых пакаленняў чалавецтва. Пры адсутнасьці правільных разуменняў пра культывуючае значэнне дадатковай працы, забяспечваючай існаванне людзей, якія ўносілі ў будучыя пакаленні першабытнага чалавецтва вышэйшыя ідэалы, а з імі спазнанні, і культуру, сама наяўнасць існавання дадатковых каштоўнасьцей і прымушаючых да іх стварэння «вышэйшых» станаў грамадствы павінна была здавацца несправядлівасьцю.

І кожнаму рэлігійнаму энтузіясту павінна было ўяўляцца, што гэтай несправядлівасьці не можа перанесьці вялікі і добры стваральнік кожнай жывой душы, а таму з першай жа ідэяй пра адзінабожжа непазбежна павінна было злучыцца і ўяўленне пра тое, што кожная сацыяльная няроўнасць жывых людзей

будзе ўзнагароджана пасьля іхнай сьмерці адваротным стаўленнем у пасьмяротным жыцці. Але пасьмяротнае, замагільнае жыццё здавалася яшчэ такім далёкім, а рэчаісныя радасьці і пакуты такімі блізкімі, што ва ўяўленні пра будучае адваротнае стаўленне непазбежна павінен быў украсьціся перспектыўны элемент. І, вось, замест сучасных звычайных нягод, пачала ўяўляцца ў будучыні незвычайная райская асалода. Яе узоры мы асабліва рэчаісна і бачым у Каране, уяўляючым сабой канчатковую эвалюцыю таго хрысьціянскага цьмянага раю, у якім для замагільнага жыцця сьвятых яшчэ не было распрацавана падрабязнасьцей, хаця яны вельмі хутка былі распрацаваны для пякельных пакут, з'яўляючыхся надмерным эквівалентам для шчаслівых у гэтым жыцці. У гэтым дачыненні Каран пайшоў далей хрысьціянства, абвясьціўшы пякельныя пакуты не вечнымі, і больш рэчаісна дэталізаваўшы даброты райскага існавання.

Калі чытач сьвядома ставіцца да таго, што я тут кажу, то ён ужо сам бачыць, што ў гэтых натуральна развіўшыхся ўяўленнях унукаў і праўнукаў першых некультурных экспрапрыятараў дададзеных каштоўнасьцей, караніўся зародак катастрофы для ўзнікшага адсюль каставага ці нават проста станавага грамадства.

Калі вольнае ад неабходнасьці фізічнай працы становішча у гэтым жыцці будзе пакарана такімі жорсткімі пакутамі ў будучым, то для ўсіх паверыўшых гэтаму душ, асабліва для тых, якія валодалі высока разьвітым уяўленнем, дазваляўшым ўявіць у поўнай меры ўсе жахі будучага існавання, іх сучаснае, адносна шчасьлівае, жыццё павінна была азмрочвацца і выпрацавацца менавіта тое імкненне да самазневажэння і аскетызму, якое мы і заўважаем у хрысьціянскіх дзеячаў сярэдневечча. Разам з гэтым павінна было з'явіцца і павучанне для усіх заможных не толькі спыніць якое б то ні было далейшае набыванне дададзеных каштоўнасьцей, але, пакаяўшыся ў мінулым багацці, раздаць немаёмасным усё, што было атрымана імі перавышаючага мінімум чалавечых патрэб і, прысудзіўшы сябе дабраахвотна на выключна фізічную працу, спрасьціцца духоўна да ўзроўня самых нізкіх прадстаўнікоў свайго пакалення, згодна з евангельскім запаветам «шчасьлівыя бедныя духам, таму што ім належаць нябеснае царства».

Але пры поўным ажыццяўленні такога ідэалу, вядома, павінен быў бы скончыцца ўсякі далейшы прагрэс чалавечага жыцця, і падсьвядомая логіка чалавецтва пярэчыла яму. У сярэдніх і ніжэйшых адносна душэўнага развіцця прадстаўнікоў прывілеяваных станаў насельніцтва такі гуманітарызм іхных субратаў непазбежна павінен быў выклікаць інстынктыўны пратэст, хаця гэтыя пласты і не разумелі сваёй эвалюцыйнай грамадзкай місіі, як паднявольных рычагоў прагрэсу яшчэ несьвядомага ў сацыяльным дачыненні сярэднявечнага чалавечага роду ад пакалення да пакалення. Толькі нешматлікія маральныя спекулянты, яскрава ўяўляўшыя сабе ўсё хараство будучых асалод ісламіцкага і хрысьціянскага раю, ці крайнія баязліўцы, звар'яцеўшыя ад баязні перад вечнымі пякельнымі пакутамі, ды яшчэ выключныя фанатыкі ідэі, згараўшыя паэтычным захапленнем перад думкай быць прарокамі будучага боская царствы, маглі прысвяціць усё сваё жыццё такому вучэнню, а фінал яе быў заўсёды наканаваным. Не маючы поспеху сярод культурных станаў у сваёй прапанове спрасьціцца, яны непазбежна павінны былі перайсьці да запрашэння некультурнай часткі спрасьціць культурную частку прымусова, для яе ж уласнай карысьці, каб не давялося ім – неразумным – «гарэць у агні геены», «піць у ёй гной і кіпячую ваду» і «грызьці смярдзючае дрэва цаккум, вяршыні якога маюць выгляд дэманскіх галоў, якімі адрынутыя напоўняць свой страўнік» (Каран 37.60-63).

Вядома, некультурнай частцы сярэднявечнага чалавецтва было цалкам усё адно, што будзе на тым сьвеце з культурнай: ідэалы ўсеагульнай выгоды былі ёй цалкам недаступныя дзякуючы адсутнасьці адукаванасьці. Але для яе заўсёды была прывабнай перспектыва захапіць у заможных тое, што яны мелі, і зрабіцца ў сваю чаргу заможнымі на зямлі. Ёй заўсёды здавалася, што няроўнасць паміж людзьмі грунтуецца толькі на неаднолькавасьці іхных матэрыяльных даброт, а не на вышэйшым і ніжэйшым стане псіхікі.

Аднак, перш чым першапачатковая гуманітарная ідэя пра ўсеагульную раўнапраўнасць, дайшоўшая шляхам выраджэння да такой антытэзы як гвалтоўная экспрапрыяцыя, пачне рухаць масы, яна павінна прайсьці праз горан папярэдняй апрацоўкі ў сьвядомых сферах.

Ні адзін натоўп без ідэйных правадыроў не ў стане нічога зрабіць, акрамя асобных не злучаных паміж сабой пагромаў, і ніколі лозунг «рабуй нарабаванае» не выклікаў рэвалюцыі без апраўдання яе тым, што гэта робіцца не для дасягнення адных чыста матэрыяльных мэтаў, а ў імя нейкай вялікай і справядлівай мэты. Так і тут. Ідалазмагальніцкія заклікі Магамета, калі такі некалі існаваў у Аравіі, былі ў вачах інтэлігентнай часткі грамадства толькі сродкам для ажыццяўлення ідэі адзінабожжа (якая адна і прыцягвала інтэлігентных правадыроў), а для натоўпу прывабнай была, як і заўсёды і ўсюды, толькі адна прынада матэрыяльнага асабістага абагачэння, пад гэтым інтэлігентным лозунгам: таму што храмы і жрацы былі заможнымі!

У такім менавіта сэнсе і малююць нам біёграфы «Славутага прарока», яшчэ не маючыя сумневаў, што ён жыў менавіта ў Аравіі і менавіта ў VII стагоддзі нашай эры, яго далейшую дзейнасць.

«*Хаця павага да своеасабліва разумеемага прарока ў асяроддзі мекскага пралетарыяту,* – выказваецца адзін з іх[37] – *і выклікала непрыязь да яго з боку большасьці заможнай часткі насельніцтва, да якой ён належаў, але яго тэалагічныя ідэі не маглі не выклікаць спагады сярод тых, якія разумова стаялі вышэй чыстага фетышызму*». Асабліва выбітным сярод іх быў Абу-Бекр, якому прыпісваюць значную ролю і ў стварэнні Карана. Гэта быў заможны купец, выбраннік арыстакратаў-карэйшытаў, вярхоўны суддзя, вырашаўшы ў Мецы крымінальныя справы па забойствах і пенях. Ён жа быў і тлумачальнікам сноў. Як передавы чалавек, Абу-Бекр не замарудзіў пакінуць статуі і далучыцца да ідэй прарока, з якімі замацаваў пазьней свой хаўрус, адружыўшы з ім сваю дачку Айшу, і да гэтага часу маючую ў ісламіцкім рамане не апошняе месца.

Гамза ж – адзін із дзядзькаў новага прарока – далучыўся да яго вучэння цалкам выпадкова. Вяртаючыся аднойчы з палявання, ён пачуў каля самога храма Нябеснага каменя лаянку і праклёны, якімі абсыпаў яго пляменніка Абу-Джагль. Верны свайму роду, Гамза ўступіўся за яго, пераламаў свой лук на галаве крыўдзіцеля, і з той пары зрабіўся такім дбайным абаронцам агаранства, што пазьней паклаў сваю галаву ў бітве за яго.

Буйным поспехам ісламіцкага прарока – паведамляюць нам яго біёграфы – патрэбна лічыць таксама пераход на яго бок заўсёды варагаваўшага з яго вучэннем ваяўнічага Амара. Выслухаўшы некаторыя гімны Карана ў гонар адзінага бога і ў гонар вайны з ідалашанавальнікамі, ён, грозны ваяр, прыйшоў у такое захапленне, што адразу ж абвясьціў пра свой разрыў са статуямі метэарытнага храма і пра ўшанаванне адзінага, пры гэтым паабяцаў сваё сэрца каршакам, калі здрадзіць калі-

[37] Чэрэванскі: Сьвет ісламу і яго абуджэнне, I, 143-157.

небудзь славутаму, найвялікшаму із пракокаў. А пазней гэты хаўрус быў яшчэ змацаваны адружаннем ісламіцкага Хрыста з дачкой Амара – Хаўсай.

Добрым прадвеьцем ісламу паслужыла таксама і далучэнне да яго дагматаў купца Асмана-бэн-Афана, рабаўладальніка і рабагандляра, які заняў пасьля сьмерці прарока месца каліфа ісламіцянаў.

Акрамя гэтых асоб, прыняўшых – згодна са словамі арабістаў – новае веравызнанне, прароку заставаўся верным і яго дзядзька Абу-Таліб. Гэты шматбожнік не пажадаў пакінуць багоў метэарытнага каменя, каб яго не западозрылі ў баязні перад сьмерцю і геенай, але калі карэйшыты абмежавалі ісламіцян пазбаўленнем іх грамадзянскіх правоў, ён прызнаў іхны ўчынак несправядлівым, разарваў з імі асабістыя стасункі і, сабраўшы ўсіх мекскіх гашэмідаў і ўвесь свой род, выдаліўся ў асобны квартал, адрэзаны ад навакольнага сьвету.

Так былі гатовы правадыры, але натоўп яшчэ баяўся сваіх звыклых богаў і не ішоў супраць іх нягледзячы на прынады.

Занадта павольны рост ісламa і няўдачы ў Мецы не раз прыводзілі прарока – згодна са сведчаннем яго біёграфаў-фантазёраў – у маркотны стан, але ён ўсё ж адганяў ад сябе думку пра адмаўленне ад прапаведніцтва, як сатанінскае наданне, і задумаў, нарэшце, пераехаць у Ясрыб – будучую Медыну.

Паміж Мекай і Ясрыбам існаваў даўні антаганізм, які, як выявілася пазьней, меў для ісламa вялізную карысць. Валодаючы храмам метэарытнага каменя, Мека прыцягвала да сябе на святочныя ўрачыстасьці ў яго гонар натоўпы багамольцаў, са статкамі вырачаных на ахвяру авечак і вярблюдаў. Прыходзіўшыя сюды ясрыбцы распальваліся зайздрасьцю пры выглядзе назапасіўшыхся тут багаццяў.

І вось пад час аднаго із такіх святаў яны пабачылі прапаведніка, граміўшага статуі імем грознага бога, заклінаўшага дабротамі раю і баязнь геены паслухацца яго загадаў і кінуць сваіх нямых, бездапаможных, нямоглых багоў.

– «Ці не той гэта прарок, якому наканавана паўтарыць над аравійцамі вынішчэнне тэмудзян і мадыяніцян?» – пыталі яны адзін аднаго.

На наступную вясну із Ясрыба з'явіліся дванаццаць чалавек, якія, мінуўшы храм метэарытнага каменя, прынесьлі Магамету прысягу ў прыняцці імі адзінабожжа і вечнага паслухмянства. Гэтая клятва вядомая ісламіцянам пад назвай малая клятва, ці «клятва жанчын».

Прайшоў яшчэ год. Храм каменя, кінутага з неба на зямлю арханёлам Гаўрыілам, зноў пабачыў у сябе аравіцянаў, сабраўшыхся з усіх аазісаў і пустыняў, пабачыў і ясрыбцаў. Яны, у колькасьці 75 чалавек, ўрачыста адмовіліся ад шматбожжа і абвясьцілі сваю пакору Алаху і яго пасланніку, чалавеку Хадыджы. Пры гэтай важнай падзеі прарок запатрабаваў ад іх «клятвы мужчын», абяцаўшых абараняць яго магутнасьцю зброі і служыць праваднікамі ісламу.

Потым ён, цалкам як і Хрыстос у Евангеллях, абраў сабе дванаццаць апосталаў (ахабаў па-карэйшыцку) і ў якасьці ўзнагароды за пазбаўленні, якія яны зведалі, пакінуўшы радзіму, абяцаў ім «шчодры надзел на небе» і «сады, праз якія цякуць рэкі».

Карэйшыты, – пераконваюць нас, – адчулі, што іхныя рабы і найміты прыслухоўваюцца незвычайна чула да абяцанняў прарока, і што аравійцы зрабіліся менш схільнымі да пагадненняў пры дамовах, даваўшых выгады гараджанам і гандлярам. Мецы пагражаў сацыяльны пераварот. У прадбачанні гэтага, яны

выправілі дэпутацыю да Абу-Таліба, як да дзядзькі прапаведніка і правадыра гашэмідаў, з патрабаваннем забараніць Магамету яго шкоднае прапаведніцтва.

Перапоўнены мірных пачуццяў дзядзька-шматбожнік звярнуўся да пляменіка з прашэннем не наклікаць бяду на ўвесь яго род, абавязаны бараніць яго згодна з абавязкамі радавога пачатку, а прарок яму адказаў:

– «Калі б не толькі людзі, але і Сонца і Месяц запатрабавалі, каб я адмовіўся пад жахам сьмерці ад сваёй місіі, то я аддаю перавагу памерці, але не здраджу адзінаму».

Пры такой цвёрдасьці яго духу Абу-Таліб мог толькі пусьціць слязу і абяцаў пляменіку падтрымку яго рода супраць паўстаўшых ворагаў. Ён сабраў усіх сваіх на нараду, але тут адбыўся раскол, зноў прыпыніўшы далейшае пашырэнне ісламіцян.

Ён звярнуўся з заклікам да суайчыннікаў, у якім, пакідаючы ў баку дагматычны бок вучэння пляменіка, паказаў варожай партыі, што яго імкненні далёкія ад падзелу маёмасьці і схіляюцца выключна да падтрымкі ўдоваў і сірат. Гэты манеўр, падтрыманы адным із паважаемых паэтаў таго часу, памякчыў варожых прароку карэйшытаў партыі Абу-Саф'яна і яны вырашылі пакуль не пераходзіць да ўзброенага сутыкнення, але паставіць моцную перашкоду далейшаму пашырэнню новага вучэння. Карэйшыты Абу-Саф'яна зрабілі прароку прапанову замоўкнуць, пры ўмове, што яны ўзвядуць яго ў ганаровае становішча, а калі ён сапраўды апантаны злым духам, то не пашкадуюць сродкаў на майстэрскіх лекараў. Але прарок не здаваўся. Не здаваліся і яго прыхільнікі. Мусульмане і зараз багавейна згадваюць тых рабоў, якім даводзілася пераносіць ад сваіх гаспадароў катаванні, даходзіўшыя да таго, што іх клалі голымі на распалены пясок з патраваннем аддаць на зневажанне іслам і ўсхваляць статуі ў храме метэарытнага выбуху.

Патрапіўшы ўціскі моцных супернікаў, прарок адчуў, што без кампрамісу ён упадзе ў няроўным змаганні са шматбожнікамі. Усведамляючы гэта, – паведамляюць нам яго біёграфы, – ён не знайшоў іншага выйсьця, як пашырыць ад імя Алаха 53-ю песню Карана з пытаннем:

«*Ці разважалі вы пра Алату, Узу і Манату?*» (галоўных божышчаў) *Гэта істоты жаночай стаці, гэта нябесныя лебедзі і на іх заступніцтвы можна цалкам спадзявацца*»[38]. Само сабой зразумела, што такія радкі і да гэтага часу прыводзяць у роспач шчырых ісламітаў, і навейшыя тлумачальнікі прыпісваюць іх, як мы толькі што бачылі, дыпламатыі прарока. З нашага ж боку гледжання, які заключаецца ў тым, што Каран не з’яўляецца творам аднаго чалавека, а збіраўшымся на працягу стагоддзяў зборнікам рэлігійных гімнаў і легендаў, які завяршыўся толькі пры Магамету Заваёўніку (Махмуду-Газні), ад яго і немагчыма чакаць аднастайнасьці ўсіх частак.

А прызнаючы аднаасобнае стварэнне гэтай кнігі, біёграфы ісламіцкага прарока павінны зноў фантазіраваць, выдаючы свае здагадкі за гістарычныя факты.

Карэйшыты партыі Абу-Саф’яна, – кажуць яны, – пачуўшы яго словы пра багінь, узрадаваліся, а партыя Абу-Таліба прыйшла ў зразумелы стан маркоты, таму што іхны прарок саступаў супернікам увесь падмурак свайго вучэння. Ён спаслаўся на сатану, які быццам бы падмяніў сабой перад ім анёла Гаўрыіла, так што ў сучаснай рэдакцыі Карана гэтае месца заменена на такое (54, 19-23): «*Ці*

---

[38] Мусульманскі зборнік, т. XIX, спасылкі на Бейзаўсля, Табіры, Багаву, Ягію і інш.

*разважалі вы пра Эль-Латэ* (Латану), *Аль-Узу і Манату? Гэта бацькі вашы назвалі іх так. Бог не даваў вам ніякага доказу пра іх».*

А нас запэўніваюць, што Каран ніколі не змяняўся!

Становішча прарока вельмі пагоршылася пасьля сьмерці Хадыджы ў 619 годзе, а праз некалькі тыдняў памёр і Абу-Таліб. Пасьля яго сьмерці радавое старэйшынства перайшло да яго лютага ворага – да здабычы сатаны і геены. Гэта быў Абу-Лагаб.

Артадаксальныя гісторыкі ісламу не разумеюць, куды падзелася багацце Хадыджы. Магчыма, – сцвярджаюць яны, – што яно было выдаткавана на пражыванне дзякуючы адыходу прарока ад гандлёвых справаў. Ва ўсякім разе пасьля яе сьмерці яму давялося закладваць сваё адзенні, апынуцца ў становішчы пралетарыя, і, акрамя таго, сьмерць дзядзькі-апекуна пазбывала яго палітычнай падтрымкі, а нянавісць Абу-Лагаба пазбаўляла яго надзеі на сямейную і радавую дапамогу.

У такіх крытычных абставінах яго напаткала думка заключыць хаўрус з равіністамі, якія дзякуючы агульнасьці самых галоўных цверджанняў ахвотна прыслухоўваліся да яго заклікаў, усталяваць замест усіх культаў ушанаванне адзінага бога-Грамабоя, без таварышаў і без раздрабнення яго моцы і магутнасьці.

Сапраўды, да «богазмагальнікаў» («ізраільцянаў») таго часу новы прарок здаваўся ўсяго бліжэйшым, і гэта будзе тым больш зразумелым, чым бліжэй чытач пазнаеміцца з маім стаўленнем да гэтага пытання, што юдэйскае веравучэнне лічыла пад час сярэдневечча сваім родапачынальнікам Юду, брата Езуса. У хрысьціянскіх святцах ён так і вядомы пад імем апостала «Юды брата Госпада», тады як Арый даў пачатак лягендзе пра першасьвятара Арона, хаця гістарычнае значэнне Арыя і паменшана тым, што ён – згодна з Каранам дзядзька Езуса – павучаў галоўным чынам толькі таму, што надаваў яму больш вялікі прарок – Майсей, – з якім даводзіцца атаясаміць Дыяклетыяна. Але само сабой зразумела, што асобныя месцы Карана ўтрымліваюць сапраўдныя гістарычныя факты, і для нас тут асабліва цікава тое, што ён дапасуе пабудову пірамід у Ягіпце ўжо да пасьля-Майсеевага, г.азн. згодна з нашым злічэннем, пасля-Арыевага перыяду, калі валадаром Ягіпта быў Гамон.

«*Фіргаун загадаў Гамону,* – паведамляецца там, – *пабудуй мне будынак, каб я мог дабрацца да неба і каб я падняўся да бога Майсеева*» (40.38).

Дакладна так жа і ў іншым месцы Каран называе ягіпецкага цара «валадаром слупоў», дапасуючы яго такім жа чынам да пасьля-арыянскай эпохі.

Але вернемся да жыццяапісання новага прарока. Яго спроба аб'яднацца з равіністамі спачатку мела некаторы поспех. Не адважваючыся прызнаваць яго не толькі Месіяй, але і проста прарокам, натоўпы месіянцаў звярнуліся да самага знакамітага са сваіх настаўнікаў – Абдалы за вырашэннем шматлікіх сумневаў, паўстаўшых пры параўнанні юдаізма з ісламам. Рабі прапанаваў прызначыць шэраг пытанняў з тым, каб прарок даў на іх адказы, і найбольш казуістычных пытанняў набралася роўна сорак. Але на ўсе пытанні той адказаў, дзякуючы наданню анёла Гаўрыіла, з мудрасьцю, якая асьвяціла сэрцы месіянцаў. Згодна з яго адказамі, Усявышні стварыў сусьвет за шэсць дзён. Перадусім была створана із зялёных тапазаў вада, якая, пры поглядзе на яе свайго стваральніка, прыйшла ў рух, на ёй з'явіліся хвалі і яна пачала кіпець, ад гэтага з'явіліся выпарэнні, і нябёсы былі створаны із выпарэнняў. Боскі пасад быў зроблены са сьвятла і такім вялікім, што

перад ім і сем нябёс і сем земляў утвараюць толькі адзін абрус. Ён і зараз абапіраецца на шыі чатырох анёлаў...

І вось усе пытанні былі вырашаны ісламіцкім прарокам без цяжкасьці. Ён адказаў нават, колькі жыве стварэнняў на кожнай із сямі земляў, са скалькіх аддзяленняў складаецца геена і каму кожнае аддзяленне прызначана. Фіргауна і яго паплечнікаў ён памясьціў у другую геену – «Ал-Гатам» – самую жудасную; а самую лёгкую, з найменшай колькасьцю змей і скарпіёнаў, ён прызначыў для злачынцаў із ісламіцян, якія пасьля некаторага вызначанага тэрміну усё ж пяройдуць у рай.

Труба анёла Ісрафіла, – адказваў ён, – роўная тысячы гадоў шляху. Анёл Харкаіл атрымаў ад бога 36.000 крылаў (па сто на кожны градус экліптыкі), але і пры іх дапамозе не мог абляцець сусьвет.

Прарока запыталі пры гэтым выпрабаванні, хто нарадзіўся без бацькі і маці – і ён адказаў:

– Адам і Ева, баран Абрама, жазло Майсея і кажаны.

На пытанне пра тое, хто ляжаў у труне, якая ўвесь час рухалася, прарок паказаў на Ёну. А саракавое пытанне пра заканчэнне сьвету, якое адбудзецца следам за тым, калі людзі страцяць веру ў Каран, прарок прызначыў на час калі з’явіцца жудасны Даджала. Пракляты дэман завалодае ўсім сьветам, за выключэннем Мекі, Медыны, Ерусаліма і Сіная. Пасьля таго, сын Марылі спусьціцца з неба на райскай жарабіцы і пачне бітву з Даджалам, які і загіне ад узмахаў яго мяча. Сын Марылі пражыве пасьля таго сорак гадоў і потым перадась сябе богу. Прававерныя здзейсняць тады абмыванне, перанясуць яго цела ў Медыну і пахаваюць у храме побач з ім, са «Славутым». На прыканцы з'явяцца плямёны Яджуджэй і Меджуджэй (Гог і Магог), такія брудныя, што спатрэбіцца цэлы патоп для ачышчэння ад іх сусвету. Пасьля гэтага наступіць ажыванне памёршых.

Гэтыя адказы пераканалі адукаванага рабі ў стасунках новага прарока з богам і ён, больш не вагаючыся, пачаў зваць Егову Алахам[39]. Але месіянскі народ застаўся касьнец у невуцтве, што дарэчы не перашкаджала новаму прароку падтрымліваць з ім сяброўскія стасункі, нават і пад час першай перыяду яго знаходжання ў Медыне.

Назаране не маглі праз сваю малалікасць у Аравіі даць прароку колькі-небудзь сур'ёзную палітычную падтрымку ў яго змаганні з супляменнікамі, – здагадваюцца сучасныя біёграфы «Славутага», – але яны былі яму неабходны, як людзі ўстойлівыя духам. Вось чаму яго стаўленне да хрысьціянаў пад час першай паловы яго дзейнасьці вызначалася шчырай сімпатыяй. Гэтаму шмат дапамагла і Абісінія, ахвотна прыняўшая да сябе выхадцаў-мусульманаў. Пасьля вяртання із Абісініі агаране маглі толькі падцвердзіць, што гэтая краіна чужая ідалашанавання і цар яе набожны.

Вось і ўсё істотнае, што нам паведамляюць гісторыкі пра жыццё ісламіцкага прарока амаль аж да яго знакамітага «збягання» і калі вы крыху засяродзіцеся на павядомленым, то самі пераканаецеся, што тут адзін раман, і няма нічога гістарычнага.

[39] Цікава, што ў Бібліі бог мае найменне і ІЕВЕ і АЛ.

# Глава IV.
## Вайсковыя вычыны прарока і яго вайсковых првадыроў.

Працягваючы і далей ствараць падабенства рэчаіснасьці, біёграфы славутага псеўда-аравійскага прарока карыстаюцца ўсімі ўрыўкавымі фразамі, патрапіўшымі ў Каран без пазначэння часу і месца свайго паходжання, і сапраўды дасягаюць таго, што іх выкладанне з выгляду робіцца цалкам праўдападобным. Але мы не павінны ашуквацца вонкавым выглядам. Ён часта бывае падманчывым. Так некаторыя віды няшкодных мух выпрацавалі сабе знешні выгляд жалячых вос, каб ластаўкі баяліся іх хапаць, але прыгледзьцеся да іх уважліва і вы адразу ж пабачыце, што гэты выгляд – простая мімікрыя. Не пабаімся ж і мы дакрануцца да сучасных уяўленняў пра пачатак магаметанства на зямлі, палічыўшы муху за асу.

«*Юдэі* (г.азн. богаславячыя) *бяруцца пад наша заступніцтва*, – паведамляе адзін урывак Карана, – *і будуць абараняцца намі без адрознення іхных плямён, складаючы ў палітычным дачыненні адзін народ. Прававерныя будуць вызнаваць сваю рэлігію, а богаславячыя равіністы сваю. І тыя і другія ў хаўрусе, і тыя і другія будуць карыстацца поўным спакоем. Калі ж наступіць час абароны горада ад ворагаў, то богаславячыя могуць і не ісьці на вайну, але абавязаны заплаціць у такім разе ваярскі падатак*».

Цалкам зразумела, што гэтае месца дакументальнае, і сведчыць пра тое, што ў нейкі час ізмаэліцства і ізраэліцства былі толькі двумя варыяцыі той жа самай адзінабожнай рэлігіі. З гэтым пагадняецца і паданне, што раней Мекі прававерныя лічылі цэнтрам сваёй царквы Ерусалім. Але пытанне ў тым, да якога часу ставіцца канчатковая рэдакцыя Карана? І ці не султан Магамет I (1374-1421 гг.) замест міфічнага «прарока Магамета», дадаў упершыню да Карана такі закон?

Была выдадзена, – кажуць нам, таксама верагодна змешваючы султана Магамета I са «Славутым прарокам», – мірная хартыя так жа і хрысьціянам і пры тым не толькі сталічным[40], але і жывучым «*як на ўсходніх, так і на заходніх ускраінах зямлі, як у самых блізкіх, так і ў самых аддаленых мясцовасьцях, як у вядомых так і ў невядомых месцах, сярод адукаваных і неадукаваных жыхароў*».

Гэтае абавязацельства – паведамляюць нам – было замацавана поўным адбіткам правай рукі «прарока і пасланніка бога», і сьведчаннем 34 сведак-хрысьціянаў. Сакратар, быццам бы пісаўшы гэтую дамову, пазначыў яе апошнім днём чацьвёртага месяца чацьвёртага года Геджры. Хрысьціяне абавязаліся плаціць штогод па 12 драхмаў з чалавека, акрамя пазямельнага падатку і падатку з ураджаю зямлі, за што пазбаўляліся як ад рабаванняў, так і ад абавязку ісьці на вайну і рабаваць разам з прававерным. І ўсё гэта, быццам бы, у Аравійскай пустыні!

Грунтуючыся на толькі што выкладзеных правілах складальніцтва, нашы лепшыя гісторыкі працягваюць раман пра «Славутага» так:

Пад сьцягам вялікага прарока, падтрыманым Абу-Бекрам, Амарам, Гамзой, Алі і Зендам, занялі ганаровыя месцы патрыцыі сталіцы – Абейда і Саад, шчыра паверыўшыя ў дагматы ісламa ці ў яго выгоды для сябе. Гэтыя асобы славіліся адсутнасьцю баязні і вайсковымі талентамі, чаму прарок і даручыў ім заняцца арганізацыяй войска.

---

[40] Мы не павінны забывацца, што слова Медына (медынэт) па-карэйшыцку азначае проста; сталіца, горад, а той горад Аравійскай паўвыспы, які еўрапейцы завуць Медынай, с пакон веку мае назву Ясрыб.

У людзях, гатовых прысьвяціць сябе служэнню ісламу не было недахопу, хаця немагчыма не заўважыць, што пад час першай эпохі Геджры, пад сьцяг прарока збіраліся пераважна авантурысты, зайздросліва глядзеўшыя на ёмістыя цюкі мекскіх караванаў.

Іхнае абмундзіраванне складалася із доўгай кашулі з кароткімі рукавамі і падабенства цюрбана із саматканай матэрыі. Зброяй запасіўся кожны на асабістыя сродкі і згодна са сваімі меркаваннямі. Лагер наладзілі пад адкрытым небам. У прарока не пыталі дабраславення, каб наладзіць тое ці іншае рабаванне.

Не прайшло і паўгода з часу прыбыцця яго ў сталіцу (па-карэйшыцку: медынет), як правадыр прарока Гамза ўжо наладзіў засаду супраць каравана карэйшытаў, ішоўшага із Сірыі з запасам хлеба і тканіны. Караван быў пад аховай трохсот чалавек, а Гамза, паспадзяваўшыся на ўсемагутнасць бога і спяшаючыся накінуцца на здабычу, узяў з сабой толькі некалькі дзясяткаў авантурыстаў. Але яны (падобна такому ж недастатковаму атраду Езуса Навіна, які кінуўся на жыхароў Аі без дазволу Майсея (Навін 7, 4) спасавалі перад правільна наладжанай абаронай караваннай варты, і рабаванне не адбылося.

Сталічныя нізы загаварылі:

– «*Дзе ж магутнасць анёла Гаўрыіла і адзінага бога, на якую пяць раз на дзень спасылаецца прарок у храме*?».

Гоман быў такім паказальным, што «Славутаму» было наканавана ці павялічыць сабой шэраг неспраўдзіўшыхся пракрокаў, ці ж дазволіць сваім празелітам дасягнуць поспеху, хаця б і шляхам бязбожнага ўчынку. Ён вырашыўся на апошняе.

Быў сьвяты месяц Раджэб, на працягу якога нават і шматбожнікі не апаганьвалі свае душы гвалтам і кровапраліццямі. Хлебныя склады заможных самаахвотна аддаваліся на гэты час у распараджэнне бедных; ніхто нікога ні ў чым не баяўся. Але банда ісламістаў Абдалаха падступна ноччу наладзіла напад на праходзіўшы караван, прытым аднаго із важатых забілі, а двух узялі ў палон. Такім чынам былі разліты першыя кроплі чалавечай крыві ў імя ісламa і ісламіцянам дасталася першая вайсковая здабыча.

Гэтая падзея, нікчэмная згодна з памерамі здабычы, праходзіць чырвонай ніткай паміж мекскім і медынскім (г.азн. у перакладзе сталічным) перыядамі дзейнасьці прарока. Новае павучанне Карана блаславіла вайну ў імя ісламa «заўсёды і ўсюды» (Кар. 2. 214). Яно зводзіла да нуля ўсе мекскія прамовы прарока і ўсе яго ўзнёслыя разважанні пра волю веравызнання і пра спагадлівае стаўленне да няверных. Рабаўніцкія схільнасьці аравійцаў пераходзілі зараз із вобласьці крымінальнай на глебу рэлігійную, пры гэтым ранейшая Мека пераходзіла із наступаючага становішча ў абараяючаяся. Партызаны прарока перакрылі ўсе яе стасункі з Сірыяй. Уся Аравія схапілася за мячы і дзіды. Яе насельнікам было наканавана падзяліцца на дзьве паловы: прававерную, рабуючую і няверную, якую можна рабаваць, і ядром апошняй былі шматбожнікі. Паказаўшы на тое, што людзі не паверылі дзівам ранейшых прарокаў, Майсея, Саламона і Езуса Хрыста, новы прарок патлумачыў, што і яму толькі з дапамогай мяча можна прывесьці ўсіх да пакоры.

Абапіраючыся на павялічыўшуюся колькасць сваіх прыхільнікаў-авантурыстаў, ён палічыў, грунтуючыся на меркаваннях яго вайсковых дарадцаў – Амара, Гамзы, Абейды і Саада, – што наспеў час павярнуць меч рэлігіі нават супраць самога валадара Мекі, Абу-Саф'яна, падчас яго гандлёвых экспедыцый.

Апошні, аднак, быў настарожаны. Ён перамяніў звычайны маршрут сірыйскага каравана і замест прыпынку каля ключавой вады выйшаў да марскога берага, куды з'явілася із Мекі дадатковая ахова. Ашукаўшыся ў разліках, новы прарок сустрэў у даліне Бедры натоўпы ўзброеных меканцаў, маючых жаданне часткова затрымаць партызанаў прававерʼя, а часткова і памерыцца з імі магутнасьцю.

Каля поўдня закіпеў агульны бой. Новы прарок старога адзінабожжа, падобна Майсею ў бітве з амалекіцянамі (Сыход, 17, 11), не бяручы асабіста ўдзел у бітве, заняўся пошукам нябеснай дапамогі. Неўзабаве яна з'явілася ў выглядзе цэлага легіёна жыхароў неба пад правадырствам арханёла Гаўрыіла. Паказаўшы сваім паплечнікам на яе, прарок кінуў у накірунку да непрыяцеля жменю пяску, і жах апанаваў няверными. Дапамагаўшы ім сатана неадкладна збег, згодна з паданнямі мусульманскіх першакрыніц, і з ганьбай і роспаччу кінуўся ў мора.

Прававерныя і да гэтага часу распавядаюць пра з'явіўшуюся ім тады нябесную дапамогі ў колькасці трох тысяч анёлаў і нават ведаюць найменне каня, на якім паважна сядзеў іхны правадыр арханёл Гаўрыіл. Ён сядзеў верхам на кані на імя «Гіазун».

Прароку дастаўся меч правадыра каравана, якім ён тады ўрачыста аперазаўся, і вярблюд, на хрыбце якога перад тым сядзеў Абу-Джагль. Абу-Джаглю адсеклі галаву і пранеслі яе на дзідзе перад фронтам пераможцаў.

Зачараванне гэтай перамогай адбілася – кажуць нам, – і ў Каране вершамі:

«*О, калі б ты бачыў, як паміралі няверныя! Анёлы ўражвалі іх па тварах і па хрыбтах, і казалі ім: ідзіце цешыцца пакутамі ў полымі*» (§ 52).

Ці не з’яўляюцца і гэтыя словы пра тысячы анёлаў толькі ўспамінам пра метэарытную катастрофу, перажыткам якой з'яўляецца сучаснае ўшанаванне метэарытнага каменя ў Мецы?

Поспех пры Бедры – пераконваюць нас сучасныя біёграфы прарока – надаў прававерʼю новы накірунак, у якім меч рэлігіі адціснуў на задні план ранейшыя сьціплыя і шчырыя павучанні прарока.

Але адной паразы пры Бедры было яшчэ недастаткова, каб Мека адкрыла абдымкі сталіцы прарока. Насупраць таго меканцы вырашылі даць адпор набіраючай моц дэмагогіі. Правадыром змагання яны абралі Абу-Саф'яна, які пакляўся не заходзіць у свой гарэм і не націраць сябе пахучымі рэчывамі, пакуль не будзе адпомшчана параза пры Бедры.

Абу-Саф'ян здолеў сфармаваць атрад у тры тысячы чалавек, із якіх чацьвёртая частка была апранута ў непрабіваемыя для стрэл кальчугі. Іхны правадыр, жадаючы абудзіць у сваім войску упэўненасць у перамозе, дазволіў знаходзіцца пры войску тамбурысткам і танцоркам, якія распальвалі ўдарамі ў бубны і скокамі і без таго пякучую кроў аравіцянаў.

Бітва пачалася апантанай атакай Гамзы на гэты вясёлы атрад. Яго памочнікам быў прававерны з надпісам на цюрбане:

«*Да нас ідзе дапамога ад бога! Перамога наперадзе нас*!».

На працягу кароткага часу ўпалі дзевяць карэйшыцкіх сьцяганосцаў і іхныя разладжаныя шэрагі, не бачучы магчымасьці супраціўляцца трапнай стральбе прававерных, завагаліся і павярнулі коней да Мекі. Іхныя ўцёкі былі абцяжараны вялікім абозам і натоўпамі спадарожніц, хаваўшыхся за спінамі сваіх валадароў і абаронцаў. Але перадавыя атрады прававерных, баючыся, што пакінутую ворагамі маёмасць захопяць іншыя, масава накіраваліся да лагера і пачалі наўючваць на сваіх вярблюдаў металічныя жбаны, катлы, дываны із ільвіных скур, запасы

вострых прыправаў і каштоўныя ўборы мекскіх красунь. А карэйшыты, скарыстаўшыся магчымасьцю, спыніліся, сталі ў шэрагі і кінуліся ў сваю чаргу на збянтэжаных і не чакаўшых атакі адзінабожнікаў. Кінуты із прашчы камень патрапіў у твар ісламіцкаму Майсею і ён, ашаломлены ўдарам, зваліўся ў знаходзіўшыся непадалёку роў. Уцекачы пачулі яго стогны і паспелі зацягнуць параненага ў горную цясніну, куды не маглі даляцець стрэлы карэйшытаў.

Нядаўнія пераможцы пры Бедры вярталіся пераможанымі каля Аходы. За спінай прарока засталіся на полі бітвы дзясяткі трупаў і ў ліку іх, працяты дроцікам, галоўны слуп ісламу – Гамза.

Мы бачым, што апавяданне пра першыя вайсковыя здзяйсненні прарока атрымалася цалкам рэчаісным і нават мастацкім. Адзінае, што нас тут бянтэжыць, гэта пытанне: а хіба тады існавалі вайсковыя карэспандэнты? Даводзіцца дапусьціць, што і там, як пры ўсіх іншых старажытных бітвах, быў нейкі Няміровіч-Данчанка ў выглядзе «асабістага сакратара прарока», які ўсюды рухаўся за ім і запісваў кіем, памочаным у разведзенай сажы, на баранавай лапатцы ўсе яго словы і ўчынкі. Зацьвердзіўшыся ў такой думцы, працягнем і далей гэтае цікавае апавяданне, пачаўшы выкладаннне такімі словамі гяура Чэрэванскага[41]:

«*Немагчыма адмаўляць, што першыя партызанскія вычыны прарока адзінабожжа, былі не чым іншым, як рабаўнічымі набегамі і захопамі. Калі ісламіты яшчэ не мелі магчымасьці справіцца з прыхільнікамі статуй, то былі зараз дастаткова ўзброенымі для таго, каб разарваць хаўрус з юдэямі і хрысьціянамі і ўчыніць над імі моцны пагром*».

Хаця адукаваны рабі Гусіт, узяўшы ў ісламе імя Абдалах і прызнаў «Славутага пракрокам», але гэта мела наступствам вялікі раскол сярод месіянцаў і большасць рабінаў адмежавалася ад яго. За гэта на пятым годзе Геджры быў пачаты праслед «юдэяў» і, – паведамляюць нам, – выклікала з боку апошніх спробу знішчыць новага прарока з дапамогай чараўніцтва. У пераможжаным племі Бэні-Кураіз, нехта Лабенд і яго дочкі славіліся вяшчунствам. Яны зляпілі васковую ляльку – сімвалічную выяву прарока – аблыталі яе валасамі, пакалолі іголкамі і абвілі цецівой лука, а на цеціве завязалі некалькі вузлоў і над кожным з іх прачыталі загавор, пасьля чаго лялька была кінута ў студню.

Прарок, вядома, занямог ад гэтага, але анёл Гаўрыіл заўважыў і своечасова выявіў злую выхадку, а верны прароку Алі лёгка дастаў ляльку са студні. «Славутаму» засталося толькі прачытаць над ёю дасланыя яму два выслоўі і чары былі адразу знішчаны. Вузлы развязаліся самі сабой, іголкі вываліліся із лялькі і гэта было для прарока падставай пачаць варожасць з юдэямі з падвоенымі высілкамі... І вось дзьве песьні Карана (113 і 114), маючыя назву аберагаючых, і да гэтага часу служаць у якасьці кудменяў прававерным, якія пры адным толькі здагванні пра таемную ляльку ў студні варожасьці нашэптваюць пра сябе:

«*Пане! Я шукаю ў цябе абароны... ад пашкоджання цёмнай ночы, ад злосьці дуючых на вузлы, і ад зайздросніка, удыхаючага зло ў сэрцы людзей*».

На сёмым годзе Геджры, ісламіты – паведамляюць нам, – наладзілі ўжо далёкі паход, супраць месіянскага Хайбара.

Вайна пачалася без паведамлення пра рыхтуючыся напад.

Падчас аблогі ўдавец Хадыджы то маліўся, то ўстрасаў мячом, але ворагі не здаваліся. І вось Алі, зяць ісламіцкага прарока, адпавядаючы біблейскаму Езусу

[41] Чэрэванскі: Сьвет іслама і яго абуджэнне, т. I, 215.

Навіну і евангельскаму Езусу Хрысту[42], наладзіў двубой з месіянскім гігантам Мархабам, і той страціў галаву. Хайбар, не вытрымаўшы штурму, страціў свае цяжкую гарадзкую браму і яго апошняе ўмацаванне форт Камус, выдаў пераможцам грамадзкую скарбніцу і свайго князя Кінана.

Захоп Хайбара быў, – пераконваюць нам, – апошнім актам гістарычнага (?) жыцця прыхільнікаў Юды Настаўніка ў Аравіі. Яны былі прагнаны, каб не «апаганьвалі больш арабскую зямлю».

Наносячы ім удар за ўдарам з дапамогай свайго ісламіцкага Езуса Навіна, прарок перанёс адлюстраванне веры (кыблу) із Ерусаліма ў Меку, якой, згодна з яго планамі, было накавана раней ці пазьней зрабіцца цэнтрам ісламу. Для нас тут гэта асабліва важна таму, што пазначае пачатак пілігрімства да метэарытнага каменя, а такім чынам і метэарытную катастрофу 662 годам нашай эры. Гэтая перамена пазначала разам з тым і канчатковае аддзяленне ізмаэлітаў ад ізраэлітаў (г.азн. ідалазмагальнікаў), як хрысьціянскага, так і равінісцкага накірунку.

Акрамя замены «адлюстравання веры», «Славуты» прызначыў для паста пераносімы арабскі месяц Рамадан. У нядаўніх павучаннях ён пераконваў сваіх прыхільнікаў лічыць іслам, юдэйства і хрысьціянства трыма рэлігійнымі адгалінаваннямі грунтуючыміся на агульных пачатках, але зараз пасьля рабавання рабіністаў іслам пайшоў па цалкам новаму шляху, адрознаму ад ранейшага.

Гісторыкі дапасуюць гэта да паловы VII стагоддзя нашай эры і лічаць, што перанясенне «адлюстравання веры» (г.азн. месца, да якога павінны звяртацца ісламіты ў далёкіх краінах) із псеўда-Ерусаліма на Меку адбылося згодна з жаданнем нейкага аравійскага правадыра караванаў, а нам давядзецца далей пераконваць, што ў 622 годзе нашай эры над Чырвоным морам выбухнуў гіганцкі метэарыт, ускалыхнуўшы напорам паветра ўвесь Ягіпет і заходнюю Аравію, і што некалькі яго аскепкаў зваліліся ў двор Мекскага свяцілішча, разбурыўшы яго статуі. Мы далей пабачым, што такія выпадкі ўжо бывалі на зямлі, і ўсё, што мы зараз паведамляем пра «Магамета» мае дачыненне да іншага часу, асобы і месца.

Пра гэта мне давядзецца яшчэ шмат выказвацца далей, а тут я толькі знаёмлю чытача са звычайнымі ўяўленнямі пра аўтара Карана.

Не сустрэўшы спагады і падтрымкі таксама і з боку хрысьціянаў, – паведамляюць нам, – прарок выступіў у Каране з абвінавачнямі іх у трохбожжы, у называнні сябе сынамі бога і ва ўтойванні новазапаветнага прадказання пра яго ўласнае магаметава апостальства. Палеміка на гэтай глебе прывяла яго да высновы пра патрэбу сьвятой вайны і з хрысьціянамі нароўні з паганцамі (Кар. 2, ст. 29; ст. 17-21; 169-174 і іншыя).

«*Ваюйце з тымі із атрымаўшых пісанне, якія не далучаюцца да праўдзівага веравучэння, пакуль яны не будуць даваць выкуп за сваё жыццё, знясіленыя, знішчаныя*». І вось больш позняе мусульманскае заканадаўства прызначыла пастаянны збор для ведання войн супраць няверных, вядомы пад назвай зякет. Гэты падатак у мірны час зараз выдаткуецца на справы дабрачыннасьці, а таксама на пабудову мячэцей, вучэльняў, мастоў, і нават на выкуп нявольнікаў і банкрутаў.

«*Сталіца знішчыла свае статуі і «Славуты» больш ужо не абцяжарваў сябе аб'вяшчэннямі таго ці іншага племені не надзейным у рэлігійным дачыненні і выпраўленнем супраць яго, у імя адзінага бога, сваіх схільных да рабаванняў партызанаў*».

42 Цікава, што да меркаванай магілы Алі ў Меку і зараз, (як да меркаванай труны Хрыста ў палестынскім Ерусаліме) збіраюцца багамольцы з усіх бакоў ісламіцкага сьвету. А імя Алі па-біблейску азначае: бог.

Часовае зацішша, наступіўшае пасьля бітвы пры Аходзе, абодва бакі выкарысталі на арганізацыю новага нападу і абароны. Абу-Саф'ян, заключыў хаўрус з навакольнымі сабеістамі, якія ў сваёй рэлігіі яшчэ задавальняліся нябеснымі сьвяцілами, прыветліва пазіраўшымі на іх з вышыні цёмна-блакітнага небасхілу. Бедуіны заставаліся на боку Мекі таму, што яна плаціла ім за суправаджэнне караванаў, а хейбарцы абяцалі сваім хаўруснікам за дапамогу супраць ісламіцян, палавіну гадавога збору з іхнага добра радзючага фінікавага гаю.

Але ісламіцкій прарок і яго вайсковыя дарадцы таксама не драмалі і напружвалі ўсе магчымасьці для адпору ворагу. Неабароненая з усіх бакоў «сталіца» павінна была асьцерагацца раптоўнага набегу бедуінаў. Патрэбна было абкапацца ровам і, назапасіўшы дроцікаў, камянёў і стрэл, сустрэць ворагаў із-за валоў, што дарэчы не лічылася справай рыцарскага гераізму. Таму прарок асабіста выйшаў на працу, а за ім і ўся «сталіца» для пабудовы рова такога вялікага, каб праз яго не здолеў пераскочыць конь. На паўночным баку горада, як сцвярджаюць прававерныя, аналагічна евангельскай лягендзе пра Хрыста, прарок накарміў жменяй сліў тысячы людзей, а на ўсходнім боку з дапамогай яго слова атрымалася сытная ежа із аднаго ягнёнка і аднаго ячменнага хлеба. Нават скалісты грунт рассыпаўся ў пыл дзякуючы ўсяго некалькім кроплям вады, брызнутых рукой ісламіцкага Майсея. Пазьней падобная серыя дзіваў павялічылася ва ўяўленні прававерных да таго, што ад удару прарока ламам у зямлю з'ўлялася сьвятло, асвятляўшае ўсход і захад і ўсе краіны, куды пашыраўся іслам.

Абу-Саф'ян даведаўся пра існаванне выкапанага рова толькі тады, калі яго кавалерыя сустрэла тут непераадольную перашкоду для ўварвання ў «сталіцу». Выдаткаваўшы ўвесь запас прыпасаў за час не маючай вынікаў аблогі ён быў вымушаны зняць яе і адвесьці сваё войска назад у Меку.

Прэстыж статуй метэарытнага храма заўважальна памяншаўся ў вачах меканцаў, вярнуўшыхся да сваіх пенатаў без лаўраў і здабычы, і хутка Мека засталася без хаўруснікаў. Племя за племем пакідалі яе пляцы. Шатры, звычайна віднеўшыяся па ўсіх яе наваколлях, знікалі адзін за адным. Відавочна, надзея на Меку, як на абаронцу ад партызанаў прарока, памяншалася не па днях, а па гадзінах і сябраваўшыя з ёю дзеці пустыні адасабляліся ад яе як ад нямоглага сябра. Зараз Абу-Саф'яну зрабілася відавочна, – паведамляюць нам гісторыкі ісламу, – што яго роля сыграна, і новая перамога ворагаў прыцягне на іхны бок усіх разыходзіўшыхся яго засмучаных хаўруснікаў. Яны ішлі зараз на паклон у «сталіцу», схіляліся перад прарокам і выліваліся ў пакаяннях за тое, што працягвалі заставацца да апошняга часу ў шматбожжы. Зараз яны кляліся адмовіцца ад сваіх памылак і, асьвяціўшыся сьвятлом ісламa, накіраваць свае дзіды, куды пакажа прарок. Пачынаючы з гэтага часу «сталіцы» мела быць толькі радавацца і рыхтаваць зброю для працягу сьвятой вайны.

# Глава V.

## Поўны трыумф.

Адначасова з павелічэннем колькасьці ісламіцян, – запэўніваюць нас – павялічвалася і прывабнасць іхнага прарока і не толькі ў вачах прыхільнікаў, але і ў яго ўласных вачах. Ён пачаў узводзіць перагародку за перагародкай паміж сабой і

супляменнікамі, разумеўшых роўнасць у сэнсе панібрацтва. Жадаючы паменшыць колькасць назойлівых прашэнцаў, ён абвясьціў вернікам, каб яны, перш чым пачынаць з ім размову, падавалі якую-небудзь міластыню.

– «*За гэта вам будзе добра ад бога, пры тым жа гэта вельмі добрапрыстойна*».

Але падаўшыя міластыню лічылі ўжо сваім аплочаным правамісьці да прарока, не абцяжарваючы сябе ўмоўнасьцямі аўдыенцыі і называлі яго проста на імя, без тытула. Такое іхнае нахабства абурала «Славутага» да таго, што анёл Гаўрыіл, пашкадаваўшы яго, абвясьціў усім:

– «*Не называйце прарока так, як вы паміж сабой называеце адзін аднаго...*»

І вось прарок Магамет у VII стагоддзі нашай эры ў пустыннай Аравіі, да здзіўлення глыбакадумаючага чытача набыўшы ўсе характэрыстычныя рысы першых турэцкіх султанаў, бачыцца як быццам бы спісаным з султана Магамета I у XV стагоддзі нашай эры ці, прынамсі, з Махмуда Газнійскага, заваёўніка XI стагоддзя.

З дапамогай усё таго ж «каранічнага» шляху, ён выдае цэлы цырыманіял стаўлення да сваёю асобы. Усе, пачынаўшыя з ім размову, павінны былі слухаць яго без пярэчанняў і прыстасоўваць свой голас так, каб ён быў цішэйшым чым яго голас.

Нічым і нікім больш не абмяжоўваемы, ён заняўся пашырэннем свайго гарэма да памераў, пра якія не марыў ніводны шматбожнік. Знаходзячыся ў атмасферы сваёй велічы, ён надаў як сваім жонкам так і наложніцам становішча «маці вернікаў», жывымі прызначанымі ў жыхаркі раю.

Стан карэйшытаў, здрадзіўшы яму падчас нападу на яго Мекі, не зрабіў нічога, што магло б выратаваць яго ад помслівага гневу прававернага прарока. Пагэтаму як толькі на мінарэце сваёй «сталіцы» залунаў зялёны сьцяг, каб да яго сабраліся тры тысячы ўзброеных людзей, якім выдадзеная напярэдадні глава Карана давала загад агаліць меч адзінабожжа і біць няверных...

Супраць гэтай магутнасьці карэйшыты змаглі выставіць, ды і то пасьля доўгіх прыгатаванняў, не больш за шэсць соцень чалавек. Баючыся пры такіх суадносінах магутнасьцей не толькі паразы, але і поўнага вынішчэння, яны захаваліся ў сваіх замках, дзе не без жаху чакалі хуткай аблогі дысцыплінаваным і дасьведчаным ворагам, не грэбуючым ніякімі сродкамі.

І сапраўды іхныя ручаі былі адведзены ад замкаў, гаі высечаны, быдла адагнана і абложаным нічога не заставалася як паміраць галоднай сьмерцю ці здацца на волю пераможцы. І яны здаліся ў колькасьці 600 чалавек мужчын з жонкамі і дзецьмі, нягледзячы на тое, што іхныя ўмацаванні яшчэ мелі шмат сродкаў абароны.

У прававерных знайшлося дастаткова ланцугоў, каб абцяжарыць імі шэсць соцень мужчын, якіх павялі на пакаранне сьмерцю ў «сталіцу». Тут на пляцы былі выкапаны ёмістыя магілы, і ў іх разьмясьцілі ўражаных жахам палонных. Паведамляюць, што новы султан асабіста прысутнічаў пры выкананні прысуду і, ва ўсякім разе, не адвёў ніводнага каменя, ніводнай стралы, сыпаўшыхся на галовы вязняў.

Пабоішча працягвалася цэлыя суткі, на працягу якіх пераможцы дзялілі здабычу. Прарок-султан атрымаў пятую частку, пешым ваярам дасталася па аднаму жэрабю, а коннікам – па два. Перлінай той долі, якая дасталася «Славутаму», была дзяўчына Рыхана, дачка заможнага карэйшыта, першая красуня загінуўшага стану. Яна ўпрыгожыла сабой гарэмнае мястэчка прарока і пакорліва прыняла іслам.

Наносячы ўдар за ўдарам бедуінам і паслядоўнікам Юды-Настаўніка, «Славуты» адчуў сябе дастаткова моцным, каб запатрабаваць вольнага пропуску ў Меку. Найбольш заўзятыя із яе жыхароў схапіліся за мячы, але партыя разважлівых пачала пераконваць суграмадзянаў у немагчымасьці абараніць богаў метэарытнага храма перад зброяй новага Саламона. Самыя заможныя карэйшыты, згубіўшыя і без таго ў змаганні са «сталіцай» усе выгады караваннага гандлю, асьцерагаліся, што прававерныя забяруць і рэшткі іхнай маёмасьці і не спыняцца перад паўтарэннем над імі свойго жахлівага прысуду над карэйшытамі. Згадванне пра гэту падзею дало верх партыі разважлівых і карэйшыты пагадзіліся дабраахвотна адчыніць прававерным брамы Мекі з умовай, каб тыя прыйшлі без зброі і, памаліўшыся богу-Грамабою ў храме метэарытнага каменя, вярнуліся б назад.

І вось султан-прарок пацешыў сваіх паплечнікаў, распавёўшы ім сваё прарочае снабачанне пра хуткі пераход Метэарытнага храма пад кіраванне прававерных.

Згодна з аднымі паданнямі сем соцень, а згодна з іншымі тысяча пяцьсот прававерных, несучы на сабе толькі зброю шляхетных – мячы, накіраваліся да Мекі без зялёнага сьцяга, але з частымі воклічамі: «*Алах акбар*!».

Іхны правадыр на гэты раз абмежаваўся заключэннем мірнай дамовы на дзесяць гадоў з карэйшытамі, якія мелі жаданне, чаго б гэта ні каштавала, аднавіць караванны рух у Сірыю. Новы султан, – паведамляюць нам, – закончыў гэты пераможны шосты год Геджры выпраўленнем сваіх амбасадараў да візантыйскага імператара Гераклія, які знаходзіўся ў тую пару ў Сірыі, а таксама да арабаў-пасанідаў і да цара Абісініі. Імператар, толькі што перамогшы Персію і аднавіўшы даўно згубленыя межы Візантыі, быў – згодна са здагадкамі больш позьніх гісторыкаў – не мала здзіўлены атрыманнем запрашэння ад нейкага араба, называўшага сябе апосталам бога. А Ягіпет – паведамляюць нам тыя ж першакрыніцы, забыўшыся пра тое, што ён тады быў пад уладай візантыйскага імператара Гераклія, пасмяяўся над яго запрашэннем.

Шпіёны даносілі карэйшытам, што прававерныя не выканаюць дзесяцігадовы тэрмін перамір'я і з'явяцца пры першым зручным выпадку для завалодання Мекай. Карэйшыты не пажадалі паверыць шпіёнам, таму што ў Аравіі сьвята паважаліся дамовы заключаныя перад храмам метэарыта. Але, нарэшце, і дзядзька прарока Аль-Абас, працягваўшы заставацца шматбожнікам, заявіў меканцам, што «сталіца» ужо не ўмяшчае ў сваіх сьценах натоўпы прыйшоўшых новапасьвечаных, далучыўшыхся да мяча адзінабожжа і да ідэй сьвятой вайны за яго. Каля мястэчка прарока выцягнуліся бясконцыя шэрагі шатроў, у якіх сыны пустыні маліліся зараз так жа руплíва, як і тачылі свае мячы і дзіды і напаўнялі калчаны трысняговымі стрэламі.

Пад пагрозай насоўваючайся навальніцы карэйшыты пайшлі на ўсе саступкі, але, прызначаны галоўнакамандуючым атрадамі прававерных – Амар, пакляўся не выпускаць ручку мяча, пакуль не прыйдзе пад дах Нябеснага каменя. «Славутаму» даводзілася стрымліваць палкія жаданні сваіх ваяроў, рыхтаваўшыхся паўсюдна адсякаць галовы супернікам, абвяшчаючы:

– «*Іслам ці тваё жыццё!*».

Неўзабаве, згодна з загадам прарока-султана, усе партызанскія набегі былі спынены і толькі ў накірунку да Мекі былі выпраўлены шпегі, яны ж і застрэльшчыкі рыхтаваўшагася на яе нападу.

Бедуіны – прыхільнікі абодвух бакоў – выявіліся першымі парушальнікамі сьвятой дамовы пра дзесяцігадовае перамір'е. Услед за імі, згодна са знакам «Славутага» із яго «сталіцы» выйшлі ў передавой калоне ансары пад правадырствам Алі, за імі мугаджыры пад правадырствамАбу-Бекра і нанова далучыўшыяся да ісламу плямёны: племя абсе, яшчэ захаваўшае гераізм свайго вялікага вайсковага правадыра Антара, племя казаа і бедуіны, страціўшыя сувязь з роднымі шатрамі. Усведамляючы, што справа Мекі прайграна, у лагер прарока з'явіўся перадусім сам яго дзядзька, шматбожнік Аль-Абас, які прынёс перад пляменікам пакаянне і клятву служыць ісламіцянам верай і праўдай. «Славуты» зрабіў яму ласку, даручыўшы служыць правадніком яго войска, нястрымана рухаўшагася да Мекі...

За Аль-Абасам у лагеры прававерных з’явіўся Абу-Саф'ян, патрапіўшы нечакана ў рукі Амара. Разважлівы купец палічыў больш мэтазгодным здрадзіць сваім багам і прызнаць адзінабожжа, а разам з тым і «Славутага», як боскага апостала. Пры гэтым ён дамовіўся пра літасць меканцам, прынамсі тым, якія выйдуць насустрач без зброі і прымуць прысягу на вернасць зялёнаму сьцягу.

Зараз прарок-султан спяшаўся да храма метэарытнага каменя, каб вызваліць яго ад куміраў. Па баках яго страмён, выступалі – Бялял, які рыхтаваўся абвясьціць «азан», ансары, мугаджыры і легіён прававерных з тварамі пазначанымі духоўным захапленнем. Магчыма, да гэтага душэўнага стану дамешвалася ў некага і пачуццё крыўды, таму што авалоданне Мекай прайшло без рабаванняў, але зацьвердзіўшыся прарок ужо прывучыў сваіх паслядоўнікаў падначальвацца дысцыпліне.

Дакрануўшыся сваім кіем з пачуццём глыбокай павагі да метэарытнага каменя, «Славуты прарок-султан» сышоў на зямлю і ціха накіраваўся мерным крокам, з паднятымі да неба вачамі вакол храма. За ім ішла сьвіта яго набліжаных, а навакол храма стаялі шчыльным колам шэрагі прававерных. Меканцы адышлі на задні план. Сем, разоў абыйшоў правадыр прававерных вакол храма і столькі ж разоў паважна апускаў позірк перад каменем, на якім згодна з паданнем заставаўся адбітак нагі Аўраама.

Хадж быў закончаны.

Паданні не паведамляюць, хто першым занёс руку на Габала, давальніка дажджу, на статую Аб-рама ці на хрысьціянскага голуба, адлюстроўваючага сьвятога духу, але, вядома, гонар першых udaраў належаў Амару, Алі і іхым таварышам па мячу і веры. На працягу ўсяго дня ў сьценах храма быў хаос. Парэшткі разбітых статуй Узы, Алаты і Менаты змешваліся з аскепкамі другарадных бажышчаў, Ягука, Ягуса і Несра. Із усіх трохсот шасьці дзесяці багаў утварылася куча смецця.

Пасьля разбурэння статуй Белял узлез у нішу, у якой некалькі стагоддзяў знаходзіўся Габал, і абвясьціў «азан». Муслімы адказалі пераможным «алах-акбар!» – і шматбожжа Мекі было знішчана назаўсёды.

Правёўшы ў Мецы не больш за два тыдні, прарок-султан прызначыў у ёй сабе намесьніка і вярнуўся ў «сталіцу». Шматбожнікам быў падараваны чатырохмесяцовы тэрмін для прыняцця прававер'я. Пасьля гэтага тэрміну яны пазбаўляліся права наведваць Меку і здзяйсняць на яе зямлі якія б то ні было набажэнствы.

Але ў народзе існавалі чуткі, што прарок не даўгавечны і што з яго сьмерцю Кааба зноў пабачыць сваіх спрадвечных багаў і багінь. Атрымаўшы

чатырохмесяцовую адтэрміноўку для поўнага вывучэння праваver'я, меканцы схавалі сваіх хатніх куміраў у бяспечныя месцы. Адных яны замайстравалі ў сьцены, другіх – у цюкі з поўсьцю, а мініяцюры падвесілі ў выглядзе кудменяў да доўгія шыі драмадэраў. Пабываўшы, згодна з заклікам Беляля, пры пяціразовым намазе, меканец ачышчаў сваё сумленне ў сядзібе таемным паклонам свайму куміру ці спачувальным паглядам на месца яго таемнага захоўвання.

Што ж да навакольных плямён і замкаў асобных шэйхаў, то туды былі пасланы экзэкуцыйныя атрады з прамым патрабаваннем далучыцца да праваver'я ці высяляцца за межы Аравіі.

Зараз ужо не было ваганняў наконт дакладнай рэдакцыі знака: «няма бога, акрамя бога і «Славуты» яго прарок». Адмовіўшыяся прызнаць яго прарокам прызнаваліся няверным і, непакорлівымі і пазбаўляліся нароўні з закаснелымі паганцамі не толькі надзеі на пасяленне ў нябесным раі, але і грамадзянскіх правоў на зямлі...

У Таіф былі выпраўлены найбольш разумныя і спакойныя настаўнікі праваver'я, але прыхільнікі Алаты накіравалі заклік да рэлігійнай апазіцыі па ўсёй Аравіі і на гэты кліч да іх сабраліся незадаволеныя элементы гарадоў, пустынь і аазісаў. І шматлікія меканцы, схаваўшы сваіх куміраў, збеглі ў Таіф, як у апошні прыстанак абражаных і прыгнечаных. Грамадзяне Таіфа замкнулі цытадэль, паднялі масты, атачылі гаі аліваў і фінікаў апранутымі ў кальчугі асілкамі і адказалі толькі смехам, калі пасланец «Славутага» раскінуў свой кілімок і, звяртаючыся да кіблы, абвясьціў:

– «*Ла-Іллахі-аль-Іллах*!»...

Але замест вайсковай экзэкуцыі прарок-султан выкарыстаў тут іншы, больш надзейны сродак: усе нявольнікі, апрацоўваўшыя палеткі і гаі непакорлівых паганцаў, былі абвешчаны вольнымі і, вядома, неадкладна абвясьцілі сябе праваvernымі, так што іхныя гаспадары апынуліся паміж двух небяспек. Усярэдзіне горада яны сутыкаліся з разбіўшымі свае ланцугі рабамі, а за сьценамі цытадэляў – з дзідамі рабаўнікоў, наплыўшых сюды ў імя веры і прарока.

Наступіла пара апрацоўкі палеткаў і выпраўлення арашаючых каналаў, але працаваць не было каму. Гаспадары не былі ў стане абыйсьціся без дапамогі разбегшыхся рабоў. Ды і сам ўраджай вінаграду выявіўся б не маючым карысьці, таму што за сьценамі цытадэляў віднеліся варожыя шатры і людзі, перапыніўшыя караванныя спалучэнні з Таіфам. Алаха маўчала. Настаў недахоп вады і памяншэнне дабрабыту ў параўнанні са сьвяткаваўшай Мекай і весяліўшайся «сталіцай».

Знясіленаму Таіфу заставалася толькі пайсьці следам за іхным прыкладам і выправіць да «Славутага» дэпутатаў для перамоваў пра пераход ад шматбожжа да ісламa.

Таіф схіліўся, але ніхто ў ім не адважыўся накласьці руку на багіню, якая так доўга служыла тут свайму народу. Дэпутатам давялося яшчэ раз пабываць у «сталіцы» і прасіць пра дасыланне адтуль людзей, здольных знішчыць Алату. Недахопу ў жадаючых не было, выпраўлены прарокам Аль-Магейра пабіў яе кавальскім молатам. Паданне Алаты на зямлю азначала канчатковае знішчэнне шматбожжа ў Аравіі.

Стараннасць, з якой ансары і мугаджыры, а за імі і ўсе прававерныя ўзяліся за знішчэнне статуй, не перапынілася і пасьля сьмерці прарока. Яна перайшла ад продкаў да нашчадкаў, утвараючы ў кожнай генерацыі новыя прылівы фанатыкаў.

Так паведамляюць нам гісторыкі ісламу, выводзячы адсюль і «іконазмагальніцтва» ўспыхнуўшае ў Візантыі праз сто гадоў пасьля Аравіі, калі імператар Леў III Ісаўранін у 726 годзе выдаў загад разбіваць усюды статуі і ламаць дошкі з выявамі бацькі і сына, і сьвятога духу, панны Марылі і ўсіх апосталаў, прарокаў і сьвятых.

Але ці сапраўды візантыйскае іконазмагальніцтва, працягваўшаяся з пераменным поспехам аж да 842 года, калі царкоўны сабор пры імператары Тэафіле аддаў падобныя ўчынкі анафеме, было наступствам аравійскага іконазмагальніцтва пры «Славутым прароку-султану»? Усё гэта не вельмі праўдападобна, і значна больш натуральна выказаць меркаванне, што на Аравійскай паўвыспе, як больш дзікай мясцовасьці, разбурэнне статуй было толькі пазнейшым водгаласам візантыйскіх падзей і толькі апакрыфікавана арабістамі на некалькі стагоддзяў назад.

Больш праўдападобнымі з’яўляюцца паданні пра ўсталяванне ў VII стагоддзі нашай эры толькі пілігрымства да аскепкаў метэарытнай катастрофе ў Меку, калі, напэўна, яны і зваліліся.

Вось як паведамляецца пра гэта.

«*Наступіў дзясяты год Геджры і шэсцьдзесят трэцці жыцця прарока, калі на ўсёй прасторы Аравіі пачуўся заклік да сьвятога вандравання ў Меку*.

*Прарок прызначыў два зборныя пункты: для людзей поўначы – Ясрыб* (Медына) *і для паўднёвых паломнікаў – Таіф, з тым каб перад уваходжаннем у Меку абедзьве масы паломнікаў злучыліся ў адно велічнае шэсьце муслімаў. Народу дазвалялася ісьці ў звычайным адзенні, хаця прарок і яго набліжаныя з'явіліся ў падарожным уборы із грубай поўсьці чорнага колеру...*

*Народ прагна назіраў за ўсімі рухамі прарока-султана. Вось ён прыклаўся да Нябеснага каменя і метадычна, крок за крокам, абыйшоў сем разоў вакол яго Скініі. Было бачна, як яго вусны шапталі ў гэты час малітву за малітвай. Пасьля сяміразовага абыходжання Скініі, ён накіраваўся да студні Зям-Зям. Тут Аль-Абас паднёс яму чарку вады для піцця і цэбар для абмывання з ног да галавы. Адсюль ён накіраваўся да сьвятых узгоркаў Сефо і Мерве і сем разоў прабег паміж імі хуткім крокам.*

*Пасьля вяртання ў Меку ён перамяніў адзенне...*

*Праграму паломніцтва, у якую было ўключана двухразовае кіданне камянёў супраць уяўляемага сатаны на гары Арафат і ў даліне Мін, прарок завяршыў прынясеннем у ахвяру вярблюдаў, якіх ён забіў асабіста і потым раздаў ахвярнае мяса паломнікам. Адпаведна колькасьці гадоў свайго жыцця роўную 63 гадам ён прынёс у ахвяру 63 вярблюды. Здзейсніўшы гэты вялікі цырыманіял, ён агаліў першы раз за ўсё вандраванне свае валасы і абрэзаў пазногці, раздаючы атачаючым яго муслімам свае абразанні, як рэчы не малой сьвятасьці...*

*На працягу гэтага багамолля, якое ў жыцці прарока было апошнім, ён вымавіў некалькі павучанняў слухаўшым яго да сотні тысячам муслімаў. На Арафаце ён нагадаў, што хаця сатана і не мае ўлады над муслімамі, але ўсё ж патрэбна асьцерацца яго, бо ён хітры і жывучы.*

*Закончыўшы хадж, ён, стомлены, падаў знак вяртання дахаты. Людзям патрэбна было разысьціся ў розныя бакі, але большасць паломнікаў пажадала правесьці прарока да паловы шляху да сталіцы*».

Вось першае паведамленне, якое даводзіцца прызнаць праўдзівым із ўсім, што я да гэтага часу перадаў: усталяванне ў VII стагоддзі нашай эры пілігрымства дзеля ўшанавання аскепкаў мекскага метэарыта пад правадырствам нейкага сьвятара, прыбыўшага туды са «сталіцы» (па-карэйшыцку: медынэт), але толькі атаясамляць гэтую «сталіцу» з аравійскім Ясрыбам, толькі значна пазней

атрымаўшым назву Медына (ці правільней Медынет-Эль-Нэбі – сталіца прарока), вельмі неасцярожна. Хутчэй усяго гэта быў сьвятар із нейкага культурнага горада накшталт Александрыі ці Каіра, да якіх дакаціліся хвалі буйнай метэарытнай катастрофы каля Мекі, пра што я буду асобна разважаць пазьней. І гэты сьвятар мог быць ядром паданняў, на якое напластаваліся цэлыя шэрагі больш пазьніх паведамленняў, маючых дачыненне цалкам да іншых «Магаметаў».

А зараз я пакуль закончу той гістарычны раман, з якім я палічыў патрэбным папярэдне пазнаёміць чытача, каб пазьней паказаць яго фантастычнасць.

Ёсць шмат падставаў лічыць, – паведамляюць нам сучасныя біёграфы султана-прарока, – што ў апошнія гады свайго жыцця Магамет быў толькі сьцягам для яго ваяўнічых прыхільнікаў, Абу-Бекра, Асмана, Алі і г.д. Справа ў тым, што пасьля сьмерці сваёй першай жонкі Хадыджы, пражыўшай з ім 25 гадоў, ён аддаўся неўтаймаванаму жанчыналюбству. Вось як распавядае пра гэта Чэрэванскі, якога я ужо не раз цытаваў, таму што ён малюе псіхалагічны бок прадмета (хаця прадмет гэты і з'яўляецца простым раманам) нашмат лепш, чым астатнія біёграфы Славутага[43].

«*Акрамя матэрыяльнай забяспечанасьці, Хадыджа напоўніла душэўны сьвет каханага ёю чалавека спакоем і поўнай воляй, як у жыцці, так і ў палётах фантазіі, выносіўшай яго ў завоблачныя вышыні. Служачы Магамету апірышчам на зямлі, яна ахвотна вяла перамовы з варожай яму партыяй і служыла пасярэдніцай у яго сутыкненнях з асабістымі і палітычнымі ворагамі. Яна першая прызнала ў ім чалавека, пазначанага пальцам прывіду, першая паверыла ў абвешчаны ім дагмат і ніколі ні ў чым не змяняла яму да імгнення, калі анёл сьмерці вызваліў яе душу із цялеснай абалонкі. Ні ў адной са шматлікіх гарэмных спадарожніц Магамет больш не сустрэў такога рахманага, разумнага і заспакойваючага суцяшэння, якое ён знаходзіў з боку памёршай сяброўкі. Але аравіцянка ў шасьцідзесяціпяцігадовым узросьце – гэта ўжо старая, і папоўнены пасьля сьмерці Хадыджы гарэмны персанал прарока часьцяком пасмейваўся над сваім гаспадаром, калі ён нахвальваў добрыя якасьці сваёй «бяззубай». Апошняе найменне было дадзена нябожчыцы Хадыджы самай юнай із жанчын яго гарэма, Айшой, якая дастаўляла прароку і хвіліны асалоды, і гадзіны душэўных трывог, нараджаўшыхся пры наяўнасьці падставаў да справядлівай рэўнасьці.*

*Відавочна адны матчыны клопаты Хадыджы былі недастатковымі для Магамета, які і паспяшаўся развярнуцца ва ўсю шыр пасьля яе сьмерці на ніве канкубінату. Родапачынальніцай нараджаўшагася гарэма была сямігадовая дзяўчынка Айша, дачка Абу-Бекра. Пры ўсім лёгкім стаўленні жыхароў поўдня да ўзросту жанчын, Айша ніяк не магла у той час быць поўнапраўнай жонкай, і прагна назіраўшы за ёй Магамет бачыў у ёй на працягу першых гадоў пасьля заручын, толькі любага дзіцёнка, патрабуючага апякунскай увагі. Шукаючы ёй настаўніцу, ён адружыўся з ранейшай карміцелькай сваёй дачкі Фаціме – Саўдай, ужо падыходзіўшай да ўзросту матроны і такім чынам вельмі слабай суперніцы дасьціпнай і гарэзлівай Айшы.*

*Вяселле з Айшой Магамет адсвяткаваў ужо ў Медыне* (г.азн. у перакладзе: у сталіцы), *куды пасьля яго перасялення із Мекі карэйшыты без перашкод выпусьцілі ўсіх блізкіх яму людзей, і з іх хутка ўтварыўся прыгарад, із якога пазьней выраслі і пашырыліся амаль па ўсяму сьвету аазісы ісламіцян. Вяселле Магамета з Айшой адбылося прыблізна на 54-м годзе яго жыцця, так што розніца іхнага ўзросту даходзіла да сарака гадоў. Айша была адзінай із жонак Магамета, аддружыўшайся з ім дзяўчынкай, тады як усе іншыя, паступіўшыя да яго ў гарэм, былі то ўдовамі, то разведзенымі жонкамі і нарэшце паланянкамі, дастаўшыміся яму згодна з правам вайсковай здабычы.*

[43] Чэрэванскі: Сьвет Ісламa І Яго Абуджэнне, І. 140-145.

*Калі нябожчыца Хадыджа ставілася з глыбокай павагай да свайго маладога чалавека, то зараз надышла чарга апошняга аддацца дзіцяці-жонцы з усім запалам кахання. Айшы не цяжка было набыць над ім уладу шануемага тырана, таму што паданні малююць яе чараўніцай, якая мімаволі зачаравала лепшых із аравійскіх юнакоў. Увага апошніх не абмінула раўнівых паглядаў яе чалавека, які, пакідаючы дзеля вайсковых справаў Медыну* (г.азн. сталіцу), *не адважваўся пакідаць у сябе за спінай Айшу нават і пад пільным наглядам Саўды ці сваякоў, зорка ахоўваўшых яго спакой.*

*Айша суправаджала Магамета і ў паходзе супраць племя Бэні-Мусталік. Пры вяртанні ісламіцян, на апошнім пераходзе, адбыўся эпізод, надоўга атруціўшы сардэчны спакой прарока. Пасьля прыходу атрада на адпачынак выявілася, што замацаваны на драмадэры паланкін Айшы быў пустым. У лагеры пачаўся перапалох. Не паспелі аднак выпраўленыя дзеля выведкі служкі засядлаць бегуноў, як на гарызонце пустыні з'явіўся вярблюд, суправаджаемы маладым арабам Сафванам.*

*На вярблюдзе была Айша. Зайздросніцы, якім не пашчасьціла патрапіць у гарэм прарока, скарысталіся гэтым загадкавым здарэннем. Выслухоўваючы з усіх бакоў крыўдныя заўвагі, Магамет запаў у пануры стан духу. Айша выказала вельмі наіўнае тлумачэнне:* «*Пры разбіранні лагера яна згубіла сваё запясьце і пайшла шукаць яго, не папярэдзіўшы пра гэта вярблюда-важатага: знайшоўшы згубленае запясьце, яна не знайшла свайго вярблюда. У гэты час з'явіўся Сафван, прапанаваўшы да яе паслуг свайго вярблюда*».

*Айша перадала гэтае апавяданне з горкімі слязьмі. Але Магамета занадта ўжо настроілі супраць дэспата-дзіцёнка, так што ён не адважыўся скасаваць прызначанае ім ёй затачэнне. Дзень за днём яна зацята адмаўлялася ад ежы, выказваючы намер памерці галоднай сьмерцю. Магамет не здаваўся і Айшы давялося вярнуцца ў сядзібу бацькі, надаўшы сабе глыбока-жалобны настрой.*

*Магамету патрэбна было такім чынам ратаваць не толькі свае сардэчныя справы, але і справу ісламa. Гэты пакутлівы эпізод закончыўся ў яго эпілептычным прыпадкам. Яго з'яўленне было, як вядома, і з'яўленнем разам з тым арханёла Гаўрыіла. Апрытомеўшы, Магамет голасна ўсклікнуў: – «Цешся, Айша! Алах паведаміў мне пра тваю нявіннасць*!».

Следам за гэтым абвяшчэннем, напоўніўшым радасьцю ўсю сядзібу Абу-Бекра, ён выправіўся ў храм, куды паспяшалася прыйсьці і ўся «Медына», з нецярпеннем чакаўшая, чым закончыцца сардэчны эпізод прарока. Ён закончыўся яго павучаннем, перадаваўшым, згодна з наказам Алаха, палымянае апраўданне нявінна абражанай жанчыны: для абвінавачвання Айшы, не было ніводнага сведкі, таму, згодна са звычаямі краіны, Магамет паўстаў супраць усіх, хто ганьбіў Айшу, і выдаў крымінальны закон пра пакаранне людзей, вінаваціўшых сумленную жанчыну, васьму дзесяткамі ўдараў пугі. Гэтае пакаранне перш за ўсіх зведаў сатырык Хасан, распусьціўшы па Медыне памфлет наконт Айшы і Сафвана. Была пакарана і адна із мядынскіх прыгажунь. Сафван атрымаў дазвол забіць Хасана, але гэты выратаваў сваё жыццё абяцаннем павярнуць свае сатыры супраць ворагаў прарока. Да той жа эпохі адносіцца і памякчэнне пакарання за здраду чалавеку, калі практыкаваўшаяся раней смяротнае пакаранне было заменена дастаткова значнай колькасьцю ўдараў пугай.

«*Эпізод з Айшай* – працягваюць аўтары – *сам сабой не меўшы сур'ёзнага значэння, аднак меў наступствам каласальнай важнасьці пастанову: насіць усім жанчынам покрывы на тварах. Такім чынам свавольства, захапленне ці неабдуманы ўчынак адной асобы прывёў да таго, што на працягу шматлікіх стагоддзяў шматлікія сотні мільёнаў ісламіцянак глядзяць на божы сьвет праз сетку, якая служыць і зневажэннем жанчыны і адлучэннем яе ад камунікавання з чалавецтвам. Ці аберагае*

*гэтая сетка цнатлівасць? Хай вырашаюць прававерныя, якім бяспрэчна вядома, што сетка паднімаецца без цяжкасьцей – калі няма сведак – перад гяурам*».

Так проста тлумачыцца, чытач, паўсюдны ў прававерным сьвеце звычай яго жанчын хаваць свой твар! Якія ж нязначныя падставы могуць выклікаць вялізныя вынікі! Але ці не прасьцей зрабіць выснову, што ўся гэтая легенда прыдумана ужо ў вельмі позні час для таго, каб патлумачыць тую амаль паўсюдную з'яву ў прававерным сьвеце, падставы якой былі нашмат больш агульнага характару?

Да гэтай жа эпохі жыцця «Славутага» дапасуюць і атрыманне ім непасрэдна з неба прывілею браць усіх, каго пажадае, у жонкі. Яна не абмінула і Каран:

«*Прарок! Мы дазволілі табе браць у жонкі кожную, каму ты дашлеш шлюбныя дарункі: невольніц, дачок тваіх дзядзькаў і цётак, як па маці, так і па бацьку... і кожную веруючую жанчыну, калі ты пажадаеш з ёю адружыцца*» (33. 49).

Пры гэтым бог удакладніў, што такі статут ён дае толькі прароку ў выглядзе выключэння із агульнага адружальнага заканадаўства.

І Магамет не пакінуў без увагі гэты нябесны дазвол, згодна са сведчаннем яго біёграфаў.

Аднойчы, зайшоўшы згодна з правам бацькі ў сядзібу ўсыноўленага ім Заіда, ён пабачыў яго маладую жонку Зэйнабу і, уражаны яе прыгажосьцю, не ўстрымаўся ад усклікання даваўшага магчымасць зразумець, што такой прыгажосьці месца ў гарэме прарока, а не ў яго сына. Удзячны яму Заід, пры ўсёй сваёй прыхільнасьці да сваёй жонкі, не замарудзіў даць ёй развод, пасьля якога нішто не перашкаджала Магамету адсвяткаваць новае папаўненне яго гарэма пышным адружальным баляваннем.

Медына зноў загаварыла пра юрлівасць свайго прарока і пра бязбожнасць яго апошняга ўчынку. Пагалоска была такой моцнай, што іслам разам са сваім настаўнікам зведаў новае цяжкае выпрабаванне. Гэтым разам не толькі шматбожнікі, якія радаваліся выпадку пазласловіць на конт свайго выкрывальніка і суперніка, але нават і мюрыды называлі гэтае адружанне ганебным.

Славуты яшчэ раз адчуў патрэбу ў як мага больш хуткай дапамозе нябеснага заступніка, які міласьціва прадыктаваў яму главу, дазваляўшую адружанне з жонкай усыноўленага чалавека, з непасрэдным указаннем на правільнасць ужо здзейсніўшагася факта. «*Калі Заід выканаў пажаданую справу, то мы злучылі цябе з яго жонкай, каб і на веруючых не было граху злучацца з жонкамі ўсыноўленых імі...*». Гэты наказ неба быў дададзены да Карана, пасьля чаго хваля народнага гоману – кажуць нам – сьціхла. Заід перастаў называцца сынам Магамета і задаволіўся быць сынам свайго сапраўднага бацькі.

Цалкам на схіле гадоў «Славуты» – паведамляюць нам – спяшаўся ўзнагародзіць сваё сціплае жыццё з Хадыджай, так што мусульманскія біёграфы налічылі ў яго мядынскім гарэме 15 жонак і 11 зарэгістраваных наложніц. У кожнай яго жонкі была асобная сакля, але, нягледзячы на такую колькасць наложніц, ён працягваў самастойна рамантаваць свае сандалі, чысціць свой плашч і хадзіць на базар за правізіяй.

Прыгожым паланянкам было цяжка мінуць гарэм прарока. У гэтым дачыненні патрэбна паказаць на Сафію, жонку Кенана, якая дарэчы яшчэ пад час аблогі яе горада бачыла сон, быццам бы Сонца спусьцілася з неба і схавалася ў яе ўлонні. Пасьля разгрому Хэйбара, чалавек Сафіі – першы багацей свайго племені – быў пакараны сьмерцю, а красуня жонка дасталася пераможцы і нават зрабілася адной з яго самых каханых жонак.

Магчыма дапусьціць, што навіна пра юрлівасць прарока перайшла і за межы Аравіі, таму што нічым іншым немагчыма патлумачыць дасыланне яму валадаром Ягіпта ў якасьці падарунка двух жонак. Із іх адна вядома пад імем Марылі Копцкай. Як нявольніца, яна была вымушана задавальняцца таемнымі спатканнямі з прарокам. Аднойчы яны пабачыліся ў саклі Хавы, якая, выявіўшы іхныя адружальныя адносіны, забіла ў набат. Гарэм стаў на яе бок, і гэты маленькі бунт меў наступствам тое, што Магамет, не жадаючы зведаць пагарду сваіх дам, праседзеў цэлы месяц пад замком у сваёй саклі. Гэтая новая прыгода мела наступствам новыя шаптанні ў народнай масе, якія патрэбна было спыніць у імя інтарэсаў ісламу. «Славуты» прыгразіў як Айшы, так і Хаўсе, дзейнічаючым заадно, разводам, што цалкам не адпавядала іхным планам. Яны ўціхаміріліся і ў выніку гэтай гісторыі ў боскай кнізе ісламa з'явілася цэлая глава пад загалоўкам «забарона». У ёй бог дазволіў прароку не звяртаць увагі на гоман раўнівых жонак. «*Ведайце, што Алах і Гаўрыіл дапамогуць свайму ўпадабанаму ўтаймаваць незадаволеных*». Гэтая пагроза была патрэбнай ўжо дзякуючы аднаму таму, што Магамет, абвясьціўшы Марылю вольнай, узвёў яе ў сан жонкі і нават пагражаў прызначыць яе старэйшай ў гарэме. Марыля нарадзіла яму сына Ібрагіма, што прывяло прарока ў неапісваемае захапленне. Хлопчык аднак пражыў усяго паўтара года і памёр на вачах у бацькі. Роспачы Магамета не было межаў. Яго папракалі за разліваючыяся слёзы, нагадваючы, што ён яшчэ не так даўно, у змаганні са звычаямі шматбожнікаў, забараніў праявы смуткавання па нябожчыках.

– «*Што я забараніў*?» – запытаў ён атачаючых. – «*Я забараніў лямант, знявечанне твараў, а не слёзы, якія Алах дараваў чалавеку, як адметны дарунак яго спагады*».

Шматлікасць гарэмнага персаналу, – здагадваюцца біёграфы «Славутага»,– прыводзіла да непазбежных наступстваў: пастаянным спрэчкам, плёткам, узаемным кпінам і змоваў адных жонак супраць іншых. Жаданне схіліць чалавека на свой бок вяло да сварак, падкопаў і інтрыг. Сустрэўшыся дамы гарэма не маглі размінуцца, не абазваўшы адна бругую неразумнай, былой нявольніцай ці какоткай, гатовай здрадзіць прароку за жалезны бранзалет на шчыкалатцы нагі. І ўсё ж усе жанчыны Аравіі імкнуліся да яго гарэма, як мухі да стода Каабы, аблітага ахвяравальным мёдам. Калі прарок піў мёд у Хаўвы, то Айша пераконвала, што ад яго дрэнна пахне. Калі ён прыводзіў у гарэм новую жонку, то яе навучалі сказаць нешта такое, што мела б наступствам непазбежную сварку са «Славутым».

Нябеснаму заступніку, – паведамляюць нам благія языкі яго гісторыкаў, – даводзілася то і справа разбірацца ў сварках і ўладкоўваць справы сваіх жонак.

Пытанне, як прароку дагадзіць усім, служыла прадметам агульнага абмеркавання гарэма. Пагадніліся на тым, што яму патрэбна жыць па трое сутак з кожнай жонкай. Адны жонкі маглі саступаць свае правы іншым. Але прарок нярэдка парушаў гэтае правіла і тады гарэм пачынаў з ім змаганне, якое зноў даводзілася вырашаць пагрозамі:

– «*Беражыцеся* – паведамляе Каран яго жонкам – *наракаць, таму што бог можа замяніць усіх вас на лепшых жанчын і дзяўчын*».

А пачаўшаяся рэвалюцыя, – паведамляе нам той жа Чэрэванскі, – ішла сваім шляхам, ужо незалежна ад свайго першапачатковага кіраўніка, стаўшага толькі яе намінальным натхніцелем. Хутка пачаліся перадавыя сутыкненні[44] ісламіцян з гасанідамі і памежнымі патрулямі візантыйцаў. У ліку першых загінуўшых у гэтай

[44] Чэрэванскі «Сьвет ісламa і яго абуджэнне», II, 153-160.

сьвятой вайне быў Заід, а за ім загінулі і яго намесьнікі. Прававерныя вярнуліся назад, як і патрэбна было чакаць.

На працягу некалькіх гадоў пасьля зведанай паразы «Славуты» – кажуць нам – накіроўваў сваіх ваяроў на паўстаўшых супраць яго аравійскіх бунтароў і старанна рыхтаваў меч сьвятой вайны над галавой імператара Візантыі. Сабраўшы да Медыны велічэзныя натоўпы бедуінаў, выдатна разумеўшых памеры той здабычы, якую яны маглі б набыць у выпадку поспеху «на шляху боскім», прарок прызначыў галоўнакамандуючым сына забітага Заіда, якому мела быць адпомсціць за сьмерць бацькі. Усё было гатова да выступлення ў паход. Новы галоўнакамандуючы ўжо разгарнуў зялёны сьцяг, але ў гэты самы час «Славуты» (каб выручыць сваіх гісторыкаў) адчуў прыступы ліхаманкі. Хваравітыя прыпадкі пачуліся ў грудабрушной вобласьці, што наводзіла хворага на ўспаміны пра паднесеную яму хайбарскай юдэйкай атручаную ежу. Прарок-султан не разлічваў на акрыянне, і думка пра набліжаючуюся сьмерць не пакідала яго ўжо да хвіліны сапраўднага з'яўлення каля яго падгалоўя анёла Ізрафіла.

Разгледзім жа больш падрабязна яго апошнія дні і гадзіны, карыстаючыся гэтым разам фундаментальнай кнігай Вільяма Мьюра: «Жыццё Магамета грунтуючыся на арыгінальных крыніцах».

# Глава VI.

## Смерць заснавальніка прававе р'я.

«*У нядзелю вечарам*, – паведамляе Вільям Мьюр[45], – *прарок адчуў сябе дрэнна. Чулі, як ён маліўся, відаць, чакаючы сьмерці*: – «*О, душа мая! Навошта ты шукаеш іншы прыстанкуак, а не ў богу адзіным*?».

*Раніца прынесла палягчэнне. Ліхаманка і боль паменшыліся, здольнасьці збольшага вярнуліся. Дзякуючы таму, што ўсім было вядома пра цяжкі прыступ ліхаманкі ў прарока пад час папярэднічаўшай ночы, то мячэць зранку напоўнілася ўсхваляванымі малельнікамі. Абу-Бекр як звычайна чытаў малітвы. Як імам, ён стаяў на месцы Магамета спінай да маліўшыхся. Ледзь ён закончыў першае каленасхіленне, і народ падняўся, каб зноў упасьці ніц, як покрыва дзьвярэй із пакоя Айшы налева, і крыху ззаду Абу-Бекра, павольна адсунулася набок і з'явіўся сам прарок. Далучаючыся да малельнікаў, ён шапнуў на вуха падтрымліваўшаму яго Аль-Фадле, сыну Аль-Абаса:*

*– «Усемагутны сапраўды асьвяжыў мяне малітвай».*

*І ён агледзеўся навакол з радаснай усмешкай, заўважанай усімі, хто ў гэтую хвіліну глядзеў на яго. Гэтая ўсмешка, без несумневаў, была прыкметай яго глыбокага шчырага хвалявання.*

*Якія сумневы і жахі адольвалі прарока, калі ён ляжаў на сваім сьмяротным ложку і адчуваў, што набліжаецца гадзіна, калі ён павінен даць справаздачу богу, прарокам якога ён сябе абвясьціў, – гэтага нам не паведамляе ніводнае із паданняў. Суперніцкія дамаганні Талейла-Аль-Асвада і Музейліма маглі, магчыма, абудзіць у ім сумневы, падобныя тым, якія пры пачатку яго рэлігійнай місіі раздзіралі яго душу. Але калі пытанні і жахі і сапраўды ўзнікалі ў яго розуме, то адна толькі выява шматлікіх молячыхся, набожных і сур'ёзных, павінна была заспакоіць яго і надаць бадзёрасць.*

*– Тое, што прыносіць добрыя вынікі, – напэўна, казаў ён сабе, – павінна быць добрым само па сабе.*

---

[45] Sir William Muir: «The life of Mohammad from original sources». 1923. Chapters XXXIII-XXXV. Пераклад Ксеніі Марозавай.

*Яго місія, перарадзіўшая нізкіх ідалашанавальнікаў у набожных вернікаў, якімі былі знаходзячыяся перад ім; місія, прынятая ім і штодня выробляючая гэтую дзіўную перамену, без сумневаў была боскага паходжання, і голас з неба, заахвоціўшы яго ўзяць яе на сябе, павінен быў быць голасам усемагутнага, праяўленым з дапамогай яго пакорлівага духу. Магчыма, што падобная думка прабегла ў гэтае імгненне ў галаве прарока і асьвятліла яго твар вясёлай усмешкай, перадаўшай радасць усім атачаючым.*

*Затрымаўшыся на хвіліну на парозе свайго жылля, прарок, усё яшчэ падтрымваемы сваімі спадарожнікамі, павольна пайшоў наперад туды, дзе стаяў Абу-Бекр. Шэрагі маліўшыхся расступіліся перад ім. Абу-Бекр пачуў шоргат (на малітве ён ніколі не аглядаўся і не глядзеў па баках) і, здагадваючыся пра яго нагоду, зрабіў крок назад, каб саступіць «Славутаму» месца імама. Але той папрасіў яго рухам рукі працягваць і, узяўшы яго за руку, падышоў да ўзвышэння. Тут ён сеў на падлогу каля Абу-Бекра, аднавіўшага службу ў звычайным выглядзе.*

*Калі малітвы скончыліся, Абу-Бекр загаварыў з прарокам. Ён вывазаў радасць, бачучы яго на выгляд здаровым.*

*– О, прарок, – прамовіў ён, – дзякуючы богу, сёння табе лепш, як мы ўсе гэтага жадаем. У гэты дзень вяртаецца мая жонка, дачка Карыя. Ці магу я наведаць яе?»*[46].

*Славуты даў згоду, і Абу-Бекр выправіўся да сваёй жонкі ў Сун, прадмесьце верхняга горада.*

*Потым прарок нядоўга пасядзеў у двары мячэці, каля дзвярэй жылля Айшы і паразмаўляў з народам, атачыўшым яго і радаваўшымся, што ён зноў з імі. Ён выказваўся ўсхвалявана і такім моцным голасам, што яго можна было чуць за агароджай мячэці.*

*– Клянуся богам, – вымавіў ён, – ніхто із людзей не можа нічога запатрабаваць ад мяне. Мае законы ад бога. Мае забароны запісаны богам у яго кнізе.*

*Калі да яго падышоў развітацца Азама, ён сказаў яму:*

*– Вядзі войска наперад і дабраславенне боскае будзе з табой!».*

*І звяртаючыся да сядзеўшых паблізу жанчын дадаў:*

*– О Фаціма, дачка мая, і ты, Сафія, мая цётачка! Замірыцеся з богам, таму што я не ў стане выратаваць вас».*

*Тут ён падняўся і яму дапамаглі вярнуцца ў пакой Айшы.*

*Гэта быў выбліск дагараючай паходні. Страціўшы моц ён лёг на пасланую на падлогу коўдру. Айша, бачачы, які ён слабы, падняла з падушкі яго галаву і далікатна паклала да сябе на грудзі. У гэтую хвілін нехта зайшоў, трымаючы ў руках зялёную травінку для ачышчэння зубоў. Бачачы, што ён глядзіць на яе, і ведаючы, што ён паважае такія, Айша запытала яго, ці жадае ён яе. Ён кіўнуў у знак згоды. Разжаваўшы яе злёгку, каб зрабіць мяккай і гнуткай, яна палажыла яе ў яго руку. Гэта даставіла яму задавальненне. Ён паднёс яе да рота і на імгненне пасмактаў яе. Потым ён зноў паклаў яе ў рукі Айшы.*

*Ён хутка слабеў. Відаць ён усведамляў, што сьмерць яго набліжаецца. Папрасіўшы жбан вады і памачыўшы ёю твар, ён памаліўся:*

*– Усёмагутны! Дапамажы мне ў маіх смяротных пакутах!.*

*Потым тройчы ўсклікнуў пранікнёна:*

*– Гаўрыіл, зайдзі ў мяне!*

*Тут, у напалову сьвядомым ці ў вар'яцкім стане, ён пачаў дуць на сябе, прамаўляючы малітвы, якія ён меў звычай чытаць над цяжка хворымі. Калі ён ад слабасьці пераставаў, Айша працягвала гэта рабіць сама, дуючы на яго і чытаючы тыя ж малітвы. Бачачы, у якім ён дрэнным стане, яна ўзяла яго правую руку і пачала расьціраць яе (як і ён рабіў з хворымі), без перапынку паўтараючы малітоўныя заклікі.*

*Але ён ужо не мог нічога перанесьці і загадаў ёй:*

[46] З гэтай жанчынай ён адружыўся – дадае Мьюр – у Медыне. Яна паходзіла із племя беніль-харытаў. Усе магаметане пераналі звычай Магамета, які наведваў кожную жонку ў вызначаны дзень.

*– Не чапай мяне, зараз гэта мне не дапаможа.*

*Пасьля невялікага перапынку ён дадаў:*

*– Усёмагутны, прабач мяне і пакліч мяне на нябёсы!.*

*Потым, зноў праз некаторы час, прашаптаў:*

*– Вечнасць у раю! Дараванне! Блаславёнае знаходжанне на нябёсах!.*

*Ён злёгку выцягнуўся. Потым усё заціхла. Яго галава стала цяжкай на грудзях у Айшы. Прарок Аравіі быў ужо не жывы.*

*Далікатна прыўзняўшы яго галаву са сваіх грудзей, Айша пераклала яе на падушку, паднялася і далучылася да іншых жанчын, якія білі сябе ў твар і гучна і гаротна галасілі. Было трохі за поўдзень. Толькі імгненне перад гэтым прарок зайшоў у мячэць радасны і, відаць, здаравеючы. Зараз ён ляжаў халодны і мёртвы.*

*Вестка пра яго сьмерць, хутка пашырылася па Медыне, хутка дасягнула і да Абу-Бекра, які знаходзіўся ў прадмесьці Сун. Ён імгненна падхапіўся на каня і паспешна паскакаў назад у мячэць.*

*У гэты час там адбылася дзіўная пастанова. Неўзабаве пасьля таго як прарок выпусьціў сваё апошняе дыханне, у жыллё Айшы зайшоў Амар. Ён прыўзняў накрываўшую цела тканіну і пачаў пільна прыглядацца да твару свайго памёршага настаўніка. Ён здаваўся такім спакойным, натуральным і так не быў падобным на твар памёршага чалавека, што Амар не змог паверыць сумнай праўдзе. Падхапіўшыся па нагі, ён роспачна закрычаў:*

*– Прарок не памёр. Ён толькі ў непрытомнасьці!.*

*Прысутнічаўшы тут Аль-Магіра дарэмна спрабаваў пераканаць яго, што ён памыляецца.*

*– Ты падманваеш! – усклікнуў Амар, пакідаючы пакой памёршага і выходзячы з ім у двор мячэці. – Апостал боскі не памёр. Твой разбэшчаны розум прыдумаў гэта. Прарок боскі не памрэ, пакуль не выкараніць усю крывадушнасць і бязбожнасць!*

*Натоўп, даведаўшыся пра сьмерць прарока і хутка сабраўшыся каля мячэці, пачуўшы гучныя, разгарачоныя воклічы Амара, атачыў яго, а той працягваў выказвацца падобным жа чынам:*

*– О, прававерныя! Толькі крывадушнік будзе пераконваць вас, што Славуты памёр. Не, ён толькі выправіўся да ўсемагутнага, як Майсей, сын Імрана, адсутнічаўшы 40 дзён і потым вярнуўшыся, тым часам як яго паслядоўнікі пераконвалі, што ён памёр. Гэта праўда, клянуся богам! Прарок вернецца і адсячэ рукі і ногі тым, якія адважыліся сказаць, што ён мёртвы.*

*Амар знайшоў для сябе ўдзячную аўдыторыю. Яшчэ толькі ж нядаўна прарок быў сярод іх, маліўся разам з імі на гэтым жа самым месцы і радаваў іхныя сэрцы надзеяй на хуткае акрыянне. Яго голас толькі нядаўна чуўся ў двары мячэці.*

*Нечаканыя перамены надзеі і роспачы парушаюць раўнавагу духу і перашкаджаюць спакойнаму і безстаронняму меркаванню. Усе папярэднічаўшыя падзеі былі такімі, што народ, захоплены запалам Амара, паверыў яго словам.*

*Якраз у гэты час з'явіўся Абу-Бекр. Праходзячы праз мячэць, ён прыслухаўся на імгненне да дзівацкіх прамоваў Амара, але, не затрымваючыся надалей, накіраваўся ў пакой Айшы. Асьцярожна адсунуўшы фіранку, ён папрасіў дазволу зайсьці.*

*– Заходзь, – адказалі яму із сярэдзіны, – у гэты дзень не патрэбна пытаць пра дазвол.*

*Ён зайшоў і, прыўзняўшы паласатую пасьцілку, ляжаўшую на ложку памёршага, нагнуўся і пацалаваў у твар свайго памёршага сябра, прамовіўшы:*

*– Шануемы ты быў у жыцці, шануемы ты і ў сьмерці.*

*Потым, абхапіўшы рукамі галаву і злёгку прыўзняўшы яе, ён угледзеўся ў добра знаёмыя рысы, акаваныя зараз сьмерцю, і ўсклікнуў:*

*– На жаль! ты памёр, мой сябар, мой шануемы! Ты быў мне даражэй бацькі і маці. Ты выпрабаваў цяжкія пакуты сьмерці.*

*І, намякаючы на дзікія словы Амара, дадаў:*

*– Усемагутны занадта шануе цябе, каб даць табе выпіць другі раз гэтую горкую чарку!*

*Асьцярожна апусьціўшы галаву на падушку, ён яшчэ раз нагнуўся і пацалаваў памёршага ў твар. Потым накрыў посьцілку і выйшаў.*

*Выйшаўшы із пакоя, Абу-Бекр падышоў да таго месца, дзе Амар у сваім узбуджаным стане размаўляў з натоўпам.*

*– Замоўкні, Амар! – крыкнуў ён яму, падыходзячы. – Сядзь і супакойся».*

*Але не зважаючы на яго словы, Амар працягваў свае прамовы. Адыйшоўшы ад яго, Абу-Бекр сам загаварыў з натоўпам.*

*Як толькі яны пачулі яго звыклы голас, яны пакінулі Амара і прыслухаліся да слоў Абу-Бекра, прамаўляўшага:*

*– Хіба ўсемагутны не выказаўся вуснамі прарока: «праўду кажу, ты памрэш і яны памруць?». Хіба не выказаўся ён таксама пасьля бітвы каля Аходы: «Славуты не больш чым прарок. Праўду кажу: іншыя апосталы памерлі да яго». Так што ж із гэтага! Калі ён павінен памерці ці быць забітым, ці не павернеце вы із-за гэтага ад яго назад? Скажыце тым, якія шанавалі Славутага, што ён сапраўды памёр, а тым, якія дачыталі бога, скажыце: «усемагутны жывы і ніколі не памрэ!»*

*Гэтыя цытаты із Карана, падобна пахавальнаму звону, усхвалявалі слых Амара і ўсіх тых, хто падтрымліваў у сабе ілжывую надзею пра вяртанне прарока да жыцця. Спрытны і пранікілвы розум Абу-Бекра, без сумневаў, абдумаў падчас хваробы прарока гэтыя выслоўі із Карана, але атачаючыя спачатку не ўспрынялі іх ў сувязі з тым, што здарылася, як быццам не ведалі, што падобныя словы існуюць у Каране. А калі праўда гэтых слоў паўстала перад імі, яны гучна расплакаліся. Сам Амар быў вымушаны прызнацца:*

*– Клянуся ўсемагутным, калі я пачуў гэтыя словы, вымаўляемыя Абу-Бекрам, жах уразіў мяне. Я ўвесь задрыжаў, упаў ніц і зразумеў усёй істотай, што прарок сапраўды памёр.*

*У той час, калі памёр Славуты, вялікая частка войска знаходзілася ў Джурфе на адлегласьці трох міляў ад Медыны. Яны пайшлі ў свой табар, паспадзяваўшыся на ілжыва папраўляючыся выгляд прарока ў мячэці гэтай жа раніцай. Азама, памятаючы строгі наказ прарока, аддаў загад пра неадкладнае выступленне ў паход і ўжо амаль паставіў нагу ў стрэмя, калі вястун, неадкладна выпраўлены яго маці Ум-Амамай, паведаміла яму пра сьмерць Славутага. Войска адразу ж вярнулася ў Медыну. Азама, папярэднічаючы сьцяганосцам, накіраваўся прама да мячэці і паставіў вялікі сьцяг каля парога сядзібы Айшы.*

*Было каля паўдня, калі нехта паспешна прыбег у мячэць, каб паведаміць, што шляхетныя людзі Медыны, на чале з Сад-ібн-Абадам, сабраліся ў адным із будынкаў горада, маючы намер абвясьціць Сада сваім правадыром.*

*– Калі вы, – звярнуўся ён да Абу-Бекра і астатніх знаходзіўшыхся побач, – маеце намер узначаліць урад, то паспяшаецеся туды, пакуль справа яшчэ не зроблена, інакш супраціўленне апазіцыі будзе мець наступствам складанасьці.*

*Пачуўшы такія словы, Абу-Бекр загадаў, каб ніхто не турбаваў сям'ю прарока, занятую абмываннем і прыгатваннем цела, і паспяшаўся разам з Амарам і Абу-Абедам у палаты, дзе сабраўся народ.*

*Іхная прысутнасць была вельмі неабходнай, таму што жыхары Медыны, чакаючы сьмерці прарока, разважалі ўжо пра скасаванне сваёй залежнасьці ад замежнікаў, прынятых імі ў якасьці ўцекачоў із Мекі.*

*– Хай у іх будзе свой уласны правадыр, – была агульная думка, – а ў нас будзе таксама свой уласны».*

*Сад, – хворы і ляжачы ў захутаным выглядзе ў куце палаты, быў ужо прапанаваны на пасаду правадыра горада, калі нечакана з'явіўся Абу-Бекр са сваёй партыяй. Усё яшчэ*

*ўзбуджаны, Амар меў жаданне звярнуцца да прысутных з загадзя затаванай прамовай, але Абу-Бекр, баючыся яго жвавасьці і ганарыстасьці, спыніў яго і загаварыў замест яго сам.*

*– О, жыхары Медыны, – звярнуўся ён да іх, – вы маеце рацыю, гаворачы пра сваю перавагу. Не існуе на зямлі іншага народа, больш годнага, чым вы, ухвалы. Але аравійцы прызнаюць сваім вярхоўным правадыром толькі паходзячага із племя карэйшытаў. Мы вашы правадыры, вы ж нашы памагатыя.*

*– Не так! – усклікнуў адзін абураны медынец, – Хай будзе ў вас уласны правадыр, і ў нас хай будзе ўласны правадыр!.*

*– Гэта немагчыма, – адказаў Абу-Бекр і паўтарыў цьвёрдым і ўладным голасам:*

*– Мы вашы правадыры, вы ж нашы памагатыя. Із усіх аравійцаў мы самыя шляхетныя згодна з паходжаннем і першыя па славе ў нашым горадзе. Такім чынам, абірайце аднаго із двух (ён паказаў на Амара і Абу-Абеіда) і прысягайце ім.*

*– Не, – перабіў яго Амар такім выразным і гучным голасам, што перакрыў шум сходу. – Хіба не сам прарок загадаў, каб ты, Абу-Бекр, быў старэйшым малельнікам? Ты наш правадыр і мы прысягнём табе, табе, якога прарок шанаваў больш за ўсіх нас.*

*Прамаўляючы гэта, ён схапіў Абу-Бекра за руку і, стукнуўшы яе, прынёс яму прысягу. Яго словы закранулі струны гучаўшыя ў сэрцы кожнага прававернага і яго прыклад вырабіў патрэбнае ўражанне. Супраціўленне было зломлена і Абу-Берк быў агалошаны каліфам, наменснікам памёршага прарока.*

*Тым часам Алі, Азяма і Аль-Фадль, сын Аль-Абаса разам з адным ці двума служкамі прарока дзейна працавалі ў пакоі Айшы. На тым самым месцы, дзе ён выпусціў сваё апошняе дыханне, яны памылі цела і выставілі яго. Адзенне, у якім ён памёр, была пакінута на ім: дзьве паласы белага палатна абвілі яго цела, і яго пакрылі паласатым кавалкам йеменскай тканіны. У такім выглядзе яно праляжала ўсю ноч, да пахавання.*

*Раніцай, калі народ пачаў збірацца ў мячэці, Абу-Бекр і Амар выйшлі яму насустрач. Амар першым звярнуўся да люднага сходу:*

*– О, людзі! Тое, што я выказваў вам учора, не было праўдай. Я сапраўды спадзяваўся, што божы прарок яшчэ крыху застанецца з намі і абвесьціць нам словы, дагодныя богу і служачыя нам для вечнага кіраўніцтва. Усемагутны аддаў перавагу мець яго з сабой, чым пакінуць у нас. Але слова боскае, якое накіроўвала і прарока, працягвае знаходзіцца з намі. Кіруйцеся ім, і вы ніколі не збочыце з праўдзівага шляху. Зараз усемагутны перадаў вашы справы ў рукі лепшага сярод нас. Гэта спадарожнік прарока, яго адзіны таварыш, другі із двух, застаўшыхся з ім у пячоры. Падніміцеся! Пакланіцеся яму ў вернасьці.*

*Народ атачыў іх, і ўсё, адзін за адным, пачалі прысягаць на руцэ Абу-Бекра.*

*Калі гэтая цырымонія закончылася, Абу-Бекр падняўся і прамовіў:*

*– Зараз, сапраўды, я стаў вашым правадыром, хаця я і не лепшы сярод вас. Калі я буду рабіць добрыя ўчынкі, падтрымайце мяне, калі дрэнныя, пастаўце мяне на праўдзівы шлях. На вернасьці і шчырасьці спачывае праўда, на падступстве – здрада. Слабы і прыгнечаны сярод вас стане моцным, таму што я з дапамогай бога аднаўлю яго правы, а зацяты прыгнятальнік пазбавіцца ўсяго, таму што я вырву ў яго тое, што ён набыў. Зараз слухайце мяне. Калі народ перастае ісьці па боскаму шляху, усемагутны скідае, яго ў няласку. Ведайце таксама, што калі зло назапасіцца ў народзе, усемагутны пасылае на яго бедствы. Такім чынам, слухайцеся мяне, як я буду слухацца бога і яго прарока. Калі я выйду із паслушэнства ім, вы выйдзіце із паслушэнства мне. Станьце на малітву, і ды будзе з вамі літасць ўсемагутнага!».*

*Усё віталі Абу-Бекра як намесьніка пророка*[47] *амаль аднагалосна. Глыбока засмучаны сваім адлучэннем Сад-ібн-Абада трымаўся ўбаку ад усіх. Магчыма, што і Алі падчас прысягі Абу-Бекру заставаўся ў сябе дома ці ў пакоі памёршага прарока.*

---

[47] З Па-карэйшыцку: Каліф рэзул-Алах (намесьнік прарока боскага)

*Прыхільнікі Алі жадалі бачыць менавіта яго каліфам, але ні яго ранейшае становішча, ні прамовы, ні ўчынкі прарока ў дачыненні да яго не давалі падставаў да такога прызначэння. Як чалавек адзінай застаўшайся жывой дачкі «Славутага», ён быў яшчэ больш засмучаны, калі Абу-Бекр не прызнаў за яго жонкай права на застаўшыяся пасьля бацькі землі Фадака і Кэйбара. Але Фаціма не змагла даць доказаў адносна жадання бацькі перадаць ёй іх ва ўласнасць, і каліф слушна палічыў, што гэтыя землі павінны застацца для тых дзяржаўных патрэбаў, для якіх «Славуты» прызначыў іх пры сваім жыцці.*

*Фаціма так блізка прыняла да сэрца гэтую адмову, што за ўсю кароткую частку свайго жыцця не мела ніякіх стасункаў з Абу-Бекрам. Але ці прысягнуў адразу ж яе чалавек Алі свайму новаму правадыру ці адмовіўся гэта зрабіць, ва ўсякім разе можна з упэўненасцю сказаць, што ён не мог шчыра прызнаць права Абу-Бекра на каліфат да сьмерці сваёй жонкі, якая наступіла за бацькавай праз шэсць месяцаў*[48].

*Калі Абу-Бекр закончыў сваю прамову, пачаліся падрыхтаванні да пахавання. Пагляды падзяліліся наконт месца, прыдатнага для магілы прарока. Некаторыя сцвярджалі, што цела павінна быць пахавана каля мячэці, каля катэдры; другія жадалі пакласьці каля таго месца, дзе, як імам, ён чытаў публіцы штодзённыя малітвы, а трэццція жадалі пахаваць на могілках па-за горадам, каля яго ўжо памёршых пасьлядоўнікаў. Абу-Бекр, ад якога, як каліфа, зараз усё залежала, не прыняў ніводную із гэтых прапаноў.*

*– Я чуў, – адказаў ён, – із вуснаў самога Славутага, што ў тым месцы, дзе ён памрэ, ён і павінен быць пахаваны.*

*І ён даў загад выкапаць магілу ў сядзібе Айшы, дзе ўсё яшчэ ляжала цела памёршага.*

*І зноў узнікла пытанне: які выгляд павінна мець магіла? У Аравіі пераважалі дзьве формы магіл: у адной – дно заставалася роўным, у другой – яно часткова паглыблялася збоку для прыняцця цела, пакінуўшы ўскраек з аднаго боку нападобе скляпення. Першага выгляду магілы былі распаўсюджаны ў Мецы, другога – у Медыне, і для кожнага роду магіл быў свой асобны далакоп. Гэтым разам паклікалі абодвух. Далакоп-медынец, з'явіўшыся першым, выкапаў магілу ў выглядзе скляпення, і такімі магілы капаюцца магаметанамі і да сённяшняга дня.*

*«Цела «Славутага» заставалася на божым ложку на працягу 24 гадзін, ад поўдня панядзелка да такой жа гадзіны наступнага дня. У аўторак усе гараджане наведалі яго. Яны натоўпамі заходзілі ў дзьверы, адчыненыя ў мячэці. Зірнуўшы ў апошні раз на парэшткі свайго прарока і памаліўшыся над імі, яны выходзіла праз дзверы насупраць. Увесь пакой быў перапоўнены наведвальнікамі, калі з'явіліся разам Абу-Бекр і Амар. Паведамляюць, што яны памаліліся наступнымі словамі:*

*– Ды будзе сьвет з табой, боскі прарок, ды будзе з табой літасць усемагутнага і яго дабраславенне! Мы клянёмся, што боскі прарок абвяшчаў толькі тое, што было яму нададзена, што ён ваяваў згодна з духам госпада, пакуль усемагутны не ўзвялічыў перамогай яго веру. Ён выканаў волю ўсемагутнага, загадаўшага, каб ушаноўвалі яго аднаго, ён паклікаў нас да сябе і ставіўся добра і пяшчотна да прававерных. Ён не чакаў узнагароды за тое, што адкрыў нам веру, і ніколі ні за які кошт не прадаваў яе!*

*Усе прысутнічаўшыя паўтарылі:*

*– Амэн! Амэн!*

*Калі зышлі мужчыны, з'явіліся жанчыны. Потым дзеці і нават рабы атачылі смяротны ложак прарока, каб зірнуць на яго ў апошні раз.*

*Вечарам былі здзейснены апошнія звычаі. Чырвоны плашч, які ён апранаў, быў разасланы ў якасьці падсьцілкі на дне яго магілы. Цела было пакладзена на апошняе месца*

[48] Адны паданні сцвярджаюць, што ён прысягнуўся адразу, з усімі астатнімі, іншыя, што ён адмаўляўся гэта зрабіць да сьмерці Фацімы.

*свайго спачывання тымі ж шануючымі рукамі, якія памылі і апранулі яго. Скляпенне над ім было выкладзена із неабпаленай цэглы і магіла была засыпана.*

*Айша, як і раней, працягвала жыць у сваёй сядзібе, ушаноўваемай зараз як месца пахавання прарока. Яна займала пакой каля таго, пад якім знаходзілася магіла, але адгароджаную ад яго. Калі памёр яе бацька, ён быў пахаваны каля прарока ў тым жа памяшканні, а таксама ў свой час тут быў пахаваны і Амар. Паведамляюць, што Айша наведвала гэты пакой без чадры да пахавання Амара, а з таго часу, як быў занесены пад яе чужы, яна паказвалася там заўсёды ў поўным адзенні і з чадрой на галаве*[49].

Так сэр Вільям Мьюр заканчвае сваё апісанне сьмерці ісламіцкага Майсея ў 25 главе сваёй біяграфіі. Ва ўсім гэтым ён строга кіруецца рукапісамі, прададзенымі яму д-рам Шпрэнгерам у Індыі на прыканцы XIX стагоддзя. Але падумайце крыху, чытач, над тым, што вы тут прачыталі. Гэта ж – раман і прытым раман вельмі позьняга часу! Я даў яго тут у дакладным перакладзе маёй жонкі, і што ж вы тут бачыце? Кожнае слова, кожнае пачуццё, кожны рух прысутнічаўшых дакладна адноўлены, відавочна з дапамогай сьвятога духу! А тым часам, як пабачым далей, нават месца магілы прарока было – можаце сабе ўявіць! – «адразу забыта»!

Закончыўшы гэтае апісанне, нават і сам Мьюр дадае ад сябе:

*«Сярод перадаваўшых паданне пра сьмерць прарока мы знаходзім дзіўнае непагадненне адносна той асобы, якая апошняй пакінула нутро яго магілы. Аль-Магіра сцвярджае, што ён упусьціў у магілу пярсцёнак і таму яму было дазволена спусьціцца ў яе і падабраць яго, так што ён быў апошнім. Другія сцвярджаюць, што Алі выправіў за пярсцёнкам Аль-Магіра свайго сына Аль-Хасана. Трэцція пераконваюць, што Алі цалкам адмаўляў гісторыю з пярсцёнкам. Некаторыя «сьведкі» называюць розных сыноў Аль-Абаса, першымі зайшоўшымі і апошнімі пакінуўшымі магілу, так што ўсе гэтыя супярэчлівыя ўказанні ўяўляюць сабой выразны прыклад ілжывасьці і суперніцтва паміж сабой алідаў і абасідаў.*

*Але ўсе пагадняюцца толькі ў адным, што атачаючыя доўга не верылі ў яго сьмерць. Так Ум-Селяма паведамляе:*

*– Я не верыў таму, што Магамет сапраўды памёр, пакуль не пачуў грукат матык, капаўшых магілу із пакоя, дзе я знаходзіўся побач.*

*Айша таксама паведамляе, што грукат матык упершыню паведаміў ёй пра маючае адбыцца пахаванне. Ібн-Хішам (стар. 1020) таксама сведчыць, што атачаючыя не ведалі пра пахаванне Магамета, пакуль не пачулі сярод ночы шум вырабляемы матыкамі».*

І вось, атрымліваецца, што Славуты прарок усё ж памёр у Медыне, і быў там закапаны ў зямлю... А дзе ж яго магіла?

Сэр Вільям Мьюр, так падрабязна апісаўшы ўсе падрабязнасьці яго жыцця, нічога не паведамляе на гэты конт, і не дарэмна.

Хаця зараз мулы і паказваюць маўзалей у куце медынскай мячэці, пад якім быццам бы пахавана яго цела, але ..... гэтае месца, выяўляецца, было «знойдзена» муламі ўжо потым і, відаць, цалкам такімі ж містычнымі спосабамі, як і парэшткі розных хрысьціянскіх сьвятых...

---

[49] Айша распавядала, што аднойчы яна пабачыла ў сне тры месяцы, зваліўшыяся ёй з неба на грудзі і думала, што гэта прадказанне нараджэння сына. Пасьля сьмерці бацькі Абу-Бекр патлумачыў ёй, што магіла Магамета была першым і лепшым месяцам, двума іншымі павінны стаць магілы самога Абу-Бекра і Амара. Яна перажыла прарока на 47 гадоў. Аль-Вакыдзі паведамляе, што спачатку не існавала сьцяны вакол «вежы Магамета». Амар узвёў нізкую сьцяну, а павялічыў яе ўжо Абдала-ібн-ан-Зубайр. Заўв. сэра Вільяма Мьюра.

# Глава VII.

## Пахаванне славутага прарока прававерных і пазнейшая страта яго магілы згодна з рознымі першакрыніцамі.

Пры вывучэнні гісторыі вялікіх людзей старажытнасьці мы часта сустракаемся з дзіўным фактам: з іхным амаль пагалоўным знікненнем пасьля сьмерці часова ці ж назаўсёды. Толькі нешматлікія із іх засталіся ляжаць без гэтага дзіва. Такім, напрыклад, з'яўляецца Тэадорых Гоцкі (454-526), г.азн. згодна з сагамі Дытрых із Берна, заснаваўшы Ост-Гоцкае, г.азн. Усходне-нямецкае царства ў Італіі, і апекаваўшы навукі і мастацтвы. Яго магільню нягледзячы на мінуўшыя паўтары тысячы гадоў, прайшоўшыя пасьля яго сьмерці, да гэтага часу наведваюць турысты ў Равэне.

А як жа раптам здарылася, што без следу зніклі магілы і косткі яшчэ больш вялікіх дзеячаў, якімі былі Майсей і Арон, прарок Ілля, Езус Хрыстос і г.д.?

Нам адказваюць, што Хрыстос паляцеў пасьля сьмерці ў паміжзорную прастору сусьвету, магчыма ў самы цэнтр Млечнага Шляху, пакінуўшы ў сваёй зямной магільні толькі пялёнкі, із якіх пазней Марыля Магдаліна і Марыля Клеопава пашылі сабе сукенкі і знасілі іх. Прарок Ілля, кажуць нам, паскакаў на паветранай калясніцы некуды на самы верх зямной атмасферы, дзе часта грукоча, праносячыся над аблокамі. Ён таксама пакінуў на зямлі свой плашч, які падабраў і знасіў прарок Елісей, яго наступнік. Пра Майсея паведамляюць, што ён памёр «на адной гары», і спадарожнікі пахавалі яго ў «таемным месцы», так што і да гэтага часу яго не знайшлі нашы археолагі і тэолагі, якія, вядома, вельмі дарага б далі за такую выдатную знаходку.

А дзе ж магутны першасьвятар Арон, які, як нам паведамляюць, ніколі не лётаў за аблокі нават і ў сне? Дзе магільня другога знакамітага Арона – Гаруна аль-Рашыда, гэта азначае справядлівага? І дзе ж натэшце «труна Магамета», пра якога самі магаметане паведамлялі, што яго анёлы падтрымліваюць паміж небам і зямлёй да часу ўсеагульнага ажывання памёрошых? Яго таксама не існавала нідзе на зямлі на працягу ўсяго сярэдневечча, і калі на тым доўга забытым месцы, дзе запэўніваюць нас, ён памёр і зараз пастаўлены маўзалей у куце медынскай мячэці, то ці лягчэй становіцца ад таго гісторыку, калі вартаўнікі гэтага маўзалея нікому не дазваляюць зазірнуць у яго нутро, ні прававернаму, ні нявернаму, навочна сведчачы гэтым самым, што там яго няма... Так, яго там няма, таму што калі б там было нешта падобнае на труну, то самі ж вартаўнікі маўзалея дзеля пераканання сумняваючыхся і для суцяшэння вернікаў не прамінулі б паказаць у натуры хаця б крышку гэтага адзінай у прававерным сьвеце сьвятой труны.

Паглядзім жа па дакументах, якім жа чынам адбылося такое выдатная згубленне?

Спачатку паглядзім на першакрыніцу ўсіх нашых ведаў пра заснавальніка прававеря, на кнігу: «Жыццё Магамета згодна з Магаметам-ібн-Ісхакам у перапрацоўцы Абд-Эль-Маліка-ібн-Хішама»[50].

Вось яго ўласнае паведамленне цалкам.

---

[50] Карыстаюся нямецкім перакладам: D-r Gustav Well: Das Leben Mohammed's nach Mohammed Jbn Jshak bearbeitet von Abd el-Malik Jbn Hischam. Jn zwei Bauden. 1864.

«*Пасьля таго як прысягнуліся Абу-Бекру, пачалі ў аўторак прыбіраць цела Славутага. Абу-Бекр, Абд-Ала і іншыя нашы таварышы перадавалі мне, што абмываннем яго цела заняліся Алі, Абас са сваімі сынамі Фадлам і Катомам, а таксама Ізама, Зеід і Шакрам, вольнаадпушчанік прарока. На двары ў той час знаходзіўся адзін із таварышаў Славутага, ваяр пры Бедры. Алі запрасіў яго зайсьці. Ён зайшоў, сеў і застаўся пры абмыванні. Алі прытуліў прарока да сваіх грудзей, Абас з сынамі дапамагалі яго паварочваць, Ізама і Шакрам лілі на яго ваду, і Алі мыў яго, трымаючы прыслоненым да сваіх грудзей. Славуты быў у ніжняй сукенцы, і Алі цёр цела паверх яе, не датыкаючыся да яго рукой, і прамаўляў:*

*– Які выдатны ты, і жывы, і мёртвы!.*

*На целе Славутага не было бачна нічога такога, што звычайна бывае бачна на іншых трупах.*

*Асад-Ала-ібн-Зубейр* – паведамляе Ібн-Ісхак, – *перадаў мне са слоў свайго бацькі Абада, якому ў сваю чаргу паведаміла гэта Айша, наступнае: Калі ўзнмерыліся прыступіць да абмывання прарока, было непагадненне: ці распрануць яго як астатніх нябожчыкаў, ці ж мыць у адзенні. І вось бог усыпіў іх: яны ўсе раптам звесілі свае галовы на грудзі, імгненна заснулі і ў сне нехта ім загадаў з боку сядзібы, хаця ніхто не ведаў яго:*

*– Мыйце прарока ў яго адзенні!*

*Тады яны пачалі яго мыць у ніжняй сукенцы. Яны лілі на яго ваду і цёрлі яго так, каб адзенне заставалася паміж ім і іхнымі рукамі.*

*Калі абмыванне скончылася*, – паведамляе Ібн-Ісхак,– *яго загарнулі ў тры адзенні: два былі із Сахара і трэццяе – паласаты плашч, якім ён быў пакрыты, – як мне паведаміў Алі-ібн-Хусейн са слоў свайго дзеда Алі і са слоў Алі-ібн-Хусейна.*

*Хусейн-ібн-Абд-ала перадаваў мне,* – зноў сведчыць Ібн-Ісхак, – *словы Ірыме, якому са свайго боку паведаміў Ябі-Абас, наступнае:*

*– Калі ўзнамерыліся капаць магілу прарока, то вагаліся, каго выбраць із далакопаў: ці мекскага далакопа Абу-Абейда-ібн-Алджара, капаўшага магілу пасярэдзіне дна ямы, ці ж Абу-Талха-Зейід-ібн-Залы, які капае яе з аднаго боку ямы. Абас паклікаў двух людзей, выправіў аднаго да Абу-Абейды і другога да Абу-Таха і прамовіў:*

*– Божа! выберы сам для твайго пасланніка!*

*Выпраўлены да Абу-Талха прывёў яго раней, і таму ён выкапаў магілу з боку ямы.*

*У аўторак прыбраны Славуты быў пакладзены на ложак у сваім пакоі. Адбыліся спрэчкі пра тое, дзе яго хаваць. Адны жадалі пахаваць яго ў мячэці (сведчыць аўтар, забываўшыся, што магіла прарока ўжо была выкапана Абу-Талхам), іншыя жадалі – каля памёршых яго таварышаў.*

*Абу-Бекр выказваўся: – Я чуў, як Славуты гаварыў: кожны прарок павінен быць пахаваны на тым месцы, дзе ён памёр.*

*Тады знялі дыван з месца дзе памёр прарок і выкапалі тут магілу. Цэлымі натоўпамі пачаў збірацца народ, каб памаліцца за яго, спачатку мужчыны, потым жанчыны, потым дзеці, і ўсе яны прыходзілі згодна з уласным жаданнем.*

*Славуты быў пахаваны пад час ночы на сераду.*

*– Абу-Бекр паведаміў мне, – сведчыць Ібн-Ісхак, са слоў сваёй жонкі Фацімы, дачкі Умалы, якой у сваю чаргу паведаміла Амрэ, дачка Саад-ібн-Зурара са слоў Айшы, наступнае: – Мы нічога не ведалі пра пахаванне Славутага, пакуль не пачулі ў ноч на сераду шум, вырабляемы кіркамі.*

*Тое ж самае перадавала мне і Фаціма.*

*Алі, Фадл-ібн-Абас і потым Шакрам спусціліся ў магілу. Потым Аус-ібн-Шаулі звярнуўся да Алі:*

*– Заклінаю цябе богам і вашай прыхільнасьцю да пасланніка боскага, дазволь і мне пабываць там.*

*Алі адказаў яму:*

*– Спускайся ўніз!*

*І ён спусьціўся да астатніх. Шакрам, клаўшы прарока ў магілу, **якая была потым замуравана**, захапіў з сабой стары паношаны плашч, у які апранаўся прарок, разарваў яго і засыпаў разам з ім, кажучы:*

*– Клянуся богам, ніхто пасьля цябе не павінен апранаць яго!*

*Мазіра-ібн-Шубэ сцвярджаў, што ён апошнім дакранаўся да Славутага і паведамляў пра гэта так:*

*– Я кінуў свой пярсцёнак у магілу і сказаў, што ўпусьціў яго, але я кінуў яго наўмысна, каб дакрануцца да пасланца боскага і быць апошнім, хто да яго дакранаўся.*

*Ісхак-ібн-Ісар перадаваў мне, – паведамляе ібн-Ісхак, са слоў ібн-Казіма, вольнаадпушчаніка Абд-Алы, што яго гаспадар Абд-Ала паведаміў яму наступнае:*

*У часы Амара, ці Атмана, я здзяйсняў паломніцтва разам з Алі, які спыніўся ў сваёй сястры Ў-Хані. Калі ўсе звычаі паломніцтва былі закончаны і Алі вярнуўся, яму падалі вады і ён памыўся. А калі ён памыўся, да яго прыйшлі людзі із Ірака і сказалі:*

*– О, бацька Хасана, мы жадалі б атрымаць у цябе сведчанні пра нешта.*

*Ён ім адказаў:*

*– Я думаю, Мушра-ібн-Шубе паведамляе вам, што ён апошнім дакрануўся да прарока?*

*А яны адказалі: Менавіта пра гэта мы прыйшлі запытаць цябе.*

*Тады Алі сказаў ім:*

*– Ён падманвае. Апошнім дакрануўся да яго Катам.*

*Алі-ібн-Кейзан паведаміў мне наступнае, – сведчыць Ібн-Ісхак, са слоў Цуры* (Zuhri*), якому ў сваю чаргу паведаміў гэта Абд-Ала-ібн-Атбэ са слоў Айшы:*

*Падчас сваёй моцнай хваробы Славуты паклаў на сябе сваю сукенку, якой ён то выціраў твар, то зноў нацягваў яе на сябе, і прамовіў:*

*– Бог знішчыў народ, які із магіл сваіх прарокаў зрабіў сабе храмы!*

*Ён асьцерагаўся як бы не зрабіў тое ж самае і яго народ.*

*А папярэднічаўшыя яму сведкі перадавалі таксама, спасылаючыся на Айшу, што апошнімі словамі прарока былі:*

*– На аравійскай паўвыспе не павінна быць двух рэлігій.*

*Айша паведамляла таксама, – як гэта чуў Ібн-Ісхак, – што пасьля сьмерці прарока мусульманаў спасьцігла вялікае няшчасьце. Калі яго не стала, арабы сталі вераадступнікамі. Юдэйства і хрысьціянства ўзялі ў іх верх, і крывадушнасць мусульманаў выявілася з поўнай выразнасьцю. Пасьля страты свайго прарока яны былі падобнымі на статак, прамокшы падчас зімовай ночы, пакуль бог зноў не аб'яднаў іх вакол Абу-Бекра.*

*Абу-Абейда і іншыя навукоўцы перадавалі мне – выказваецца Ібн-Ісхак, – што пасьля сьмерці Славутага большасць жыхароў Мекі жадалі адпасьці ад ісламу, так што нават Атаб-Ібн-Азід хаваўся ад іх, баючыся за сябе. Тады падняўся Сухейль-ібн-Ашр, прынёс хвалу богу і, памянуўшы пра сьмерць прарока, прамовіў:*

*– Гэта надасць яшчэ большую магутнасць ісламу, а кожнаму, каго выкрыюць у вераадступніцтве, адсякуць галаву.*

*Тады народ пакінуў свае задумы. Аттаб зноў з'явіўся і заняў месца, пра якое Славуты паведаміў Амару:*

*– Магчыма ён некалі атрымае такую пасаду, што ты не будзеш ганіць яго*».

Вось і ўсё! І ўсё ў адным і тым жа стылі! Іван, паведаміў Петру, Пятро пераказаў Паўлу, а Павел перадаў гэта Сяргею! Цалкам як у дзіцячай казцы пра тое як выдзіралі рэпу із грады: дзедка за бабку, бабка за матку, матка за дзедку, дзедка за рэпку! І ўсё паваліліся, калі нарэшце выдралі рэпку!

Але не, чытач! Тут нашмат горш чым у казцы пра нявінную рэпку! Уявіце сабе, што я запытаў бы вас: хто вам упершыню паведаміў, што Зямля круціцца вакол Сонца, ад каго вы ўпершыню даведаліся, што аблокі ўтвараюцца із вадзяных

выпарэнняў? Вы, вядома, адказалі б, што даўно забыліся, таму што цікавасць складаецца не ў тым, хто каму гэта паведаміў і ад каго пачуў сам, а толькі ў факце.

Але, уявіце сабе, наадварот, што такія пытанні вы задаеце мне, а я імгненна адказваю на першы із іх:

– Пра тое, што зямля абарачаецца вакол Сонца, упершыню паведаміў мне яшчэ ў сямігадовым узросьце нехта Лісіцын, Лісіцыну паведаміў Сабакін, Сабакіну, яшчэ быўшаму тады юнаком, – Сарокін, Сарокіну – Курыцын, а Курыцыну – Пятухоў, які чуў гэта ад самога Каперніка.

А на другое пытанне пра склад аблокаў, ні мала не замінаючыся, адкажу:

– Так. Таксама добра памятаю! Пра аблокі, таксама шмат гадоў таму назад, мне паведаміў Арлоў, Арлову – Сакалоў, Сакалову – Ястрабаў, а Ястрабаву паведаміў сам першы паветраплавальнік – Мангальф'е, калі спусьціўся на зямлю пасьля свайго палёту, пройшоўшы праз воблака, і пераканаўся, што яно складаецца із вадзяных выпарэнняў.

І хай так я імгненна адказваў бы і на ўсе пытанні!

Ці не сказалі б вы, што я здзекваюся над вамі, лічачы за дурня, ці што я паглыбіўся ў падман так, што ўжо страціў якую б то ні было меру? Але, ці ж не тое самае чытаем мы ў знакамітага Ібн Гішама, падмурка нашых «гістарычных» ведаў пра Магамета і пра пачатак магаметанства? Там жа амаль кожная фраза пачынаецца такой жа прадмовай і яна не робіцца больш праўдападобнай псіхалагічна ад таго, што імёны Сарокіных-Лісіцыных і Пятуховых напісаны не на вашай роднай, а на карэйшыцкай мове! Як не пабачыць адразу, што гэта – відавочнае выпусканне пылу ў вочы, і што гэтая кніга, на якой грунтаваліся ўсе іншыя прыдумляльшчыкі «жыцця Магамета», безсаромнае шарлатанства не аравійскага і не багдадзкага, а нашага ўласнага еўрапейскага кар'ерыста XVIII стагоддзя, нахапаўшага розных баек у сучасных яму мулаў, лічыўшымі карысным для сябе адказаць што трапіць на кожнае яго пытанне! А ён, дапоўніўшы сабранае ў іншых і сваім складальніцтвам, выдаў усё гэта за паслядоўныя апавяданні Лісіцыных ад Сарокіным, бяручыя непасрэдны пачатак ад аравійскіх Каперніказ і Мангальф'е! І толькі пра тое, дзе знаходзілася тады сядзіба Айшы і ў якім выглядзе знаходзіцца магіла Магамета, ніхто ні слова!

* * *

Разбяром зараз для параўнання таксама пахаванне Славутага ісламіцкага прарока грунтуючыся на апісанні нашага сучасніка Губерта Грыма[51].

«*У панядзелак, рана раніцай 12 дня Рэбі I у хворым яшчэ раз бліснула жыццё перад яго канчатковым патуханнем.*

*Ён падняўся з ложка і на некалькі хвілін паказаўся вернікам, сабраўшымся на малітву. Але пасьля гэтага ён хутка вярнуўся ў сядзібу Айшы і, калі знясілены прыхіліўся да яе грудзей, па яго целу прабегла раптоўная курча, яго погляд зрабіўся нерухомым, ён прамармытаў некалькі словаў і памёр.*

*На наступны дзень самыя блізкія яго сябры памылі цела, прыбралі і выставілі яго на смяротным ложку для ўшанавання вернікам. Апоўначы яго пахавалі* ***на тым жа месцы, дзе яго спасьцігла сьмерць.*** *Яго палітычным наступнікам і рэлігійным правадыром згуртавання абралі Абу-Бекра згодна з прапановай Амара, таму што сам Славуты не пакінуў ніякіх указанняў наконт свайго пераемніка. Аднак ніхто не быў прызнаны годным запоўніць пустэчу, ўтварыўшуюся ў рэлігійным заканадаўстве, і з*

[51] Dr. Hubert Grimme: Mohammed. Erster Teil: Das Leben. Munster, 1892.

*гэтай пары напісаны тэстамент прарока вернікам – Каран – павінен быў замяніць яго жывое слова і яго асабістае кіраванне*».

Такім чынам, прарока зноў пахавалі «на тым месцы, дзе спасьцігла яго сьмерць». Але хіба гэта вызначэнне месца?

* * *

Разгледзім жа зараз яшчэ тое ж самае пахаванне грунтуючыся на выкладанні аўтара XVIII стагоддзя Жана Ганье (1732 г.), прафесара ўсходніх моваў у Оксфардзе, якое было надрукавана тады, калі ні ў Мікву, ні ў Медыну яшчэ не пускалі еўрапейскіх навукоўцаў і таму можна было пісаць, не ўзгадняючы з тапаграфіяй месца падзей. Вось што ён паведамляе:

«*Калі паўстала пытанне пра пахаванне боскага прарока, узнікла вялікая спрэчка паміж таварышамі апошняга. Махаджары-мекінцы выказвалі жаданне перанесьці яго ў Меку, месца яго нараджэння, тым часам як ансары-медынцы патрабавалі, каб ён застаўся ў іх, таму што Медына была яго прытулкам і сховішчам. Трэцція настойвалі на тым, што яго патрэбна перанесьці ў Ерусалім, месца пахавання ўсіх пракарокаў. Спрэчка разгаралася, але Абу-Бекр узяў у ёй удзел і выказаў меркаванне, што Славутага патрэбна пахаваць у Медыне, таму што ён чуў ад самога апостала боскага, што прарок павінен быць пахаваны толькі на месцы сваёй сьмерці.*

*Такім чынам, у сядзібе Айшы, пад смяротным ложкам Славутага выкапалі магілу і ў ёй яго пахавалі. Пасьля таго як цела апусьцілі ў магілу, першым да яго сышоў Алі, а за ім паслядоўна ўсе тыя, хто браў удзел у пахаванні. Катам, сын Ал-Абаса, спусьціўся апошнім і быў такім чынам апошнім са сьмяротных, дакрануўшымся да боскага апостала. Абу-Таха – ансар выкапаў магілу. Дно магілы было выслана* ***дзевяццю цаглінамі****, каб запоўніць пустыя прамежкі. Вакол труны была насыпана зямля, так што* ***магіла мела трохі выпуклы выгляд і ўзвышалася над астатняй паверхняй зямлі****. Вось чаму навуковец доктар Пакок меў падставы высьмейваць дзікае ўяўленне некаторых хрысьціянаў, сцвярджаўшых быццам бы цела Магамета знаходзіцца ў жалезнай труне і вісіць у паветры дзякуючы магнітам із якіх зроблена скляпенне. Гэтая байка выклікае – згодна з яго словамі – сьмех у мусульман і яны слушна смяюцца над легкавернасьцю нашай публікі, якая тым самым выяўляе сваё няведанне гісторыі гэтага народа*».

Я прашу чытача звярнуць асаблівую ўвагу на гэтыя словы прафесара арабскай мовы ў Оксфардзкім універсітэце Жана Ганье: ён першы і **толькі ў XVIII стагоддзі** пачаў аспрэчваць апавяданні, панаваўшыя **не толькі ў асяроддзі еўрапейскіх хрысьціянаў, але і ў магаметан, з якімі сутыкаліся еўрапейскія навукоўцы**, быццам бы пасьля сьмерці Магамета анёлы паднялі яго труну ў паветра (і бяспрэчна без дапамогі магнітаў) і трымаюць яго там пад месяцам, каб не пачалі ўшаноўваць яго, як бога, замест адзінага бога.

Не адважваючыся ўсумніцца ў праўдзівасьці гэтых апавяданняў жыўшых паміж імі мусульман, вальнадумцы XVIII стагоддзя і прыдумалі магнітную гіпотэзу. Ну, а што ж паведамляе сам Жан Ганье? Паслухаем яго далей.

«***Што да месцавання магілы прарока***, – выказваецца ён, – ***і магіл першых двух яго пераемнікаў-каліфаў, якія следам за ім таксама былі пахаваны ў сядзібе Айшы, то думкі тут разыходзяцца***.

*Найбольш пашыраная пагалоска паведамляе, што магіла боскага апостала – першая із трох з боку Кіблы, г.азн. да поўдня, дзе знаходзіцца Мека ў напрамку да Медыны. Побач з ёй, па іншы бок, знаходзіцца магіла Абу-Бекра, так што яго галава прыпадае на ровень плячэй прарока і тым самым ногі выступаюць далей за ногі прарока. Побач жа з Абу-Бекрам з таго ж боку і ў такіх жа суадносінах да яго магілы, як і папярэднія, знаходзіцца магіла Амара (атрымліваецца такі малюнак):*




Мал. 57.
Із кнігі Ганье.

Але гэтай **народнай пагалосцы супярэчыць праўдзівае паданне**, паходзячае ад Магамета сына Абу-Бекра, у якім ён выказваецца такім чынам:

«*Аднойчы я запытаў Айшу: «Дарагая сястра! пакажы мне, калі ласка, магілу прарока і тых двух каліфаў, якія ляжаць каля яго?*

*Яна мне паказала, і я пабачыў, што магілы не вельмі прыўзняты і разам з тым не параўнаны з паверхняй зямлі, а нагадваюць спіну асла і знаходзяцца на плоскім роўным месцы чырванаватага колеру. І я пабачыў, што магіла прарока знаходзілася ў пярэдняй частці, за ёй была магіла Абу-Бекра, так што яго галава прыпадала насупраць плеч прарока, а вышэй яе на адной лініі з прарокам, была магіла Амара, такім чынам, што галава яго ляжала ў нагах прарока (атрымліваецца такі малюнак)*:




Мал. 58.
Із кнігі Ганье.

*Гэтае месцаванне трох магіл* – выказваецца Жан Ганье ў 1732 годзе – *з'яўляецца, відаць,* ***найбольш праўдападобным****, а чацьвёртае пустое месца, напэўна, прызначалася Атману – трэцяму каліфу. Але дзякуючы таму, што той князь быў забіты змоўшчыкамі, на чале якіх знаходзіўся той жа самы Магамет, сын Абу-Бекра, і сама Айша, то яны не дазволілі, каб целу забітага імі быў выказаны гонар быць пахаваным у сядзібе Айшы, каля прарока і Абу-Бекра, іхнага бацькі. Вось чаму на працягу трох дзён ён быў пакінуты без пахавання і потым закапаны ў нейкім садзе, загорнутым у свае ўсё яшчэ акрываўленае адзенне, без абмывання і без чытання над ім малітваў.*

*Гэтае месцаванне магіл*, – працягваў далей Ганье, – *таксама цалкам адпавядае гістарычнаму здарэнню, адбыўшамуся ў 94 годзе Геджры. Калі Амар, сын Абдул-Агіза, губернатара Медыны, згодна з загадам каліфа Аль-Валіда, загадаў перабудаваць разбурыўшуюся мячэць прарока,* ***працаўнікі, капаўшыя зямлю для новага падмурку, натыкнуліся на косткі ног у адной магіле і большасць прысутнічаўшых прыпісалі***

***гэтыя косткі боскаму апосталу. Не было нікога, хто мог бы даць дакладныя ўказанні,*** *але вось прыйшоў стары на імя Арва, які паведаміў:*

*– Клянуся богам, гэта не ногі прарока, але ногі Амара, гэтае месца ў куце загародкі занадта вузкае, каб туды адпачатку паклалі цела прарока ва ўсю яго даўжыню*».

Але, чытач, на што ж гэта падобна? Нашы лепшыя першакрыніцы нам паведамляюць, што ўжо праз 94 гады пасьля перасялення Магамета із Мекі ў Медыну і праз 84 гады пасьля яго сьмерці магіла гэтага «найвялікшага із прарокаў» была забыта яго прыхільнікамі! Але ж псіхалагічна гэта яшчэ больш недарэчна, чым пашыранае ў XV і XVI стагоддзях паданне пра вынясенне яго труны анёламі ў падвоблачную вышыню, дзе яна і знаходзіцца зараз! Ды і забыццё месца магілы Абу-Бекра ўсяго праз 71 год пасьля яго сьмерці, калі былі яшчэ жывымі сведкі яго пахавання – не меншая недарэчнасць. Магільня ж такога знакамітага чалавека, як Магамет, не гузік, які можна згубіць на дарозе і потым не знайсьці. Праўда, нас запэўніваюць, што яе пасьля ўсё ж адшуквалі, і стары Арва нават пакляўся богам, што ляжачыя ў адной яме косткі ног занадта кароткія для прарока, і, гэта азначае, належалі няйнакш як Амару. Але хіба гэта не смешна? Потым нас пераконваюць, што праз некалькі соцень гадоў, на працягу якіх прарок са сваёй труной вісеў паміж небам і зямлёй, яго магілу ў XVI стагоддзі нашай эры атрымалася, нарэшце, знайсьці канчаткова (відаць незадоўга да падарожжа туды знакамітага Вартэмы), і над ёй зараз пабудаваны маўзалей, у які нікога не пускаюць. Але ці не будзем мы мець права выказаць здагадку, што ўсё гэта пасмяротны фокус із вобласьці звычайных рэлігійных падробак, што пад маўзалеем нічога няма, ды і сам славуты аравійскі прарок – звычайны рэлігійны міф?

Не задаючыся пакуль такімі ерэтычнымі пытаннямі, прачытаем апавяданне оксфардзкага прафесара Ганье і далей.

«*Боскі апостал быў пахаваны пад час ночы на чацьвер*, – паведамляе ён грунтуючыся на першакрыніцах, *– на 15-ы дзень месяца Рабі I. Бялал, сын Рабі, паліў магілу вадой са скуранога меха. Ён пачаў з галавы і закончыў нагамі.*

*Калі пахаванне закончылася і ўсё сышлі, Фаціма, дачка боскага апостала, прыйшла на магілу свайго бацькі і сеўшы каля яе, галасіла, заліваючыся слязьмі:*

*– Шкада, дарагі мой бацька! Шкада, апостал боскі! Шкада, прарок літасьцівага бога! Не будзе ўжо больш боскага адкрыцця! Анёл Гаўрыіл паляцеў ад нас навекі! Божа! Зрабі так, каб мая душа хутка пайшла следам за яго душой! Зрабі мне літасць пабачыць зноў яго аблічча! Не пазбаў і мяне ўзнагароды за яго заслугі заступніцтвам пад час дня ажывання!*

*Яна ўзяла кончыкамі пальцаў дробку пылу, пакрываўшага цела боскага апостала, і паднесла яе да носа.*

*– О, салодкі пах! – усклікнула яна, панюхаўшы яго. – Той, хто нюхае гэты пыл прарока, ніколі не пазнае больш прыемнага водару! Шкада, шкада! – паўтараю я, – гаротнасць раздзіраючая мяне зараз, такая вялікая, што воблакі майго смутку, павісшы над самымі выдатнымі маімі днямі, ператвораць іх у столькі ж змрочных і жудасных начэй!.*

*Так выказвалася дачка прарока Фаціма, а яго ўдава Айша зачынілася ў гэты час у сваім пакоі і Анас сын Малеха, – як паведамляе паданне, – пачуў, праходзячы каля яе дзьвярэй, як яна там выказвалася, перапыняючы свае словы ўздыханнямі:*

*– О, шаноўны мой чалавек! Ты, на працягу ўсяго свайго жыцця ніколі не смакаваўшы ячменнага хлеба! Ты, прарок, нават на смяротным ложку не здымаўшы з сябе ўстрымання і не адважаўшыся спаць на працягу ўсёй ночы праз баязнь патрапіць у пякельнае, пякучае і палаючае полымя!.. О!...*

*Яе галашэнні заглушылі словы, і Анас нічога больш не змог разабраць. Потым яна запала ў панурае маўчанне*» ....

Але, чытач! Няўжо вы не бачыце самі, што ўсё гэта цалкам не «гістарычнае сведчанне», а проста павучаючы раман, падобны на тое, як пісалі ў XVIII і нават напачатку XIX стагоддзя? Прачытайце «Новую Элаізу» Жан-Жака Русо, ці проста нават «Бедную Лізу» нашага Карамзіна, і вы пабачыце ў іх той жа самы стыль і тыя ж самыя, яшчэ наіўныя літаратурныя прыёмы. Гэта прадукты ужо развіўшайся звычкі да беглага чытання, магчымыя толькі пры дастатку і таннасьці кніг пад час друкарскага перыяду і суправаджаемай у лёгка ўражлівых галовах аматараў чытання заўсёды патрэбай скласьці і самім нешта падобнае і перадусім на гістарычную тэму. Узор такога складальніцтва я паказваў і тут[52] на прыкладзе рамана Апулея «Залаты асел», і чытач бачыў, як Робертсан, з дапамогай некалькіх вытрымак, стварыў із яго «паганскага Хрыста», а ў нас прафесар Кун нават вызначыў і час гэтага Хрыста, як папярэдніка евангельскага.

І вось, падобным жа чынам была створана і сучасная псеўданавуковая «гісторыя Магамета і першых халіфаў». Паглядзім жа, якімі выяўляюцца і іншыя апавяданні пра гэтага другога, арабскага, калі і не залатога, то «срэбнага асла» ў Жана Ганье заканчэння XVIII стагоддзя, наіўныя апавяданні, пазалочаныя толькі ў XIX стагоддзі д-рам Шпрэнгерам, на якім грунтуюцца ўсе сучасныя гісторыкі, аднаўляючыя пачатак магаметанства на зямлі.

«*Сафія* – паведамляе аўтар – *дачка Абдул-Маталіба, цётка боскага апостала і маці Ал-Забаіра* (як усё дакладна вядома!), *жанчына набожная і адораная гераічнасьцю, ўзвышаўшай яе над яе стацыю, вымавіла наступную надмагільную прамову ў гонар прарока: – О, боскі апостал! Ці не застаешся ты нават памёршым нашай моцнай надзеяй? Ці не быў ты заўсёды, жывучы сярод нас, чыстым і бязгрэшным, і справядлівым? Ты быў заўсёды правадыром літасьцівым, прамым, упэўненым і дасьведчаным! Хай плача над табой той, хто здольны ліць слёзы! Што ж да мяне, то клянуся шчасьлівым жыццём, у якое ты ўступіў, я не магу аплакваць прарока за тое, што ён пазбавіў нас сваёй наяўнасьці. Якога няшчасьця баяцца нам дзякуючы яго знікненню? Хіба бог Славутага перастане праз гэта разліваць на нас сваю клапатлівасць? Наадварот, ён выкажа яе яшчэ ў большым памеры дзякуючы заступніцтву свайго прарока! Што ж да мяне, то я спакойна застаюся каля яго магілы ў горадзе Ясрыбе* (як звалася тады Медына). *Я клянуся ўсім самым дарагім для мяне, усім, што я маю на сьвеце: маёй цёткай, маім дзядзькай, маім бацькам, маёй маці і маёй уласнай душой, што бог выканае свае абяцанні! Калі гэта праўда (як і ёсць насамрэч), што наш прарок з'яўляецца валадаром і гаспадаром над усімі людзьмі, што ён заснаваў падставу нашай вечнай асалоды, то і вялікая справа, якую ён пачаў, пойдзе добра і будзе дасягнута. О, боскі прарок! Ды будзе боскі сьвет ва ўсёй сваёй моцы з табой у гэтую гадзіну, калі ты знаходзішся сярод райскай асалоды і смакуеш невыказваемыя радасьці вечнага шчасьця!*».

Такімі, чытач, з'яўляюцца «ўласныя словы» дачкі, жонкі і цёткі прарока пасьля яго сьмерці! Іх запомнілі падслухоўваючыя праз замочную свідравіну суседняга пакоя і паведамілі нам у дакладнасьці... А як жа здарылася, паўтараю я, што месца пахавання такой знакамітай асобы было забыта ўжо дзецьмі гэтых аплакваючых і ўсіх падслухоўваючых іхныя словы з алоўкамі ў руках? Але справа выглядае яшчэ горш, калі мы чытаем далейшыя радкі. Выяўляецца, што да гэтай забытай магілы, ужо не маючай форму спіны асла, зддзяйсняліся вялікія штогадовыя паломніцтвы, але толькі не ў VIII, а ў XVIII стагоддзі! Быў быццам бы ўсталяваны нават цэлы рытуал для прывітання прарока і яго паплечнікаў, магілы

[52] «Хрыстос», кн. IV, стар. 431.

якіх таксама ўсе самі сабой знайшліся да таго часу? Што ж гэта за новая казка Шахерызады?

Перакажам жа і яе грунтуючыся на нашай першакрыніцы ў дакладным перакладзе.

«*Наведванне магілы прарока, па думку кніжнікаў,* – павучае нас той жа Ганье, – *з'яўляецца вялікай заслугай, і гэта паломніцтва адзін із абавязкаў найбольш блізкіх да самых важных боскіх установаў і абавязковае, калі з'яўляецца да таго прыдатны выпадак і магчымасць. Грунтуючыся на гэтым, славуты апостал сам выказваўся:*

*– Той, хто мае магчымасць і, не прыходзіць да мяне, той абражае мяне.*

*І ён жа яшчэ выказваўся:*

*– Таму, хто наведае маю магілу, забяспечана маё заступніцтва: служка бога дасць яму здароўе.*

*І яшчэ:*

*– Наведаўшы мяне пасьля сьмерці, наведвае мяне як бы жывога.*

А вось і рытуал паломніцтва:

«*Калі пілігрым пойдзе ў дарогу дзеля гэтага наведвання, як толькі павернецца тварам да Медыны, ён павінен некалькі разоў прачытаць пра сябе ўсталяваны заклік да прарока. Калі ён заўважыць здалёку медынскую зеляніну дрэваў, ён яшчэ часьцей павінен паўтараць гэтае звяртанне да яго. Потым ён пакорліва звернецца да бога, каб той блаславіў яго падарожжа і пры яго дапамозе ён атрымаў асалоду на гэтым сьвеце і ў будучыні. З гэтай мэтай ён вымавіць такую малітву, напісаную набожнымі і адукаванымі кніжнікамі:*

*– О, божа, вось свяцілішча твайго прарока! Хай яно будзе мне сховішчам ад полымя* (пякельнага) *і будучым прытулкам і абаронай супраць катаванняў і пакут жахлівага суда.*

*Перш чым зайсьці ў Медыну, добра дзеля ўшанавання сьвятога месца, ачысьціцца абмываннем. Потым паломнік апране сваё лепшае адзенне, як магчыма больш чыстае, і нацярэцца пахучымі рэчывамі. Потым, адпаведна сваім сродкам, якімі б яны ні былі малымі, ён дасць падаянне. Заходзячы ў горад, ён прамовіць:*

*– У імя бога добрага і літасьцівага! Пане, дазволь мне праведна зайсьці сюды і таксама праведна выйсьці адсюль і дай мне сваю моцную дапамогу!*

*Стаўшы перад дзьвярамі мячэці, якія б яны ні былі, ён пераступіць у яе правай нагой і вымавіць заходзячы:*

*– О, божа, будзь спагадлівы да Славутага і да сям'і яго! Прабач, божа, мае грахі і адкрый перад мной браму тваёй літасьці і тваёй спагады!*

*Ён прама накіруецца да «Кветніка славы» – як называецца* (невядомая тады) *магіла прарока – і па дарозе спыніцца там, дзе боскі апостал меў звычай маліцца і памоліцца пра квітнеючы выгляд гэтай мячэці. Ён спыніцца яшчэ і ў іншых месцах, дзе знойдзе патрэбным. Пасьля гэтага ўпадзе ніц, славячы бога і дзякуючы яго за шчасьлівае прыбыццё ў славутую даліну і будзе прасіць бога прыхільна паставіцца да яго наведвання і выказаць яму сваю літасць. Набліжаючыся да знакамітай магілы, ён спыніцца, павярнуўшыся тварам да поўдня, дзе знаходзіцца Мека ў напрамку да Медыны. Хай ён асьцеражэцца абаперціся рукой на сьцяну, вышынёй па грудзі, якая атачае магілу ці ж дакрануцца да яе: нават самі таварышы прарока гэтага не рабілі. Потым ён наблізіцца да магілы на адлегласць трох ці чатырох локцяў і прамовіць малітву набліжэння і замірэння як над прарокам, так і над двума яго наступнікамі – Абу-Бекрам і Амарам, спачываючымі каля яго. Потым ён адыйдзе на адлегласць дзіды ці некалькі менш, згодна з пастановай Ал-Факіба ці ж кніжніка Абул-Лаіта і іншых із секты Ханаіфа.*

*А Ал-Шафі і Малек навучаюць паломніка, наадварот, станавіцца сьпіной да Кіблы, і, такім чынам, тварам да славутага ўваходу і да знакамітай агароджы, каб вітаць боскага апостала з усім шанаваннем.*

*Што ж да таго, якім чынам гэта павінна рабіцца, то вось якія правілы патрэбных цырымоній і звычаяў.*

*Паломнік павінен вітаць прарока стоячы, з апушчанымі вачамі, з позіркам, выказваючым павагу і шанаванне. Ён павінен у гэты час аддзяліцца сэрцам ад усяго зямнога і ўвесь напоўніцца ва ўяўленні веліччу сьвятога месца, дзе ён знаходзіцца пры прароку, маючы быць перад ім там, дзе прарок некалі сам знаходзіўся. Ён вітае яго із самай глыбіні сэрца, і ціхім, ласкавым, чуллівым голасам вымаўляе наступныя словы:*

*– Ды захаваецца над табой мір, о каліф, боскі апостал! Ды захаваецца над табой сьвет, о боскі прарок! Ды будзе з табой мір, найпершы із апосталаў! Ды будзе над табой мір, о пячатка пракакаў! Ды будзе над табой мір, правадыр шчасьлівых, азораных сьвятлом! Ды будзе мір над табой, над тваёй сям'ёй, над тваімі жонкамі і над усімі тваімі таварышамі! Ды будзе над табой мір, о прарок, і літасць боская і яго добраславенне! Сведчу, што няма бога, акрамя бога; сведчу таксама, што ты яго служка, яго апостал, яго верны раздавальнік даброт і лепшае із яго стварэнняў. Вызнаю таксама, што ты дасягнуў найвышэйшай ступені апостальства і ўсталяваў самую дасканалую із усіх рэлігій. Ты перадаў яе народу з дапамогай і падтрымкай бога, і да апошняга імгнення свайго жыцця з нязменнай шчырасьцю служыў свайму богу. Я вызнаю яшчэ, што праз цябе бог нам паслаў даброты і шчодрасьці, якія ён не пасылаў ніякаму іншаму народу праз яго прарока і ніякаму іншаму народу праз свайго апостала. О, божа, будзь міласьцівы да нашага найсвятлейшага Магамета, і да яго сям'і, так жа як ты быў міласьцівым да Абрама і сям'і Абрама! Дабраславі нашага князя Магамета і сям'ю яго, як ты дабраславіў Абрама і сям'ю яго на гэтым і на тым сьвеце! Ты годны бясконцай ухвалы і славы, о Божа! Цалкам праўдзівым з’яўляецца тваё прароцтва: калі яны пеерададуць (граху) свае душы, то яны звернуцца да цябе і папросяць даравання ў бога, каб апостал папрасіў бога за іх, і тады бог павернецца да іх і будзе літасьцівым. О, божа, мы чулі тваё слова і, падпарадкоўваючыся твайму загаду, мы звяртаемся да прарока і просім яго заступніцтва перад табой, каб ты дараваў нашы грахі! О, божа! Уваж нас і, за наша наведванне яго, дабраславі нас шчасьцем і прымі нас дзякуючы яго заступніцтву! Для яго, боскі апостал, мы станавімся перад табой, пасьля таго як мы перадалі (граху) уласныя душы, і пакорліва молім дапамагчы нам атрымаць дараванне нашых грахоў! Сам бог назваў цябе набожным і літасьцівым! Папрасі за чалавека, які звярнуўся да цябе, які, хаця і перадаў сваю душу, але прызнаецца ў сваіх грахах і шчыра звяртаецца да свайго Валадара.*

*Потым ён прамовіць:*

*– О, лепшы із усіх жывых стварэнняў, пахаваны ў месцы, маючым назву «роўная зямля» (ал-ка па-арабску), да якога я адчуваю глыбокае пакланенне! Гэтая «роўная зямля» і магіла, што знаходзіцца ў ёй пасярэдзіне, выпускае больш салодкі пах, чым усе зямныя водары! Даю ў заклад сваю душу і ўсё самае для мяне дарагое для захавання гэтай магілы, якая з'яўляецца тваім жыллём, у якой змяшчаецца пазбаўленне  ад усіх пакут, багацце розных даброт і ўсе шчодрасьці! Ты заступнік, дзякуючы заступніцтву якога мы спадзяёмся прайсьці востры шлях, маючы столькі небяспек, што можа завагацца нага!*

*Пасьля гэтага паломнік можа маліцца за самога сябе, за сваю жонку, сваіх дзяцей і сваіх сяброў, як ён пажадае. Калі нехта даручыў яму за яго пакланіцца прароку і аддаць сябе яго малітвам, то ён павінен выказаць гэта такім чынам:*

*– Хай будзе над табой мір, о боскі апостал, ад імя вось такога, сына вось такога! Ён просіць твайго заступніцтва перад нашым богам і атрымання для яго міласьці і даравання яго грахоў. Заступіся за яго і за ўсіх верных, бо ты агульны заступнік, набожны і літасьцівы!*

*Ад гэтага месца паломнік пойдзе па колу, пакуль не стане насупраць твару прарока. Там ён два ці тры разы паўторыць малітву набліжэння і прывітання. Потым, узяўшы направа, ён спыніцца насупраць верхавіны магілы Абу-Бекра, бо галава яго, згодна з агульнапрынятай думкай, знаходзіцца на ўзроўні плячэй прарока. Тут ён скажа:*

*– Ды будзе з табой мір, о каліф, наступнік боскага апостала! Ды будзе з табой мір, о таварыш боскага апостала! Ды будзе з табой мір, о верны спадарожнік боскага апостала! Ды будзе з табой мір, о Абу-Бекр, бацька дзяўчыны Айшы, названы Ал-Седыкам, верным сведкай! Бог узнагародзіў цябе непараўнальнымі ўчыннасьцямі імама ці духоўнага правадыра (першасьвятара) дзякуючы схільнасьці да народа прарока. Вось чаму ты ўспадкаваў яму як добры каліф і ішоў па лепшаму са шляхоў! Ты ўціхамірыў і перамог вераадступнікаў і ерэтыкоў! Ты падтрымаў вагаючуяся і ідучае па шляху да пагібелі ісламіцства! Ты клапаціўся пра малалетніх і сіротах і ў той жа час выказваў любасць сваім блізкім. Ты ніколі не пераставаў стаяць за праўду і міласьціва ставіўся да сектантаў да той пары, пакуль не выплаціў сваю даніну прыродзе. Ды будуць з табой літасьці і шчадроты бога, яго мір і дабраславенне. Малюся богу і нястомна прашу яго даць мне памерці ў стане такой жа павагі да яго, як і ты! І ды злучыць ён нас разам з прарокам і з табой! Ды не падмануцца нашы надзеі і нашы жаданні і ды паслужыць на карысць прыклад тваёй набожнасьці нам, набожна стаячым перад тваёй магілай, таму што бог літасьцівы і міласьцівы!*

*Потым, прайшоўшы направа яшчэ адлегласць роўную лацю даўжынёй, паломнік спыніцца насупраць падгалоўя магілы Амара, названага Аль-Фарак (г.азн. адрозніваючы праўду ад няпраўды), таму што яго галава знаходзіцца на ўзроўні плячэй Абу-Бекра. Тут ён скажа:*

*– Ды будзе з табой мір, валадар верных, о, Амар-Распазнальнік! Ды будзе з табой мір, о іконазмагальнік, разбуральнік выяваў! Ды будзе мір з табой, ўмацаваўшы ісламіцства! Бог падараваў табе цудоўныя ўчыннасьці імама (духоўнага правадыра) на карысць народа прарока.*

*Потым, адступіўшы на полову лакця, ён стане паміж галавой Абу-Бекра і Амара і прамовіць наступнае:*

*– Ды будзе мір над вамі абодвума, о таварышы боскага апостала! Ды будзе мір над вамі абодвума, спачываючымі каля боскага апостала! Ды будзе мір над вамі, візіры і дарадцы боскага апостала, дапамагаўшыя яму з такой стараннасьцю, мужнасьцю і поспехам, каб усталяваць у народзе рэлігію ісламу! Мы прыйшлі, о, таварышы боскага апостала, наведаць нашага прарока, і вас, абодвух, Верны Сведка і Распазнальнік! Мы звяртаемся да вас, каб усім разам прасіць боскага апостала заступіцца за нас! Мы молім усявышняга бога пачуць нашы малітвы. Ды даруе ён нам жыццё, пераймаючы ваш прыклад і пашле сьмерць падобную вашай і потым злучыць нас разам!*

*Тут ён памоліцца за сябе, за сваю жонку і сваіх дзяцей і за ўсіх прававерных мужчын і жанчын.*

Так нам паведамляе знакаміты арабіст Ганье, але толькі ён не згадвае пра адну і для кожнага разумнага чалавека самую важную акалічнасць: як і калі былі вызначаны месцы гэтых магіл, калі ўжо праз стагоддзе пасьля сьмерці ўсіх гэтых людзей старому Ярве давялося клясьціся Алахам, што знойдзеныя тут косткі ног занадта кароткія для прарока?

Але працягнем і далей нашы выпісы із Ганье, які, седзячы ў Оксфардзе, так добра чуе кожнае слова малітвы, быццам бы вымаўляемай паломнікамі каля труны Магамета ў Медыне, чуе, без сумневаў, нашмат лепш, чым самі гэтыя непісьменныя магаметамольцы, толькі выкрыкваючыя шаблонныя фразы.

«*Скончыўшы наведванне магілы прарока, паломнік у наступную пасьля гэтага пятніцу выпраўляецца маліцца на могілкі, маючыя назву Аль-Бакі. У дачыненні да гэтых могілак існуе паданне, паходзячае ад самога прарока, які выказваўся*:

*– На сьвеце існуе толькі двое могілак, зіхацячых насельнікам неба падобна таму як Сонца і Месяц ззяюць насельнікам нашага сьвету. Гэтыя могілкі Аль-Бакі ў Медыне і Аскалон* (Агнямёт*) у Палестыне.*

*Кадзі Анад у сваёй кнізе пад назвай «Медарэк» («шляхі ці павучанні») паведамляе ў якасьці тлумачэння гэтага, спасылаючыся на аўтарытэт Малека, што із таварышаў прарока каля 10 тысяч памёрла ў Медыне, а астатнія разышліся па іншых краінах. Із памёршых жа ў Медыне падчас жыцця прарока, амаль усе былі пахаваны на могілках Аль-Бакі.*

*Такім жа чынам паломнік наведвае магілы самых вядомых жанчын із сям'і прарока, магілы яго слуг і іншых сектантаў ці паслядоўнікаў, яго таварышаў. Ды будзе літасць боская над імі ўсімі! Ён наведае таксама астатнія сьвятыя месцы, годныя наведвання і самыя знакамітыя магілы, між іншым магілу валадара прававерных Атмана, сына Афана, размешчаную асобна пад купалам, пабудаваным Азамай сынам Менана, салхітам, адным із эміраў Слабодзіна Ёзафа сына Ашоба.*

*Ён наведае яшчэ магілу Ал-Абаса, дзядзькі боскага апостала, размешчаную пад купалам, які носіць яго імя. У гэтай магільні знаходзяцца дзьве магілы. У той, што на захад, пахаваны Ал-Абас, у той, што на ўсход, спачывае цела валадара прававерных Ал-Хасана, сына Алі, каля якога яго пляменнік Заіна-Абедын, сын Хасана і сын гэтага апошняга Магамет Ал-Бакер са сваім сынам Джафарам, названым Ал-Садэкам. Ды будзе літасць божая над усімі імі! Яны ўсе пахаваны ў адной магіле. Каліф Ал-Назер Ледыніла Ахмед, сын Ал-Мастадхі, Абазід, узвёў над імі пышны купал* (а чаму ж не над самім пракрокам?).

*Ён наведае яшчэ магілу Фацімы, дачкі боскага апостала, якая знаходзіцца зараз у належаўшай ёй мячэці на могілках Ал-Бакі. Зараз гэтая мячэць мае найменне Сядзіба Смутку. Сцвярджаюць, што Фаціма была спачатку пахавана ў сваёй уласнай сядзібе і толькі пазьней перанесена ў гэтую мячэць Амарам, сынам Абдул-Асіза. Гэтая магіла знаходзіцца каля драўлянага памоста ззаду сьвятога каменя, звычайна наведваемага пілігрымамі* (але ж ён не ў Медыне, а ў Мецы!!). *Перадаюць, што другі яе сын Алі-Хасаін, выракшы сябе на сьмерць у бітве, у якой ён і быў забіты, загадаў сваім патужнікам:*

*– Пахаваеце мяне каля маёй маці Фацімы.*

*І гэта было выканана. Ал-Марэзі паведамляе, што падчас наведвання ім могілак Ал-Бакі, ён наладзіў сабе стаянку насупраць паўднёвага боку купала Ал-Абаса і з гэтага месца ён вітаў магілу Фацімы. Ён дадае, што месца яго ўласнай магілы было яму павядомлена звыш.*

*Паломнік наведае яшчэ магілу другой Фацімы, дачкі Асада і маці Алі. Над ёй таксама знаходзіцца купал. Паданне перадае, што Хасан перанёс туды цела свайго бацькі Алі і пахаваў яго на могілках Ал-Бакі побач са сваёй маці і што пазьней туды было пакладзена і цела самога Хасана.*

*На тых жа могілках Ал-Бакі ён наведае яшчэ магілу Аб-Рама (Ібрагіма), сына прарока. Ён пахаваны каля Атмана, сына Матуна, каля якога спачывае Абдал Рабман, сын Аўфа. Кажуць, што там жа знаходзяцца магілы Акаіла, сына Абу-Талеба і яго пляменіка Абдалаба, сына Джафара ўнука Абу-Талеба. Яны спачываюць пад купалам, узведзеным у іхны гонар. Тамсама паблізу знаходзяцца магілы чатырох із жонак прарока, а на захад ад купала Ал-Абаса размешчана магіла Ізмаіла, сына Джафара Ал-Сладэка. Яшчэ там знаходзяцца магілы Малека, сына Аўфа і некаторых іншых таварышаў і адзінаверцаў. Ды будзе над усімі імі літасць госпада!*

*Па-за сьценамі Медыны, –* працягвае Ганье, *– паказваюць магілу Магамета, сына Абд-Адлаба, унука Хасана, праўнука Алі, прапраўнука Абу-Талеба, загінуўшага пакутніцкай сьмерцю ў часы каліфа Абу-Джафара і Ал-Максора, называемага капеечнікам, з нагоды сваёй вартай папрокаў скупасьці. Гэтая магіла знаходзіцца на ўсход ад гары Сага, на якой высіцца масіўны будынак, належны быць пакрытым купалам, але застаўшыся ў незавершаным выглядзе.*

*Паломнік павінен наведаць яшчэ пакутнікаў, загінуўшых у бітве пры Абадзе, пачынаючы з Гамзы, дзядзькі прарока. У адной магіле з ім знаходзіцца яго пляменік* (сын

яго сястры) *Абд-Алаб, сын Джабаша, празваны знявечаным, таму што ў яго, забітага, быў адрэзаны нос. Гэты Абд-Алаб першым быў ганараваны званнем эміра ці правадыра прававерных, калі прарок выправіў яго ў вайсковы паход да Накле. Згодна з загадам маці каліфа Ал-Назар-Ледынылаба, сын Ал-Масталбі, у 570 годзе Геджры* (ці 1174 «пасьля Н. Х.») *над іхнай магілай быў узведзены пышны купал* (і я зноў пытаю: а чаму не над самім прарокам і чаму толькі ў XII стагоддзі?).

*Ён наведае таксама магілы іншых пакутнікаў, моўчкі кланяючыся тым, каго ён не ведае і вітаючы на імя тых, каго ведае. Да апошніх патрэбна аднесьці Мазааба, сына Амаіра, Хандбалу, якога памылі анёлы, Сада, сына Арабі, Анаса, сына Ал-Мадора, Абул-Дабдаба, Мачжадэра, сына Зіяда ў шмат іншых, спачываючых у перамежку кля ног Гамзы без якіх бы то ні было ўказанняў на магілах. Праўдзіва толькі адно, што гэтыя магілы належаць пакутнікам, і паломнік павінен іх вітаць наступнымі словамі:*

*– Ды будзе мір над усімі вамі, прававерныя, пахаваныя ў гэтых магільнях! Мы пойдзем следам за вамі, калі гэта будзе дагодна богу. Ды будзе вам закладам літасць боская і ды суцешыць ён ваш смутак! Ды будзе ён прыхільным да вашых добрых справаў і даруе вам вашы благія!*

*Потым ён вымавіць 112 главу із Карана і верш із Пасада, таму што яны абодва ўтрымліваюць вялікія таямніцы і поўняцца патаемным сэнсам. Паданне перадае нам, што прарок, праходзячы аднойчы каля магілы Магааба, сына Амаіра, спыніўся і, павярнуўшыся да яго і іншым пакутнікаў, вымавіў наступныя словы:*

*– Сведчу, што вы ўсе жывыя перад богам!*

*А потым прамовіў, павярнуўшыся да сваіх спадарожнікаў:*

*– Наведвайце і вітайце іх! Клянуся вам тым, хто трымае ў руках маю душу, што кожны, хто прывітаў ляжачых тут, неадкладна атрымае абваротнае прывітанне пад час дня ажывання!*

*Вярнуўшыся із Абода, паломнік, калі магчыма, наведае ў суботу мячэць Коба і памоліцца там, схіліўшыся двойчы.*

*Адтуль ён пойдзе да студні, маючай назву Арыс, у якую прарок плюнуў. Распавядаюць таксама, што Атман, сын Афона, выпусьціў у яго са сваёй рукі пячатку прарока і Славуты забараніў яе шукаць. І сапраўды яна з тых часоў ніколі не была знойдзена. Гэтая студня знаходзіцца паблізу мячэці каля ўваходу ў сад. Паломнік здзейсніць там сьвятое абмыванне і нап'ецца вады.*

*Потым ён накіруецца да мячэці Перамогі, пабудаванай каля рова ці канавы, названай так у памяць знакамітай перамогі, здабытай прарокам над варожымі плямёнамі.*

*Потым ён наведае ўсе астатнія мячэці і малітоўні Медыны, якіх усіх трыццаць. Жыхары Медыны пакажуць іх, а таксама студні, із якіх прарок піў і мыўся. Усё гэта ён зробіць, каб пераймаць прыклад прарока, а таксама дзеля здабывання сабе здароўя і дабраславення. Гэтых студняў шэсць і вось іхныя назвы: 1) Арыс, 2) Герс, 3) Раўма, 4) Бадба, 5) Бар-Ха, 6) Ал-Абн*».

Так, чытач, апісваюць з найвялікшай дакладнасьцю не толькі магілу Магамета, але і магілы яго паплечнікаў і паломніцтвы да іх прававерных оксфардскія і іншыя еўрапейскія хрысьціянскія аўтары XVIII стагоддзя, калі Медына і Мека былі недаступнымі для еўрапейцаў. Ды гэта і зразумела: пра іх можна было паведамляць казкі накшталт толькі што прыведзенай, не баючыся быць аспрэчанымі. Як толькі наступіў скептыцызм у дачыненні да сваёй уласнай занадта блізкай, каб не бачыць яе недахопаў, царквы, так у шмат каго з’явілася жаданне паставіць ёй у кантраст нешта далёкае, недаступнае і абуджаючае сімпатыю ўжо тым што яно адваротна свайму, благому, і зведвае яго напады. Гэта часта здаралася з людзьмі. Але ўжо адна тая акалічнасць, што ўсе нашы першакрыніцы па біяграфіі Магамета і першых каліфаў «прававернага накірунку»,

хаця і ўяўляюцца **надзвычай важнымі для пашырэння мулами сярод вернікаў** і добра апрацаванымі кнігамі, але «знойдзены» толькі **ў адным асобніку**, наводзіць на думку, што і напісаны яны былі тым, хто іх «знайшоў». Інакш яны даўно б былі памножаны.

Такім чынам, магіла прарока і яго паплечнікаў у Аравійскай пустыні і ўвесь рытуал іхнага наведвання, былі добра вядомымі ў XVIII стагоддзі... Але вось наступіла XIX стагоддзе. Заходне-еўрапейскія навукоўцы пад выглядам ісламітаў-пілігрымаў, пачалі здзяйсняць паломніцтвы ў запаведныя для іх гарады... І выявілася, што вялікая частка ўсяго вышэйпавядомленага была прыдумкамі асоб ніколі не бачыўшых Аравіі, але намагаўшыхся ў сваіх кабінетах, збольшага грунтуючыся на фантастычных паведамленнях хадзіўшых і не хадзіўшых туды прававерных, а збольшага бяручы са сваёй уласнай галавы, аднавіць «якімі **павінны быць** гэтыя пілігрымствы і якімі **павінны быць** вымаўляемыя пры гэтым паломнікамі словы. Палічыўшы свае наіўныя меркаванні за далёкія факты, яны і напісалі ўвесь гэты раман на вывучанай імі і шануемай мове Карана, а навейшыя арабісты, накшталт Шпрэнгера, папоўнілі яго новай адсябяцінай. І вось, Аравія даведалася пра сваю ўласную гісторыю, грунтуючыся на творах ніколі не жыўшых ў ёй «гяураў».

Здавалася б, увесь мусульманскі сьвет павінен паставіць ім за гэта помнікі і ў Мецы, і ў Медыне... Але, на жаль! Гэтыя творы выявіліся так мала прыдатнымі да ўяўленняў прававерных пра свайго прарока, што, даставіўшы аўтарам славу ў Яўропе, не стварылі для іх гучнага імя ні ў адной із мусульманскіх краін...

# Глава VIII.

## Псеўда-мусульманскія першакрыніцы біяграфіі Магамета.

«Хадзячыя ўяўленні, якія мае пра свайго прарока агульная маса мусульманаў, маюць шмат, – выказваецца А. Крымскі[53], – фантастычных элементаў».

Вось, напрыклад, песьня афганскіх «менестрэляў», вандроўных із аднаго паселішча ў другое:

«*Прыгатуй нам із каменя птушку, калі ты пасланец Найвялікшага! Тады мы пойдзем следам за тваёй верай і не будзем сумнявацца, што ты прарок. Прыгатуй із каменя птушку, ногі якой былі б сердалікавыя, крылы – із лазуравага каменя, а шыя – із берылу. Дзюба каб была залатой, і каб яна ўмела размаўляць. Яна павінна быць пярэстай, а вочы як саламонавы, рознакаляровымі. Ну, Махамед, раскалі камень! Няверныя стаяць і чакаюць. Падніміся і памаліся свайму Валадару. Тады мы прымем тваю веру і табе можна будзе дакараць крывадушнікаў. Гатова тваё дзіва? Няўжо нейкі камень цябе спыніць?*

*Камень раскалоўся, бог пачуў малітву, сярод сабраўшагася народа пачала лётаць птушка. Прарок запытаў яе:*

*– Колькі часу ты правяла ў гэтым камені?*

*– Тысячу гадоў правяла я тут, сын прабацькі Адама.*

*Праклён Абу-Джаглю, ганьбуючаму веру! Не расчуліла яго гэтае госпадава дзіва. Трыццаць чалавек прынялі праўдзівую веру, а ён не зрабіўся мусульманінам, гэты безсаромнік.*

---

[53] «Крыніцы для гісторыі Махамеда і літаратура пра яго». 1902.

*Наадварот, ён нахабна закрычаў;*

*– Магамет, ты вядзьмак!*

*О, няверны! Наш прарок не вядзьмак! Схіліся перад яго сьвятасцю!.. Ты абражаеш сваіх жа родных, ты сын Хішама, ставячага перашкоды справе Магамета. Іржа тваёй няверы не сходзіць з цябе.*

*Ты – няверны із няверных!*

Ці падобна гэта на тое, што мы зараз чыталі? Такіх фантастычных паданняў маецца шмат і ў іншых прававерных народаў. Вельмі знакамітай з'яўляецца, напрыклад, турэцкая, увесь час перавыдаваемая кніга «Мухамедыйе», твор Ядзыджы-Аглу (1449), дзе існуе асобная глава пра дзівы і пра разнастайныя вычыны прарока, – кніга, кожны верш якой згодна са словамі турэцкіх гісторыкаў літаратуры з'яўляецца «каштоўны пэрлам». Знакамітым з'яўляецца і крыху ранейшы (XIV-XV стагоддзі) «Меўлюд» шэйха Сулеймана-Чэлабі, дзе паведамляецца пра нараджэнне прарока. Яго завуць: «вялікае тварэнне, якое з года ў год чытаецца ў тысячах сходаў».

А ўсё тое, што мы зараз выкладалі аж да «адкрыццяў» д-ра Шпрэнгера, мае поспех толькі ў асяроддзі еўрапейскіх арабістаў! Фірузабадый (†1414) – той самы навуковец, які склаў адзін із самых поўных тлумачальных арабскіх слоўнікаў, паміраючай зараз карэйшыцкай класічнай мовы, вядомы пад імем «Акіян», скампіляваў у 114 главах гісторыю Магамета і назваў яе «Кнігай асалоды», але яна надрукавана толькі ў наш час у Каіры, без пазначэння года. І толькі ў другой палове XV стагоддзя асабліва праславіўся сваёй дзейнасьцю надзвычай працавіты і выхваляючыся энцыклапедыст-ягіпцянін Джэлялэддзін Саюты (†1505). Сярод яго незлічоных твораў вельмі шматлікія прысьвечаны кампіляванню матэрыялаў із гісторыі Магамета і гэтымі матэрыяламі, яшчэ пры жыцці Саютыя, скарыстаўся каірскі прапаведнік шафійскага толку Абуль-Абас Касталаній (†1517), які напісаў (у 1514 годзе) гістарычную зводку паданняў яго часу, пад назвай «Запаветныя дарункі, выявіўшыяся ў літасьцях, якія бог надаў Магамету».

Нават і да сучаснасьці ў каірскай мячэці-ўніверсітэце Аль-Азгар вывучаюць гісторыю Магамета грунтуючыся на Касталаніі, а не на сенсацыйных знаходках Шпрэнгера. Але яшчэ больш славіцца «Аль-Хаміс» (Пяцёрка), кніга, належачая Хасейну ад-Дыярбакрыю (†1574 г.).

«*Войска*, – выказваецца ён, – *складаецца із пяці частак: цэнтра авангарда, тылу, правага крыла і левага крыла, а таму і гэтая кніга мае назву «пяцёрка*».

Толькі тут з'яўляецца агульны нарыс гісторыі першых халіфаў, і за ім амейядаў, абасідаў і султанаў аж да ўступлення на пасад султана Мурада III (1574).

Ды і другая такая ж асноўная кніга пра Магамета: «Зрэнка вачэй да жыцця чалавека вернага», таксама вельмі позняя. Яе аўтар, каірац, Алій Нур-Аддзін аль-Халябій, нарадзіўся ў 1568 і памёр у 1634 годзе.

Аднак абедзьве кнігі, як першакрыніцы, не маюць значэння. Дыярбакрый пералічвае ў прадмове больш за сто твораў, із якіх ён скампіляваў свой «Хаміс», а іх большай часткай нідзе няма. Алій Халябій ужо карыстаўся «Хамісам», хаця і пазначае ў прадмове, што яго галоўнымі дапаможнікамі былі два: «Найлепшыя паведамленні» Абуль Фатха ібн-Сейвудо-ан-Наса (†1334) і «Дамаскае жыццё» каірскага жыхара Махамеда ібн-Юсофа ад-Дымішкія ас-Саліхія (†1536), Алій Халябій быццам бы папоўніў іхныя запазычанні із «паэтаў-ухваляльнікаў» (напрыклад, із паэмы Бардо пра магамедавы плашч), так што яго кніга ўтрымлівае ў сабе цытаты больш чым із трох соцень кніг.

Гэтыя дзьве кнігі, ды яшчэ «Дарункі» Касталанія, да сучаснасьці лічацца, – паведамляе А. Крымскі[54], – у прававерных самымі лепшымі творамі пра Магамета і да гэтага часу служаць энцыклапедычнымі першакрыніцамі, адкуль яны бяруць свае «навуковыя сведчанні пра прарока».

Калі Вейль у 1840-м годзе пачаў свой твор «Mohammed der Prophet», то крыніцамі для яго больш за ўсё паслужылі «Хаміс» Дыярбакрыя (1575) і «Сірэ Халябійе (†1634). «Грунтуючыся на гэтых двух творах, перапоўненых цалкам неверагоднымі апавяданнямі, Вейль стварыў, – запэўніваюць нас, – навуковую працу, паслужыўшую падмуркам для далейшых навуковых дасьледаванняў».

Як жа ён змог гэта зрабіць? Вельмі проста. Ён выкінуў прэч із пазначаных твораў усе недарэчнасьці і пасьля такой аперацыі ў яго засталася, вядома, падабенства рэчаіснай гісторыі прарока, пазбаўленае ад ўсіх цудоўных падрабязнасьцей, і меўшае рысы праўдападобнасьці са спасылкамі (галоўным чынам на ібн-Гішама, Вакыдзія і збольшага Табарыя).

А што ж, – запытаем мы – паслужыла крыніцай для іх саміх?

Каран і хадысы, г.азн. паданні, адказваюць нам. Каран (хаця ён і лічыцца напісаным самім Магаметам) утрымлівае паданні пра яго ўчынкі і выказванні. А самы стары зборнік хадысаў, утрымоўваючы і юрыдычныя паданні, «Пракладзеная сцежка», – прыпісваецца імаму Маліку ібн-Анасу (715-795), і следам за гэтым зборам было створана, – пераконваюць нас, – на пачатку IX стагоддзя шэсць іншых, ужо чыста легендарных, із якіх асабліва важныя: «Сахых» («Праўдзівае») аль-Бахары (†870 г.) і другі «Праўдзівы-Сахых» Масліма (†875 г.).

Паданне пра ўшэсьце прарока на неба, такое папулярнае нават і ў сучасных прававерных, выйшла, – паведамляюць нам, напэўна, дзеля падмацавання яго верагоднасьці, – яшчэ із вуснаў Анаса, а гэты Анас ганарыўся тым, што быў служкай самога Махамеда. Пачатак для стварэння сістэматычных збораў легендаў біяграфічнага характару быў зроблены – паведамляюць нам – яшчэ быццам бы каля другой паловы I стагоддзя Геджры Орваю, вядомым медынскім юрыстам. Дзякуючы яго ж пачынанню, з'яўляецца і шэраг іншых матэрыялаў для жыццяапісанняў боскага пасланніка. «Праўда, да нас яны не дайшлі; але мы ведаем іх дзякуючы цытатам пісьменнікаў II-III стагоддзяў Геджры» (якія ібн-Ісхак, Вакыдзій і ібн-Садам). «Нават у XV стагоддзі із іх яшчэ рабіліся, – дадаюць нам – непасрэдныя выпісы, напрыклад, у вялікай колькасці ў ібн-Хажяра (1449 г.) у яго Ысабе – біяграфічным слоўніку людзей асабіста ведаўшых Магамета і Вакыдзія.

Але, на жаль! За высвятленне пытання пра біёграфаў першага стагоддзя Геджры і, мабыць, проста нават за пошукі паведамленняў пра само іхнае існаванне ўзяўся толькі нямецкі арабіст д-р Шпрэнгер, які ў XIX стагоддзі (ад заканчэння яго 40-гадоў і да сярэдзіны 60-х) назнаходзіў у Індыі некалькі добра захаўшыхся падрабязных і праўдападобных, без якіх бы то не было недарэчнасьцей, кніг пра Магамета. А да яго еўрапейская навука так невыразна ўяўляла сабе пытанне пра крыніцы біяграфіі прарока і пра яе крытыку, што Шпрэнгер у 1849 годзе, у сваім лісьце із Індыі ў Лейпцыг да «Нямецкага Ўсходняга таварыства», гэтага агменю нямецкай арыенталістыкі, палічыў патрэбным (ці, згодна з яго выказваннем nicht unangenehm) паведаміць таварысту тыя самыя сведчанні, якія зараз, лічацца за асноўныя. «На працягу прыблізна дзесяці гадоў, – пераконваюць нас яго верныя паслядоўнікі, сучасныя еўрапейскія арабісты, – Шпрэнгер стварыў арабскую гістарыяграфію першага стагоддзя Геджры ў «Zeitschrift der Deutschen

[54] Там жа, стар. 98.

Morgenlandlischen Gesellschaft» і ў англа-індыйскім «Jurnal of the Asiatic Society». Вынікі шпрэнгеравых дасьледаванняў былі фармуляваны Ў. Мьюрам (W. Muir) у першым томе яго працы «Жыццё Магамета»[55], а потым, але цалкам дактаральна і без спасылак на першакрыніцы, самім Шпрэнгерам (1864 г.) у прадмове да III тома яго кнігі «Жыццё і вучэнне Магамета[56]. А далей з’явіліся толькі распрацоўкі і папаўненні гэтага шпрэнгеравага падмурку.

Такім чынам уся сучасная нам гісторыя першых стагоддзяў магаметанства ў поўным аб'ёме гэтага тэрміна была створана Шпрэнгерам толькі пры нашых дзядах. А адкуль жа самі нашы дзяды атрымалі для яго матэрыялы? У адказ мы атрымліваем толькі сумнеўныя запэўніванні, што такія матэрыялы існавалі.

Першым, хто вырабіў папярэднюю працу для стварэння складнай біяграфіі прарока, – кажуць нам, – быў яшчэ «Арва ібн-Забейр, які, – зноў запэўніваюць нас, – нарадзіўся праз 14 гадоў пасьля сьмерці Магамета, а памёр у 713 годзе. Але вось, паведамляючы тое ці іншае паданне, Арва ў кожным прыдатным і не прыдатным выпадку ўкладае ў вусны дзеючых асоб экспромтныя вершы, якіх гэтыя асобы ў дадзеных абставінах вымаўляць ніяк не маглі. Акрамя таго, ён, – запэўніваюць нас, – сам знішчыў усе свае рукапісы, каб Каран быў адзінай кнігай і таму вынікі яго дасьледаванняў аднавіў із попелу і паведаміў нашчадкам яго знаёмы Зохрый ібн-Шыхаб (нарадзіўшыся ў Медыне праз 42 гады пасьля сьмерці Магамета, і памёршы на поўдні Сірыі ў 742 годзе). Гэта, – кажуць нам, – быў такі аматар рукапісаў, што жонка больш раўнавала яго да іх, чым да сваіх суперніц. Ён, – запэўніваюць нас, – распытваў пра прарока ў Медыне і ў Мецы ўсіх, каго толькі мог: і яго паплечнікаў, і (відаць, асабліва!) старых жанчын, так што Зохрыю прыпісваецца да 2000 апавяданнаў пра Магамета рознага зместу. Ён пагадзіўся перасяліцца із Медыны ў Дамаск да двара халіфа Абд-аль-Маліка (685-705 гг.), а пры Йазідзе II (720-724 гг.) атрымаў пасаду кадыя. Імам Шафій у 820 годзе нават зрабіў ласку выказацца:

– «*Не будзь Зохрыя, не было б і праўдзівай навукі ў Медыне*».

Другім раннім гісторыкам лічыцца ібн-Шарахіль ці аш-Шабій, хаця складальнік першай поўнай гісторыі Магамета ібн-Ісхак не робіць на Шабія ніякіх спасылак. І вось што цікава: калі паглыбіцца ва ўсе больш пазьнія распрацоўкі гісторыі мегаметавых паходаў, то із іх падабенства робіцца відавочным, што ў іхнай падставе ляжыць нечыя адна, ужо гатовая рэдакцыя. «Уся гісторыя медынскага перыяду жыцця Магамета, – выказваецца сам Шпрэнгер, – з'яўляецца толькі ўмоўнай хлуснёй» (!!).

Вось сапраўды выдатнае выказванне! Усё, што мы ведаем пра яго – умоўная хлусня! Дамовіліся людзі падманваць вызначаным чынам, і трымацца гэтай умовы.

Паведамленні пра вайсковую дзейнасць Магамета ўпершыню паведаміў у выглядзе напісанай кнігі, – кажуць нам, – Вахб ібн-Манабіх (638-728 гг.) у «Кнізе вайсковых здзяйсненняў Магамета». Гэтая кніга, вядома, таксама «да нас не дайшла», але, калі яна была некалі напісана гэтак жа, як і іншыя творы Вахба, для меркавання пра якія ў нас існуюць цытаты ў больш позніх аўтараў, то «ў ёй, – выказваецца сам Крымскі[57], – існавала значная доля шарлатанства».

І вось, калі мы – пасьля ўсяго вышэйпавядомленага – пажадаем коратка акрэсліць сабе тое, што лічыцца зробленым арабамі першага стагоддзя Геджры

[55] W. Muir: The life of Mohammad. (Лондан, 1858, стар. LXXXVII-CV).
[56] D-r Sprenger: Das Leben und die Lehre des Mohammad (2-е выд., Берлін, 1869, стар. LIV –LXXVII).
[57] «Крыніцы для гісторыі Махамеда», стар. 124.

дзеля высвятлення гісторыі прававерпага прарока, то перад намі паўстане наступная выява:

а) Пасьля сьмерці Магамета, пра яго, – кажуць нам агульнымі ў такіх выпадках фразамі, – **вядома**, захоўваліся ў яго сяброў і ў народзе розныя ўспаміны, і хадзілі вусныя апавяданні. Шмат якія із гэтых апавяданнаў дзякуючы сваёй займальнасьці, **вядома**, знайшлі для сябе асобных баянаў і, такім чынам, **вядома**, выявіліся абароненымі ад значных пераіначванняў. Калі-нікалі гэтыя апавяданні пра жыццё прарока слухаліся і, **вядома**, засвойваліся ўсходнімі багасловамі-прававедамі.

б) Каля сярэдзіны I стагоддзя Геджры, г.азн. заканчэння VII стагоддзя нашай эры, некаторыя прававерныя багасловы-прававеды, займаўшыяся засваеннем і збіраннем юрыдычных выказванняў адчулі, **вядома**, асаблівую цікавасць да індывідуальнай асобы і акалічнасьцей жыцця заснавальніка іхнай рэлігіі.

Із вядомага ім матэрыялу яны пачалі, **вядома**, вылучаць асобныя біяграфічныя паведамленні і папаўнялі іх збіраннем новых матэрыялаў і ўспамінаў пра Магамета, якія, **вядома**, захоўваліся ў асяроддзі яго сяброў і родных ці цыркулявалі сярод народа ў выглядзе легендаў і апавяданняў.

На працягу другой паловы I стагоддзя Геджры, г.азн. на пачатку VIII стагоддзя нашай эры, памянёныя багасловы-прававеды і іхныя пераемнікі, **вядома**, рабілі сістэматызацыю сабранага імі біяграфічнага матэрыялу, і із яго, **вядома**, складаліся пісьмовыя зборнікі, адлюстроўваючыя той ці іншы бок дзейнасьці Магамета, г.азн. яго апостальства, вайсковыя здзяйсненні і г.д. Такая сістэматызацыя рабіліся, **вядома**, і ў Медыне, дзе узнікла Арва-Зохрыеўская школа, і ў Куфе Шабіем, і ў Сірыі, дзе былі йеменец ібн-Манабіх і перасяліўшыся туды Зохрый, і, **вядома**, у Басры, на межах Персіі, так, верагодна, і ў самой Персіі. І патрэбна, **вядома**, меркаваць, што найбольш праўдзівыя сведчанні захоўвала медынская багаслоўская школа.

Такім чынам, – запэўніваюць нас, – да канца I стагоддзя Геджры і да пачатку VIII стагоддзя згодна з нашым сучасным злічэннем, у арабаў у розных месцах Амейядзкага халіфата выявілася, **вядома**, не толькі шмат сабраных, хаця і разрозненых матэрыялаў, але і некалькі мазаічна скампіляваных і прытым, **відавочна**, толькі частковых біяграфій Магамета, якія, можна было назваць папярэднімі сістэматычнымі зборамі абраных матэрыялаў для гісторыі Магамета, чым сапраўднымі яго біяграфіямі.

Мы бачым, што ўсе гэтыя высновы сядзяць як вераб'і на шасьце, на адным і тым жа слове: **вядома**, і таму, **вядома**, не могуць служыць трывалымі кропкамі апоры для сур'ёзнага гістарычнага дасьледавання.

Тое ж самае мы бачым і пазьней.

Першая палова II стагоддзя Геджры, г.азн. IX стагоддзя нашай эры, – кажуць нам (і гэтым разам без «вядома»), – не прынесла для гісторыі Магамета нічога новага, аж да з'яўлення поўнай сістэматычнай працы ібн-Ісхака.

Медынскія багасловы-прававеды, замяніўшыя Арву і Зохрыя, працягвалі, **вядома**, рэдагаваць папярэднія зборы асобных біяграфічных матэрыялаў і падобная ж праца паралельна рабілася, **вядома**, і ў іншых месцах халіфата.

«Муса ібн-Акба (памёр 758 г.) медынскі багаслоў, вольнаадпушчанік маці Арвы, знаходзіўся, **вядома**, у такім асяроддзі, дзе была магчымасць добра ведаць вынікі дасьледаванняў Арвы, ды, акрамя таго, ён у ліку сваіх настаўнікаў меў Зохрыя, засвоіўшага, **вядома**, традыцыі Арвы. За гэтыя свае паведамленні пра

паходы Магамета ібн-Акба меў найменне «імам паходаў». Ён склаў, – кажуць нам, – сваю біяграфію прарока «ад імя Зохрыя», г.азн. (**вядома**!) «грунтуючыся на лекцыях і на лекцыйных сшытках (!!) Зохрыя, на якога вельмі часта спасылаецца і ібн-Ісхак». Імам Малік ібн-Анас (заснавальнік аднаго із чатырох прававерных напрамкаў, каля 795 г.), супрацьстаўляў нават кнігу ібн-Акбы кнізе ібн-Ісхака, як «сумленны і самы праўдзівы твор», і вымавіў:

– «Патрэбна чытаць усім «магазі» добрага старца Мусы. Яны, па нашаму, самыя праўдзівыя».

Словы сьвятога імама пра асаблівую праўдзівасць ібн-Акбы часта паўтараліся наступнымі пісьменнікамі, у тым ліку і Хаджы-Хальфою (†1658 г.), а таксама і заснавальнікам сучаснай магаметалогіі д-рам Шпрэнгерам[58], сказаўшым, што пра паходы Магамета можна запазычаць дакладныя сведчанні «толькі із працы ібн-Акбы», а іншыя аўтары ўсе **падманшчыкі**, таму што сам імам Шафій (†820 г.) вывыказаўся: «Творы Вакыдзія – падман, творы ібн-Ісхака – таксама падман, асабліва напачатку кнігі»[59].

Аднак кнігі ібн-Акбы не існуе і адшукаць яе не змаглі, хаця сам Шпрэнгер, складаючы сваё «Жыццё Магамета», абяцаў каля паўтысячы рублёў (50 фунтаў стэрлінгаў) таму, хто паведаміць пра яе існаванне дзе-небудзь, пры гэтым запыты рабіліся і ў Меку і ў Медыну, але без вынікаў.

Другая наша першакрыніца Салейман Тэймій (памёршы ў 761 г.) жыў – кажуць нам, – у процілегласць свайму сучасніку ібн-Акбе, не ў Медыне, а па-за Аравіяй, у Басры. Складзенае ім казачнае, на думку саміх арабістаў, жыццё прарока не мела вялікага пашырэння ў прававерным сьвеце, яно і цытуецца рэдка, аднак, – кажуць нам, – значная частка яго дайшла да нас. Рукапіс Вакыдзія, які выдаў фон-Крэмер у 1866 годзе, быў дэфектным, тэкст Вакыдзія раптоўна абрываўся, як у Здзяйсненнях Апосталаў, і замест нехапаючай часткі Вакыдзія заканчэнне гісторыі прарока дапісана пазнейшым уладальнікам, няйнакш, як грунтуючыся на тэксце Тэймія[60].

Тэймій вельмі паважае легендарны, цудоўны элемент, а ад храналогіі адкрэшчваецца стэрэатыпнымі фразамі (накшталт евангельскіх пра Езуса): «Прарок прабыў у Медыне столькі часу, колькі было дагодна богу, а потым выправіўся ў паход» і г.д. Гэты твор басрыйца Тэймія з яго значным фантастычным элементам і нядбайнасьцю ў дачыненні да храналогіі паказвае, – кажуць нам, – што **па-за медынскімі** традыцыямі гісторыю прарока ўяўлялі сабе вельмі дрэнна. Такім чынам, для стварэння біяграфіі прарока першыя паўтары стагоддзя Геджры не даюць **нам нічога рэчаіснага**, а больш позні матэрыялы былі, **вядома**, сабраны і збольшага нават адрэдагаваны, так што для высвятлення асобных бакоў дзейнасьці Махамеда заставалася толькі крытычна злучыць разам усе гэтыя «**канцавіны**», дадаць нехапаючыя паведамленні, адкінуць усё цудоўнае і такім чынам стварыць поўную сістэматычную гісторыю Магамета. Гэта і было зроблена, – кажуць нам, – яшчэ згодна з прапановай другога абасідзкага халіфа Мансура (754-775 гг.) ібн-

[58] «Das Leben des Mohammed», T. III, стар. 67.

[59] Нам кажуць, што не далей, як у XV стагоддзі, можна было знайсьці ў літаратурным ужыванні самую кнігу ібн-Акбы, а не адны толькі выпісы із яе. Гл. Альвардтаў каталог арабскіх рукапісаў Берлінскай каралеўскай бібліятэкі, т. II, № 1554, і ў Гольдціэра, т. II, стар. 207 (са спасылкай на рукапіс).

[60] ...ein wertloser Anhang zum Zweck scheinbarer Vervollstandigung,, – словы Ю. Велльхаузена ў прадмове да яго скарочанага выкладу кнігі: «Muhammed in Medina», Берлін, 1882 стар. 5.

Ісхакам, які пазней яшчэ зведаў рэдагаванне ібн-Хішама (834 г.), але кніга была «знойдзена» толькі пад час эпохі гуманізму.

І вось мы бачым, што самі арабісты дапасуюць першы рукапіс жыццяапісання Магамета толькі да IX стагоддзя нашай эры... І мы зноў прыйшлі, як да першакрыніцы да той кнігі, дзе дзедка трымаецца за бабку, бабка за маці, маці за дзетку, дзетка за рэпку, і ўсе паваліліся, калі выдралі рэпку.

А вось і іншыя нашы першакрыніцы:

1) Абу-Машар (памёр каля 793 г.), аўтар кнігі «Кітаб-аль-магазі», якая да нас таксама не дайшла, але лягла ў падмурак некаторых частак аднайменнай працы Вакыдзія і цытуецца таксама Табарыем. Абу-Машар, – паведамляюць нам, – меў заступніцтва халіфа Махдыя (775-785 гг.), але пад старасьць саслабеў розумам, так што імам Ахмад ібн-Ханбаль (780-855 гг.) не верыць у дакладнасць яго паведамленняў.

2) Легендарны Вакыдзій (823 г.), аўтар шматлікіх матэрыялаў, «якія да нас таксама не дайшлі, але пасьля яго сьмерці былі захаваны для нас» ібн-Садам (памёр 845 г.).

3) Ібн-Аіз (памёр 839 г.), аўтар «Жыцця прарока», якое хаця таксама не дайшло да нас, але паслужыла дапаможнікам для наступных гісторый Магамета і нават у XV стагоддзі часта цытуецца.

4) Мадаіній (памёр каля 846 года), карэйшыцкі вольнаадпушчанік, склаўшы, – паведамляюць нам, – 111 твораў, таксама не дайшоўшых да нас.

5) Табарый (памёр у 923 годзе), складальнік каласальнай усеагульнай гісторыі, у якой адведзена, у выглядзе выпісак із ібн-Ісхака і іншых аўтараў шмат лістоў і для гісторыі прарока, але і ён «знойдзены» вельмі позна.

Такім чынам, усе нашы прававерныя першакрыніцы пра жыццё Магамета ці не дайшлі да нас, ці напісаны вельмі позна і знойдзены вельмі далёка ў трыдзясятым царстве ад месца яго жыцця, і сам Ібн-Ісхак дайшоў да нас толькі ў выкладанні ібн-Хішама, а Ібн-Хішам у Куфе – пераконваюць нас – слухаў і запісаў лекцыйным спосабам «ібн-Ісхакаву гісторыю прарока» ў 800 годзе ад Зіяда аль-Бакайя, а галоўную частку свайго жыцця правёў у Ягіпце, дзе і памёр... Але я ўжо даводзіў у папярэднічаўшай главе, што гэтая кніга безсаромная падробка еўрапейскага аўтара XVIII стагоддзя.

«*Вывучыў я*, – выказваецца ён сам, – *кнігу ібн-Ісхака із лекцый* (прафесара) *Зіяда аль-Бакайя. Я маю намер пачаць яе з апавядання пра Аўраамавага сына Ізмаіла і пра тых яго нашчадкаў, якія былі прамымі продкамі прарока..., але я прапускаю паведамленні ібн-Ісхака пра іншых нашчадкаў Ізмаіла і абмяжуюся толькі тым, што знаходзіцца у сувязі з гісторыяй самога прарока. Ды і із іншых паведамленняў кнігі ібн-Ісхака я прапушчу тыя, у якіх не згадваецца прарок, якіх няма ў боганатхнёным Каране і якія не стаяць у падстававай сувязі са зместам нашай кнігі, і не служаць тлумачэннем для яе ці гістарычнай спасылкай. Я буду прапускаць і тыя вершы, прыводзімыя ібн-Ісхакам, якіх ніхто із сучасных мне навукоўцаў гісторыкаў паэтычнай літаратуры не ведае. Я буду прапускаць і выпадкі, пра якія паведамляць брыдка ці крыўдна для некаторых людзей. Усё ж астатняе, я маю намер, з боскай дапамогай, перадаць у поўным выглядзе, якім ведаю*».

Такой з'яўляецца наша самая старажытная несумнеўная першакрыніца для біяграфіі Магамета, захаваўшаяся да гэтага часу.

А калі ж напісаны гэты рукапіс?

Надрукаваў ібн-Хішамава «Жыццё Прарока» толькі Фердынанд Вюстэнфельд у 1858-1860 гг., а самы старажытны із рукапісаў, якімі ён карыстаўся для свайго выдання, дапасуецца «не раней як да XII стагоддзя нашай эры» нават і

згодна з вызначэннямі нашых артадаксальных арабістаў. «Іхны агляд, – выказваецца А. Крымскі ў сваёй кнізе «Крыніцы гісторыі Махамеда і літаратура пра яго», якою я галоўным чынам тут карыстаўся, – існуе ў II томе выдання Вюстэнфельда, стар. XLVIII-LV, а пералік іншых рукапісаў у Брокельмана ў «Geschichte der arabisch. Litteratur», т. I, стар. 135».

Што ж мы тут бачым? Нешта, вельмі цікавае. На прыканцы XI стагоддзя туркі пад сьцягам прававерʼя пайшлі на праваслаўных хрысьціянаў у пярэдняй Азіі. Яны аправаверылі Сірыю і Палестыну ў 1078 годзе, паланіўшы перад тым візантыйскага» імператара Рамана. Рымскі папа Урбан II склікаў супраць прававерных «сусьветны» сабор у Клермоне ў 1095 годзе, і ў жніўні 1096 года выправіўся на Ўсход першы крыжовы паход. І толькі праз некалькі дзясяткаў гадоў пасьля гэтага, у 1180 годзе (і нават супраць волі візантыйскага імператара Мануіла), было вымаўлена адлучэнне прававерных ізмаэлітаў, упершыню названых царквой магаметанамі і з гэтага ж моманту зʼяўляюцца на сьвет нашы самыя старажытныя рэчаісныя першакрыніцы пра Магамета і пра яго самых блізкіх наступніках-намесьнікаў (халіфаў) Абу-Бекра, Асмана, Алі, і нават пра тое быццам бы існавалі яго арабскія біёграфы яшчэ ў XII стагоддзі нашай эры... І адкуль жа зʼявіліся ўсе гэтыя паведамленні? Із Аравіі ці із Месапатаміі, ці із Ягіпта? Не! Спачатку із Андалузіі, потым із Лондана ад містэра Пакока і потым, яшчэ на памяці нашых бацькаў – із брытанскай Ост-Індыі, амаль выключна ад ездзіўшага туды спецыяльна за біяграфіямі Магамета нямецкага д-ра Шпрэнгера.

Што ж гэта за новая чароўная казка?

# Глава IX.

## Армянскія, візантыйскія і грэцкія першакрыніцы жыцця Магамета.

Такім чынам, атрымліваецца, што ўсе мусульманскія біяграфіі Магамета – позьнія падробкі заходне-еўрапейскіх авантурыстаў у вобласці усходазнаўства, пра якія можна паўтарыць радкі «загадкавай нататкі» заваляўшайся, згодна з гумарыстычным апавяданнем Марка Твэна, пад сьмеццем адной палеалітычнай пячоры:

«Джон! Калі не хочаш быць прагнаным із майго музея, то лепш вырабляй твае прылады дапатопнага чалавека!».

А калі мне запярэчаць, што згадванне пра «Магамета» і пра імгненнае заваяванне амаль усяго культурнага сьвету ў VII стагоддзі аравійскімі пастухамі пад яго сьцягам існуе і ў армянскага біскупа Сабеаса, жыўшага у VIII стагоддзі нашай эры, то мне застаецца толькі прывесьці само яго паведамленне пра Магамета ў перакладзе[61]:

«*Зараз я буду паведамляць,* – піша ананімны армянскі аўтар у 30-й главе сваёй грунтоўнай кнігі, – *пра сына Аўраама, не пра вольнага, але пра таго, які нарадзіўся ад рабыні і над якім збылося не ілжывае боскае слова: «і будуць рукі яго на ўсіх і рукі ўсіх на яго* (Быт. XVI, 12).

---

[61] Ананімная «Гісторыя імператара Іракла», прыпісваемая без якіх бы то ні было падставаў армянскаму біскупу Сабеасу, дапасуемаму да VIII стагоддзя нашай эры. Знойдзена ў XIX стагоддзі армянскім навукоўцам багасловам арцыбіскупам Шахатуны «ў запыленым склепе Эчміаздынскага кляштара».

*У тыя дні сабраліся ў горадзе Эдэса 12 плямён жыдоў. Калі яны пабачылі, што пярсідзкае войска пайшло ад іх і пакінула горад у спакоі, яны замкнулі гарадзкую браму, умацаваліся, і не пусьцілі ў Эдэсу грэцкае войска. Грэцкі цар Геракл загадаў аблажыць горад. Жыды, бачачы немагчымасць супраціўляцца, загаварылі пра мір.*

*Адчыніўшы брамы горада, яны выйшлі насустрач да цара, а ён загадаў ім выдаліцца і супакоіцца ў сваіх сядзібах. Яны накіраваліся па пустыні ў Тачкастан да сыноў Ізмаіла, і клікалі іх да сябе на дапамогу, даводзячы ім грунтуючыся на сьвятым пісанні сваю аднапляменнасць. Хаця шмат хто і верылі ў іхнае блізкае сваяцтва, але не маглі пераканаць увесь натоўп, таму што іхныя набажэнствы адрозніваліся адзін ад аднаго.*

*У той жа час адзін чалавек із саміх сыноў Ізмаіла, на імя Махмет Каштоўна-Бачны*[62] *з'явіўся да сваіх супляменнікаў, як бы згодна з наказам бога, для павучання паміж імі шляху праўды, і вучыў спазнаваць Аўраамава бога. Ён быў абазнаны і знаёмы з гісторыяй Майсея і, дзякуючы таму што наказ пра гэта быў звыш, то згодна з адным яго наказам ўсе схіліліся да адзінства веравання і, пакінуўшы свае мітуслівыя набажэнствы, пакланіліся жывому богу, які з'явіўся бацьку іхнаму, Аўрааму.*

*Магамет заканадаўнічаў так:*

«*Не ўжываць у ежу мерцвячыны; не піць віна; не падманваць і не блудадзейнічаць». Ён паведамляў: «бог пад клятвай абяцаў гэтую краіну Аўрааму і нашчадкам яго пасьля яго на вечныя часы і выконваў усё абяцанае, пакуль шанаваў Ізраіля. Вы таксама дзеці Аўраамавы. У асобе вас, бог выканае сваё абяцанне Аўрааму і нашчадкам яго, толькі шануйце Аўраамава бога. Ідзіце і бярыце краіну, якую бог даў вашаму бацьку, Аўрааму. Ніхто вайной не будзе ў стане супрацівіцца вам, таму што з вамі бог.*

*Тады сабраліся ад Авіла да Сура паблізу Ягіпта і пайшлі із пустыні фараона 12 ізмаільцянскіх плямён, адпаведна колькасьці сваіх родапачынальнікаў. Яны падзялілі паміж сваімі плямёнамі 12 тысяч сыноў ізраілевых, – тысячу мужоў на кожнае племя, – каб завясьці іх у ерусалімскую зямлю. Яны выправіліся туды лагерамі, адпаведна колькасьці плямён: Набеут, Кадар, Абдзюл, Масамб, Маст, Масма, Ідома, Масэ, Халдат, Цэман, Етур, Нафес і Кедма. Такія роды Ізмаіла.*

*Дзякуючы таму што грэцкі лагер размясьціўся ў Аравіі (!!), то яны, дасягнуўшы Рабод-Мааба на межах Рувіма, напалі на яго нечакана і аддалі мячу, прымусіўшы збягаць Хвядоса, брата імператара Геракла (такога брата не было ў Геракла, быў Хведар), самі ж зноў размясьціліся у Аравіі. Сабраліся і далучыліся да іх усе астатнія сыны Ізраіля і разам з імі ўтварылі вялізнае войска. Яны выправілі да грэцкага цара амбасадараў са славамі:*

*Бог даў гэтую зямлю ў спадчыннае валоданне Аўрааму, бацьку нашаму, і нашчадкам яго пасьля яго, а мы – дзеці Аўраама. Дастаткова з цябе тваёй зямлі. Пакінь краіну нашу ў спакоі, і мы не пойдзем у твае валоданні; у адваротным выпадку мы запатрабуем ад цябе ўсе твае заваёвы з лішкам.*

*Імператар не даў ім задавальняючага адказу. Ён адказаў:*

*– Краіна мая, а твая спадчынная пляцоўка – пустыня. Выпраўляйся з мірам у сваю зямлю.*

*Сабраўшы і ўпарадкаваўшы 70 000 войска, ён даручыў яго аднаму вайсковаму правадыру, са сваіх верных валахаў, і загадаў ім выправіцца ў Аравію, з накам не пачынаць бітву, а толькі сцерагчыся і назіраць, пакуль ён збярэ другое войска і выправіць яго на дапамогу.*

*Грэцкае войска, дасягнуўшы Ярдана, перайшло ў Аравію, пакінуўшы свой лагер на беразе рэкі, і пешымі пайшло на лагеры ізмаільцян і ізраільцяна (г.азн. у перакладзе:*

---

[62] Па-армянску Thangankar, ад thang – каштоўнасць, n'kar – выява, і злучальнага гуку a (thang-a-n'kar). Нідзе, акрамя гэтай кнігі, такога прыметніка да імя ісламіцкага правадыра ў армянаў няма.

*богапачутых і богазмагальнікаў ). Апошнія, паставіўшы ў засаду ў розных месцах частку войска, атачылі свой лагер мноствам шатроў. Размясьціўшы статкі вярблюдаў вакол свайго лагера і намётаў, «ізмаільцяне» звязалі ім вяроўкамі нагі, і ў гэтым было іхнае ўмацаванне.*

*Грэкі, стомленыя дарогай, не змаглі прадраць іхныя путы, і ў той час, калі пачалі рэзаць вяроўкі, засаднае войска непрыяцеля раптам выскачыла са сваіх месцаў і кінуліся на іх.*

*Жах госпада ахапіў грэкаў, і яны кінуліся бегчы. Глыбокі пясок перашкаджаў ім. Іхныя ногі загрузалі ў пяску да бядра, сонечная спёка прыпякала, меч непрыяцеля вісеў над іхнымі галовамі. Упалі і загінулі ўсе вайсковыя правадыры. Колькасць забітых грэкаў была больш 2000 чалавек, толькі нешматлікія выратавалася і схаваліся ў бяспечных месцах.*

*А ізмаільцяне, перайшоўшы Ярдан, размясьціліся лагерам у Ерыхоне. Яны навялі жах на жыхароў краіны, і ўсе падначаліліся іхнаму рабству, а ерусалімцы ўзялі крыж госпада і начыненне боскіх цэркваў і выправілі іх морам на караблях да Канстантынопальскага двара, а потым, узяўшы з ізмаільцян клятву бяспекі, скарыліся ім.*

*Грэцкі цар не быў ужо ў стане сабраць новае войска, а ізраільцяне падзялілі сваё войска на тры часткі. Адну частку яны выправілі ў Ягіпет, і яна заваявала там усё да Александрыі. Другую частку выправілі на поўнач супраць грэцкага царства, дзе яна* ***ў імгненне вока*** *завалодала ўсім ад берага мора да берагоў ракі Еўфрат, і за ракой Арфай усімі гарадамі Месапатаміі. А трэцюю сваю частку ізмаільцяне накіравалі на ўсход, супраць пярсідзкага царства, і іхнае войска аблажыла Цісбан, дзе ў той час знаходзіўся пярсідзкі цар. Пры іхным нападзе пярсідзкае войска кінулася бегчы. Ізмаільцяне кінуліся за персамі і ўразілі іх мячом, а выратаваўшыяся ад сьмерці збеглі ў свае краіны. Рэшткі пярсідзкага войска, дасягнуўшы Атрпатакана, сабралася ўсё ў адным месцы і прызначыла сабе вайсковым правадыром Харах-Азата, які, паспяшаўшыся ў Цісбон, завалодаў усімі скарбамі дзяржавы, а гарадзкіх жыхароў і свайго цара намерыўся завесьці ў Атрпатакан. Але ізмаіліцкае войска нечакана нагнала іх. Застрашаныя нападам персы пакінулі свае скарбы і жыхароў гарадоў і збеглі. Збег і іхны цар, і выратаваўся ў сваім паўднёвым войску. Завалодаўшы скарбамі, ізмаільцяне вярнуліся ў Цісбан, паланілі жыхароў гарадоў і спустошылі ўсю краіну.*

*Калі сыны Ізмаіла выйшлі такім чынам із пустыні Сін, то іхны цар Амар не быў з імі. Але калі яны перамаглі ў бітвах і скарылі два царствы, то ён стаў валадаром усяго, ад Ягіпта да вялікіх гор Таўра, і ад Заходняга мора да Мідыі і Хужастана.*

*Усё гэта мы чулі*, – дадае аўтар – *ад мужоў, выведзеных у палон таджыкамі. Яны, як сведкі, самі распавялі нам усё гэта*».

Такімі з’яўляюцца армянскія паведамленні пра цудоўныя і вялікія заваёвы аравійцаў пры візантыйскім цару Геркулесе (Іракле). Тут як быццам бы мы ўпершыню бачым у гістарычных першакрыніцах згадванне імя «Магамет», але зноў у якасьці героя цудоўнай казкі пра тое, як простыя і разрозненыя адпаведна самой прыродзе сваёй краіны пастухі «ў імгненне вока» завалодалі самымі культурнымі краінамі «магутнага Рыма». А ў цуды зараз ужо перастаюць верыць, і таму нам тут застаецца толькі высветліць паходжанне і час стварэння гэтай казкі. Паведамляе нам яе нехта вельмі добрым складам у вялікай і сістэматычна распланаванай «Гісторыі імператара Іраклія». Але наколькі ж праўдзівы сам яе аўтар?

Пра Сабеаса, – паведамляе яго выдавец Пітканьян, – мы маем вельмі нязначныя паведамленні. Чамч’ян і Шахатуні завуць яго біскупам Багратуні, і сцвярджаюць, што ён прысутнічаў на саборы, скліканым Нарсэсам III у 645 годзе. Твор Сабеаса да апошняга часу лічыўся канчаткова згубленым, але армянскі філолаг ад багаслоўя, архібіскуп Шахатуні, першым знайшоў, як ён паведамляе, у

«запыленым склепе» Эчміядзінскай бібліятэкі ананімны рукапіс і, даследаваўшы яго змест, зрабіў выснову, што гэта і ёсць тая самая «Гісторыя Сабеаса пра Іракле», якая так доўга лічылася згубленай.

Такім чынам адкрыццё «Гісторыі імператара Іракла» належыць арцыбіскупу Шахатуні, які ў сваім творы – «Апісанне Эчміядзіна і пяці абласьцей Арарата ў 2-х частках (Эчміядзін, 1842), – некалькі разоў згадвае пра яе. Першым із еўрапейцаў, скарыстаўшымся новаадкрыццём Шахатуні, быў акадэмік Бросэ, які ў 1848 годзе дае падрабязную справаздачу пра змест гэтай кнігі. Яна ўпершыню з'явілася ў друкаваным выглядзе ў 1851 годзе ў Канстантынопалі і з тых часоў зрабілася даступнай усім гісторыкам.

І вось я зноў пытаю чытача: наколькі можна давяраць такому дакументу? Ужо аднаго прыведзенага мной урыўка дастаткова, каб паказаць грунтуючыся на яго складзе, што гэты твор наўрад ці ранейшы XVIII стагоддзя нашай эры, калі не складзены ў XIX стагоддзі самім архібіскупам Шахатуні.

А на якой жа падставе на вокладцы гэтай ананімнай кнігі напісана: «твор армянскага біскупа Сабеаса»? Толькі на падставе таго, што іншы армянскі арцыбіскуп, Шахатуні, знойшоўшы яго (як і ўсе іншыя падробкі) неадменна ў **пыльным склепе правінцыйнага кляштара** і, вывезшы яго, магчыма, таемна ад невуцкіх манахаў, да сябе ў біскупства, надаў нам, няйнакш як ад сьвятога духа: *гэты старажытны рукапіс не можа належаць нікому іншаму, як біскупу Сабеасу, пра жыццё якога да гэтага часу амаль нічога не было вядома*.

Дык хай жа сам Шахатуні і бачыць у ім самае старажытнае із усіх згадванне імя «Магамет» і самае старажытнае апісанне паўсюдных імгненных заваёваў аравійскімі пастухамі амаль ці не ўсяго культурнага сьвету ў VII стагоддзі нашай эры!

Не лепш ідзе справа і з нашымі візантыйскімі і італійскімі першакрыніцамі сучасных паданням пра Магамета.

Чытаючы іх, мы перадусім са здзіўленнем заўважаем, што гэтая назва цалкам не ўжывалася ні ў славян, ні ў грэкаў, ні ў італійцаў не толькі пад час сярэдневечча, але нават і на працягу больш пазняга часу. Яна цалкам не ўжывалася, відаць аж да таго першарадна важнага для **магаметанаў** моманту, калі султан Магамет I (1374-1413 гг.) аб'яднаў пад сваёй тэакратычнай уладай усю Малую Азію і Адрыянопальскую вобласць на Балканскай паўвыспе. Заснаваўшы Турэцкую (ад грэцкага слова тур – цяля) імперыю, ён пашырыў у ёй рэлігію не менш знакамітага, але больш аддаленага Магамета – Махмуда Газнійскага (998-1030) – які аб'яднаў трыста гадоў перад ім пад сваёй уладай усю паўднёва-заходнюю Азію ад Дэлі ў Індыі да Багдада ў Месапатаміі, і ад Грузіі, Бухары і Кашгара да Індыйскага акіяна. Толькі пасьля гэтых двух знакамітых Магаметаў і пачынае ўжывацца слова магаметане, у якасьці назвы іхных прыхільнікаў, а адлучэнне «богу Магамета» было вымаўлена візантыйскай царквой толькі каля 1180 года.

Ва ўсіх старарускіх дакументах «прававерныя» ніколі не завуцца магаметанамі, а заўсёды без адрознення нацыянальнасьці агаранамі, пры гэтым гэтая назва схаластычна выводзіцца ад імя Агары, уяўнай наложніцы прабацькі Абрама, прагнанай ім у пустыню. А на справе яна паходзіць ад біблейскага слова Хагар (הגר), якое ў сваю чаргу з’яўляецца пераіначваннем ўсходняга слова Хеджар – жах, збяганне, дзякуючы таму, што жыды не ўмеюць вымаўляць гук ДЖ, замяняючы яго, як і немцы, гукам Г. Такім чынам родапачынальніца агаранаў Геджара толькі персаніфікуе сабой пачатак ісламіцкай эры 622 годам ад пачатку

нашага сучаснага летазлічэння, калі каля Мекі ў Аравіі адбылася нейкая стыхійная катастрофа, меўшая наступствам ўсеагульны жах і збяганне.

Я пакажу далей, што гэтая катастрофа была метэарытнага паходжання, а зараз разгледжу толькі гісторыка-філалагічную частку закранутага мной пытання.

Стажытныя грэцкія і лацінскія пісьменнікі больш разнастайныя ў сваіх вызначэннях прававерных мусульманаў, чым славянскія.

Так «Жыццё св. Паўла Малодшага» называе іх сынамі Агары (г.азн. збягання ад жаху), Генэсій, Кастусь Гамартол, понтыфекс Стэфан V, Леў Граматык, жыццё св. Яўхіміі, жыццё св. Савы Малодшага, як і старажытныя славяне і русы называюць іх – агаранамі (Ἄγαρ), г.азн. хеджарыстамі.

Іншыя паданні ў лацінскіх «Жыціях сьвятых» завуць іх не толькі агаранамі, але і варварамі (берберамі), г.азн. сынамі стэпаў, а ў «Царкоўным слове пра балгара-візантыйскія дачыненні ў першай палове X стагоддзя»[63] гаворыцца так:

«*Сыны Агары* (а не Магамета!) *будуць смуткаваць; у іх схаладнее кроў пры адной чутцы пра наша пагадненне*».

Кастусь Парфірародны называе прававерных ізмаэлітамі (γαίσμαηλίτοι), г.азн. богапачутымі, і саракінамі (σαρακίνοι), г.азн. прыхільнікамі «намесьніка» (ад סרק (СРК) – намеснік, адкуль і біблейскае Сірах); Кедрынас – саракінамі і агаранамі; імператар Леў Філосаф – саракінамі і варварамі, а грэцкая Кембрыджская хроніка толькі – саракінамі, г.азн. намесьнікаўцамі.

Лацінскія пісьменнікі, перарабіўшы слова саракіны у сарацыны, пашырылі яго ў Заходняй Яўропе, і там мы знаходзім яго як агульнапрынятую сярэднявечную назву прававерных у «Chronicon Vulturnense», у «Chronicon Farnense», у «Беневенцкім летапісе» і г.д. Яго ўжываюць і Рыгор Бергамат і Lupus Protospatorius і інш. А «Венецыянская хроніка» («Ioannis Ghronicon Venetum») згадвае між іншым і пра сарацынскую бязбожнасць (sarracenorum impietas).

Біскуп Арсень у «Жыціі і вычынах Хвядоры Салунскай» называе прававерных – ізмаэлітамі, пантыфекс Ян VIII – арабскімі піратамі (pirati arabici), прадаўжальнік «Хронікі Феафана» – карфагенскімі варварамі (όι δέ έν Καρχεδόνι βάρβαροι), Рыгор Франц, Ян Каменіата – проста варварамі, Тэафіл Ян – арабамі, і іспанцы – маўрамі.

Адсутнічае слова магаметане і ў сярэднявечных прававерных пісьменнікаў. У Масудзі ў «Залатых прамянях» прававерныя X стагоддзя так і завуцца гэтым імем у адрозненне ад хрысьціянаў. Тое ж знаходзім мы ў Арыбы (X стагоддзе?), у Яхыі-Антыяхійскага (1066 г.), у Ібн-ал-Асіра (1233 г.), у Сібіт-ібн-Джаузі (1257 г.), у Аль-Макіма (1273 г.) і ў Нувэйры (1322 г.), які згадвае і пра пілігрымствы ў Меку. А больш пазьнейшых прававерных аўтараў нам няма сэнсу пераглядаць, раз мы ўжо ведаем, што анафема «богу Магамета» была вымаўлена візантыйскай царквой (Пры імператару Мануілу, перад яго сьмерцю, у 1180 годзе.

[63] Выданне Гісторыка-філалагічнага таварыста пры Новарасійскам універсітэце, атд. II, 1894.



Мал. 59.
Сучасны прывал (пагалоўна непісьменных) вандруючых аравійцаў, якім артадаксальныя арабісты прыпісваюць культурную гегемонію над усім «Старым сьветам» пад час сярэдневечча.

Такім чынам, мы бачым, што ні ў грэцкіх, ні ў лацінскіх, ні ў арабскіх, ні ў славянскіх, ні ў заходне-еўрапейскіх сярэднявечных і больш пазьнейшых пісьменнікаў, аж да султана Магамета І, слова магаметане не ўжываецца ніводнага разу. Мы бачым тут для іх назвы і агаранаў (г.азн. геджарыстаў, шануючых геджру), і ізмаэлітаў (г.азн. па-жыдоўску: богапачутых) і саракінаў – сарацын, г.азн. прыхільнікаў духоўнага намесьніка (сарака, накшталт біблейскага Езуса-Сіраха), і сыноў стэпаў (бербераў па-жыдоўску), і нідзе няма слова **магаметане**, тады як пасьля султана Магамета гэтая назва ўваходзіць ва ўсеагульны ўжытак і замяшчае ўсе ранейшыя. Чым жа гэта патлумачыць?

Чытач павінен сам зразумець. Гэта можна патлумачыць толькі той акалічнасьцю, што заснавальнікам сучаснага магаметанства быў Магамет-Газнійскі[64], а яго канчатковым пашыральнікам султан Магамет.

[64] Ці хутчэй Магамет-Газі, г.азн. Магамет-Заваёўнік, адкуль пазьней і зрабілі яго Газнійскім.



Мал. 60.
У пустыні.

# Частка другая

Біблія і Каран.



Мал. 61.
Канстантынопаль на Басфоры, цэнтр магаметанска-каранічнай культуры новага часу.

## Глава I.

Што такое Каран?



Мал. 62.
Агаране на нарадзе.

Пасьля мастацка-літаратурных апокрыфаў Эпохі Адраджэння, легкадумна дапасуемых да першых стагоддзяў нашай эры (якія мы разбіралі ў папярэдніх тамах «Хрыста», накшталт «гісторый» Фукідыда і Ціта Лівія, трагедый Еўрыпіда і камедый Арыстафана, ці накшталт фантастычнага рамана Апулея «Залаты асёл»), звернемся зноў да сапраўдных твораў дадрукарскага перыяду літаратуры, калі яшчэ не існавала ні паперы, ні хуткапісання.

І якое адрозненне мы адразу пабачым ў іх як у дачыненні да складу, так і ў дачыненні да ідэалогіі, і нязначнай велічыні!

Інакш, вядома, і быць не магло. Згадайце, колькі дыктовак спатрэбілася вам для таго каб вы засвоілі ўсталяваную прописамі арфаграфію, хаця стандартныя прописы маглі быць усталяваны толькі пачынаючы з часу друкаванага станка, а да яго кожны непазбежна пісаў як сам вымаўляў. Колькі кніг даводзіцца перачытаць перш чым прызвычаіцца лёгка выкладаць на лісьце свае думкі!

Што такое Каран? Гэта выкладанне жыдоўска-хрысьціянскай Бібліі аж да яе «Пpapoкаў». Гэта хаатычны зборнік маральных павучанняў, хвалебных гімнаў таго ж узору, як і біблейскія псалмы, ці легенды пра тых жа біблейскіх дзеячаў: Адама, Авеля, Каіна, Аўраама, Лота, Ісака, Ізмаіла, Ёсіфа, Савула, Давыда, Саламона, Ілію, Елісея, Ездру (Азайру), Енаха (Эдрысэ), Ёну (Дгуль-Нукэ), Майсея (Мусу), Арона...

Толькі Арон тут лічыцца дзядзькай евангельскага Езуса, атаясамляемага, такім чынам, з Езусам Навінам[65]. Але, нягледзячы на гэтае атаясамленне, Езус у Каране з'яўляецца з усімі сваімі евангельскімі асаблівасьцямі, акрамя рашуча аспрэчваемага яго ўкрыжавання. У Каране з павагай згадваецца таксама і пра некаторых евангельскіх прарокаў, якім з’яўляецца Ян Хрышчэннік, але вы не знойдзеце там ні слова пра такіх «вялікіх» псеўда-старазапаветных прарокаў, як

[65] Пазначу што слова Навін – Рыба, сугучна са словам Нева (ці Набу) – прарок, так што Езус Навін можна перакласьці і Езус Прарок.

Ісая, Ерамія, Езекііл Данііл, чым і падмацоўваецца мая думка, што гэта былі проста загалоўкі кніг, бо Іса-Ія азначае «Выратаванне ад бога Грамабоя», Іезекііл азначае «Здужае бог», Данііл – «Суд Боскі» і г.д. Падмацоўваецца і тое меркаванне, што гэтыя кнігі былі адкрыты і дададзены да Бібліі, ніяк не раней VII ці VIII стагоддзя, хаця і былі напісаны яшчэ на прыканцы V (акрамя больш пазьняга Данііла).

Дзе Каран быў напісаны?

Дзе заўгодна, толькі не ў Мецы і не ў Медыне, у якіх згодна з геаграфічнымі ўмовамі ніколі не магло існаваць, ні ў мінулым ні ў будучыні, кіруючага культурнага ці літаратурнага цэнтра.

Узорам наіўных гімнаў Карана можа з'яўляцца першы, якім ён і пачынаецца, і ў якім яшчэ так выразна захаваліся перажыткі сонцашанавання ў пагадненні з самім імем бога Ала, ад грэцкага Эліяс – Сонца:

«*Хвала богу* (г.азн. Эліасу-Сонцу), *валадару сусьвету, літасьціваму, міласьціваму, цару Дня стварэння! Цябе мы шануем, цябе мы молім пра дапамогу: накіруй нас на шлях правільны, на шлях тых, якіх ты абсыпаў тваімі дабрадзействамі, але не тых, якія заслужылі твой гнеў, не тых якія памыляюцца*».

Ці два апошнія (113 і 114):

«На дзённым сьвітанку». *У імя бога міласьцівага і літасьцівага! Скажы: я шукаю прыстанішча ў валадара Дзённага сьвітання ад злосьці створаных ім істот, ад пашкоджваняў цёмнай ночы, калі яна нас захоплівае, ад злосьці* (жанчын-чараўніц), *дзьмучых на вузлы, ад зла таго, хто мае да нас зайздрасць*».

«Апошні гімн». *Скажы: я шукаю прыстанішча ў валадара людзей, цара людзей, бога людзей, ад злосьці таго, хто надае благія думкі і хавае іх ад геніяў і ад людзей*».

Усё гэта вельмі нагадвае караценькія біблейскія псалмы, ды і само імя ісламіцкага вярхоўнага бога Ала з‘яўляецца толькі мясцовым вымаўленнем месіянскага Элаіма, ці Эла, ён жа грэцкі Эліяс, ствараючага сусьвет і перадусім дзённае сьвятло. Паказанае ў кнізе Быццё стварэнне Сонцам самога сябе на чацвёрты дзень з’яўляецца відавочным анахранізмам.

А як узор палемічных п'ес прывяду, напрыклад, праклён Абу-Лагабу, не прызнаваўшага аўтара Карана пракокам (111):

«*Ды загінуць абедзьве рукі Абу-Лагаба і ды загіне ён сам! Багацці і справы яго ды не паслужаць ні да чога! Ён будзе спальваемы ў палючым полымі, а жонка яго будзе падносіць для яго дровы. Да шыі яе будзе прывязана вяроўка із пальмавых валокнаў*».

Так усё тут з’яўляецца кароткім і зразумелым!

У адным із гімнаў Карана апісваецца, пад выглядам птушак-абабілей, паданне дажджу метэарытаў на войска нейкага Валадара Сланоў, пад якім тлумачальнікі мяркуюць цара Эфіёпіі Абрага, падышоўшага быццам бы да храма Каабы ў Мецы, дзе і да гэтага часу размяшчаецца сьвяты метэарытны камень пасланы Аўрааму (але ужо не ў якасьці пакарання, а ў якасьці падарунка) богам з неба.

«*Ці бачыў ты як Валадар судзіў людзей слана? Ці не разбурыў ён іхныя задумы? Ці не паслаў супраць іх птушак абабілей, якія кідалі ў іх камянямі, носячымі знакі, напісаныя на небе? Гэтыя птушкі зрабілі із камянёў падабенства шара, ядро якога з'едзена*».

У некаторых гімнах апяваюцца гуманітарныя ідэалы чыста евангельскага характару, набываючыя, як і ў Евангеллях, дэмагагічнае адценне дзякуючы нападкам на збіраючых сабе зямныя багацці (112):

«*Скажы: бог* (г.азн. бог-Сонца) *адзіны*! *Гэта бог, да якога ўсе рэчывы звяртаюцца са сваімі патрэбамі. Ён нікога не нарадзіў і не быў народжаны. Ён не мае сабе роўнага ў чым бы там ні было*».

Ці яшчэ із 89 главы:

«*Клянуся світаннем дня і дзесяццю начамі; тым, што падвойнае, і тым, што простае, клянуся ноччу, калі яна ідзе сваім шляхам... Хіба ты не бачыў да чаго бог давёў народ Аду* (ідумеян), *які жыў у Ірэме* (Рыме) *з вялікімі слупамі, у горадзе, якому падобнага не існавала ні ў адной краіне? Да чаго давёў бог тэмудзян, высякаўшых свае сядзібы са скал у даліне, і фараона, валадара слупоў? Усе яны прыгняталі зямлю і пашыралі на ёй зло, і бог дазволіў зваліцца на ўсіх іх бізуну пакарання... Так! Калі зямля будзе ператворана ў дробныя кавалачкі, калі валадар твой прыйдзе і анёлы стануць шэрагамі, калі наблізяць геену, якая павінна паглынуць злачынцаў, о! тады чалавек памяркуе пра гэта. Але для чаго паслужыць тады разважанне*?».

Падобныя месцы таксама паўсюдна раскіданы ў Каране. Але зараз я звяртаю ўвагу чытача толькі на тое, што пасьля перанясення мной часу ўзнікнення хрысьціянства на заканчэнне IV стагоддзя, я бачу ў Каране (шмат якія паданні якога пачалі ўзнікаць яшчэ з канца VI стагоддзя) такую ж першакрыніцу для высвятлення праўдзівай асобы евангельскага Хрыста і яго часу, як і іншыя старажытныя дакументы.

Ці сапраўды Каран належыць Бацьку Сусьвету (Абдул-Казему), празванаму Славутым (Магаметам), па-арабску і па-маўрытанску? Бязспрэчна не.

Яго гімны, павучанні і паданні згодна з самім іхным характарам, стылем і зместам не з'яўляюцца творамі аднаго аўтара, а зборам самых разнастайных паданняў той эпохі і шмат у чым запазычаных із Бібліі. Меркаванне сярэднявечных аўтараў, што большасць із гэтых літаратурных твораў былі запісаны нейкімі яго «сакратарамі» (!) на «баранавых лапатках», і што гэтыя лапаткі захоўваліся да 654 года ў намёце адной із яго, таксама непісьменных жонак – Хаўсы – вымушае толькі ўсміхнуцца сур'ёзнага чытача, здольнага сабе ўявіць патрэбную для гэтага піраміду начыста абгрызеных спісаных костак. На такіх лапатках маглі быць нанесены толькі караценькія гімны, накшталт вышэйпрыведзеных, але згодна з імі Славуты з'яўляецца толькі спеваком, накшталт біблейскага Ўмілаванага (Давыда), і я нікольк не здзіўлюся, калі гімны Карана былі складзены адначасова з біблейскімі псалмамі, тым больш, што некаторыя з іх маюць нават і аднолькавыя загалоўкі.

Возьмем хаця б гімн 106 Карана.

«*Да хаўрусу са служкамі госпада* (карэйшытамі)! *Да хаўрусу з імі, каб пасылаць караваны зімой і летам! Ды служаць яны богу гэтага храма, богу, сілкаваўшага іх і аберагаўшага ад голаду і пазбавіўшага іх ад турбо*т».

Аналагічна з гэтымі карэйшытамі мы маем у Бібліі серыю псалмоў, названых псалмамі «братоў Карэеў» (44-49 згодна з жыдоўскай нумарацыяй). Слова карэй па-жыдоўску (קרח) азначае – лысаваты, што нагадвае танзуру пастрыжаных у сьвятарскі сан у каталікоў, а слова карэйшыты сугучна з грэцкім кюрыас – бог, па-жыдоўску кораш[66].

У псалмах, прыпісваемых «Ўмілаванаму» (па-жыдоўску Давыду), мы заўважаем тыя ж ідэі, як і ў псалмах «Славутага».

Вось хаця б псалом 15 жыдоўскага злічэння:

«*Валадар*! *Хто можа знаходзіцца ў тваім шатры? Хто можа існаваць на тваёй сьвятой вышыні? Толькі той, хто дзейнічае бязгрэшна, хто выказвае праўду ў сваім сэрцы, хто не паклёпнічае сваім языком, не робіць іншаму зла, хто «не прамаўляе ліхаслоўя на свайго блізкага»; толькі той, у вачах якога пагарджаемай здаецца*

[66] Слова карэйшыт, мне здаецца, паходзіць ад біблейскага קרש (КРШ) – Кір, грэцкае Кірыос (Κυριος) – гасподзь, валадар.

*ганьбаванне, хто паважае шануючых Валадара нябёс, хто не дзейнічае насуперак свайму слову, хаця б гэта было на шкоду сабе, хто не аддае на рост сваё срэбра і не бярэ дарункаў за абвінавачванне нявіннага, – толькі той непахісны навекі*».

Ці, вось, псалом 19:

«*Нябёсы навучаюць славе бога, а нябесная цвердзь сведчыць пра справу яго рук. Дзень дню перадае свае слова, і ноч ночы паведамляе сваё спазнанне. Яны выказваюцца без вымаўлення, і не чуваць іхнага галаса, а ўсе ж гук яго праходзіць па ўсёй зямлі, і словы іх да межаў сусьвету. Бог паставіў у небе шацёр Сонцу, і яно выходзіць, як малады, са свайго адружальнага церама, і вяселіцца, прабягаючы свой шлях, як волат. На краю неба яго ўзыход, да краёў неба яго колаабарачэнне, і нішто не хаваецца ад яго цеплыні. Закон Валадара – дасканаласць, ён уцешны для душы. Сведчанне Валадара правільнае, яно прымудрае прастадушнага. Загады Валадара слушныя, яны вяселяць сэрца. Яго запаветы сьвятыя, яны расплюшчваюць вочы...*

*Ачысьці мяне ад невядомых мне брыдот і ад кіруючых утрымай мяне... Ды будуць табе любыя словы маіх вуснаў, о мая магутнасць і мой збаўца*!».

Тут слова «збаўца» ўжо паказвае на хрысьціянскую ідэалогію. Мне здаецца, што адзінства ідэй і лірыкі ў псалмах Бібліі і ў псалмах Карана, узоры якіх я прывёў напачатку гэтай часткі, так кідаецца ў вочы, што адначасовасць іхнага стварэння не патрабуе далейшых доказаў, нават і без майго астранамічнага вылічэння часу 22-га псалма (гімна сузор'ю Арыёна), паказваючага, што ён напісаны не за некалькі стагоддзяў да ўяўляемага «Нараджэнння Хрыста», а ўжо ў 442 годзе нашай эры[67].

Гэта адзін і той жа стыль, адна і тая ж эпоха.

* * *

Разбяром перадусім, на якой мове напісаны Каран?

Нас пераконваюць – на арабскай і мімаволі, вымушаюць думаць, быццам бы ён выпрацаваны на Аравійскай паўвыспе. Але гэта не так.

Аравійская паўвыспа атрымала сваю назву толькі ў больш позьніх еўрапейскіх аўтараў-географаў, калі яны пачалі маляваць правільныя мапы гэтай мясцовасьці, а ў мясцовых настаўнікаў існавалі толькі назвы яго асобных абласьцей: Геджас, Йемен і г.д.

Само слова **араб** не назва нейкага народа ці племені, а пазначэнне ісламіцкай рэлігіі. Яно паходзіць ад жыдоўскага кораня ОРБ (ערב), маючага тры асноўныя значэнні: далучаны (да нейкай рэлігіі), гандляр і вечар. Пры апошнім значэнні арабы тоесны з класічнымі гесперыдамі, жыхарамі захаду Яўропы; пры другім з «фінікійскімі» мараплаўцамі (хто б яны ні былі); а пры першым, якое найбольш дапасуе, гэта – далучаныя да арыянскай рэлігіі, да рэлігіі Арона, тоеснага з Арыем, як я ужо не раз паказваў і яшчэ не раз пакажу тут із самога Карана. Каб вызваліцца ад нададзеных лакалізацый, я і саму арабскую мову буду называць проста ісламіцкай, ці карэйшыцкай.

Само сабой зразумела, што такая кніга, як Каран, хаця ён і носіць відавочныя прыкметы калектыўнай творчасьці шматлікіх аўтараў і некалькіх пакаленняў, не магла быць нават і канчаткова адрэгаванай на Аравійскай паўвыспе, складаючайся большай часткай із пустынь і размешчанай у глухім месцы ў дачыненні да геаграфічна дэтэрмінаваных цэнтраў сусьветнай культуры. Пры яго беднай прыродзе на ёй не магло развіцца ніякай ідэйна-кіруючай літаратуры ні ў мінулым, ні ў сучаснасьці, і не разаўецца ў будучыні. Самым ўсходнім месцам, дзе маглі

[67] «Хрыстос», кн. I, стар. 193.

выпрацавацца і запісацца пад час сярэдневечча асобныя частачкі Карана, быў Ягіпет, а самым заходнім – Гішпанія пры маўрах.

Але я не знайшоў у Каране дастатковых сведчанняў ні для яго лакалізацыі ў нейкім вызначаным месцы зямной паверхні, ні для астранамічнага вызначэння часу.

Із сузор'яў неба ў ім асабліва згадваюцца Шалі ў пагадненні з гандлёвым значэннем слова араб.

«*Ён* (г.азн. бог) *узвысіў нябёсы,* – выказваецца Каран, – *і паставіў на іх Шалі, каб вы правільна ўзважвалі*».

Але грунтуючыся на такіх агульных заўвагах час не вызначыш, і таму спачатку разгледзім гістарычнае ўтрыманне гэтай кнігі.

# Глава II.

## Евангельскі Хрыстос, згодна з каранам, як родны пляменік Майсея і Арона.

Разгледзім, перадусім, паданні аўтараў Карана пра евангельскага «Вялікага Настаўніка», якога яны вызнаюць пад найменнем Хайса-ібн-Марыам» (Езус сын Марылі).

Пасьля майго астранамічнага дасьледавання, паказаўшага, што апісанае ў Евангеллі «ўкрыжавальнае зацьменне Месяца» адбылося ў 368 годзе, гэтыя паданні, як не вельмі позния ў дачыненні да IV стагоддзя пачынаюць уяўляцца сур'ёзнымі для аднаўлення асобы, даўшай пачатак легендам пра Хрыста.

Вось усе яны із Карана.

«*Мы далі Майсею кнігу закона* (выказваецца ў Каране бог) *і загадалі праз іншых пасланнікаў кіравацца ёю. Мы далі Езусу, сыну Марылі, відавочныя знакі і ўмацавалі яго духам сьвятасьці. Але кожны раз, калі нейкі выпраўлены прыносіў вам адкрыццё, вы надуваліся ад гневу, калі ён не лісьлівіў вашым захапленням. Адных маіх пасланнікаў вы звалі падманшчыкамі, іншых забівалі*» (11, 81).

Тое ж паведамляецца і далей, праз некалькі старонак, амаль тымі ж самымі словамі (11, 254).

А вось і яшчэ месца.

«*Па слядах іншых прарокаў мы выправілі Езуса, сына Марылі, для падмацавання Пяцікніжжа* (яго дзядзькі Майсея). *Мы далі яму Евангелле, якое ўтрымлівае для вас шлях і сьвятло. Яно падмацоўвае Пяцікніжжа. У Евангеллі змяшчаецца накірунак і перасьцярога для тых, якія баяцца бога. Людзі евангелля павінны судзіць грунтуючыся на Евангеллі, а тыя, якія не будуць судзіць грунтуючыся на гэтай боскай кнізе, – няверныя*» (3, 50).

Такое месца магло быць напісана толькі пад час евангельскага перыяду хрысьціянства, г.азн. ужо не раней VIII стагоддзя нашай эры, таму што самае старажытнае Евангелле напісана згодна з нашай храналогіяй Маркам Афінскім, памёршым у 725 годзе. Але будзем чытаць і далей.

«*Мы далі народу кіраўнікоў, Ісака і Якава, і вызначылі ім напрамак. А раней мы напраўлялі Ноя. Паміж нашчадкамі Абрама мы паслалі* (людзям) *таксама Давыда, Саламона, Ёву, Ёсіфа, Майсея і Арона. Мы ўзнагароджваем робячых дабро. Захар, Ягія* (у якім бачаць Яна Хрышчэнніка), *Езус і Ілія, – усе яны былі праведнікі, а што да Ізмаіла,*

*Елісея, Ёны і Лота* (іянійца і латыняніна), *то мы ўзнеслі іх вышэй усяго чалавецтва*» (VI. 85).

*Мы зрабілі із сына Марылі, гэтак жа як і з яго маці, нябесны знак для людзей. Мы далі ім абодвум для жылля месца ўзнёслае, спакойнае і маючае шмат крыніц вады*. (г.азн. сузор'і Авена і Панны на небе, із якіх падаюць веснавыя і восеньскія дажджы) (23, 52).

*Мы далі Евангелле Езусу, сыну Марылі і ўклалі смутак і спачуванне ў сэрцы ідучых за імі вучняў, а манаскае жыццё прыдумалі яны самі. Мы толькі наказалі жаданне дагаджаць богу* (57, 27).

*Езус сын Марылі гаварыў свайму народу:*

*– О, дзеці Богазмагальніка! Я – накіраваны да вас апостал боскім для падмацавання Пяцікніжжа, якое дадзена вам да мяне і для аб'яшчэння вам, пра прыход пасьля мяне апостала, імя якога будзе Хвалебны* (па-арабску Ахмед, амаль тое ж, што і Славуты (Махмуд) адпаведна грэцкаму περιμλύτος (перымлютос) у Евангеллі Яна, 16, 14).

*А калі Езус паказаў ім знакі, яны сказалі:*

*– Гэта відавочнае вядзьмарства!*

*О, вернікі! Будзьце памочнікамі богу, – выказваўся Езус, сын Марылі, сваім вучням. – Хто дапаможа мне ў боскай справе*?..» (61. 6, 14).

У трэццяй главе Карана перадаецца апавяданне, заканчэнне якога змяшчаецца і ў Евангеллі Лукі. Толькі тут Марыля называецца дачкой Імрана, чалавека Ханны (Ганны), сына Матфана, унука Елеазара.

«*Згадай пра дзень, калі жонка Імрана звярнулася з малітвай:*

*– Валадар мой! Я прысьвяціла табе тое, што ў маім улонні, і яно будзе належаць табе цалкам. Блаславі яго, таму што ты чуеш і ведаеш усё!*

*Калі яна нарадзіла, то прамовіла:*

*– Валадар мой! Я нарадзіла дачку. А дзяўчынка не тое, што хлопчык, я назвала яе Марыам (Марыля), і аддаю пад тваё заступніцтва, і яе, і яе нашчадкаў, каб ты абараніў іх ад падкопаў пабітага камянямі Сатаны.*

*Бог зрабіў жонцы Імрана самы лепшы прыём, таму што яна нарадзіла цудоўнае тварэнне. Пра дачку яе клапаціўся Захарыя.*

*«Кожны раз, калі ён прыходзіў наведаць Марылю ў яе сядзібе, ён знаходзіў каля яе ежу.*

*– О, Марыля, адкуль прыходзіць да цябе гэтая ежа?*

*– Яна прыходзіць да мяне ад бога, – адказала яна, – бо ён добра сілкуе тых, каго жадае, а не адлічвае ім кавалачкамі*».

«*Анёлы сказалі Марылі:*

*– Бог робіць цябе чыстай ад якой бы то ні было заганы, ён абраў цябе із усіх жанчын сьвету. О, Марыля! Будзь паважнай да твайго госпада, падай на зямлю і схіляй калены перад ім разам з іншымі, схіляючымі калены*».

«*Такімі з'яўляюцца здарэнні, невядомыя табе да гэтага часу, о, Славуты, якія мы табе паведамляем. Ты не быў паміж тымі, якія кідалі жэрабя, каму клапаціцца пра Марылю; ты не быў паміж імі, калі яны спрачаліся*».

*«Аднойчы анёлы паведамілі Марылі:*

*– Бог абвяшчае табе сваё Слова. Твой сын назавецца Месія, сын Марылі, знакаміты на гэтым і на тым сьвеце і адзін із самых набліжаных да бога. Таму што ён будзе павучаць чалавецтва і дзіцём у зыбцы, і чалавекам сталым, і будзе ў ліку правых.*

*– Спадар! – адказала Марыля, – як у мяне будзе сын? Ніводны мужчына не дакранаўся да мяне*».

– «*Гэта таму, запярэчыў Анёл, што бог робіць, што пажадае. Ён вымаўляе: «будзь!» і ўжо ёсць. Ён патлумачыць Езусу кнігу і мудрасць і Пяцікніжжа, і Евангелле.*

*Езус будзе накіраваны да дзяцей Ізраілевых. Ён скажа ім: «я прыйшоў да вас, суправаджаемы знакамі майго валадара, я зраблю із бруду падабенства птушкі, дуну на яго, і згодна з пажаданнем боскім птушка зробіцца жывой. Я ажыўлю памёршых згодна з жаданнем боскім. Я паведамлю вам, што вы будзеце есьці і што вы схаваеце ў вашых сядзібах. Усе гэтыя справы будуць вам знакамі, калі вы веруючыя. Я прыйшоў падмацаваць Пяцікніжжа, якое вы атрымалі да мяне; я вам дазволю некаторыя рэчы, якія раней былі вам забаронены. Я прыхожу да вас са знакамі ад вашага валадара. Бойцеся яго і слухайцеся мяне. Ушаноўвайце яго: гэта шлях правы*».

«*Але як толькі Езус заўважыў іхную няверу, ён усклікнуў:*

*– Хто будзе маім памагатым, каб весьці людзей да бога?.*

*– Мы, – усклікнулі яго вучні, – будзем памагатымі богу. Мы верым у бога, і ты засведчыш, што мы аддаёмся яго волі*»...

«*Езус у вачах бога, тое ж, што Адам. Бог утварыў яго із пылу. Вымавіў: «будзь!» і ён з'явіўся. Гэтыя словы – праўда, зыходзячая ад твайго валадара. Асьцерагайся сумнявацца ў гэтым*»...

А вось, зноў адна і тая ж легенда пра звеставанне і ў Евангеллі і ў XIX главе Карана (ст. 7- 37).

– «*О, Захарыя! Мы прадказваем табе сына, яго імя будзе сьвяты (*Ягія*). Да гэтага часу не было аднайменнага яму.*

*– Валадар! – адказаў Захарыя. – Як у мяне будзе сын? Жонка мая бясплодная, а я ўжо ў састарэлым веку.*

*– Ды будзе так! – адказаў Валадар. – Гэта лёгка для мяне. Я стварыў цябе, калі ты быў нішто.*

*– Дай мне знак, Валадар мой, у пасьведчанне твайго абяцання.*

*– Вось знак табе: ты не будзеш у стане гаваарыць людзям на працягу трох начэй, хаця будзеш здаровы.*

*Захарыя павярнуўся ад свяцілішча да народа і, не быдучы ў стане вымаўляць, падаваў яму знакі хваліць бога раніцай, і вечарам.*

*– «О, Ягія! вазьмі гэту кнігу з цьвёрдым намерам.*

*Мы далі Ягіі мудрасць, калі ён быў яшчэ дзіцёнкам. А таксама пакорнасць і чысьціню. Ён быў набожны і добры да сваіх бацькоў. Ён не быў ні дзёрзкі, ні непакорны. Ды будзе над ім мір у дзень, калі ён нарадзіўся, у дзень калі памрэ, і ў дзень, калі будзе ажыўлены*».

Я звяртаю ўвагу на апошняе выказванне, згодна з якім Ягія паказаны яшчэ не памёршым падчас стварэння гэтай легенды, дададзенай у Каран. А далей у гэтай главе змяшчаецца новы варыянт легенды пра звеставанне Панне Марылі, якая і ў Каране прызнаецца нарадзіўшай сына без чалавека.

«*О, Славуты! Паведамі пра Марылю, як яна выдалілася ад свайго сямейства і пайшла ў накірунку на ўсход. Яна засланілася пасьцілкай, якая хавала яе ад усіх позіркаў. Мы паслалі да яе наш Дух. Ён прыняў перад ёю выгляд чалавека дасканалага складу. Яна сказала яму:*

*– Я шукаю ў Літасьцівага сховішча ад цябе, калі ты баішся яго...*

*– Я пасланы ад твайго Валадара,* – адказаў ён, – *абавязаны даць табе сына, сьвятога сына.*

*– Як,* – адказала яна, – *у мена будзе сын? Ніякі мужчына не дакранаўся да мяне: я не распутная жанчына.*

*– Так будзе*! – адказаў ён. – *Твой Валадар сказаў: «Гэта лёгка для мяне. Ён будзе перад людзьмі нашым знакам і доказам нашай літасьці. Наканаванне вымаўлена.*

*Яна адразу зрабілася цяжарнай і схавалася ў адасобленае месца. Боль пры родах захапіў яе побач з пальмавым ствалом.*

– «*Калі б бог даў, – усклікнула яна, – каб я памёрла перш гэтага, тады я была б забыта вечным забыццём*.

*Нехта ўсклікнуў каля яе:*

*– Не засмучайся! Валадар загадаў цекчы крыніцы пад тваімі нагамі. Патрасі ствол пальмы, і да цябе зваляцца саспелыя фінікі; еш і пі, асвяжай твой пагляд, і калі пабачыш чалавека, скажы яму: «я аддаю дзіцёнка Літасьціваму і сёння не буду размаўляць ні з адным: чалавекам*».

«*Яна пайшла да свайго сямейства, нясучы свайго дзіцёнка на руках. Ёй сказалі:*

*– О, Марыля! Ты зрабіла дзіўны ўчынак. О, сястра Аронава! Твой бацька не быў чалавекам нягодным, і маці твая жанчынай распутнай.*

*Марыля паказала ім пальцам на дзіцёнка, каб запыталі яго.*

*– Як, – сказалі яны, – мы будзем размаўляць з дзіцёнкам із зыбкі?*

*– Я служка Божы, – адказаў ім Езус. – Ён даў мне кнігу, і прызначыў мяне прарокам. Ён пажадаў, каб я быў багаслаўляемы, дзе б я ні быў. Ён загадаў мне тварыць малітву і міласьціну пакуль буду жыць і быць рахманым з маці. Ён не дазволіў мне быць дзёрзкім і не годным. Са мной будзе мір і пад час дня калі я нарадзіўся, і пад час дня, калі памру, і пад час дня, калі буду ажыўлены*».

«*Гэта быў Езус сын Марылі, які выказаў словы праўды, таму што яны мелі сумневы. Бог не можа мець дзяцей. Далёка ад яго славы такое ганьбаванне. Калі ён прымае нейкае рашэнне, то вымаўляе: «Будзь!» і ўжо «ёсць*».

Із гэтага можна зрабіць выснову і без нашых вызначэнняў у першым томе, што завяршэнне Евангелля Лукі, г.азн. дадаванне некалькіх цалкам такіх жа, як тут, легенд да Евангелля Марка, з якога Лука шмат што літаральна спісаў, дапасуецца ўжо да VIII стагоддзя нашай эры.

А вось і яшчэ:

«*Будзе час, калі бог, сабраўшы апосталаў, пасланых ім запытае ў іх:*

*– Што вы казалі?*

*Яны ж адкажуць:*

*– Мы гаварылі, што не мы маем веды, але ты адзін ведаеш таямніцы.*

*А ён скажа Езусу, сыну Марылі:*

*Згадай пра дабрадзействы, якія я выліваў на цябе і на тваю маці, калі ўмацаваў цябе духам сьвятасьці, каб ты паведамляў людзям, будучы дзіцёнкам у зыбцы, і дасканалым чалавекам. Я цябе навучыў кнізе Мудрасьці, Пяцікніжжу і Евангеллю. Ты згодна з маім наказам стварыў із бруду фігуру птушкі, твой подых адушавіў яе; ты вылечыў сляпога ад нараджэння і ашалелага адпаведна з маім наказам. Я адвёў ад цябе рукі юдэяў* (г.азн. выратаваў ад пакарання сьмерцю). *Пасярод дзіваў, якім ты загадаў адбыцца перад іхнымі вачамі, няверныя паміж імі ўсклікалі: «гэта не што іншае як магія!*».

*– О Езус, сын Марылі, – сказалі апосталы, – ці можа твой Валадар загадаць сысьці з нябёс цалкам гатоваму сталу?*

*– Бойцеся Валадара, – адказваў ім Езус, – калі вы верныя.*

*– Мы жадаем, – казалі яны, – сесьці за стол і есьці. Тады нашы сэрцы пераканаюцца, тады мы даведаемся, што ты навучаў ісьціне і дадзім сведчанне на тваю карысць*.

*Езус, сын Марылі, звярнуўся з малітвай:*

*– Божа, наш Валадар! Загадай апусьціцца да нас з неба сталу, каб ён быў балем для першага і апошняга із нас і знакам тваёй магутнасьці. Насыці нас, таму што ты лепшы насычальнік*.

*– Я загадаю апусьціцца да вас сталу, – адказаў Валадар, – але гора таму, хто і пасьля гэтага цуда будзе няверным. Я прыгатую для яго самае жахлівае пакаранне, якога не было ніколі ні для аднаго стварэння.*

*Бог сказаў Езусу:*

*– Ці загадваў ты людзям, лічыць цябе і тваю маці за богаў нароўні з адзіным богам?*

*– Слава табе, не! – адказаў Езус. – Хто мог сказаць тое, што няпраўда? Хіба не ведаў бы ты, калі б я сказаў? Ты ведаеш усё, што ў глыбіні маёй душы, а я не ведаю, што ў глыбіні тваёй. Ты адзін ведаеш таямніцы. Я паведаляў ім толькі тое, што ты загадваў мне паведаміць ім: «ушаноўвайце бога майго і бога вашага». Пакуль я жыў па зямлі, я мог супраць іх сведчыць, а з таго часу, як ты забраў мяне да сябе, ты сам глядзеў на іх, таму што ты сведка ўсіх спраў. Калі ты пакараеш іх, то маеш на то права, яны твае слугі; калі даруеш іх, то і на гэта ты маеш уладу, таму што ты магутны і мудры*» (5, 108-117).

«*Езус толькі служка*, – выказваецца далей аўтар ад імя бога. – *Служка, якога мы ўзнагародзілі сваімі шчодрасьцямі, і прапанавалі для прыкладу дзецям Богазмагальніка. Калі б мы пажадалі, то із вас саміх зрабілі б вестуноў для ўспадкавання зямлі. Ён будзе паказальнікам набліжэння часу. Не сумнявайцеся ж у гэтым! Ідзіце за мной, бо гэта шлях правільны. Ды не адхіліць вас ад гэтага сатана, бо ён заўзяты вораг наш*».

А вось як паведамляецца пра сьмерць Езуса (гл. IV, 152 – і г.д.):

«*Людзі закона папросяць цябе прымусіць сысьці з неба кнігу. Ці не яны прасілі ў Майсея нават і нешта большае? Яны казалі яму:*

*– Дай нам бачыць бога!*

*Але ў якасьці пакарання за іх дзёрзкасць на іх грымнула жахлівая навальніца. Потым яны палічылі Цяля за прадмет ушанавання, хаця ім з'явіліся відавочныя знакі супраць гэтага. Але мы даравалі іх і далі Майсею доказы. Мы падкінулі над іхнымі галовамі гару Спусташальніка* (Везувій) *у заклад нашага хаўрусу. Мы заключылі з імі ўрачыстую дамову. Але яны парушылі дамову, адмовіліся ад боскіх знакаў, несправядліва аддалі сьмерці прарокаў. Яны не вераць у Езуса, яны прыдумалі пра Марылю жорсткую хлусню. Яны кажуць:*

*– Мы аддалі на сьмерць месію, Езуса сына Марылі, боскага пасланніка.*

*Не! Яны яго не забілі, яны не ўкрыжавалі яго!* ***Чалавек, падобны яму, быў узяты на яго месца****, і тыя, якія аспрэчваюць гэта, самі недасведчаныя. Яны не маюць праўдзівага ведання; яны толькі падзяляюць чужую думку. Яго рашуча не забівалі. Бог узнёс яго да сябе, а бог магутны і мудры. Не будзе ніводнага чалавека, паміж маючымі веру ў Пісанне, які не паверыў бы ў яго перад сьмерцю. У дзень ажывання, ён* (Езус) *будзе сведчыць перад імі*».

Ці павінны мы спыняцца на думцы аўтараў Карана, быццам бы замест Васіля Вялікага, заснавальніка хрысьціянскай літургіі, які і даў нагоду легендам пра евангельскага Хрыста, быў слупаваны падстаўны чалавек? Бяспрэчна не.

Некультурны розум заўсёды абавязкова прыдумляе падстаўную асобу кожны раз, калі з яго паважаемым героем здараецца нешта не адпавядаючае старажытным уяўленням пра гераізм і магутнасць. Грунтуючыся на гэтай жа падставе факт слупавання замоўчаны і ў жыцці Васіля Вялікага ў Святцах, і ў лягендзе пра Іллю прарока. Калі вялікага прарока прывязалі, як пагарджаемага раба, вяроўкамі да слупа на пасьмешышча натоўпу пад час ночы месяцовага зацьмення з 21 сакавіка 368 года, і ён не ўразіў за гэта маланкай сваіх крыўдзіцеляў, а падначаліўся несправядлівасьці, то гэтага не мог пераварыць першабытны розум, і таму легенды пра вялікага навукоўца, заснаваўшага акультныя навукі, натуральна падзяліліся на тры тыпы.

У адным тыпе факт слупавання проста адмаўляецца і тлумачыцца прыдумкай ворагаў, у другім сцвярджаецца, што слупаваны быў не ён, а падстаўны

чалавек, а ў трэцім гэтая падзея тлумачыцца самаахвотным прынясеннем сябе ў ахвяру за грахі людзей з дадаваннем да гэтага ўчынку недаступных для розуму людзей містычных нагод. Але апошняе тлумачэнне было толькі ў Евангеллях.

Таксама цікавымі ўяўляюцца месцы Карана пра Сямуху.

«*О вы, атрымаўшыя Пісанні! Не перамяняйце ў вашай рэлігіі праўдзівай веры, не кажыце пра бога нічога акрамя праўды. Месія – Езус, сын Марылі, апостал бога, з'яўляецца Словам бога, кінутым у Марылю. Ён дух, паходзячы ад бога. Верце ў бога і яго апосталаў і не кажыце: існуе Сямуха! Перастаньце гэта рабіць! Так вам будзе выгадней! Бог – адзін. Слава яму! Як у яго будзе сын? Яму належыць усё, што на нябёсах і на зямлі. Дастаткова мець сваім заступнікам аднаго бога*» (4,169).

А далей яшчэ (гл. 5, 76):

«*Няверны той, хто кажа: Месія, сын Марылі – гэта бог. Ці не гаварыў ён сам:*

*– О дзеці Ізраіля! Ушаноўвайце бога, які мой і ваш валадар. Хто далучае да бога іншых богаў, таму бог забароніць уваход у Сад, і яго жыллём будзе Полымя.*

*Няверны той, хто сцвярджае, што бог – трэцці із Сямухі, тым часам як няма бога, акрамя адзінага бога. Калі такія не перастануць... то, напэўна што жахлівае пакаранне чакае іх. Ці не вернуцца яны да валадара, ці не будуць яны маліць пра прабачэнне? Ён цярплівы і літасьцівы.*

*Месія, сын Марылі, быў толькі апосталам: іншыя апосталы яму папярэднічалі. Яго маці мела рацыю.*

*Скажы людзям Пісанняў: не перамяняйце веру, не будзьце супраць праўды, і не пераймайце схільнасці людзей, якія былі ў памылцы да вас, якія падахвоцілі большасць людзей да памылкі і якія пакінулі добрую сярэдзіну шляху. Якімі пагарджаемымі з'яўляюцца іхныя дзеянні!..*

*Ты даведаешся, што адчуваючыя мацнейшую нянавісць да верных, гэта юдэі і паганцы, а больш схільныя паважаць верных, гэта людзі, завучыя сябе хрысьціянамі. Гэта ад таго, што ў іх існуюць сьвятары і манахі, і ад таго, што ў іх няма гонару. Калі яны слухаюць вершы Карана, то пабачыш, як шмат у іх цячэ із вачэй слёз, таму што яны пазнаюць праўду. Яны ўсклікаюць:*

*– О Пане! Мы верым! Запішы нас у спіс тых, якія, даюць сведчанне ў праўдзівасьці Карана. Праз што б мы не паверылі ў бога і ў ісьціны, якія ён адкрыў нам? Праз што б мы не пажадалі, каб ён даў нам месца сярод правых?*

*У якасьці ўзнагароды за іхныя словы бог прызначыў ім сады, абводненыя струменямі вады, дзе яны пражывуць вечна; гэта ўзнагарода тым, якія робяць дабро. Але тыя якія не вераць, якія лічаць нашы знакі прыдуманымі, тыя прызначаны ў пекла»...*

Вось амаль усё, што ў прававерным «Чытанні» (Каране) паведамляецца пра Езуса. Мы бачым із гэтага, што ў той час, калі заканчвалася стварэнне Карана, магаметане былі яшчэ адной із хрысьціянскіх сектаў і жылі амаль тымі ж уяўленнямі пра Езуса, якія мы маем і ў распрацоўваемых у той жа час Евангеллях і ў Псалмах. У вучэнні Карана пра «ўвасабленне боскага Слова ў панне Марылі» мы бачым сьляды ўяўленняў патрапіўшых ў Евангелле Яна, а легенды пра звеставанне і пра Яна Хрышчэльніка, найменне якога Ягіе нагадвае ці грэцкае Хагіос (ἁγιος) – сьвяты, ці нават самога Егову (імя якога магчыма паходзіць ад таго ж грэцкага, юдаізаванага кораня), з'яўляюцца толькі лёгкім варыянтам цалкам такіх жа евангельскіх легендаў.

Самую вялікую цікавасць тут уяўляе радавод Езуса. Тым часам як хрысьціяне аддзяляюць час яго жыцця ад часу жыцця Майсея і Арона шматлікімі стагоддзямі, аўтары Карана аб'вяшчаюць Езуса непасрэдным пляменікам гэтых двух настаўнікаў, лічачы яго маці Марылю (ці Марыам, як яе клічуць і ў Евангеллі)

сястрой Майсея і Арона і разам з імі дачкой Імрана і яго жонкі Ганны (ці Анны) із рода Лявітаў.

– «*О Марыля, о сястра Аронава! Твой бацька не быў чалавекам нягодным, і маці твая не была распутнай жанчынай*» (19, 29), – гаварылі ёй, як мы ўжо бачылі, сваякі, калі яна нечакана прынесла ім немаўля. – «*Марылі, дачцы Імрана, захаваўшай сваё дзявоцтва, мы ўдыхнулі частку нашага Духу,* – **паведамляе даме, згодна са словамі Карана, сам бог**. – *Яна верыла словам Бога і яго кнігам і была ў ліку людзей набожных*» (67, 12).

З гэтага боку гледжання Езус Навін атаясамляецца не толькі намі, грунтуючыся на астранамічных вылічэннях, але таксама і Каранам, з Езусам Хрыстом, Арон храналагічна налягае на Арыя, а для Яна Хрышчэльніка і Майсея нічога не застаецца ў гэты час у хрысьціянскіх крыніцах, акрамя Апанаса Вялікага, які, згодна са словамі Святцаў, яшчэ дзіцёнкам хрысціў хлопчыкаў у Ягіпце, ці ж Мікалая Цудадзея, імя якога азначае Пераможац людзей, хаця іхныя жыццяапісанні ў хрысьціянскіх крыніцах і падстаўныя.

# Глава III.

## Каран пра Майсея і пра Арона.

Усё гэта вымушае нас разгледзець тут жа і тое, што ў Каране паведамляецца пра Майсея (па-арабску Муса). Пра Арона ж заўсёды згадваецца толькі ў сувязі з Майсеем, як пра яго, не заўсёды вернага, вяшчуна ці намесьніка, а Езус Навін называецца маладым служкай Майсея.

«*О, дзеці Богазмагальніка*, – паведамляецца ў другой главе (2, 4), – *згадайце пра дабрадзействы, якімі мы абсыпалі вас, згадайце, што мы ўзвысілі вас вышэй усяго чалавецтва! Згадайце пра дзень, калі мы падзялілі для вас мора, калі мы выратавалі вас і ўтапілі на вачах вашых фіргауна. Пра дзень, калі мы складалі з Майсеем наш запавет на працягу сарака начэй, а вы зрабілі за час яго адсутнасьці цяля* (сузор'е Цяляці) *прадметам ушанавання. Згадайце пра дзень, калі вы сказалі Майсею:*

– *О Майсей! Мы не пагадзімся ні на якія б то ні было паўнамоцтвы табе, пакуль выразна не пабачым бога.*

*Але полымя з неба ўразіла вас, калі вы звярнулі на бога вашы пагляды. Мы ажывілі вас потым пасьля вашай сьмерці, каб вы былі нам удзячнымі. Мы вымусілі воблака лунаць над вашымі галовамі, мы паслалі вам манну і перапёлак, кажучы вам: ешце выдатныя стравы, якія мы вам далі! Майсей прасіў у бога вады напіцца народу, і мы загадалі яму:*

*– Стукні жазлом у скалу!*

*І раптам пацяклі дванаццаць крыніц, і кожнае калена даведалася пра месца, дзе яму варта піць. Мы сказалі дзецям Ізраіля:*

*– Ешце і піце даброты, якія дасылае вам бог, і не дзейнічайце свавольна, аддаючыся ў гэтай краіне разнастайным захапленням. А вы адкалі:*

*– О, Майсей! Мы не можам так доўга ўжываць адну і тую ж ежу; запытай твайго валадара, каб ён загадаў вырасьці гародніне, агуркам, чачавіцы, часныку і цыбулі».*

*А Майсей адказаў вам:*

*– Хіба вы жадаеце перамяніць добрае на благое? Калі так, вяртайцеся ў Ягіпет, там вы знойдзеце тое, чаго просіце.*

*І вось, яны наклікалі на сябе гнеў божы, таму што не верылі знакам і несправядліва аддалі на сьмерць сваіх прарокаў. Вось якім было пакаранне за іхны гоман і свавольствы! Напэўна ўсе тыя, якія вераць, і тыя, якія схіляюцца да рэлігіі жыдоўскай, –*

*хрысьціяне і савеі, атрымаюць узнагароду ад іхнага госпада. Згадайце пра дзень, калі мы прынялі ваш запавет і падкінулі над вашымі галовамі гару Сінай. Тады мы сказалі вам:*

*– Цьвёрда захоўвайце законы, дадзеныя вам намі, і памятайце, што яны ўтрымліваюць. Магчыма, вы пабаіцеся бога?*

*Але вы потым аддаліліся ад гэтага. Вы ўжо ведалі, хто былі парушыўшымі суботу і каму мы сказалі:*

*– Ператворыцеся ў малпаў, накіраваўшыся да марскога берага!*

*Мы загадалі ім служыць жахлівым прыкладам іхным сучаснікам і нашчадкам і навучаннем для тых, якія вераць*» (2, 62)...

І тут мы бачым, што гара Сінай, імя якой, як я давёў у другой кнізе «Хрыста», паходзіць ад лацінскага слова sinus – нетры, і не мае нічога агульнага з аравійскім Сінаем, паказваецца «ўзляцеўшай на паветра», як гэта адбылося толькі з вяршыняй Вязувія падчас яго жахлівага вывяржэння, а «воблака» над ім і тут з'яўляецца апісаннем пінеяпадобнай хмары над яго жаралом пры вывяржэннях.

Падобным жа чынам Каран паведамляе і далей (2. 87-76):

*«Калі мы падкінулі «гару Нетраў» над вашымі галовамі, то мы голасна прамовілі: – «Атрымайце ад нас законы з цьвёрдым намерам захаваць іх, і выслухайце іх!*

*Але тыя людзі адказалі:*

*– Мы чулі, але не будзем падпарадкоўвацца!*

*Сэрцы іхныя былі яшчэ зачараваны ўшанаваннем Цяляці, яны былі няўдзячнымі. Скажы ім:*

*– Гнюсныя павучанні надае вам ваша вера, калі яна ў вас такая...*

*«Калі прапаведнікі прыходзілі да няверуючых, частка тых, якія атрымалі пісанне* (Біблію), *кінулі ім у спіну Боскую кнігу, як быццам бы не пазнаўшы яе. Яны дзейнічалі так, як іх навучылі дэманы пра ўладу Саламона. Яны навучылі людзей магіі, навуцы, сышоўшай звыш праз вавілонскіх анёлаў Гаруту і Маруту, нікога не прысьвячаўшых у сваё мастацтва, не сказаўшы:*

*– Мы спакуснікі, асьцерагайцеся зрабіцца няверными!».*

«*Людзі навучыліся ад іх сродкам раз'ядноўваць чалавекаў ад жонак, але яны без дазволу божага не робяць зла каму б там ні было. А людзі вывучылі толькі тое, што ім шкодна, а не тое, што карысна, хаця і ведалі, што той, хто набыў гэтае мастацтва, адлучаны ад якога б то ні было ўдзелу ў будучым жыцці. Нікчэмная плата, за якую людзі прадалі сябе! Ах, калі б яны гэта ведалі! Ах, калі б яны верылі, калі б мелі баязнь перад богам! Узнагарода з боку бога каштуе значна больш. Ах, калі б яны гэта ведалі*!».

Але што ж такога паведамілі людзям дэманы пра ўладу Саламона, хто такія былі Гарут і Марут?

Саламонавымі дэманамі былі тыя, якія, згодна са сведчаннямі больш позніх тлумачальнікаў, схавалі пад пасадам цара Міратворцы (Саламона) кнігі магіі і пасьля яго сьмерці пашырылі чутку, быццам бы там знайшліся кнігі, якія ўтрымлівалі веды, з дапамогай якіх гэты цар – будаўнік храма адзінаму богу – падначальваў сваёй улады людзей, геніяў і вятры[68].

А пра Гарута і Марута вось што паведамляюць тлумачальнікі:

«*Анёлы жаліліся ў прысутнасьці бога на ўтрапёнасць людзей, нягледзячы на паўторнае выпраўленне да іх прарокаў. Бог даў ім загад абраць са свайго асяроддзя дваіх для суда. Гарут і Марут былі абраны ў якасьці суддзяў. Яны дакладна выконвалі даручэнні, пакуль не з'явілася да іх жанчына чароўнай прыгажосьці, якую называюць Цора і перакладаюць Венера. Яна патрабавала правасуддзя супраць свайго чалавека. Анёлы, уражаныя яе прыгажосьцю, зрабіліся да яе неабыякавымі, і раптам яна знікла ў імгненне вока. Вярнуўшыся на неба, яны пабачылі, што ўваход туды для іх зачынены.*

[68] Пра гэта ў Каране: 21, 81; 27, 16-28; 24, 11-13; 38.

*Згодна з прапановай аднаго правядніка бог загадаў ім самім абраць сабе пакаранне: ці працу на зямлі, ці пакуты ў пекле, пра вечнасць якіх яны ведалі. Яны абралі першае і размясьціліся ў «Вавілоне» паміж небам і зямлёй. Такой з'яўляецца думка большасьці тлумачальнікаў. Іншыя ж навукоўцы лічаць Гарута і Марута чараўнікамі, навучыўшымі людзей магіі, і ў гэтым выпадку дадаюць, што хаця Гарут і Марут былі звычайнымі людзьмі, але з нагоды сваёй прыгажосьці завуцца анёламі*».

А вось як дакладна рэзюмаваны ў Каране знакаміты біблейскі прыход богазмагальнікаў у запаветную зямлю (5, 23-20).

«*Майсей паведаміў ізраільцянам:*

*– Згадайце пра даброты, якія вы атрымалі ад бога: ён прызначыў прарокаў сярод вас, ён даў вам цароў* (г.азн. выяўляецца, што цары ў богазмагальнікаў былі яшчэ да Майсея ў адрозненні ад Бібліі). *Ён выказаў вам міласьці, якіх ніколі не даваў ніякаму іншаму народу. Зайдзі, о народ мой, у сьвятую зямлю, якую прызначыў табе бог! Не вяртайцеся назад перад баязьню пайсьці на пагібель.*

*– Але гэтая краіна, – адказалі ізраільцяне, – захоплена людзьмі магутнымі. Пакуль яны* валодаюць *ёю, мы не зможам зайці туды, а калі яны зыйдуць, мы забярэм яе ў валоданне.*

*– Ідзіце да гарадзкіх брамаў, – сказалі Майсей і Арон, якія адны былі із шануючых Валадара і ашчасьлеўлены яго міласьцямі, – як толькі вы зайдзеце, вы будзеце пераможцамі. Ускладзіце вашу надзею на бога, калі вы верныя!*

*– О, Майсей і Арон! – адказаў народ, – мы не пойдзем туды, пакуль не выйдзе народ, жывучы там. Ідзіце з богам і змагайцеся абодва, а мы пачакаем тут.*

*– Пане! – ускрыкнуў Майсей. – Я маю ўладу толькі над сабой і над маім братам. Разваж паміж намі і гэтым народам!*

*Тады бог сказаў:*

*– Гэтая зямля будзе для іх забароненай на сарок гадоў. Яны праблукаюць у пустыні, а ты перастань турбавацца пра такі натоўп бязбожных* (5, 23-29).

*Бог абараніў Майсея ад злых задумаў, задуманых супраць яго, а сямейства фіргауна было аддадзена пакутам. Вось яно, полымя (світання?), куды прыводзяць яго гарэць раніцай і вечарам, а калі надыдзе гадзіна, яму закрычаць:*

*– Сямейства фіргауна! Ідзі да самага жудаснага пакарання!*

*А калі бязбожныя пасярод полымя будуць сварыцца паміж сабой, тады слабыя гэтага сьвету скажуць ганарлівым:*

*– Мы служылі вам на зямлі, а ці можаце вы паслужыць нам да чаго-небудзь зараз у гэтым полымі, якое дасталася вам адпаведна з падзелам?*

*І ганарлівыя адкажуць:*

*– Вось мы ўсе тут* (**40**, 48-51).

*– Мы –* працягвае згодна з Каранам бог,*– загубілі Каруна, фіргауна і Гамана, пасьля таго як Майсей з'яўляўся пасярод іх з відавочнымі довадамі пасланніцтва. Усе былі пакараны за свае грахі. Супраць аднаго із іх мы выправілі вецер, кідаючы камяні; другі быў уражаны раптоўным жахлівым крыкам анёла Гаўрыіла. Адных мы загадалі паглынуць зямлі, а іншых утапілі».*

Зноў успаміны пра метэарытную, катастрофу ў Ягіпце, і збольшага пра вывяржэнне Вязувія!

Пазначым, што Карун тут тое ж, што біблейскі Карэй, і яго багацці ў магаметанаў ўвайшлі ў прыказку. Ён наладзіў змову супраць Майсея, і за гэта зямля паглынула яго разам з яго пазалочаным палацам і ўсімі скарбамі, а Гаман быў вярхоўным візірам нейкага «фіргауна».

А вось як распавядаецца ў Каране пра дзяцінства і юнацтва Майсея (у главе 28-й):

*«Паўстаў «фіргаун» і зрабіў падзел свайго народа на дзьве розныя часткі. Адну частку ўціскаў, сыноў аддаваў на сьмерць і пакідаў толькі жанчын. Гэта быў адзін із разбэшчвальнікаў. Але мы жадалі абсыпаць нашымі літасьцямі прыгнечаных. Мы жадалі абраць іх імамамі, прызначыць спадкаемцамі краіны і прымусіць фіргауна Гамана і яго войска выпрабаваць беды, якіх бы яны напалохаліся б. Вось што мы адкрылі маці Майсея:*

*– Калі ты баішся за яго, кінь яго ў мора і не засмучайся, бо мы вернем яго табе і зробім адным із нашых пасланнікаў.*

*Сямейства фіргауна прыняло дзіцёнка, каб ён праз некаторы час зрабіўся іхным ворагам і пошасьцю. Жонка фіргауна сказала яму:*

*– Гэты дзіцёнак – асвяжэнне позірку для мяне і для цябе. Не аддавай яго на сьмерць, магчыма ён будзе нам калі-небудзь карысны. Усынавім яго замест сына...*

*Мы забаранілі яму смактаць грудзі чужых карміцелек, пакуль сястра яго маці, прыйшоўшы, сказала сямейству фіргауна:*

*– Ці жадаеце вы каб я вам паказала сядзібу, дзе пра яго паклапоцяцца і дзе будуць жадаць яму дабра?*

*На гэтым пагадніліся, і такім чынам мы вярнулі яго маці, каб суцешыліся яе сумныя позіркі, каб яна больш не бедавала, і каб яна пазнала, што боскія абяцанні непарушныя. Але большасць людзей не ведае гэтага.*

*Калі Майсей пасталеў, і яго цела набыло моц, мы далі яму мудрасць і веды, так мы ўзнагароджваем вучоных людзей. Аднойчы ён зайшоў у горад, так што яго не заўважылі, і пабачыў двух чалавек, якія біліся. Адзін быў із яго народа, другі быў іхным ворагам. Чалавек із яго народа папрасіў яго дапамогі супраць чалавека варожага народа. Майсей стукнуў яго кулаком і забіў. Але калі прайшоў прыпадак запальчывасьці ён прамовіў:*

*– Гэта справа сатаны. Гэты вораг відавочна ўвёў нас у памылку.*

*– Пане! – вымавіў ён. – Я дрэнна зрабіў для самога сябе. Прабач мяне!*

*І бог дараваў яго, бо ён церплівы і літасьцівы.*

*І вось чалавек, прыбегшы з канца горада, паведаміў:*

*– О Майсей! Вяльможы загадалі забіць цябе. Пакінь горад, раю табе па-сяброўску.*

*Майсей пайшоў, увесь час дрыжучы ад жаху і аглядаючыся вакол сябе.*

*– Пане! – усклікнуў ён. – Вызвалі мяне із рук злых!*

*Ён накіраваўся ў бок Мадыама.*

*– Магчыма – прамовіў ён – бог накіраваў мяне на праўдзівы шлях?*

*Прыйшоўшы да мадыамскага фантана, ён там пабачыў натоўп людзей, паіўшых свае статкі, а збоку ён заўважыў двух жанчын, адагнаўшых свае статкі.*

*– Што вы робіце? – запытаў ён іх.*

*– Нам не напаіць нашых авечак, пакуль не выдаляцца пастухі – адказалі яны.*

*Майсей дапамог ім.*

*Адна із двух дзяўчын павярнулася да яго, і, сціпла наблізіўшыся, прамовіла:*

*– Бацька мой запрашае цябе, каб узнагародзіць за намаганні, які ты здзейсніў, каб напаіць наш статак.*

*Майсей з'явіўся туды і паведаў пра свае прыгоды. Старац адказаў:*

*– Не бойся нічога, ты ўжо вызваліўся ад злых. Я маю намер аддаць табе ў якасьця жонкі адну із вось гэтых маіх дачок з умовай, каб ты служыў мне восем гадоў. Калі жадаеш дажыць да дзесяці, твая воля.*

*– Гэта вырашана, – адказаў Майсей, – і якім бы ні быў для мяне тэрмін выканання, у тым не будзе пярэчанняў з майго боку.*

*Калі Майсей правёў вызначаны час у паслужэнні ў свайго цесьця, ён выправіўся са сваім сямейством. Раптам ён заўважыў на боку гары полымя* (зноў водгалас вулканічнага вывяржэння Вязувія ці Этны) *і прамовіў*:

*– Пачакаеце крыху тут. Я пайду даведаюся пра навіны і прынясу вам пагрэцца падпалены асмолак.*

*Калі ён быў каля месца полымя ў блаславёнай даліне, тады яму пачуўся голас із гушчару хмызняка:*

*– О, Майсей! Я бог, валадар сусьвету. Кінь тваю палку.*

*Калі Майсей кінуў яе, ён пабачыў яе рухаючайся падобна змяі, і кінуўся бегчы без аглядкі.*

*– О Майсей! – прамовіў яму голас. – Наблізься, не бойся! Ты ў бяспецы. Пакладзі руку за пазуху. Яна выйдзе адтуль цалкам белай, без таго, каб гэта было хваробай. Гэта будуць два доказы з боку твайго госпада перад фіргаунам і вяльможамі яго царства. Яны – народ бязбожны.*

*– Пане! – адказаў Майсей, – я забіў аднаго із іхных і баюся, каб яны не аддалі мяне на сьмерць. У майго брата вымаўленне лягчэй за маё. Выправі яго са мной для майго падмацавання і падмацавання маіх слоў. Я баюся, каб мяне не палічылі ашуканцам.*

*– Мы падмацуем тваю руку тваім братам, – паведаміў яму бог, – мы дадзім вам такую ўладу, што міц-рымлянам ніколі немагчыма будзе дадумацца да нашых дзіваў. Вы і тыя, якія за вамі пойдуць следам, будзеце мацнейшымі.*

*Калі Майсей з'явіўся падмацаваны нашымі відавочнымі знакамі, то там усклікнулі:*

*– Гэта вядзьмарства! Мы чулі пра яго ад нашых продкаў.*

*– Бог, мой валадар, – паведаміў ім Майсей, – ведае лепш каго б там ні было, каму ён даў накірунак і хто із нас будзе валодаць вечным жыллём, таму што ён не дае раяваць злым.*

*Фіргаун, звяртаючыся да вяльможаў, сказаўшы ім:*

*– У вас, як я ведаю, няма іншага бога, акрамя мяне. Ты Гаман, запалі мне полымя на брудзе, нарабі цэглы і пабудуй вежу, каб падняцца да Майсеева бога. Я клянуся самім сабой, што яго няма, што Майсей падманвае...*

Гэта ж пераказваецца іншымі словамі і ў 20 главе, дзе дапаўняецца яшчэ наступнае пра спатканне з «фараонам».

– «*О Майсей! – сказаў фіргаун – ці не прыйшоў ты прагнаць нас із нашай краіны вядзьмарствам? Мы дадзім табе бачыць падобнае ж. Прызнач нам спатканне, мы не адмовімся. Ты тым больш не адмовішся ад спатканя. І хай усё будзе аднолькавым.*

*Майсей адказаў*:

*– Я прызначаю вам спатканне пад час сьвята, калі народ меў бы магчымасць сабрацца на цэлы дзень.*

*Фіргаун пайшоў. Ён прыгатаваў свае падкопы, і прыйшоў у прызначаны час.*

*– Гора вам! – сказаў Майсей. – Асьцерагайцеся прыдумляць хлусню на конт бога, таму што вас спасьцігне яго пакаранне. Выдумляўшыя хлусню, усе загінулі.*

*Вешчуны сабраліся і таемна перамаўляліся.*

*– Гэтыя два чалавекі, – казалі яны, – таксама вешчуны. Яны сваімі падкопамі маюць намер прагнаць нас із нашай краіны і зьнішчыць нашу цудоўную рэлігію.*

*– Аб’яднайце, – сказаў Майсей, – вашы хітрыкі, а потым выступайце па чарзе. Шчасьлівы той, хто сёння здабудзе верх!*

*– О Майсей! – сказалі яны. – Ці ты кінеш жазло першым ці ўжо мы?*

*Ён адказваў:*

*– Кідайце перш вы*

*І вось, раптам іхныя вяроўкі і жэзлы выявіліся бегаючымі ад уздзеяння іхнага чараўніцтва. Майсей сам у сабе быў таемна апантаны баязьню. Але* (бог) *сказаў яму: «нічога не бойся! бо ты мацней». Кінь тое, што ў цябе ў правай руцэ* (сваё жазло), *ён праглыне тое, што яны наваражылі. Гэта не што іншае, як магічная штука, а вешчуны нешчасьлівыя, калі справа даходзіць да выпрабавання.*

*І кінуты Майсеем кій праглынуў іхнія.*

*Чараўнікі кінуліся ніц, кажучы:*

*– Мы паверылі ў госпада Аронава і Майсеева.*

*– Як? – прамовіў Фіргаун. – Вы паверылі ў яго, не чакаючы майго дазволу? Напэўна што ён ваш кіраўнік, і вы яму паказвалі магію. Я загадаю адрэзаць вам наўскос рукі і загадаю ўкрыжаваць вас на пальмавых ствалах. Я вам давяду, хто із нас больш жахлівы ў сваіх пакараннях, і хто застанецца пераможцам, бог ці я.*

*– Мы не паставім цябе вышэй відавочных знакаў, і вышэй таго, хто нас стварыў, – адказалі вешчуны. – Выканай тое, што прызначыў. Ты можаш вырашаць пытанні толькі на гэтым сьвеце. Што ж да нас, то мы паверылі ў нашага госпада, і ды даруе ён нашы грахі і чароўныя штукі, да якіх ты нас прымусіў. Бог каштуе даражэй за цябе і застанецца пасьля цябе*».

Тое ж самае паўторана і ў сёмай частцы (7. 101), да якой яшчэ дададзена:

«*Мы ўжо раней далі адчуць народам фіргауна бясплоднасць і недахоп харчавання каб яны паразважалі. Потым, калі мы далі ім шчасьце* (сем ураджайных гадоў пасьля сямі бясплодных), *яны* (народы) *сказалі*:

*– Гэта толькі належачае нам!*

*Іхныя няшчасьці паходзяць ад бога, але вялікая частка іх цалкам не зразумела гэтага. Яны гаварылі Майсею:*

*– Ты дарэмна завіхаўся вырабляць прад намі дзівы дзеля нашага зачаравання, мы не паверым табе.*

*Тады мы наслалі на іх паводку, саранчу, гадаў, жаб і кроў, – відавочныя знакі! Але яны надуліся гонарам, таму што былі злачынныя. Кожны раз, калі іх спасьцігала язва, яны казалі Майсею:*

*– Звярніся да твайго бога, адпаведна з умовай, якую ты заключыў з ім. Калі ты пазбудзеш нас ад гэтага пакарання сьмерцю, мы паверым табе і дазволім выправіцца з табой дзецям Ізраіля.*

*Але як толькі мы вызвалялі іх ад пакарання і як толькі праходзіў прызначаны імі тэрмін, яны парушалі свае абяцанні. Мы пазначылі гэтаму народу і ўтапілі яго ў моры, за тое што ён лічыў за хлусню нашы знакі і не выказваў ім ніякай увагі. Мы далі ў спадчыну слабым усходнія краіны і заходнія краіны зямлі, на якія мы пашырылі нашы дабраславенні. Пышныя абяцанні твайго госпада дзецям Ізраіля выканаліся, за тое што яны былі вернымі. Мы разбурылі тварэнні і будынкі фіргауна і яго народа. Мы перайшлі з дзецьмі ізраілевымі мора, але яны знайшлі ў краіне народ, ушаноўваючы стоды*.

*– О Майсей! – сказалі ізраільцяне, – зрабі нам стодаў, якія ў гэтых народаў.*

*– Вы народ невуцкі, – адказаў Майсей. – Ушанаванне, здзясняемае імі, састарэлае, і справы іхныя пустыя. Ці адшукаю я для вас іншую боскасць, акрамя бога, які ўзнёс вас перад усімі іншымі народамі? Згадайце, што мы пазбавілі вас ад людзей фіргауна, ўціскаўшых вас, вынішчаўшых вашых дзяцей мужчынскай стаці, і літаваўшых толькі вашых дочак! Гэта вам цьвёрды доказ ад вашага Бога. Мы бачыліся з Майсеем трыццаць начэй, і дапоўнілі іх яшчэ дзесяццю начамі, каб час яго стасункаў з богам быў роўным сарак начэй*».

*Майсей сказаў свайму брату Арону:*

*– Замясьці мяне перад маім народам, рабі справядлівыя ўчынкі, і не пераймай шлях злых.*

*Калі Майсей дачакаўся прызначанай гадзіны і бог загаварыў з ім, ён паведаміў богу:*

*– Валадар! Пакажыся мне, я пагляджу на цябе.*

*– Ты не пабачыш мяне, – запярэчыў бог, – паглядзі лепш на гару* (Везувій). *Калі застанецца нерухома на сваім месцы, то пабачыш мяне.*

*І калі бог з'явіўся на гары, то ператварыў яе ў пыл. Майсей зваліўся без пачуццяў ніцма на зямлю. Апрытомнеўшы, ён усклікнуў:*

*– Слава табе! Я вяртаюся да цябе, прасякнуты пакаяннем, і ператвараюся ў першага із вернікаў!*

Потым мы знаходзім у Каране (18, 59-81) і такое месца пра Майсея, якога няма ў Бібліі. Гэта паданне пра сустрэчу Майсея з таямнічым іншаземным прарокам і мудрацом Хідрам, насіўшым з сабой ключ акавіты (жывая вада) і зрабіўшымся дзякуючы гэтаму несьмяротным. Некаторыя юдаісты лічылі, што гэта быў унук Арона, Пінтас, душа якога перасялілася ў прарока Ілію, дапасуемага, як бачна із Карана, таксама да часу Езуса, г.азн. да паловы IV стагоддзі нашай эры.

Вось як апісваецца гэтая сустрэча, у якой евангельскі Езус, лічыўшымся ў Каране пляменікам Майсея, сынам яго сястры, фігуруе пад імем Майсеева служкі Езуса-Навіна, г.азн. Езуса Прарока.

«*Аднойчы Майсей паведаміў сваймy служцы* (Езусу Навіну, ён жа яго пляменік і евангельскі Хрыстос).

*– Я не перастану ісьці, пакуль не дасягну зліцця двух мораў.*

*Калі яны дайшлі да зліцця двух мораў* (Міжземнага і Чорнага), *то заўважылі, што страцілі рыбу, ішоўшую з імі, якая пайшла прама ў мора. Калі яны пайшлі наперад, Майсей сказаў свайму служцы:*

*– Прыгатуй нам пачастунак, мы шмат працавалі на працягу нашага шляху.*

*– Што ты кажаш? – запярэчыў яго служка. – Калі мы спыніліся каля скалы, я не звярнуў на рыбу ніякай увагі. Рыба пайшла ў мора. Дзіўна!*

*– Вось гэтага-та я і жадаў, – запярэчыў Майсей.*

*Яны абодва вярнуліся на свой шлях. Там* (дзе прайшла рыба) *яны сустрэлі аднаго із нашых служак, якога мы ўзнагародзілі нашай міласьцю і прасьвяцілі нашай мудрасьцю,* – працягвае Каран ужо ад імя бога.

*– Ці магу я ісьці за табой, – запытаў яго Майсей, – каб ты навучыў мяне часткі таго, чаму сам навучаны ў дачыненні да праўдзівага шляху.*

*– У цябе не хопіць дастатковай цярплівасьці застацца са мной, – адказаў невядомы.*

*– Калі дагодна богу, – прамовіў Майсей, – то ты знойдзеш мяне цьвёрдым і я не прыслухаюся да тваіх загадаў.*

*– Ну добра, – сказаў невядомы. – Не пытай жа мяне пра што б там ні было, пакуль я не загавару з табой першым.*

*Так яны выправіліся ў дарогу абодва, і абодва зайшлі ў лодку, а невядомы пашкодзіў яе.*

*– Ці не пашкодзіў ты яе? – запытаў Майсей, – каб утапіць тых, хто ў ёй? Ты зрабіў дзіўны ўчынак.*

*– Ці не казаў я табе, што ў цябе не хопіць цярпення застацца са мной?*

*– Не сварыся на мяне, – запярэчыў Майсей, – за тое, што я забыўся пра твае загады, і не накладай на мяне занадта цяжкіх абавязкаў.*

*Яны выправіліся зноў, і ішлі, пакуль не сустрэлі юнака. Невядомы забіў яго.*

*– Што гэта? Ты забіў невінаватага чалавека! Ты здзейсніў дрэнную справу.*

*– Ці не казаў я табе, што ў цябе не хопіць цярпення застацца са мной? – адказаў яму той...*

*Яны выправіліся зноў і ішлі, пакуль не дасягнулі да брамы горада. Яны папрасілі ў жыхароў прытулку, але тыя адмовілі ім у прыёме. Абодва вандроўнікі заўважылі, што гарадзкая сьцяна пагражае падзеннем. Невядомы выправіў яе.*

*– Калі б ты пажадаў, – сказаў яму Майсей, – то мог бы прымусіць даць табе ўзнагароду.*

*– Зараз мы развітаемся, – адказаў невядомы, – і я маю жаданне толькі навучыць цябе веданню рэчаў, пра якія ты спяшаўся даведацца. Лодка належала бедным людзям, працаваўшым на моры, і я пажадаў сапсаваць яе, таму што там быў цар, які захапляў усе караблі. Адносна юнака скажу, што яго бацькі – людзі веруючыя, і мы баяліся, каб ён іх не заразіў сваёй бязбожнасьцю і няверай. Мы жадалі, каб бог даў ім, наадварот, сына*

*больш дабрадзейнага і больш годнага пяшчоты. А сьцяна была спадчынай двух хлопчыкаў, сірот у гэтым горадзе. Пад гэтай сьцяной быў належачы ім скарб. Бацька іх быў чалавек добры. Бог палічыў патрэбным даць ім дасягнуць сталага ўзросту, каб перадаць ім скарб. Зрабіў жа ўсё гэта я не згодна з уласным жаданнем. Вось рэчы, дасягнуць тлумачэння якіх ты меў цярплівасць»...*

А вось і легенда пра ўшанаванне Залатога Цяльцці (Сыход 32), якога згодна з Каранам прыгатаваў пры адсутнасьці Майсея і Езуса, не Арон-Арый, а нейкі таямнічы самаранін (эсамеры). Першапачатковы астралагічны сэнс гэтага падання, згодна з якім на чале сузор'яў Задыяка спачатку ставілася Цяля, а потым быў адсечаны яго зад і на месца яго адсечанай часткі было ўстаўлена сузор'е Авена[69], тут ужо цалкам згубіўся.

*– «Хто загадаў табе так хутка пакінуць свой народ? – запытаў бог Майсея.*

*– Кіраўнікі майго народа ішлі па маіх слядах, а я вымушаны ісьці да цябе, каб быць табе любым.*

*– О Майсей! Мы выпрабавалі твой народ. Пасьля твайго сыходу іх увёў у зман самаранін* (эсамеры).

*Майсей вярнуўся да свайго народа, раздражнёны і засмучаны, і прамовіў:*

*– О мае людзі! Ці не даў вам бог добрага абяцання? Ці здаваўся вам яго запавет працягваючымся вельмі доўга? Ці вы пажадалі, каб на вас упаў гнеў вашага валадара? Хіба вы не зрабілі насуперак дадзеным мне абяцанням?*

*– Мы не па ўласнаму жаданню парушылі нашы запветы але нам загадалі прынесьці залатыя прылады нашых убораў. Мы сабралі іх разам. Самаранін кінуў іх у полымя і выцягнуў адтуль для народа выяву рыкаючага Цяляці. Нам сказалі: «Вось ваш бог і бог Майсея, толькі Майсей забыўся пра яго пры пошуках іншага бога* (Авена)...

*Майсей сказаў Арону.*

*– Што табе перашкодзіла ісьці за мной, калі ты пабачыў іх памыліўшыміся? Ты не жадеш слухаць мае загады.*

*– О сын маёй маці! – адказаў Арон, – перастань цягаць мяне за бараду і за галаву. Я баяўся, каб ты потым не сказаў: навошта ты пасеяў разлад паміж мной і дзецьмі Ізраіля?*

*– А ты, о самаранін! Якім быў твой намер? – запытаў Майсей.*

*– Я бачыў тое, чаго яны не бачылі, – адказаў той. – Я ўзяў жменю пылу із пад слядоў боскага пасланніка* (Гаўрыіла) *і кінуў яго ў растопленае Цяля. Мне надала гэта прыродная схільнасць.*

*– Сыдзі адсюль, – сказаў яму Майсей. – Тваё пакаранне на гэтым сьвеце будзе такім. Ты скажаш кожнаму, хто сустрэнецца з табой: не датыкайся да мяне! Дарэчы, табе прызначана месца* (на тым сьвеце), *ад якога ты не зможаш схавацца. Кінь пагляды на таго бога, якога ты ўшаноўваў з такой павагай. Мы спалім яго, ператворым у парашок і кінем яго ў мора. Бог наш, бог адзіны. Няма іншага бога, акрамя яго. Ён ахоплівае ўсё сваім веданнем*»...

Я пазначу, што гэтае месца Карана бянтэжыла артадаксальных гісторыкаў не менш, чым і абвяшчэнне евангельскага Езуса пляменікам Майсея: самаране ж заўсёды лічыліся ўзнікшымі толькі ў евангельскія часы і не існаваўшымі ў часы Майсея! З нашага ж боку гледжання, менавіта Каран і з'яўляецца тут праўдзівай першакрыніцай, справядліва атаясамляючай Езуса Навіна з Езусам Хрыстом.

---

[69] А із клюшняў Скарпіёна на процілеглай частцы неба было такім жа прыёмам вылучана сузор'е Шаляў, каб пазначаць (сваім апусканнем у полымя вечаровага зарыва) восеньскае раўнадзенства, падобна таму як апусканне Авена азначала вясновае раўнадзенства ў тыя часы, калі яшчэ не маглі вызначыць дакладны час нябачнага праходжання Сонца праз нябесны экватар.

Пра Залатое Цяля мы знаходзім згадванне і ў іншых месцах Карана, асабліва ж у сёмай частцы.

«*Народ Майсея маліўся пад час яго адсутнасьці Цяляці, зробленаму із залатых упрыгожванняў, Цяльці па целу і пры гэтым толькі мыкаючаму. Ці не бачыце вы, што ён не мог ні размаўляць, ні накіраваць іх на праўдзівы шлях? Яны прасілі сабе Цяля для шанавання і паступалі несправядліва. І калі яны пакаяліся і пазналі сваю памылку, то ўскікнулі:*

*– Калі бог наш не злітуецца над намі і калі не даруе нашых грахоў, то мы загінулі!*

*Майсей, вярнуўшыся да свайго народа, поўны гневу і смутку, усклікнуў:*

*– Гэта жудасна тое што вы зрабілі пад час маёй адсутнасьці!*

*Ён кінуў скрыжалі запавету, схапіў свайго брата за галаву* (як Мікалай Цудадзей Арыя згодна з паданнем хрысьціянскіх аўтараў), *цягнучы яго да сябе.*

*– О сын маёй маці! – прамовіў Арон. – Народ забраў у мяне ўсю ўладу, амаль ці не забіў мяне. Не цеш маіх ворагаў відовішчам майго пакарання, і не стаў мяне ў шэраг бязбожных.*

*– Пане! – усклікнуў Майсей. – Даруй мяне і майго брата, дай нам месца праз тваю літасьцівасць, таму што ты самы літасьцівы! А тыя, якія ўшаноўвалі Цяля, хай зведаюць твой гнеў і ганьбу на гэтым сьвеце.*

*Калі гнеў Майсея астудзіўся, ён падняў скрыжалі запавету. Пісьмёны, якія былі там напісаны, утрымлівалі накірунак і дараванне для тых, якія баяліся свайго валадара. Майсей сабраў са свайго народа семдзесят мужоў* (г.азн. склікаў першы рэлігійны сабор), *каб уявіць яго нам. Але іх уразіў жахлівы землятрус.*

*– Пане! – усклікнуў Майсей. – Ты мог бы знішчыць іх, і мяне з імі, раней сучасняга дня. Ці загубіш ты нас усіх за злачынствы некалькіх вар'ятаў? Ты наш абаронца. Даруй нашы памылкі і злітуйся над намі! Ты лепшы із тых, якія даруюць. Прызнач нам добрую долю на гэтым сьвеце і на тым. Вось мы вярнуліся да цябе, поўныя пакаяння.*

*– Маё пакаранне, – запярэчыў бог, – упадзе на каго я пажадаю, а літасць мая ахоплівае ўсе прадметы. Я прызначаю яе тым, якія мяне баяцца, чыняць міласьціну і вераць у мае знакі, тым, якія пойдуць следам за пасланым мной не вучыўшымся* (у вашых школах) *прарокам, якога аднак знойдуць абазнаным у сваіх кнігах: і ў Пяцікніжжы і ў Евангеллі; прарокам, які загадае ім дабро і забароніць зло; які дазволіць ім ужыванне цудоўных страваў і забароніць стравы нячыстыя; які палегчыць іхныя цяжары, і здыме ланцугі, гнятучыя іх. Усе, якія паверацъ у яго, якія падмацуюць яго, якія дапамогуць яму і пойдуць следам за сышоўшым да яго сьвятлом, будуць шчасьлівыя.*

*– Запытай*, – працягвае і далей аўтар ад імя бога, – *пра горад, **размешчаны на марскім беразе**, жыхары якога парушылі суботу, таму што пад час гэтага дня паказваліся на паверхні вады рыбы, а ў іншыя дні знікалі. Гэта было зроблена намі таму, што мы выпрабоўвалі іх, бо мы ведалі, што яны здраднікі. Калі ж яны пераступілі нашу забарону, мы сказалі ім: «ператварыцеся ў малпаў, пагрузіцеся ў мора!*

*Бог твой,* – дадае Каран (7,160), – *абвясьціў тады ім, што яшчэ да дня ажываання ён пашле супраць іх народ, які вымусіць іх выпрабаваць жахлівыя бедствы. Але ён церплівы і літасьцівы, і напэўна не дазволіць загінуць справядлівым.*

*– Калі мы падкінулі над іхнымі галовамі гару Спусташальнік падобна хмары, яны лічылі, што яна ўпадзе на іх; але мы паведамілі ім:*

*– Вазьміце скрыжалі, якія мы вам даём* (на гэтай грознай гары) *з цвёрдым намерам выконваць іх і памятайце тое, што яны ўтрымліваюць, каб баяцца Бога* (8,170)».

* * *

Скажы, чытач, ці не нагадвае вам толькі што выкладзеная сварка цудадзея Майсея і першасьвятара Арона – сварку Цудадзея Мікалая з першасьвятаром Арыем у 325 годзе нашай эры на Нікейскім саборы, ды і семдзесят мужоў,

набраных Майсеем, каб разам з ім стаць саборна перад богам, ці не нагадваюць вам гэты сабор навукоўцаў і тэолагаў пры Кастусю I, калі ўпершыню было дэкрэтавана адзінабожжа, і, напэўна, былі зацверджаны дзесяць запаветаў, з якіх аддін і ёсць: «памятай дзень суботні»? А які ж гэта **прыморскі** горад, раптам пагрузіўшыся ў мора, жыхары якога (як, напэўна, пайшлі чуткі сярод суседзяў, ацалеўшых пасьля катастрофы), былі ператвораны на дне ў малпаў? Якая гара Нетраў (Сіні) была падкінута над галовамі застаўшыхся?

У другой кнізе «Хрыста» я ўжо дастаткова паказаў, што гэта не магла быць ніякая із сінайскіх складкаватых гор воднага паходжання, а толькі адзін Вязувій.

Мы бачым, што ў Каране існуюць ў раскіданым выглядзе амаль усе легенды пра Майсея, сабраныя ў псеўда-сістэматычнае апавяданне ў біблейскай кнізе Сыход, але толькі тут іхнае больш пазняе датаванне больш супадае з нашымі гісторыка-астррномічнымі высновамі, чым храналагічныя прыдумкі хрысьціянскіх пісьменнікаў, пераносячых першасьвятароў Арона і Езуса Навіна ад эпохі першасьвятароў Арыя і Васіля Вялікага на адзін сатычны перыяд – 1460 гадоў назад, г.азн. дапасуючы сьмерць Майсея да перыяду за 1456 гадоў да нараджэння Езуса, які зноў-такі няправільна дапасуецца да пачатку нашай эры.

# Глава IV.

## Астатнія біблейскія дзеячы ў Каране.

Няма нічога больш пераканаўчага, як Каран, для высвятлення позьняга часу біблейскіх дзеячаў. Перадусім, калі мы не будзем лічыць, што пад выглядам Майсея, Арона, Езуса і іншых у Каране апісаны дзеячы IV стагоддзя, то будзе цалкам незразумелай адсутнасьць у гэтай кнізе, дапасуючайся без сумневаў да часу не раней як VII стагоддзе нашай эры, хаця б самых малых указанняў на дзеячоў папярэднічаўшых стагоддзяў, – Арыя, Кастуся, Васіля Вялікага і іншых, тады як аўтару добра вядомы асобы, жыўшыя быццам бы за 2000 гадоў да іх.

Вось чаму, пакінуўшы ўжо ў спакоі Майсея, Арона і Езуса, пра якіх я выпісаў усё істотнае із Карана, я разбяру і іншых згадваемых у ім славутасьцей даўніх гадоў.

Вось, напрыклад, Дгуль (г.азн. Юлій) Карпейн, імя якога азначае «Валадар двух зямных краёў», у якім некаторыя бачаць Аляксандра Вялікага (Каран 18,82):

– «*Цябе запытаюць, о Славуты, наконт Валадара двух зямных краёў? Адказвай ім: я паведамлю вам яго гісторыю!*

*Мы ўмацавалі яго магутнасць на зямлі, і далі яму сродкі дасягнуць пажаданага, і ён выправіўся ў дарогу. Ён ішоў пакуль не дасягнуў заходу Сонца. Ён пабачыў Сонца заходзячым у кіпячы фантан. Побач з ім ён знайшоў пасяліўшыся народ. Мы паведамілі яму:*

*– О Дгуль Карнейн! Ты можаш вынішчыць гэты народ ці паставіцца да яго вялікадушна!*

*– Мы пакараем, – адказаў ён, – кожнага чалавека бязбожнага, а потым аддадзім яго богу, які яшчэ ўчыніць над ім жахлівае пакаранне. Але хто верыў і тварыў дабро, той атрымае добрую ўзнагароду, і мы дадзім яму наказы лёгкія для выканання.*

*Дгуль Карнейн зноў выправіўся ў дарогу, пакуль не прыйшоў туды, дзе ўзыходзіць Сонца. Яно падымалася над народам якому мы нічога не далі для абароны ад спёкі. Так, гэта было так, і мы ведаем усіх тых, якія былі з ім, Дгуль Карнейнам. Ён зноў выправіўся*

*ў дарогу, пакуль не апынуўся паміж двух плацін, побач з якімі жыў народ, ледзь разумеўшы якую б то ні было мову. Гэты народ паведаміў яму:*

*– О Дгуль Карнейн! Вось Яджудж і Маджудж* (Гог і Магог), *робячыя на зямлі бязладдзе. Можам мы прасіць цябе, замест узнагароды, пабудаваць перагародку паміж імі і намі?..*

*– Магутнасць, якую дае мне валадар мой, – адказаў ён, – самая важная для мяне ўзнагарода. Толькі старанна дапамагайце мне, і я пабудую перагародку паміж імі і вамі. Прыносьце да мяне вялікія кавалкі жалеза да той пары, пакуль можна будзе заваліць прамежак паміж двума гарамі! Паліце полымя, пакуль жалеза пачырванее як полымя! Прынясіце мне расплаўленай медзі, каб кінуць зверху!*

*Пасьля гэтага Яджудж і Меджудж не маглі ні ўлезьці на яго сьцяну, ні прабіць яе* (ці ужо не пра Кітайскую сьцяну?).

*– Гэта, – сказаў Дгуль Карнейн, – праява дзейнасьці літасьці боскай. Калі прыйдзе вызначэнне валадара, ён разламае сьцяну на кавалкі. Абяцанні боскія неадменныя. Надыдзе дзень, калі мы загадаем гэтым народам спяшацца натоўпамі, падобна хвалям, адзін за другім. Прагучыць труба і мы ўсе збярэмся разам. У гэты дзень для няверных мы наладзім геену.*

Гэтае месца відавочна із Апакаліпсіса. А хто ж тут валадар двух краёў зямлі? Ці аўтар Апакаліпсіса Ян, ці нейкі знакаміты імператар? Імя Дгуль, ці Джуль, больш усяго падобна на Юлія, які і да гэтага часу вымаўляецца па-італійску Джуліо. Хутчэй усяго гэта Юльян Філосаф (памёр 363 г.).

А вось што паведамляецца пра пабудову першага храма, які тут прыпісваецца ўжо не Цару Міратворцу (Саламону), а самаму Бацьку-Рыму (Абраму) і месьціцца не ў Палестыне, а ў Мецы.

«*Калі бог вызначынымі словамі выпрабоўваў Бацьку-Рыма* (Аб-рама па-каранску) *і гэты атрымліваў яго загады, бог паведаміў яму:*

*– Я прызначу цябе народам імамам* (духоўным кіраўніком).

*– Абяры яго із маёй сям'і, – адказаў Бацька-Рым.*

*– Мой запавет, – запярэчыў Бог, – не прымае злых... Мы заснавалі сьвятую сядзібу, для заспакаення і сховішча людзям і сказалі: «прызначце месца Бацьку-Рыму для павучанняў». Мы даручылі яму і богапачутаму Ізмаілу наступнае:*

*Захавайце маю сядзібу чыстай для тых, якія прыйдуць стаяць на малітве і станавіцца на калені і прысядаць*»...

Вось усё, што паведамляецца ў Каране пра пабудову Бацькам-Рымам «Сьвятой сядзібы». Месца яго не пазначаецца, і больш няма пра гэта нічога. Усё астатняе змяшчаецца толькі ў іншых паданнях, дзе храмам, які, згодна з Каранам, пабудаваў Бацька-Рым і Богапачуты, лічыцца ўжо пабудаваны ў Мецы на імя Кааба («Забаронены ўваход»), існуючы і да гэтага часу пасьля шматлікіх перабудоваў.

Але ўпершыню, – пераконваюць нам ранейшыя арабісты, – пабудаваў «у Мецы харам (г.азн. храм)[70] самы першы чалавек – Адам. Потым, пад час Ноева патопу храм – пераконваюць нас – быў падняты згодна з наказам бога на чацьвёрты купал неба. Пазьней, пры з’яўленні там Бацькі-Рыма і Богапачутага яны, – паведамляюць нам, – зноў пабудавалі будынак на гэтым месцы і Бацька-Рым быў першым першасьвятаром ў ім. Відаць, тут жа ён меў жаданне прынесьці ў ахвяру богу і свайго сына Ісака, пакуль боскі вястун не зляцеў з неба і не спыніў яго ўжо паднятую руку.

[70] Саблукоў: Апавяданні магаметанаў пра Кыблу, стар. 22.

Магчыма, што гэтае паданне пра Ісака з'яўляецца толькі легендай пра забарону чалавечых ахвяраванняў, адбыўшуюся пасьля з'яўлення метэарыта, прыляцеўшага з неба якраз падчас здзяйснення такой працэдуры.

Апавяданне пра вяртанне Бацьку-Рыму (г.азн. Абраму) сына анёламі і пра Лота-Латыняніна, злучаны ў Каране ў адным месцы (II, 12-84).

«*Да Бацькі-Рыма прыйшлі нашы пасланнікі, нёсшыя шчасьлівае паведамленне. Яны сказалі яму:*

*– Мір!*

*– Мір! – адказаў ён.*

*Няшмат часу прайшло, і ён прынёс смажанае цяля. А калі пабачыў, што іхныя рукі не дакранаюцца да прыгатаванай стравы, то гэта яму не спадабалася, і ён спалохаўся.*

*– Не бойся, – сказалі яму яны, – мы пасланнікі да Лотава народа.*

*Яго жонка* (жонка Бацькі-Рыма) *стаяла тут, і пачала смяяцца, калі мы абвясьцілі ёй Ісака, а пасьля Ісака Якава.*

*– Ах, я няшчасная, – сказала яна. – Мне нарадзіць! Я ж старая і чалавек мой стары! Праваўда, гэта дзіўная справа.*

*– Ці здзівішся ты волі боскай? Яго літасьцівасць і яго добраславенне лунае над намі, людзьмі гэтай сядзібы. Бог годны славы і ўхвалаў.*

*Калі перапалох Бацькі-Рыма аменшыўся і яму было зроблена шчасьлівае прадказанне, то ён пачаў спрачацца з намі абараняючы народ Лота, таму што быў рахманы, спачуваючы і схільны да ласкі.*

*– О Бацька-Рым! Адмоўся ад гэтага, таму што наказ Бога твайго ўжо абвешчаны; яны зведаюць пакаранне. Яно немінучае.*

*Нашы пасланнікі пайшлі да Лота* (Латыняніна). *Той устрывожыўся за суседзяў, і быў занадта слабы.*

*– Гэта цяжкі дзень, – сказаў ён...*

*– О Лот! – сказалі вандроўнікі, – мы пасланцы ад твайго Валадара. Яны не патурбуюць цябе! Сыходзь пад час гэтай жа ночы са сваім сямействам. Але гледзіце, каб ніхто із вас не паварочваўся паглядзець назад! Адна жонка твая зробіць гэта. Пакаранне, якое зведаюць яны, не міне таксама і яе. А тое, чым ім пагражаюць, здейсніцца да заўтра. Заўтра недалёка. Мы разбурым гэты горад зверху да нізу. Мы загадалі ісьці на яго камякам распаленай зямлі, падаючым безперапынна і пазначаным самім богам. Яны ўжо не далёкія ад злых*».

Выказванне пра камякі гарачай зямлі тут выразна паказвае на вывяржэнне Вязувія ў Лацыуме, г.азн. у краіне Лата, ці згодна з нашым вымаўленнем Лота. Тое ж самае паўтараецца ў 15 главе (51-76), а ў іншым месцы згадваецца пра мадыяніцянаў (г.азн. жыхароў сталіцы), уражаных насьмерць ў сваім сядзібах пры землятрусе (29, 36).

Першапачатковы алегарычны характар легенды пра Аўраама (па-біблейску пра Аб-рама, бацьку Рыма), стваральніку храма адзінаму богу, і пра яго пляменіка Лота (Лат – латынянін), краіна якога загінула ад вывяржэння вулкана ў якасьці пакарання за бязбожнасць, тут, як бачыць чытач, ужо амаль згубіўся.

Што ж да дадавання сярэднявечнымі арабскімі пісьменнікамі, быццам бы гэтае паданне пра пабудову храма Аб-Рамам мае дачыненне да храма Кааба ў Мецы, то яно яшчэ цалкам адсутнічае ў Каране. Дакладна так жа і ў Бібліі нідзе не паведамляецца пра гэтую пабудову, а месца прынашэння Бацькам-Рымам у ахвяру богу-Грамабою Ісака мае назву зямля Морыа (АРЦ-Е-МРІЕ).

Усё гэта хутчэй прыводзіць да высновы, што тут мае месца змешванне імёнаў: Мекская метэарытная катастрофа адбылася верагодна, падчас нападу на Меку эфіёпскага цара Абраха – пераіначанага ў Абрах-Ама, – і калі ён жадаў тут

прынесьці ў ахвяру багам палонных. Зваліўшыся з жахлівым грукатам і хваляваннем атмасферы на шмат кіламетраў навакол, нябесны камень мог, вядома, спыніць ахвяраванне і быць нагодай канчатковага скасавання чалавечага ахвяравання (Каран 106,3).

Гэта, згодна з арабскімі крыніцамі, было каля 571 года нашай эры, так што і біблейскае паданне пра пераназванне Аб-Рама ў Ібрагіма (Аўраама) павінна было ўзнікнуць не раней заканчэння VII стагоддзя.

* * *

Цікавыя падрабязнасьці пра стан матэрыяльнай культуры пад час узнікнення паданняў Карана мы знаходзім у яго паведамленнях пра Цара-Міратворцу (біблейскага Саламона), пра якога паведамляецца не толькі як пра мудрэйшага цара, але і як пра вынаходніка ветразёвага караблеплавання, а пра Давыда Каран згадвае не толькі як пра спевака, але і як пра **вынаходніка кальчугі**, чым і тлумачацца вайсковыя поспехі Дыяклетыяна і Канстанцыя, із якіх яны спісаны.

«*Мы прымушаем горы і птушак,* – паведамляецца ад імя бога ў Каране, – *спяваць разам з Давыдам нам хвалу і навучылі яго рабіць броні, каб паставіць вас у бяспечнае становішча ад гвалтаў* (пра броні ж згадваецца і ў Апакаліпсісе ў 395 годзе). *Ці не павінны вы быць удзячнымі? Мы **падначалілі Саламону бурны вецер**,* – працягвае далей бог, паказваючы, напэўна, на вынаходніцтва ў гэты час кілявых караблёў, здольных лавіраваць супраць ветру пры адпаведным касым размяшчэнні ветразяў, – *і вецер накіроўваў караблі згодна з яго загадам у блаславёную намі краіну. Нам было вядома ўсё. І паміж дэманамі мы падначалілі яму тых, якія ныралі для лоўлі яму жамчужын і выконвалі іншыя яго даручэнні. Мы самі назіралі за імі*» (**21**, 79-82).

Пад дэманамі ці чарцямі (шайтанамі) тут, відаць, «бог» мае на ўвазе таямнічыя сілы прыроды, на чале якіх стаіць пазбаўлены велічы Сатурн.

«*Мы ўсталявалі на нябёсах,* – працягвае бог, – *Задыякальнае кола* (Бурдж) *і размясьцілі яго знакі ў парадку для тых, хто на іх глядзіць, і мы абараняем іх ад дакранання якога б то ні было дэмана, адганяючы яго камянямі* (метэарытамі). *Калі ён падкрадзецца туды таемна для падслухоўвання, то ён адзначаецца там палымянай рысай, бачнай для ўсіх*» (своеасаблівае тлумачэнне сьвяцячыхся касмічных мімалётак, маючых назву падаючых зорачак), (**15**, 15-18).

І яшчэ ў іншым месцы:

«*Мы ўпрыгожылі зоркамі самае блізкае да зямлі неба, каб ахоўваць больш дальнія ад якога б то ні было дэмана спакушальніка, каб не прыходзіў ён падсллухоўваць тое, што гаворыцца ў верхнім нябесным сходзе. Яны адрынуты і адданы на вечныя пакуты, і кожнага з іх, хто наблізіцца туды таемна, уражвае палаючы дроцік* (тая ж падаючая зорачка) (**37**,6-10 і **67**).

– *Клянуся тваім Валадаром,* – выказваецца бог у іншым месцы, – *мы збяром усіх людзей і дэманаў*[71] *і размесьцім іх пастаўленымі на калены вакол геены, і адзелім у кожным натоўпе тых, якія былі найбольш вінаватымі перад Літасьцівым.* (**19**,86).

*Ці не бачыш ты, што мы пасылаем да няверных дэманаў (*чарцей*), каб схіляць іх да зла*? (**19**,86).

Такімі былі духі, якія, згодна з Каранам, былі падначалены Саламону. Але яму ж служылі геніі (genii), асобна апісаныя ў 72 главе.

«*Некаторыя геніі, размясьціўшыся слухаць чытанне Карана усклікнулі*:

[71] Так перакладаецца: слова шайтан – сатана, а ў множным ліку шайатын – дэманы. Акрамя таго, фігуруюць яшчэ джыны, слова таго ж кораня, як італійскае джэніі (genii), г.азн. геніі, якія нараджаюцца і грашаць як людзі, і абавязкова патрапяць у геену.

*– Мы чулі незвычайнае чытанне! Яно вядзе да праўды, мы верым у яго і не будзем больш ушаноўваць ніякіх істот нароўні з нашым Валадаром. Ён, – ды будзе ўзнесена Яго Вялікасць! – не мае ні сяброўкі, ні дзіцяці. Адзін із нас, верагодна ў стане вар'яцтва разнёс такую лухту на конт бога... Мы дакраналіся да неба падчас свайго палёту, але знайшлі яго напоўненым моцнымі вартавымі. Мы селі там на сядалішчах, каб паслухаць, што там адбываецца, але кожны, хто ўзнамерыцца падслухаць, знаходзіць палаючую стралу, якая імкнецца яго стукнуць... Паміж намі існуюць аддаючыяся богу. Хто верыць у бога не павінен баяцца ні шкоды, ні крыўды, а аддаляючыяся ад яго, паслужаць ежай полымю геены* (**72**,1-15).

Пра іхнае служэнне Цару-Міратворцу паведамляецца і ў апавяданні пра «наведванне яго царыцай Саўскай (**27**,15-45), як і ў Бібліі.

«*Мы далі мудрасць Давыду і Саламону. Яны казалі:*

*– Хвала богу, які ўзвысіў нас вышэй шматлікіх яго веруючых служак!*

*Саламон быў спадчыннікам Давыда. Ён гаварыў:*

*– О людзі! Мяне навучылі разумець птушыную мову і абсыпалі разнастайнымі рэчамі. Гэта відавочная любасць боская.*

*Некалі войска Саламона, складзенае із геніяў і людзей, сабралася перад ім, а таксама і птушкі, размеркаваныя асобнымі атрадамі. Калі ўвесь гэты цягнік спыніўся ў Даліне Мурашак, то адна із мурашак прамовіла:*

*– О мурашкі! Зайдзіце ў сваё сядзібы праз боязнь, каб Саламон і яго войска, дзякуючы недасьведчанасьці не пераціснулі вас пад нагамі.*

*А Саламон засмяяўся пры такіх словах мурашкі і адказаў:*

*– Пане! Дай мне быць удзячным за дабрадзействы, якімі ты абсыпаў мяне, а таксама і маіх бацькаў. Дазволь мне дзеля дагаджэння табе рабіць добра і вылучы мне частку літасьці, якой ты атачаеш тваіх учынных служак!*

*Ён пайшоў на агляд птушынага войска і сказаў:*

*– Чаму я не бачу тут удода? Хіба яго няма? Праўда, я прызначу яму жорсткае пакаранне ці нават заб'ю, калі ён не дасць мне нейкага перакаўчага тлумачэння.*

*Але той адсутнічаў нядоўга і паведаміў Саламону:*

*– Я выведаў тое, чаго ты не ведаеш: я прыбыў із Сабы з дакладнымі паведамленнямі. Я знайшоў жанчыну, валадараючую над мужчынамі. Яна валодае рознымі прадметамі і мае вялікі пасад. Я бачыў як яна і яе народ ушаноўваюць Сонца нароўні з богам. Сатана прыхарашыў свае справы ў іхных вачах. Ён адвёў іх ад праўдзівага шляху, так што яны ўшаноўваюць не толькі бога, выводзячага на сьвет таямніцы нябёс і зямлі, ведаючага, што вы хаваеце і што аб'яўляеце, таго бога, акрамя якога няма бога, валадара Вялікага пасада.*

*– Пабачым, – адказаў Саламон, – праўду ты сказаў, ці падмануў. Ідзі ад мяне з гэтым лістом, ты пабачыш якім будзе адказ.*

*Удод выправіўся і выканаў даручэнне. Царыца сказала вяльможам свайго царства:*

*– Спадары! Мне дастаўлены знакаміты ліст. Ён ад Саламона, вось яго змест: «У імя бога міласьцівага і літасьцівага! Не паўставай супраць мяне і хутчэй прыходзь да мяне»*

*– Спадарства! – запытала царыца. – Дайце мне параду ў гэтай справе. Я ні на што не адважуся без вашай дапамогі.*

*– Мы магутныя і наводзячыя баязнь, – абвясьцілі яны, – але табе, а не нам варта даваць наказы. Табе лепш бачна, што загадаць нам.*

*– Калі цары заходзяць у горад, – сказала царыца, – то руйнуюць і ператвараюць шчасьлівых грамадзянаў у самых нешчасьлівых. Яны ўсе дзейнічаюць так. Я выпраўлю Саламону гасьцінцы і потым пабачу што прынясуць мае пасланцы ад яго.*

*Калі пасланец царыцы паўстаў перад Саламону, той сказаў яму:*

*– Хіба яны хочуць мне дапамагчы сваімі скарбамі? Тое што мне даў бог, каштуе даражэй таго, што ён даў ім. Вярніся да выправіўшага цябе народа. Мы прыйдзем аблажыць яго з войскам, якому немагчыма супрацьстаяць.*

*– Спадары! – сказаў Саламон сваім. – Хто із вас прынясе мне пасад царыцы, раней чым яе людзі, аддаўшыся волі боскай, прыйдуць самі?*

*– Гэта я, – адказаў геній Іфрыт, адзін із ганцоў. – Я прынясу яго табе, перш чым ты паднімешся з месца. Я для гэтага дастаткова моцны, і верны.*

*Другі геній, які меў спазнанне пра Кнігу (Біблію), сказаў Саламону:*

*– Я прынясу яго, перш чым у цябе вернецца мігаценне вока.*

*Калі Саламон пабачыў пастаўлены перад сабой пасад, то прамовіў:*

*– Гэта знак літасьці боскай. Бог выпрабоўвае мяне, каб даведацца, ці буду я ўдзячным ці няўдзячным. Удзячнасць, то гэта – сабе карысць, а хто няўдзячны, без таго бог можа абыйсьціся, таму што ён заможны і вялікадушны. Зрабіце для яе гэты пасад непазнавальным, – загадаў Саламон геніям. – Мы пабачым ці на праўдзівым яна шляху ці ў ліку тых, якія не змогуць на яго стаць.*

*Калі царыца назвалася Саламону, то яе запыталі:*

*– Гэты пасад ваш?*

*– Сказала б, што гэта мой – адказала яна.*

*Бажышчы, якіх яна ўшаноўвала нароўні з богам, заблудзілі яе і яна была із ліку няверных. Ёй сказалі:*

*– Зайдзіце ў гэты палац.*

*Калі яна пабачыла яго падлогу, то падумала, што гэта вадаём і падабрала падол каля ног.*

*– Гэты палац, выкладзены крышталём», – адказаў Саламон.*

*– Пане! – усклікнула яна. – Я ставілася несправядліва да самой сабе, ушаноўваючы стодаў. А зараз я, падобна Саламону, аддаюся волі бога, валадара сусьвету* (**27**,15-45).

Такімі былі геніі, служыўшыя Цару-Міратворцу. А адкуль жа яны з’явіліся?

*– Мы стварылі чалавека із пылу, –* выказваецца ў Каране бог, *– із той гліны, із якой лепяць ганчары і да яго яшчэ стварылі геніяў із тонкага полымя.*

*Згадай, як бог паведаміў анёлам:*

*– Я выляпіў чалавека і калі ўдыхну ў яго мой дух, упадзіце ніц перад ім.*

*І анёлы ўпалі ўсе, усе. Адмовіўся толькі Эбліс.*

*– О, Эбліс! – сказаў бог. – Чаму ты не з тымі, якія ўпалі!.*

*– Я не схіляюся перад чалавекам, якога ты стварыў із пылу, із гліны апрацоўваемай ганчарамі* (аўтар наіўна забываецца, што да стварэння чалавека не магло існаваць ганчароў).

*– Пайшоў жа прэч, пабіты камянямі* (метэарытамі)! *– загадаў яму бог. – Праклён застаецца над табой да дня адплаты.*

*– Валадар! – адказаў яму Эбліс. – Дзякуючы таму што ты так спрытна мяне правёў, то я паспрабую спрытна правесьці ўсіх людзей, акрамя праўдзівых тваіх служак, пераіначы свой выгляд для іх на зямлі.*

*– Гэта правільны шлях, – адказаў яму бог. – Геена з’яўляецца месцам абяцаным ім усім. У яе сем брам. За кожнай асобнае сборышча. А тыя, якія баяцца бога, будуць пасярод садоў і крыніц вады»* (**15**,26-45).

Дакладна так жа і ў 55 главе Карана паведдамляецца:

«*Бог стварыў геніяў із полымя без дыму*» (**55**, 14).

Усё гэта вымушае думаць, што ідэя пра геніяў узнікла із языкоў полымя, якое згодна з першапачатковымі уяўленнямі пажырала падпаленае дрэва і ў той жа час служыла на карысць чалавеку і імкнулася ўзляцець да неба, як гэта паведамляецца далей:

«*Яны* (геніі – вогнішчы) *выконвалі для Саламона ўсе працы, якія ён пажадае: палацы і статуі, цьвёрда пастаўленыя* (адлітыя) *катлы і падносы, шырокія як вадаёмы. О сям'я Давыдава! Падаруй нам за гэта справамі ўдзячнасьці*!» (**34**,12).

Уся легенда пра геніяў сведчыць толькі пра першае ўзнікненне металургіі пры «Ўмілаваным цару» і цару Міратворцу («Давыдзе» і «Саламоне»). Пра «Саламона» асабіста паведамляецца ў Каране яшчэ толькі тое, што «аднойчы пад вечар да яго прывялі пышных коней, стаячых (на небе) на трох нагах і ледзь толькі дакраючыхся заканчэннем чацьвёртай нагі да зямлі» і «ён пачаў абстрыгаць ім паджылле і галовы» (**38**,30- 32).

Усё гэта вельмі нагадвае адрэзаную галаву сузор'я Малы Конь і абстрыжаны зад сузор'я Пегаса для размяшчэння на яго месцы сузор'я Рыб. Пегас і Малы Конь, памылкова малююцца зараз, дзякуючы ініцыятыве Альберта Дзюрэра, на нашых зорных мапах дагары нагамі. Але немагчыма ўявіць каб старажытныя астролагі ўяўлялі іх на небе ў такім недарэчным выглядзе. А апавяданне пра іхнае пастрыжэнне царом Міратворцам можна патлумачыць толькі тым, што на вызваленае гэтым спосабам месца патрэбна было перанесьці сузор'е Рыб дзякуючы прэцэсійнаму перамяшчэнню сюды кропкі веснавога раўнадзенства і каб размясьціць Авена на абстрыжаным такім жа чынам задзе Цяляці.

Нічым іншым немагчыма патлумачыць гэтае знявечанне двух важнейшых канстэляцыйных фігур, і ўсё апавяданне толькі паказвае, што пазначаная вівісекцыя і выклікаўшае яе выпраўленне адноснага пачатку года былі здзейснены пры «Саламоне», якога я лічу ў асноўным спісаным з Вялікага цара (Васіля Вялікага), заснавальніка хрысьціянскага набажэнства пры Юльяне Філосафу (361-363 гг.), пры гэтым рэчаісная фігура гэтага дзеяча да непазнавальнасьці пераіначана наступнымі тэолагамі, як у Евангеллях, так і ў «Жыціях сьвятых».

Паглядзім зараз, што ў Каране паведамляецца пра паэзію.

«*Мы далі Давыду здольнасць стварэння гімнаў і сказалі*:

*– Горы і птушкі! Чаргуйцеся з ім у песьнях!*

*Мы памякчалі жалеза ў яго руках і сказалі яму:*

*– Рабі із яго поўныя броні ў назірай добра памер іхных пяцель* (**34**,10),

*І птушкі* (пры яго сьпевах) *збіраліся вакол яго і вярталіся да яго*» (Давыда) (**38**,8).

Атаясамляючы Давыда з Пампеем Вялікім ці Дыяклетыянам, мы разумеем і крыніцу легенды пра тое, быццам бы ён забраў у аднаго са сваіх вайсковых правадыроў прыгажуню жонку, загадаўшы забіць яго. Гэта водгалас падання пра Клеапатру, хаця сучасная гісторыя і дапасуе гэты эпізод да трохі пазьнейшага часу. У Бібліі паведамляецца як бог раззлаваўся на яго за гэта, а ў Каране паведамляецца (**38**,20-25):

«*Ці ведаеш ты гісторыю пра двух прасіцеляў якія, пераскочыўшы цераз сьцяну, з'явіліся да Давыда ў малітоўню. Ён, пабачыўшы іх, перапалохаўся.*

*– Нічога не бойся, – сказалі яны яму. – Мы два супернікі. Рассудзі нас, як загадвае правасуддзе, без прадузятасьці і накіруй нас на больш законны шлях. Вось мой брат: у яго было дзевяноста дзевяць авечак, а ў мяне толькі адна. Ён забраў яе ў мяне і ў змаганні са мной перасіліў мяне.*

*– Ён здзейсніў няпраўду, – адказаў яму Давыд, – у дачыненні да цябе. Тыя, якія вераць і чыняць дабро, не робяць так. Але колькасць іх вельмі малая!*

*І раптам Давыд заўважыў, што яны мелі намер выпрабаваць яго гэтым напрыкладам. Ён упаў на зямлю і пакаяўся. Мы даравалі яго, далі яму ў раі месца побач з намі і добрае жыллё. О, Давыд! Мы прызначылі цябе нашым намесьнікам на зямлі.*

*Вырашай справядліва спрэчкі людзей і асьцерагайся ісьці за сваімі захапленнямі: яны адхіляць цябе ад шляху боскага! Усе, адхіляючыяся ад яго, зведваюць жахлівае пакаранне за тое, што не думалі пра дзень расплаты*».

Больш пра Давыда няма нічога істотнага, акрамя як у сувязі з яго папярэднікам Савулам, які ў Каране мае найменне Татулат і пра якога згадваецца толькі ў адным месцы (**2**,247). Цікава, што час яго жыцця дапасуецца да часу сьмерці Майсея:

«*Згадай пра сход дзяцей Богазмагальніка з нагоды сьмерці Майсея, калі яны казалі аднаму са сваіх прарокаў:*

*– Абяры нам цара і мы будзем змагацца на шляху боскім!*

*– А калі ён будзе кіраваць вамі, – запярэчыў той ім, – ці не адмовіцеся вы ад яго?*

*– Чаму ж, – адказалі яны, – не будзем мы ваяваць на шляху боскім, выгнаныя з нашай краіны і разлучаныя з нашымі дзецьмі?*

*Прарок* (Самуіл) *сказаў ім:*

*– Бог абраў Талута* (Савула) *быць вашым царом.*

*– Як? – запярэчылі ізраільцяне. – Ён будзе мець над намі ўладу? Мы лепш яго. У яго цалкам няма маёмасьці.*

*– Бог абраў яго кіраваць вамі, – запярэчыў прарок, – ён надзяліў яго ведамі і вялікай цялеснай моцнасьцю. Бог дае ўладу каму пажадае. Ён вялікі і мудры.*

*У адзнаку яго ўлады прыбудзе Каўчэг запавету. У ім вы будзеце мець ад вашага валадара заклад бяспекі. Ён змяшчае ў сабе парэшткі сямейства Майсеева і Аронава, яго панясуць анёлы. Гэта паслужыць вам знакам, калі вы будзеце веруючымі.*

*Калі Талут выпраўляўся са сваімі ваярамі, ён сказаў ім:*

*– Бог выпрабуе вас ракой. Той, хто там нап'ецца, не будзе із маіх.*

*Але, выключаючы невялікую колькасць, усе пілі да насычэння. І вось, калі цар і веруючыя, якія за ім ішлі, перайшлі раку, іншыя ўсклікнулі:*

*– Мы цалкам нямоглыя супраць Джалута* (Галіяфа) *і яго ваяроў.*

*Але тыя, якія верылі, хто ў апошні дзень пабачыць твар бога, сказалі:*

*– О колькі разоў, згодна з наказам бога шматлікае войска было пераможана малым натоўпам! Бог з непахіснымі.*

*І калі яны наблізіліся на полі бітвы да Джалута і яго войска, яны ускліцнулі:*

*– Бог! Дай нам цвёрдасць, умацуй ступні нашы і дай нам перамогу над нявернным народам!.*

*І ворагі згодна з боскім наказам пусьціліся на ўцекі. Давыд забіў Джалута. Бог даў яму кнігу*[72] *і мудрасць. Ён навучыў яго, чаму палічыў патррэбным*» (**2**,247-252).

Лічачы Савула тоесным з Сулой і з Аўрэліянам, мы павінны да гэтага часу дапасаваць і легенду пра Галіяфа-Джалута. Гэтым і заканчваюцца ўсе паведамленні Карана пра знакамітых царскіх асоб, жыўшых да яго. Гэта азначае, тады яшчэ не было ва ўжыванні ніякай значнай літаратуры.

Лічачы гістарычныя паданні, ўключаныя ў Каран, за хадзячыя ў Аравіі легенды пад час VII і VIII стагоддзяў нашай эры, мы павінны б застацца, – паўтару яшчэ раз з нагоды важнасьці гэтага прадмета, – у поўным непаразуменні пры думцы, якім чынам толькі адзіныя тры цары, апісаныя ў ім, выяляюцца існаваўшымі, як нас пераконваюць, за паўтары тысячы гадоў да таго часу, а ўсё наступнае засталося яму невядомым? Хіба не існавалі да гэага часу ні Юлій Цэзар, ні Актавіян, ні Канстанцый Хлор, ні Пампей, здзяйсненні якіх былі вядомымі ўсім за дзьве сотні і больш гадоў да Карана як на Ўсходзе ак і на Захадзе? Наша

[72] Псалтыр. Ісламіты прызнавалі толькі чатыры сьвяты я кнігі: Пяцікніжжа, Псалтыр, Евангелле і Каран. Кнігі прарокаў па іх думцы былі закінуты

атаясамленне з імі Савула, Давыда і Саламона трохі выпраўляе справу. З гэтага боку гледжання ў Каране мы знаходзім пад імёнамі Савула, Давыда і Саламона паданні пра трох самых вядомых дзеячаў Лаціна-Эліна-Ягіпецка-Сірыйскай імперыі IV стагоддзя і можам прымірыцца з адсутнасьцю ўказанняў на іхных менш выбітных наступнікаў V і VI стагоддзяў, тым больш, што Каран цікавяць толькі такія асобы, якія маюць непасрэднае ці ўскоснае дачыненне да тэалогіі. Із іх мы ўжо бачылі Майсея і Арона, у апошнім із якіх пазналі Арыя, і ў сувязі з ім сустрэўся нам і тытул фіргаун («фараон»), узяты із Бібліі, але заўсёды ў сувязі з легендай пра Майсея і Арона, і без указання ўласнага найменне валадара, з якім яны мелі справу.

* * *

Тое ж мы бачым і ў лягендзе пра выдатнага Ёсіфа (Юсуфа), складзеную тут ужо трохі інакш і не ў сувязі з жонкай ягіпецкага намесьніка Пуціфара, а ў сувязі з жонкай звычайнага чалавека, нейкага Авіса (**12**,3-103).

«*Мы паведамім табе, о «Славуты»! – лепшую із гісторый, выкладзеных у гэтым Каране, гісторыю, пра якую ты да гэтага часу не падазраваў. Аднойчы Ёсіф сказаў*:

*– О, бацька мой! Я бачыў у сне адзінаццаць зорак, а таксама Сонца і Месяц, якія мне кланяліся.*

*– О, дзіцё маё! – адказаў яму Якаў. – Асьцерагайся паведамляць свой сон тваім братам із баязі, каб яны не прыдумалі супраць цябе нейкага падкопу, таму што сатана заўзяты вораг чалавека. Гэты сон ад таго, што бог возьме цябе ў якасьці выбранніка і навучыць тлумачэнню падзей. Ён абсыпле цябе сваімі дабрадзействамі, цябе і сямейства Якава, як абсыпаў некалі тваіх продкаў Аўраама і Ісака. Бог твой усёведаючы і мудры.*

*Сапраўды, – працягвае аўтар, – існуюць ў гісторыі Ёсіфа і яго братоў павучальныя знакі для тых, якія ставяць пытанні. Аднойчы яго браты гаварылі адзін другому:*

*– Ёсіф і яго брат Веніямін даражэй за нас для нашага бацькі, хаця нас і больш. Відавочна наш бацька памыляецца. Забіце Ёсіфа ці выдаліце яго як-небудзь. Увага вашага бацькі будзе выключна на нас. Потым мы весьці сябе як добрыя людзі.*

*Тады адзін із іх сказаў:*

*– Не аддавайце Ёсіфа на сьмерць, лепш кіньце яго на дно студні. Прыйдзе які-небудзь вандраўнік і возьме яго, калі вы ўжо намерыліся з ім неша зрабіць.*

*Браты Ёсіфа сказалі тады Якаву:*

*– О бацька! Праз што ты асьцерагаешся даручыць нам Ёсіфа? Мы ж жадаем яму дабра. Дазволь яму заўтра выправіцца з намі. Ён з'есь пладоў і пагуляе. Мы паглядзім за ім.*

*– Мне будзе сумна, – адказаў Якаў, – калі вы яго забярэце. Я баюся каб яго не панёс воўк, калі вы не будзеце за ім назіраць.*

*– Як воўк здолее яго выкрасьці, калі нас шмат? Мы будзем вельмі нешчасьлівыя, калі не зможам абараніць яго.*

*Потым яны павялі Ёсіфа з сабой і згона з агульнай згода кінулі на дно студні. Вечарам яны з'явіліся да бацькі са слязьмі.*

*– О бацька! – сказалі яны, – мы адышлі, бегаючы наўпераганкі, а Ёсіфа пакінулі пры пажытках, у вось раптам яго з'еў воўк. Але ты не паверыш нам, хаця мы кажам праўду.*

*І яны паказалі яму кашулю, запэцканую ілжывай крывёй.*

*Якаў сказаў ім:*

*– Гэта вы самі прыдумалі. Але мне варта лепш пачакаць. Я памалюся богу дапамагчы мне ў няшчасьці, пра якое вы мне паведамілі.*

*Здарылася так, што паз тую мясцовасць праходзілі вандраўнікі. Яны выправілі чалавека з даручэннем прынесьці вады. Ён апусьціў у студню балею і ўсклікнуў:*

*– Якая шчасьлівая сустрэча! Тут малады чалавек!*

*Яны схавалі яго для продажу, але бог ведаў іхныя ўчынкі. Яны прадалі яго за нікчэмную цану, за некалькі драхмаў срэбра, як быццам бы нявартага для збераджэння.*

*Набыўшы яго сказаў сваёй жонцы:*

*– Зрабі яму прыстойны дагляд. Ён можа быць нам некалі карысным, ці нават мы прымем яго замест сына.*

*Такім чынам мы ўладкавалі Ёсіфа ў той краіне. Мы навучылі яго тлумачэнню здарэнняў. Бог усемагутны ў сваіх справах, але вялікая частка людзей не ведае гэтага.*

*Калі Ёсіф дасягнуў сталага ўзросту, мы далі яму мудрасць і веды. Гэта ад таго, што мы ўзнагароджваем тых, якія чыняць добра. Жонка, у сядзібе якой ён знаходзіўся, захапілася ім. Яна замкнула ўсе дзверы пакояў і сказала яму:*

*– Падыдзі сюды!*

*– Абарані мяне бог! – адказаў Ёсіф. – Мой гаспадар даў мне шчодрае ўтрыманне. Злыя не ведаюць дастатку.*

*Але яна яго запрашала, ён таксама меў жаданне, але раптам атрымаў перасьцярогу ад свайго Бога. Яны абодва кінуліся да дзвярэй, ён – каб збегчы, яна – каб затрымаць яго, і жонка разарвала ззаду туніку Ёсіфа. Яны абодва сустрэлі ў дзьвярах свайго гаспадар* (яе чалавека).

*– Што заслугоўвае, – сказала яна, – той, хто мае злачынную цягу да тваёй жонкі, калі не вязніцы ці жахлівага пакараня?*

*– Гэта яна, – адказаў Ёсіф, – падбухторвала мяне да зла.*

*Сваяк жонкі таксама сведчыў супраць яе, кажучы:*

*– Калі туніка разарвана спераду, то жонка кажа праўду, а Ёсіф ашуканец, але калі яна разарвана ззаду, то падманвае жонка, а Ёсіф кажа праўду.*

*Чалавек агледзеў туніку і пабачыў, што яна разарвана ззаду.*

*– Вось вашы хітрыкі, – сказаў жонцы чалавек, – а вашы хітрыкі, напэўна, вялікія. О, Ёсіф! павярніся спінай да гэтай справы. А ты жонка прасі даравання ў тваёй правіне, таму што зграшыла!*

*Гарадзкія жанчыны паведамлялі пра прыгоду, кажучы:*

*– Жонка Авіза захапілася сваім маладым чалавека і відавочна страціла розум. Мы лічым, што яна на ілжывым шляху.*

*Калі жонка Авіза пачула такія плёткі, то выправіла да гэтых жанчын запрашэнне, прыгатавала ім баль і дала кожнай із іх па нажу. Потым загадала з'явіцца Ёсіфу. Як толькі яны заўважылі яго, то здзівіліся яму да вар'яцтва і парэзалі сабе ад здзіўлення пальцы, кажучы:*

*– Абарані нас бог! Гэта не чалавечае тварэнне, гэта цудоўны анёл!*

*– Вось, – сказала ім жонка Авіза, – той, які наклікаў на мяне ваша ганьбаванне. Я мела намер вымусіць яго саступіць маім жаданням, але ён пажадаў застацца цнатлівым. Калі наперад ён не зробіць таго, што я яму загадаю, то будзе кінуты ў турму і патрапіць у шэраг самых нешчасьлівых.*

*– Пане! – ускрыкнуў Ёсіф, – Турма больш прывабнае месца чым тое злачынства, да якога вымушаюць мяне гэтыя жанчыны! І калі ты не адхіліш ад мяне яе задумы, то я саступлю сваёй схільнасьці да яе і буду ў ліку вар'ятаў.*

*Бог пачуў яго і адхіліў яе задумы, таму што ён чуе і ведае ўсё.*

*І ўсё ж ім атрымалася нават пасьля доказу яго нявіннасьці, кінуць яго на некаторы час у турму. Два чалавекі былі заняволены з ім. Адзін із іх сказаў:*

*– Мне снілася пад час гэтай ночы, што я выціскаў вінаград.*

*– А мне, – сказаў другі, – снілася, што я нёс на галаве хлябы, якія дзяўбалі птушкі. – Дай нам тлумачэнне гэтых сноў, – дадалі яны, – таму што мы глядзім на цябе, як на чалавека дабрадзейнага.*

*Ёсіф адказаў ім:*

*– Вам яшчэ не прынясуць дзённую ежу, як я патлумачу вашы сны, і яны ажыццявяцца. Гэтыя спазнанні мне прыйшлі ад бога, навучыўшага мяне, таму што я*

*пакінуў веру тых, якія не вераць у бога і аспрэчваюць будучае жыццё. О, мае турэмныя таварышы! Адзін із вас паднясе чарку віна свайму гаспадару, другі будзе пакараны сьмерцю і птушкі прыляцяць дзяўбаць яго галаву. Тое, пра што вы мяне запыталі, вызначана неадменна.*

*Потым Ёсіф сказаў таму, якому прадказаў вызваленне:*

*– Калі ты будзеш вольным, нагадай пра мяне пры выпадку твайму гаспадару.*

*Але сатана загадаў забыцца яму павядоміць свайму гаспадару пра Ёсіфа, і Ёсіф заставаўся яшчэ некалькі гадоў у турме.*

*І вось цар ягіпецкі аднойчы паведаміў кіраўнікам свайго царства:*

*– Я бачыў у сне сем тлустых кароў, з'едзеных сямю худымі каровамі, і сем каласоў зялёных і сем іншых каласоў сухіх. Спадары! патлумачце мне гэтыя бачанні, калі вы маеце здольнасць тлумачыць сны.*

*– Гэта не што іншае, як ворах не маючага сэнсу бязглуздага соннага трызнення. Мы нічога не разумеем у тлумачэнні сноў.*

*А той із двух заняволеных, які быў вызвалены, сказаў ім* (нейкім чынам згадаўшы пра Ёсіфа праз некалькі гадоў):

*– Я вам дам тлумачэнне. Дазвольце мне выправіцца пабачыцца з чалавекам, які гэта зробіць.*

*– О Ёсіф, чалавек справядлівы! – сказаў ён, прыйшоўшы да Ёсіфа. – Патлумач ім, што азначаюць сем тлустых кароў, з'ядаючых сем худых кароў, і сем зялёных каласоў і сем іншых сухіх каласоў, каб, калі я вярнуся да выправіўшых мяне, яны ведалі тлумачэнне.*

*Ёсіф адказаў яму:*

*– Вы пасееце на працягу сямі гадоў, як звычайна, хлеб, які вы сажнеце. Пакіньце яго ў запас, выдаткаваўшы некаторую частку на вашы патрэбы. Потым наступяць сем гадоў суровых, якія вынішчаць усё, што вы адкладзеце на запас. Прадбачачы іх, зберагайце старанна. Потым наступіць год, на працягу якога жыхары гэтай краіны будуць мець шмат дажджоў і збяруць вінаград і масліны.*

*Тады цар загадаў:*

*– Прывядзіце да мяне гэтага чалавека.*

*Калі выпраўлены знайшоў Ёсіфа, той паведаміў яму:*

*– Вярніся да свайго гаспадара, каб ён запытаў, што мелі намер зрабіць тыя жанчыны, якія парэзалі сабе пальцы?*

*Цар запытаў у гэтых жанчын:*

*– Што азначаюць вашы патрабаванні вымусіць Ёсіфа саступіць вашым жаданням?*

*– Абарані нас бог! – адказалі яны. – Ён не зрабіўся вінаватым ні ў адным граху, які б мы ведалі.*

*А жонка Авіза дадала:*

*– Зараз праўда адкрылася. Гэта я схіляла Ёсіфа да правіны, а ён заўсёды выказваў праўду.*

*Калі Ёсіф даведаўся пра ўсё гэта, ён сказаў:*

*– Ну, добра, што мой ранейшы гаспадар зараз ведае, што я яго не падманваў пад час яго адсутнасьці. Вось, не вядуць да добрага заканчэння задумы ашуканцаў. Я не скажу, каб цалкам быў нявінным сам. Праўда, кроў завабіла б да правіны, калі б толькі не злітаваўся бог. Але бог цярплівы і літасьцівы.*

*Тады цар сказаў:*

*– Прывядзіце да мяне Ёсіфа, я вазьму яго ў сваю асабістую службу.*

*І ён сказаў Ёсіфу:*

*– Пачынаючы з сёняшнага дня ты будзеш паблізу нас, надзелены ўладай і нашым даверам.*

*– Дайце мне, – сказаў яму Ёсіф, – нагляд за крамамі краіны. Я буду іхным уважлівым ахоўнікам*».

Я не працягваю далей гэтую легенду. Яна мае такое ж заканчэнне як і ў Бібліі: захапіўшы ў свае рукі размеркаванне хлебных запасаў, Ёсіф запрыгоніў усё насельніцтва краіны.

Наколькі гістарычна гэтае апавяданне, калі мы дапасуем яго да IV стагоддзя нашай эры, тут не месца вырашаць. Я ўжо разбіраў у другой кнізе гэтага дасьледавання астралагічны сэнс псеўдаснабачання фараона (фіргауна па-каранску), пры якім на ўсю гэтую біблейскую легенду нечакана падае яскравае сьвятло, але дасьледую яе тут яшчэ і грунтуючыся на выкладанні ў Каране.

Калі я ўпершыню прачытаў у Бібліі гэты міф яшчэ ў 1883 ці 1884 годзе ў Аляксееўскім равеліне Петрапаўлаўскага ўмацавання, я амаль адразу зразумеў, што тут ідзе гаворка пра сонечнае зацьменне пры сыходжанні ўсіх сямі старажытных планет каля Шаляў, г.азн. у Авене і Цяляці, у траўні месяцы, калі Пляяды хаваюцца за прамянямі дзённага сьвятла, а потым у чэрвені падчас жніва зноў з'яўляюцца із праменяў ранішняга світання такімі ж сям'ю худымі зорачкамі, якімі былі і да гэтага. Што да таго, што Пляяды пад час старажытнасьці маглі мець найменне каровінага статку, каля якога і зараз гуляе па небу бык у выглядзе Альдэбарана з другім статкам кароў (гіяд), не можа быць сумневаў. Тады ж яшчэ сузор'ю Цяляці ці, больш даклада, Быка (Tauros па-грэцку) не надавалі тых абрысаў, якія ўпершыню надаў яму на сучасных астранамічных мапах Альбрэхт Дзюрэр у 1515 годзе. Быком, лічылася спачатку толькі галоўная вялікая зорка гэтага згуртавання – Альдэбаран, – а астатнія дробныя зорачкі лічыліся, вядома, яго каровамі, як гэта і сапраўды надаецца статкавым выглядам Пляяд і Гіяд каля самотнай яскравай чырванаватай зоркі.

І вось, калі каля Пляяд сабраліся сем гладкіх кароў-планет, адбылося сонечнае зацьменне: худыя каровы, відавочна пажэрлі гладкіх, таму што, калі само Сонца не выратавалася ад іх то не маглі выратавацца і астатнія слабейшыя планеты. А доказам таго, што зацьменні пад час старажытнасьці тлумачыліся спробамі пажэрці Сонца і Месяц бліжэйшымі сузор'ямі, служыць легенда пра Ільва (г.азн. пра сузор'е Ільва), напаўшага на Сонца-Самсона, які, аднак жа, разарваў яму сківіцы. Ды і сама назва вяртання Месяца на экліптыку – драканічны месяц – паходзіць ад таго, што тут меркавалася небяспека пажырання яго і Сонца нябачным цмокам. Гэта азначае, што для вызначэння часу «Снабачання фараона», патрэбна шукаць такі выпадак, калі бачнае ў Яўропе сонечнае зацьменне адбылося каля Пляяд пры наяўнасьці каля іх, г.азн. у Цяляці і Авене, астатніх планет. Пра гэта я ўжо выказваўся у ранейшых тамах, але тут паразважаю больш падрабязна.

У табліцы XV я размясьціў увесь ход маёй гісторыка-астранамічнай выведкі, якая зводзіцца да таго, каб знайсьці, пад час якога года гэта адбылося – ад старадаўніх часоў і да таго часу, пакуль не была надрукавана Біблія.

Як бачыць сам чытач, сыходжанне планет каля Пляяд адбылося, пачынаючы ад мінус 2200 года толькі ў сямі выпадках:

1. Пад час маладзіка 22 красавіка мінус 1297 года, але без зацьмення Сонца.

2. Пад час маладзіка 10 красавіка мінус 680 года, але без зацьмення Сонца.

3. Пад час маладзіка 7 красавіка мінус 620 года, але без зацьмення Сонца і пад час маладзіка 6 траўня мінус 620 года, якое таксама не падыходзіць, таму што зацьменне Сонцы пад час гэтых сутак ішло па Ціхаму акіяну і не было бачным ні ў Яўропе, ні ў Заходняй Азіі.

4. Пад час маладзіка 25 траўня мінус 562 года, але без сонечнага зацьмення, якое адбылося яшчэ 21 сакавіка пры Сонцы ў Рыбах.

5. Пад час маладзіка 4 траўня плюс 292 года, калі было вельмі эфектнае сонечнае зацьменне, шырокая паласа поўнай бачнасьці якога дасягнула 400 км і, пакрыўшы ўсю паўднёва-усходнюю палову Гішпаніі і Францыі, ішла ў Германію і далей у Ледавіты акіян. Яно выдатна назіралася ва ўсіх гэтых мясцовасьцях у перад паўдзённы час, а ў частковым выглядзе: у Рыме, амаль поўнае, з максімальнай фазай 11"2, у Афінах з фазай у 9"0, у Мемфісе 6"0 і ў Кандагіры на Еўфраце (які дарэмна лічыцца за Вавілон) з невялікай фазай 3"8.

6. Пад час маладзіка 9 траўня плюс 1206 года, але без зацьмення Сонца, якое адбылося яшчэ 11 сакавіка пры Сонцы ў Рыбах.

7. Пад час маладзіка 29 траўня плюс 1443 года, калі было прыватнае сонечнае зацьменне, бачнае ў паўночнай і сярэдняй Яўропе да вечара. Але яно пазнавата і недастатковае.

ТАБЛІЦА XV.

Падрыхтоўчая гісторыка-астранамічная выведка спалучэнняў сямі старажытных планет каля сузор'я Цяляці пры сонечным зацьменні каля Пляяд (паблізу 60° экліптыкальнай даўгаты згодна з каардынатамі 1900 г.). Да пачатку нашай эры (ад 0 да 2200 г.).

| Сатурн | Юпітар | Месцаванне Марса пры Сонцы ў Цяляці |
|---|---|---|
| -2;7 | -4;4 | Паміжсерыяльны прамежак. |
| -31;2 | -28;7 | |
| -61;8 | -63;1 | |
| -90,3 | -87;3 | |
| -120;8 | -123;8 | |
| -149;4 | -146;1 | |
| -179;9 | -182;4 | |
| -208;5 | -206;8 | |
| -237;1 | -241;1 | |
| -267;6 | -265;4 | |
| -296;1 | -301;8 | |
| *Для 1-й серыі дагістарычных злучэнняў Сатурна і Юпітара ў Цяляці: | | |
| *-326;6 | *-324;1 | *Марс у траўні 324 і 325 гг. далёка ад Цяляці. |
| -355;2 | -360;5 | |
| *-385;7 | *-384:8 | *Марс у траўні 384 г. далёка ад Цяляці. |
| -414;3 | -419;2 | |
| *-444;8 | *-443;5 | *Марс у траўні 443 г. далёка ад Цяляці. |
| -473;3 | -479;9 | |
| *-503;9 | *-502;2 | *Марс у траўні далёка ад Цяляці. |
| -532;4 | -538;6 | |
| *-562;9 | *-562;8 | *Для маладзіка 25 траўня мінус 562 г.: Сатурн 63°7, Юпітар 59°8, Марс 51°9, Сонца і Месяц 81°7, Венера 73°2,Меркурый 61°1, (каард. 1900 г. (усё ў Цяляці, але без зацьмення). |
| -591;5 | -597;3 | |
| *-620;1 | *-621;5 | *Для маладзіка 7 красавіка -620 г.: Сатурн 68°9 экліптыкальнай даўготы згодна з каардынатамі 1900 г., Юпітар 84°3, Марс 58°0, Сонца і Месяц 45°6, Меркурый 41°6, Венера 55°4, але без зацьмення. Яно было ў траўні -620, але ішло па Ціхаму акіяну. |
| -650;6 | -657;9 | |
| *-679;2 | *-680;2 | *Для маладзіка 10 красавіка -680 г.: Сатурн 56°3, Юпітар 67°0, Марс 81°,2, Сонца і Месяц 49°4, Венера 63°3, Меркурый 55°5 (Сонца і Месяц яшчэ ў Авене каля 48°, за 12° да Пляяд). |
| -709;7 | -704;5 | |
| *-738;2 | *-740;9 | * Марс у 740 і 739 г.азн. далёка ад Цяляці. |
| У гэтай серыі падыходзіць маладзік 25 траўня -562 г., але яно было без зацьмення. | | |
| -768;8 | -763;2 | |

| | | |
|---|---|---|
| -797;3 | -799;6 | Паміж серыяльны прамежак. |
| -827;9 | -823;9 | |
| -856;4 | -858;3 | |
| -886;9 | -882;6 | |
| -915;5 | -918;9 | |
| -944;1 | -941;3 | |
| -974;6 | -977;7 | |
| -1003;1 | -1001;9 | |
| -1033;7 | -1036;4 | |
| -1062;2 | -1060;7 | |
| -1092;8 | -1095;1 | |
| -1121;3 | -1119;4 | |
| -1151;8 | – 1155;8 | |
| Для 2-й серыі дагістарычных злучэнняў Сатурна і Юпітара ў Цяляці. | | |
| -1180;4 | -1178;1 | |
| -1209;9 | -1214;4 | |
| -1239;5 | -1238;7 | Марс у траўні -1238 г. далёка ад Цяляці. |
| -1268;1 | -1273;1 | |
| *-1298;6 | *-1297;4 | *Марс пад час маладзіка 22 красавіка -1297 г. быў пад 80°8 экліптыкальнай даўгаты, Месяц і Сонца 62°, Венера 90°9. Але зацьменні былі толькі ў сакавіку і ў верасні. |
| -1327;1 | -1321;7 | |
| *-1357;7 | *-1356;1 | *Марс у траўні -1356 і -1357 гг. далёка. |
| -1386;2 | -1380;4 | |
| *-1416;7 | *-1416;8 | *Марс у траўні -1416 г. далёка ад Цяляці. |
| -1445;3 | -1451;2 | |
| *-1475;8 | *-1475;5 | *Марс у траўні -1475 г. далёка ад Цяляці. |
| – 1504;4 | -1511;9 | |
| *-1534;9 | *-1534;2 | *Марс пад час маладзіка 20 траўня -1534 г. быў у Цяляці пад 86°7 экліптыкалькой даўготы, але Венера была пад 119°7. |
| -1563;4 | -1570;6 | |
| *-1593;0 | *-1594;9 | *Марс далёка ад Цяляці. |
| -1622;5 | -1629;3 | |
| *-1651;1 | *-1653;5 | *Марс у траўні -1653 г. далёка ад Цяляці. |
| -1681;6 | -1689;9 | |
| -1710;2 | -1712;2 | |
| -1740;7 | -1736;5 | |
| У гэтай серыі падыходзіць маладзік 22 красавіка -1297 года, але яно адбылося без зацьмення. | | |
| Далей ідзе паміж серыяльны прамежак да –2200 года. | | |

## ТАБЛІЦА XVI.

падрыхтоўваючая гісторыка-астранамічная выведка злучэнняў сямі старажытных планет каля сузор'я Цяляці пры сонечным зацьменні каля Пляяд (паблізу 59° экліптыкальнай даўгаты згодна з каардынатахмі 1900 г.). Пасьля пачатку нашай эры.

| Сатурн | Юпітар | Месцаванне Марса пры Сонцы ў Цяляці |
|---|---|---|
| Для 1-й серыі злучэнняў Сатурна і Юпітара ў Цяляці. | | |
| -1 | – | |
| +28.13 | *31.95 | |
| *+57.59 | 55.68 | *Марс у 55 годзе ішоў згодна з графікам 1839 года, апісваючы пятлю ў Ільве і толькі ў траўні 57 года, калі Юпітар пайшоў у Рака, патрапіў у Цяля. Не падыходзіць. |
| 87.04 | 91.26 | |
| *116.50 | *115.00 | *Марс у 115 годзе ішоў згодна з графікам 1851 года і ў траўні быў у Рыбах і ў Авене. У Цяля прыйшоў толькі ў чэрвені. |

| | | |
|---|---|---|
| 145.96 | 150.57 | |
| *175.14 | *174.30 | *Марс у 174 годзе ішоў згодна з графікам 1831 года і ў траўні быў ужо ў Двайнятах і Раку, а ў Цяляці ў сакавіку. |
| 204.87 | 209.88 | |
| *234.33 | *233.61 | *Марс у 233 годзе ішоў згодна з графікам 1843 года і ў траўні быў у Скарпіёне, а ў 234 г. ішоў згодна з графікам 1844 г. і ў красавіку-траўні быў у Цяляці. Але сонечнае зацьменне адбылося толькі 14 чэрвеня 233 г. у Двайнятах. |
| 267.79 | 269.19 | |
| *293.24 | *292.92 | *Марс у 292 годзе ішоў згодна з графікам 1823 года і ў траўні 292 г. быў у Цяляці, у якім 4 траўня 292 года адбылося поўнае сонечнае зацьменне, прайшоўшае шырокай палосай па паўднёвай палавіне Гішпаніі і Францыі, раніцай. У Рыме 11"2, у Афінах 9"0. у Мемфісе 6"0, у Кандыгіры (псеўда-Вавілоне) 3"8. Сонца і Месяц пад 65° экліптыкальнай даўгаты, толькі на 6° лявей Пляяд, Меркурый каля 75°, на 16° лявей Пляяд. Венера каля 30°, на 29° правей Пляяд, Юпітар каля 54°, на 4° правей, і Сатурн каля 60° каля самых Пляяд. |
| 322.70 | 328.50 | |
| *352.17 | *352.23 | *Марс у 352 годзе ішоў згодна з графікам 1836 года і ў траўні быў у Авене. |
| 381.61 | 387.81 | |
| *411.07 | *411.64 | *Марс у 411 годзе ішоў згодна з графікам 1831 года і ў траўні быў у Двайнятах і Раку. |
| 440.54 | 435.26 | |
| *469.99 | *470.85 | *Марс у 470 годзе ішоў згодна з графікам 1843 года і быў у траўні ў Скарпіёне. |
| 499.44 | 494.57 | |
| *528.90 | *530.15 | *Марс у 529 годзе ішоў згодна з графікам 1823 года і быў у траўні ў Цяляці, але Юпітар быў яшчэ ў Авене. |
| 558.36 | 553.88 | Паміж серыяльны прамежак. |
| 587.81 | 589.46 | |
| 617.27 | 613.19 | |
| 646.79 | 648.77 | |
| 676.18 | 672.50 | |
| 705.64 | 708.08 | |
| 735.10 | 731.80 | |
| 764.56 | 767.39 | |
| 794.01 | 791.12 | |
| 823.47 | 826.70 | |
| 852,94 | 850.43 | |
| 882.38 | 886.01 | |
| 911.84 | 909.76 | |
| Для 2-й серыі злучэнняў Сатурна і Юпітара ў Цяляці. | | |
| 941.31 | 945.32 | |
| *970.76 | *969.05 | *Марс у 969 годзе ішоў згодна з графікам 1832 года і быў у траўні ў Рыбах. |
| 1000.21 | 1004.64 | |
| *1029.67 | *1028.36 | *Марс у 1028 годзе ішоў згодна з графікам 1850 года і быў у траўні ў Раку. |
| 1059.13 | 1063.95 | |
| *1088.58 | *1087.67 | *Марс у 1087 годзе ішоў згодна з графікам 1830 года і быў у траўні ў Вадаліве. |
| 1118.04 | 1123.26 | |
| *1147.50 | *1146.98 | *Марс у 1147 годзе ішоў згодна з графікам 1843 года і быў у траўні ў |

| | | |
|---|---|---|
| | | Скарпіёне. |
| 1176.95 | 1182.57 | |
| *1206.41 | *1206.29 | *Марс у 1206 годзе ішоў згодна з графікам 1823 года і быў у траўні ў Цяляці. Маладзік без зацьмення быў 9 траўня. Элангацыя Меркурыя каля +8°, Венеры каля +43°, пры Сонцы каля 64°. |
| 1235.87 | 1230.02 | |
| *1265.33 | *1265.60 | *Марс у 1265 годзе ішоў згодна з графікам 1850 года і быў у траўні ў Раку. |
| 1294.78 | 1289.33 | |
| *1324.24 | *1324.91 | *Марс у 1324 годзе ішоў згодна з графікам 1830 года і быў у траўні ў Вадаліве. |
| 1353.70 | 1360.50 | |
| *1383.15 | *1384.22 | *Марс у 1384 годзе ішоў згодна з графікам 1843 года і быў у траўні ў Скарпіёне. |
| 1412.61 | 1419.81 | |
| *1442.08 | *1443.53 | *Марс у 1443 годзе ішоў згодна з графікам 1823 года і быў у траўні ў Цяляці, прытым 29 траўня было частковае паўночнае сонечнае зацьменне блізкае да Зямлі(? 29 траўня 6" у Індыйскім акіяне і 27 чэрвеня 4" у Арктыцы). |
| Згадваемыя тут графікі змешчаны ў IV кнізе „Хрыста“ на стр. 44-47. | | |

Такім чынам, астраномія дае нам тут толькі адзінае рашэнне:

Біблейская легенда, паўтораная таксама і ў Каране, пра тое, што сем худых кароў пажэрлі сем кароў гладкіх, але не зрабіліся ад гэтага больш гладкімі, мае дачыненне без сумневаў да зацьмення Сонца каля Пляяд 4 траўня 292 года нашай эры, калі і ўсе астатнія старажытныя планеты сабраліся каля іх.

Калі б мы ведалі, што гэтае зацьменне назіралася ў поўным выглядзе ў Мемфісе ці ў Канстантынопалі, то гэтым было б даказана, што зямныя суткі з таго часу трошачкі пакарацелі ці ж абарачэнне Месяца трошачкі запаволілася. Але гэтага сцвярджаць яшчэ немагчыма, таму што дакладнае месца ўзнікнення легенды пра снабачанні фараона невядома, ды і паўната зацьмення ў ёй не вызначана, грунтуючыся як на біблейскім, так і на каранскім апісаннях.

Лічыць даказаным тут можна толькі адно:

Матэматычная тэорыя верагоднасьці запэўнівае нас, што выпадковага супадзення нейкага, засведчанага старажытнымі гістарычнымі дакументамі, сімвалічнага снабачання з падобнай на яго грунтуючыся на сэнсе складанага і адзінкавага на працягу ўсяго гістарычнага перыяду месцавання сонечнага зацьмення – дапусьціць немагчыма, а такім чынам і апавяданне Бібліі, паўторанае ў Каране пра сем худых кароў, пажраўшых сем гладкіх кароў і не стаўшых ад гэтага больш гладкімі, мае дачыненне не да простага царскага снабачання якія ў цароў, бяспрэчна, здараюцца амаль ці не кожную ноч, а да ўразіўшай шмат каго прарочай, згодна з тагачаснымі перакананнямі, падзеі. Толькі ў гэтым выпадку такі сон і мог патрапіць «у сусьветную гісторыю». А таму і маё разуменне яго ў астралагічным сэнсе з'яўляецца цалкам абгрунтаваным.

У гэтым выпадку гэтак жа, як і ў большасьці падобных іншых, апісаных у гэтых маіх кнігах, мая гісторыка-астранамічная выведка безумоўна вызначае час стварэння легенды. Гаворка ідзе пра зацьменне 4 траўня 292 года нашай эры. Гэта быў час валадарання не ягіпецкага фараона, ці фіргауна (такога слова няма і не было па-ягіпецку), а лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкага імператара Бога-Заклічанага – Дыяклетыяна па-грэцку, – з уцарваннем якога ў 284 годзе і пачынаецца летазлічэнне сучасных ягіпцянаў-коптаў. Пад біблейска-каранскім Ёсіфам тут патрэбна разумець у такім выпадку Арона-Арыя, які ў той час мог быць толькі

юнаком, якім дарэчы і апісваецца Ёсіф, імя якога па-біблейску азначае Чарка Грамабоя.

Само сабой зразумела, што дадзенае ў Бібліі тлумачэнне такой падзеі Ёсіфам, як прадвяшчэнне сямі ўрадлівых гадоў, пасьля якіх наступіць сем гадоў бясплодных, пад час якіх будуць з’едзены лішкі першых сямі гадоў, непасрэдна прыводзіла і да выканання прадказання. Не цяжка сабе ўявіць, што напалоханы такім прадказаннем Дыяклетыян мог выдаць загад усім сваім губернатарам неадкладна забіраць у запас палову ўраджаю ўсіх земляробаў, а падобны захад меў бы непазбежныя наступствы. Праз два-тры гады такой абачлівай практыкі земляробы перасталі б сеяць больш, чым патрэбна для сябе, і таму яшчэ раней сямі гадоў у краіне маглі наступіць такія галодныя гады, якія б паглынулі ўсе папярэдне назапашаныя скарбам запасы.

І ў Каране, і ў Бібліі са снабачаннем фіргауна-фараона пра кароў злучаны яшчэ другі яго сон пад час той жа ночы: на адной сцябліне выраслі, – паведамляюць аўтары, – сем гладкіх і сем худых каласоў, і худыя пажэрлі гладкія, не зрабіўшыся ад таго больш гладкімі.

Ёсіф патлумачыў, што гэта той жа сон.

І, вось, як я толькі патлумачыў сабе значэнне толькі-што апісанага псеўда-снабачання пра кароў, як мне ўжо прыйшло ў галаву, што сон пра каласы павінен быў сімвалізаваць, блізкае да толькі-што апісанага сонечнага, месяцовае зацьменне каля Коласа Панны, паблізу ад сузор'я Шаляў як пазначэння хлебнай меры, а усемеранне нябеснага Коласа, магло з'яўляцца простай асіміляцыяй са снабачаннем пра кароў.

І што ж атрымалася?

Ледзь толькі я зазірнуў у месяцовыя табліцах, як зараз жа я знайшоў у іх роўна за два тыдні перад гэтым і другі сон фараона: амаль поўнае месяцовае зацьменне 19 красавіка 292 года з максімальнай фазай роўнай 10"7 у 1 гадзіну 13 хвілін ад грынвіцкай поўначы, г.азн. пад час ранішняй паловы ночы, каля 231° экліптыкальнай даўгаты ў сузор'і Шаляў над захадзячым Коласам Панны пры знаходжанні Сонца і астатніх планет пад гарызонтам[73].

Больш задавальняючай адпаведнасьці, як мне здаецца, немагчыма было і чакаць.

Але вернемся да далейшага выкладання Карана.

«*Здарылася так, што браты Ёсіфа прыйшлі ў Ягіпет і пакаліся Ёсіфу. Ён пазнаў іх, але яны не пазналі яго. І калі ён забяспечыў іх харчаваннем, то сказаў:*

*– Прывядзіце да мяне вашага брата, які застаўся з бацькам. Ці не бачыце вы, што я даю вам поўную меру, і што добра прымаю сваіх гасьцей. Калі вы не прывядзіце яго да мяне, то вам не будзе больш хлеба. Без яго не з'яўляйцеся да мяне.*

*– Мы паспрабуем, – адказалі яны, – узяць яго ад бацькі, а вось гэта ў нас атрымаецца.*

*Потым Ёсіф загадаў сваім людзям:*

*– Пакладзіце іхную плату за хлеб паміж іхнымі пажыткамі: магчыма яны заўважаць яе пасьля свайго прыбыцця да сябе і вернуцца сюды каб аддаць назад.*

*Калі яны прыйшлі да свайго бацькі, то паведамілі яму:*

*– Нам адмовілі наперад у хлебе ў Міц-Рыме, калі не дазволіш выправіцца з намі брату. Пусьці яго: мы паклапацімся пра яго.*

*– Ці даверу я вам яшчэ і Веніяміна, як некалі даверыў яго брата* (Ёсіфа)? *Але бог лепшы абаронца. Ён літасьцівы.*

---

[73] Чытач знойдзе яго ў маіх табліцах месяцовых зацьменняў у IV кнізе «Хрыста».

*А калі яны разабралі свае пажыткі, то знайшлі, што іхная плата за хлеб была ім вернута.*

*– О бацька! – сказалі яны. – Чаго мы можам жадаць больш? Вось плата за наш хлеб, вернутая нам. Мы выправіліся дзеля куплення за яе кошт правізіі для нашых сямей, мы паклапоцімся пра нашага брата. На гэты раз мы прывязём на адзін вярблюжыны цюк больш.*

*– Гэты цюк мала азначае! Я не дазволю Веніяміну выправіцца з вамі, – адазаў Якаў, – калі вы не паклянецеся мне перад богам, што прывезяце яго да мяне здаровым і цэлым, калі з вамі не здарыцца нейкага надзвычайнага здарэння.*

*Калі яны абяцалі яму гэта, Якаў усклікнуў:*

*– Бог мне парукай у вашых клятвах!*

*Потым ён сказаў ім:*

*– О дзеці мае! Прыйшоўшы ў Ягіпет, не заходзьце ўсе ў адну браму, але адразу ў некалькі.*

*Калі яны паўсталі перад Ёсіфам, то ён затрымаў Веніяміна на абед і паведаміў яму:*

*– Я твой брат! Не турбуйся больш пра злачынства, якое яны здзейснілі.*

*Ёсіф, забяспечыўшы іх правізіяй, падкінуў куфэрак з пажыткамі свайго брата Веніяміна. Потым згодна з яго загадам вястун закрычаў ззаду іх:*

*– Гэй! вандраўнікі! Ці не злодзеі вы?...*

*– Мы клянёмся богам, – адказалі сыны Якава, – што не: вы ведаеце, што мы не прыбылі сюды для рабавання. Мы не злодзеі.*

*– А калі вы падманваеце, якім будзе пакаранне таму, хто гэта зрабіў? – сказалі пасланнікі.*

*– Той, – адказалі яны, – у пажытках якога знойдзецца чарка, будзе перададзены вам для пакарання. Гэта таму, што мы караем вінаватых.*

Я звяртаю тут увагу чытача, што Міц-Рым, па-арабску Мазр, азначае і Задыяк, у якім сузор'е Чарка знаходзіцца пад сузор'ем Панны.

«*Ёсіф пачаў шукаць у іхных мяшках раней, чым шукаць у свайго брата* (па маці).

*– О Спадар! – сказалі яны, калі чарку знайшлі ў Веніяміна. – У яго бацька стары, паважаемы. Вазьмі лепш на яго месца аднаго із нас. Мы ведаем, што ты спагадлівы.*

*– Богу не дагодна, каб я ўзяў іншага, а не таго, у каго знайшлася мая чарка. Калі я гэта зраблю, то паступлю несправядліва.*

*Калі яны страцілі надзею ў поспех сваіх прашэнняў, яны выдаліліся для нарады. Старэйшы із іх сказаў:*

*– Хіба не ведаеце, што бацька атрымаў ад нас абяцанне, дадзенае перад богам? Ці не згадаеце вы якое злачынства здзейснілі мы адносна Ёсіфа? Я не пакіну краіну, пакуль не дазволіць бацька ці пакуль бог не абвесьціць мне свае загады, таму што ён – лепшы із суддзяў. Вярніцеся да вашага бацькі і паведаміце яму: о бацька! Твой сын здзейсніў крадзёж. Мы не можам сведчыць, нічога акрамя таго, што ведаем, і не можам адрачыся ад неспадзяваных акалічнасьцей. Калі збярэш сведчанні ў горадзе, дзе мы былі, і ў каравне, з якім мы прыбылі, ты пабачыш, што мы паведамляем праўду.*

*Яны зноў пайшлі да Ёсіфа і сказалі яму:*

*– Спадар! Беднаць цісьне нас і нашы сямействы. Мы прынесьлі толькі сярэднюю суму, але прызнач нам поўны выкуп, дай нам тым палёгку! Бог узнагародзіць тых, якія даюць палёгку.*

*– Ці ведаеце вы, – адказаў ён, – што вы зрабілі з Ёсіфам, калі былі недасьведчанымі? Бог дараваў вашы злачынствы, бо ён найлітасьцівейшы. Ідзіце і адвязіце маю туніку: накрыйце ёю твар майго бацькі. У яго вернецца зрок. Потым прывядзіце да мяне ўсё сваё сямейства.*

*Калі караван выправіўся із Міц-Рыма, і пачаў набліжацца да сядзібы, Якаў дома сказаў атачаючым яго:*

*– Я адчуваю пах Ёсіфа. Магчыма вы думаеце што я ў трызненні?*

*– Клянёмся імем бога, – адказалі яму, – ты ў старэчай памылцы.*

*Калі выпраўлены вястун шчасьлівай навіны прыбыў, то кінуў туніку Ёсіфа на твар Якава, і да Якава вярнуўся зрок.*

*– О бацька! – сказалі яго сыны. – Памаліся богу пра наша дараванне, таму што мы саграшылі.*

*– Так, я папрашу бога пра ваша дараванне. Ён церпялівы і літасьцівы.*

*Калі Якаў са сваім сямействам прыбыў у Міц-Рым, ён пайшоў да Ёсіфа. Ёсіф сустрэў іх у сябе і сказаў ім:*

*– Зайдзіце, калі так пажадана богу, і жывіце ў гэтай краіне ў бяспецы ад якой бы то ні было баязні.*

*Ён размясьціў свайго бацьку і маці на ўзвышаным месцы, але яны ўпалі ніц для ўшанавання яго.*

*– О бацька! – сказаў Ёсіф, – вось тлумачэнне сну, бачанага мной некалі. Бог ажыццявіў яго. Ён быў спагадлівы да мяне, калі вызваліў мяне із вязніцы, калі прывёў вас да мяне із пустыні, пасьля таго як сатана разлучыў мяне з братамі. Бог поўны дабрыні, калі таго пажадае. Ён дасьведчаны, мудры. Пане! Ты дараваў мне ўладу і навучыў мяне тлумачыць падзеі. Стваральнік нябёс і зямлі! Ты апякун мой на гэтым сьвеце і на тым! Дай мне памерці адданым тваёй волі і далучы мяне да ліку дабрадзейных.*

*Такой з'яўляецца гэтая гісторыя, о Славуты! Яна із ліку невядомых апавяданнаў, якія мы табе адкрываем. Ты не прысутнічаў, калі браты Ёсіфа разам задумвалі змову, і як яны паставілі яму сетку.*

*Але вялікая частка людзей, якім бы ні было тваё жаданне, не паверыць у гэта*» (**12**.3-103).

Мы бачым, што ў Каране, як нешта новае, **невядомае** да таго часу, перадаюцца легенды кнігі Быцця, напісаныя не па-грэцку, а толькі на асобнай гаворцы той жа арабскай мовы (жыдоўскай). Хто ж адкуль запазычыў: Быццё із Карана ці наадварот? Мая думка, што абедзьве кнігі ствараліся адначасова і перадаюць апавяданні, меўшыя пашырэнне ў іхны час, але Каран, як бачыць і сам чытач, выкладае лепшым складам, г.азн. яго аўтары былі літаратурна больш дасьведчаныі чым біблейскія. Газважанні пра «невуцтва» аўтараў Карана прыдатны толькі для старажытнага «палемічнага багаслоўя», а ў сур'ёзнай навуцы ад іх прыйшоў час пазбавіцца.

* * *

Пра бацьку Ёсіфа – Богазмагальніка Якава – мы чытаем у Каране толькі тое, што было павядомлена, ды яшчэ некалькі выпадковых згадванняў, што ён ушаноўваў адзінага бога. Адзін раз ён названы таксама і Богазмагальнікам (Ізраілем, 19, 59), як легендарны родапачынальнік ізраільцянаў-богазмагальнікаў, пра якіх паведамляецца амаль тое ж, што і ў Біблії, напрыклад (5. 15-20):

«*Бог прызнаў хаўрус дзяцей Ізраіля. Мы прызначылі ў іхным асяроддзі дванаццаць правадыроў, і бог сказаў:*

*– Я буду з вамі, калі вы будзеце ўважліва выконваць малітву, тварыцць міласьціну, верыць маім пасланнікам, дапамагаць ім і прыносіць богу шчодрыя дарункі. Я ачышчу вашы прынашэнні і завяду вас у сады, абводненыя струменямі вады. Той, хто пасьля гэтых перасьцярог, адмаўляецца верыць, пакідае сярэдзіну добрага шляху. Адрачэнцы парушылі заключаную дамову, і мы праклялі іх. Мы акамянілі іхныя сэрцы. Яны перамяшчаюць словы Пісання і забываюцца тую частку, якой яны былі навучаны. Ты не перастаеш выкрываць падступствы з іхнага боку. Акрамя невялікай колькасьці, усе яны грэшныя. Але даруй ім і прайдзі далей, таму што бог шануе тых, якія паступаюць годна. Мы прынялі ў хаўрус тых, якія кажуць: «мы хрысьціяне». Але гэтыя таксама забыліся частку таго, чаму былі навучаны. Мы абудзілі ў іхным асяроддзі непрыхільнае стаўленне і*

*нянавісць, якія павінны працягвацца да дня ажывання. Бог пакажа ім, што яны зрабілі. О вы, атрымаўшыя Пісанне! Наш пасланнік паказаў вам у ім шмат месцаў, якія вы схавалі, і мінуў шмат якія іншыя. Сьвятло прыйшло да вас ад бога, падобна відавочнай кнізе, праз якую бог павядзе тых, якія ідуць адпаведна з яго воляй па шляху вырaтавання. Ён дае ім магчымасць ісьці са змроку да сьвятла і накіроўвае іх на шлях правы. Тыя, якія сцвярджаюць, што Месія сын Марылі з'яўляецца богам, – няверныя. Адказвай ім: хто б мог, які́м бы там ні было чынам, перашкодзіць богу, калі б ён пажадаў зьнішчыць Месію, сына Марылі, яго маці і ўсе істоты на зямлі? Богу належыць панаванне над нябёсамі і зямлёй, і прасторай іх падзяляючай. Ён чыніць, што захоча, і можа ўсё».*

А гэта сведчыць пра тое, што Якаў ці Ізраіль з'яўляецца простай персаніфікацыяй ізраэліцтва, звычайнай ва ўсіх старажытных легендах, дзе кожны зямны народ атрымлівае сабе аднайменнага прабацьку, ад якога ён быццам бы пачаўся.

* * *

Із біблейскіх пракраў Ездра (Азаір) атаясамляецца з самім Месіяй (9, 30-35).

«*Юдэі сцвярджаюць: Азаір – сын божы. Хрысьціяне сцвярджаюць: Месія – сын божы. Такімі з'яўляюцца словы із вуснаў іх, але, кажучы гэта, яны падобны на няверных іншага роду. Ды ваюе з імі бог! Якія яны прыдумшчыкі! Яны палічылі сваіх навукоўцаў, манахаў і Месію, сына Марылі, больш чым за бога: за сваіх валадароў, хаця сын Марылі і загадаў ім ушаноўваць толькі бога. Далёкія да славы бога ўсе багі, якіх да яго далучаюць. Людзі жадалі б сваімі вуснамі задуць яго сьвятло, але бог зрабіў сваё сьвятло больш дасканалым. Хай крыўдуюць на гэта няверныя*».

Прарок Энах (Эдрыс, сугучна з Ездра), спісаны, згодна з маёй думкай, таксама з Езуса, згадваецца, як узнесены на неба:

«*Паведамі таксама ў сваёй кнізе пра Эдрыса: ён быў справядлівым і павучаў, і мы ўзнеслі яго на высокае месца*» (**19**. 57).

Прарок Ілля згадваецца спачатку ў пераліку ўжо евангельскіх прарокаў:

«*Захарыя* (чалавек Лізаветы), *Ягія* (Ян-Хрышчэльнік), *Езус і Ілія былі праведнымі»* (**6**. 85).

А потым пра Іллю паведамляецца ў такім выглядзе:

«*Ілля быў таксама адным із нашых пасланнікаў, сказаўшых свайму народу: Ці пабаіцеся вы бога? Ці будзеце заклікаць да яго ці пакінеце самага майстэрскага са стваральнікаў?*

*Народ палічыў яго ашуканцам, а мы захавалі такое прывітанне яго нашчадкам: Сьвет вам іллінцы*» (**37**. 123-130).

Згодна з нашымі гісторыка-астранамічнымі меркаваннямі, пачаткам легендаў пра прарокаў Іллю і Езуса паслужыла адна і тая ж асоба. Дададзім, што «іліунам» называцца ў Каране ўзвышэнне каля пасада бога для жылля сьвятых і для кнігі, дзе запісаны чалавечыя справы:

– «*Хто дазволіць табе пазнаць, што такое іліун*?» (**83**. 19) – пытае адзін із аўтараў Карана.

Прарок Ялісей (Эліза) толькі згадваецца на імя пры пераліку іншых, як адзін із самых узнёслых (**6**. 86 і 38. 48). Я лічу яго спісаным з Яна Залатавуста.

Пра Ісака згадваецца толькі пры пераліку імёнаў дзяцей Бацькі-Рыма (Абрама), звычайна побач з Якавам, як быццам бы яны браты.

«*Ці скажаце вы, што Аб-Рам, Ізмаіл, Ісак, Якаў і 12 кален богазмагальнікаў былі юдэі ці хрысьціяне?.. Гэтыя пакаленні зьніклі. Яны панеслі з сабой узнагароду за свае справы, гэтак жа як і вы панясяце за вашы. Не ў вас спытаюць справаздачу пра тое, што яны зрабілі*» (**2**. 134 –135).

*Аб-Рам* (6. 77-84) *сказаў бацьку свайму Азару* (згодна з Бібліяй яго бацькай быў Фара):

*– Ці лічыш ты свае статуі за багаў? Ты і твой народ у відавочнай памылцы.*

*Калі ноч атачыла яго сваёй цемрай, ён пабачыў зорку і ўсклікнуў, – Вось мой Валадар!*

*Але зорка знікла, і ён сказаў, – Я не шаную тых, якія знікаюць.*

*Ён пабачыў узыходзячы Месяц і сказаў, – Вось мой Валадар!*

*А калі ён зайшоў, ён ўсклікнуў, – Калі б мяне не наставіў праўдзівы мой Валадар, я б заблудзіўся!*

*Ён пабачыў узыходзячае Сонца і сказаў, – Гэта мой Валадар; ён значна большы!*

*Але калі Сонца зайшло, ён ўсклікнуў, – О народ мой! Я не маю дачынення да ідальскага служэння, якое вы здзяйсняеце. Я павяртаю твар да таго, хто ўтварыў нябёсы і зямлю. Я праўдзіва веруючы, і ніяк не із ліку тых, якія далучаюць….*

*Такімі з'яўляюцца доказы адзінства божага, якімі мы забяспечылі Аб-Рама супраць яго народа. Мы ўзносім тых, каго нам пажадана. Твой бог Мудры і дасьведчаны. Мы далі яму Ісака і Якава і накіравалі іх абодвух...».*

А пра Ёну (Юніс) мы чытаем:

«*Чакай церпяліва караблі твайго валадара і не будзь падобным на Чалавека Рыбу, які душымы гневам, лямантаваў да бога. Калі б яго не спасьцігла дараванне яго Валадара, то ён, пакрыты ганьбай, быў бы выкінуты на сухі бераг. Але бог узяў яго сабе ў выбраннікі і зрабіў правядным*» (**69**. 58-50).

І яшчэ (**37**. 139-148):

«*І Ёна таксама быў із нашых пасланнікаў. Ён выдаліўся на нагружаным караблі* (і адбылася бура). *Кінулі жэрабя, і ён быў кінуты ў мора. Яго праглынула Рыба; таму што ён падпаў пад наша ганьбаванне. І калі б ён не славіў нас у ёй ухваламі, то застаўся б у вантробах рыбы пакуль людзі не былі б ажыўлены. Мы выкінулі яго на голае ўзбярэжжа. Ён быў хворы, і мы загадалі вырасьці па баках яго хмызняку. Потым мы выправілі яго да народа ў сто тысяч чалавек ці яшчэ больш. Але яны паверылі ў бога, і мы пакінулі ім асалоду ад гэтага сьвету да вядомага часу*».

Адносна таго, што легенда пра Ёну, прароцтва якога не выканалася, з'яўляецца апавяданнем пра невыкананне апакаліптычнага прадказання Яна Залатавуста, я ўжо выказваўся у маёй кнізе пра Апакаліпсіс[74], а тут пазначу толькі, што калі пад гэтай рыбай мы будзем мець на ўвазе Кіта, як патлумачана ў славянскіх Бібліях («Ёна ва ўлонні кітовым»), то павінны шукаць, як першакрыніцу такога падання поўнае зацьменне Месяца ў пашчы сузор'я Кіта, г.азн. каля 40° сучаснай нам экліптыкальнай даўгаты, куды зямны цень, здольны засланіць Месяц, прыходзіў у IV-V стагоддзях каля 14 кастрычніка. Ці было пры жыцці Яна Залатавуста такое зацьменне? Першы ж позірк на прыкладзеныя ў V томе «Хрыста» месяцовыя табліцы паказвае, што гаворка ідзе пра зацьменне Месяца ў пашчы Кіта 14 кастрычніка 376 года ў 3 гадзіны 55 хвілін ад грынвіцкай поўначы, калі было звыш поўнае зацьменне перадзаходзячага Месяца якраз пад 40° сучаснай нам экліптыкальнай даўгаты з максімальнай фазай 18"8, зянітнае пад -63° зямной даўгаты і +8° зямной шыраты. У Яўропе Месяц так і зайшоў знікшым у пашчы Кіта, калі ўзышло Сонца. І ў гэты ж час Ян пачаў сваё павучанне пра пагібель «Вавілона».

# Глава V.

[74] Мікалай Марозаў: Адкрыццё ў навальніцы і буры. 1907.

# Згадванні карана пра Магамета і пра Каран.

Такім выяўляецца ўвесь біблейскі персанал Карана, за выключэннем праходзячых як цяні і нічым не адзначаных пракокаў, накшталт Салега, ды яго двух-трох сваякоў. Пра самога ж «Славутага» (Магамета), намінальнага аўтара гэтай кнігі, у ёй згадваецца не раз адкуль і бачна, што аўтарам быў не ён.

«*Адкрыццё, змешчанае ў гэтай кнізе – у тым няма ніякага сумневу! – паходзіць ад Валадара сусьвету. Нам скажуць: гэта ён* (Магамет) *прыдумаў яго. Але, не! О, Славуты! Гэта хутчэй праўда прыйшоўшая ад твайго Валадара, каб ты перасьцерагаў народ, у якога да цябе не было прарока і каб усе людзі былі накіраваны на праўдзівы шлях*» (**32**. 1-2).

Так наіўна піша аўтар гэтых радкоў ад імя трэцяй асобы пра Магамета, у адзін і той жа час выдаючы сваю кнігу за яго ўласную перадачу боскага надання! Не мала такіх жа наіўных месцаў мы пабачым зараз і далей у Каране.

Вось хаця б месца пра непісьменнасць «Славутага».

«*Усё, што ёсць на нябёсах і на зямлі спявае хвалу цару-богу, сьвятому, магутнаму і мудраму. Гэта ён узвёў із асяроддзя людзей непісьменнага апостала, каб ён паведаміў дзівы Валадара, каб зрабіў людзей самымі чыстымі, каб навучыў пра кнігу і мудрасць быўшых нядаўна ў відавочнай памылцы*» (**62**. 1-2).

І яшчэ ў іншым месцы: «*Верце ў бога і выпраўленага ім прарока, ненавучанага, які таксама верыць у бога і ў яго слова*» (**7**. 158).

Ці дастаткова гэтых двух указанняў, каб сапраўды прызнаць, што аўтар Карана (лічачы, што Каран не вынік калектыўнай творчасьці) не ўмеў ні чытаць, ні пісаць? Мне здаецца не. Ды і сам Каран разумее непраўдападобнасць гэтага, як можна бачыць із наступных яго радкоў:

«*Скажы ім,* – выказваецца ён ужо ад імя самога «Славутага» (Магамета па-арабску), – *калі б бог не пажадаў, то я не чытаў бы вам гэтага, і ніколі не павучаў бы пра гэта. Я жыў сярод вас шмат гадоў, не робячы так. Хіба вы не разумееце, што гэта азначае?»* (**10**. 17).

Водгаласы пашыраных тады чутак, што Каран напісаны не «Магаметам» і не із яго слоў, мы знаходзім і ў ім самім:

«*Кажуць: «гэтаму навучыў яго адзін чалавек». Але мова таго, на каго яны паказваюць, варварская, тым часам як Каран кніга чыста арабская*».

Так паведамляе нам 16-я глава (**16**. 104), намякаючы на чуткі, што названую кнігу напісалі Джэбр і Тэзар (сугучна са словамі жыд і цэзар) шабельныя фабрыканты ў Мецы, а таксама перс Селман (то бок Саламон).

Каран называе Славутага апошнім із прарокаў:

«*Магамет не бацька нікому із вас. Ён – выпраўлены ад бога і прарок, ён – пячатка* (г.азн. апошні), *іншага не будзе* (**33**. 40)... *Ён выразна бачыў на вяршыні неба твар Валадара сусьвету* (як можна зрабіць выснову із главы 81, нагадваючую псалом ці нават Апакаліпсіс):

«*Калі Сонца сагнецца, як рог* (што бывае пры яго няпоўных зацьменнях), *калі зоркі ўпадуць, калі горы прыйдуць у рух, калі самкі вярблюдаў будуць пакінуты, калі дзікія звяры збяруцца натоўпамі, калі моры закіпяць, калі душы злучацца, калі запытаюць жывой пахаваную дзяўчыну: за якое злачынства яе прысудзілі да сьмерці?, калі ліст кнігі разгорнецца, калі нябёсы расчыыняцца ў бакі, калі пякельнае полымя перамяшаецца качаргой, каб лепш гарэць, калі рай наблізіцца, – тады кожная душа даведаецца пра здзейсненыя ёю справы. Я не клянуся мімалётнымі зоркамі, якія хутка бягуць і знікаюць, але клянуся ноччу, калі яна настае, світанкам, калі ён загараецца, што Каран – слова*

*знакамітага пасланніка, магутнага каля пасада Валадара, цьвёрдага, загадваючага і вернага. Клянуся, што ваш Славуты суграмадзянін не звар'яцеўшы! Ён бачыў яго* (бога) *выразна на вяршыні неба, і не лічыце за хлусню адкрытыя яму таямніцы!* Аспрэчванне *гэтай падзеі – толькі словы пабітага камянямі дэмана. Куды вы ідзеце? Каран з'яўляецца перасьцярогай сьвету, для тых із вас, якія шукаюць праўдзівы шлях. Але вы не жадае таго, чаго жадае Бог, валадар сусьвету*» (гл. 81).

«*Ці не разважаюць далучуўшыяся*[75], *што іхны таварыш не звар'яцелы, а што ён апостал, абавязаны навучаць адкрыццю? Ці не звернуць яны свае позіркі на царства нябёс і зямлі, і на ўсе рэчы, якія стварыў бог, каб бачыць, ці не набліжаецца іхнае заканчэнне? І ў якую іншую кнігу паверац яны, не веруючыя ў Каран*?» (**7**. 183-184).

*Злыя кажуць сабе таемна: – Гэты «Славуты» хіба не чалавек, як і мы?*

*Адкажы ім: – Бог мой ведае словы вымаўленыя на небе і на зямлі. Ён чуе і ведае ўсё.*

*Яны кажуць: – Гэта – ворах трызненняў. Каран прыдумаў ён. Гэта паэт, хай ён дасць нам пабачыць дзіва, як рабілі іншыя пасланнікі* (**21**. 3-5).

*Але я клянуся* ***маім пяром*** *і тым, чым людзі пішуць! Ты, о, Славуты! – з ласкі гаспадара ўсіх – не звар'яцелы! Ён прызначыў табе бездакорную ўзнагароду. Ты ўзнёслага характару. Ты пабачыш і яны* (няверныя) *пабачаць, хто із вас схільны да вар'яцтва»* (**68**. 1-6). «*Гэта не словы паэта. О, як мала вы верыце! Гэта не словы прадказальніка. О, як мала вы разважаеце! Гэта адкрыццё Валадара сусьвету. Калі б «Славуты» прыдумаў нейкую прамову маючую дачыненне да нас, то мы схапілі б яго за правую руку, перарэзалі б яму сардэчную жылу, і не баранілі б яго ад каго заўгодна із вас. Гэтая кніга павучане для тых, якія баяцца бога. Мы ведаем, што паміж вамі існуюць тыя, хто лічыць яе за падман. Гэтая кніга – роспач для няверных. Каран – сама праўда*» (**69**. 41-51).

Але, нягледзячы на гэта, «Славуты» ўсё ж быў прадметам ліхаслоўя:

«*Існуюць паміж намі*, – паведамляецца ў самым Каране, – *якія ганяць прарока. Яны кажуць: – Ён увесь – вуха!*

*Адказвай ім: – Ён увесь вуха для вашай выгоды! Ён верыць у бога і верыць вернікам*» (**9**. 61).

*«Няверныя сцвярджаюць: – Гэтая кніга – хлусня, якую ён прыдумаў. Іншыя таксама дапамагалі яму яе складаць.*

*Вось якімі з'яўляюцца іхная утарапёнасць і няшчасць!*

*– Гэта старыя байкі, – кажуць яшчэ яны, – якія ён выклаў пісьмова; яны дыктаваліся ім самім раніцамі і вечарамі.*

*Скажы ім: – Тот, хто ведае таямніцы нябёс і зямлі, паслаў гэту кнігу. Ён цярплівы і літасцівы*» (**25**. 5-7).

«*Клянуся зоркай, – працягвае Каран, – калі яна заходзіць, што ваш суайчыннік, служка бога, не заблудзіўшыся і не падмануты. Ён павучае не дзякуючы нейкаму хваляванню сваіх захапленняў. Каран – адзінае адкрыццё, якое яму зроблена. Гэта Жахлівы сваёй магутнасьцю навучыў яго, гэта Моцны. Ён трымаецца ў стане раўнавагі ў самай вышэйшай прасторы, але апусьціўся і застаўся вісячым у паветры. Ён быў на адлегласьці двух палётаў стралы ці яшчэ бліжэй. І ён адкрыў служцы бога тое, што было яму адкрыта. Сэрца «Славутага» не падманвае. Ён бачыў яго. Адкіньце сумневы ў тым, што ён яго бачыў. Ён «бачыў яго і ў іншым узыходжанні, паблізу памежнага лотаса, там, дзе сад вечнага жылля. Калі лотас быў пакрыты пакрываючым яго, вока прарока не адхілілася ні на адну хвіліну. Ён бачыў найвялікшае дзіва свайго гаспадара*» (53).

---

[75] Згодна з Каранам – арабы. Але слова араб паходзіць ад жыдоўскага ערב (ЭРБ) – дамешак, далучэнне, прылучэнне.

Вось амаль і ўсё, што паведамляецца ў Каране пра яго аўтара. Ніякіх рэчаісных падрабязнасьцей пра яго жыццё няма ў гэтай сярэднявечнай кнізе, створанай шматлікімі аўтарамі некалькіх пакаленняў. Уся яго біяграфія прыдумана ўжо нашмат пазьней яе першага пашырэння.

# Глава VI.

## Паданні Карана пра краіны і народы.

«*Эс-Ромы*, – паведамляе адзін із аўтараў Карана, – *пераможаны ў краіне вельмі блізкай да нашай, але пасьля гэтага яны ў сваю чаргу перамогуць праз некалькі гадоў, раней ці пазьней. Такія справы залежаць ад бога, але ў той дзень уцешацца верныя*» (**30**. 1-3).

Гэтых Эс-Ромаў, якія фігуруюць таксама і ў Бібліі, самі арабісты лічаць за забалканцаў-візантыйцаў і лічаць, што тут паведамляецца пра змаганне іх з Хазроем II (каля 625 г.) пры імператары Геракліі, а гэта служыць новым падмцаваннем маёй высновы, што Біблія напісана пад час сярэдневечча. А вось, далей паведамляеца і пра загінуўшыя народы.

*«Былі знакі ў тэмудзян, калі ім гаварылі: – Радуйцесь да вядомай мяжы!*

«*Яны былі мяцежнікамі супраць наказаў госпада, іх нагнала бура, і яны глядзелі на яе прыход пры дзённым сьвеце*».

«*Тэмудзяне, народ Лота, і жыхары лясоў* (мадыяніцяне) *стварылі краіну, варожую боскім пасланнікам*».

Потым у Каране згадваюцца «адзяне, да якіх быццам бы быў выпраўлены прарок Гуд з іх саміх, каб прывесьці іх да адзінабожжа» (**7**. 65-70).

– *О народ мой!* – сказаў ім Гуд. – *Гэта не ашалеласць розуму, да гэтага далёка. Я пасланы ад бога, Валадара сусьвету. Я абвяшчаю вам яго наказ, я ваш шчыры і верны дарадца. Вы здзівіцеся, што слова вашага гаспадара прыходзіць праз аднаго із вашага асяроддзя, абавязанага пераконваць вас. Згадайце, што ён загадаў вам успадкаваць народу Ноя, што ён даў вам велічэзны рост. Згадайце пра яго дабрадзействы, каб вам быць шчаслівымі*».

– «*Ты прыйшоў, – сказалі яны яму, – каб прымусіць нас ушаноўваць адзінага бога і пакінуць бажышчы нашых бацькаў. Дык зрабі, каб твае пагрозы выканаліся, калі ты чыстасардэчны*.

– *Хутка*, – адказаў ён, – *помста і гнеў бога разальюцца на вас. Ці паспрачаецеся вы са мной пра імёны, якія вашы бацькі і вы далі божышчам, на што бог не даваў вам ніякай улады? Пачакаеце, і я таксама пачакаю*».

«*Дзеяннем нашай літасьці мы выратавалі Гуда і тых, якія схіліліся да яго, але выкаранілі да апошняга тых, якія лічылі за хлусню нашы знакі і не верылі*».

Пра іх жа паведамляецца яшчэ больш вызначана (**47**. 20-24):

«*Чаго чакаюць няверныя? Хіба моманту, які з'явіцца раптоўна? Ужо некалькі знакаў яго з'явілася, але для чаго паслужаць ім перасьцярогі? Ведай, што няма іншага бога, акрамя бога! Малі яго пра дараванне сваіх грахоў, і грахоў мужчын і жанчын, якія вераць.*

*Гэты вецер – паведамляецца далей (51. 42) – не абмінуў ніводнай істоты «каб ператварыць яго ў пыл*».

І аўтар зноў пераходзіць да знішчэння адзян і заўсёды злучаных з імі тэмудзян, таксама лацінскага (лотава) народа (**53**, 43-55).

«*Бог твой ці не мяжа ўсяго?* – выказваецца ён. – *Бог вымушае смяяцца і вымушае плакаць. Ён загадвае паміраць і вымушае ажываць. Ён стварыў пару, самца і самку. Із адной кроплі семя, калі яно разліваецца* (у жанчыне), *атрымліваецца другое тварэнне над яго апеку. Ён узбагачае і дае набываць, ён гаспадар сузор'я Сабакі. Ён знішчыў старажытны горад адзян і народ Тэмуда і не пакінуў із іх ніводнага. А да іх загінуў народ Ноя, які быў самы неразумны і бязбожны. Вось разбураныя гарады! Гэта ён іх разбурыў, іх цалкам пакрыла нябеснае пакаранне*».

Пад апошнімі «цалкам пакрытымі» гарадамі тлумачальнікі прызнаюць нейкае загінуўшае пяцігароддзе **Мутэ-Фікат** Карана (7, **9**. 71 і **53**. 54), із якога згадваюць, грунтуючыся на Каране ж, імёны чатырох гарадоў: Садома, Гаморы, Севоі і Адамы, а пяты горад лічаць невядомым на імя.

Я ўжо раней даводзіў, што першыя тры гэта – Пампея, Геркуланум і Стабія. Адама ж, згодна з Каранам, з'яўяецца горадам нейкіх адзянаў, загінуўшых не ад попелу, а ад нейкага звышнатуральнага ўрагану, накшталт таго, які паваліў цэлы лес на Тунгусцы ў Сібіры, як мы пабачым далей. У такім выпадку і заўсёды далучаемыя да адзян тэмудзяне, таксама ўдушаны, згодна з Каранам, бурным ветрам, могуць паходзіць із той жа мясцовасьці, тым больш што і яны называюцца дзецьмі Лота (лацінамі, 38,12).

Адзяне ў Каране называюцца народам, «*жыўшым у Ірэме, горадзе з вялікімі калонамі, падобнага якому не існавала ні ў адной краіне* (**89**. 6), а пра тэмудзян, што яны «*майстравалі свае сядзібы са скал у даліне*» (**89**. 8).

«*Тэмуд быў знішчаны жахлівым нябесным крыкам, а Ада – лютым парывістым ураганам. Бог насылаў супраць іх сем начэй і восем дзён безперапынна... Ці бачыў ты хаця б адну душу якая схавалася б ад яго ўздзеяння*?» (69. 8).

Да темудзян – згодна са славамі аўтара, – быў выпраўлены перад гэтым прарок Салег, з іх жа саміх, які гаварыў (**7**. 72-76):

– «*Згадайце, што бог загадаў вам не пераніма́ць прыклад адзян, што ён размясьціў вас на зямлі, дзе пасярод далін вы ўзвялі замкі, дзе са скал пабудавалі сабе сядзібы. Згадайце пра дабрадзействы неба, і не разыходзьцеся па зямлі, каб выраблять там непаразуменні.*

*Але кіраўнікі із ганарлівых тэмудзітаў сказалі тым, якіх яны лічылі слабымі, тым якія верылі:*

*– Ці ўпэўнены вы, што Салег*[76] *выпраўлены яго богам*?

*– Мы верым, – запярэчылі яны, – у яго пасланніцтва.*

*– Што ж да нас, – адказвалі ганарліўцы, – то мы не прызнаём таго, у што вы верыце.*

*І яны абрэзалі ў вярблюда паджылкі, зрабіліся падбухторшчыкамі супраць наказаў бога і потым сказалі Салегу:*

*– Зрабі так, каб твае пагрозы выканаліся, калі ты сапраўды пасланец божы.*

*Тады іх уразіў жахлівы землятрус: раніцай ён знайшоў іх памёршымі ў сядзібах, ляжаўшымі тварам да зямлі».*

А вось і яшчэ выпіс із той жа главы, дзе паведамляецца і пра Лота.

«*Мы выправілі Лота* – працягвае аўтар – *да яго* (лацінскага) *народа і ён гаварыў ім:*

*– Ці будзеце вы рабіць брыдоты, якія не рабіў да вас ніводзін народ?*

*І якім жа быў адказ Лотава народа* (г.азн. садамян гамаран і севаімян)? *Яны сказалі:*

*– Праганіце іх! Гэта людзі, выхваляючыяся цнатлівасьцю.*

---

[76] Аднагучнае з жыдоўскім שלג (ШЛГ) – снег, снежная завея.

*Але мы выратавалі Лота за выключэннем яго жонкі, якая засталася ззаду. Мы загадалі ісьці на іх дажджу. Вось якім быў канец няверных*!» (7. 78-82).

А потым яшчэ паведамляецца пра жыхароў лясістай мясцовасьці – мадыяніцянах, таксама загінуўшых ад жахлівага землятрусу (**7**. 81 і **7**. 86-90).

«*Мы выправілі да мадыянітаў іхнага брата Шаайба, які паведаміў ім:*

*– О народ мой! Ушаноўвай бога! Для чаго ты ўшаноўваеш іншых божышчаў акрамя яго? Вам з'явіўся з неба відавочны знак. Назірайце строга меру і вагу. Не забірайце ў людзей належачае ім, не вырабляйце на зямлі хваляванняў, калі ўсё складваецца да лепшага. Вам будзе больш выгадна* (калі вы жадаеце) *верыць*...

*А правадыры народа, надутыя гонарам, адказалі Шаайбу:*

*– О Шаайба! Мы прагонім цябе із нашага горада, так жа як і тых, якія паверылі з табой, калі вы не вернецеся да нашай веры!*

*– Як? Каб мы вярнуліся да вашай веры, мы, якія маем да яе агіду? – адказвалі вернікі мадаяніты. – Мы будзем вінаваты ў прыдумках наконт бога, калі вернемся да вашай веры, пасьля таго як бог пазбавіў нас ад яе. Як мы можам вярнуцца да яе без волі бога, які ўсё абдымае сваім спазнаннем? Мы ўскладаем на бога нашу надзею. Пане! Вырашы паміж намі, таму што ты самы ўмелы паміж тымі, хто вырашае!*

*А кіраўнікі над тымі, якія не верылі, сказалі народу:*

*– Калі вы пойдзеце сьледам за Шаайбу, то загінеце.*

*Але іх уразіў жахлівы землятрус, і раніцай ён знайшоў іх у сядзібах памёршымі, ляжачымі тварам да зямлі*».

Аднак далей іхная пагібель прыпісваецца ўжо ўрагану:

«*Жахлівы буран наляцеў на злых. Ранкам іх знайшлі ўпаўшымі на зямлю ў іхных сядзібах памёршымі*» (**11**. 97). «*Іх зьнішчыла пакаранне змрочнай хмарай. Гэта быў дзень жахлівага пакарання. Гэта быў нябесны знак*» (**26**. 189).

Такімі з’яўляюцца паведамленні Карана пра гарады і краіны, загубленыя богам з дапамогай землятрусаў, буранаў і паводак. За выключэннем Ноя, само імя якога можа азначаць «выйшаўшы із вады», усе астатнія носяць парэшткі ўспамінаў пра рэчаісныя падзеі, уразіўшыя жахам тагачасны сьвет.

Апакаліптычныя Гог і Магог, як мы бачылі вышэй, фігуруюць таксама і ў Каране пад імёнамі Яджудж і Меджудж (падобна з маджарамі). Упершыню пра іх паведамляецца (18. 93) у сувязі з гісторыяй сусветнага заваёўніка Дгуля Карнейна, у вобразе якога я ўжо паказваў візантыйскага імператара Юльяна.

Тут усё відавочна запазычана із Апакаліпсіса, дзе, як я ўжо даводзіў, Гог і Магог уяўляюць сабой пераіначаную арфаграфію Гуна і Магола (перамяшанага з мажарамі Вугоршчыны).

Гэта азначае, што ўзнікненне гэтага падання дапасуецца, без сумневаў, да часу Мундзука, бацькі Атылы, які аб’яднаў, як кажуць, напачатку IV стагоддзя гунскія, сармацкія і тэўтонскія плямёны ад Дуная да Волгі і пагражаў Візантыі, пакуль Атыла не быў пераможаны знакамітым рымскім вайсковым правадыром Аэцыем і заходнімі готамі (італійцамі) на Каталаўнскім полі. Гэтая акалічнасць ужо адна даводзіць апакрыфічнасць біблейскага прадказання «Іезекііл», дзе таксама згадваюцца абодва народы, так што і без майго астранамічнага вылічэння часу Іезекііла (453 г. нашай эры) яго давялося б дапасаваць да прамежку паміж узнікненнем Апакаліпсіса і Карана, што бачна і із поўнага падабенства іхнай агульнай ідэалогіі і са складу выказванняў ва ўсіх трох кнігах, маючых прыкметы той жа самай эпохі.

# Глава VII.
## Паданні Карана пра ізраільцянаў і пра жыдоў.

Надзвычай цікавымі з’яўяюцца некаторыя месцы Карана пра ізраільцянаў, якіх ён у VII стагоддзі нашай эры называе яшчэ існуючымі, тым часам як згодна з сучаснымі уяўленнямі яны былі раскіданы і знішчаны яшчэ ў 23 годзе да пачатку нашай эры, г.азн. больш за 1000 гадоў да ісламітаў і іхнага «Славутага» (Магамета), так што ад іх заставаліся толькі юдэі, якіх Каран згадвае асобна:

Вось некалькі месцаў пра ізраільцянаў (**2**. 38, 41, 44):

«*О дзеці Ізраіля, згадайце пра дабрадзействы, якімі я абсыпаў вас! Будзьце вернымі маёй дамове і я буду верны вашай, згадайце пра мяне і паверце ў кнігу, якую я паслаў для падмацавання вашых пісанняў. Не будзьце першымі ў адмове паверыць, не набывайце ў абмен за свае знакі прадметы нічога не вартыя. Бойцеся мяне... Ці натхніце вы іншых на добрыя справы тым часам як самі памыляецеся? О дзеці Ізраіля! згадайце пра дабрадзействы, якімі я абсыпаў вас, згадайце, што я ўзвысіў вас вышэй усяго чалавецтва*».

«*Мы паведамілі дзецям Ізраіля* (**17**. 10):

*Жывіце ў гэтай краіне, а калі прыйдзе тэрмін будучага жыцця, мы ўсіх вас збярэм разам. Мы сапраўды паслалі вам Каран, а цябе, – о Славуты! – мы выправілі толькі навучаць і перасьцерагаць*».

«*Мы далі дзецям богазмагальніка кнігу, веды і прарокаў; мы далі ім у ежу выдатныя рэчы і ўзвысілі іх вышэй усіх народаў. Мы далі ім бачыць відавочныя досьледы нашых загадаў, а яны, атрымаўшы ў валоданне мудрасць, пачалі падзяляцца паміж сабой, і гэта дзякуючы злосьці адных да другіх. Валадар твой пад час дня ажывання вырашыць спрэчкі паміж імі*» (**45**. 15-16).

Усё гэта нагадвае толькі пра распадзенне на часткі Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі, да часу завяршэння Карана. Гэта яна мае назву Ізраіль (багазмагальнік) у Каране, і заўсёды пра яе ў ім згадваецца з павагай.

Цалкам іншае стаўленне мы бачым у ім да жыдоў, якія нідзе не называюцца ізраільцянамі, а проста рэлігійнай сектай, аналагічнай хрысьціянам, але больш варожай да ісламу.

«*Напэўна і хрысьціяне і жыды і тыя, якія вызнаюць юдэйскую рэлігію, адным словам кожны, хто верыць у бога і ў апошні дзень, і хто будзе чыніць дабро, атрымаюць узнагароду ад іхнага Валадара*» (2. 59).

«*Бог дамовіўся з жыдамі, што яны будуць тлумачыць людзям Пяцікніжжа, і што не схаваюць яго. А яны кінулі яго праз плячо і прадалі за нікчэмны кошт. Які непрыдатны тавар яны атрымалі замест гэтага! Не думайце, што тыя, якія захапляюцца іхнымі справамі, ці якія хваляцца ўсім, што б яны ні зрабілі, будуць вызвалены ад пакарання. Іх чакае жорсткая адплата*».

«*Мы загадалі сысьці на зямлю Пяцікніжжу* (кажа бог). *Яно ўтрымлівае накірунак да добрага шляху і да сьвятла. Прарокі, праўдзіва вызнаючыя веру, адданыя волі бога, павінны судзіць жыдоў грунтуючыся на гэтай кнізе. Навукоўцы і сьвятары хрысьціянаў павінны судзіць іх грунтуючыся на частках кнігі божай, якую яны захавалі.*

«*Жыды не вераць у Езуса, яны выдумалі пра Марылю жорсткую хлусню*».

Адсюль мы бачым, што аўтары Карана лічылі юдэйства адной із тагачасных паважаемых рэлігій.

Усё гэта адразу скасоўвае ў чытача, сьвядома чытаючага Каран, цэлы шэраг сур'ёзных непаразуменняў.

З боку гледжання звычайнай храналогіі атрымліваецца, што аўтары гэтай кнігі, жывучы ў культурнай прыбярэжнай паласе Аравіі, знаходзіўшайся ў пастаянных караванных стасунках з Візантыйска-Сірыйска-Ягіпецкай імперыяй часоў імператара Гераклія, калі ветразёвыя ягіпецкія караблі хадзілі ўжо амаль не кожны тыдзень і ў Меку, і ў Медыну, дзе быццам бы пісалася гэта кніга, нічога не ведалі пра вялікія і сенсацыйныя падзеі адбываўшыяся ў гэты час у суседніх краінах. Яны як быццам толькі што абудзіліся ад тысячагадовага летаргічнага сну, ці нават хутчэй ад двух, кожны роўны палове тысячагоддзя. Яны выдатна памятаюць пра Абрама і Лота і пра вывяржэнне, загубіўшае Садом і Гамору, і адбыўшаяся, як нас пераконваюць, у Сірыі за 3500 гадоў да стварэння Карана, але нічога не ведаюць пра дастаткова нядаўнія для іх жахлівыя вывяржэнні Вязувія, знішчыўшыя Геркуланум, Пампею, Стабію, дым якіх далятаў да самой Аравіі.

Праспаўшы потым пасьля біблейскага знішчэння Садома каля $3^1/_2$ тысяч гадоў, яны прачынаюцца на некалькі дзясяткаў гадоў, і ведаюць пра Саламона, Давыда, і некалькіх біблейскіх пракрокаў, накшталт Ёны, праглынутага рыбай, пасьля чаго зноў засынаюць летаргічным сон на 500 гадоў, і прачнуўшыся напачатку нашай эры, бачаць Яна Хрышчэльнніка, Захарыю, Хрыста і яго апосталаў і тут жа размяшчаюць у выглядзе дзядзькаў Езуса двух дзеячаў, якія прыпісваюцца зараз аддаленаму ад яго перыяду – Майсея і Арона. А прачнуўшыся ў трэцці раз ад шматвяковага забыцця, пад час якога яны праспалі ўзнікненне і разбурэнне сусветнай рымскай імперыі, Канстанцыя Хлора і такія важныя рэлігійныя падзеі, як хрысьціянства і Сусветныя царкоўныя саборы IV, V і VI стагоддзяў, аўтары Карана ўяўляюцца нам ужо цалкам страціўшымі слых і зрок. Яны нічога не бачаць больш навокал і, падобна састарэлым і ўжо страціўшым розум стагадовым бабулям, памятаюць толькі падзеі свайго юнацтва, імгненна забываючы пра сучасныя.

Аднак увесь характар прыведзеных намі для ўзору гімнаў, у якіх чуецца сапраўдная паэзія, і большасць іншых паданняў Карана супярэчаць уяўленням пра крайне старэчы ўзрост яго аўтараў ці пра іхнае абуджэнне з поўнай стратай зроку і слыху, пасьля двух ці трох шматвяковых летаргічных сноў... ды і самі гэтыя сны, у ролі тлумачэнняў відавочных прабелаў Карана, могуць задаволіць усебакова адукаванага чалавека толькі ў фантастычнай казцы, а не ў рэчаіснай гісторыі.

І вось мы бачым, што ніякага іншага тлумачэння дзіўных асаблівасьцей гістарычнай часткі Карана не можа існаваць, акрамя таго зруху храналогіі, да якога мы ўжо прыйшлі грунтуючыся на гісторыка-астранамічных меркаваннях. Усё, што паведамляе Каран, мае дачыненне не да аддаленых ад яго стагоддзяў, а непасрэдна папярэднічаўшых яму. Аўтары Карана не праспалі разбурэнне Геркуланума і Пампеі, а апісалі іх пад найменнямі Садома і Гаморы. Яны не праспалі ўзнікненне адзінабожжа, у выглядзе арыянства, і не памылкова апісалі Арона і Майсея ў якасьці дзядзек евангельскага Хрыста, таму што яны сапраўды былі яго непасрэднымі папярэднікамі, заснавальнікамі арыянства, як першай ступені для пераходу да наступнага юдаізму, праваслаўя і да самога магаметанства, на якія падзялілася арыянства, а пад народам-багазмагальнікам (ізраілем) Каран, як і Біблія, – якая таксама мае ўсе прыкметы стварэння ў V і VI стагоддзях нашай эры – мае на ўвазе грамадзянаў Вялікай імперыі Аўрэліяна, Дыяклетыяна і Канстанцыя Хлора, якія далі падставы да ўзнікнення легенды пра Савуля, Давыда і Саламона.

Звернем яшчэ ўвагу і на тое, што ў Каране паведамляецца пра ўласны народ бога, пра так званых далучаных, г.зн. арабаў (ад жыдоўскага слова «араб» –

дамяшаны, далучаны). Падобна таму як хрысьціянства пад канец сярэдневечча прыдумала сабе паходжанне із палестынскага Эль-Кудса, назваўшы яго Ерусалімам, так і далучаныя пачалі прыпісваць сваё паходжанне із Аравійскай паўвыспы, хаця яна так жа мала падыходзіць для культурнага кіравання сьветам, як і Эль-Кудс.

«*Мы зрабілі з вас, о, далучаныя* (арабы)! – выказваецца Каран, – *народ пасярэднічаючы, каб вы былі сведкамі* (пра бога) *перад тварам усіх людзей і каб апостал ваш быў сведкам перад вамі*» (**2**. 137).

«*Мы бачылі цябе* (о, далучаны!) *паварочваючым твар на ўсе бакі неба. Мы жадалі, каб наперад ты паварочваўся да краіны, якая табе падабаецца, да краіны сьвятой сядзібы малітвы. У якім бы месцы вы ні былі, паварочвайцеся, молячыся, у гэты бок. Тыя, якія атрымалі Пісанне, ведаюць, што тут праўда, паходзячая ад валадара, і бог не абыякавы да іхных спраў*» (**2**. 139).

Аднак жа не ўсе далучаныя ў Каране завуцца вернымі богу (**9**. 100-104).

«*Існуюць паміж далучанымі* (арабамі) *пустыні такія, якія вераць у бога, якія глядзяць на міласць, як на сродак наблізіцца да бога і заслужыць малітву прарока. Бясспрэчна міласць наблізіць іх да бога; ён* (бог) *возьме іх пад сваё літасьцівае заступніцтва, бо ён цярплівы і міласьцівы. Старэйшыя, першыя паміж магаджэрамі і інсарамі і перанімаўшыя іхныя добрыя паводзіны, будуць узнагароджаны богам, калі ён будзе задаволены імі. Ён абяцаў ім сады, абводненыя струменямі вады. Там яны будуць жыць вечна. Гэта вялікае шчасьце. Але існуюць паміж далучанымі пустыні, жывучыя каля вас, і паміж жыхарамі Ясрыба, людзі загрубелыя ў крывадушнасьці. О, Славуты! ты не ведаеш іх, але мы ведаем. Мы пакараем іх двойчы. «Некаторыя із іх прызналіся ў сваіх памылках і такім чынам перамяшалі добрыя ўчынкі з учынкамі благімі. Магчыма бог даруе ім, таму што ён цярплівы і літасьцівы. Атрымай міласць ад іхнай маёмасьці дзеля ачышчэння іх і здымання з іх грахоў; маліся за іх, бо твае малітвы вернуць ім спакой. А Бог чуе і ведае ўсё*».

Не пажаданы богу таксама і тыя із арабаў, якія лаюць «ваяроў за веру» з нагоды падаткаў на іхнае ўтрыманне (9. 80-82).

«*Што ж да тых, якія ганяць веруючых за прыманне самаахвотных міластынь, атрымліваемых з вялікімі намаганнямі кпячымі над імі. Іх у сваю чаргу абсмяе бог. Іх чакае жахлівае пакаранне. Маліся пра дараванне іх ці не маліся, усё адно! Калі ты памолішся семдзесят разоў, бог не даруе іх, бо яны не вераць ні ў бога, ні ў яго апостала. Бог не выправіць бязбожных, якія заставаліся пры сваіх агменях падчас паходу да Табука. Яны былі рады застацца ззаду прарока, ім было непажадана змагацца разам са сваёй маёмасьцю і сваімі людзьмі на боскім шляху. Яны казалі:*

*– Не ходзіце на вайну падчас такіх жараў!*

*Адкажы ім: – Жар пякельнага полымя яшчэ гарачэйшы.*

*Ах, калі б яны гэта разумелі!*

Тое ж самае паўтараецца і ў 48 главе (**48**. 11):

«*Далучаныя пустыні, якія застаюцца ззаду вас і не пойдуць на вайну, прыйдуць сказаць табе: – Нашы статкі і нашы сямействы не давалі нам магчымасьці ісьці за табой. Маліся богу, каб ён дараваў нашы грахі.*

*Але іхныя вусны вымаўляюць тое, чаго няма ў іхных сэрцах.*

«*Адкажы ім: – Хто ў стане змагацца з богам, калі ён пажадае наслаць на вас бедства ці зрабіць вам нейкае дабро? Бог ведае вашы ўчынкі*».

Горад Мека згадваецца ў Каране толькі некалькі разоў, а самае цікавае тое, што адзін раз пра яго гаворыцца пад найменнем Векі, ці Бекі[77] (3. 90-91):

---

[77] Па-грэцку, па-жыдоўску, і па-арабску, гук "б" вымаўляецца прыдуўным спосабам, як сярэдні паміж "б" і "в"

«*Першы храм, заснаваны сярод людзей, гэта Вэкскі. Ён быў заснаваны, каб быць бласлаўлёным і служыць накіравальшчыкам чалавецтву. Вы пабачыце там сьляды відавочных дзіваў. Там стан Бацькі-Рыма. Хто заходзіць у яго агароджу, той мае сховішча ад якой бы то ні было небяспекі. Здзейсніць вандроўку ў яго, абавязак перад богам для кожнага, хто ў стане гэта зрабіць*».

Але ў астатніх выпадках ужываецца слова Мека (**95.** 1-6):

«*Клянуся смакаўніцай і масьлінай, гарой Сінаем, сьвятой акругай Мекі, што мы стварылі чалавека самым найлепшым. Потым мы скінулі яго на самую нізкую прыступку ўсходаў, выключаючы веруючых творачых дабро: гэтым будзе найвялікшая ўзнагарода*».

Медына мае назву Ясрыб (33. 13), а яе сучасная назва паходзіць ад Медынэт-эн-Неві (горад прарока).

Паразважаем жа крышачку над толькі што павядомленым.

Слова араб, як мы бачым, пазначае не расу і не нацыю, а рэлігію, таму што яго першапачатковым сэнсам з'яўляецца – далучаны, г.азн. далучаны да ўжо існаваўшага веравызнання. Слова Каран па-арабску азначае проста – Кніга для чытання, тое ж самае, што і Біблія па-грэцку. Мова, на якой напісана гэтая кніга, як і лацінка, і старажытна-жыдоўская мова, не існуе, як гутарковая ні ў аднаго народа, але самай блізкай да яе мовай з'яўляецца старажытна-жыдоўская. Арабісты пераконваюць, што на мове Карана размаўлялі геджасцы ў V стагоддзі нашай эры ў Аравіі, але гэта толькі здагадка, а фактам з'яўляецца толькі тое, што мовы Карана, як народнай, нідзе не існуе, а існуюць толькі надзвычай блізкія да яе семітычныя гаворкі: сірыйская, ягіпецкая, берберыйская і некалькі аравійскіх. Із гэтых мясцовасьцей, і перадусім верагодна із культурнага Ягіпта, а не із непладзючых аравійскіх стэпаў, выйшла карэйшыцкая мова[78], на якой напісаны Каран і якая пад час сярэдневечча зрабілася мовай культурных станаў па ўсёй паўночнай Афрыцы і ў паўднёвай Яўропе, асабліва ж доўга ў Гішпаніі.

Слова Магамет азначае проста «славуты», накшталт як «праваслаўны», і таму яно не з'яўляецца імем, а найменнем нейкай міфічнай ці рэчаіснай асобы, і ў Каране яно ўжываецца ў большасьці выпадкаў так, што яго можна палічыць за простае звяртанне да чытача, накшталт таго, як рускія сяляне на сваіх сходах да апошняга часу пачыналі свае прамовы словамі: «праваслаўныя, паслухайце, што я скажу!».

Галоўным месцам мяркуемай дзейнасьці пашыральніка гэтай «далучэнчаскай рэлігіі» ў Каране называецца не Медына, а Ясрыб. А наконт таго, што замест Мекі, у самым важным месцы Карана дзе гаворка ідзе пра горад сьвятога ісламіцкага храма і пра месца сьвятога штогадовага пілігрымства, названа Века, можна ўпэўнена сказаць, што гэта не апіска, таму што такая назва захавалася ва ўсіх копіях. Гэтае слова вельмі нагадвае італійскае слова vecchia – старадаўні, як і да гэтага часу ў Італіі завецца Чывіта Векія, і да гэтага часу служачая гаванню для Рыма, хаця і знаходзіцца ад яго на адлегласьці ройнай 71 кіламетру. Яна і зараз вядома сваімі гаючымі сернымі крыніцамі, марскімі купальнямі і вельмі старажытнымі руінамі, і ва ўсякім выпадку не цяжка пабачыць, што ў Каране найменне Века было першапачатковым ужо грунтуючыся на адным тым, што яго потым перасталі ўжываць, – тады як горад Мека існуе і зараз. А Медына азначае проста сталіца, і ў Ягіпце існуе нават лепшая – Медынет-Эль-Фаюм.

Усё гэта – разам з тапаграфічнай немагчымасьцю весьці паспяховую наступальную (хаця б і рэлігійную вайну з Ягіптам з такой малалюднай глухмені як

[78] Ці мусульманская, г.азн. прававерная, ад маслем – прававер'е.

аравійскі Геджас, – вымушае нас сур'ёзна перагледзець і час, і месца ўзнікнення ісламіцтва пакідаючы ў баку гістарычныя наданні, атрыманыя намі з мала праўдападобных першакрыніц.

# Глава VIII.

## Каран пра норавы, культуру і тэалогію свайго часу.

Грунтуючыся на згадваннях Карана пра культуру яго часу даводзіцца зрабіць выснову, што адзіным спосабам здабывання полымя тады быў (акрамя захавання тлеючых вуглёў) шараванне адзін аб адзін кавалачкаў дрэва (**36**. 77- 80).

– «*Ці звярталі вы свае позіркі* – выказваецца бог – *на полымя, здабываемае вамі з дапамогай шаравання? Ці вы стварылі дрэва, вырабляючае вам яго, ці ж мы? Мы мелі намер зрабіць із гэтага павучанне і карысную рэч для вандруючых у пустыні*» (**56**. 70-72).

Згадваецца таксама і пра мараходства (32. 30-31), а пра жалеза і медзь вельмі часта, хаця і не пазначаюцца рудні, із якіх яно здабывалася б у Аравіі.

Із сямейнага жыцця «Славутага» паведамляецца толькі пра дзіўнае вяртанне дахаты яго маладой жонкі Айшы з маладым агаранінам пасьля яе адсутнасьці на працягу цэлага дня, што дало нагоду да ліхаслоўя, але яна была апраўдана «Славутым», таму што не было знойдзена ніводнага сведкі пра яе заганныя паводзіны падчас такога ўчынку.

– «*Калі вы пачулі пра гэтае абвінавачванне,* – выказваецца аўтар ад яго імя, *–то ці не думалі ўнутрана веруючыя абедзьвюх стацей пра гэтую справу з добрага боку? Ці не казалі яны думаючым ліха: гэта відавочная хлусня!*»

«*Чаму паклёпнікі не прывялі чатырох сведак? Але калі б яны нават і маглі іх прывесьці, то падманулі б перад богам*» (**24**. 12-13).

Але гэтая прыгода Айшы відавочная прыдумка для тлумачэння таго факту, што ўсім жанчынам было загадана насіць пакрывалы на тварах ад імя бога, сказаўшага «Славутаму» (**33**. 59):

– «*О прарок накажы сваім жонкам, дочкам у жонкам усіх вернікаў апускаць пакрывалы да нізу. Так будзе лягчэй дасягнуць таго, каб яны не былі ні пазнанымі, ні абгавораны. Бог цярплівы і літасьцівы*».

І яшчэ (**33**. 32):

«*О жонкі прарока! Вы не тое, што іншыя жонкі! Калі вы баіцеся бога, не паказвайце занадта ласкі ў сваіх словах чужым із баязі, каб мужчына, сэрца якога заражана слабасьцю, не меў бы да вас ганебных жаданняў. Вядзіце заўсёды размову сьціпла*».

Само сабой зразумела, што было б смешна падумаць нават і на хвіліну, што такая непрыемная для жанчын і дзяўчат навіна, як вечнае закрыванне сваіх твараў ад усіх мужчынскіх позіркаў, акрамя свайго бацькі і чалавека, і пашырэнне гэтага звычаю на вялізныя вобласьці зямнога шара магло быць вынікам двухсэнсоўнай прыгоды жонкі аднаго раўнівага рэлігійнага фанатыка. Гэта не больш праўдападобна, чым разбурэнне цэлага горада ад аднаго ўдару молатам. Падставы такога гістарычнага факта павінны мець агульны характар, ды нам не цяжка і аднавіць іх. Усе асаблівасьці паміжстацевых дачыненняў нашага часу і мінулых стагоддзяў цалкам зразумелыя.

Моцнае развіццё эратызму пры пераходзе чалавека ад чыста назіральнага і рэфлектыўнага малпападобнага стану да чалавечага, усведамляючага

падстававасць падзей, і пераймальнасць дзяцей паводзінам дарослых разам з нічым не стрымліваемай вольнасьцю стацевай дачыненняў і вынаходлівасьцю ў спосабах яе задавальнення стацевых жаданняў мелі наступствам перадусім тое, што ў дзяўчынак так часта пачалі адбывацца пашкоджанні, забруджванні і запаленні вагіны, што сама ж хвароба выпрацавала супраць сябе і лекі ў выглядзе зрашчэння сьценак ваціны, ператварыўшагася, ад аднастайнага паўтарэння амаль ва ўсіх у цнатлівую плеўку, якая цалкам адсутнічае ў астатніх нездагадлівых жывёл[79]. Яна зрабіла немагчымым для дзяўчынак уводзіць із цікаўнасьці ў свае стацевыя органы розныя прадметы, але сам эратызм не мог быць знішчаны, таму што гэта мела б наступствам спыненнем існавання ўсяго чалавечага роду. І вось, калі чалавецтва вельмі ўшчыльнілася пры аседлым жыцці, і вольнасць паміжстацевых дачыненняў непазбежна пачала прыводзіць да шкодных для працягвання роду празмернасьцей, эвалюцыйныя і відазахоўваючыя фактары прыроды і самога жыцця выпусьцілі на сьвет некалькі відаў венерычных мікробаў. Дзякуючы ім, як я ўжо паведамляў у пятым томе «Хрыста», пачало стварацца ўяўленне пра нястрыманасць у стацевых дачыненнях, як пра нешта вельмі грэшнае, і выпрацавалася ахаўваемая законам пажыццёвая сям'я і радавы побыт.

Пры аднажонстве гэта дасягала мэты, а пры шматжонстве для самай беднай часткі мужчынскага насельніцтва нехапала жанчын, і ў іхным асяроддзі пачалі развівацца ненатуральныя заганы, а ў асяроддзі заможнай часткі насельніцтва шматлікія жонкі заставаліся мала задаволенымі ў стацевым дачыненні, і ў іх з'явілася патрэба заводзіць сардэчныя інтрыгі з чужымі, хаваючы іх ад сваіх занадта запатрабаваных законных чалавекаў.

Тым нічога не заставалася як замкнуць іх у гарэмах, і дазваляць выходзіць да родных толькі пад чадрой, што ахвотна было засвоена і астатняй часткай насельніцтва, бо было лепшай гарантыяй таго, што кожная асабліва прыгожая дзяўчына адразу ж не патрапіла б у рукі мясцовага валадара і не змарнела ў яго гарэме. Калі сама дзяўчына яшчэ і не разумела карысьці чадры пры такіх умовах для сябе, то яе бацькі гэта вельмі добра разумелі.

Мы бачым із гэтага, што чадра на магаметанскім Усходзе атрымала ўсеагульнае прызнанне не з нагоды простай раўнівасьці шматжонных мужчын, але і як абарона юных і прыгожых дзяўчат ад магутных шматжонцаў, і павінна была трымацца ў краінах узаконіўшых шматжонства, аж да скасавання гэтага біялагічна і сацыяльна шкоднага ўсталявання.

Параўнаўшы ўсё гэта з ужо пазначанымі мной раней нагодамі ўнікнення звычаю абразання, пашыранага ў тых жа тэакратычна арганізаваных шматжонных дзяржавах, і з развіццём манаства і нават скапецства, як антытэзы вольнага кахання ў хрысьціянскіх народаў, мы бачым, якімі разнастайнымі сродкамі бараніла прырода, ды і само грамадзкае жыццё, далейшы працяг існавання чалавечага роду. Паразважаўшы над усім гэтым, мы прыходзім да ўпэўненасьці, што тыя ж самыя біялагічныя і грамадзкія фактары жыцця выпрацуюць радыкальныя, хаця магчыма і вельмі суровыя сродкі і супраць навейшых стацевых пераіначванняў, пашырыўшыхся ў некаторых краінах, самых шкодным із якіх з'яўляецца вытраўленне зародкаў будучага чалавецтва яшчэ ў жываце яго маці. Ці зробіць прырода дзеля яго спынення больш моцным даўні інстынкт мацярынства, ці паслабіць эратызм абедзьвюх стацей да поўнага наступлення стацевай сталасьці ці

[79] Заўвага перакладчыка: плеўка існуе не толькі ў чалавека, яна ёсць у вышэйшых малпаў і некаторых відаў антылоп.

біблейскае паданне пра нашчадкаў Анона, вынішчаных Грамабоем з твару зямлі за ананізм, выявіцца прароцкім для цэлых сучасных нацый, лічачых сябе культурнымі, гэтага яшчэ немагчыма сказаць у наш час. Сродак хутчэй усяго будзе цалкам нечаканым, але без сумневаў знойдзецца ў невядомых сховішчах арганічнага жыцця на Зямлі. Мінулае ручаецца за будучыню, і род чалавечы не спыніцца нават і тады, калі магаметанскія жанчыны скінуць із сябе чадру.

А на пытанне – ці даўно яны яе носяць? – можна амаль безпамылкова адказаць, што наўрад ці больш чатырох ці пяці соцень гадоў. Рамантычная прыдумка пра Айшу відавочна сведчыць, што гэтая легенда створана ў такі час, калі пра дзеячаў VII стагоддзя нашай эры можна было ўжо пісаць што заўгодна, не баючыся ні кпінаў, ні аспрэчвання сведак.

Мне застаецца тут сказаць толькі некалькі слоў пра тэалогію Карана. Адзіны бог у ім заўсёды мае назву Алаг, аналагічна сірыйскаму Аліга, біблейскаму Элі і грэцкаму Эліа (Сонца).

«*Калі б мы загадалі,* – паведамляецца на заканчэнні главы 59, – *падняцца Карану на гару, то ты пабачыў бы, што яна зніжаецца і распадаецца ад баязні перад богам. Бог ведае бачнае і нябачнае. Ён міласьцівы, літасьцівы, ён цар, сьвяты, ратавальнік, верны, захавальнік, моцны, маючы магчымасць, узнёслы, ён Слава Бога. Ён бог адзіны, ствараючы, вырабляючы, утвараючы. Лепшыя імёны належаць яму*».

Такое вучэнне пра шматлікасць найменняў бога ўзнікла, відаць із 19 главы Апакаліпсіса, таксама пусьціўшай шматлікія парасткі ў галовах жыхароў сярэдневечча. Пагледзіце на яе і вы пабачыце там тую ж самую ідэю.

Існуе кніга на карэйшыцкай мове «Тысяча і адно імя Ўсявышняга бога і іхная магутнасць» надрукаваная ў Казані ў 1858 годзе, дзе ў прадмове паведамляецца, што згодна з паведамленнем Ібн-Абаса гэтыя імёны былі павядомлены «Славутаму» (Магамету) у медынскай мячэці анёлам боскім Віцязем (Гаўрыілам), які з'явіўся да яго і сказаў:

– «*Усявышні валадар вітае цябе і пасылае табе гасьцінец, якога не пасылаў ніводнаму іншаму прароку*.

*– Які гасцінец? – запытаў Славуты.*

*– Тысяча і адно імя бога, вартасьці і ўласцівасьці якіх вядомыя яму аднаму. Ніхто іх не ведае, акрамя яго*».

Тут відавочнае перайманне із Апакаліпсіса (гл. 46, 12), дзе гаворыцца пра Хрыста: «*Ён меў імя напісанае, якога не ведаў ніхто, акрамя яго самога*».

Усе гэтыя імёны, – сцвярджае аўтар кнігі на падставе «сведчання старажытных мудрацоў», – утрымваюцца ў малітве Эль-Джоушэн-Эль-Кебір, і той, хто яе прачытае, атрымае такую ж узнагароду, як прачытаўшы адно за другім: Чатырохкніжжа Майсея, Евангелле, Псалтыр, Каран і Скруткі Абрама. Яна мае назву «малітва броні».

Само сабой зразумела, што я не маю намеру забраніраваць гэтай «малітвай» маю кнігу ад чытача і таму не паўтараю яе цалкам, а жадаючы забраніраваць сябе такім спосабам хай прачытае яе ў маёй першакрыніцы[80].

Але і гэтага выявілася мала. У кнізе «Джамігі Асман-Лляг (зборнік імёнаў боскіх)»[81] паведамляецца, нарэшце, і пра 4000 імёнаў бога, хаця цалкам зразумела, што на мове Карана няма такой колькасці карэнных слоў.

---

[80] Яна размешчана на стр. 107 і ў 17 нататцы ў кнізе Г. Саблукова "Пра імённы боскія».

[81] Саблукоў, стар. 125.

І вось Сарбадый у сваім тлумачэнні на Каран паведамляе што із гэтых 4000 імёнаў – тысячу ведае толькі сам бог, тысячу – анёлы, тысяча ўтоена на «захоўваемай у таямніцы скрыжалі», пра якую паведамляе Каран (85. 21-22), а із чацьвёртай тысячы жыды і хрысьціяне ведаюць 900, а магаметане толькі 600.

Але колькі імёнаў ні налічвалі б у бога навейшыя мусульманскія аўтары, аднак усе яны згодны, што сярод іх існуе адно, якое мае назву Вялікае імя. Варта яго вымавіць і ўсё, чаго ні папросіш – выканаецца. Яго ведаў Ной і таму шчасліва выратаваўся ад патопу, і гэтым імем Бацька-Рым (Аб-Рам)ператварыў полымя, у якое яго загадаў кінуць Немрад, у кветнік. Дзякуючы таму, што яно было напісана на камені пярсцёнка Цара-Міратворца (Саламона па-жыдоўску), яму падначальваліся ўсе істоты, якія існуюць паміж небам і зямлёй і ў глыбіні марской, усё перы, і людзі, і птушкі, і аблокі, і вятры, і казуркі.

Кніга «Рассыпаны Жэмчуг» (Аль-Дуруль Мансюр) сцвярджае, што з дапамогай гэтага імя і евангельскі Хрыстос здзяйсняў усе свае дзівы, і тое ж самае могуць рабіць зараз усе, умеючыя вымавіць яго як належыць. Яно ўтрымліваецца, раздрабніўшыся на часткі, у наступных шасьці недаступных імёнах бога:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Фярд | Хайй | Кайюм | Хакям | Гадль | Куддус |
| Адзіны | Жывы | Вечны | Суддзя | Правасудны | Сьвяты |

Яго напісанне змяшчаецца ў кнізе «Шлях Выратавання», але ніхто не ведае, як патрэбна скласьці і вымавіць таямныя знакі.

А ў прадмове да кнігі: «Тлумачэнні на Фікгі акбяр» аўтар Галія аль-Карыя выказваецца:

«*Вялікім імем божым з’яўляецца Аллаг, але пры ўмове, каб пры яго вымаўленні ў тваім сэрцы не было нічога, акрамя яго, інакш яно губляе сваю магутнасць*».

Такім чынам патлумачаны дзва патрабаванні: названа і Вялікае імя бога, і патлумачана адсутнасьць дзіваў пры яго вымаўленні: у сэрцы заўсёды было нешта акрамя яго...

Само сабой зразумела, што не ведаўшыя тэалагічных дакладнасьцей маглі зрабіць із гэтых імёнаў некалькі тысяч асобных богаў, а для дасведчанага – справа тлумачыцца ў вышэйшай ступені проста: усе гэтыя боскія імёны з’яўляюцца толькі хвалебнымі эпітэтамі яму, і калі мы перакладзём іх на рускую мову, то атрымаем: сонечны, заўсёды існуючы, жывучы, вечны, першы, апошні, старажытны і г.д. і г.д.

Ці не тое ж самае, – дадам я, – адбылося і са шматлікімі найменнямі і тытуламі старажытных імператараў і грамадзкіх дзеячоў, дзякуючы чаму сярэднявечныя аўтары із кожнай тагачаснай славутасьці зрабілі цэлыя дзясяткі розных, як я пра гэта ўжо паведамляў у першых кнігах майго дасьледавання і пакажу яшчэ і тут, і ў апошняй.

Але вернемся да Карана, каб канчаткова пазнаёміцца з яго тэалогіяй.

«*Бог з’яўляецца сьвятлом нябёс і зямлі* – паведамляецца ў главе 24 (ст. 35). *Гэтае сьвятло як агмень, на якім знаходзіцца свяцільня, змешчаная ў крышталі, а крышталь падобны зіхацячай зорцы. Свяцільня запальваецца маслам блаславёнага алейнага дрэва, якога няма ні на Ўсходзе, ні на Захадзе, і масла якога блішчыць, калі нават не дакранаецца да яго полымя. Гэта сьвятло на сьвятло. Бог вядзе да сьвятла, каго пажадае, і прапануе людзям прыпавесьці, таму што ён ведае ўсё*».

Такім з’яўляецца паэтычнае апісанне бога ў вобразе свяцільні. А вось і яго справы:

– «*Мы стварылі за шэсць дзён*, – выказваецца ў Каране бог пра сябе самага, – *і нябёсы і зямлю, і ўсю прастору, якая іх падзяляе, і ўсё ж мы не адчувалі стомленасці*» (**50**. 37).

«*Бог аддзяляе плод ад яго ядра* (**6**. 95-99), – выказваецца адзін із аўтараў Карана, – *ён загадвае выходзіць жыццю із таго, што памёрла, і сьмерці із таго, што жывое. Такім з'яўляецца бог! Навошта ж вы аддаляецеся ад яго? Ён загадаў мігацець світанку, ён усталяваў ноч для адпачынку, а Сонца і Месяц для злічэння часу. Такім з'яўляецца наканаванне мудрага, дасьведчанага. Гэта ён, размясьціў зоркі на небе для вас, каб вы кіраваліся імі ў цемры, на зямлі і на моры. Мы загадалі ім усюды ззяць знакам для тых, хто іх разумее. Бог той, хто вырабіў вас* (людзі*) ад аднаго чалавека; вы мелі ёмішча ў вантробах бацькаў вашых і заклад у вантробах вашых маці. Мы далі знакі для тых, хто разумее іх. Ён той, хто аддае загад сыхадзіць вадзе з неба. Ёю мы вымушаем расьці зеляніну кожнай расліны: ёю мы вырабляем ствол, адкуль вырастаюць размешчаныя шэрагамі зярняты. Мы вырабляем пальмы, галінкі якіх даюць вялікія гронкі, і сады ўсеяныя вінаградам, і масліны, і гранаты, якія падобны ці разлічаюцца адны з другімі. Кіньце пагляд на іхныя плады, разгледзьце іхную пладавітасць і іхную спеласць*».

– «*Мы загадалі ісьці каменнаму дажджу і якім жахлівым быў гэты дождж, падаўшы на людзей, якіх мы дарэмна перасьцерагалі*!» – выказваецца бог у 25 главе Карана (ст. 59) пра гістарычнае вывяржэнне Вязувія, злучаючы яго, як і Біблія, з імем Лота (латыняніна).

І яшчэ (**51**. 47-49):

– «*Мы пабудавалі неба сваімі рукамі і напэўна мы зрабілі яго згодна са сваёй воляй. Мы пашырылі зямлю як дыван. З якім мастацтвам мы пашырылі яе! У кожнай рэчы мы стварылі пару для таго, каб вы разважалі*».

А ў якасьці характарыстыкі тагачаснага сьветапогляду, прывяду цалкам яшчэ 86 главу, у арыгінале маючую назву: «Начная зорка» (86).

«*Клянуся небам і начной зоркай! Хто дасць табе даведацца што такое начная зорка? Гэта зорка, якая кідае дзіды* (Рэгул ад якога ляцяць метэарыты-Леаніды). *Кожная душа мае вартавога, назіраючага за ёю. Ды разгледзіць чалавек, із чаго ён створаны! Із кроплі разліўшайся вады, выйшаўшай із чрэслаў і грудной косткі! Напэўна бог можа яго ажывіць і ўсё таемнае будзе выяўлена. У той дзень не будзе ніякай магутнасьці і апоры, акрамя як у богу. Клянуся небам, здзяйсняючым свае абарачэнні! Зямлёй, расчыняючайся дзеля стварэння расьлін! Праўда, што Каран – слова вырашаючае. Гэта не пустая гаворка. Яны* (людзі) *прыводзяць у здзяйсненне свае задумы, а я прывяду да здзяйснення свае. Дай няслушным адтэрміноўку, пакінь іх на некаторы час у спакоі*».

Пра нябесны рай Карана я прывяду толькі месца із 76 главы (12-19):

«*У якасьці ўзнагароды* (верным) *за іхную цьвёрдасць ён даў ім рай і шаўковае адзенне. Там, седзячы на стуліках, яны не адчуваюць ні сонечнага жару, ні марознага холаду. Суседнія дрэвы накрыюць іх сваім ценем і іхныя плады апусьцяцца для збірання без якога б то ні было намагання. Для іх вымусяць круціцца срэбныя вазы і кублі як жбаны: жбаны срэбныя, напоўненыя ў належнай меры. Усе будуць напоены із чарак, напоўненых сумессю з імбірам, із размешчанай там крыніцы, маючай назву Зель-зебіль. Ім будзе прыслугоўваць кружок дзяцей вечна юных* (херувімы хрысьціян). *Пабачыўшы іх, ты палічыш іх за нанізаны жэмчуг*».

І яшчэ ў 37 главе (39, 47):

«*Верныя слугі бога атрымаюць каштоўныя падарункі, абраныя плады, і будуць услаўлены ў Садзе Ўсцех. Адпачываючы на крэслах і гледзячы адзін на аднаго тварам у твар, яны будуць паварочвацца да круглай чаркі, напоўненай вадкасьцю, сапраўднай уцехай тым, якія будуць яе піць. Яна не азмрочыць іхны розум і не ап'яніць іх. У іх будуць*

*панны са сціплым позіркам, з вялікімі чорнымі вачамі і колерам цела, падобным на старанна аберагаемыя яйкі стравуса*».

«*Там будуць маладыя панны са сьціплымі позіркамі, да якіх ніколі не дакранаўся ні чалавек, ні геній* (**55**. 56-58). *Яны будуць ляжаць на пышных пухавіках з пышнымі падгалоўямі і абапірацца на зялёныя падушкі і на цудоўныя дываны*» (56. 72-76).

А традыцыя дадае да гэтага яшчэ наступнае.

Памёршы, – запэўніваюць прававерныя, – спачатку накіроўваецца да двух анёлаў (Накіра і Мюнкіра), якія дапытваюць яго. Калі ён вельмі грэшны, яго зараз жа караюць, а ўжо потым ён чакае жахлівага суда. Як і ў вучэнні хрысьціян, кожны памёршы ажыве і яго ўчынкі будуць ўзважаны на вялізных нябесных шалях. Потым яго правядуць па тонкаму, як валасінка, масту Сырат, што азначае, «шлях», г.азн. экліптыка. Грэшнікі, – пераконвае ісламіцкае вераванне, – упадуць із экліптыкі і зваляцца непасрэдна ў пекла, якое распасьціраецца на сем сажаняў у глыбіню.

Правяднікі ж пройдуць па экліптыцы ў рай, шыкоўны сад, поўны цудоўных пладовых дрэваў. Іхнае густое лісьце дае суцяшальную прахалоду і пад шатамі дрэваў цякуць рэкі: некалькі звычайных і адна мядовая (Млечны шлях). Там цурчаць фантаны, пабудаваны палацы із каштоўных камянёў. У палацах ідуць бесперапынныя баляванні, на якіх падаюцца смажаныя птушкі і іншыя смачныя стравы. Правяднікі сядзяць, апранутыя ў каштоўнае адзенне, у мяккі шоўк, адзін насупраць другога, каб даць магчымасць пацешыцца гэтымі сваімі ўборамі. Веруючыя і прыемныя чалавеку жонкі будуць суправаджаць свайго чалавека і на тым сьвеце, хаця і там іх становішча будзе залежным і другарадным.

Паданні (хадысы) нашмат больш, чым Каран, распісалі ўсе райскія задавальненні. Вось, напрыклад, што паведамляе Прарок у кнізе, надрукаванай адпаведна з загадам Касым-пашы, вайсковага міністра пры хедыве, у Каіры ў 1872 годзе нашай эры, ад імя шэйха Махмуда-аль-Аліма (стар. 49):

«Ведайце, прававерныя, што нават найменш заслужаны паміж вамі, як толькі зайдзе ў дзьверы рая, будзе сустрэты шматлікімі служкамі, прыстаўленымі для выканання яго загадаў. Яны яму скажуць: – «Сардэчна запрашаем! Даўно ўжо пара, каб наш гаспадар наведаў нас».

Яны пасьцелюць перад ім пышныя дываны, на прасторы сарака гадоў хады. Яны павядуць яго да велічэзнага рубіна, змяшчаючаа 70 памяшканняў. У кожным памяшканні 70 альтанак, а ў кожнай альтанцы ці шлюбным пакоі – ляжыць па гурыі. Яму пакажуць прыгатаваны для яго пакой і пададуць першую райскую ежу, складаючуюся із разнастайных і тонкіх страваў і пададзеных на 70 залатых пасудзінах. А потым павядуць да гурый. Ён пабачыць, што кожная із гэтых нябесных прыгажунь сядзіць на сваім ложку, апранутая ў 70 шматкаляровых адзенняў. Целасклад іх да такой ступені далікатны, што шчасьлівы ўладальнік гэтых прыгажунь пабачыць праз скуру іхных ног нават мозг іхных костак. Ён наблізіцца да першай і праляжыць у яе абдымках сарок гадоў без перапынку, пасьля чаго пяройдзе да другога ложка і знойдзе там яшчэ больш прыгожую гурыю.

Сярод мусульманскіх багасловаў былі спробы патлумачыць гэтыя райскія асалоды ў алегарычным сэнсе, але зараз падобнае тлумачэнне адкінута. У афіцыйным катэхізісе Біргелі, прынятым у турэцкіх і ў нашых татарскіх школах, мы чытаем у главе V, § 7:

«Належыць навучаць, што пекла і рай – праўдзівыя і неаспрэчваемыя, што яны існуюць на самай справе».

Пасьля гэтага, вядома, ужо немагчыма аспрэчваць ні тае, ні другое, і нам зараз застаецца толькі пабываць, падобна Дантэ, і ў пекле і паглядзець, што робіцца там. Гэтае пекла цалкам падобна на хрысьціянскае, акрамя таго, што ў ім расьце вельмі дзіўнае дрэва Цаккум. Вось што паведамляе пра яго Каран (**37**. 60-69):

«*Хіба ваша баляванне, грэшнікі, каштуе даражэй, чым дрэва Цаккум? Мы зрабілі яго прадметам спрэчкі для бязбожных. Гэтае дрэва расьце із глыбіні пекла. Яго вяршыні як быццам дэманскія галовы. Асуджаныы будуць імі сілкавацца і напаўняць страўнік. Звыш таго яны будуць піць кіпячую ваду, а потым вернуцца ў глыбіню пекла, пабачаць сваіх заблудзіўшыхся бацькоў і накіруюцца па іхных слядах. Большая частка старажытных народаў заблудзілася ўжо да іх*»

А потым, як і ў хрысьціянскім пекле (11. 108-09) «*пакараныя будуць кінуты ў полымя. Яны будуць уздыхаць і галасіць і будуць існаваць там да той пары пакуль будуць існаваць нябёсы і зямля, калі бог не пажадае нешта пераіначыць. Бог твой робіць што пажадае*».

Над вось гэтымі двума аддзяленнямі замагільнага сьвету – раем і пеклам – і будзе, згодна з Каранам, панаваць апісаны вышэй, чалавекападобны адзіны і ўсюдыісны, літасьцівы і ўсёведаючы бог на пасадзе, насімым анёламі (**69**. 17), якіх паганцы дарэмна лічаць не сынамі, а дочкамі бога.

«*Яны прыпісваюць богу дачок*», – выказваецца аўтар Карана (**16**. 59) **і я пазначу, што сапраўды ўсе анёлы малююцца на хрысьціянскіх выявах у выглядзе крылатых дзяўчынак**).

«*Яны глядзяць на анёлаў, якія з'яўляюцца боскімі служкамі, як на **жанчын***!» (**43**. 18). «*Яны нічога не ведаюць, яны кіруюцца толькі сваімі здагадкамі. А здагадкі ніяк не могуць заняць месца праўды*» (**53**. 29).

Я выбраў тут із Карана ўсе характэрныя рысы яго тэалогіі і калі чытач знаёмы з біблейскімі кнігамі Псалмоў і Пракокаў, якія прапануюцца нам у перакладах пад імёнамі Ісая, Ерамія, Іезекііл, Данііл і іншых меншых пракокаў, то ён не можа не бачыць, што ў ім той жа самы склад і той жа самы сьветапогляд, а такім чынам, і тая ж самая эпоха тэалагічнай творчасьці. Але дзякуючы таму што Каран пісаўся без сумневаў не раней, як у VII стагоддзі, то і ўсе прароцкія кнігі Бібліі належаць не раней як яго пярэдадню, таму што ён уяўляе сабой толькі іхнае завяршэнне. І ўсё, што ён дадаў, як завяршэнне Бібліі, гэта больш яскравае апісанне райскіх асалод, згодна з узорам зямных, і галоўным чынам эратычных.

Сапраўды Каран з'яўляецца «прароцтвам-пячаткай», пасьля якога быў назаўсёды запячатаны гэты від літаратурнай творчасьці. Калі аўтар Апакаліпсіса быў альфай гэтага накірунку, то аўтар Карана быў яго амегай. Далей ужо ў гэтым накірунку не было чаго пісаць.

Мы бачым, што ў ім ёсць усё, што нам раней выкладалі ў гімназіях і вучэльнях пад назвай «сьвятая гісторыя старога запавету», у ім рэзюмаваны, ці нават змешчаны цалкам, таксама і самыя істотныя евангельскія легенды пра Хрыста.

І калі мы параўнаем сучасны побыт мусульманскіх цароў з біблейскімі апісаннямі побыту Саламона, Давыда, Асы, то пабачым тыя ж самыя гарэмы, тыя ж самыя законы. Сучасныя жыды з іхным аднажонствам больш адхіліліся ад старазапаветнай Бібліі, чым мусульмане. А хрысьціяне аддзяліліся ад жыдоў толькі дзякуючы непаразуменню: у Ароне яны не пазналі Арыя, а ў Езусу Навіну,

увёўшаму богазмагальнікаў у Запаветную зямлю, дзе Млечны шлях цячэ малаком і мёдам, не пазналі евангельскага Хрыста.

Дык у чым жа адрозненне паміж каталікамі, юдаістамі і магаметанамі, г.азн. у рускім перакладзе паміж: праваслаўнымі, богаславячымі і славутымі? Усё тут адно і тое ж, за выключэннем аднаго, што Езус Хрыстос (які і ў Каране таксама абвяшчаецца вялікім прарокам, народжаным дзеўкай, у якую ўвайшло боскае слова) **шматразова і ўпарта аб'вяшчаецца родным пляменікам Майсея і Арона**. **Каран гістарычна пацмацоўвае тое, што атрымліваецца і з нашага боку гледжання, заснаванага на астранамічным храналагізаванні старажытных падзей, атаясамляючага Арона з Арыям, Езуса Рыбу** (Навіна) – **з Езусам Хрыстом** (знакам якога была тая ж рыба) **і з заснавальнікам хрысьціянскага набажэнства Вялікім Царом** (Васілём Вялікім), **над якім пры хрышчэнні ў Ярдане таксама лётаў голуб**.

Такім чынам не ўсе старажытныя першакрыніцы рознагалосяць з маімі астранамічнымі высновамі, а ёсць і такія, і прытым леглыя ў падставу цэлых рэлігій, якія сцвярджаюць тое ж самае, што і я, нават і без ужывання да сваіх цверджанняў таго гісторыка-астранамічнага аналізу, тлумачэнню якога я прысьвяціў увесь пралог чацвёртай кнігі маёй працы, у выглядзе надзвычайнай важнасьці астраноміі для далейшых частак гэтай маёй працы. Вось чаму мой чытач не павінен здзіўляцца, калі я і далей знайду **не адны толькі** астранамічныя падмацаванні, калі буду такім спосабам дапасоўваць да пачатку сярэдневечча і старажытнаягіпецкія іерогліфы, і месапатамскія клінапісы, паступова выяўляючы ў іх відавочныя сляды ўжо хрысьціянскага сьветапогляду, з нагоды чаго і яны натуральна будуць уключаны ў гэта маё дасьледаванне, дзе евангельскі Хрыстос служыць толькі выточным пунктам для маіх агульнагістарычных высноваў.

# Глава IX.

## Хто і калі напісаў Каран?[82]

Як быццам здзейсніўшы кругасветнае падарожжа я зноў вярнуўся да першапачатковай кропкі свайго дасьледавання: хто ж напісаў гэты Каран, імя якога азначае проста «Чытанне»?

Вернікі ісламіты сцвярджаюць, што, напісаў яго «Славуты» (па-карэйшыцку Магамет), якому яго прадыктаваў арханёл Гаўрыіл, пра што я ўжо паведамляў вышэй, а навейшыя арабісты ўжо сцвярджаюць, што выклаў яго ў тым выглядзе, у якім мы яго маем, нехта Заід (Zeid) пры такіх акалічнасцях, белетрыстычнае паходжанне якіх кідаецца ў вочы. Справа адбывалася кажуць нам, – вельмі проста:

– «Я баюся, – сказаў намесьнік Амар намесьніку Абу-Бекру, – што сваркі, даходзячыя да ўзаемнага збіцця, могуць паўстаць паміж памятаючымі выслоўі Карана на памяць, і шмат што з яго можа быць дзякуючы гэтаму страчана. Вось, мая парада табе: дай спешны загад сабраць Каран».

Абу-Бекр, выслухаўшы, пагадзіўся з гэтым і абвясьціў свае жаданне Заіду сыну Таіда, галоўнаму сакратару памёршага прарока.

---

[82] Гл. Sir William Muir: The life of. Mohammad. Чацвёртае выданне пад рэдакцыяй T. H. Weir, Эдынбург 1923 г., а першае выданне было ў 1861 годзе.

– «Ты чалавек малады і разумны, – сказаў ён, – якога ніхто паміж намі не можа ў нечым упікнуць, і ты прызвычаіўся запісваць натхнёныя наданні боскага прарока. Даследуй жа Каран і выкладзі яго складна.

Гэтая прапанова была такой нечаканай для маладога яшчэ Заіда, што ён спачатку напалохаўся і засумняваўся ў сваім праве пачынаць такую справу, якую не зрабіў нават і сам «Славуты» і не загадаў рабіць іншым. Аднак, саступаючы аб’яднаным патрабаванням Абу-Бекра і Амара, ён пачаў паўсюдна шукаць часткі і ўрыўкі, запісаныя на «пласьцінках белага каменя і ў сэрцах людзей», а згодна з іншымі паданнямі «на пергаменце і паперы, на лапіках скуры і больш усяго на лапатках і рэберных костках з'едзеных вярблюдаў і баранаў».

«І вось, намаганнямі Заіда, – выказваецца сэр Вільям Мьюр[83], – гэтыя раскіданыя і смутныя матэрыялы былі за два ці тры гады ўпарадкаваны ў тую паслядоўнасць, у якой мы маем іх зараз».

Прыгатаваны такім чынам арыгінал быў быццам бы аддадзены Амарам (чамусьці) на захоўванне сваёй дачцэ Хаўсе, удаве «Славутага», і гэты асобнік служыў узорам пры жыцці Амара.

«Але разнастайнасць выказванняў, існаваўшых у папярэднічаўшых асобных запісках, ці хутка ўзнікшых ў копіях Зэндаўскага Карана, скандалізавалі ісламіцкі сьвет (the Muslim world was scandalised). Адкрыццё, пасланае з неба, было АДНО, але дзе-зараз яго адзінства?».

І вось, зноў на падмостках з'яўляецца нейкі Зеід згодна з загадам намесьніка Атмана і здзяйсняе нечалавечую справу адшукання рукапісаў Карана «па ўсёй імперыі» (гэта значае ужо падчас Атаманскай імперыі!) для параўнання іх са сваім першым рукапісам, захоўваўшымся ўдавой Хаўсой. І раптам пачынаючы з гэтага часу ўсе далейшыя спісы Карана пачалі перапісвацца без варыяцый, і нават ледзь ці не без арфаграфічных памылак, на той жа самай чыста літаратурнай, так званай карэйшыцкай (г.азн. пастрыжанай) мове, якая не існуе да гэтага часу нідзе ў якасьці народнага говаркі. Ці не дзіва гэта госпадава?!

Я не буду бянтэжыць чытача пытаннем, чаму намесьнік Амар не пакінуў заказанага ім Зеіду ўзорнага Карана ў сваёй уласнай канцылярыі, а аддаў яго ўдаве Хаўсе, якую арханёл Гаўрыіл не навучыў нават чытаць, як навучыў яе памёршага чалавека. Я звярну ўвагу толькі на два асноўныя факты:

1) **Каран напісаны не Магаметам, а Зеідам.**

2) Пазначаная ўсімі арабістамі адсутнасьць варыяцый у Каране і нават адзінства арфаграфіі ў розных яго спісах безумоўна сведчаць, што **ён быў канчаткова адрэгатаваны не задоўга да таго часу, калі яго тэкст быў замацаваны друкавальным станком**, хаця б афіцыйна і значна пазьней лічыліся прыдатнымі для набажэнстваў толькі адны яго рукапісныя асобнікі.

Гэта азначае, што паданне пра другаснае збіранне Зеідам усіх варыянтных рукапісаў Карана па «імперыі» згодна з загадам Атмана можа мець дачыненне толькі да Атмана Заваёўніка, які справядліва мае найменне Асман I, і гэта асабліва таму, што толькі ён заснаваў у 1299 годзе падмурак Асманскай імперыі, называемай намі Турэцкай (атаманскай). Ён памёр у 1326 годзе і таму зразумела, што Каран з таго часу мог застацца без новых варыяцый. З гэтага боку гледжання і аднайменны з ім Асман, зяць Магамета (644-656), і аднайменны з яго Зеідам Зеід з'яўляюцца асобамі апакрыфічнымі, і гістарычнага значэння не маюць.

[83] Sir William Muir: The life of. Mohammad. (выд. 1923 г.), стар. XXX.

Да якога ж стагоддзя дапасуюць гісторыкі самыя старажытныя із маючыхся наяўных зараз рукапісаў Карана? Еўрапейскія габраісты Эпохі Адраджэння паведамляюць, што лісты Зеідавага Карана патрапілі, чамусьці пасьля сьмерці ўдавы-Хаўсы не ў родныя ёй Меку і Медыну, а – куды б вы думалі? – у Гішпанію, у Кордаўскую мячэць. Ісламіт Эдрызі нават апісвае рытуал іхнага захавання. Але гэтыя лісты, не гледзячы на такі рытуал, не захаваліся і там, а патрапілі, – кажуць нам, – чамусьці ў Афрыку ў Фец, ды і там не захаваліся, а зніклі без следу. Ібн-Батута ў XIV стагоддзі паведамляе, што бачыў іх (зноў за тысячы кіламетраў!) у Басры на Шат-Эль-Арабе каля Пярсідзкага заліва і што на іх пры ім захаваліся яшчэ плямы крыві прароцкага намесьніка Амара, забітага ворагамі, і якраз на словах «бог адпомсціць ім за цябе» (глава II, 138).

Усе гэтыя наіўныя падрабязнасьці прыдатныя, вядома, толькі для дзяцей, а для гісторыка застаецца фактам толькі адно тое, што старажытных рукапісаў Карана нідзе няма, і можна быць упэўненым – і не было. Медынскі манускрыпт без сумневаў падкладзены, бо пад канец яго зроблена тэндэнцыйная прыпіска, быццам бы гэты асобнік складзены згодна з даручэннем самога Асмана, чаго відавочна не здагадаўся б зрабіць сапраўдны яго сучаснік. Для Асмана ж гэта і без таго было б вядома, гэта азначае не было патрэбы і пазначаць.

Загадзя прадбачачы, што могуць узнікнуць сумневы ў паходжанні і даўнасьці рукапісу робяцца падобныя засьведчаючыя прыпіскі, а таму яны заўсёды рабіліся і зараз робяцца толькі ў тым выпадку, калі рукапіс прыгатаваны спецыяльна для продажу па вялікаму кошту, і, такім чынам, незадоўга да таго часу, калі ён быў прададзены. Пра ўсё гэта я ўжо паведамляў у чацьвёртай кнізе «Хрыста» (стар. 287 першага выдання), разважаючы пра Алмагест Абул-Вефы, на шмат якіх месцах якога маюцца пячаткі лацінскім шрыфтам з надпісам: ex thesauro librorum sultani supremi Schah-Rokh Behadur (із бібліятэкі вярхоўнага султана Шах-Раха Волата) нават з сучаснай нам нямецкай арфаграфіяй слоў.

Адным із самых важных доказаў вельмі позьняга паходжання Карана з'яўляецца тое, што ў ім ужо забаронены для прававерным азартныя гульні і віно.

«*Вернік*! – выказваецца ён (**5**. 94), – *віно, гульня ў косткі з'яўляюцца справай сатаны, пазбягайце гэтага. Слухайцеся бога, слухайцеся яго пасланніка, будзь асьцярожны*».

Ужо Амар, – пераконваюць нас, – ажыццявіў гэтую забарону, прызначыўшы за п'янства пакаранне пугамі, і з тых часоў прававерныя п'юць віно толькі таемна. А тым часам у зборніку казак, IX-X стагоддзяў «Тысяча і адна ноч» мы яшчэ вельмі часта сустракаем апісанне баляванняў з віном, ды і паважаемы арабскі паэт Абу-Новас (756-810 гг.) праславіўся сваімі разнастайнымі песнямі ў гонар віна. Як жа гэта пагадніць адно з другім? Чытач сам бачыць, што для нас тут няма іншага выйсьця, як дапусьціць, што Карана ў сучаснай яго рэдакцыі яшчэ не было нават і ў X стагоддзі і што ўведзены ён быў не легендарным зяцем Магамета, а толькі Асманам Заваёўнікам каля 1300 года нашай эры.

Апісанне раю ў Каране, як мы ўжо бачылі, таксама вельмі позьняга паходжання, бо ён вельмі распрацаваны, нашмат лепш хрысьціянскага раю пад час сярэдневечча.

Знакамітая рэлігійная цюркская паэма «Мухамедыйе», складзеная ў XV стагоддзі галіпольцам Языджы-аглу (памёр у 1449 ці 1453 годзе) тлумачыць пра

яго гурый-німфаў, згодна з перакладам прафесара В. Д. Смірнова, у такім выглядзе[84].

Пасьля сьмерці вам райскае будзе жыллё!
І раздолле ж там будзе наконт рознай ежы!
Зацалуюць вас там сотні німфаў, г.азн. гурый,
Паўстаўшых із самага сьветлага блакіту.
Кажуць: «Калі яны сьветавыя стварэнні,
Як магчымы тады ім абдымкі, пацалункі?»
Але на гэтае пытанне вам готавы ўжо адказ:
Іх субстанцыяй з’яўляецца адчуваемае сьвятло,
Так што можна ад іх асалоду адчуць,
Цалаваць, абдымаць, душу пяшчотай напаўняць.
Перад іхнай свежасьцю дзень гарыць ад сораму,
Перад пяшчотай слоў іх трапеча месяц,
І не псуюць родамі яны свае целы,
Ды і рэўнасць адна да адной не з’яўляецца іхнай доляй.
Усе становяцца цнатлівымі кожную ноч.
Гэтай асалоды ў думках спасцігнуць няма магчымасьці!
Па пяці соцень німфаў усім вам будзе дадзена,
Ды такіх, што ў сне не бачыў тут ніхто!

І падобнае ўяўленне пра рай з’яўляецца адзіным новым і арыгінальным дадаваннем Карана да ранейшых рэлігійных уяўленняў. Усё астатняе запазычана із Бібліі, із Евангелля і з Апакаліпсіса.

Найбольш сур'ёзны із артадаксальных дасьледчыкаў гісторыі Карана Нёльдэке[85] лічыць, што самымі старажытнымі рукапісамі гэтай кнігі з’яўляюцца рукапісы не раней IX стагоддзя нашай эры, ці ў самым крайнім выпадку VIII, г.азн. з'явіўшыміся не менш як праз 100 гадоў пасля мяркуемай сьмерці свайго аўтара, ды і гэта немагчыма дапусьціць.

Амаль поўная адсутнасьць варыянтаў у правапісанні вымушае, як я толькі што сказаў, меркаваць, што ўсе яго шматлікія копіі спісаны ўжо із па-друкарску карэктаваных асобнікаў. Інакш як патлумчыць аднастайнасць тэксту Карана ад Гішпаніі да Індыі? Арабісты нам пярэчаць: існавала строгая цэнзура... Але якая ж цэнзура магла быць пад час дадрукарскага перыду, калі кожны пісаў для сябе ці прыватным чынам для знаёмага, як зараз мы пішам па пошце свае лісты? Пра цэнзуру рукапісаў і пра захаванне ў іх пры ўсіх перапісваннях аднаго і таго ж тэксту можа сцярджаць толькі чалавек без гістарычнай перспектывы ў сваіх уяўленнях і ніколі не перапісваўшы вялікіх празаічных твораў. Ды і як было магчыма зрабіць рэвізію ўсіх рукапісаў, калі яны знаходзіліся ў асобых экзеплярах у самых аддаленых адзін ад аднаго месцах ісламіцкага сьвету?

І як было магчыма (нават і ў тым выпадку, калі складальнік сучаснага Карана Зеід дзейнічаў згодна з даручэннем Асмана Заваёўніка ў XIV стагоддзі нашай эры)назіраць пры адсутнаьці друкаваных асобнікаў за адзінствам тэксту і за адсутнасьцю выпадковых пропускаў, апісак і мімавольных паляпшэнняў апавядання ва ўсіх раскіданы па ісламіцкаму сьвету рукапісах?

Усё гэта відавочна немагчыма, а таму даводзіцца дапусьціць, што існуючая зараз рэдакцыя Карана, канчаткова замацаваная, вядома, ужо друкаваным станком,

[84] Праф. В. Д. Смірноў: «Нарыс гісторыі Цюркскай літаратуры, у IV томе «Ўсеагульнай гісторыі літаратуры» В. Корша і А. Кірпічнікова, стар. 475.
[85] Noldeke: Geschihte des Qorans. 1860. S. 325.

узнікла толькі напачатку Эпохі Адраджэння ў Яўропе і што яго копіі былі нешматлікімі да надрукавання яго тэксту.

Не лепш справа выглядае і з біяграфіяй самага Славутага, як ужо бачыў сам чытач з першых главаў гэтай часткі «Хрыста», але бяручы да ўвагі асаблівую важнасць пытання я паразважаю пра гэта яшчэ раз больш падрабязна.

# Глава X.

## Яшчэ раз пра першакрыніцы нашых сучасных ведаў пра жыццё і дзейнасць прарока Магамета і некалькі вельмі дзіўных думак з гэтай нагоды.

Перш чым пачаць гэтае маё разважанне, ды дазволіць мне чытач зрабіць маленькі выпіс з адзінаццатай часткі знакамітага ў свой час рамана Чарльза Дыкенса «Замагільныя запіскі Піквікскага клуба», у рускім перакладзе І. Увядзенага:

«Павярнуўшыся назад, містэр Піквік раптам пабачыў недалёка ад дзвярэй сялянскай халупы, невялікі патрэскаўшыся камень, да паловы пахаваны ў зямлі...

– «Надпіс, надпіс!» – ускрыкнуў ён.

За некалькі хвілін каштоўны камень быў памыты, пачышчаны, выпешчаны, і захапленне піквікістаў выказалася самымі энергічнымі знакамі, калі іхныя агульныя высілкі завяршыліся пажаданым поспехам. Камень быў няроўны і няправільныя літары выглядалі крыва і коса. Пры ўсім тым, адукаваныя мужы змаглі выразна разабраць наступную рэштку надпісу:

+
БІЛЛЬСТУМ
ПС ПР
ІЛОЖ
ІЛЗ
ДЕСЬСВО
ЕТ АЎРО

«Містар Піквік сядзеў, паціраючы рукі, і з невыказваемай асалодай глядзеў на скарб, знойдзены ім. Яго славалюбства зараз было задаволена ў адным із самых галоўных пунктаў. У краіне, запоўненай шматлікімі рэшткамі сярэдневечча, у ангельскай вёсачцы, паўстаўшай на класічнай глебе старажытнасьці, – ён... ён... прэзідэнт Піквікскага клуба, знайшоў вельмі загадкавы і ва ўсіх магчымых дачыненнях цікавы надпіс, незаўважаны да гэтага часу ніводным із вялікай колькасьці адукаваных мужоў, папярэднічаўшых яму на ніве археалагічных пошукаў...

«Са справаздач клуба, маючыхся ў нашых руках, – працягвае Дыкенс, – вынікае, што містэр Піквік чытаў запіску пра гэта адкрыццё на агульным сходзе спадароў сябраў, скліканаму вечарам наступнага дня пасьля вяртання прэзідэнта ў ангельскую сталіцу. Пры гэтым, як і патрэбна было чакаць, містэр Піквік паглыбіўся ў разнастайныя і надзвычай дасьціпныя навуковыя разважанні пра значэнне старажытнага надпісу. Пазней ён быў скапіяваны майстэрскім мастаком і накіраваны «Каралеўскаму таварыству антыквараў» і іншым навуковым таварыствам ва ўсіх частках сьвету.

«Толькі адзін нахабнік – і мы спяшаемся аддаць яго імя вечнай пагардзе ўсіх сапраўдных аматараў навукі, – адзін толькі нахабнік адважна выхваляўся тым,

быццам бы ён змог дасканала зразумець сапраўдны сэнс старажытнага помніка, сэнс дробны і нават нікчэмны. Імя гэтага нахабніка – містэр Блатон. Раздзіраемы зайздрасьцю і пакутуючы ад нізкага жадання азмрочыць славу вялікага чалавека, містар Блатон знарок для гэтай мэты наладзіў вандраванне ў Кобгем і пасьля вяртання саркастычна абвясьціў у сваёй гнюснай прамове, выказанай пры поўным сходзе спадароў сяброў, быццам бы ён, Блатон, сустракаўся з самім селянінам, – Білем Стумпсам – які прадаў знакаміты камень, належачы яго сямейству. Селянін пагаджаўся са старажытнасьцю каменя, але рашуча аспрэчваў старажытнасьць знакамітага надпісу

+
БІЛЛЬСТУМ
ПС ПР
ІЛОЖ
ІЛЗ
ДЕСЬСВО
ЕТ АЎРО

сцвярджаючы, быццам бы ён з'яўляецца тварэннем яго ўласных рук і быццам бы яго патрэбна чытаць такім чынам:

БІЛЬ СТУМПС ПРЫКЛАЎ ТУТ СВАЁ ТАЎРО» (г.азн. штэмпель).

І Дыкенс потым апісвае, як містар Блатон быў сустрэты за такое тлумачэнне ўсеагульнай пагардай.

Вельмі непрыемна быць у яго становішчы, але ўсё ж паспрабуем і мы пашукаць, ці не прыклаў сваё таўро які-небудзь Біль Стумпс і да стварэння біяграфіі славутага аўтара Карана.

Але тут няма патрэбы нават і шукаць, а патрэбна толькі паглядзець!

Мы ўжо бачылі, што самая першая біяграфія «Магамета» прыпісваецца Ібн-Хішаму і што пячаткі Біля Стумпса выяўляюцца там на кожнай старонцы ў выглядзе ўвесь час паўтараючайся казкі пра «дзедку і рэпку». Як у той казцы дзедка ўчапіўся за бабку, бабка за матку, матка за дзетку і дзетка за рэпку, і ўсе паваліліся, калі выдралі рэпку, так і ў Ібн-Хішама, увесь час ствараецца дзеля прыдачы праўдзівасьці кожнаму асобнаму паведамленню ўесь ланцуг пераказчыкаў: «Аўраам паведаміў пра гэта Ісаку, Ісак паведаміў Якаву, Якаў Ёсіфу Прыгожаму, а Ёсіф Прыгожы аўтару кнігі».

А вось і яшчэ. «Пад час халіфатства Аль-Мамуна (813-833) – паведамляюць нам, – пра прарока яшчэ пісалі Аль-Вакідзі, Ібн-Гішам і Аль-Мадайні. Потым Аль-Бухары, – паведамляюць нам, – сабраў у мусульманскіх краінах 600 тысяч паданняў пра Магамета, із якіх толькі 4000 знайшоў праўдзівымі[86]. Ды і Абу Дауд із 500 тысяч сабраных ім паданняў адкінуў 495 200, як відавочна непраўдападобныя дзякуючы сваёй цудоўнасьці, і пакінуў толькі 4 800.

Але толькі падумайце самі!

Калі б іхнаму збіральніку, бегаючаму ад аднаго незнаёмага яму ісламіста да другога таксама незнаёмага і із аднаго незнаёмага яму горада ў другі таксама незнаёмы, атрымлівалася б запісаць у сярэднім па аднаму апавяданню кожны дзень, то, лічачы, што ён не прытрымліваўся пятніцкага мусульманскага адпачынку і не марнаваўшага дарэмна час нават на папярэднюю арыентыроўку пры пераездах і на пошукі дасьведчаных асоб, – ён сабраў бы за год толькі 365 апавяданняў. Гэта азначае для таго каб назбіраць іх цэлых 500 000, яму патрэбна было б ездзіць без

[86] Sir William Muir: The life of Mohammad, выд. 1923 г. p. XLI. Таксама Al Buchari. Les traditions islamiques, par O. Houdas et W. Mareais. 1902.

адпачынку па магаметанскіх краінах ні больш ні менш, як 1 200 гадоў. І цалкам зразумела, што для таго, каб паверыць такой недарэчнасьці, трэба, каб ні ў аўтара, ні ў чытачоў не было ніякага матэматычнага уяўлення, інакш недарэчнасць падобных прыдумак адразу кінулася б ім ў вочы і без маіх тлумачэнняў.

Пойдзем далей. Першая, неіснуючая зараз біяграфія ісламіцкага прарока, прыпісваецца згаданаму намі Магамету Ібн-Ісхаку. Ён быццам бы памёр праз 151 год пасьля збягання свайго прарока із Мекі, напісаўшы (праз сто гадоў пасьля яго сьмерці) яго біяграфію для каліфа Аль-Мансура, у чым быццам бы немагчыма нават і засумнявацца. «Сам жа Ібн-Калікан[87], – пераконваюць нас, – сведчыць, што менавіта із яго кнігі ўзяў матэрыял для біяграфіі Славутага прарока. Ібн-Хішам (Hisham), быццам бы амаль цалкам перапісаўшы Ібн-Ісхака, пасьля чаго і памёр. Аднак і хішамавай кнігі доўга нідзе не існавала. Самы старажытны яе манускрыпт, напісаны быццам бы ўласнаручна Ахметам Ібн-Ібрагімам у Дамаску і датаваны (відавочна для продажу еўрапейскаму заможнаму пакупніку) 707 годам Геджры (г.азн. 1307 годам згодна з еўрапейскім злічэннем), быў «знойдзены» толькі на прыканцы XIX стагоддзя нашай эры і цалкам не ў Дамаску, а ў далёкім ад яго індускім горадзе Дэлі д-рам Шпрэнгерам (Sprenger). У ім цалкам няма спасылак на першакрыніцы і таму ён арабістамі лічыцца скарачэннем першапачатковага манускрыпта, змяшчаўшага быццам бы ўсе гэтыя ўказанні. Але ўжо сама пазнака на ім года з далучэннем і імя перапісчыка, паказвае на яго фальшывасць. Тут мы бачым відавочнае таўро дыкенсавага Біля Стумпса із «Пасьмяротных запісак Піквікскага клуба».

А хто ж быў сам Хішам? Ужо памянёны намі Ібн-Каллікан спасылаецца з гэтай нагоды на кнігу Абул-Касіма-ас-Сухайлі, меўшую назву «Свежая паша»[88] і дапасуемую ім да 1174 года нашай эры (569 год Геджры), дзе паведамляецца, што Хішам памёр у старым Каіры ў 213 годзе Геджры. Аднак, тая акалічнасць, што ён выключыў схіленне прарока да ідалашанаваня пры перапісванні ім апавядання Аль-Вакідзі і Ат-Табары, паказвае на яго больш позняе паходжанне.

Другі жыццяапісальнік ісламіцкага прарока, на імя Аль-Вакідзі, як паведамляе той жа Ібн-Калікан, займаў пасаду кадзі ў Багдадзе і памёр у 207 годзе Геджры, «карыстаючыся вялікай павагай каліфа Аль-Мамуна». Але... першы рукапіс яго таксама быў знойдзены толькі ў XIX стагоддзі ў Сірыі і апублікаваны ў Bibliotheca Indica у Калькуце ў 1856 годзе Альфрэдам Фон-Крэмерам[89].

Наступным біёграфам «Славутага прарока» з'яўляецца, згодна з тым жа Ібн-Каліканам, Магамет Ібн-Саад – сакратар Аль-Вакідзі, – напісаўшы 15 тамоў пра Магамета і яго нашчадкаў. Але і тут выяўляецца адзін сур'ёзны недахоп – адсутнасьць яго сапраўды старажытных рукапісаў.

У сваіх пятнаццаці тамах, – паведамляюць нам, – Ібн-Саад выклаў творы свайго настаўніка Аль-Вакідзі, дапоўніўшы іх сваімі ўласнымі, і яго першы том утрымлівае біяграфію «Славутага прарока». Але і яго твор «знайшоў» ужо вядомы нам д-р Шпрэнгер не ў Мецы ці Медыне, і нават не ў Багдадзе ці Каіры ў VIII стагоддзі нашай эры, а ў XIX стагоддзі ў цэнтральнай Індыі, у Канпуры (Kawnpoor) у Агры. Гэта, як выказваецца сам знайшоўшы, «цудоўна захаваўшыся манускрыпт». Але і на ім зноў жа маецца тое ж самае таўро Біля Стумпса як і на

[87] Ibn Khallikan (De Siame), vol II, p. 677.
[88] Abul Kasim as Suhaili: Rand al Unuf.
[89] Alfred von Kremer: The History of Muhainmads Campeignes by Aboo 'Abd Ollah Mohammad 'bin Omar al Wakidy. Calcutta, 1856.

першым манускрыпце таго ж д-ра Шпрэнгера, прыпісанага ім Ібн-Хішаму. І тут Біль Стумпс прыклаў сведчанне для пакупніка, што пісаў гэты манускрыпт навуковец на імя Al-Hakkari у Дамаску ў 718 годзе Геджры (г.азн. у 1318 г.).

А пра тое якім чынам гэты манускрыпт патрапіў із Дамаска ў Канпур у цэнтр паўночнай Індыі, не паведамляецца ні слова. Потым, відавочна, дзеля таго каб павысіць кошт, гэты ж Біль Стумпс пазначае і ўсіх пасьлядоўных перапісчыкаў сваёй кнігі, пачынаючы ад самога Аль-Вакідзіева сакратара Ібн-Саада, і гарантуе іх сапраўднасць і праўдзівасць, цалкам так жа, як гэта робіцца на дыпломах конназаводскіх пародыстых коней, аж да іхнага родапачынальніка – жарабца, вывезенага із Аравіі. Мне нават цяжка і ўявіць сабе, чаму ні для аднаго із арабістаў не было цалкам зразумела, што ўся гэтая маса пасведчанняў на рукапісах не можа мець іншай мэты, акрамя спецыяльнай падрыхтоўкі яе для продажу нейкаму заможнаму ангельцу, пры гэтым і сам год пастаўлены не да такой ужо ступені ранні, каб матэрыял рукапісу выглядаў непраўдападобна свежым.

Зараз гэтая падробка, прададзеная пасьля яе «знаходжання» таксама на прыканцы XIX стагоддзі, д-рам Шпрэнгерам сэру Вільяму Мьюру, знаходзіцца ў Лондане ў India Office Library.

Але вернемся да пытання.

Той жа вечны Ібн-Калікан пазначае і яшчэ аднаго біёграфа Магамета – Ат-Табары, – дапасуючы яго сьмерць да 310 года Геджры, г.азн. да X стагоддзя еўрапейцаў, і гісторык Гібон дае назву Ат-Табары арабскі Ціт Лівій. Але вось, зноў жа яго манускрыпт «знаходзіць» той жа д-р Шпрэнгер і таксама ў глыбіні Індыі ў Луксоры на прыканцы XIX стагоддзя нашай эры, і таксама прадае сэру Вільяму Мьюру, які разам з купленым у яго ж Ібн-Хішамам, ахвяруе яго ў India Office Library, куды перадае і толькі што апісанага Аль-Вакідзі у выкладанні яго сакратара Ібн-Саада. Там усе яны знаходзяцца і зараз.

«Такім чынам, – наіўна выказваецца набыўшы іх у Шпрэнгера сэр Вільям Мьюр[90], – толькі трыма гэтымі (шпрэнгераўнскімі, дыпламаванымі, піквікападобнымі) біяграфіямі Магамета і павінен задавальняцца безстаронні гісторык жыцця прарока. Ён можа, вядома, карыстацца з такім жа поспехам і зборам паданняў у Аль-Бухары, Мусліма і Ад-Тырмідзі, але павінен адкінуць сведчанні больш пазніх аўтараў (г.азн. Абул Феды і іншых да-шпрэнгераўскіх твораў)».

Ён так і зрабіў у сваёй «The life of Mohammad», і ў яго атрымаўся цэлы раман. Ды і як жа ён мог зрабіць інакш?

«Лічыць больш позьніх гісторыкаў накшталт Абул-Феды за аўтарытэты – выказваецца сам д-р Шпрэнгер – і меркаваць, што паведамленне выйграе ў праўдзівасьці, калі яно згадваецца некалькімі із іх, азначае ставіцца да пытання вельмі некрытычна, і калі такая памылка робіцца арыенталістам, то мы павінны абвінаваціць яго ў злачынным няведанні гісторыі арабскай літаратуры» .

Такім з'яўляецца строгі прысуд самога д-ра Шпрэнгера, знайшоўшага ва ўнутранай Індыі ў XIX стагоддзі, больш чым праз тысячу гадоў пасьля сьмерці ісламіцкага прарока, за трыдзевяць зямель у трыдзясятым царстве ад Аравіі, адзіна праўдзівыя біяграфіі ісламіцкага прарока...

Але ці будзем і мы скакаць разам з ім? Мне здаецца, што ў гэтым няма ніякай патрэбы. Калі д-р Шпрэнгер, прадаючы сэру Вільяму Мьюру свае знаходкі, не быў сьвядомым ашуканцам, то гэта толькі ў тым выпадку, калі мы будзем

---

[90] Sir William Muir: The life of Mohammad, p. LXXXVI.

лічыць, што ён быў падмануты сам нейкімі прафесійнымі і прытым вельмі спрытнымі фабрыкантамі карэйшыцкіх кніг. Патрэбна была, значная абачлівасць для таго, каб надаць ім пазнакі не першых гадоў Геджры, а 1307 годам для Хішама, 1318 годам для Ібн-Саада. А адзіна не пазначаную годам і імем пісара із усіх ісламіцкіх сенсацыйных знаходак д-ра Шпрэнгера – кнігу Ат-Табары – сам Шпрэнгер дапасуе да XIV стагоддзя нашай эры, г.азн. да таго ж часу як і свае іншыя «знаходкі». Але ўсё гэта было б вельмі добра толькі ў тым выпадку, калі б недзе ў іншых месцах знайшліся б іншыя, хаця б і варыянтныя, копіі гэтых кніг. А фактам з’яўляецца тое, што ўсе яны ўнікумы, і таму ўзнікае натуральнае пытанне: якім жа чынам за паўтары тысячы гадоў з часу сьмерці такіх вялікіх аўтараў ніводзін із мусульманскіх каліфаў, эміраў, мулаў, муфтыяў і медрэсэраў, вядома, перамёршых за гэты час сотнямі тысяч і нават лічачыміся адукаванымі, не здагадаліся зрабіць з іх іншых копій акрамя «знойдзеных» Шпрэнгерам? Гэта ж было вельмі важна для іхных уласных рэлігій! Калі б гэтыя кнігі былі сапраўды старажытнымі, то да эпохі друкарства яны былі б ужо, як і Евангеллі, у сотнях медрэсэ і мячэцяў. І вось, на працягу паўтары тысячы гадоў мулы, каліфы, султаны, шахі ў розныя прававерныя медрэсэры і філосафы, захавалі толькі адзін асобнік кожнага аўтара выключна для таго, каб гяур Шпрэнгер пабудаваў на іхным падмурку сваю кар'еру! Нават у палеанталогіі да падобных унікумаў ставяцца з вялікім недаверам. Вось, напрыклад, калі ў жніўні 1856 года ў Нэандэрталі на беразе Рэйна знайшлі верхнюю частку чэрапа, прамежкавага паміж чалавечым і малпіным, то, не гледзячы на чакаемасць такой знаходкі, шмат хто із прыродазнаўцаў палічылі магчымым, што гэта рэштка нейкага вырадка. І спатрэбілася некалькі іншых падобных знаходак, каб антраполагі адважыліся прызнаць існаванне такіх сваіх аддаленых прабацькоў у сэнсе натуральнай стадыі чалавечай эвалюцыі. Хаця там пра наўмысную падробку не магло быць і гаворкі!

Такім чынам: **кожная добра апрацаваная і важная для сучасных нам рэлігійных уяўленняў ці для гісторыі старажытнасьці, ці цалкам складана компанаваная і агульна-цікавая кніга ад імя старажытнага ці сярэднявечнага аўтара павінна апрыёрна лічыцца падробленай, калі дайшла, да нас, ці да свайго надрукавання, толькі ў адным асобніку.**

Я ўжо адчуваю, як мне скажуць з крыўдай: гэта азначае, што няшчаснаму філолагу немагчыма зараз зрабіць ніводнага першакласнага адкрыцця, якога не зрабілі іншыя, каб не быць западозраным у махлярстве? Але крыўдзіцца тут няма падставаў, бо я ж рэкамендую і сродак пазбаўлення ад падазрэнняў. Калі хто зробіць адкрыццё падобнае Шпрэнгераву, раўназначнае цнатліваму зачаццю, то ён і павінен дзейнічаць так, як усе дзенічаюць у сенсацыйных выпадках, г.азн. схапіўшы дзіцёнка ў рукі, бегчы ва ўсе лапаткі ў першае паштова-тэлеграфнае аддзяленне і тэлеграфаваць ва ўсе акадэміі навук, каб неадкладна падрыхтавалі асобныя экспедыцыі для падмацавання праўдзівасьці знаходкі... Ды патрэбна паказаць і самога арханёла Гаўрыіла, абвясьціўшага пра яе, а не казаць, як гэта рабілася да гэтага часу:

– «Атрымаў ад праходзіўшага побач невядомага манаха, які, маючы патрэбу ў грашах на дарогу, прадаў яе мне за вось такі-та кошт, за які я згодзен перапрадаць і вам».

Ці:

– «Знайшоў у пыльным склепе Эчміядзінскага заняпаўшага кляштара пад смеццем; сам не разумею, якім чынам праляжаў там гэты рукапіс некалькі соцень

гадоў і якім чынам атрымалася, што неадукаваныя манахі не спажылі яго на абгортванне сыру ці масла».

А калі вы паведаміце, што маеце намер з'ездзіць туды смастойна, то атрымліваеце ўніклівы адказ:

– «Там больш нічога няма. Манахі нават не звярнулі ніякай увагі на тое, што я яго ў іх забраў разам з некалькімі іншымі дробязямі на памяць, ці даўно забыліся, таму што я вывучаў гэты рукапіс некалькі гадоў прад тым, як аважыўся надрукаваць»...

І гэтак далей і падобна гэтаму.

Як тут не быць скептыкам? Але кожны раз, калі я выказваў такія меркаванні ў размове, я натыкаўся на нейкую няздольнасць, нават у літаратурна адукаваных людзей, думаць этнапсіхалагічна і матэматычна, каб адразу ж зразумець мяне. Мае словы заставаліся голасам галосячага ў пустыні да таго часу, пакуль я не прыдумаў такога навочнага спосабу доказу, які ў звычайным жыцці мае назву «разжаваць і пакласьці ў рот».

Дык дазволь жа мне, чытач, паўтарыць гэты спосаб і тут. Справа ў наступным.

Само сабой зразумела, што калі вы знойдзеце ў нейкім старажытным ягіпецкім кутку, будзем лічыць, добры папірусны рэцэпт фарбавання тканіны, які да гэтага часу яшчэ не быў вядомы, то можна сказаць: вынаходнік схаваў яго ад усіх, інакш яго рэцэпт не праляжаў бы некалькі стагоддзяў, не будучы перапісаным у шматлікіх асобніках. Дакладна так жа, калі вы знойдзеце ў саркафагу яшчэ нікому невядомае кабалістычнае разлажэнне літар імя «Хрыстос» і недарэчныя высновы із гэтага, то можаце сказаць: гэты папірус мог застацца без перапісвання нават і на працягу тысячагоддзя, таму што ніхто не меў жадання перапісваць такое глупства. У абодвух выпадках знаходжанне ў адзіным асобніку не выключае ідэю пра глыбокую старажытнасьць, але гэтая ж самая акалічнасць знішчае і якую б то ні было каштоўнасць знаходкі для сур'ёзнага гісторыка. Для яго маюць значэнне толькі такія дакументы, якія асьвятляюць жыццё той эпохі, а ў выпадку калі дакумент застаўся ляжаць невядомым ні для каго тысячы гадоў, то ён ніяк і не адлюстроўвае гісторыю культуры і агульнанароднае жыццё. Гэта не матэрыял для сур'ёзнай гістарычнай навукі. Ёй некалі выдаткаваць час на кожную індывідуальную дробязь, і такі адзінкавы дакумент прыдатны хіба толькі для гістарычнай забавы.

Але вось, напрыклад, перад вамі адваротны прыклад – Евангелле Лукі. У сваёй прадмове аўтар паведамляе, што піша сваё жыццяапісанне Хрыста для нейкага «Тэафіла», а замест аднаго Тэафіла яго кніжку праз некалькі стагоддзяў пачалі чытаць сотні тысяч людзей, і пераклалі на ўсе мовы. Чаму так здарылася? Таму, што Евангелле было – цікавячым усіх хрысьціян апавяданнем пра жыццё іхнага настаўніка. Усе адукаваныя знаёмыя «Тэафіла» (г.азн. таго, хто першым прачытаў гэты манускрыпт) пачалі спісваць з яго копіі, з гэтых копій пачалі спісваца іншыя.

Колькасць нанова перапісаных асобнікаў павялічвалася б у геаметрычнай прагрэсіі, а геаметрычная прагрэсія заўсёды мае ашаламляючы вынік. Будзем лічыць, напрыклад, што арыгінал Лукі праляжаў, не сапсаваўшыся, у «Тэафіла» толькі дзесяць гадоў, але на працягу гэтага часу з яго было зроблена дзесяць копій. Будзем лічыць, што і кожная із гэтых копій існавала, не сапсаваўшыся, у свайго ўладальніка толькі дзесяць гадоў, але з кожнай на працягу тых гадоў было

скапіявана таксама па дзесяць асобнікаў. І вось праз 20 гадоў на руках існавала б ужо сто асобнікаў. А чым больш пашыраецца кніга, тым больш пра яе размаўляюць, і тым больш аматары чытання падобных кніг, пры адсутнасьці друкарства, імкнуліся б яе перапісаць. У выніку кожны із атрыманых ста асобнікаў быў бы перапісаны ў сярэднім таксама дзесяць разоў за дзесяць гадоў свайго існавання. І вось праз трыццаць гадоў на руках мелася б ужо тысяча копій! Праз сарок гадоў – дзесяць тысяч, праз пяцьдзясят гадоў – сто тысяч, і гэты працэс самапамнажэння спыніўся б толькі тады, калі назапашаная колькасць асобнікаў дадзенай кнігі задаволіла б усіх цікавячыхся ёю, г.азн. калі б усе чытаючыя людзі ўжо мелі яе.

Так і было з усімі Евангеллямі і з Бібліяй. Калі Гутэнберг вынайшаў друкавальны станок, яму не было патрэбы ездзіць па ўсяму сьвету, каб знайсьці з вялікімі цяжкасьцямі нейкі асобнік гэтых кніг для друкавання ў сваёй майстэрні. А потым друкарскі станок, зрабіўшы кнігу таннай, прыгожай і агульнадаступнай, непазбежна спыніў працэс рукапіснага капіявання і яго геаметрычную прагрэсію, і рукапісы пачалі знікаць. Адбылося тое ж, што з крамянёвымі стрэльбамі, якія зараджаліся з дапамогай шомпала з дула. У 1812 годзе імі было ўзброена ўсё войска Напалеона, і войска Кутузава, і войска Блюхера. Іх былі сотні тысяч, і яны ўсё больш і больш памнажаліся. Але вось у другой палове XIX стагоддзя былі вынайдзены хуткастрэльныя стрэльбы, якія зараджаюцца ззаду патронамі, і старыя стрэльбы пайшлі ў лом, пачалі перапрацоўвацца на хуткастрэльныя. Старыя ўзоры зараз можна знайсьці толькі ў музеях, ды ў заможных прыватных асоб у тых краінах, дзе такія яшчэ існуюць.

Прыкладзём жа ўсё гэта да знаходак д-ра Шпрэнгера. Тыя ж жыццяапісанні Магамета, якія ён «знайшоў у нікому іншаму невядомых індыйскіх кніжнікаў» раўназначны для мусульманскага сьвету Евангеллям. Будзем лічыць нават, што апавяданні пра вялікую адукаванасць Гарун-Аль-Рашыда і іншых халіфаў – простыя байкі. Але ж у магаметанскім сьвеце існуе шмат мячэцей і школ тэалогіі, дзе жыццём Магамета надзвычай цікавяцца, захоўваючы пра яго сотні тысяч паданняў... Для іх жа такія грунтоўныя жыццяапісанні найвялікшага із іхных пракокаў былі б самым каштўным скарбам. Як жа атрымалася, што на працягу тысячагоддзя ніхто із прававерных не пажадаў іх перапісаць для сябе і для сваіх знаёмых? Чаму той натуральны працэс памнажэння ў геаметрычнай прагрэсіі агульна-цікавай кнігі, які я высветліў на прыкладзе жыццяапісання хрысьціянскага настаўніка, не паўтарыўся і тут?

Калі б жа першапачтковыя рукапісы Ат-Табары, Аль-Вакідзі і інш., пасьля таго як яны іх напісалі, праіснавалі, напрыклад, толькі 100 гадоў, то за гэты час з іх непазбежна спісалі хаця б 10 копій; а із гэтых дзесяці – яшчэ па дзесяці на працягу сотні гадоў, гэта азначае праз два стагоддзі мелася б 100 новых копій, праз тры стагоддзі 1000, праз чатыры стагоддзі 10 000, праз пяць стагоддзяў 100 000 новых копій, пасьля чаго капіяванне кнігі, сітанавячайся ўсё больш і больш папулярнай, спынілася б толькі таму, што яна былі б ва ўсіх пісьменных людзей і далей была б неабходнасць толькі аднаўляць сапсаваныя асобнікі. Аспрэчваць падобнае натуральнае самапамнажэнне агульна-цікавага рукапісу азначае проста ігнараваць асноўныя этна-псіхалагічныя законы.

Усё гэта дапауецца, вядома, не да адных знаходак Шпрэнгера, а да ўсіх іншых агульна-цікавых кніг накшталт, напрыклад, Платона, Ціта Лівія, за знаходкі

адзінкавых асобнікаў якіх мецэнаты-выдаўцы плацілі вялікія грошы. А адносна Шпрэнгера ыяўляецца і яшчэ адно непаразуменне.

Знайшоўшы свае «ўнікумы» арабскіх біёграфаў Магамета, Шпрэнгер набыў славу па ўсёй заходняй Яўропе, неадкладна атрымаў катэдру ва ўнівэрсітэце, утрыманне і спагадлівае стаўленне да сябе высокапастаўленых асоб. Але чаму ж ён на шмат больш не праславіўся ў мусульманскім сьвеце, які ён менавіта і адабрадзеіў адкрыццём сваіх Евангелляў? Ці таму, што мусульманскі сьвет нават і ў XIX стагоддзі быў такім невуцкім, ад султанаў да апошняга медрэсэра, што не змог іх ахапіць? Але калі там ніхто не змог зразумець каштоўнасць падобных кніг, то яшчэ менш верагодна каб нехта здолеў іх напісаць, асабліва ж тысячу гадоў назад. Гэта азначае, што тлумачэнне тут толькі адно: напісаў усе гэтыя кнігі сам Шпрэнгер, але як еўрапеец, ён намаляваў Магамета адпаведна з еўрапейскімі аперцэпцыямі, а мусульманскія аперцэпцыі выявіліся некалькі іншымі. Выдатна дагадзіўшы сваім суайчыннікам, ён мала дагадзіў мусульманам, і таму натуральна і не набыў славы па ўсяму прававернаму сьвету і не атрымаў раўназначных узнагарод ні ад турэцкага султана, ні ад ягіпецкага хедыва, ні ад пярсідзкага шаха.

Усе гэтыя «шпрэнгеравы знаходкі чамусьці вельмі нагадваюць мне адну цікавую кніжку XVIII стагоддзя, маючую загаловак на-лаціне: «Берынгерава Вюрцбургскае каменеапісанне, упрыгожанае дзвума сотнямі дзіўных выяваў фігурных камянёў, перадаючых большай часткай казурак[91]. Я размяшчаю із іх толькі тры ўзоры (мал. 59), але і ўсе астатнія маюць падобны ж выгляд.

[91] I. B. A. Baringer's Philos. et Medic. D-ris, Prof. etc. etc. Litographia Wirceburgensis, ducentis lapidum figuratorum, a potiori insectiformium, prodigiosis imaginibus exornata. Editio secunda. Francofurti et Lipsiae, apud Tob. Gobhardf. 1767.



Мал. 63.
Узоры «дзіўных» выкапнёвых жывёл, змешчаных у кнізе праф. Берынгера «Вюрцбургскае Каменеапісанне» ў 1726 годзе (перавыдана для кур'ёзу Гёбгардтам у Франкфурце ў 1767 годзе, пасьля сьмерці аўтара).

Пры друкаванні першага выдання гэтай цікавай у псіхалагічным дачыненні кнігі ў Вюрцбургу ў 1726 годзе яе аўтар «прафесар і доктар філасофіі і медыцыны і інш. і інш.»,. забяспечыў яе шырокім навуковым трактатам пра карысць вывучэння акамянеласьцей, у якім пералічыў усе думкі сваіх папярэднікаў пра іхнае паходжанне і самым аўтарытэтным чынам даводзіў, што іх немагчыма прызнаць ні за вырабы ідалашанавальнікаў, жыўшых некалі на прасторах Германіі, ні за стварэнні «пластычнай магутнасьці сонечных прамянёў», ні за развіўшыяся яйкі марскіх жывёл, вынесеныя ў аблокі разам з вадзянымі выпарэннямі і зваліўшыяся потым з дажджом на зямлю, ні за парэшткі марскіх жывёл і расьлін пасьля сусветнага патопу, ні за Lusus naturae (гульню прыроды), ні за творы чалавечых рук. Ён на прыканцы кідае гром і маланкі супраць сваіх зайздроснікаў, якія пашыраюць чуткі, што гэтыя гліняныя фігуркі падкінуты ў раскопваемую ім

пячору вюрцбургскімі студэнтамі як свавольства, і прадказвае сваім ворагам, што накіраваная на яго прылада паклёпу ўпадзе на іх уласныя галовы і параніць іх.

Але вось, пакрыўджаныя ім «паклёпнікі», сабралі студэнтаў і тыя прадэманстравалі перад публікай, як яны ляпілі ўсё гэта... Няшчасны прафесар выдаткаваў амаль усе свае сродкі, каб скупіць у выдаўцы ўсе асобнікі сваёй кнігі і забраць у набыўшых, але і гэта ў яго не атрымалася. Праз сарок гадоў, ужо пасьля яго сьмерці, прадпрымальны франкфурцкі выдавец Гёбгард, знайшоў адзін асобнік і надрукаваў другое выданне.

У сёмай кнізе «Хрыста» я прысвячаю апакрыфізму асобнае дасьледаванне пад назвай «Псіхалогія ілжывасьці і падману» ў сувязі з гісторыяй Візантыйскай царквы, дзе размяшчаю і іншыя кур’ёзнейшыя прыклады і дакументы. А тут з нагоды недахопу месца я абмяжуюся толькі некалькімі папярэднімі радкамі.

Гісторыя навукі паказвае нам, што ўсе сур'ёзныя адкрыцці зроблены ў ёй толькі тымі, хто бескарысьліва выдаткаваў свой час і сродкі яе вывучэнню і быў гатовы зведаць у імя праўды розныя пазбаўленні і нават перасьледы. Але менавіта той самы прэстыж, які яны злучылі сваёй чыстай асобай з імем навукоўцы, быў нагодай з’яўлення ў чалавечым грамадстве з'явы, якая ў заалогіі мае назву мімікрыя. Як у сьвеце жывёл нейкі няшкодны від мухі выпрацоўвае ў сябе выгляд жалячай асы, каб яе не лавілі ластаўкі, а начны матылёк выпрацоўвае афарбоўку кары дрэва, каб яго не было бачна днём, так і ў чалавечым грамадстве мімікрыя больш пашырана, чым гэта здаецца з першага погляду.

Дзякуючы ёй імкнуцца, між іншым, стаць навукоўцамі і такія людзі, галоўная цікавасць якіх складаецца не ў тым, каб ахвяраваць сваім жыццём на карысць навукі і праўды, а, наадварот, набыць дзякуючы ёй славу, і гэтым забяспечыць сабе прыемнае існаванне сярод усеагульнай павагі і ўшанавання атачаючых.

Яны нярэдка пад час юнацтва выдаткуюць вялікія намаганні, каб вывучыць нейкі рэдкі згодна з тым часам прадмет, таму што разлічваюць сустрэць тут меншую канкурэнцыю, і, звычайна, імкнуцца з'ездзіць у далёкія краіны, дзе ўяўленне малюе ім магчымасць выдатных знаходак, без вялікіх разумовых намаганняў. Але не знайшоўшы там нічога, акрамя невуцтва, і адчуваючы, што доўгія гады жыцця і працы праходзяць дарэмна, яны апускаюцца ў маркотны стан, які ў адных заканчваецца роспаччу і выдаленнем у прыватнае жыццё, а ў іншых робіцца прыступкай да мімікрыі, у падставу якой заўсёды кладзецца ўнутраная, хаця і не выяўляемая мізантропія.

Ужо добра валодаючы нейкай рэдкай мовай і адчуваючы, што ён у гэтым прадмеце сам вярхоўны суддзя, такі чалавек спачатку з унутраным сорамам, а потым, пасьля першых поспехаў, набываючы смак, пачынае пісаць свае ўласныя творы, звычайна ў стылі нейкага ужо вядомага ўсім спецыялістам аўтара і выдаваць іх за манускрыпты, знойдзеныя падчас свайго далёкага вандравання. Ён набывае асабістую славу, але так засмечвае шлях наступным бескарысьлівым дасьледчыкам, што рэдка каму атрымоўваецца выбрацца на праўдзівы шлях, не спатыкнуўшыся сотні разоў у назбіраўшымся апакрыфічным смецці.

Вось чаму і тут, адкінуўшы ў бок розныя ненадзейныя і падробленыя рукапісы (а асабліва знойдзеныя ў далёкіх краінах і кляштарах «унікумы») звернемся з нашымі пытаннямі пра пачаткі агаранства і магаметанства да самой прыроды, якая ніколі не падманвае.

# Частка трэцяя

## Агаране-ізмаэліты як папярэднікі магаметанства.



Мал. 64
Бедуін.

# Глава I.

## Ці магла Аравійская паўвыспа быць некалі выточным месцам якой заўгодна тэалогіі ці культуры?



Мал. 65.
«Аравійскі Гібралтар». Сучасны выгляд умацавання Адэна на ўсход ад Баб-эль-Мандэбскага праліва. Належыць Англіі ад 1839 г.

«Аравія, – тлумачыць нам А. Крымскі[92], па-аравійску мае назву «Джэзірэт-аль-араб», г.азн. «выспа качэўнікаў», і хаця гэтая назва выпадковая, але яна выяўляецца ў шмат якіх дачыненнях вельмі ўдалай. Нешта спецыфічна выспавае сапраўды існуе ў становішчы Аравіі».

Ізаляванасць гэтай паўвыспы ўзмацняецца яшчэ і тым, што яна замкнута на сваіх межах у выглядзе трохкутніка трыма горнымі ланцугамі. Першы, заходні, з'яўляецца працягам Лівана і Антылівана і распасьціраецца, пад найменнем гор Хіджаскіх і Йеменскіх, ад Сінайскай паўвыспы з Акабскім залівам уздоўж усяго берага Чырвонага мора да самога Баб-эль-Мандэбскага праліва, служачага варотамі із Чырвонага мора ў Індыйскі акіян. Непасрэдна-ўзбярэжная, нізкая яе палоса – Тыхама – вулканічнага паходжання, але тут не было вывяржэнняў. Другі, усходні ланцуг гор ідзе паміж усходняй ускраінай Сірыйскай пустыні і Еўфратам, уздоўж яго ніжняй плыні, потым уздоўж вод Пярсідзкага заліва і даходзіць да Хор-мускага праліва, служачага выйсьцем із Пярсідзкага заліва ў Індыйскі акіян. Абодва ланцугі, дасягнуўшы гэтых праліваў (Баб-эль-Мандэбскага і Хармузскага), выходзяць да Індыйскага акіяна на двух процілеглых паўднёвых ускрайках паўвыспы і злучаюцца паміж сабой з дапамогай трэццяга, які, пад найменнем горы Хадрамауцкія і Махрскія, аддзяляе ўсю паўднёва-аравійскую ўзбярэжную паласу Індыйскага акіяна ад унутранай часткі Аравійскай паўвыспы.

І я асобна пазначу, што ўся Аравія знаходзіцца па-за вобласьцю землятрусаў і вулканічнай дзейнасьці на працягу сучаснага нам геалагічнага перыяда.




Мал. 66.
Аравія – пастка качэўнікаў Азіяцкага кантынента. Этнаграфічная мапа Азіі (грунтуючыся на Г. І. Іванове).

[92] А. Крымскі: Гісторыя арабаў і арабскай літаратуры, свецкай і духоўнай. 1912.




Мал. 67.
Аравія – пастка качэўнікаў Азіяцкага кантынента. Гушчыня насельніцтва Азіі (грунтуючыся на Г. І. Іванове).




Мал. 68.
Аравія – скляпенне Азіяцкага кантынента (грунтуючыся на Г. І. Іванове).




Мал. 69.
Аравія – скляпенне Азіяцкага кантынента. Атмасферычныя ападкі і вільготныя вятры Азіі (грунтуючыся на Г. І. Іванове).
Апошнія тры мапы асабліва цікавыя для ацэнкі культурнай ролі Аравійскай паўвыспы. Гушчыня насельніцтва ў ёй самая нікчэмная параўнальна з суседнімі краінамі, сухасць клімату невыносная і глеба – суцэльныя пяскі.

Такім чынам, вялізная ўнутраная частка Аравіі, занятая нізінамі і пласкагор'ем, з пясчанымі пустынямі і травяністымі стэпамі, заўсёды была вельмі мала даступнай, як для заваёўнікаў, так і для вандроўнікаў, а такім чынам, і**з яе, тым больш, не магло выходзіць ні тых, ні другіх**. У старажытных культурных еўрапейцаў пра Аравію не існавала нават хаця б колькі-небудзь выразных уяўленняў, як гэта бачна не толькі із грэцкіх пісьменнікаў (Герадот і інш.), але і із пісьменнікаў грэка-рымскіх (накшталт Дыядора Сіцылійскага, Страбона, Плінія), якія прыпісвалі самой Аравіі прывозімыя праз яе індыйскія тавары. Найбольш добра ведаў і апісаў Аравію толькі (такі ж апакрыфічны, як і толькі-што пералічаныя аўтары) Пталямей, падзяляўшы яе на тры часткі: Аравію Камяністую (паўночна-заходні кут, Набатэна), Аравію Пустэльную (паўночная і паўночна-усходняя палова паўвыспы) і Аравію Шчасьлівую (паўднёвая частка), дзе Пталямей, у Йемене і далей на ўсходзе, налічвае 56 ніколі не існаўшых народаў з 166 амаль пагалоўна не існаваўшымі гарадамі. Але я ўжо даводзіў у IV кнізе «Хрыста», што яго кнігі – апокрыфы XV-XVI стагоддзяў, ды і яго падзел Аравіі ніколі не быў вядомым мусульманскім географам, наменклатурамі якіх еўрапейцы зараз карыстаюцца.

У аравійцаў цэнтральная вобласць паўвыспы мае назву Неджэд. Памежныя вобласьці, абмываючыяся морам, г.азн. – Геджас, Йемен і Хадрамаўт, складаюць Паўночную Аравію, а Махра, Аман і Бахрэйн, складаюць Паўднёвую Аравію.

Поўнач і поўдзень раз'яднаны пустыняй, ды і гісторыяй раз'яднаны таксама. Унутраная вобласць Неджэд уяўляе сабой пласкагор'е, і само гэтае слова азначае «вышыня». Да яго прылягае з паўночнага боку вялізная пясчаная пустэльня Нофуд («наносы»), уяўляючую пераход да пякучай Сірыйска-месапатамскай пустыні, а з паўднёвага ўсходу прылягае да Неджэда вялізны, цэнтральна-аравійскі пясчаны «Галодны стэп». Неджэд – качавая пастухоўская вобласць, – ідылічна ўслаўленая ў паэзіі прававерных. Яе бедуіны незалежныя, і значная частка іх утварае так званую Вахабіцкую дзяржаву са сталіцай Хайлем.

Аравія – гэта да гэтага часу адна із найбольш невядомых і недасьледаваных мясцовасьцей усяго сьвету, а яе пустыні асабліва. «Для паўночнага полюса мы маем лепшыя мапы, чым для ўнутранай Аравіі!» – заўважае адзін місіянер[93]. Магчыма, што пасярэдзіне каласальнага «Галоднага стэпу» існуе дзе-нідзе вада з расліннасьцю і фаўнай; ёсць там, кажуць, дзе-нідзе і людзі, «якія звяртаюцца да вас на незразумелай мове». Але ўсё гэта – чуткі.

Геджас распасьціраецца ад Неджэда да берага Чырвонага мора ў паўночна-заходняй вобласьці Аравіі. Йемен ляжыць у паўднёва-заходняй, пладаноснай вобласьці, абмываемай з захаду тым жа Чырвоным морам, а з поўдня Адэнскім залівам Індыйскага акіяна. На ўсход ад Йемена, уздоўж Індыйскага акіяна працягваецца гарная «краіна ладану» Хадрамаўт, і, яшчэ далей на ўсход, Махра з Шыхрам, з іхнай асобнай семітычнай мовай.

Паўднёва-усходні кут Аравіі, выдаючыся ў мора да Індастана ў выглядзе асобнай паўвыспы і абмываемы, як з поўдня, так і з усходу Індыйскім акіянам, а з поўначы – водамі Пярсідзкага заліва, заняты вобласьцю Аман, у якой афіцыйна вызнаецца вучэнне харыджыцкай секты (ібадызм) і султан якой вядомы ў еўрапейцаў пад тытулам «Маскацкага імама», адпаведна сваёй прыбярэжнай рэзідэнцыі, гораду Маскату. А паўночна-усходняя вобласць Аравіі, на поўнач ад Амана да Еўфрата і на ўсход ад Неджэда да Пярсідзкага заліва, маючая назву Бахрэйн, як і прылягаючыя да яе выспы ў Пярсідзкім заліве, знакамітыя сваімі жамчужнымі ловамі. Іншая яе назва – Хаджар.

[93] Zwemer: Arabia., 1900 г., стар. 143.



Мал. 70.
Аравійская сухая даліна.



Мал. 71.
Сухое рэчышча часовага струменя ў Аравіі.

У кліматычным дачыненні ўся Аравія вызначаецца надзвычайнай сухасьцю і спёкай, але паўночная Аравія, з якой выходзяць на кантынент, яшчэ сушэй чым паўднёвая. Суднаходных рэк няма ніводнай. У паўднёвай Аравіі некаторыя маленькія рэчкі працягваюць, праўда, цекчы і падчас лета, а ў паўночнай Аравіі яны цякуць толькі пад час зімовай, г.азн. дажджлівай, пары года, дасягаючы пасярэдзіне самага залеўнага перыяду нават значнага паўнаводдзя, а летам усе перасыхаюць, так што на арабскай мове слова «вадзі» аднолькава азначае і «даліна» і «рака».

У паўднёвай Аравіі начамі настае прахалода і выпадае дастаткова густая раса, а і паўночнай Аравіі, праз якую толькі і існуюць шляхі да астатняга сьвету, начная прахалода бывае толькі ў горных мясцовасьцях, асабліва ў Неджэдзе, а на раўнінах тэмпература днём звычайна стаіць на узроўні 45° па Цэльсію, і ноччу апускаецца толькі да 37°. Найбольш гарачае месца, магчыма, на ўсім зямным шары – гэта пясчанае ўзбярэжжа Чырвонага мора, адкуль, пераконваюць нас, – быццам бы і выйшлі каліфаты Яўропы і Азіі. Там на працягу двух летніх месяцаў не заўважнае хаця б найменшага руху паветра. Ды і вецер далёка не заўсёды прыносіць прахалоду. Пры зменах пор года бывае ўсходні, пякучы, усушаючы «самум», прасякнуты, на думку бедуінаў, горным пахам. Ён задушлівы на ўзбярэжжах, а бязводную пустыню ён ператварае ў бушуючае і бурлівае мора пясчаных хваль, пагражаючых вандроўніку сьмерцю і могучых бяз следу засыпаць ўвесь караван.

Такімі з’яўляюцца шляхі ў Аравіі, як для заваёўнікаў, так і для культуртрэгераў із яе на суседнія кантыненты... Не лёгка па іх хадзіць нават і без кніг ці вайсковага рыштунку ў руках!

Ці магчыма існаванне тут пад час старажытнасьці ці сярэдневечча якога заўгодна культурнага руху, здольнага выйсьці за межы гэтай пасткі качавых народаў, гэтага скляпення Азіяцкага кантынента, ці мог тут утварыцца нейкі ўрад, здольны заваяваць суседнія больш шчаслівыя і людныя краіны?

Адразу бачна, што абсалютна немагчыма нават і дапусьціць такую думку.

Трохі багацейшым выяўляецца аддзелены гэтымі нярадаснымі мясьцінамі ад астатняга сьвету поўдзень Аравійскага паўвыспы – Йемен і Хадрамаўт з «Краінай ладану». Гэтыя землі (куды таксама толькі легкадумныя людзі могуць размясьціць

паданні пра класічныя квітнеючыя царствы Мінейскае і Савейскае) сапраўды маюць некалькі, хаця і вартых жалю, старых мястэчак. Там ёсць Сана (галоўны горад Йемена), Марыб, запушчаны Зафат, Забід, Джынад, Таыз і іншыя. Гэта мясцовасць з садамі пальмаў, і некаторых пладовых, вострых і бальзамічных дрэваў. Здаўна славіліся паўднёва-аравійскія пахучыя рэчывы: алоэ, смала ладанавага дрэва і фінікі, якія, дарэчы, таксама растуць і ў некаторых месцах паўночнай Аравіі. Зараз у якасьці прадмета вывазу адтуль набыла вялікае значэнне аравійская камедзь («гумі-арабік»), выцякаючая із аднаго віда акацыі, а з XIV-XV стагоддзяў самым вялікім багаццем Йемена і Хадрамаўта стаў толькі тады набыўшы вядомым кофе. Зараз яго асабліва апрацоўваюць каля Мохі («мока»), Адэна, Макалы і іншых портавых гарадоў у Хадрамаўце, маючых спалучэнне з унутранымі мястэчкамі. У новыя часы там было акліматызавана шмат дрэваў і хмызнякоў Індыі. У Йемене ў некаторых мясцовасьцях расьце і пшаніца, якая ў іншых месцах Аравіі з'яўляецца хіба толькі ў якасьці прадмета раскошы, а ў Дымары (да поўдзень ад Сана) існуе і конегадоўля.

Але ўсё ж і гэты край не можа быць не толькі правадыром культурнага руху пашыраючагася на прылеглыя кантыненты, але нават не ў стане забяспечыць сябе харчаваннем. Вялікія партыі хадрамаўцкай моладзі выпраўляюцца на заробкі і пошукі шчасьця ў порты самой Аравіі, у Ягіпет, у Брытанскую і ў Нідэрландскую Індыі, так што «арабы», жывучыя ў Індыі, выяўляюцца выключна «хадрамійцамі» і ўяўляюць там сабой працаўнікоў, а не валадароў.

А вобласць на ўсход ад Хадрамаўта, Махра (з Шыхрам) гэта «краіна ладану», ужо менш радзючая, чым заходнія часткі поўдня. Культура ладанавага дрэва, некалі забяспечваўшая гэтым прадметам хрысьціянскія цэрквы кантынента, зараз тут вельмі абмежавана. Гандаль слабы, і гавань Мырбат у заняпадзе. Ежу для жыхароў дастаўляе мора, якое тут да такой ступені радзючае, што рыбы хапае, згодна з апавяданнямі і ранейшых і новых вандроўнікаў, нават на корм для вярблюдаў. А чым далей на ўсход да Амана, тым краіна станавіцца ўсё больш беднай і славіцца толькі пародай хуткіх вярблюдаў, так званых «махары». Мясцовыя качэўнікі прыпісваюць іх шпаркасць злучэннем сваіх вярблюдзіц з раптам налятаючымі на статак «джынамі» духамі пустыні, але і гэтае злучэнне вярблюдаў з чарцямі, наўрад ці было ў стане абудзіць некалі ў розуме аравіцянаў новыя ідэі пра бога, ствараьніка сьвету, і перанесьці іх у астатнія больш культурныя мясцовасьці.

Аман па суседству з Махрой таксама бедны і неўрадлівы, але прыбярэжная паласа запоўнена гаванямі, у ліку якіх Маскат не дарэмна маючы назву «Брама да Кітая». Жыхары Аманскага заліва – з даўніх часоў мараходы і рыбакі, і мора там мае шмат рыбы, а галоўны прадмет вывазу – фінікі. Культывуецца тут таксама і рыс, але і яго далёка недастаткова, каб служыць пдмуркам моцнай і культурнай дзяржавы.

А якой ж з’яўяецца тая краіна, «дзе вырасьлі знакамітыя настаўнікі і заваёўнікі народаў?» – Вельмі невясёлай.

Земляробства на прасторах ўсёй паўночнай Аравіі існуе яшчэ ў меншым памеры, асабліва пасярэдзіне паўвыспы, у яго стэпах і пустынях. Паўночная Аравія, праз якую існуе адзінае выйсьце на кантынент, – пераважна краіна «качэўнікаў» (бедуінаў). Земляробскія (з плантацыямі фінікавых пальмаў) аседлыя гандлёвыя гарады існуюць толькі на заходніх і ўсходніх прыморскіх ускраінах – Геджасе і ў Бахрэйне.

У Геджасе знаходзяцца Мека і Медына, месцы паломніцтва, з іхнымі гаванямі Джыдай і Янбу, і славячыся сваімі ружовымі садамі Таіф, недалёка ад Мекі. У Мецы, між іншым, прадаецца смала бальзамавага дрэва (Ancyris opbalsamum), збіраемая па ўсяму Геджасу, але ні Меку, ні Медыну немагчыма лічыць дзецьмі самой Аравіі. Гэтыя два гарады, дзіўныя стварэнні пасярод пустыні, абавязаны сваім існаваннем мільёнам паломнікаў, якія пакідалі тут на працягу некалькіх стагоддзяў свае зберажэнні набытыя ў больш культурных краінах, і, як толькі ручай паломнікаў знікне, абодва гарады змарнеюць.

А чаму ж збіраюцца сюды паломнікі? Няўжо ні з таго, ні з гэтага? Вядома не! Для ўсяго існуюць падставы. І тая акалічнасць, што яны прыходзяць у Меку пацалаваць існуючыя там аскепкі метэарыта, відавочна паказвае, што непадалёку адбылася вялікая метэарытная катастрофа, уразіўшая ўяўленне насельнікаў атачаючых краін і выбіўшая студню-крыніцу, якая магчыма і была падставай да легенды, што Майсей выбіў ваду са скалы ўдарам свайго кія.

І вось, зноў для тлумачэнні вялікага і загадкавага факту ў гісторыі народаў мы вымушаны звяртацца з пытаннем не да чалавечых успамінаў, а да самай прыроды. Але гэта нам будзе магчыма зрабіць толькі пасьля таго, як мы пазнаёмімся і з астатнімі часткамі разглядаемай намі пустыннай паўвыспы.



Мал. 72.
Маскат на паўднёва-усходнім беразе Аравійскага паўвыспы.

У Бахрэйне на паўночным усходзе Аравіі галоўны горад – Хафуф, ці Ахса (Ляхса), заснаваны толькі ў X стагоддзі сектантамі-карматамі каля старажытнага горада Хаджара; а пад час старажытнасьці там быў вядомы прыморскі горад Хатт, куды із Індыі прывозіўся бамбук для бедуінскіх дзідаў. Ляхса мае шмат фінікаў, але шумнае ажыўленне і гандлёвы рух пачынаецца ў Бахрэйне толькі падчас жамчужнай лоўлі на прылягаючых выспах, калі дзеля абменнага гандлю на ўзбярэжжа Пярсідзкага заліва збіраюцца розныя бедуінскія плямёны із глыбіні краіны. На працягу астатняга часу гандаль замірае: бедуіны зноў сыходзяць у глыб краіны, купцы ад'язджаюць у Індыю і Персію, гарады пусцеюць, і ўсё ўзбярэжжа Пярсідзкага заліва ад Амана да Басры вы'яўляецца для мараплаўцаў адным із

самых сумных і бязлюдных. Згодна з кплівай заўвагай паэта Абу-Новаса там не спевакі былых часоў, а толькі танкарунныя бахрэйнскія авечкі напаўняюць паветра сваім бляяннем[94].

Мы бачым, што і адсюль не маглі прыйсьці заваёўнікі і культуртрэгеры ні ў Ягіпет, ні ў Сіцылію, ні ў Гішпанію. Ды і жалезных і медзяных руд для вырабу зброі тут няма. Якім жа чынам з'явіўся міф, што адсюль выйшла нават і мова, на якой піша ўвесь мусульманскі сьвет? Не ад бляяння ж толькі-што апісаных бахрэйнскіх авечак?

Але захаваем у глыбіні душы гэтае сваё непаразуменне і працягнем наша дасьледаванне і далей.

Як у Хіджасе, так і ў Бахрэйне побач з аседлымі арабамі ўсюды жывуць і качэўнікі-бедуіны. Класічнай мясцовасьцю качэўнікаў з'яўляецца як пласкагор'е Неджэд так і цалкам уся цэнтральная Аравія – пясчанае мора Няфуд, Сірыйская пустыня, ці да паўднёвага ўсходу ад яе пясчаная пустэльня Дахна.

У Неджэдзе шмат узгоркаў і пясчаных раўнін, але таксама шмат і дробных аазісаў са сталымі добрымі пашамі. Тутэйшыя коні (іх не так шмат) і вярблюды славяцца сваёй моцнасьцю і шпаркасьцю. У статках шмат авечак і коз. Пад час дажджлівай пары года на тры-чатыры месяца ўся гэтая краіна пакрываецца травой, і бедуіны са звычайных племяных стаянак перасяляюцца ўглыб яе, пакуль сонца не спаліць пашу. Сакавітасць тагачаснай травы пазбаўляе жывёл (акрамя коней) ад патрэбы піць ваду, а людзі п'юць малако. Незамянімыя паслугі аказвае тут вярблюд, гэты «карабель пустыні». Ён перавозіць аравійца і яго маёмасць, корміць усіх сваім малаком ці мясам, апранае сваёй поўсьцю, адным словам мае ў жыцці бедуінаў галоўную ролю.

Так як вады мала, то мача вярблюдаў ужываецца для падмывання дзяцей ад іхага дзіцячага бруду, і нават для мыцця галавы і цела ў сталых людзей. Пустыня дастаўляе часам і вельмі нядрэнную ежу: дзікую паспяваючую да ліпеня зерневую траву «самх», труфелі, чырвоную парэчку і гэтак далей.

У стэпах і пясчаных раўнінах дзе-нідзе водзяцца дзікія газелі, антылопы, дзікія аслы, дрофы, стравусы, а па зубчатых скалах і горных кражах туляецца каменны баран. Там жа гняздуюцца арол і коршак, а ў нізінных раўнінах бывае шмат саранчы, робячай спусташэнні, але служачай таксама і прадметам ежы: яе смажаць ці вараць у расоле, набіваюць у мяшкі і прадаюць. Да ўжываемых у ежу стварэнняў далучаюцца таксама і яшчаркі. Начамі, сярод звычайнай цішыні, раптам завые шакал ці воўк, зарагоча гіена, і бедуіну-вершніку тады здаюцца галасы злых духаў і ўпырэй. Самыя буйныя драпежныя звяры Аравіі – гэта пантэра, якая дарэмна атасамляецца з тыграм, і радзей – барс.

Мы бачым, што і адсюль ніколі не маглі выліцца магутным струменем у больш культурныя краіны новыя невядомыя там ідэі. Заўсёды ж навукоўцы вучылі пастухоў, а не пастухі навукоўцаў, асабліва мыючыя свае галовы і целы мачой вярблюдаў праз недахоп вады. Ды і норавы гэтага качавога насельніцтва мала дапасуюць да носьбітаў культуры.

Звычай абавязковай спадчыннай кроўнай помсты – характэрыстычная арабская рыса: за забойства родзіча помсціць цэлы род і нават цэлае племя. Падобная помста не аднойчы даводзіла да таго, што два варагуючыя роды цалкам знішчалі адзін аднаго.

---

[94] А. Крымскі; Гісторыя арабаў і арабскай літаратуры свецкай і духоўнай. 1912 г.

Правадыры разрозненых плямён звычайна спадчынныя. Яны маюць назву шэйхаў (старэйшын), але часам носяць і тытул эміраў (князёў). А навуковага стану ці проста пісьменных качавых бедуінаў няма да гэтага часу і ў згадках!

Згодна з разуменнем шляхетнага бедуіна, годны занятак для яго – толькі жывёлагадоўля, гандаль, паляванне і рабаванне, а земляробства, рамёствы і мараходства – заняткі нізкія. У мірны час аравіец жыве ленаватым жыццём у сваім шатры, і ўся яго праца абмяжоўваецца засыпаннем корму для вярблюдаў, а хто багацей – коням. Статкі пасьвіць наёмны пастух, а хатнія працы выконваюцца жонкай і дочкамі. Жонка прыносіць паліва і ваду, доіць быдла, рыхтуе масла, кухарыць, займаецца тканнём. Аднажонства тут пераважае дзякуючы таму, што жанчын не нараджаецца больш, чым мужчын, вельмі заможных маючых магчымасць утрымліваць некалькі жонак няма, і толькі дзякуючы гэтаму бедуінка там больш вальная, чым гараджанка. Фата тут не вельмі ў павазе, хаця для жанчын у шатры і існуе асобная палавіна, адгарожаная вісячым дыванам ад мужчынскай часткі.

Шацёр тут каля сажані ў вышыню, сажні тры ў даўжыню ў больш сажані ў шырыню. Ад дажджу ён пакрываецца непрамакаючым лямцам із воўны. Ніякага месца для хатняй бібліятэкі ў ім няма і ніколі не было. У горад бедуін ездзіць рэдка, толькі тады, калі прывозіць на продаж масла, поўсць, хатнія ваўняныя тканіны, прыганяе быдла ці коней, і набывае замест іх зерневы хлеб, фінікі, адзенне, начыненне, каву, тытунь і ружэйныя запасы.

Звычайная ежа аравійца – крупа із праваранай пшаніцы ці кукурузы, радзей хлеб у выглядзе аладак, і пераважна кіслае малако. Дзе растуць фінікі, там галоўнай ежай з’яўляюцца яны. Часам ежу разнастаіць дзічына; на выпадак сьвята ці з'яўлення гасьцей колюць казу ці ягня, але наогул мяса – рэдкая ежа.

Аравіец гасьцінны і ўмоўна вялікадушны. Ён не толькі нічога не шкадуе для госьця, але гатовы грудзьмі бараніць яго, а ў звычайных дачыненнях з чужымі ён прагны, карысталюбны і схільны да ашуканства. Ды і да рэлігійных пытанняў качэўнік-бедуін вельмі абыякавы, і таму я зноў пытаю чытача: якім жа чынам можна паверыць, што менавіта адсюль і выйшлі на тры кантыненты настаўнікі, і заваёўнікі? Якім чынам можна дапусьціць, што із жыхароў гэтай беднай, ізаляванай ад усяго астатняга сьвету, краіны магло амаль імгненна ўтварыцца (відавочна, вымыўшыся больш чыста мачой сваіх вярблюдаў!), філасофска-рэлігійнае племя кіруючае трыма прылягаючымі і больш культурнымі мацерыкамі, надзеленае такой магутнасцю розуму і цела, што яно раптоўна заваявала як фізічна так і духоўна ні з таго ні з гэтага, усе атачаючыя культурныя краіны? Гэта ж прыдатна хіба толькі для балады пра Іллю Мурамца, які сядзеў трыццаць гадоў і тры гады, а потым раптам падхапіўся і нарабіў дзіваў адвагі на ўвесь сьвет. Такім чынам, сфармулюем сабе як аксіёму такую выснову:

**Аравійская паўвыспа – гэтае скляпенне азіяцкага кантыненту – магла мець толькі пасіўную ролю ў развіцці магаметанства ў Яўропе, Азіі і Афрыцы.** Мека і Медына маглі стаць цэнтрамі пілігрымства не таму, што ў іх жыў калі б там ні было заснавальнік ісламa і што там быў напісаны Каран.

Усе магілы першых дзеячаў гэтай рэлігіі, – пачынаючы ад прарока (труна якога на працягу ўсяго сярэдневечча лічылася паляцеўшай у падхмар'е, дзе яе падтрымлівалі анёлы) і заканчваючы магіламі яго паплечнікаў, – звычайныя рэлігійныя падробкі дзеля прыцягнення вернікаў. Усе апавяданні пра іх не больш праўдзівыя чым евангельскія апавяданні пра Езуса і яго апосталаў, і чалавеку

навукі тут не застаецца нічога рабіць як шукаць у больш прыдатных краінах і ў больш прыдатныя часы як і аўтараў Карана, так і асоб, якія маглі б даць нагоду да стварэння міфа пра аравійскага прарока і пра яго аравійскіх паплечнікаў.

# Глава II.
## Аравія і Іберыя.

Мы бачылі зараз сведчанні аравійскай прыроды, разгледзім жа і сведчанні гісторыі, дапасуючы да іх наш натуралістычны метад вывучэння.

Аравійская паўвыспа з яе насельнікамі і іхнымі рэлігійнымі ўяўленнямі была надзвычай мала вядомай каму б там ні было, нават і ёй самой аж да паловы XIX стагоддзя.

Пасьля кароткіх і ўрыўкавых біблейскіх паданняў пра нейкага Арбу ці Араба сведчанні пра гэтую паўвыспу, павядомленыя Яўропе грэцкімі і рымскімі пісьменнікамі, ці казачныя, ці вельмі не дакладныя. «З часу Магамета і першых каліфаў, Аравія цалкам знікае з далягляду гісторыкаў», – паведамляюць нам усе дасьледчыкі. Але калі гэта так, то ці не міраж і самі каліфы?

Із новых дасьледчыкаў Катрэн-Нібур мала ведаў арабскую мову, Буркгардт непраўдзіва апісаў бедуінаў і грамадзкі стан унутранай Аравіі; Вельштадт і Валін пераважна рабілі тапаграфічныя дасьледванні, ды і наогул усе астатнія еўрапейскія навукоўцы, вандраваўшыя на Ўсход да 1863 года, наведвалі толькі адны ўскраіны і ўзбярэжжы шырокай Аравійскай паўвыспы, большай часткай ужо страціўшыя выключна мясцовы нацыянальны характар, і здабывалі паведамленні пра жыццё Аравіі больш із чужых аравійскаму народу крыніц. Вільям Джыфорд Пальгрэў[95] першым із еўрапейцаў праехаў праз усю Аравію і, пражыўшы больш года ў яе цэнтральных абласьцях, першым непасрэдна і ўсебакова вывучыў рэлігію аравійцаў і іхнае жыццё ва ўнутраных абласьцях паўвыспы.

Як і належала чакаць згодна з яе геаграфічным месцаваннем і згодна з яе прыродай, ён знайшоў Аравію краінай замкнёнай ў самой сабе з арганічна напаловудзікай з нагоды качавога ладу жыцця асноўнай масай яе насельнікаў, пры якім цалкам немагчыма існаванне не толькі нейкіх культурных ўстаноў, але і самой пісьмовасьці, патрабуючай пастаянных школ і падручнікаў. Ніякага тэалагічнага цэнтра не магло ўнікнуць у яе цесных пераносных шатрах, дзе няма нават і палічкі для кніг, але перш чым выкажам навейшыя ўяўленні, паглядзім, што нам паведамляюць пра Аравійскую паўвыспу старажытныя пісьменнікі.

На біблейскай мове, – пераконваюць нас тэолагі, – яна мае назву АРБ (ארב), г.азн. Араба, але гэтае слова проста азначае «Захад», і таму хутчэй можа пазначаць Іберыйскую паўвыспу. Такому тлумачэнню не супярэчыць і характарыстыка біблейскай «Арабы» ў тых выказваннях, у якіх змяшчецца яе найменне.

Вось некалькі ўзораў:

«*У лесе Арабы* (г.азн. заходняй краіны) *начуйце вы, караваны Дэлана*!» – паведамляецца ў прароцстве «Іса-Ія» (**21**, 13).

---

[95] Я карыстаўся Французкім перакладам: William Gifford Palgrave: Une annee de voyage dans l'Arabie centrale. Traduit par E. Jonveaux. 1866.

Але дзе ж лясы ў пустынях Аравійскай паўвыспы? Паспрабуйце пашукаць, і вы іх не знойдзеце, акрамя невялікіх пальмавых гаёў, ды і тыя рэдкія. А на Іберыйскай паўвыспе яны ёсць.

«*Усе цары краіны Арабы і яе абласныя кіраўнікі прыносілі золата і срэбра Саламону*», – дадае другая кніга Параліпаменон (**11** II. 9, 14).

Але ж золата і срэбра здабывалася цалкам не на Аравійскай паўвыспе! На ёй, ды і то толькі дзе-нідзе на ўскраінах, вы знойдзеце толькі не вельмі каштоўныя жалезныя, медзяныя і свінцовыя руды, але дарэмна будзеце шукаць золата і срэбра. А на Іберыйскай паўвыспе спрадвеку здабываліся як золата так і срэбра...

Ды і сам біблейскі Саламон, як я ўжо даводзіў у першым томе «Хрыста» спісаны з візантыйска-рымскага імператара Кастуся Сьвятога з дамешкам фантастычных дэталяў із жыццяапісання заснавальніка хрысьціянскага набажэнства...

«*Я ўзяў чарку із рукі бога Грамабоя,* – выказваецца нам прароцтва «Ерамія» (**25**, 17) словамі із Апакаліпсіса, – *і напаіў із яе... увесь Заходні край* (**25**, 19) ... *усіх цароў «Арабы»* (г.азн. цароў Заходняй краіны) *і ўсіх заходніх цароў, жывучых у стэпе*» (**25**, 24)...

І тут краіна «Араба» паказана на Захадзе, ды і сама азначае «Заходняя краіна».

А ў тых месцах, дзе ў Бібліі згадваецца пра «вандруючага араба», гэтае слова можна дапасаваць і не да аравіцяніна, а да якога заўгодна із араба-жыдоўскіх народаў, хаця б, напрыклад, да жыхароў Сахары, нават да еўрапейскіх іншапляменных качэўнікаў, накшталт цыган, ці старажытных вандруючых купцоў.

«*Каля дарог сядзела ты для каханкаў тваіх, як качэўнік араб у стэпе*», – выказваецца прароцтва Іезекі-Іл (**3**. 2), маючы на ўвазе сучасную яму дзяржаўную царкву, таксама словамі Апакаліпсіса.

«*І Брама-Госпадава,* – паўтарае яму прароцтва Іса-Ія (13. 20), – *краса царстваў, слава і веліч астролагаў будуць, як Садом і Гамора* (Геркуланум і Пампея), *разбураны богам... і арабы-качэўнікі не паставяць там сваіх шатроў*».

Гэтым і абмяжоўваюцца ўсе згадванні пра арабаў у Бібліі, у якой гісторыкі шукаюць доказаў знаёмства яе аўтараў з Аравійскай паўвыспай і яе жыхарамі. Але само сабой зразумела, што такія ўрыўкавыя згадванні не даюць нам ніякага права зрабіць выснову пра знаёмства Бібліі з Аравіяй. Наадварот, тут выяўляецца толькі тое, што пад Арабай там хутчэй усяго маецца на ўвазе Маўрытанская Іберыя, г.азн. Гішпана-Партугальская паўвыспа, магчыма і з прылягаючай часткай французкай Савоі (біблейская Сава).

Не нашмат лепш справа выглядае і ў новазапаветных кнігах.

У Евангеллях пра Аравійскую паўвыспу няма ні слова. У «Здзяйсненнях апосталаў», якія з боку гледжання маёй храналогіі з'явіліся не раней IX-X стагоддзя нашай эры, ёсць толькі тое, што ў ліку асоб, загаварыўшых раптам, не вучыўшыся, а дзякуючы наданню сьвятога духу, на замежных мовах, знаходзіліся вакол 12 апосталаў Хрыста і «рымляне і юдэі і крыцяне і арабы» (Здзяйсн. 2, 11). Але і тут узнікае пытанне: ці былі гэта аравійцы (калі праўда тое, што яны раптам загаварылі і на-лаціне, і па-грэцку, і па-нямецку, і па-руску, і па-французку?) А ў лісьце да французаў (галетаў) апостал Павел толькі выказваецца (і пры гэтым відавочна прыдумляе, як і толькі-што прыведзены аўтар пра зыходжанне сьвятога духа на арабаў), быццам бы ён «*пайшоў у Аравію і вярнуўся адтуль праз Дамаск* (Гал.

1. 17) і дадае далей, да нашага здзіўлення, што «*імя маці Ізмаіла Агар сімвалічна пазначае там гару Сінай*» (Гал. 4, 25)...

Такім з'яўляецца першы і адзіны выпадак, калі ў кнігах новага запавету адзін із сярэднявечных хрысьціянскіх аўтараў (ці будзем мы лічыць яго «апосталам Паўлам» ці кім іншым), выявіў, што яму вядома, хаця б толькі на імя, Аравійская паўвыспа, якая, такім чынам, аж да заканчэння сярэдневечча, куды даводзіцца дапасаваць толькі што цытаваны ліст Паўла, не мела ніякага значэння ў развіцці рэлігійных уяўленняў астатняга Еўрапейска-Азіяцкага і нават Афрыканскага сьвету, як гэта і павінна быць адпаведна з яе беднай прыродай і адпаведна адрэзанаму ад астатняга сьвету, глухому месцаванню.

Не лепш чым гэтыя сведчанні вяўляюцца і паведамленні грэцкіх і лацінскіх пісьменнікаў у тым ліку і класічных пра Аравійскую паўвыспу.

Усё, што яны нам паведамляюць, выявілася пасьля вандравання туды Пальгрэва ў XIX стагоддзі суцэльнай выдумкай еўрапейскіх фантазёраў эпохі гуманізму, ніводнай нагой не ступаўшых у яе ўнутраныя вобласьці, акрамя гаваняў Джыды, Адэна і Масската. Ніякіх казак із «Тысячы і адной ночы» ніхто на Аравійскай паўвыспе нікому не распавядае, ніякіх рукапісных ці друкаваных кніг ніхто там не бачыў аж да заканчэння XIX стагоддзя, акрамя хіба некалькіх асобнікаў Карана, дасланых у Меку і Медыну познімі турэцкімі султанамі з той жа Яўропы і выдаваемых за сярэднявечныя творы. Само найменне Аравійская паўвыспа (Джэзірэт-Ель-Араб згодна з мясцовым вымаўленнем) ужо больш позьняга літаратурнага паходжання, ад згаданага намі біблейскага кораня АРБ (Захад), перанесенага капрызам лёсу на Ўсход. Ды і сама «літаратурная арабская мова», г.азн. мова Карана, пашырыўшаяся пад час сярэдневечча ад гішпанскай Кордавы да індыйскага Пенджаба з'яўляецца як я ужо не раз выказваўся, – толькі адным із адгалінаванняў старажытна-жыдоўскай мовы, якой яна была ў Паўднёвай Яўропе і Ягіпце пад час сярэдневечча.

Нават і зараз кожны ведаючы мову Бібліі лёгка разумее мову Карана, у Ягіпце карэйшыцкі дыялект, г.азн. (у перакладзе) з'яўляецца мовай пастрыжэнцаў-сьвятароў, ад жыдоўскага кораня КРХ (Карэйх – пастрыгаць, рабіць танзуру – лысіну на верхавіне), як у хрысьціянскіх сьвятароў. Я ўжо выказваўся, што і ў Бібліі некалькі псалмоў[96] маюць назву «гімны сыноў Карэя». А сам Карэй у кнізе Сыход апісаны, як лявіт, паўстаўшы супраць Майсея, за што як быццам бы патрапіў у расколіну ад землятрусу (Сых. 6. 24). Але нягледзячы на гэтае сумнае заканчэнне яго лёсу, яго нашчадкі ўсё ж былі і згодна з Біблія́й сьвятарамі пры невядома куды знікшым пазней «Намёце Запавету» (дзе захоўваліся скрыжалі Майсея).

«*Сын Карэя*, – паведамляе першая кніга Параліпаменона (**9**, 19), – *і браты карэяне із яго пакалення – былі згодна з абавязкам свайго служэння вартавымі каля парога Намёта Запавету, а іхныя бацькі ахоўвалі ўваход знаходжання бога Грамабоя*».

Ужо із гэтага мы бачым, што так званая «арабская мова» наогул не з'яўляецца мовай Аравійскай паўвыспы, а адным са штучных міжнародных жаргонаў, падобна таму ж як і лацінская мова пад час эпохі гуманізму ў Заходняй Яўропе і яе дакладным найменнем павінна было б быць "царкоўна-літаратурная інтэрнацыянальная мова прававерных".

[96] 42-49, 84, 85, 87 і 88-псалмы братоў Карэяў.

Бяручы да ўвагі карэнны склад сваіх слоў і граматыку яна, разам з яе адгалінаваннем «жыдоўскай мовай» належыць да сямейства існуючых і зараз семітычных нацыянальных моваў[97].

Але, як і заўсёды бывае з літаратурнымі мовамі, яна зрабілася нашмат багацейшай, чым спарадзіўшыя яе нацыянальныя гаворкі як згодна з тэрмінамі, нярэдка запазычанымі із еўрапейскіх культурных моваў, так і згодна з граматычнымі формамі.

Вельмі цяжка вызначыць, ад якой із семітычных нацыянальных моваў яна ўзнікла першапачаткова, таму што дзякуючы паўсюднаму пашырэнню сярод іх гэтай карэйшыцкай царкоўна-літаратурнай мовы муламі, усе нацыянальныя мовы ў прававерных краінах павінны былі значна асіміляваўцца з ёю, асабліва на захадзе Аравійскай паўвыспы, дзякуючы штогадовым наплывам рознапляменных пілігрымаў у Меку і Медыну. Падарожнікі натуральна не маглі размаўляць з мясцовымі насельнікамі інакш, як на мове вядомага ім з царкоўных службаў Карана, з нагоды чаго насельніцтва ўсіх наведваемых пілігрымамі месцаў непазбежна павінна было больш іншых прыстасавацца да яе і, увесь час размаўляючы на ёй з чужаземцамі, мімаволі запазычыць яе адметныя асаблівасьці і для свайго сямейнага ўжывання.

Але калі б нават і выявілася, што нейкая із племянных гаворак Аравійскай паўвыспы з’яўляецца асабліва блізкай да мовы Карана, то гэта яшчэ не азначала б, што Каран і быў напісаны на тэрыторыі самой гэтай пустыннай паўвыспы, а не ў нейкім із буйных культурных цэнтраў сярэднявечнага ісламіцкага сьвету, накшталт, напрыклад, Багдада, дзе рэзідэнцыя «намесьнікаў боскага прарока» (каліф-разул-аслахаў), была, як пераконваюць нас, уладкавана яшчэ легендарным Гарун-аль-Рашыдам (г.азн. Аронам Справядлівым), сучаснікам Карла Вялікага на іберыйскім Захадзе і Кастуся VI з яго маці Ірынай, аднавіўшай малярства і скульптуру на Ўсходзе. Гэтая рэзідэнцыя і існавала – запэўніваюць нас – аж да 1258 года, ды і да гэтага часу там знаходзіцца месца складавання пярсідзкіх, індыйскіх, аравійскіх тавараў і еўрапейскіх мануфактурных вырабаў.

Само сабой зразумела, што гэтым я яшчэ не прадракаю, што Каран быў створаны менавіта ў Багдадзе на берагах ракі Тыгр пры Ароне Справядлівым (каля 786 г.) ці пры яго наступніках да XIII стагоддзя, тым больш, што і сам гэты горад мясцовымі жыхарамі зваўся да навейшага часу цалкам не Багдад (г.азн. Богададзены), а Балда, што азначае, толькі дзякуючы здагадкам атаясамляемы з Багдадам Гарун-аль-Рашыда. Каран мог узнікнуць і ў Газні, і ў Басры, на Шат-эль-Арабе, дзе насельніцтва і да гэтага часу размаўляе на блізкай да Карана мове, і ў ягіпецкім Каіры і, нарэшце, у гішпанскай Кордаве, падчас знакамітага Кордаўскага халіфата, паміж 756-1031 гадамі нашай эры, куды мог згодна са сваім жаданнем ці гвалтоўна перасяліцца малады і дапытлівы паэт-равіцянін і паглыбіўшыся ў вывучэнне блізкай яму адпаведна з духам і мовай арыянскай пісьмовасьці (якую з новага боку гледжання немагчыма аддзяляць ад закона біблейскага першасьвятара Арона), ён лёгка мог вольна пераказаць яе змест на сваёй карэйшыцкай, г.азн. сьвятарскай гаворцы.

Са стратэгічнага боку гледжання і з боку гледжання агульных законаў пашырэння кожнай новай ідэй із краін высокай культуры ў краіны больш нізкай культуры, ад пісьменных да непісьменных, а не наадварот, даводзіцца лічыць, што

[97] Із іх пазначу: эфіёпскую і гімьярскую (на якой захаваліся толькі адны эпітафіі), сірыйскую, ягіпецкую і заходне-афрыканскую (магрэбінскую і бедуінскую на Аравійскай паўвыспе).

ў дадзеным выпадку да справы вырашэння чалавечых узаемадачыненняў далучыліся звышнатуральныя магутнасьці, каб патлумачыць тую акалічнасць, што на працягу нейкіх 75 гадоў – ад 638 года да 711 аравійскія пастухі быццам бы заваявалі непараўнальна больш людны Ягіпет і што яны ж заваявалі, з аднаго боку, Туркестан, а з другога – перакінуліся, куды б вы думалі! – у Гішпанію!!.

Яны, – як пераконваюць нас, – заснавалі і там «намесніцтва боскага прарока», праіснаваўшае да XI стагоддзя нашай эры, пакуль гэтых намесьнікаў не прагналі ў Афрыку намесьнікі сына боскага ў Рыме з дапамогай падпарадкаваных ім духоўна каралёў.

Толькі ў тым выпадку, калі мы атаясамім прававер'е (мусульманства) з першапачатковым арыянствам, узнікшым яшчэ задоўга да Геджры, нам будзе зразумела, што яно да пачатку VIII стагоддзя нашай эры здолела раскінуца так шырока па Азіі, Афрыцы і Паўднёвай Яўропе. Але што ж тады застаецца ад Мекі і Медыны ў Аравіі і як магчыма патлумачыць легенду пра тамтэйшага Славутага прарока – Магамета?

Хаця мой чытач ужо і прызвычаіўся да непараўнальна больш вялікіх нечаканасьцей у папярэднічаўшых пяці тамах гэтага майго дасьледавання, але і такая нечаканасць, як аспрэчванне мной самаго існавання прарока Магамета калі б там ні было на Аравійскай паўвыспе, патрабуе грунтоўнага матывавання. Вось чаму я зноў перайду да сваіх натуральна-гістарычных метадаў дасьледавання.

# Глава III.

## Метэарытныя катастрофы на Зямлі і на Месяцы.

Важнай гістарычнай рысай рэлігіі «славутых» з'яўляюцца вандроўкі ў Меку дзеля ўшанавання захоўваемых там невялікіх аскепкаў камяністага метэарыта. Немагчыма нават і падумаць, каб звычайны метэарыт (мал. 62) змог вырабіць такое моцнае ўражанне на чалавечыя розумы, што водгаласы яго ўдару аб зямлю пакінулі сьляды не толькі ў яе глебе, але і ў душах мільёнаў людзей, перамяніўшы іх сьветапогляд на трох сумежных кантынентах, і не замоўкшых ў іх да гэтага часу, на працягу цэлага шэрага стагоддзяў. Вырабіць такое вялізнае ўражанне на розумы мільёнаў паслядоўна змяняючыхся пакаленняў людзей магла толькі вялізная метэарытная катастрофа і прытым хутчэй усяго ў Чырвоным моры, меўшая наступствам, як гэта магчыма ў тых краінах, тэктанічны землятрус, а ў атмасферы – ураган і затапленне морам берагоў Ягіпта, Аравіі і Сіная, таму што на сушы каля Мекі мы не знаходзім ніякіх выключна вялікіх метэарытных выбаін. Тыя дробныя каменьчыкі, якія знаходзяцца ў Мецы, з'яўляюцца відаць толькі нікчэмнымі аскепкамі, адкінутымі пры катастрофе на гэтае месца (ці нават чыста выпадковымі адломкамі пабітых скал). Вось чаму, перш чым прыступіць да апісання магаметанскіх вандровак у Меку дзеля ўшанавання гэтых рэліквій, нам набходна сказаць некалькі слоў і пра метэарытныя катастрофы.



Мал. 73.
Выбух невялікага метэарыта пры яго залятанні ў атмасферу.

## I. Метэарытны кратар паблізу каньёна Дз'ябла ў Арызоне (Паўночная Амерыка).

Якія разбурэнні могуць вырабляць метэарыты на зямной паверхні?

Вось як апісвае прафесар К. Граф адну із выдатных метэарытных выбаін на зямлі.

У цэнтральнай Арызоне, на адлегласьці некалькіх кіламетрах на паўднёвыўсход ад каньёна Дз'ябла (Canion Diablo), у 1886 г. у глухім стэпе пастухі знайшлі на адпачынку аскепкі камянёў, з вонкавага боку карычневага ці чорнага колеру, а ўсярэдзіне меўшыя выгляд белага бліскучага металу, які яны палічылі за срэбра. Гэтыя аскепкі былі раскіданы сярод парэштках скал вакол глыбокага кратарападобнага паглыблення, якое разам са сваёй узгорыстай акружнасьцю было даўно вядома пад назвай Мядзвежай купальні, але да таго часу не трапляўшае пад

увагу геолагаў. Праз прамежак часу каля 4 гадоў, у 1890 годзе, асобныя кавалкі знойдзенага металу патрапілі ў рукі прафесароў Фута і Кёніга, якія адразу ж прызналі іх за метэарытнае жалеза. Такі факт, асабліва ў сувязі з загадкавай наяўнасьцю кратара ў невулканічнай мясцовасьці, абудзіў да сябе ў 1897 годзе вялікую цікавасць у навуковым асяроддзі, і пачаліся адмысловыя дасьледаванні.





Мал. 74.
Знізу – агульны выгляд метэарытнага кратара «Мядзьвежая купальня» ў Арызоне ў П. Амерыцы, паблізу каньёна Дз'ябла. Пасярэдзіне табліцы – яго план. Зверху – вертыкальны разрэз і размяшчэнне загнутых угару выбухам пластоў зямлі, якія спачатку былі гарызантальнымі.

Выключны кратар знаходзіцца на +35° паўночнай шыраты, каля 32 кіламетраў на захад ад Вінслоу і 10 кіламетраў на поўдзень ад чыгункі Санта-Фе ў графстве Каканіна. Яго вонкавы дыяметр дасягае 1,21 кіламетра ў самым вялікім накірунку і 1,19 кіламетра ў самым малым, так што мае амаль круглую форму. Яго самая вялікая глыбіня 250 метраў, а вышыня сьцен над яго акружнасьцю даходзіць да 40-50 метраў. Пасярэдзіне яго круглая, плоская, вельмі роўная глеба (мал. 74), прыблізна 450 метраў у дыяметры, а месцовасць вакол яго ўяўляе сабой пясчанае, беднае расліннасьцю пласкагор'е, галоўным чынам із ломкага вапняка. Некалі гэтая мясцовасць была пакрыта тонкім пластом чырвонага пясчаніку, рэшткі якога захаваліся там і сям.

Слядоў навейшай ці нават былой вулканічнай дзейнасьці не сустракаецца нідзе на адлегласці 100 кіламетраў навокал і на звычайныя кратары гэтае паглыбленне падобна толькі на выгляд. У ім і паблізу яго няма ніякіх выкідаў плутанічнага характару, накшталт лавы, вулканічнага попелу і таму падобных прадуктаў вывяржэння. Вонкавы вал гэтага цырка, нагадваючага месяцовыя (мал. 70 і 71), складаецца із кучы раздробненага пясчаніку, выкінутага без сумневаў із нутра кратара. Яго аскепкі, пачынаючы ад часьцінак мікраскапічнай велічыні, дасягаюць часам да кавалкаў роўных некалькім сотням ці нават тысячам тон вагой. Яны, як скалістае мора, пакрываюць усё наваколле цырка на адлегласці ад 400 да 1600 метраў ад вала, а ва ўсходнім накірунку адкінуты нават да $5^1/_2$ кіламетраў. Асаблівую важнасць тут набывае той факт, што выкінутыя аскепкі пясчаніку выразна адрозніваюцца ад нармальных адломкаў дадзенай мясцовасьці, нягледзячы на іх аднолькавы склад. Пры адкідванні яны вельмі моцна перамяніліся як згодна з крышталічным, так і згодна са сваім мікраскапічным уладкаваннем з нагоды уплыву высокай тэмпературы. Усё нутро цырка носіць на сабе сляды відавочнай катастрофы. Яго бакавыя сьцены складаюцца із моцна разбураных тэрасападобных пластоў вапняку і пясчаніку, якія із першапачатковага амаль гарызантальнага

размяшчэння адхілены ад 10° да 80°, а ў адным месцы пастаўлены больш чым перпендыкулярна, пад кутом да 110°.



Мал. 75.
Месяцовыя цыркі. Направа – цырк Архімед. Лявей яго (верхні) – цырк Аўталік, і пад імі Арыстыл. Пасярэдзіне ўгары заканчэнне месяцовых Апенінаў, а знізу – месяцовага Каўказа. Каля сярэдзіны левай цёмнай часткі белая пляма – рэштка былога цырка Лінея.



Рыс 76.
Месяцовыя цыркі. Цырк Капернік, ад якога прамяніста ідуць ва ўсе бакі адкіданні месяцовай паверхні ператвораныя у мукападобнае рэчыва.

Наконт наяўнасьці вялікай колькасці метэорнага жалеза пад глебай пасярэдзіне кратара яшчэ немагчыма сказаць нічога вызначанага. Да 1891 года 137 знаходак метэорнага жалеза ў яго наваколлі мелі ў агульным вагу роўную толькі 91,2 кілаграмам. Больш старанныя навуковыя дасьледаванні пачаліся там толькі з 1895 года, і за гэты прамежак часу значная частка метэорнага жалеза была вынесена рознымі наведвальнікамі праславіўшагася месца. Адзін паблізу жывучы індзеец з дапамогай сваіх дзяцей нават сістэматычна абшукаў усю гэту вобласць дзеля прадажы аскепкаў турыстам, і лічыцца, што да 1890 года ўсе такія знаходкі ў цэлым складалі каля 20 тон жалеза. Самы вялікі кавалак тутэйшага метэорнага жалеза (460 кілаграмаў) знаходзіцца зараз у Нацыянальным музеі ў Вашынгтоне. А із перавезеных у Яўропу кавалкаў найбольш цікавы захоўваецца ў Гамбургу ў Геалагічным інстытуце. На ім яскрава бачны характэрныя паглыбленні даўно зваліўшагася метэарыта, г.азн. пустэчы, якія спачатку былі запоўнены сярністым жалезам, ды і наогул звычайны працэс акіслення моцна перайначыў першапачатковы выгляд кавалкаў. Магчыма, што дзякуючы гэтаму на іх нідзе не знойдзена слядоў вонкавага паверхневага плаўлення. Меншыя кавалкі большай часткай крапляпадобнай ці чаркападобнай формы з ракавінападобным разломам, які мы назіраем на нашых краменях. Тут жа знаходзяцца ўзвышэнні магнітнага калчадану і акісленага нікелістага жалеза, у глыбіні якіх часта сустракаецца

металічнае ядро. Была выказана здагадка, што магчыма ўсе знойдзеныя ў гэтай мясцовасьці аскепкі вялізнага метэарыта былі заключаны ў аплаўленыя абалонкі і толькі з цягам часу стаціўшыя іх дзякуючы акісленню.

Цяжка дакладна вызначыць пляцоўку раскідання метэорнага жалеза вакол гэтага цырка, але ва ўсякім разе яна дасягае некалькіх квадратных кіламетраў. Пры дасьледаваннях Гільберта ў самым кратары не было знойдзена ніводнага кавалка жалеза. А на вонкавых сьценах кратара і на прылеглым да іх скалістым моры аскепкі метэарыта размяркоўваюцца, згодна з Тульгманам, месяцападобным паловуколам, набліжаючымся эксцэнтрычна да вала ад захаду на ўсход. Ды і цалкам уся гэтая мясцовасць змяшчае шмат метэарытаў. Так на адлегласьці 13 кіламетраў далей на ўсход быў знойдзены вялікі кавалак метэорнага жалеза. Калі лічыць, што ён таго ж паходжання, то ён адкінуты ад кратара на адлегласць у два разы большую, чым каменныя аскепкі. Яшчэ і раней яго быў знойдзены метэарыт на адлегласьці 32 кіламетраў на паўднёвы захад, а другі вялікі каля 2 тон вагой на адлегласьці роўнай амаль 150 кіламетрах на ўсход ад каньёна Дз'ябла. Пікерынг прыводзіць у сувязь з гэтым кратарам і іншыя метэарытныя парэшткі, знаходзячыяся нават на адлегласьці 1 000 і 1 500 кіламетрах, але гэта, вядома, толькі яго мркаванне. Нават і бліжэйшыя знаходкі могуць належаць іншым метэарытам. Цікава адзначыць, што ў 1905 годзе Барынгер падчас сваіх пошукаў знайшоў вельмі блізка ад гэтага «кратара» параўнальна нядаўна зваліўшыся метэарыт.

На самым пачатку дасьледаванняў цырка само сабой узнікла пытанне, ці не змяшчаюцца ўсярэдзіне яго пад накіданым і нанесеным зверху покрывам вялікія масы метэорнага жалеза? Хаця пошукі з дапамогай магніта і не далі ніякіх указанняў, але ўсё ж Тыльман і Барынгер пачалі адпаведныя дасьледаванні. Пры раскопванні на паверхні зямлі і паблізу ад яе было знойдзена яшчэ каля 2 000 кавалкаў метэарыта і із іх 4 кавалкі вагой ад 7 да 9 кілаграмаў у самым нутры кратара. Аднак свідраванне, дасягаўшае да 325 метраў глыбіні каля падэшвы кратара, не дало ніякіх істотных доказаў знаходжання там вялікай масы жалеза, гэтак жа як і вынутыя із бакавых сьцен пробы горных парод. На дне кратара сустрэліся толькі адломкі нептунічных напластаванняў са слядамі метэорнага жалеза і нікелю, нават на глыбіні большай чым 200 метраў, а пад імі ляжаць некранутыя мясцовыя пласты, так што нагода ўзнікнення кратара павінна быць прыпісана чыста павярхоўнаму ўздзеянню.

Метэарытнае паходжанне гэтага цырка цалкам давялі кіраўнікі свідравання, інжынеры Тыльман і Барынгер разам з мясцовым геолагам Мерылем, яны пры гэтым пазначылі:

1) што глыбіня і бакавыя памеры цырка якраз адпавядаюць варонцы, выбітай зваліўшайся гранатай,

2) што на прасторы ўсёй мясцовасьці да глыбіні амаль 500 метраў не сустракаецца слядоў вулканічнай дзейнасці, і

3) што пад разбуранымі верхнімі пластамі ляжаць некранутыя пласты воднага паходжання.

Амерыканскі фізік Магі ў 1910 годзе, грунтуючыся на геалагічнай структуры мясцовасьці, супраціўленні паветра і ўсім іншым, прыйшоў да высновы, што метэарыт, здольны прывесьці да такіх вынікаў, павінен быў валодаць масай каля 400 мільёнаў кілаграмаў (г.азн. 400 000 тон) вагі, пры канчатковай хуткасці 35 кіламетраў за секунду (звычайныя метэарытныя хуткасьці). Прыняўшы ў разлік

удзельную вагу = 7 для метэорнага жалеза, пры ўдзельнай вазе вады = 1, мы знаходзім, што тут звалілася нікеле-жалезнае цела, меўшае ў дыяметры каля 46 метраў (у выпадку яго круглай формы) г.азн. больш чым шасьці павярховы дом.

Вялізная тэмпература, узнікшая пры сутыкненні яго з камяністай паверхняй, не толькі магла мець наступствам вельмі моцны выбух як самога метэарыта, так і прылеглай да яго глебы, але таксама і ўсе выяўленыя побач змены горных парод. Тая акалічнасць, што знойдзена толькі нікчэмная доля ўсяго метэарыта, не павінна нас здзіўляць. Пры каласальным павелічэнні яго тэмпературы, вялікая яго частка ў момант удару ператварылася ў газ, а астатняя частка разбурылася пад уплывам паступовага акіслення. Із усіх знойдзеных да гэтага часу метэарытных выбаін на зямлі, гэтая самая вялікая згодна са сваімі памерамі.

Ужо памянёны намі Пікерынг, брат нядаўна памёршага вядомага амерыканскага астранома, выказаў трохі адважную здагадку, што цалкам ўсе буйныя знаходкі метэарытаў у Новым Сьвеце, згуртаваныя вакол каньёна Дз'ябла, абавязаны сваім паходжаннем сутыкненню Зямлі з галовай каметы, але гэта толькі проста думка, таму што каметы рассыпаюцца толькі на раі маленечкіх парушынак – падаючы зорачак. Пра час, калі гэты метэарыт зваліўся, сказаць нічога немагчыма. Свідраванне прайшло пад паверхняй дна спачатку праз пласты выробленых выбухам адломкаў горных парод і праз прадукты іхнага выветравання, а пад імі выявіліся, як я ўжо пазначаў, гарызантальныя асаджэнні ад 8 да 27 метраў таўшчынёй, парэшткі ад існаваўшага тут дагістарычнага мора, напоўненыя дыятамеямі, шкарлупінамі малюскаў і незлічонымі крышталікамі гіпсу.

Тая акалічнасць, што пад гэтым пластом зноў сустракаюцца сляды жалеза, яшчэ не сведчыць, што і яно належыць таму ж метэарыту, а не з'яўляецца вынікам звычайнага воднага паходжання. З упэўненасьцю можна толькі сказаць, што катастрофа адбылася ў геалагічна нядаўні час, таму што інакш кавалкі метэорнага жалеза акісліліся б цалкам.

У № 2885 Nature за 1924 год было паведамленне, што ў індзейцаў Паўночнай Арызоны існуе легенда, быццам бы ў гэтым месцы нейкі бог спусьціўся на палаючай калясніцы, асвяціўшай неба і знікшай пад зямлёй, але было б неасьцярожна надаваць ёй вялікае значэнне бяручы да ўвагі тое, што гэты цырк не служыць месцам ушанавання.

## II. Метэарытная катастрофа ў сібірскай тайзе.

Кінахінганскі метэарыт у Вугоршчыне быў да нядаўняга часу адзіным, пры паданні якога ў 1866 годзе ў малым выглядзе выяўлены сведкамі кратар, пры гэтым метэарыт ляжаў наперакос паглыбіўшыся ў яго дно. І толькі ў нядаўні час было знойдзена ў сібірскай тайзе, недалёка ад рэчкі Хушмо, прытока Падкаменнай Тунгускі (мал. 72), прафесарам Л. А. Куліком падобнае ж але ўжо вялікае утварэнне вельмі нядаўняга паходжання, у вышэйшай ступені каштоўнае тым, што яно малюе грунтуючыся на сведчаннях яшчэ жывых сведак выразнае відовішча падобных здарэнняў.




Мал. 77.
Месца падання метэарыта паміж факторыяй Ванавара і факторыяй Стралка.

Вось уласнае апісанне Л. А. Куліка.

«Каля 7 гадзін раніцы мясцовага часу, 30 чэрвеня 1908 года[98], пад час сонечнага ціхага дня за глухімі сібірскімі лясамі па небе пранеслася зіхацячае цела і знікла ў тунгускай тайзе.

Хутка пасьля гэтага да неба ўзняўся слуп полымя, як шапкай накрыты воблакам чорнага дыму, прагучаў вельмі моцны грукат, і ва ўсе бакі пакацілася паветраная хваля, збіваючая з ног людзей, паднімаючая перад сабой у рэчках і азёрах валы вады пачынаючы ад факторыі Ванавары, ламаючы і разбіваючы рамы і шкло, а ў больш аддаленых месцах вагаючы вісячыя прадметы, агнічкі і лямпы, а таксама метэаралагічныя самапісныя прыборы, да буйных гарадоў, нават за лініяй Усходне-Сібірскай чыгуначнай магістралі! Калыханне глебы адзначылі ў Іркуцку размешчаныя ў глыбокіх склепах фізічнай абсерваторыі сейсмографы, і геолагі вылічылі, што выточны пункт гэтага «землятрусу» знаходзіцца на паверхні зямлі за Падкаменнай Тунгускай паблізу Факторыі Ванавары.

Нават неба адгукнулася на гэтую падзею. Можна было чытаць газеты без малога амаль на працягу ўсёй ночы (на першае ліпеня 1908 года) не толькі ў паўночных шыротах Заходняй Сібіры і Яўропы, але і ў цэнтральных частках апошняй і нават у такіх аддаленых месцах, як Украіна і Крым. Паўночна-заходняя

[98] Л. А. Кулік: Касмічныя падарункі Сібіры (у часопісе «Сібірскія вогнішчы», 1927, № 6).

частка неба была ўсю ноч ахоплена незвычайна яскравымі світаннямі, а пры змяркані выразна вылучаліся зіхацячыя сваёю беллю самасвецячыяся серабрыстыя аблокі».

На працягу наступных жа дзён сібірскія газеты паведамілі пра «прыхадня із сусьветнай прасторы» і размясьцілі «жахлівыя» чуткі і «неверагодныя» апавяданні. Але першыя спробы знайсьці метэарыт уздоўж лініі чыгункі былі безвыніковымі і хутка спыніліся. Час няспешна ішоў наперад. А тым часам пачалі вяртацца выпадковыя мясцовыя паляўнічыя, адзіныя пасярэднікі паміж «культурным сьветам» і тунгусамі, вандруючымі ў басейне Падкаменнай Тунгускі. І зноў, ужо із тубыльных крыніц, па краю пачалі пашырацца хвалюючыя чуткі, але зноў жа настолькі «неверагодныя», што далей іхнай трактоўкі, як плёну фантазіі дзяцей прыроды, справа не пайшла.

Ды і сапраўды, як можна было паставіцца да такіх апавяданняў?

«Сярод белага дня, пры сонечным і зацішным надвор'і, – паведамялі яны, – раптам наляцеў звыш-ураган і паваліў на плошчы сотні квадратных кіламетраў усю тайгу на зямлю... звалілася полымя... «зямлю варочала»... «біла вада із ям»... дрэвы валіліся ўжо падпаленымі... былі спалены сабакі і алені, тысячы аленяў... на адлегласьці паўсотні кіламетраў ад месца здарэння ляцелі па паветры над лесам тунгускія чумы з іхнымі насельнікамі... а ў факторыі Ванавары (самым блізкім аселым месцы, складаючымся із лазні і 10 сядзіб) на адлегласьці 70 кіламетраў сяляне ад спёкі хапаліся рукамі за вушы... Дакладныя сведчанні паведаміла культурнаму сьвету толькі экспедыцыя Акадэміі Навук, пад кіраўніцтвам Л. К. Куліка, якая ў 1921 годзе сабрала шмат апавяданняў, і пра тое ж надрукавалі пазьней свае артыкулы А. В. Вазнясенскі, С. В. Обручаў[99] і І. М. Суслаў, асабліва апошні, які апытаў тунгусаў на з'ездзе ў 1926 годзе.

Згодна з апавяданнямі жыхароў, паблізу Іркуцка, Канска, Кірэнска і іншых месц А. В. Вазнясенскі яшчэ ў 1925 годзе намаляваў і мапу пашырэння хваль устрасання, і паказаў месца, адкуль яны ішлі, задаўга да таго, як атрымалася знайсьці яго фактычна.

Калі б мясцовасць паблізу Падкаменнай Тунгускі была культурная і густа населенай, то паведамленне пра падобную падзею, вядома, пашырылася б па ўсяму зямному шару, але, у дадзеным выпадку, на сотні кіламетраў навакол была глухая тайга, а качэўнікі былі непісьменнымі і амаль без стасункаў з больш культурнымі людзьмі. Дзякуючы гэтаму, толькі ў сакавіку 1927 года Акадэміяй Навук зноў была выпраўлена туды экспедыцыя пад кіраўніцтвам таго ж Л. А. Куліка, якая і прывезла, хаця б яшчэ і не дайшоўшы да самога месца, наступныя сведчанні.

На адлегласьці каля 40 вёрст на поўнач ад утокі р. Чамбэ, правага прытоку Падкаменнай Тунгускі, пачынаецца суцэльны лес, – сібірская тайга.

На адлегласьці 70 кіламетраў на паўночны-захад ад невялікага рускага мястэчка, факторыі Ванавары, складаючайся зараз із 10 сядзіб і лазні, лесу ўжо не існуе. Усе старыя дрэвы павалены на зямлю, асабліва на ўзгорках і горках, дзе, нягледзячы на палову-мятровую таўшчыню снегавога покрыва, існаваўшага пры іхным падарожжы, выразна выступілі паралельныя шэрагі аголеных ствалоў, павёрнутых вяршынямі на паўднёвы захад (мал. 78).

[99] Міраведзенне, 1925, № 1.



Мал. 78.
Павалены лес, каля рэчкі Хушмо,
паўночней факторыі Ванавары, у Сібіры.



Мал. 79.
У краіне апаленага лесу. Тайговая рэчка
Хушмо на поўнач ад факторыі Ванавара.

Яшчэ больш уражваючым выявілася відовішча, паўстаўшае перад вачамі экспедыцыі на поўнач з адной із горак на палове дарогі туды. Кіламетрах у 20, за зонай суцэльнага лесапавалу, пакрытага дробным параснікам ужо ажываючай тайгі, былі відаць на гарызонце бязлесыя беласнежныя ўзгоркі, знікаючыя з поля зроку назіральніка на паўночны-ўсход. На захадзе, на поўдні і на паўднёвым-усходзе мяжа непашкоджанай тайгі віднелася вельмі выразна. Суправаджаўшыя тунгусы, хаця і намёкам, але ўсё ж даволі вызначана тлумачылі, што там, за гэтымі аголенымі гарамі, ветрам валіла ў розныя бакі лес, што цэнтр катастрофы быў там.

Было відавочна што шлях дасьледчыкаў ляжаў туды. Але гэтаму перашкаджаў яшчэ не знікшы ў тунгусаў жах перад месцам падзення з неба полымя, дзе «штосьці варочала зямлю, і ад суцэльнай тайгі засталіся толькі ляжачыя на чорнай, абгарэлай глебе шэрагі паваленых ствалоў». Праваднік наадрэз адмовіўся ісьці далей. Удмовіўся і ўладальнік каравана аленяў.

Давялося зноў вярнуцца ў Ванавару і зноў арганізаваць падарожжа.

Гэтым разам былі запрошаны ангарскія сяляне, з якімі і была закончана выведка. Выправіліся спачатку на поўнач на санях. Потым пабудавалі плыты, і па рэчках пасьля крыгаходу падняліся на захад. Пад час першых дзён чэрвеня дайшлі да тых бязлесых далёкіх гор, якія зімой зліваліся з гарызонтам. На іх тайга была таксама начыста змецена і пакідана паралельнымі шэрагамі на зямлю. На хрыбтах толькі зрэдку тырчалі абламаныя сухія ствалы дрэў і, як выключэнне, сустракаліся іх асобныя экзэмпляры, пазбаўленыя сваіх галін, а таксама – абросшыя маладымі парасткамі ствалы нешматлікіх лістоўніц, набыўшых неўласьцівую ім кіпарыса-падобную форму.

Усё наваколле мела тут выразныя сьляды суцэльнага і аднастайнага ўздзеяння высокай тэмпературы. На гарах і ў далінах, на сухіх схілах і ў тундрах, і нават на выспачках сярод балот, хмызняк і дробныя галіны дрэваў былі спалены, буйныя ж галінкі – абламаны. Сухія, ляжаўшыя на зямлі, ствалы дрэваў былі пазбаўлены кары і сваімі вяршынямі накіраваны вонкі ад месца падання (мал. 78). Яно прыпадала на катлавіну водападзельнага пласкагор'я, аблямаванага хрыбтамі гор і напаўняючага сваімі балотамі, з аднаго боку – прыток рэчкі Чуні (на поўнач) і з другога – ракі Чембэ (на поўдзень, мал. 77, стар. 457).



Мал. 80.
Адна із акругленых ямін, лічымыя за вынік метэарытнай катастрофы, на паўночны захад ад факторыі Ванавара. Яна ўся запоўнена вадой. Заходні (задні) бераг рэзка абрывісты, усходні (пярэдні) уціснуты і пакаты.



Мал. 81.
Метэарытныя азёры на выспе Эзэлі ў Балтыйскім моры.

«Перайшоўшы па маляўнічай цясьніне праз рад гор, абмяжоўваючых пласкагор'е з поўдня, мы, – паведамляе Л. А. Кулік, – дайшлі да цэнтральнай катлавіны і з першых жа крокаў пабачылі выключна цікавую з'яву. Праз некалькі дзён нашага павольнага руху па суцэльнаму лесапавалу, мы сустрэлі тут купіну стаячага на карані лесу, плошчай каля некалькіх квадратных кіламетраў (мал. 79). Але гэта быў мёртвы лес! Акрамя зялёнай травы і самотных кусткоў усё астатняе было пазбаўлена кары; дрэвы мелі загнутыя дадолу тонкія галінкі, маючыя на канцах вугольчык, усюды, дзе яны захаваліся. Было відавочна, што абпаленне лесу

было зроблена зверху, таму што знізу не было звычайных пры нізавых пажарах слядоў полымя, крона ж была разбурана аднастайна. На ўсход ад гэтага лесу ішла тундра, сабраная зараз у плоскія зморшчыны, чаргуючыяся з выцягнутымі ў тым жа накірунку, звычайна вузкімі, паглыбленнямі.

Паўночна-усходняя частка тундры была адсунута на некалькі дзясяткаў метраў ад падножжа аблямоўваўшых яе гор і замешчана балацянкай, над якой яе абрывістыя краі падымаліся на 1-2 метры. І цалкам іншае відовішча было на паўднёва-заходнім заканчэнні гэтай тундры: там тундра насоўвалася на карэнны бераг атачаючых яе ўзгоркаў і ўтварала хаатычнае нагрувашчванне свайго тарфянога покрыва. Па ўсёй прасторы гэтай тундры, як на грудах, так і ў нізкіх месцах і ў сумежных балотах, былі раскіданы круглявыя ямы з абрывістымі бартамі (сьляды асобных выбухаў).

У некаторыхямінах іхны паўночна-усходні край быў уціснуты, а паўднёва-заходні – абрывісты (мал. 80). Месцамі гэтыя крутыя борці пачалі абвальвацца. Вышыня краёў над уроўнем сучаснага дна ямін вагаецца паміж $1^1/_2$ і 4 метрамі, папярочнік жа ад 10 да 50 метраў. Утварэнне падобнага роду ям немагчыма патлумачыць адным толькі непасрэдным ўздзеяннем самога метэарыта. Патрэбна лічыцца і з той акалічнасьцю, што метэарыт, дасягаючы, падобна гэтаму, паверхні зямлі з касмічнай хуткасьцю, рухае перад сабой некаторую колькасць сціснутага, шчыльнага паветра, уздзеянне якога ва ўсе бакі, пасьля тармажэння метэарыта аб зямлю, павінна быць значным і не можа не адбіцца на памерах і абрысах ямін».

Такім з’яўляецца другі выпадак буйнай метэарытнай катастрофы із апісаных да гэтага часу.

Адзіныя насельнікі пустынных лясоў, дзе яна адбылася, вандруючыя тунгусы – сквярджалі, што пры гэтым загінула каля тысячы аленяў і абгарэла некалькі чалавек. Яны прыпісвалі яе гневу бога-Грамабоя, больш за дзесяцігоддзе не адважваліся падыходзіць да месца катастрофы і, як мы бачылі, нават і ў 1927 годзе не жадалі суправаджаць туды экспедыцыю Л. А. Куліка. Толькі адзін шаман выйшаў да яго напачатку шляху на дарогу, калі ён паехаў з сялянамі із Ванавары, і сказаў яму:

– «Едзь, баю! Мінеш Дзілюшму, патрапіш на Хушмо. Па ім праедзеш Укагіткан і Ухагіту, і там пабачыш ручай Вялікага балота. Там **Ён** варочаў зямлю, там лес ламаў. Пабачыш усё з высокай гары ».

Ды яшчэ раней адзін тунгус у парыве шчырасьці паведаміў яму:

– «Там, кажуць, **Ён** лес валіў ва ўсе бакі і ўсё паліў, а далей полымя не хадзіла».

Але чаму ж, – запытаеце вы, – зараз жа не была выпраўлена экспедыцыя для дасьледавання такой катастрофы, якая (адбудзься яна ў культурнай краіне), неадкладна прагрымела б на ўвесь сьвет?

Магчыма, што акрамя маланаселенасьці і адрэзанасьці ад астатняга сьвету яе ляснога наваколля, гэтаму перашкодзіла і сама грандыёзнасць з'явы. Яе гукавыя і сьветлавыя наступствы мелі такі магутны характар, што не чакаўшым яе назіральнікам здавалася, быццам бы справа адбылася вельмі блізка. А калі блізка нічога не выявілася, то і ўсе сведчанні прызналі за выдумку.

Такімі з’яўляюцца два буйныя факты.

Але ў наш час мы маем і шэраг іншых. Самы блізкі да нас выпадак знаходзіцца на выспе Эзэлі, на адлегласьці роўнай 25 кіламетрах на поўнач ад Арэнсбурга, паблізу вёскі Сале. Тут круглая метэарытная выбаіна каля 100 метраў

у дыяметры з такімі ж прыўзнятымі краямі, як і ў Арызонскім цырку і ў месяцовых цырках, напоўнілася вадой, што і павінна было адбыцца ў мясцовасьці з вялікім запасам падглебавай вільгаці, і ўяўляе зараз круглае возера (мал. 81). Із гэтага мы бачым, што і цалкам усе азёры маючыя круглы выгляд у такіх мясцовасьцях, у якіх яны не могуць быць патлумачаны складкаватасьцю павярхоўных утварэнняў ці геатэктанічнымі скіданнямі зямной кары, павінны мець метэарытнае паходжанне. Гэта азначае што метэарыты павінны браць значны ўдзел ва ўтварэнні сучаснай мудрагелістай канфігурацыі зямной паверхні, і выпадкі іх падання ў катастрафічных памерах, калі не ў наш час, то пад час недалёкага мінулага, не былі вылучнай з'явай.

Ці не гэтым тлумачыцца і той факт, што ўся паверхня Месяца, дзе дзякуючы адсутнасьці атмасферы і слабасьці магутнасьці прыцягнення, выбухі ад udараў вялікіх метэарытаў павінны быць сторазова больш разбуральнымі, чым на Зямлі, уся пакрыта падобнымі круглымі выбаінамі (мал. 82, 83, 84 і 85). Ва ўсякім разе нічым іншым немагчыма патлумачыць іхныя характарыстычныя асаблівасьці.



Мал. 82.
Месяцовыя цыркі згодна з Нэсмісам і Карпентарам. Самы вялізны цырк, абведзены тут пунктырнай лініяй на правым баку, мае назву Мора Крызісаў і звычайна не лічыцца за цырк. Выява Месяца намалявана ў тым выглядзе, у якім яна бачна няўзброенаму воку ці ў бінокль. У тэлескопе – усё наадварот.

ТАБЛІЦА XVII.
Месяцовыя цыркі. Тлумачэнне да мапы Нэсміса і Карпэнтара.

| Назва гары | Лічба, якой яна пазначана | Назва гары | Лічба, якой яна пазначана | Назва гары | Лічба, якой яна пазначана |
|---|---|---|---|---|---|
| Абульфеда | 107 | Васка дэ-Гама | 173 | Дамуазо | 124 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Агрыпа | 151 | Вернэр | 62 | Дэві | 113 |
| Азофі | 76 | Віета | 69 | Дэламбр | 129 |
| Альбатэгній | 109 | Вільсан | 9 | Дэліль | 195 |
| Аліацэнзіс | 61 | Вільгельм Гумбальт | 81 | Дэкарт | 106 |
| Альманон | 94 | Вітэла | 66 | Дыяфант | 194 |
| Альпетрагій | 92 | Вітрувій | 180 | Дапельмайер | 70 |
| Альфонс | 110 | Вурцельбауер | 45 | | |
| Апіян | 62 | Вэндэмін | 99 | Зантбех | 79 |
| Апалоній | 154 | | | Зёмерынг | 136 |
| Арага | 152 | Гакленій | 101 | Зільбершлаг | 157 |
| Архімед | 191 | Гамбар | 138 | | |
| Арыстарх | 176 | Ганстэн | 123 | Інгірамі | 27 |
| Арыстыл | 190 | Газэ | 54 | Ісідор | 103 |
| Арыстоцель | 209 | Гасэндзі | 90 | | |
| Арзахель | 84 | Гаўс | 201 | Кавалерыус | 114 |
| Атлас | 228 | Гебэр | 83 | Каломба | 98 |
| Аўталік | 189 | Гелікон | 212 | Кандамін | 214 |
| | | Гель | 47 | Каліпі | 199 |
| Банплан | 116 | Гемінус | 187 | Кампані | 71 |
| Бардо | 56 | Герыкэ | 114 | Кант | 105 |
| Бароцый | 34 | Гертнэр | 224 | Кандарсэ | 164 |
| Басковіч | 160 | Геркулес | 229 | Капернік | 147 |
| Білі | 121 | Герадот | 175 | Капэла | 104 |
| Біянкіні | 215 | Гершэль | 112 | Капуан | 43 |
| Бланкан | 12 | Гезіёд | 64 | Казат | 7 |
| Брыгс | 196 | Гевелій | 141 | Касіні | 200 |
| Бувар | 40 | Гей-Люсак | 169 | Катарына | 95 |
| Буліальд | 86 | Гейнзіус | 38 | Кеплер | 146 |
| Бэйлі | 207 | Гейнцель | 39 | Кіс | 72 |
| Бэкан | 17 | Гіпал | 87 | Кірыл | 96 |
| Бэсэль | 179 | Гігінус | 158 | Кірхер | 10 |
| Бэцін | 11 | Гоммель | 20 | Клавіус | 13 |
| Бюрг | 206 | Грымальдзі | 125 | Клапрот | 8 |
| | | Грюмбергер | 6 | Клеамед | 183 |
| Варгентын | 26 | Гутэнберг | 102 | Кэвендыш | 88 |
| Вальтэр | 48 | | | | |
| | | Палас | 149 | Тарунтый | 153 |
| Лагір | 177 | Палібій | 82 | Тобіяс Майер | 170 |
| Лагранж | 68 | Пантон | 59 | Трыеснэкер | 150 |
| Лакайль | 74 | Пасідоній | 186 | Тэбіт | 85 |
| Лаланд | 117 | Парот | 108 | Тэафіл | 97 |
| Ламберт | 193 | Петавій | 80 | Тымей | 222 |
| Ландсберг | 127 | Піяцы | 41 | Тымахарыс | 192 |
| Лангрэн | 100 | Пікард | 163 | Тыха | 30 |
| Летрон | 120 | Пікаламіні | 58 | Тэйлар | 130 |
| Лінней | 188 | Піко | 211 | | |
| Літроў | 185 | Пітэас | 178 | Укерт | 159 |
| Ліцэт | 21 | Піфагор | 220 | | |
| Ліхтэнберг | 197 | Плана | 205 | Фабрыцый | 35 |
| Лорман | 143 | Платон | 210 | Фантана | 122 |
| Лонгамантан | 23 | Плэйфер | 75 | Фантэнэль | 221 |
| Любініцкі | 91 | Пліній | 165 | Фалес | 225 |
| | | Пталямей | 11 | Фацылід | 25 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Макробій | 182 | Прокл | 162 | Фернэль | 37 |
| Магінус | 22 | Пуасон | 60 | Фірмік | 156 |
| Майран | 217 | Пурбах | 72 | Флак | 19 |
| Манілій | 167 | | | Флэмстыд | 126 |
| Манцынус | 4 | Рамсдэн | 42 | Фракастар | 78 |
| Маперцюі | 213 | Ромер | 184 | Фур'е | 67 |
| Маральдзі | 181 | Рос | 161 | Фурнэрый | 52 |
| Марый | 171 | Рытэр | 134 | | |
| Маскелейн | 132 | Рычывус | 50 | Цухіус | 15 |
| Маўралік | 33 | Рычыолі | 142 | | |
| Менелай | 165 | Рэамюр | 118 | Шарп | 216 |
| Меркатар | 65 | Рэйнгольд | 139 | Шнэль | 55 |
| Мерсеній | 89 | Рэйнэр | 145 | Шорт | 2 |
| Месала | 202 | Рэйта | 219 | Шрэтэр | 137 |
| Мэсан | 204 | Рэпсольд | 51 | Штэфлер | 32 |
| Месцынг | 128 | | | Шэйнер | 14 |
| Месье | 131 | Сабіна | 133 | Шыкард | 28 |
| Мецый | 36 | Сакрабоска | 77 | Шылер | 24 |
| Морэт | 5 | Сасюр | 31 | Шуберт | 155 |
| | | Сегнэр | 16 | | |
| Неандр | 57 | Селеўк | 174 | Эйры | 93 |
| Неарх | 8 | Стадый | 148 | Энке | 140 |
| Нонівус | 49 | Страбон | 226 | Эндымiён | 227 |
| Ньютан | 1 | Струвэ | 203 | Эпіген | 223 |
| | | Стэвін | 53 | Эратасфен | 168 |
| Ольберс | 172 | | | Эўдокс | 208 |



Мал. 83.
Месяцовыя цыркі і сярод іх вялізны – Мора Крызісаў (унізе справа).



Мал. 84.
Падвойны цырк Тэафіл (згодна Huiseux).

Ці не гэтым тлумачыцца і паходжанне на Сонцы некаторых плямін, аточаных, як пырскамі, пратуберанцамі (мал. 87 і 88), якія час-ад-часу, з'яўляюцца па-за поясам нармальнай плямаўтвараючай дзейнасьці Сонца?

Калі нармальны род сонечных плямін і можна патлумачыць дзейнасьцю яго ўнутранага вулканізму, як абуджальніка цыклонаў у яго атмасферы, у якой мы не заўважаем звычайных абуджальнікаў паветраных плыняў дзякуючы розласьці палярных і трапічных тэмператур, то некаторыя із іх з вялікімі нацяжкамі паддаюцца такому тлумачэнню, а метэарытныя катастрофы там павінны мець ў тысячу разоў большыя памеры, параўнальна з зямнымі і месяцовымі з нагоды надзвычай вялікай хуткасьці падання.

## III. Адкуль метэарыты?

Разгледзім зараз і тэарэтычны бок тых з'яваў, якія павінны адбывацца наогул пры сутыкненні Зямлі з метэарытам.



Мал. 85 і 86
Метэарытная расколіна Гігінус на Месяцы. Направа замалёўка, зробленая 24 траўня 1882 года (згодна з Клейнам). H – цырк Гігінус, N – новы цырк, які не пазначаўся ранейшымі назіральнікамі, і вышэй яго – Паўднёвая пляма. T – нізіна, якую таксама не пазначалі ранейшыя назіральнікі. Налева замалёўка яго ж 25 траўня 1882 г.



Рыс, 87.
Асобны род сонечных плямаў з «паходнямі» навакол, як бы ад выбуху паваліўшагася гіганцкага метэарыта.



Мал. 88.
Пунсовыя пырскі пратуберанцаў над сонечнай храмасферай падчас зацьмення.

Перадусім, адзначым, што далятаўшыя да гэтага часу да зямной паверхні метэарыты распадаюцца на тры згуртаванні:



Мал. 89.
Відманштэдтавыя фігуры на адшліфаваным разрэзе жалезна-нікелевага метэарыта.

1. Вельмі рэдкія вугляродзістыя метэарыты, складаючыяся, упаўшы на зямлю, із друзлых землепадобных ці напалову вадкіх пры звычайнай тэмпературы зямной паверхні злучэнняў вугляроду з вадародам і кіслародам, змяшчаючых вялікую колькасць вугалю. Іхны спектр пры гарэнні тоесны са спектрам каметных хвастоў, і пры заатмасферных тэмпературах яны павінны знаходзіцца ў цвёрдым стане.

2. Вельмі рэдкія жалеза-нікелевыя метэарыты, маючыя ўсе прыкметы сваёй крышталізацыі ў вольнай прасторы із іянізаваных газаў жалеза з некаторай дамешкам газаў нікелю, фосфарыстага жалеза, аклюзіраванага вадароду, вокісу вугляроду і г.д., утвараючыя пры ўздзеянні кіслот на іхныя шліфы прыгожыя малюнкі, маючыя назву Відманштэдтавых фігур (мал. 84). Іхны першапачатковы выгляд невядомы, таму што яны падаюць на зямлю ўжо з аплавіўшыміся ад супраціўлення паветра і ператварыўшыміся ў акаліну паверхнасьцямі. Найбольш праўдзівай з'яўляецца здагадка пра іхную крышталізацыю із сукупнасьці іянізаваных атамаў жалеза, нікелю, фосфару і інш. металаў і металоідаў, ляцячых ад Сонца ў міжпланетную прастору, магчыма нават за арбіту Няптуна, падобна таму як крышталізуюцца сняжынкі з іянізаваных малекул вадзянога газу ў верхніх слаях зямной атмасферы.

3. Камяністыя метэарыты, вельмі падобны на зямныя мінералы пірагеннага паходжання (мал. 90). Яны асабліва частыя, таму што на дзясятак з невялікім назіраемых да гэтага часу выпадкаў падзення жалезістых і (яшчэ менш) вуглявадародзістых метэарытаў, іх прыпадае больш пяці соцень. Найбольш адпавядаючай рэчаіснасьці з’яўляецца здагадка пра іхнае паходжанне із выкідаў дагістарычных зямных вулканаў, якія дзейнічалі нашмат мацней сучасных. Падняўшыся за межы зямнога прыцягнення, як гэта магчыма ў выпадку іхнай хуткасьці на межах зямной атмасферы звыш 11250 метраў за секунду, яны павінны захоўваць таксама і арбітальную хуткасць зямнога шара і таму абарачацца па

арбітах блізкіх да яго арбіты, перасякаючы яе штогадова у той кропцы прасторы, у якой былі выкінуты, а таму калі-некалі павінны зноў падаць на паверхню Зямлі ў самых розных накірунках і з тымі ж хуткасьцямі каля 11250 метраў за секунду, з якімі былі выкінуты.



Мал. 90.
Узор камяністага метэарыта.

У тых выпадках, калі вулкан адначасова выкінуў цэлы зарад сваіх унутраных мінералаў, увесь гэты зарад павінен будзе і вяртацца прыблізна штогадова у тую ж кропку зямной арбіты, а таму пры прыходзе ў яе і Зямлі, на яе паверхню павінен пасыпацца цэлы дождж камяністых метэарытаў. Але гэта наўрад ці будзе адбывацца ў адной мясцовасьці, дзякуючы таму што аскепкі паспеюць значна размяркавацца па сваёй арбіце.

Такі дождж камянёў, які быў, напрыклад, у 1868 годзе ў Пултуску ў Польшчы, мог мець падставай хутчэй усяго не выкідванне вулканам цэлай кучы камянёў, а раздрабленне пры ўдары аб верхнія пласты атмасферы адной і той жа друзлай масы мінеральнага рэчыва, якая і паляцела потым уніз у выглядзе зараду дробак. І само сабой зразумела, што ў выпадку выкідвання вулканамі, праз атмасферу мелі магчымасць праляцець, захоўваючы хуткасць роўную 11250 метрам за секунду ці яшчэ большую, толькі вялізныя камлыгі.

У пагадненні з гэтай гіпотэзай зямнога паходжання камяністых метэарытаў, знаходзіцца статыстыка іхнага падання. У сваім артыкуле «Арбіты метэарытаў» Пікерынг[100] сабраў сведчанні для 169 выпадкаў падання метэарытаў на вачах публікі з пазначэннем дня і гадзіны і прыйшоў да высновы, што іхнае паданне часьцей прыпадае на вечаровыя гадзіны сутак, калі дадзеная мясцовасць знаходзіцца на задняй паверхні ляцячага па сваёй арбіце зямнога шара, чым на

[100] W. H. Pickering: The orbits of Meteorites (Popular Astronomy, 1910.)

ранішнія гадзіны, калі тая ж мясцовасць знаходзіцца на пярэдняй паверхні ляцячага зямнога шара, тым часам як у выпадку незалежнага ад Зямлі паходжання камяністых метэарытаў павінна было б быць наадварот. Я пазначыў тут гэтыя дадзеныя на двух дыяграмах (мал. 91 і 92), і чытач сам бачыць, што перавага знойдзеных на зямлі дзённых і вечаровых (даганяючых Зямлю) метэарытаў над начнымі і ранішнімі (сустрэчнымі) кідаецца ў вочы. Аўтар тлумачыць гэта тым, што сустрэчныя, маючы нашмат большую адносную хуткасць, цалкам згараюць у атмасферы, але гэтае тлумачэнне не выглядае пераканаўчым, таму што ён сам жа пазначае вельмі значную колькасць і не згарэўшых сустрэчных метырыятаў. Нашмат лагічней было б узяць да ўвагі што тыя гадзіны, калі было знойдзена больш толькі што зваліўшыхся метэарытаў, прыпадаюць на час калі людзі не спяць, а тыя гадзіны, калі было знойдзена менш прыпадаюць на час сну. Гэта азначае што патрэбна здзіўляцца не таму, што ноччу і рана раніцай было знойдзена менш толькі што зваліўшыхся метэарытаў, чым пад час дня і рана вечарам, а таму, што іх знойдзена дастаткова шмат і ноччу. Гэта азначае, што патрэбна зрабіць выснову пра іхную раўнамернасць, а такім чынам і пра зямное паходжанне. Зразумела, што тыя прадукты вывяржэння зямных вулканаў, якія адбыліся вечарам, паляцелі хутчэй Зямлі і таму ператварыліся ў даганяючыя яе; тыя, якія былі выкінуты раніцай, набылі ў гэтым месцы меншую хуткасць і ператварыліся ў «даганяемыя Зямлёй», г.азн. сустрэчнымі, а тыя, якія былі выкінуты апоўначы ці апоўдні, захавалі за сабой хуткасць Зямлі, але атрымалі бакавыя складнікі, г.азн. ператварыліся ў збліжаючыяся з Зямлёй бакавым спосабам і падаючымі пад час начных і дзённых гадзін.




Мал. 91.
Сярэдняе размеркаванне камяністых метэарытаў па гадзінах сутак і па месяцах.




Мал. 92.
Сярэдняе размеркаванне камяністых метэарытаў па гадзінах сутак за поўны год.

Такім чынам вынова пра зямное паходжанне камяністых метэарытаў атрымліваецца дастаткова пераканаўчай грунтуючыся на гэтай статыстыцы. Вядома, замест зямнога тут можна было б дапусьціць і месяцовае паходжанне, але справа ў тым, што месяцовыя цыркі больш падобныя на арызонскі метэарытны кратар (мал. 69), чым на вулканы і таму ім таксама даводзіцца хутчэй прыпісаць метэарытнаму ўздзеянню, чым палічыць за падставу для ўтварэння метэарытаў. А

іхную больш вялікую часьціню параўнальна з зямнымі выбаінамі таго ж выгляду давялося б патлумачыць адсутнасьцю затрымваючай атмасферы і пазнейшых ападкаў, вечна нівеліруючых паверхню Зямлі і сьціраючых яе няроўнасьці.

А тую акалічнасць, што ў зямлістых метэарытах сустракаюцца дадаванні крышталічнага жалеза з нікелем, можна патлумачыць асаджэннем у порах мінеральных мас тых жа самых іянізаваных малекул гэтых металаў у міжпланетнай прасторы, якія самастойна аб’ядноўваюцца ў жалезныя метэарыты. Адрозненне тут будзе тое ж, якое існуе паміж асобнай сняжынкай і маленькім кавалачкам хлеба, зваліўшымся пад час марознага зімовага дня із аэрастата і пакрыўшагася шэранню за час падзення на зямлю.

* * *

Разгледзім спачатку жалезістыя метэарыты, крышталічнае ўладкаванне якіх сведчыць на тое, што яны ўтварыліся ў міжпланетнай прасторы із іянізаваных выпарэнняў, ляцячых ад паверхні Сонца дзякуючы таму, што атрымалі імпульс, такі ж, які мы назіраем у рэчывах каметных хвастоў. Іхныя нябачныя атамы, губляючы свае зарады, павінны злучацца ўдалечыні ў крышталічныя агрэгаты, якія і пачынаюць падаць, як дажджавыя кроплі ў накірунку да Сонца. Але яны рэдка падаюць на яго, а часьцей, набыўшы ў месцы свайго згушчэння бакавы рух (хаця б дзякуючы ўздзеянню планет), праносяцца каля свайго цэнтральнага свяціла і таму адкідваюцца ім па надзвычай вузкай і эксцэнтрычнай арбіце зноў на месца свайго ўзнікнення, каб зноў пачынаць такое ж паданне.

Паглядзім, што будзе з імі пры сустрэчы з Зямлёю.

Досьледы сведчаць, што артылерыйскі снарад, пры хуткасьці 610 метраў за секунду, награваецца пры спыненні ў сярэдзіне мішэні да тэмпературы 406° Цэльсія, вырабляючы і ў ёй эквівалентнае дзеянне награвання і разбурэння. А тэорыя сведчыць, што награванне таго ж цела прама адпавядае квадрату яго хуткасьці. Дапасуем гэта да метэарытаў.

Зямля рухаецца па сваёй арбіце з сярэдняй хуткасьцю каля 29 000 метраў за секунду, г.азн. хутчэй у 47,5 разоў. Гэта азначае, калі б не было атмасферы, то яна, стукнуўшы па павольна пралятаючаму папярок яе арбіты жалезна-нікелеваму метэарыту, нагрэла б яго на

$$406° \cdot \left(\frac{29\,000}{610}\right)^2 \simeq 406° \times (47{,}5)^2 \simeq 916000°,$$

г.азн. амаль да мільёна градусаў, пры гэтым метэарыт імгненнаператварыўся б у вельмі перагрэты і перацiснуты газ, уздзейнічаючы ў сотні разоў больш моцна і разбуральна, чым дынаміт.

Ды і сама сутыкаючаяся частка Зямлі нагрэлася б да роўнавялікай з ім тэмпературы ў роўнавялікім аб'ёме, адпаведна яе цеплаёмістасьці, калі б такі жахлівы ўдар не пашырыўся імгненна і далей па Зямлі на параўнальна вялікую вобласць, якая ўсёй катлавінай ператварылася б у распалены звышсьціснуты і звышпругкі газ, здольны выдаткаваць лішак сваёй тэмпературы і сціснутасьці толькі на працу далейшага сціскання дна катлавіны пад яе краямі, якія дзякуючы гэтаму загінаюцца да верху, калі яны маюць такую магчымасць, у выглядзе кругавога вала. І зразумела, што круглая форма выбаіны ўзнікае незалежна ад таго, ці сутыкнуўся метэарыт з зямной паверхняй перпендыкулярна ці наўскос, таму што катлавіна ўтвараецца не дзякуючы паступальнаму руху метэарыта і Зямлі, а дзякуючы імгненнаму выбуху іхных сутыкнуўшыхся рэчываў з раскіданнем вызваліўшыхся малекул ва ўсе бакі, што адбываецца і з варонкамі дзякуючы

сутыкненню з зямлёй дынамітных артылерыйскіх снарадаў: яны ўтвараюцца круглымі, нягледзячы на тое, што снарад сутыкнуўся з зямлёй коса.

Чытач бачыць сам, што гэтае вылічэнне каларычнага ўздзеяння метэарыта зроблена мной для прастаты, пры дапушчэнні, што Зямля наляцела на нерухома вісячы ў прасторы жалеза-нікелевы метэарыт. Але такі выпадак амаль немагчымы ў рэчаіснасьці. Калі б нават на лініі зямной арбіты і быў афелій метэарыта, абарачаючагася вакол Сонца па надзвычай сціснутай арбіце, то метэарыт не захаваў бы сваёй нерухомасьці пры набліжэнні да яго Зямлі, а рушыў бы да яе насустрач, чым яшчэ значна павялічылася б магутнасць сутыкнення.

Сапраўды, нябесная механіка дае для кожнага фізічнага цела, уласнае поле якога неадчувальна малое, такую хуткасць падання на прыцягваючыю яго планету:

$$v = \sqrt{\frac{2gr^2}{r} - \frac{2gr^2}{a}},$$

дзе $g$ з'яўляецца паскарэннем магутнасьці цяжару на дасьледуемай адлегласьці $r$ ад цэнтра гравітацыйнага поля планеты, і $a$ – тая адлегласць, ад якой цела падпала пад яе ўздзеянне. А дзякуючы таму што адлегласць $a$ для пачатку падання вольнага (без падстаўкі ляцячага ў прасторы) цела вельмі вялікая, то і ўся частка $\frac{-2gr^2}{a} = -\frac{2gr^2}{\infty} = 0$ і павінна быць адкінутай. Застаецца толькі $v = \sqrt{2gr}$ (1)

Але мы ведаем, што сярэдні радыус паверхні зямнога шара $r$ = 6378000 метраў, а паскарэнне магутнасьці цяжару $g$ = 9,81 метраў за секунду на гэтай адлегласьці. Падставіўшы ўсё гэта ў формулу (1), атрымаем

$v_1 = \sqrt{2 \times 9{,}81 \times 6378000} =$ каля 11200 метраў за секунду.

Гэтыя адзінаццаць тысяч метраў за секунду мы і павінны дадаць да толькі што паказанай хуткасьці, што яшчэ падніме тэмпературу і ціск выбуху на некалькі соцень градусаў.

Але і гэтым справа не заканчваецца.

Палічаны намі выпадак, што Зямля сутыкнулася з метэарытам, афелій якога, пры надзвычай вузкай арбіце, знаходзіцца якраз на адлегласці зямной арбіты ад Сонца, з'яўляецца выключным выпадкам. Жалеза-нікелевыя метэарыты падаюць ў накірунку да Сонца, відаць, із пазанептуновых ці із пазаюпітэравых абласьцей, прытым, трапляючы на Сонца, павінны ператварацца ў пратуберанцы, а калі праходзяць побач, то павінны вяртацца магутнасьцю сонечнага прыцягнення назад, адкуль прыйшлі па вельмі вузкай арбіце.

Якой з'яўляецца іхная хуткасць на сярэдняй адлегласьці Зямлі ад Сонца?

На гэта нам дае адказ тая ж самая формула. Тут паскарэнне магутнасьці прыцягнення да Сонца $g$ = 0,0058 метраў за секунду, а сярэдняя адлегласць $r$ = 149 500 000 000 метраў. Дадаўшы гэта ў формулу (1), маем:

$v_2 = \sqrt{2 \times 0{,}0058 \times 149500000000} = 40\,000$ метраў за секунду (набліжана).

І гэтая ж велічыня з'яўляецца парабалічнай хуткасьцю на сярэдняй адлегласьці зямной арбіты, дасягнуўшы якой – і сама Зямля, (як і выкінутае ёю наперад цела) ужо паляцела б за межы сферы сонечнага прыцягнення.

Амаль з такой жа вялізнай хуткасьцю – да 40 000 метраў за секунду – павінен ляцець на адлегласьці зямной арбіты метэарыт із пазанептуновых абласьцей. Калі яго перыгелій размешчаны на ўзроўні зямной арбіты, а яго рух адваротны, то гэтая хуткасць павінна яшчэ павялічыцца на 11 000 метраў за секунду дзякуючы прыцягненню яго Зямлёю, як бачна із формулы (1), і на 29000 метраў за секунду ад сустрэчнага руху Зямлі. Гэта азначае што яго сумарная

хуткасць пры пралятанні побач з Зямлёй, а таксама і пры франтальным удары аб яе, можа даходзіць да 80 000 метраў за секунду, што ў выніку дае жахлівую тэмпературу

$$406^\circ \left(\frac{80000}{610}\right)^2 = 406^\circ (131)^2 = 6250000^\circ \text{ (приближенно)},$$

г.азн. больш шасьці мільёнаў градусаў Цэльсія. Гэта будзе максімальная тэмпература, таму што, калі такі метэарыт, замест таго, каб ляцець насустрач Зямлі, будзе яе даганяць, то, пры вылічэнні хуткасьці яго сутыкнення з яе задняй часткай, давядзецца ад сумы 40 000 +11 000 метраў за секунду адняць 29 000, і тады замест 80 000 атрымаем толькі 22 000 метраў за секунду, што дасць тэмпературу пры сутыкненні $406^\circ \left(\frac{22000}{610}\right)^2 = 406 (36)^2 = 528\,000^\circ$ (набліжана), г.азн. усё ж больш паўмільёна градусаў.

Але і гэтая мінімальная тэмпература роўная палове мільёна градусаў імгненна ператварае як метэарыт, так і прылягаючую да яго частку зямной паверхні ў вельмі распалены і ўсёразбураючы на значнай адлегласьці газ. А пры астатніх выпадках сутыкненняў з жалезна-нікелевымі метэарытамі, калі яны коса перасякаюць зямную арбіту, лецячы із пазанептуновых ці і пазаюпітэравых абласьцей, каларычны эфект удару будзе вагацца паміж двума прыведзенымі выпадкамі, г.азн. паміж паўмільёнам і шасьцю мільёнамі градусаў Цэльсія. Метэарыты, налятаючыя на Зямлю ззаду, будуць падаць на якую б то ні было мясцовасць пад час яе вечаровых гадзін, а сустрэчныя, найбольш разбуральныя, пад час ранішніх гадзін, таму што вечарамі кожная мясцовасць, акрамя палярных краін, ляціць па зямной арбіце на задняй палове зямнога шара, а раніцамі наперадзе яго.

Усё гэта, вядома, дапасуецца толькі да сутыкнення двух цьвёрдых ці вадкіх цел без наяўнасьці паміж імі газавага асяроддзя, накшталт нашай атмасферы. У апошнім выпадку адбудзецца наступная з'ява.

Пры сустрэчы Зямлі з метэарытам, перадусім на метэарыт наляціць вялізны ўраган зямнога паветра (умоўна лічымае як нерухомае) з хуткасьцю ад 22 000 да 80 000 метраў за секунду, г.азн. ад сотняў тысяч да мільёна разоў больш мацны чым самы хуткі із зямных ураганаў, зрываючых з зямлі пабудовы. Зразумела, што паветра пры такіх хуткасьцях будзе змятаць малекулы жалеза і нікелю з паверхні метэарыта і выносіць іх з сабой ў распаленым выглядзе, пры гэтым яны будуць яшчэ і згараць, злучаючыся з кіслародам атмасферы.

Распаліцца пры гэтым дзякуючы трэнню і само прылеглае паветра і створыць сваім пашырэннем каля яго самасьвяцячуюся атмасферу, якая надасць усёй з'яве выгляд палаючага шара ці палючай грушы ў сотні ці тысячы разоў большага памеру, чым сам метэарыт.

Зразумела, што ціск атмасферы на пярэднюю частку метэарыта пры гэтых умовах будзе нашмат большым, чым ціск сціснутых газаў ад выбуху пораху ў гармаце і надась метэарыту нашмат большае паскарэнне ў накірунку лёту Зямлі, чым порах гарматнаму ядру да яго вылятання із канала артылерыйскай гарматы.

Для нас гэтая з'ява будзе выглядаць як паступовае запавольванне лёту метэарыта. Але яна не будзе мець наступствам распаленне яго ўнутранай часткі, таму што ўсё ўздзеянне магутнасьці накіравана на яго паверхню, якая будзе згараць, як тоўстае палена, кінутае ў распаленую печку: паверхня асмальваецца і палае, а калі вы возьмеце палена шчыпцамі і саскрабеце асмаленую частку, то пабачыце, што яго ўнутраная частка халодная як і да гарэння яго паверхні. Цалкам

іншая справа, калі спыненне адбываецца імгненна, што бывае пры сутыкненні цьвёрдых цел. Тады ўстрасанне пашыраецца на ўвесь аб'ём метэарыта і на прылеглыя пласты глебы. Малекулы метэарыта, парваўшы магутнасьці свайго прыцягнення, як павуцінне, разлятаюцца ў такім выпадку самастойна ва ўсе бакі, г.азн. увесь метэарыт ператвараецца ў газападобны стан маючы вялізную сціснутасць і вельмі высокую тэмпературу.

Нагадаем, што малекульная хуткасць пашырэння выбуху дынаміту роўна 2 500 метраў за секунду – у тысячу раз меншая прыведзеных намі метэарытных хуткасьцей, і што малекулы большасьці газаў робяцца несціскальнымі пры малекульных хуткасцях толькі ў некалькі соцень метраў (кісларод пры 338, азот пры 330, вугальны ангідрыт пры 424 і толькі вадарод пры 950 метраў за секунду). Гэта хуткасьці іхнага абсалютнага кіпення.

Із гэтага зразумела, што ніводзін метэарыт, заляцеўшы ў нашу атмасферу із пазанептуновых ці із паза юпітэравых абласьцей з адноснымі хуткасцямі ад 20 да 80 тысяч метраў за секунду, не захаваецца ў цьвёрдым ці вадкім выглядзе да свайго ўдару аб Зямлю, а толькі ў выглядзе акісленых прадуктаў сухой узгонкі жалеза і нікелю. Ацалець могуць толькі тыя нешматлікія аскепкі, якія пры яго выбуху, яшчэ раней удару аб Зямлю, набудуць адваротныя хуткасьці, зводзімыя фактычна да запавольвання іхнага лёту.

І наогул пры сустрэчы Зямлі з метэарытамі як металічнымі, так і іншымі – могуць мець месца тры выпадкі.

***Першы выпадак***. Калі метэарыт надзвычай малы параўнальна з тоўшчаў атмасферы (ці, што зводзіцца да таго ж, мае не сферычную форму), і таму колькасць малекул яго павярхневага пласта параўнальна з іхнай агульнай колькасьцю ва ўсім яго аб'ёме значная згодна з лічбавай велічынёй, то ён увесь згарыць, як палена ў распаленай печцы, не даляцеўшы да зямной паверхні, на якую замест яго пасыплецца толькі воблака метэорнай сажы.

***Другі выпадак.*** Калі хуткасць збліжэння метэарыта з Зямлёй дзякуючы нейкай нагодзе невялікая, а аб'ём значны, г.азн. колькасць малекул яго паверхневаха пласта значна меншая некаторай вызначанай велічыні, то пры нязначных хуткасьцях ён да сутыкнення з зямлёй паспее згарэць толькі з паверхні, якая і аплавіцца, а яго ўнутраная частка яшчэ будзе мець першапачатковую тэмпературу. У такім выпадку ён праб'е ў глебе больш-менш значную дзірку і будзе знойдзены там, калі заспець яго зараз жа, з распаленай паверхняй і аледзянелым нутром. А праз некаторы час, калі тэмпература яго ўнутраных і вонкавых пластоў ураўнаважыцца, холад унутранай часткі можа перавысіць цеплыню яго аплаўленай паверхні, і тады ўвесь метэарыт будзе знойдзены ў выглядзе пакрытым шэранню ці замарозіўшым атачаючую яго вільготную глебу.

***Трэцці выпадак***. Калі метэарыт дастаткова вялікі, сферычны ці кубічны і таму лікавае дачыненне адзінак, яго паверхні да адзінак яго аб'ёму адносна малое, а шчыльнасць вялікая як у жалеза-нікелевых метэарытаў, і хуткасць дасягае, напрыклад, 40 000 метраў за секунду, то пры яго вазе, перавышаючай 130 000 кілаграмаў, ён ужо не будзе цалкам спалены ці дастаткова затрыманы атмасферай, каб не стукнуцца аб зямную паверхню яшчэ з касмічнай хуткасьцю і не выбухнуць, падарваўшы і адпаведныя яе часткі. Можна нават з упэўненасьцю сцвярджаць, што паветра не будзе ў стане пры такой хуткасьці метэарыта перадаць яго ціск на сябе ва ўсе бакі, што бывае толькі пры хуткасьцях метэарыта, не перавышаючых хуткасьці малекул атмасферы, і будзе сьціснута паміж метэарытам і зямной

паверхняй да шчыльнасьці цьвёрдага цела. Пры гэтым утворыцца такая вялізная колькасць цеплыні і пругкасьці паветра, якая таксама імгненна ператворыць у газападобны стан тое месца, дзе павінен зваліцца метэарыт, і ўтварыць ў ім катлавіну яшчэ раней яе судотыку з самім метэарытам. Пры гэтым метэарыт можа разляцецца дашчэнту яшчэ раней судотыку з зямлёю, як бывае з жалезам, маючым вельмі нізкую тэмпературу. Але і ў гэтым выпадку ён яшчэ можа захаваць касмічную хуткасць роўную сотням тысяч метраў за секунду, якая дадаткова ператворыць у газ і ў раскіданыя валападобныя адломкі ўсю прылеглую мясцовасць.

Усе гэтыя выпадкі мы і маем на зямной паверхні. Выпаданне метэорнага пылу ад згарэлыўшых метэарытаў шмат разоў назіраліся ў пакрытых зімовым снегам паўночных абласьцях Зямлі; паданне іхных аскепкаў пры нязначных хуткасьцях таксама не рэдкая з’ява, а пра выпадкі падання з касмічнымі хуткасьцямі навочна сведчаць нам ужо апісаная Мядзьвежая купальня паблізу каньёна Дз'ябла ў Арызоне і тунгускія выбоіны, апісаныя Л. А. Куліком.

Дзякуючы таму, што тры чвэрці паверхні зямнога шара пакрыты вадой, даводзіцца дапусьціць, што тры чвэрці метэарытаў падаюць на марскую паверхню і таму маглі быць выпадкі, калі, зваліўшыся не вельмі далёка ад берага, яны былі нагодай такой хвалі, якую немагчыма было адрозніць ад наступстваў падводнага землятрусу, і яе прыпісвалі яму. Толькі такой вялізнай катастрофай у Чырвоным моры і можна патлумачыць паломніцтва магаметанаў у Меку дзеля ўшанавання «Чорнага каменя», які згодна з сучаснымі дасьледаваннямі ўяўляе сабой некалькі цэментаваных аскепкаў метэарыта (мал. 93 і 94). Але гэтага мала. Ці не падзеннем метэарыта тлумачыцца і нагода пілігрымства ў Рым дзеля ўшанавання сьвятога апостала Сымона-Пятра?





Мал. 93 і 94.

Цэментаваныя аскепкі рэчаіснага заснавальніка агаранскай, пазней магаметанскай рэлігіі – Мекскага метэарыта. Унізе – гарызантальны разрэз. Аскепкі адшліфаваны незлічонымі пацалункамі вернікаў.

Сапраўды: што азначае «святы апостал Сымон-Пятро»?

Пры літаральным перакладзе із грэцкай мовы гэта азначае: **Сьвяты пасланнік – знак-камень...**

У Евангеллі паведамляецца ад імя Хрыста: «*на гэтым камені пабудую царкву маю, і брама пекла не адолее яе*». А ў некаторых іншых першакрыніцах паведамляецца, што ў храме св. Пятра (г.азн. сьвятога каменя) раней існаваў вялікі камень, падобны на парфірыт, перад якім паломнікі станавіліся на калені. У другой лягендзе паведамляецца:

«*Пры Нуме Пампіліі з неба звалілася ў горадзе Рыме жалезістая камлыга, падобная на шчыт, якой італійцы пачалі выказваць божыя ўшанаванні*»...

Але ў гэтым сваім дасьледаванні я ўжо паказваў, што заснавальнік «рымскага культу» Нума Пампілій з яго сяброўкай німфай Эгерыяй – асоба легендарная, спісаная ў асноўным з Канстанцыя II, калі не з самога Дыяклетыяна, і таму ўзнікае пытанне: эра Дыяклетыяна, пачынаючаяся ад 284 года, ці не з’яўляецца датай падання гэтага метэарыта, падобна таму як Геджра з’яўляецца датай падання Мекскага метэарыта? Ды і сам апостал Пятро (г.азн. у перакладзе: пасланец-камень) ці сапраўды з’яўляецца чалавекам, а не персаніфікацыяй метэарыта? Але якім бы ні быў час яго падзення з неба, а ўсёж «Сьвяты-камень» некалі захоўваўся ў Рыме. Яго там ушаноўвалі, і легенда пра пахаванне там «апостала-Каменя» дзіўным чынам пераплятаецца з гэтымі паведамленнямі...

Не меншае здзіўленне выклікае і пераклад імя сьвятога апостала Варфаламея, якое азначае «**сьвяты пасланнік ад сузор'я Вадаліва**».....

І мімаволі ў галаву прыходзіць думка, што не адны вулканічныя з'явы і землятрусы спрыялі развіццю ў нашых аддаленых продкаў уяўлення пра існаванне грознага бога Грамабоя і ўстрасальніка зямлі, а таксама і катастрофы, меўшыя падставай паданне метэарытаў.

* * *

Я добра разумею, што тыя із філолагаў, якія яшчэ лічаць, што мэтай іхнай навукі з’яўляецца тое, каб добра ведаць, у якім грэцкім слове патрэбна пад амегай пісаць не вымаўляемую ёту-падпісную і ў якім слове гэтага рабіць не патрэбна, і не заўважаюць сапраўды важнага ў філалагічнай фанетыцы[101], не пагодзяцца з маёй метэарытнай тэорыяй агаранства.

[101] Вось, напрыклад, некаторыя нашы філолагі спрачаліся са мной, калі я сцвярджаў, што літара “Щ” у рускай мове не з’яўляецца самастойным гукам, а спалучэнне мяккага “ШЬ” з “Ч”, і што ў словах, дзе мы пішам “дж” ці “жж”, ці “зж”, ці “чж” часта чуецца спалучэнне мяккага “жь” з італьянска-ангельскім “g”. Адносна таго, што “щ” з’яўляецца спалучэнне “шь” з “ч”, мне яшчэ атрымоўвалася пераканаць, просячы вымаўляць словы “щи” ці “ищи” з працягам, вымаўляючы, напрыклад: “шь-шь-чи”, ці “ишь-шь-чи”, і г.д. Цяжэй было давесьци існаванне гулкага англа-італійскага G у некаторых рускіх словах. Лягчэй усяго гэта атрымлівалася ў мяне шляхам рыфмоўкі, напрыклад, вымушаючы хутка паўтараць: Я пищу – свіщу – візжу (віжь-G-ю), Если выпущу возжу (вожъ-G-ю).
Пры гэтым гук «жьG» чуецца на заканчэнні абодвух радкоў цалкам выразна для слыху. Дакладна так жа мы знаходзім гэты гук і ў слове “дождик”: Не пищи и не визжи (вижь-G-і), Хоть идут ещё дожди (дожь-G-і)!
Але можна ужыць і спосаб расцягвання галоснай: «Этот счёт он сожжёт» (г.азн. сожь-жь-G-ет).
Тут мы вельмі добра бачым механізм кожнага гіпнатычнага надання. Зрокавыя ўражанні чалавека, прызвычаіўшагася чытаць, пераважаюць над слыхавымі, атрымліваемымі ад жывога вымаўлення, нават яго ж уласнага, і ён цалкам не ўсведамляе гукі, якія сам жа вымаўляе. І так жа як наша ілжывая транскрыпцыя

А тыя із гісторыкаў якія ўсё яшчэ сцвярджаюць, што гісторык не павінен выходзіць із межаў таго, пра што паведамляюць яму дайшоўшыя да нас дакументы, і не заўважаюць іхнай неадпаведнасьці хаця бы з геаграфічнымі асаблівасьцямі краіны, – мне скажуць:

– «Гэтая ваша метэарытная катастрофа – чыстая фантазія! У якім летапісе напісана: «Пад час лета ад стварэння сьвету 4383, на 12 год валадарання ў Візантыі імператара Гераклія, адбыўся вялікі землятрус і ўраган у зямлі ягіпецкай, і ягіпецкі народ, пакінуўшы праўдзівага бога, пайшоў ушаноўваць аравійскі камень, нібыта кінуты з неба арханёлам Гаўрыілам?».

Але ці сапраўды ў VIII стагоддзі ў візантыйскіх кляштарах існавалі хаця б асобныя летапісцы, якія клапатліва і дакладна запісвалі на працягу ўсяго свайго доўгага жыцця тое істотнае, што чулі ад сваіх сучаснікаў. І перад сьмерцю яны выказваліся, як у Пушкіна: «Яшчэ адно апошняе паданне і летапіс закончаны мой?»

Ці не больш прыдатны падобныя летапісы для паэмы ў вершах, чым для рэчаісна-старажытнага жыцця, калі пісьменныя людзі існавалі толькі зрэдку ў асяроддзі сьвятарства сталіц ці самых буйных гандлёвых гарадоў, а манархі і прыдворныя заставаліся звычайна цалкам непісьменнымі ці напалову пісьменнымі, насілу здольнымі намаляваць сваё імя, ды і то не кожны, на дамовах?

Нават і ў выпадковыя прыдворныя запісы згодна з загадаам цароў у іх траплялі галоўным чынам іх уласныя здзяйсненні, ды і то большай часткай пачынаючы толькі з пятага стагоддзя нашай эры, за нейкую сотню гадоў да імператара Гераклія!

Адзіная старажытная гісторыя Візантыі захавалася, ды і то са шматлікімі тэндэнцыйнымі пераіначваннямі і фантастычнымі дапаўненнямі ў Бібліі, у выглядзе «Кнігі цароў ізраільскіх» (г.азн. Заходне-лацінскіх) і юдэйскіх (г.азн. ягіпецка-візантыйскіх). Гераклію там адпавядае, як я ўжо даводзіў у першым томе «Хрыста», набожны цар Ёсія. Але што ж там паведамляецца пра яго валадаранне? Усё апавяданне пра яго з вялікім дамешкам белетрыстыкі і размоваў зводзіцца толькі да таго, як ён пабудаваў храм у Ерусаліме (відаць у Цар-Горадзе ці ужо ў Эль-Кудсе), і на прыканцы дададзена:

«*Аднак Грамабой не адклаў вялікай лютасьці свайго гневу, якой загарэўся на багаслвячы народ* (Юдэю-Візантыю)*, за ўсе абразы, якімі ўгневіў яго цар Манасія* (Юстыніян) *і сказаў* (відавочна нейкім грымотным голасам, інакш бог не выказваецца): – *Адкіну ад асобы маёй багаслвячы народ, як ужо адкінуў багазмагальніцкі* (г.азн. Заходнюю імперыю, пакараўшы яе вывяржэннем Вязувія?) *Адкіну горад Ерусалім, які я абраў, і храм, пра які сказаў: там будзе маё імя*!».

На гэтым апавяданне спачатку і заканчвалася, таму што былі дададзены звычайныя апошнія словы гэтай кнігі пра кожнага цара.

«*А пра іншае, што зрабіў Ёсія* (Гераклій), *напісана ў* (згубленым) *летапісе багаслвячых цароў*» (2 кніга Цароў, 23, 28-28).

Толькі ў выглядзе выключэння ў дадзеным выпадку існуе больш позняе дадаванне пра тое, як цар ягіпецкі Нехао выступіў на вайну з царом сірыйскім, і Ёсія быў забіты ў іхнай бітве.

---

перашкаджае нам чуць рэчаісна вымаўляемы намі самімі гук, так і адрозненні ў транскрыпцыі гістарычных асоб на розных мовах перашкаджае нам атаясаміць іх адну з адной. Можна думаць што такія рэшткавыя гукавыя варыяцыі, як толькі што паказаныя мной, з'яўляюцца слядамі ранейшага агульнага паходжання славянскага і заходне-еўрапейскага вымаўлення гукаў.

Ці можна бачыць указанне на метэарытную катастрофу ў Чырвоным моры з водгаласамі ў Ягіпце, Сірыі і Аравіі ў выказванні, што, не гледзячы на набожнасць богаслвячага цара, бог Грамабой не адклаў вялікую лютасць свайго гневу, якой загарэўся на ўвесь богаславячы народ? Пад гэтым народам тэолагі разумеюць толькі Палестыну, але ж і яна тады, згодна з нашай храналогіяй, была часткай Візантыі. І калі бог Грамабой меў звычай прамаўляць грымотным голасам із хмары, то немагчыма не бачыць трохразовага грахатання грымотнага голасу на цэлыя краіны і ў прыпісаных тут яму словах:

– «*Адкіну юдэяў! Адкіну горад Ерусалім! Адкіну ранейшы храм свой*!».

Гэта ж цалкам адпавядае старажытнай манеры апісваць стыхійныя падзеі. Кожны раз, калі нейкая падзея дасягала пад час старажытнасьці жахлівых памераў, яна хутка пераходзіла із вобласьці рэчаіснасьці ў міф, а міф праз некалькі пакаленняў пераносіўся ў аддаленае мінулае. Возьмем хаця б пачатак толькі што парадыраванага мной паведамлення летапісца: «Пад час лета 4383 ад стварэння сьвету».... Але ж гады ад «стварэння сьвету» і да гэтага часу лічацца па-рознаму ў хрысьціянаў і жыдоў, і адрозненне ў датаванні такой сапраўды «сусьветнай» падзеі даходзіць да некалькіх соцень гадоў. А «эра ад Нараджэння Хрыста», – паведамляюць нам, – была прыдумана ўкраінскім манахам Дыянісам Малым у Рыме толькі ў 525 годзе, і наўрад ці стала агульнапрынятай на Ўсходзе раней, чым пачалася Геджра ў 622 годзе, ад якой вядуць сваё летазлічэнне агаране, якія толькі нашмат пазьней назвалі сябе славутымі (магаметанамі). Само імя Агар (дакладней Hagar) з’ўляецца толькі асобным вымаўленне словы Геджра, дзе гук “дж” (г.азн. італійска-ангельскае G) перайшло ў рускае Г, як пастаянна і здараецца з гэтымі гукамі нават у вельмі блізкіх адна ад адной гаворках (хаця б, напрыклад, у нямецкай і ангельскай, дзе немцы завуць сваю радзіму Германіяй, а ангельцы Джэрманіяй і г.д.). Само ж па сабе слова Геджар, ці Геджра азначае – панічныя збяганне.

Адзінства гэтай Геджры і збегшай ў аравійскую ж пустыню Агары, даводзіцца і біблейскім апавяданнем пра яе, калі анёл паказаў ёй выбітую (не інакш як метэарытам) студню, відавочна, тую ж самую, як і знакамітая Зям-зям паблізу Каабы ў Мецы. Але цалкам зразумела, што ні час збягання ў пустыню адзінкавай жанчыны, ні час збягання із Мекі ў Медыну адзінкавага чалавека, хаця б ён і зваўся Славутым (Магаметам), не мог бы зрабіцца пачаткам новай эры, злічэнне якой, ва ўсякім разе, пачалі б ад яго нараджэння, як у нас «ад Нараджэння Хрыста», а не ад такога далёкага не гераічнага ўчынку, як яго збяганне. Пачаткам новай эры магло паслужыць толькі ўсеагульнае панічнае збяганне цэлай краіны, застаўшаяся ва ўсеагульнай памяці цэлага народа, і толькі пазьней дэградаваўшае ў збяганне асобнага чалавека, як пастаянна і адбывалася пад час старажытнасьці. Звычайны налёт урагану хутка ператвараўся тады ў нашэсьце заваёўніка Ура-Гана, а суправаджаўшыя яго сейсмічныя з'явы лёгка персаніфікаваліся ў выглядзе яго вайсковага правадыра Сейса-Маса. Вось, напрыклад, арабскае паданне пра Шэдада, дапасуемае Бругшам, якраз да часу з'яўлення ў Ягіпце цароў-пастухоў (гіксосаў).

«*Шэдад уварваўся ў Ягіпет і прайшоў па ўсяму паўночнаму берагу Афрыкі*».

Але слова «шэдад» азначае – жах, і ў перакладзе ўсё паведамленне набывае такі сэнс: «Жах уварваўся ў Ягіпет і прайшоў па ўсім паўночным берагу Афрыкі».

Мы бачым, што пры такіх акалічнасьцях мая гіпотэза пра метэарытнае паходжанне Геджры (эры панічнага збягання), а з ёй і самога агаранства, і прытым не пад час дагістарычнага перыяду, а непасрэдна ў 622 годзе нашага летазлічэння,

не можа быць палічана за простую фантазію з нагоды адной толькі адсутнасьці рэалістычнага апісання метэаралагічнага ўзрушэння ў Аравіі, Сірыі і Ягіпце ў ніколі не існаваўшых навуковых летапісцаў VII стагоддзя нашай эры. Этна-псіхалагічныя, філалагічныя, фізічныя і проста лагічныя супастаўленні павінны выступаць на першы план пры навуковым усталяванні факта тых гістарычных падзей, якія з'яўляюцца цалкам незразумелымі пры літаральным разуменні дайшоўшых да нас пісьмовых першакрыніц. Так жа зраблю і я ў дадзеным выпадку.



Мал. 95.
Мячэць Амара ў Эль-Кудсе (хрысьціянскім «Ерусаліме») у Палестыне.

# Глава IV.

## Агаранская Мека і біблейскі Ерусалім.

Магаметанства ставіцца да агаранства, як хрысьціянства да месіянства.

Сярод шматлікіх без следу зніклых прадметаў, якія б здаваліся ніякім чынам не маглі знікнуць, няма нічога больш дзіўнага, чым знікненне невядома калі і невядома куды біблейскага Каўчэга Запавету.

Уявіце толькі самі: вось намёт з каменнымі плітамі, на якіх самім богам-Грамабоем напісаны дзесяць запаветаў для людзей. Перад імі штодзённа здзяйсняюцца службы, ахвяраванні... Гэта ўсенародная сьвятыня... і раптам усё гэта знікае, як міраж...

Як усё гэта знікла? Калі? Пры якіх трагічных акалічнасьцях?

Тэолагі маўчаць. Гісторыкі маўчаць. Народныя паданні не атаясамляюць з гэтым ніводнай легенды.

Як быццам бы усе раптам дамовіліся набраць воды ў рот!

І вось няма нічога дзіўнага, што вальнадумцы пачалі лічыць, што гэта проста міраж... Але ж і міраж з'яўляецца толькі адлюстраваннем нечага існуючага за межамі бачнасьці, ды і міф вырастае, як із насення, із нейкага даўно забытага

рэчаіснага факта, чамусьці ўразіўшага ўяўленне яго сучаснікаў, а не шляхам самастойнага зараджэння.

«Усё жывое із яйка» – усталявала яшчэ сярэднявечная біялогія, і аналагічна гэтаму мы можам сказаць: кожны міф меў свой зародак у рэчаіснасьці, і нават сучасныя раманы – толькі мудрагелістыя камбінацыі пабытовых дачыненняў і прыгод, кожная із якіх дайшла да сьвядомасьці аўтара часткова дзякуючы яго ўласным назіранням, часткова дзякуючы паведамленням іншых і большай часткай дзякуючы рупліваму папярэдняму чытанню чужых літаратурных твораў, без чаго ніхто, вядома, не змог бы напісаць ніводнага вялікага мастацкага твора.

Не напісаў ніводнага прыстойнага рамана чалавек да-друкаркага перыяду, не меўшы магчымасьці пастаянна чытаць пад час юнацтва. І нават народны эпас, які складаецца із таго, што да аднаго нескладанага апавядання паступова дадаваліся іншыя нескладаныя, быў адлюстраваннем у кожным сваім звяне нейкага рэчаіснага побытавага факта, нярэдка з пераносам на чалавека таго, што назіралася ў жывёльным і стыхійным сьвеце, ці з пераносам на жывёльны і стыхійны сьвет таго, што назіралася ў жыцці чалавека.

І вось, чытаючы грунтоўныя паведамленні Бібліі пра пераносы па «аравійскай пустыні» «Каўчэга запавету» з дзесяццю запаветамі Майсея на двух каменных плітах і пра іхнае канчатковае ўсталяванне ў нейкім Святым горадзе, я не раз задаваў сабе толькі што прыведзеныя пытанні:

Дзе першапачатковае зярнятка ўсіх гэтых паданняў? Дзе зараз гэтая скінія і гэтыя пліты? Дзе каўчэг запавету?

І я не раз перачытаў усе маючыя да гэта дачыненне месцы Бібліі:

«*Майсей сышоў з гары і ў руцэ яго былі дзьве каменныя пліты... Яны былі справай богаў* (алеім, адкуль магаметанскае Ала)... *Езус, ішоўшы з ім, пачуў крыкі ўнізе і сказаў:*

*– Гэта гул бітвы ў нашым стане.*

*Але Майсей адказаў: – Не! Гэта гуд песень.*

*І калі, наблізіўшыся да стану, ён пабачыў ушанаванне народам Цяльцы і скокі, ён у гневе кінуў на зямлю і пабіў пліты*» (Сых. 32. 15-19)...

Так былі знішчаны **першыя**, дадзеныя самім богам, дзесяць запаветаў. Навошта было гэта прыдумляць, калі для гэтага не было ніякай падставы? І вось, мы прыходзім да высновы, што гэтае паданне не можа быць нічым іншым, як водгаласам землятрусу які сапраўды разбіў разам са статуямі богаў нейкія пліты, на якіх былі напісаны ад імя бога-Грамабоя першыя запісаныя чалавечыя законы.

«*Аднак* – працягвае аўтар кнігі Сыход – *валадар бог* (ІЕУЕ-АЛ, г.азн. Ёвіс-Ала) *дараваў пакаяўшыся народ* (Сых. 34.І), *загадаў Майсею прыгатаваць дзьве новыя каменныя пліты, падобныя на ранейшыя. Майсей падняўся з імі на гару, прабыў там у Валадара* (як Хрыстос у пустыні) *без ежы 40 дзён і 40 начэй і Валадар зноў напісаў на скрыжалях 10 запаветаў. Калі Майсей сыходзіў з імі з гары, твар яго ззяў прамянямі, так што ён пачаў насіць на ім з той пары пакрыва* (Сых. 34, 28-34; Другазак. 10, 14).

– «*І я сышоў з гары,* – выказваецца далей аўтар ужо ад імя Майсея, – *і паклаў скрыжалі ў каўчэг* (АРОН). *І вылучыў Грамабой род Левія* (ЛУІ) *насіць яго, служыць сабе і багаслаўляць сваім імем да гэтага часу*» (Другазак. 10. 5-8).

Такім чынам мы бачым, што першыя скрыжалі лічыліся пабітымі, і гэта магло быць толькі ў выпадку іхнага знішчэння пры землятрусе. А зробленыя другі раз, згодна з узорам першых, маглі належаць ужо цалкам іншаму часу і месцу, але іх маглі атаясаміць з першымі ў больш пазняй пагалосцы. Разгледзім жа і іхны лёс, які зараз непарыўна злучаецца з утрымліваючай Скініяй (г.азн. шатром) запавету.

«*Пад час першага дня першага месяца другога года пабудаваў Майсей скінію, яе падмурак, брусы, шасты і слупы, і распасьцёр над імі покрыва. Ён занёс у яе каўчэг запавету са «сведчаннем», накрыў яго накрыўкай, завесіў адхінаемым пакрывалам, і на накрыўцы з поўначы паставіў у скініі стол сходу і паклаў на яго шэраг прасвірак, а насупраць стала на поўдзень паставіў свяцільню і запаліў агніцу. Перад накрыўкай ён паставіў ахвярнік, на якім курыўся фіміям, пабудаваў двор вакол скініі і ахвярніка і павесіў пакрывала над уваходам*» (Сых. 46, 17-33).

«*Вартавымі каля брамы скініі былі пастрыжэнцы* (карэяне, г.азн. ісламіцкія карэйшыты, на мове якіх напісаны Каран), *і іхныя бацькі ахоўвалі ўваход стаянкі бога-Грамабоя*», – дадае біблейская кніга Параліпаменон (9. 19). А гэтае паведамленне, асабліва збліжае біблейскую скінію з меканскай Каабай, служкі якой таксама мелі назву пастрыжэнцы (карэйшыты).

Паглядзім жа і на далейшы лёс Каўчэга запавету.

«*Калі прыхадні* (г.азн. аравійцы), *перамогшы богазмагальнікаў, забралі ў іх каўчэг запавету і перанеслі яго із Каменя Дапамогі на Схіл* (АШДУД па-карэйшыцку, лічымую зараз тэолагамі за сучасную вёсачку Эсдуд па дарозе із Палестыны ў Ягіпет), *яны прынесьлі яго ў храм бога-Рыбы. Але бог-Рыба быў знойдзены ляжачым перад каўчэгам з адсечанай галавой і рукамі, а на жыхарах з'явіліся заразныя нарывы. Яны выправілі яго ў Гот, але і там ва ўсіх з'явіліся заразныя нарывы, каўчэг быў выпраўлены ў Вылюдак* (ЭКРОН), *але і там пачалася смяротнасць і нарывы, так што вокліч горада даходзіў да нябёс*» (Самуіл 5. 1-12).

Сучасныя гісторыкі-рацыяналісты тлумачаць гэта тым, што да яго прыстала чумная зараза, але ці не натуральней зрабіць выснову, што каля яго ладзіліся рытуальныя вэрхалы, пашыраўшыя нешта накшталт перылоя ў вельмі рэзкай форме?

І вось яго выправілі на поле Езуса ў сядзібе Сонца і там паставілі на Вялікім камені (1 Сам. 6, 12). Але і тут заразіліся пяцьдзясят тысяч семдзесят чалавек, зазіраўшых у яго, і жыхары выправілі яго ў Лясны Горад (КРІТ-ІЕРІН, калі гэтыя словы не ад грэцкага кораня).

І тут каўчэг знікае да таго часу, пакуль у біблейскай кнізе Параліпаменон не прыходзіць да яго невядома куды Давыд, спісаны, як я ўжо паказваў у першым томе «Хрыста», з Дыяклетыяна і не пераносіць яго спачатку да Служкі Чалавечага (ЭБД-АДМ), якога блаславіў Грамабой. А потым каўчэг патрапіў у «Горад Давыда» і нарэшце Саламон (спісаны з Кастуся І, са шматлікімі рысамі, узятымі ад заснавальніка праваслаўнай літургіі), перанёс яго ў пабудаваны ім у Ерусаліме шыкоўны храм (1 Цароў 8. 9).

«*І ў каўчэгу нічога не было*, – паведамляе Біблія, – *акрамя двух каменных скрыжаляў, якія паклаў туды Майсей на гары Жаху* (Харыбе ад лацінскага horribilis – жудасны), атаясамляемай зараз (дарэмна!) з аравійскім Сінаем).

І тут каўчэг знікае без следу са старонак царкоўнай гісторыі.

Але вось, чытач, параўнайце яго малюнак, узяты мной із ангельскай кнігі «The English version of the Polyglot Bible», з малюнкам мекскага свяцілішча, узятым мной із кнігі Вільяма Мьюра[102]. Ці не заўважаеце вы, што гэта адно і тое ж ці, ва ўсякім разе, дзьве пабудовы на адну і тую ж тэму (мал. 96 і 97)?

[102] Sir William Muir: The lif of Mohammad from original sources. 1923.



Мал. 96.
Біблейская «Скінія Запавету», якой яна, згодна са сведчаннямі «Кнігі Быцця», падарожнічала 40 гадоў па Аравійскай пустыні (г.азн. спісана з мекскай Каабы). Навакол гэтых «другіх скрыжаляў запавету» (зробленых замест першых, пабітых у гневе Майсеем) тут стаіць яшчэ простая драпаваная агароджа, а вакол яе – намёты качэўнікаў.



Мал. 97.
Кааба ў Мецы падчас пілігрымства да каменя арханёла Гаўрыіла, змешчанага ў кут кубічнай пабудовы пасярэдзіне двара. Замест «біблейскай палатнянай агароджы стала толькі каменная, і замест намётаў – сядзібы.

І ці не падмацоўвае гэта маю гіпотэзу, што ізраэліцтва і ізмаэліцтва былі пад час сярэдневечча адной і той жа рэлігіяй, ды і арыянства было толькі адной із назваў рэлігіі Арона?

Я не буду доўга спыняцца на сваёй паралелі, а толькі заўважу адно: археолагі ўсюды шукаюць парэшткі знікшых у старажытнасьці прадметаў і знаходзяць іх часам вельмі далёка ад тых месцаў, дзе яны спачатку знаходзіліся... Дык чаму ж ніхто із іх яшчэ не западозрыў у мекскай Каабе знікшай скініі запавету, пра якую паведамляе Біблія?

Я ужо не раз паказваў, што мова Біблii і мова Карана – толькі дзве гаворкі той жа самай літаратурнай мовы ранняга сярэднявечча; што Каран з'яўляецца толькі варыяцыяй біблейскага Пяцікніжжа і Псалмоў, і што сучасны сямейны побыт магаметанскіх заможных людзей больш падобны на апісаны ў Біблii, чым сямейны побыт сучасных жыдоў і г.д. ды і пілігрымствы магаметанаў да іхнай скініі надзвычай нагадваюць пілігрымствы да каўчэга запавету, апісаныя ў Біблii. Ці не на метэарытным камені былі напісаны і Майсеевы дзесяць запаветаў! Ці можа на вулканічных?

Прыступаючы да дасьледавання такога важнага і цікавага рэлігійнага звычая магаметанаў, як іхныя пілігрымствы ў Меку, мы перадусім павінны пазначыць, што яго асноўная ідэя не з'яўляецца выключна належачай адной магаметанскай рэлігіі. Наказы адносна рэлігійных вандраванняў да сьвятых месцаў, як я толькі што паведаміў у папярэднічаўшай частцы, – на багамоллі, існуюць і ў іншых рэлігіях, між іншым і ў каталіцкай царкве, і прытым таксама да «Храма Каменя» (Пятра) у Рыме.

Вось перадусім наказы адносна пілігрымстваў у Біблii, якія згодна са сваім характарам прыдатныя толькі для вельмі маленькай краіны, але я тут прывяду іх для тлумачэння магаметанскіх «вандровак».

«*Не можаш ты закласьці Вялікдзень*», – паведамляе бог свайму абранаму народу і пры гэтым быццам бы ў той жа самай «Аравійскай» пустыні, – *у нейкім із месцаў твайго жыцця, якія твой бог-Грамабой дасць табе, але толькі на тым месцы, якое абярэ ён* (відавочна кінуўшы туды камень), *каб знаходзілася там яго імя. Закладзі там Вялікдзень вечарам, пры захадзе Сонца, у той самы час, пад час якога ты збег* (быццам-бы) *із Ягіпта*». (цытую грунтуючыся на грэцкім перакладзе, які нават і месца падзей ўжо дапасуе да Аравіі).

Праз 50 дзён пасьля першага дня Вялікадня, у богазмагальнікаў – згодна з Бібліяй – было сьвята жніва, ці сямуха, а пазьней да гэтага сьвята было прымяркавана згадванне пра (быццам бы) **сінайскае** заканадаўства. Ахвяра гэтага сьвята мела назву «новае хлебнае прынашэнне», і для яе зноў патрэбна было ісьці ў тое ж самае месца, абранае богам-Грамабоем.

Трэццяе сьвята, для святкавання якога таксама патрэбна было ісьці да адзінага храма богазмагальнікаў, пабудаванага на месцы паказаным з неба, было сьвята шатра, якое працягвалася ад 15 да 21 дня сёмага месяца.

– «*Свята шатра*», – загадвае Грамабой, – «*сьвяткуй у сябе сем дзён, калі прыбярэш із гумна твайго і з тачыла твайго. І весяліся пад час гэтага сьвята ты, і сын твой, і дачка твая, і раб твой, і рабыня твая, і лявіт, і прыхадзень, і сірата, і ўдава, якія апынуцца ў тваёй сядзібе. Сем дзён святкуй богу твайму, на месцы, якое ён пакажа* (відавочна няйнакш як з дапамогай кінутага каменя), *каб там заклікалася імя яго*».

Такім чынам, тры разы на год, усе мужчыны багазмагальніцкага (па-жыдоўску ізраільскага) народа павінны былі з'яўляцца на паказанае самім Грамабоем месца і ніхто не павінен быў прыходзіць з пустымі рукамі, «але кожны з падарункам у сваёй руцэ».

Колькасць багамольцаў, прыходзіўшых у горад Сьвятога Замірэння (Ерусалім па-жыдоўску) на гэтыя сьвяты, часта была – кажуць нам – такой вялікай, што ўсё яны не маглі знайсьці сабе прыстанішча ў горадзе і таму шмат хто із іх былі вымушаны размяшчацца лагерам за яго сьценамі.

Але чытач ужо сам бачыць, што такія частыя вандроўкі да «свайго» храма не маглі адбывацца ў вялікай краіне, а толькі ў межах «прыхода» гэтага самага храма, не большага, чым і нашы царкоўныя праходы. Для аддаленых месцаў такія

штогадовыя наведванні фізічна немагчымы, а таму і рэкамендуюцца зараз толькі маючым магчымасць здзейсніць далёкае вандраванне, хаця б толькі раз за жыццё.

Аналагічна гэтаму, як я ўжо паведамляў, адбываюцца ў каталікоў пілігрымствы ў Рым да храма Пасланніка-Каменя (г.азн. у перакладзе апостала Пятра). А ў індусаў нават існуе шмат сьвятых месцаў і таму па ўсіх вялікіх дарогах там часта сустракаюцца натоўпы багамольцаў.

Тое ж самае патрэбна сказаць і пра магаметанскае рэлігійнае падарожжа ў Меку, якому дадзена асобная назва,– хадж (г.азн. хаджэнне). Канчатковай мэтай гэтага рэлігійнага звычаю з'яўляецца наведванне галоўнага магаметанскага сьвяцілішча, – мекскага храма Каабы (г.азн. Кубічнага) дзеля ўшанавання ў ім аскепкаў метэарытнага каменя, існаваўшага ў аравійцаў – пераконваюць нас, – яшчэ задоўга да іхага магаметанства.

Але што ж уяўляе сабой Кааба, найменне якой сугучнае з кубам? Вось што паведамляюць пра яе нашы першакрыніцы. «Зямная Кааба, – ілжыва сведчаць яны нам – была пабудавана некалькі разоў паводле ўзору нябеснай». «Дакладна невядома – паведамляе Сеід-Такі-Эддын – колькасць гэтых пабудоваў. Найбольш пашыранай з'яўляецца думка сцьвярджаючая, што ўсіх яе пабудоў было дзесяць. Першым разам Кааба была пабудавана анёламі; у другі раз – Адамам; у трэцці раз – сынам Адама – Сіфам; у чацьвёрты раз – Абрамам; у пяты раз – амалікіцянамі; у шосты раз – джаргамітамі; у сёмы раз – Касаем-бэн-Келабам, продкам Магамета; у восьмы раз – карэйшытамі; у дзявяты раз – Абдалах-бэн-Зубайрам; у дзясяты раз – Хаджаджам-бэн-Юсуфам, тсакіфітам».

Мы пакінем пакуль, на сумленні саміх «сведак», паведамленні пра пабудову Каабы анёламі, Адамам і самымі блізкімі нашчадкамі Адама, і непасрэдна пяройдзем да паданняў пра яго пабудову Бацькай-Рымам (Абрамам па-жыдоўску), бо пра гэта паведамляецца ў самым Каране. А ў агульным адбылося так:

Перад наступленнем патопу, Кааба, – пераконваюць нас магаметане, – была паднята на неба, і праз шмат гадоў пасьля патопу, на тым самым месцы, дзе яна стаяла, блукала Бяглячка (па-біблейску Агар) са сваім сынам Богапачутым (Ізмаілам), пасьля таго як яна была прагнана Бацькай-Рымам (Абрамам). Тым часам як яе сын паміраў ад смагі, яна дарэмна шукала ваду паміж двума ўзгоркамі Сафа і Мерва. Нарэшце, яна змарылася і ўсклікнула: «пачуй мяне Грамабой!». Адсюль, – запэўніваюць  нас, – паходзіць і імя яе сына Ізмаіл (Богапачуты), таму што адразу пасьля яе ўсклікання, дзякуючы грымотнаму голасу арханёла Гаўрыіла, з'явілася крыніца.  Пабачыўшы яго, яна закрычала свайму сыну па-ягіпецку: «зям, зям!», што азначае «прыйдзі, прыйдзі!» Вось чаму гэтая крыніца і мае назву студня «Зям-зям».

Пасьля гэтага Богапачуты (Ізмаіл) са сваёй маці пасяліўся ў той краіне, адружыўся з тубылкай і нарадзіў ад яе шматлікіх нашчадкаў. І вось Бацька-Рым (Абрам) атрымлівае ад бога наказ ісьці ў Аравію, каб зноў пабудаваць там «сядзібу боскую». Яго памагатым там быў прагнаны ім са сваёй сядзібы сын – Ізмаіл Богапачуты, а матэрыялам былі камяні суседніх гор. Свой храм яны пачалі будаваць на месцы ранейшага, узятага перад патопам на неба, і пры яго пабудове Ізмаілу прыйшла ў галаву думка знайсьці асабліва добры камень для таго, каб пазначыць ім той кут, ад якога багамольцы будуць пачынаць абыходы вакол храма. І вось такі камень адразу і зваліўся да яго прама з неба.

Аднак не ўсе нашы першакрыніцы згодны з тым, што гэты метэарыт упаў на зямлю спецыяльна для Богапачутага.

Некаторыя із магаметанскіх пісьменнікаў лічаць, што райскі камень зваліўся на зямлю яшчэ для Адама, потым падчас патопу ён згубіўся ў ціне, адкуль яго і дастаў арханёл Гаўрыіл. А іншыя лічаць яго нічым іншым як самім анёлам-захавальнікам, прыстаўленым да Адама і які за тое, што выявіўся недастаткова пільным, быў пасьля грэхападзення Адама ператвораны богам у камень і выкінуты із раю на зямлю.

Ва ўсякім разе, як бачыць сам чытач, ён быў метэарытнага паходжання згодна з ўсімі паданнямі, і спачатку – пераконваюць нас, – быў адпаведна гэтаму асляпляюча прамяністы. Замена яго колеру на сучасны буры залежала ці ад таго, што ён, – як кажа Эль-Азракі, – некалькі разоў выпрабоўваў на сабе ўздзеянне полымя, ці ж, – як кажуць іншыя, – ад дакранання вуснаў незлічонай колькасьці грэшнікаў. Але пры заканчэнні сьвету ён зноў набудзе свой ранейшы асляпляючы, як у падаючага метэарыта, бляск, асветліць ім увесь сьвет і будзе заступацца за тых, якія датыкаліся да яго вуснамі з жывой верай і сумленна выканалі ўсе звычаі хаджа.

Але... чытач ужо сам бачыць, што ўсё гэта не рэчаіснасць, а **чароўная казка**.

Пра мекскі храм паведамляе і Дыядор Сіцылійскі, дапасуемы без доказаў да пачатку нашай эры:

«*У гэтай краіне знаходзіцца храм, вельмі ўшаноўваемы ўсімі арабамі*».

А магаметане, лічачыя сябе пасьлядоўнікамі рэлігіі Бацькі-Рыма (Абрама), дапасуюць пачатак вандровак да аскепкаў метэарытнага выбуху да глыбокай старажытнасьці. Вось што паведамляе з гэтай нагоды сам Каран:

«*Калі Аўраам і Ізмаіл пабудавалі падмурак боскай сядзібы, то ўсклікнулі*: – «*Блаславі яго, наш валадар! Таму што ты чуеш і ведаеш усё! Зрабі, каб мы былі перададзены тваёй волі і каб нашы нашчадкі таксама былі перададзены тваёй волі! Настаў нас сьвятым звычаем і зрабі ласку павярнуць на нас твае позіркі, таму што ты схіляеш да пакаяння і літасьцівы*».

Іхнае прашэнне было адразу пачута, да іх з'явіўся анёл Гаўрыіл, – адмысловы знак камет, – які навучыў іх малітвам і розным звычаям хаджу. Ён навучыў іх уступленню ў «храм», прыпынку на гары Арафа, кіданню камянімі (у якасьці ўспаміна пра падзенне метэарытаў), прынясенню ахвяравання ў даліне Міна і ўсяму іншаму. Яны дакладна ўсё выканалі і здзейснілі сяміразовы абыход вакол Каабы, пры гэтым шторазова павінны былі цалаваць «чорны камень».

Пасьля гэтага Бацька-Рым, згодна з наказам боскім, падняўся на гару Абу-Кубайс і вымавіў наступныя словы, адрасаваныя ўсім жывучым і маючым жыць людзям:

– «*О народы, спяшаецеся ў сядзібу вашага бога*!»

Голас патрыярха быў пачуты ўсімі стварэннямі, і мільёны душ, павінных здзейсніць хадж, адказалі:

– «*Ляббайкя іллягумма*!» (гатовы да цябе, божа наш).

Бацька Рым, пераназваны пазней у Ібрагіма (бацьку шматлікіх народаў), паклікаў да сябе Ізмаіла і сказаў яму:

– «*Маё заданне закончана. Я іду назад і даручаю табе ўсю гэтую краіну і гэты храм, даглядаць за якім цябе прызначыў бог*».

Ізмаіл пасяліўся каля Каабы і зрабіўся імамам свайго народа, а Ізмаілу ўспадкаваў яго сын Набэ, які таксама быў даглядальнікам за Каабай.

Мне няма патрэбы даводзіць чытачу, што ўсё гэтае паданне пра пабудову Мекскага храма з'яўляецца простым міфам, падмуркам якога служыць выбух

вялізнага метэарыта ў Чырвоным моры, выкапаўшы яму і тут, із якой з'явілася крыніца «Прыйдзі-прыйдзі!».

Больш праўдападобнай гісторыя Мекскага храма станавіцца з часоў джаргамітаў, якія лічацца нашчадкамі Джаргама, сына Кахтана, ці Ектана, калі тут панавала шматбожжа. Гэта даводзіцца тым, што імя сына і наступніка Джаргама (дапасуемага гісторыкамі да I стагоддзя) – Абд-Яліль азначае: служка Яліля; а імя Абдуль-Мадана, чацьвёртага джаргаміцкага валадара (дапасуемага да I стагоддзя), азначае: служка Маданы (сугучна з Мадонай) згодна з меркаваннем бацькі арабістаў – ангельскага прафесара Пакока. А самае цікавае гэта тое, што імя шостага валадара джаргамітаў было Абдуль-Мясіх, г.азн. «служка Месіі», і што Ель-Азракі сведчыць, быццам бы пад час старажытнасьці на адной із калон мекскага храма была высечана выява Езуса і панны Марылі. Потым, – пераконваюць нас, – Каабай завалодалі хузаіты і кіравалі краінай. Але і яны былі шматбожнікамі.

Першым із гэтых больш позніх валадароў, згодна са сведчаннем большай часткі гісторыкаў, быў Амр, сын Лахайя (207-240 гг.), і ён заснаваў культ Габала (г.азн. Юпітара), які быў зроблены із сердаліку. Гэта статуя мела выгляд старога з доўгай барадой, у правай руцэ якога было сем стрэл і хутка колькасць богаў там павялічылася да 360, адпаведна колькасьці градусаў акружнасьці. Пазьней – паведамляюць нам – да пачатку IV стагоддзя нашай эры ў Аравіі ўзвысіўся род карэйшытаў і ў 398 годзе (г.азн. якраз падчас з'яўлення Апакаліпсіса) у гэтым родзе нарадзіўся Касай, бацька якога, Келаб, памёр яшчэ тады, калі Касаю было толькі некалькі месяцаў. Вось гэты Касай і пабудаваў – кажуць нам – Меку напачатку V стагоддзя, адкуль зразумела, што метэарытны выбух, меўшы наступствам сюды пілігрымствы і ўзнікненне тут горада адбыўся не раней V стагоддзя нашай эры.

Непадалёку ад Каабы ён пабудаваў для сябе палац у якім, пад яго старэйшынствам, вырашаліся ўсе грамадзкія справы. Тут адбываліся адружанні карэйшытаў і сюды ж прыводзілі кожную дзяўчыну, дасягнулую паўналецця, і апраналі на яе адзенне паўналетніх. Тут жа карэйшыты, калі ішлі на вайну, атрымлівалі із рукі Касая сьцяг людзей Боскай сядзібы.

У 450 годзе Касай – паведамляюць нам – разбурыў старую і пабудаваў новую Каабу, больш прыгожую а адзін із яго пераемнікаў, Абдуль-Муталіб (520 г.) – кажуць нам – атрымаў у сне нябесны загад капаць зямлю каля таго месца, дзе стаялі статуі Ісафа і Найла. Прыляцеўшы крумкач паказаў яму месца дзе патрэбна было капаць, і Абдуль-Муталіб са сваім сынам Харытсам, не толькі знайшлі тут дзьве залатыя газелі, броні і шаблі, але і адкапалі засыпаную студню Зям-Зям. Пры ім жа – паведамляюць нам – адбылося і нашэсьце на Меку абісінцаў. Йеменскі цар-хрысьціянін Абрама вельмі жадаў тады зрабіць хрысьціянскую рэлігію пануючай у сваёй краіне і пабудаваў у сваёй сталіцы, горадзе Сана, такі пышны храм, што падобнага яму не было да таго часу. Але паганцы мекскай Каабы, нягледзячы на пышнасць яго храма, не ішлі ў йеменскую царкву. Мала гэтага. Адзін із іх таемна пракраўся ў храм Абрахі і самым безсаромным чынам апаганіў яго. Абраха, даведаўшыся пра гэта, пакляўся не пакінуць каменя на камені ад Каабы. Ён сабраў 40 000, а згодна з іншымі паданнямі 60 000 чалавек абісінскага войска і выправіў у Меку Ханата.

– «Даведайся, – даручыў ён яму, – хто кіруе ў тым горадзе, і скажы яму, што я прыйшоў не для таго, каб весьці вайну, але толькі, каб разбурыць Каабу. Калі

меканцы не падымуць супраць мяне зброю на абарону свайго храма, то я не буду разліваць іхную кроў»...

Ханата перадаў гэтае даручэнне Абдуль-Муталібу, які адказаў:

– «Мае суайчыннікі і я не маем ні жадання, ні магчымасьці ваяваць з абісінцамі. Гэты храм з’яўляецца сядзібай бога і Абрама, сябра боскага. Калі бог жадае бараніць яго, то ён сам выдатна абароніць, а калі яму дагодна аддаць яго на разбурэнне, то не нам перашкаджаць гэтаму».

Абраха з'явіўся каля Мекі.

І вось, неба пакрылася, як воблакам, шматлікімі птушкамі «аба-білямі» падобнымі на ластавак. Кожная з іх трымала ў дзюбе і ў кіпцюрах па каменю і на кожным было напісана імя той ахвяры, для якой ён быў прызначаны. Птушкі кідалі гэтыя камяні з такой моцнасьцю, што яны прабівалі нават шлемы і броні ваяроў дзёрзкага цара. Вялікая частка войска Абрахі загінула на месцы. А потым (як сапраўды бывае пры вялікіх выпадзеннях метэарытаў) бог наслаў моцны дождж, вада якога панесла трупы ўсіх пабітых прама ў мора. А тыя, якія кінуліся ўцякаць, загінулі ў пустыні.

Адзін толькі Абраха здолеў дабрацца да горада Сана. Але часткі яго цела пачалі адпадаць адна за другой і яго грудзі так расчыніліся, што можна было бачыць нават сэрца. Ён памёр у жахлівых пакутах і пайшоў у пекла. Із усяго войска абісінцаў толькі адзін ваяр перайшоў праз Чырвонае мора ў Эфіопію, з'явіўся да яе цара і паведаміў пра сумную падзею.

Цар запытаў, якога роду былі забіваўшыя іх птушкі. Ваяр паказаў на адну, лётаўшую за ім паўсюдна, і ў тое ж імгненне яна кінула на яго камень, і ён памёр.

Пра гэта ж паведамляе і Каран:

«*Ці бачыў ты, як валадар судзіў людзей слана? Ці не разбурыў ён іхныя задумы? Ці не выправіў супраць іх ababілей, кідаўшых ў іх камяні, меўшыя знакі напісаныя на небе? Яны зрабілі із камянёў падабенства шароў, ядро якіх з'едзена*».

Гэта азначае быў цэлы град метэарытаў...

Абраха, галоўная асоба гэтай падзеі, набыў у арабскіх пісьменнікаў найменне «валадар слана», яго войска атрымала найменне «людзі слана», а год паходу быў названы «годам слана» і пад час гэтага ж года нарадзіўся Магамет.

Мы бачым, што ўсё гэтае апісанне мае выразныя рысы метэорнай катастрофы (нават і струмені дажджу пасьля яе), а таму і пілігрымствы ў Меку і пачатак ісламіцтва пачынаючы з 622 года ніколькі не маюць патрэбы ў асобе Магамета. І міф пра яго, і канчатковае стварэнне Карана із біблейскіх паданняў можа належаць нашмат больш пазнім часам.

* * *

Паглядзім, у якім выглядзе старажытныя аўтары малююць нам пілігрымствы ў Меку так бы мовіць «да з'яўлення Магамета», бо нішто не перашкаджае нам пасьля ўсяго вышэйпавядомленага, прызнаць яго легендарнай асобай, нагодай да стварэння якой мог служыць Махмуд Газі, заваёўнік XI стагоддзя, ці нават сам султан Магамет I.

На некаторай адлегласьці ад Каабы – паведамляюць нам – багамольцы ўступалі ў сьвятую вобласць, меўшую назву мурлам, г.азн. храм. Тут яны галілі свае галовы, распраналіся і ішлі такім чынам да Каабы голымі. Амаль усе пісьменнікі паведамляюць, што спачатку пілігрымы абыходзілі вакол метэарытнага каменя ў адзенні Адама і Евы ў раі. Жанчыны спачатку пакідалі было на сабе ніжнюю сарочку, але хутка перасталі карыстацца і гэтым адзеннем. З

рукаплясканнем і свістам здзяйснялі яны паскоранымі крокамі свае сяміразовыя абыходы, пры гэтым кожны раз цалавалі аскепкі метэарыта ці толькі датыкаліся да іх, і на гэтыя абыходжанні паказвае верш Карана:

«*Іхная малітва ў сьвятой сядзібе не што іншае, як свіст і пляcканне рукамі*».

Потым багамольцы столькі ж разоў бегалі паміж двума недалёка адстаячымі ад Каабы ўзгоркамі, Сафа і Мярва, і кланяліся ім. Яны ішлі на гару Арафа, дзе заставаліся некаторы час і адсюль, згодна са знакам выконваючага абавязкі іджаз-арафа, ішлі разам у даліну Мюздаляфа. У даліне Міна, адпаведна пададзенаму знаку, яны кідалі, пераймаючы ў птушак абабілей, сем разоў каменьчыкі, і багамолле заканчвалася прынясеннем у ахвяру вярблюдаў і авечак, поўсць і рогі якіх закопваліся ў зямлю.

Некаторыя багамольцы, вярнуўшыся пасьля гэтага дахаты, мелі звычай заходзіць не праз звычайныя дзверы, а праз знарок прыгатаваную для гэтага новую адтуліну ў задняй частцы сядзібы. Але гэты звычай быў пазней скасаваны Каранам:

«*Набожнасць*, – выказваецца ён, – *не складаецца ў тым, каб вы заходзілі ў вашы сядзібы праз адтуліну зробленую ззаду: набожнасць заключаецца ў баязні бога. Заходзьце ў вашы сядзібы праз дзьверы, бойцеся бога*».

Не менш легендарнымі з'яўляюцца апавяданні і пра пілігрімствы да аскепкаў метэарыта на працягу ўсяго сярэднявечча.

Так, нам паведамляюць, што ў 816 годзе пры здзяйсненні пілігрымства Сулейманам-ібн-эль-Малікам, для перавозкі толькі яго гардэробу спатрэбілася 900 вярблюдаў. А ў другой палове VIII стагоддзя нам славяць хадж Аль-Махдзі, на здзяйсненне якога гэты сын і наступнік Аль-Мансура, выдаткаваў вялізную суму грошай. Тады ў Меку сабралася з усіх бакоў – паведамляюць нам – нябачаная да гэтага колькасць багамольцаў, а наколькі казачным было апісанне гэтага падарожжа, можна меркаваць ужо грунтуючыся на адным тым, што Аль-Махдзі быццам бы вёз з сабой із Багдада ў Меку такую вялізную колькасць снегу, што яго хапіла не толькі для прахалоды каліфа і яго сьвіты падчас усяго вандравання па аравійскай пустыні, але дастаткова шмат было прывезена і ў здзіўленую Меку, жыхары якой ніколі не бачылі снегу. Ён быў закаркаваны – кажуць нам – у гліняных пасудзінах, і іх, разам з іншымі прыпасамі, везлі 500 вярблюдаў. Дзякуючы гэтаму халіф і яго набліжаныя на працягу ўсяго падарожжа мелі магчымасць частавацца свежымі пладамі. Але і гэтага мала. Уздоўж усёй дарогі ад Багдада да Мекі Аль-Махдзі паставіў слупы для пазначэння шляху для багамольцаў і наладзіў шмат станцый для іхнага адпачынку, загадаўшы шыкоўна прыбраць іх. Ён прывёз з сабой ў Меку шмат адзенняў, якія раздаў бедным, і гэтае падарожжа каштавала яму 30 мільёнаў дыргемаў.

Але самыя пышныя падарожжы ў Меку – паведамляюць нам – былі здзейснены знакамітым абасідам Гарун-аль-Рашыдам, валадаранне якога дапасуюць да заканчэння VIII і пачатку IX стагоддзя, г.азн. да часу Карла Вялікага ў Яўропе. Яшчэ не будучы каліфам, ён пакляўся, што калі здабудзе пасад, то здзейсніць падпрожжа да сьвятых месцаў пешкі. І вось, верны свайму абяцанню, Гарун-аль-Рашыд быццам бы выправіўся пешы із Багдада і дайшоў такім чынам да самой Мекі, прайшоўшы адлегласць каля 1 000 міль. Увесь шлях па якому ён ішоў, «*быў высланы дыванамі і рознымі каштоўнымі матэрыямі*», і пачынаючы з гэтага часу Гарун-аль-Рашыд, згодна са сведчаннем яго біёграфа, Фахрэдыта Рэйскага, штогадова падарожнічаў у Меку пешкі, у суправаджэнні сотні юрысконсулаў з іхнымі сынамі, а калі не паспяваў, то выпраўляў замест сябе трыста чалавек з

вялікім «запасам і пышнымі адзеннямі», чым і быў абавязаны сваімі перамогамі над ворагамі.

Пад час першага із гэтых падарожжаў, ён выдаткаваў быццам бы на адны толькі гасьцінцы мільён дынарыяў, і бармесіды, суправаджаўшыя яго, раскідалі іх шчодрай рукой. Так, суправаджаўшы яго Яхвя раздаў у Мецы ўсё срэбра, якое было прыгатавана ў некалькіх капшуках па 200 кавалкаў у кожным, і гэты год быў названы «годам раздач». На першае падарожжа – паведамляюць нам – Гарун-аль-Рашыдам было выдаткавана 150 мільёнаў дынарыяў. Ды і другое яго падарожжа разам з жонкай Забейдой было здзейснена пешкі. Уся дарога ад Багдада да Мекі была таксама выслана каштоўнымі дыванамі. Пад час менавіта гэтага хаджа Забэйда пабудавала і той вадавод, які адзіны прыносіць зараз у Меку добрую ваду із наваколля гары Арэфа.

І ўсё гэта зноў жа адны фантазіі неўтаймаванага ўяўлення больш позніх еўрапейскіх аўтараў, страціўшых якую б то ні было меру ў сваіх уяўленнях пра ўсходнюю раскошу, і ўсходняе багацце! Нічога гістарычнага тут відавочна няма, і таму мы ніколькі не здзіўляемся, што пасьля гэтага феерверку мы адразу трапляем у перыяд непрагляднай, пазбаўленай месяцовага і зорнага святла, ночы.

Пасьля Гарун-аль-Рашыда – паведамляюць нам – да заканчэння IX стагоддзя нашай эры настае перапынак у здзяйсненнях хаджаў. Згодна з аднымі паведамленнямі ў 319 годзе, а згодна з іншымі ў 314 годзе ці нават яшчэ ў 301 годзе Геджры, г.азн. у X стагоддзі, карматы, пад правадырствам Абу-Дахіра прыйшлі ў Геджас і аблажылі Меку; яны абрабавалі Каабу і забралі з сабой ў Хэджар «нябесны камень», маючы на мэце накіраваць у свой горад натоўпы багамольцаў, а разам з імі і ўсе матэрыяльныя выгоды суправаджаўшыя хаджы для жыхароў Мекі. А згодна іншым паданнем, гэты нябесны камень спачатку быў вынесены «арматамі ў Бахрэйн, у горад Еш-Гаса, адкуль пазней быў перанесены ў Куфу[103]. Хадж у Меку зараз амаль цалкам спыніўся.

І вось, якому ж із гэтых двух варыянтаў патрэбна верыць? А калі адзін аспрэчвае другі, то ці маем мы права зрабіць выснову, што ў 339 годзе Геджры (у 950 годзе нашай эры) карматы, пераканаўшыся ў тым, што немагчыма прымусіць ісламітаў здзяйсняць хаджы не туды, дзе адбылася метэарытная катастрофа, а туды, куды яны перанеслі аскепкі, – прынесьлі із Куфы, а магчыма і з Хэджара, назад у Меку «нябесны камень», захоплены імі тут дваццаць пяць гадоў таму назад? Ісламіцкія гісторыкі «сведчаць», што для перанясення яго із Мекі ў Хэджар было ўжыта 40 самых вялікіх і моцных вярблюдаў, якія, вязучы гэтыя аскепкі метэарыта, моцна змарыліся. А для адваротнага вяртання гэтага ж каменя быў выкарыстаны толькі адзін даволі худы вярблюд, які за час падарожжа дзякуючы яму зрабіўся больш тлустым. І калі гэта праўда, то ці немагчыма зрабіць выснову, што першапачатковая колькасць аскепкаў метэарыта была вельмі значнай, але ўсе яны былі расцягнуты набожнымі асобамі, і ў Меку вярнуліся толькі малюсенькія аскепкі, ды і то сумнеўнай якасьці? Але вось у 982 годзе нашай эры карматы – паведамляюць нам – былі канчаткова вынішчаны, і пачынаецца больш рэчаісны перыяд, із якога ў перабольшаным выглядзе былі спісаны і падарожжы Гарун-аль-Рашыда і іншых фантастычных усходніх культуртрэгераў.

---

[103] Куфа – парэштці ў Багдадзкім вілаеце, дапасуемыя да VII стагоддзя, дзе, кажуць, быў пахаваны Адам. Ёй прыпісваецца і вынаходніцтва куфічнага пісання із 22 літар і розныя манеты аж да XI стагоддзя. Пазьней ужыванне гэтага пісання спыніла сваё існаванне з нагоды таго, што візір Ібн-Макле ў X стагоддзі ўвёў сучасные напісанне літар.

Зноў з усіх бакоў у Меку пацягнуліся ў вялізнай колькасці самыя разнастайныя адносна свайго складу караваны багамольцаў. Малек-шах, трэцці сельджукскі султан, згодна са сведчаннем Хамдула Местуфі, здзейсніў у XI стагоддзі (у 481 годзе Геджры) хадж, на які ім былі выдаткаваны неверагодна вялікія сумы грошай. З сабой ён вёз вялічэзную колькасць харчовых і іншых запасаў для сябе і іншых багамольцаў. На сваім шляху ў Аравійскай пустыні, ён наладзіў дастаткова значную колькасць станцый і загадаў выкапаць шмат студняў. Так жа і атачэнне маці Матасема-Біла, здзейсніўшай падарожжа ў 631 годзе Геджры (XIII стагоддзе), ехала ў Меку на 12000 вярблюдах. У 719 годзе Геджры (XIV стагоддзе) ягіпецкі султан Аль-Малак-Наср-Эддзін вёў за сабой ў Меку 500 вярблюдаў наўючаных цукеркамі і іншымі ласункамі і 280 вярблюдаў нёсшых на сабе памяранцавыя, міндальныя і іншыя плады. У яго паходнай каморы было 1 000 гусакоў і 3 000 курэй.

Але вось на прыканцы XVIII і напачатку XIX стагоддзя дарога ў Меку зноў зрабілася небяспечнай з нагоды частых нападаў на караваны багамольцаў з боку новых ісламіцкіх ерэтыкоў – вахабітаў. Заснавальнікам гэтай ерасі быў шэйх Мухамед-ібн-Абдуль-Вагаб. Пад час сваіх вандраванняў у Басору, Багдад, Дамаск, Іспагань, Меку, Медыну і іншыя гарады ўсходу, ён – паведамляюць нам – пераканаўся, што нідзе не існуе чыстага вучэння ісламa і ў яго нарадзілася жаданне здзейсніць рэлігійную рэформу. Ён скасаваў ушанаванне сьвятых, патрабаваў суровага ўстрымання. Падпарадкаваўшы сабе ўвесь Нэджэд, вахабіты жылі спачатку ў міры з жыхарамі Геджаса і нават атрымалі ў 1781 годзе ад мекскага шэрыфа дазвол здзейсніць ушанаванне Каабы. Але хутка пачалася вайна паміж Мекай і насельнікамі Геджаса, і колькасць прыхільнікаў Каабы значна паменшылася, таму што вахабіты не прапускалі ў Меку ні туркаў, ні персаў.

І імі ж пісьменнікі XIX стагоддзя пачалі тлумачыць выяўленую першымі ж пракраўшыміся ў Меку і Медыну еўрапейскімі і турэцкімі падарожнікамі адсутнасьць у гэтых гарадах магіл асоб сямейства Магамета і іншых дзеячаў ісламу. Як і куды яны зніклі? Вельмі проста: у 1803 годзе – паведамляюць нам тлумачальнікі – вайсковы правадыр вахабітаў, Сауд, падступіўся са сваім войскам да Мекі, адвёў ад яе ваду Арафацкага канала і вымусіў жыхароў сьвятога горада здацца. Шэрыф Мекі збег са сваім войскам у Джыду, і адразу ж пасьля прыходу ў горад вахабіты (згодна са сведчаннем Голя), забілі служак Каабы і ачысьцілі яе ад усяго таго, што яны лічылі нячыстым.

Як зацятыя супернікі ўшанавання сьвятых, яны параўналі з зямлёй ўсе магільныя помнікі асоб сямейства Магамета, і нават не быў пашкадаваны помнік шануемай ім і ўсімі яго паслядоўнікамі Хадыджы. Усе меканцы былі ператвораны ў вахабітаў. Ім забаранілі курыць тытунь, забралі іхныя трубкі і спалілі, ці зачынілі ўсе кавярні, і знішчылі ўсе карчмы. А ў наступным 1804 годзе Сауд накіраваў сваё войска супраць Медыны. Тут таксама былі разбураны ўсе магільныя помнікі і забраны з іх каштоўныя ўпрыгожванні. Сауд зайшоў і ў мячэць прарока і забраў тут усё, што было больш-менш каштоўнага. Ён захапіў нават і тую каштоўную зорку, якая была складзена із дыяментаў і пэрлін і (быццам бы) вісела над (уяўляемай) труной Магамета. Усе каштоўныя пасудзіны і ўпрыгожванні, дасланыя сюды із усіх частак сьвету ці прынесеныя знакамітымі хаджыямі, былі забраны.

– А куды ж, запытаем мы, яны дзеліся потым?

– Сауд прадаў, – адказваюць нам, – адну частку гэтай здабычы Галебу, шэрыфу самой жа Мекі, за 150 тысяч даляраў, а другая частка была перанесена ім у Дарэй, сталіцу вахабітаў.

– А куды ж іх падзеў шэрыф Мекі, абавязкам якога і было іхнае захаванне?

– Не ведаем, – адказваюць нам.

Нікому не вядомы лёс і той яшчэ большай часткі, якая (быццам бы) была вывезена ў Дэрэй... Уся гэта гісторыя прыдумана відавочна толькі для таго, каб патлумачыць нашым сучасным скептыкам адсутнасьць рэліквій і магіл на тых месцах, дзе яны не маглі б знікнуць. Ды і сам іхны ўяўляемы знішчальнік цалкам не падыходзіць для ролі, якую яму прыпісваюць.

– Сауд – пераконваюць нас – зрабіўся валадаром амаль усёй Аравіі. Спакой і бяспека панавалі ва ўсіх яго ўладаннях, але багамольцы мелі магчымасць здзяйсняць хадж у Меку толькі пры умове далучэння да вахабізма, і туркам шлях быў перагароджаны. Сам Сауд кожны год наведваў Меку, і ў 1807 годзе колькасць вахабіцкіх прыхільнікаў у Мецы, згодна са сведчаннем аднаго падарожніка, дасягала да 83 000 чалавек.

Але не доўга яны кіравалі Аравіяй. У 1812 годзе войска ягіпецкага пашы Мухамеда-Алі захапіла Медыну, а ў наступным годзе – і Меку. У 1818 годзе магутнасць вахабітаў была канчаткова знішчана. Абдалах, наступнік Сауда, быў выпраўлены ў Канстантынопаль і 19 снежня страціў тут галаву разам з двума сваімі таварышамі.

Для ўсіх ісламісцкіх багамольцаў зноў быў вызвалены шлях у Меку для ўшанавання аскепкаў метэарыта. У 1814 годзе адбыўся першы іншаземны хадж пасьля выдалення вахабітаў із Геджаса. Мухамед-Алі, ягіпецкі паша, на другі ж дзень пасьля перамогі над сектантамі, здзейсніў сваё пілігрымства да метэарыта, абставіўшы яго, згодна з прыкладам ранейшых валадароў прававерных, вельмі пышна. У яго сьвіце знаходзілася адна із яго жонак, і яе цягнік складаўся із 500 вярблюдаў, перавозіўшых яе багаж. Яе шацёр быў падзелены на пакоі і аточаны асобнай агароджай із матэрыі, меўшай каля 800 крокаў у акружнасьці. Пры ўваходзе ў шацёр дзень і ноч вартавалі пышна апранутыя чорныя валахі і багацце гэтага памяшкання нагадвала сабой, згодна са словамі Аўрыля[104], казкі із «Тысячы і адной ночы». Колькасць багамольцаў падчас здзяйснення гэтага хаджу, у якім браў удзел і знакаміты Буркхарт, дасягала да 70 000 чалавек, размаўляўшых больш чым на 40 мовах.

# Глава V.

## Усе шляхі вядуць... да аскепкаў метэарытнай катастрофы ў Аравіі.

Падобна таму як у Заходняй Яўропе выказваліся, што «ўсё шляхі вядуць у Рым», так і на ісламіцкім Усходзе кожны мог бы сказаць: «усе шляхі вядуць у Меку». І дзіўная справа! Выяўляецца, што пілігрымы ідуць перадусім не да труны свайго прарока, як яны запэўніваюць, а да аскепкаў метэарытнага каменя.

Вось як апісваюць пісьменнікі заканчэння XIX стагоддзя гэтую пабожную справу.

---

[104] A. d'Avril: L'Arabie Contemporaine. Paris 1866 г., стар. 187.

Зборнымі месцамі для караванаў, ідучых у Меку, служаць: Дамаск на поўначы Аравіі, Каір – на захадзе, Сана – на поўдні, і Мешгад-Алі – на ўсходзе.

Самы галоўны із гэтых пунктаў Дамаск, таму што выходзіўшыя адсюль караван быў самым шматлікім і таму што ён – афіцыйны караван. Ён самы разнастайны згодна са сваім складам. Тут мы бачым і жыхароў магаметанскай поўначы, і жыхароў Туркестана, і туркаў і шмат каго іншых. Але яго асаблівая важнасць надаецца тым, што на чале вялізнага «дамаскага каравана» ішоў султанскі караван. Турэцкі султан, не здзяйсняючы хадж асабіста, штогадова рыхтаваў замест сябе цэлы караван багамольцаў у Меку, якім кіраваў «эмір-хаджы», прызначаемы штогадова султанскім указам із генералаў, пашэй і іншых вышэйшых саноўнікаў, асабіста знаёмых з султанам. З ім у Меку выпраўлялася пакрывала (кясва) і шмат гасьцінцаў для накрывання аскепкаў метэарытнага каменя. Гонар дасылаць яму пакрывала штогадова аспрэчвалі паміж сабой Стамбул і Каір.

Кясва з’яўляецца не чым іншым, як вялізным шаўковым чорнага колеру дыванам. Ён падзелены пасярэдзіне шырокай паласой залатой парчы, на якой пышна вышыты розныя набожныя выслоўі Карана. Дыван спачатку насілі ў скрутку па вуліцах Стамбула і Каіра з вялікай працэсіяй, потым зашывалі і клалі ў знарок для таго прыгатаваны бліскучы залаты полаг, меўшы назву «махмал». Ён памяшчаўся на вярблюда ў пышнай збруі; а вярблюд упрыгожваўся living рознымі ракавінамі, пацеркамі, лісінымі хвастамі і шматлікімі іншымі рэчамі, якія вешаліся на яго галаву, шыю і нагі, «Кясва» ляжала пад гэтым полагам побач з Каранам, загорнутым у шаўковы кавалак матэрыі.

Выступленне каравана з гэтай сьвятыняй із Канстантынопаля здзяйснялася на працягу ўсяго XIX стагоддзя з адменнай урачыстасьцю. Яго выпраўленне служыла нагодай да вялікага народнага гуляння. Вось як апісвае гэтую рэлігійную працэсію адзін рускі сведка.

«*Сёння* (9 верасня 1863 года) – паведамляе ён – *у Стамбуле адбывалася вялікая рэлігійная ўрачыстасць, – выпраўленне так званага сьвятога каравана ў Меку. На чале гэтага каравана ідзе вялізны вярблюд, каштоўна прыбраны і цяжка наўючаны дарункамі султана труне прарока* (а на справе цалкам не яго труне, а аскепкам метэарыта). *Працэсія, маючы гэтага вярблюда на чале, выйшла із брамы Серая* (Серай-Бурну), *дзе прысутнічаў султан, усе прынцы яго роду і султаніхі, і накіравалася па галоўных вуліцах у накірунку да кірмашу, суправаджаемая ўшаноўваючымі ўсклíканнямі і дабраслаўленнямі прававерных, паміж якімі аднак было не мала і абыякавых гледачоў – гяураў. Яе суправаджалі да Скутары, акрамя багамольцаў, сьвятароў і аховы, ідучых аж да Мекі, яшчэ шматлікія афіцыйныя асобы, як вайсковыя, так і грамадзянскія і, звыш таго, выхаванцы дзяржаўных навучальных устаноў. Апошнія спявалі разам з імамамі адпавядаючыя выпадку гімны і вершы. Тут я ўпершыню пачуў мусульманскія духоўныя спевы. Усе спяваюць ва ўнісон і пры гэтым крыху ў нос, як і цалкам на Ўсходзе*».

І вось выяўляецца, што гэты звычай цалкам не такі старажытны, як можна было б падумаць. Упершыню падобная рэлігійная працэсія была наладжана ягіпецкім султанам толькі ў 1274 годзе, і толькі з таго часу магаметанскія валадары глядзяць на яе, як на свой адменны прывілей.

Канстантынопальскі караван ішоў са Скутары ў Дамаск пад кіраўніцтвам эмір-хаджы, у руках якога знаходзіўся сьвяты Сьцяг. Яго шэсьце суправаджалася эскадронам роўным 500 чалавек, які складалі ахову. У Дамаску гэты караван браў пад сваё заступніцтва іншыя менш значныя караваны, ідучыя ў Меку з іншых месцаў, і спускаўся ў даліну Маан, размешчаную на паўднёвы ўсход ад Мёртвага

мора, у вобласьці Пятрэйскай правінцыі. Да правядзення чыгункі із Дамаска ў Медыну, пабудаваную толькі напачатку XX стагоддзя, тут на шляху сустракалася даволі значная колькасць пілігрымскіх станцый. Ад Дамаска да Медыны іх налічвалася да 30 і амаль усе яны былі вартыя жалю. На кожнай існавалі асобныя месцы, куды багамольцы складалі розныя прыпасы для харчавання пры вяртанні назад.

Дамаскі паша ці адзін з яго афіцэраў заўсёды былі абавязаны суправаджаць караван да самой Мекі. Але галоўная абарона і вядзенне каравана даручаліся чатыром значным аравійскім плямёнам, за што яны і атрымлівалі ўзнагароду ад султана. Два племені, Хлад-Алі і Нуала, вялі караван да Мёдайн-Салех, меўшаму таксама назву Геджр. Два іншыя племені суправаджалі багамольцаў ад Мёдайн-Салех да Мекі.

Згодна са сведчаннем Аўрыля, выдаткі султана толькі для бяспекі шляху ацэньваліся роўнымі $2^1/_2$ мільёны піястраў, таму што шлях ад Дамаска да Мекі нярадасны. Акрамя блакітнага неба і пяскоў падарожнік тут амаль нічога не бачыў. Ён ішоў па камяністых раўнінах, і па горных адхонах, і па сыпучых пясках. Наваколл не было бачна ніякай расліннасьці. Усе яго думкі засяроджваліся адзіна на дасягненні наступнай станцыі, дзе ён спадзяваўся адпачыць у цені ад сонца, задаволіць сваю смагу свежай вадой і пацешыць свой позірк зелянінай. Але вялікім было яго расчараванне, калі пасьля стамляючага падарожжа пад гарачым сонцам у пустыні, ён на кожнай станцыі сустракаў амаль адны развалiны і не знаходзіў у дастатковай колькасці вады, прыдатнай да ўжывання. Той жа пясок, тыя ж камяні і тое ж гарачае сонца, што і ў адкрытай пустыні! Так падарожнік ішоў ад адной станцыі да другой, зведваючы на кожнай з іх поўнае расчараванне. Але яшчэ больш цяжкім і небяспечным яго падарожжа рабілася, калі ён адставаў ад каравана. Яго тады не ратавала ні султанская ўлада, ні набожная мэта падарожніка ад драпежніцтва бедуінаў, якія рабавалі і забівалі багамольцаў. Асаблівым драпежніцтвам вызначаліся арабскія плямёны Бэні-Гарб, Энэзе і некаторыя іншыя.

Але менавіта дзякуючы гэтаму падарожніка напаўняла моцнае рэлігійнае натхненне, калі ён пасьля доўгага і стамляючага шляху заўважаў удалечыні гару Ахoд, непадалёк ад якой знаходзіцца Медына. Пры выглядзе гэтай гары ўсе магаметане абавязаны адчуваць зубны боль, таму што тут падчас бітвы прароку былі выбіты два зубы, якія праз некалькі стагоддзяў былі знойдзены і зараз захоўваюцца ў Канстантынопалі.

Вось усё рэчаіснае што нам засталося ў якасьці доказу існавання на зямлі славутага аравійскага прарока! Два зубы ў Канстантынопалі! Як жа мы адважваемся сумнявацца!

Ангельскі падарожнік Буртан бачыў прыбыўшы ў Медыну ў 1854 годзе дамаскі караван, і вось як ён яго апісвае:

«*За адну ноч пад Медынай з'явіўся цэлы горад намётаў разнастайных формаў і фарбаў, пачынаючы ад пышнага павільёна пашы з пазалочаным паловумесяцам да сціплага прытулку тытунёвага гандляра з зялёнай занавескай. Гэтыя намёты былі выдатна ўпарадкаваны, утвараючы із сябе то доўгія алеі, то скучаныя асобныя згуртаванні. Але як апісаць тую ўзрушанасць, якая валадарыць у гэтым натоўпе і той разнастайны шум, які існуе тут? Вялічэзныя белыя сірыйскія драмадэры напаўняюць паветра сваімі званочкамі; высокія насілкі, якія яны маюць на сабе, вагаюцца над рухомай масай. Бедуіны выступаюць на сваіх вярблюдах. Далей бачны албанская кавалерыя, туркі і курды, якія ў сваёй дзікай весялосьці здаюцца азвярэлымі. Вандруючыя гандляры шарбетам крычаць пра свой тавар. Вясковыя аравійцы з вялікімі намаганнямі і*

*няспынным крыкам праводзяць свае статкі авечак і коз праз табуны коней, б'ючымі зямлю капытамі і іржучымі. Багамольцы прабіваюцца праз гэты натоўп, каб наведаць медынскі храм, пралазяць паміж ног вярблюдаў, і пры сваёй паспешнасьці пераблытваюць вяроўкі, падтрымліваючыя шатры. Хлапчукі пераследуюць персаў-шыітаў сваімі абразамі. Велічна выступаюць арабскія кіраўнікі, наперадзе якіх ідуць служкі, выконваючы вайсковыя скокі*».

Так выглядае агульная сумятня ў Медыне пасьля прыбыцця туды каравана багамольцаў. Памаліўшыся тутэйшым сьвятыням і крыху адпачыўшы, дамаскі караван, аб’яднаўшыся тут з прыбыўшым сюды марскім шляхам каірскім караванам такіх жа багамольцаў, працягваў далей свой шлях у Меку да аскепкаў метэарыта.

Паглядзім зараз, што рабілі іншыя караваны.

Магаметане паўночнай Афрыкі, г.азн. жыхары варварскіх уладанняў аб’ядноўваюцца ў вялікі караван у Каіры. Я ўжо паведамляў, што Каір са Стамбулам пагадова дзялілі паміж сабой гонар выпраўлення сьвятой посьцілкі для аскепкаў метэарыта. Рэлігійная працэсія і там і тут адна і тая ж, але каірскі караван грузіўся ў Суэцы на карабель і выпраўляўся морам, як больш зручным шляхам. Ён прыходзіў у мекскую гавань Джыдэ, а другі каірскі караван прыходзіў у Ямбу, медынскую гавань. Хаця марское падарожжа і лічыцца больш прыемным, чым сухапутнае, але мы моцна б памыліліся, калі б уявілі, што вандраванне багамольцаў на мясцовых караблях па Чырвонаму мору было такім жа зручным і бяспечным, як падарожжа на еўрапейскіх параходах. Вось як апісвае яго Буртон.

«*Суэц. Гарачая ліпеньская раніца. Мы стаялі на плоскім беразе, назіраючы за ленаватай пагрузкай нашага тавару. Вакол нерухома стаяў натоўп разяваў, гонар якіх не дазваляў ім нагнуцца і падняць тую ці іншую ўпаўшую рэч. Пілігрымы кідаліся да берага, як звар’яцелыя, родныя плакалі, сябры гучна рабілі наказы і развітваліся, лодачнікі гандляваліся ў коштах, крамнікі апантана патрабавалі вяртання пазык, жанчыны галасілі ці не змаўкаючы тараторылі, дзеці крычалі. На працягу двух гадзін мы знаходзіліся ў цэнтры пякельнага канцэрту. А лодачнікі змаглі яшчэ больш павялічыць гвалт, выдаліўшы свае лодкі на 20 кабельтаў ад берага, хітра спрыяючы намаганням насільшчыкаў браць з падарожнікаў удвая больш звычайнага. Турчанкі, пераносімыя ў лодкі, пранізліва вішчалі на руках у чорнаскурых носільшчыкаў, дзеці пішчалі, мужчыны таксама не адставалі, гучна сварыліся і спрачаліся. Ледзь адчаліўшы, кожны пачаў згадваць, што яму нехапае трубкі, дзіцяці, кавуна, словам нейкай рэчы першай патрэбы*».

На мясцовым караблі, на якім Буртан выправіўся із Суеца ў Ямбу, «*не было ні компаса, ні лота, не было нават мапы. Каюта была падобнай на скрынку, трум на індускія лодкі. Кучы куфраў і разнастайнага багажу напаўнялі карабель ад аднаго канца да другога. Падарожнікі размяшчаліся, як мухі на цукры*».

«*Першая спрэчка* – паведамляе Буртан – *была пачата некалькімі панурымі старымі-туркамі, якія рознымі спосабамі як з дапамогай лакцей, так і лаянкі, намагаліся аддзяліцца ад варварыйцаў. Варварыйцы не вымушалі сябе доўга чакаць і адказалі ім тым жа, так што праз некалькі хвілін усё змяшалася ў бязладна рухаючуюся масу людзей, цягаўшых адзін аднаго, біўшых наўздагад, куды патрапіць, драпаючых, кусаючых, перакульваючых адзін другога, і ўсё гэта суправаджалася лютымі, ашалелымі крыкамі. Адзін сірыец, які быў з намі на карме, меў неасьцярожнасць у запале патрыятызму кінуцца ў самую сярэдзіну на дапамогу сваім суайчыннікам. З вялікімі намаганнямі мы выцягнулі яго адтуль з аголенай галавой і глыбокай ранай ад нечыіх зубоў на назе. Пакліканы гаспадар карабля, Алі-Мурад, абмежаваўся тым, што «параіў паводзіць сябе прыгожанька*».

Далейшыя абставіны прымусілі нават самаго Буртона ўзяцца дзеля абароны за дубіну, а потым выліць вялікі гліняны жбан з вадой на нападаўшых на яго варварыйцаў. Але вось на ўсходнім баку гарызонта яскрава бліснуў на сонцы доўгі шэраг будынкаў бездакорнай белі. Гэта – Ямба, медынская гавань. Багамольцы высаджваюцца і накіроўваюцца адсюль у Медыну, часта зведваючы на шляху напады бедуінаў. Вось нарэшце ўдалечыні віднеецца чароўны далягляд: гай фруктовых садоў, атачаючых горад. Багамольцы сходзяць з вярблюдаў і гучна ўсклікаюць, паўтараючы свайму праводніку:

– «*О Божа! Тут храм твайго прарока! Ды пазбавіць ён нас ад вечных пакут, ад полымя пекла! Расчыні дзверы тваёй літасьці, каб мы маглі прайсьці ў зямлю радасьці*!».

Із Медыны (і зноў без асаблівай увагі да ўяўнай магілы Славутага прарока!) каірскі караван, аб'яднаўшыся з дамаскім, выпраўляецца ў Меку.

І ў той жа час калі гэтая частка афрыканскіх багамольцаў плыла па Чырвонаму мору, другая частка, пагарджаючы і лепшымі выгодамі марскога шляху і грунтуючыся на меркаваннях набожнасьці, жадаючы выпрабаваць значна больш небяспек, аддавала перавагу перад марскім падарожжам сухапутнаму. Караван ішоў праз Суэц, Акабу, а потым уздоўж усходняга берага Чырвонага мора. Яму ад самога Каіра да Мекі патрэбна праходзіць праз негасьцінныя мясцовасьці, пазбаўленыя якой бы то ні было раслíннасьці. Цяжкасьць падарожжа павялічвалася яшчэ тым, што дарога ўсюды праходзіць па гарыстых схілах. Караван, ішоўшы гэтым шляхам, наогул не заходзіў у Медыну да ўяўляемай труны свайго прарока, а ішоў прама ў Меку. Але наколькі больш вялікай была цяжкасьць і небяспека такога шляху, настолькі ж, калі не больш, была велікай і слава тых пілігрымаў, якія ішлі па ім. Цяжкімі былі дзьве толькі што апісаныя дарогі ў Меку, затое лёгкай і бяспечнай трэцяя, якая і зараз вядзе ў гэты горад із паўднёвай Аравіі, са сталіцы Йемена, Сана, праз Саад, дзе сходзяцца шляхі із розных месцаў паўднёва-усходняй Аравіі, і праз Таіф. Краіна тут вельмі здаровая і заселена даволі густа. Тут няма тых пустынь, якіх так шмат у астатняй Аравіі, тут шмат гарадоў і паселішчаў, у якіх заўсёды можна знайсьці добрую ваду. Караван, выходзячы із Сана, з'яўляецца афіцыйным караванам Йемена. Ён таксама, як і дамаскі караван мае сьвятога вярблюда, вязучага шмат розных падарункаў аскепкам метэарыта. Гэты караван часам бывае пад правадырствам самога імама Саны, і яго склад робіцца ўсё больш шматлікім па меры набліжэння да Мекі.

Чацьвёртая дарога, гэта тая, якая накіроўваецца да Мекі із Мешгед-Алі (Магільня Алі), праз Джэбель-Шамар і Медыну. Хаця шэйх Шамара і яго народ вызнаюць вахабізм, але яны далучаюцца да багамольцаў, не выяўляючы ні злосьці, ні пагарды да іх. Гэта тлумачыцца, па-першае, тым, што прыбыццё некаторай колькасьці багамольцаў у іхнную сталіцу, Хайль, абумаўлівае сабой тую ці іншую ступень росквіту іхнага гандлю, а, па-другое, і тым, што забеспячэнне багамольцаў ахоўваючым атрадам з'яўляецца адной із самых галоўных крыніц іхнага дабрабыту. Таму шэйх Шамара ўжывае ўсе свае намаганні для прыцягнення да сябе і таго пярсідзкага каравана, які ідзе із Эль-Хатыфа праз Неджэд.

Гэта ўжо пяты шлях, вядучы ў Меку. Падарожжа праз Шамару мае тую перавагу, што здзяйсняецца лягчэй, таму што шлях праз Неджэд спалучаны з вялізнымі выдаткамі. Пальгрэў вылічыў, што кожны перс за права ісьці праз Неджэд плаціў 150 таманаў. Гэтыя два шляхі – чыста пярсідзкія, але не патрэбна думаць, што тут адны толькі шыіты, як не патрэбна думаць, што і ў дамаскім

караване – адны толькі суніты. Караван, выйшаўшы із Дамаска ў 1851 годзе, складаўся із 2 000 падарожнікаў, із якіх 300 былі сунітамі і 1 700 шыітамі.

А жыхары ўсходняй Аравіі, прыбярэжных гарадоў Пярсідзкага заліва, Афганістана, Індыі, Індакітая і іншых месцаў прыязджаюць у Меку, праз марскую гавань гэтага сьвятога горада, Джыду.

Вось якімі, чытач, з’яўляюцца водгаласы метэарытнай катастрофы каля Мекі! Чаму ж яна не патрапіла ў ягіпецкія летапісы? Відавочна толькі таму, што іх тады і не існавала. Ад яе ў паданнях засталіся птушкі-абабілі са сваім каменнем, ды перанясенне пасада бога-Грамабоя із Вязувія на Сінай. І вось да гэтага часу падчас сьвятых мусульманскіх месяцаў з усіх бакоў ісламіцкага сьвету збіраецца ў Меку велізная колькасць багамольцаў. Паўсюдна у гэты час аравійская пустыня агалошваецца іхнымі малітоўнымі заклікамі. Караваны ўражваюць сваёй пярэстай разнастайнасьцю; тут мы бачым і шляхетных турак, і ерэтыкоў-персаў, і брудных татар, і дзікіх магрэбінаў, і чорных сыноў Афрыкі, і ганарлівых аравійцаў. Тут каля пышнага павільёна шляхетнага турэцкага пашы мы бачым дарожныя пажыткі беднага татарына, бачым праўдзівых фанатыкаў ісламу і яго шарлатанаў, якіх вабіць у Меку жаданне нажывы. Побач з імамамі, мы бачым тут і блазнаў, забаўляючых сваімі плоскімі жартамі набожную кампанію.

Адных вабіць у Меку рэлігійная мэта, іншых – цікаўнасць, але амаль кожны злучае са сваімі рэлігійнымі абавязкамі нейкую гандлёвую дзейнасць. Багамольцы вязуць з сабой ў Меку шмат разнастайных рэчаў, якія яны спадзяюцца выгадна прадаць іншым багамольцам. Магрэбіты прывозяць у Меку чырвоныя капелюшы і ваўняныя плашчы, туркі – чаравікі, туфлі, дробныя жалезныя тавары, вострыя прыправы і розныя еўрапейскія вырабы, шаўковыя капшукі, дываны, шалі і г.д. Персы вязуць кашміравыя шалікі, афганцы – зубныя шчоткі, жоўтыя ружаніцы і простыя шалікі свайго ўласнага вырабніцтва. Індыйцы прывозяць у вялізнай колькасці вырабы сваёй краіны, еменцы – свае музычныя прылады, серпенты – сандалі і розныя скураныя вырабы. Да гэтага перыстага складу каравана патрэбна дадаць і велізную колькасць нявольнікаў, належачых заможным асобам каравана, і ахоўваючы атрад, паказваючы шлях і замыкаючы шэсьце. Наперадзе ўсіх едзе правадыр каравана, эмір-хаджы, са сьцягам у руках; ён чыніць суд і расправу ў караване, паказвае яму дарогу, абвяшчае пра час і месца прыпынку. Так караван ідзе да сьвятой вобласьці Мекі.

Уваход у гэтую сьвятую вобласць быў да апошняга часу забаронены пад пагрозай пакарання сьмерцю ўсім не магаметанам, і таму кожны із заходне-еўрапейскіх падарожнікаў выдаваў сябе за магаметаніна і строга выконваў усе рэлігійныя звычаі, наданыя ісламам. Калі б усе гэтыя падарожнікі, пачынаючы ад італьянца Бартэмы, не карысталіся падманам, то яны былі б разарваны на кавалкі фанатычным натоўпам, і навуковы еўрапейскі сьвет не меў бы апісанняў Бартэмы, Зеетцэна, Алі-Бея (гішпанца Бадыя), Буркхарта, Буртона і іншых, пазнаёміўшых нас з Мекай і Медынай XIX стагоддзя. Мяжой сьвятой вобласьці на поўначы, па медынскаму шляху, служыла мястэчка Дзу-ль-Хуляйфа, адстаячае ад Медыны на 6 міль, а ад Мекі на 10 станцый. На паўночным усходзе забароненая вобласць пачыналася ад Дзатуль-гыркі, адстаячай ад Мекі на 2 станцыі. Па сірыйскаму шляху служыла заставай разбураная вёска Джухфя, адстаячая ад Мекі на 5 ці 6 станцый. На ўсходзе, па неджэдскаму шляху – гара Каран і нарэшце на поўдні па еменскаму шляху – Яламла, адстаячая ад Мекі на 2 станцыі. Тут у блізкай

наяўнасьці ісламіцкай сьвятыні, на мяжы сьвятой вобласьці, кожны прававерны павінен і зараз прысвячаць сябе богу.

Вось маляўнічае апісанне далейшага шэсьця да аскепкаў метэарытнай катастрофы, зробленае Буртанам:

«*Восьмага верасня паміж паўдзённымі і вечаровымі малітвамі мы перамянілі наша дарожнае адзенне на адзенне пілігрымаў. Цырульнік агаліў нам галовы, абрэзаў пазногці і падстрыг вусы. Пакупаўшыся і напарфумаваўшыся, мы абгарнуліся двума новымі баваўнянымі кавалкамі матэрыі, кожны каля двух метраў даўжыні і 96 сантыметраў шырыні, белай з чырвонымі махрамі і вузкімі палоскамі. Адзін із кавалкаў накідаецца на спіну і не пакрывае толькі правае плячо і правую руку; другі завязваецца вузлом пасярэдзіне, сціскае бакі і такім чынам вісіць ад пояса да кален. Нашы галовы былі непакрыты і нічога нельга было прывязваць да пад'ёму нагі. Потым шэйк Абдула, кіраўнік нашага сумлення, параіў нам паводзіць сябе, як належыць пілігрымам, пазбягаць сварак, непрыстойных размоваў і амаральнасьці. Мы не павінны былі страляць у трапляючуюся дзічыну, і нават не палохаць жывёл, не часаць у сябе на галаве нагцямі, а толькі адкрытай далонню, каб не зьнішчыць у валасах ніводнай казуркі і не выдраць ніводнага воласа. Мы не павінны былі дакранацца да дрэва ці рваць траву. Масла, духі, памада, усё нам было забаронена. За кожнае парушэнне правілаў патрэбна было прыносіць ў ахвяру ягня*.

*Прамяні сонца моцна паляць у пяшчанай аравійскай пустыні паголеныя галовы прававерных, у роце і горле ўсё перасыхае; падарожнікі пакутуюць ад моцнай смагі, здольнасць рухацца пакідае іх. І шмат што з іх знямогла валіцца на зямлю і робяцца ахвярай сьмерці. Настае ноч, і відовішча перамяняецца. Напалову голыя багамольцы сударажна дрыжаць ад холаду, пустыня напаўняецца раздзіраючым душу скрыгатаннем зубоў. Дарэмна людзі бегаюць навыперадкі, холад праймае іх, як гаворыцца, да костак. Яшчэ ў больш горшым становішчы бываюць усе, калі час здзяйснення хаджу прыпадае на зіму. У караванах тады з'яўляюцца самыя разнастайныя хваробы, часта маючыя наступствам сьмерць*».

Так паведамляе Буртан у палове XIX стагоддзя пра шлях у Меку. Ён не знайшоў тут ніводнай бібліятэкі, ніводнага ўніверсітэта!.. – Дык дзе ж вучыліся знакамітыя арабскія пісьменнікі?

Магчыма мы знойдзем для іх універсітэт у самой Мецы? Прачытаем і далей паведамленні Буртана.

# Глава VI.

## Звычаі прававерных каля аскепкаў метэарытнай катастрофы.

Багамольцы ўсё бліжэй і бліжэй падыходзяць да Горада Нябеснага Знака, але ўсё яшчэ не бачаць яго, таму што ён знаходзіцца ў даліне, аточанай пустэльнымі скаламі, не маючымі ніякага велічнага выгляду. Яны, як і мекская даліна, пазбаўлены якой бы то ні было расліннасьці. Усё знаходзіцца ў такой супярэчнасьці з пышнымі апісаннямі нашых арабскіх першакрыніц па біяграфіі Магамета, што гэтыя «першакрыніцы» можна было б дзякуючы адной такой неадпаведнасьці прызнаць падробленымі, зробленымі чалавекам ніколі не бываўшым у Мецы.

Так! Толькі чалавек ніколі не ступаўшы нагой у Аравію, мог апісаць Меку і Медыну так, як апісалі іх, быццам бы, магаметане, якім доступ у Меку, быў заўсёды адкрыты!

Вось, напрыклад, знакаміты Ібн-Батута. Усхваляючы хараство Мекі, ён выказваецца, што «еў тут у багацці розныя плады: вінаград, дулі, персікі і фінікі, падобных якім няма ў цэлым сьвеце». Як гэта патлумачыць іншым чынам, як толькі тым, што аўтар ніколі там не бываў і ўсё яго падарожжа – еўрапейская прыдумка? Тут, каля Мекі, няма не толькі ніводнай рэчкі ці азярца, але няма нават і раўчука. Жыхары жывуць толькі дзякуючы прынашэнням пілігрымаў. Яны бяруць для сябе ваду із вадавода, які праведзены із гары Арафат, на адлегласьці сямі гадзін шляху. Сам горад, маючы высакапарныя найменні «маці гарадоў», «галоўны горад», «краіна верных», і аточаны згодна з паведамленнямі старажытных аўтараў трыма сьценамі, на самай справе адкрыты з усіх бакоў. Акрамя палацаў шэрыфа, некалькіх вартых жалю медрэсэ (вучэльняў граматы) і Каабы, у Мецы не існуе значных грамадзкіх будынкаў, якімі напоўнены ўсе вялікія гарады. Вуліцы Мекі больш шырокія, чым вуліцы іншых усходніх гарадоў, але пад час дажджлівага перыяду яны бываюць цалкам непраходнымі ад бруду. Іхная забруджанасць у значнай ступені павялічваецца яшчэ і тым, што тутэйшыя домаўласнікі, не маючыя ў сябе памыйных ям, выкідаюць звычайна смецце, памыі і ўсе непатрэбныя рэчы прама на вуліцу.

«*Лёгка сабе ўявіць* – сведчыць адзін падарожнік XIX стагоддзя – *становішча пешахода безмесяцовай ноччу ў Мецы, не маючай на сваіх вуліцах ліхтароў*». Тутэйшыя сядзібы ўсе пабудаваны із шэрага каменя, які маецца ў даволі вялікай колькасьці ў суседніх гарах. Гаспадары прыкладаюць асаблівыя намаганні наколькі магчыма больш вытанчана ўпрыгожыць толькі іхныя вокны, якія павінны прыцягваць пастаяльцаў. Яны абаронены крацістымі трысняговымі аканіцамі ад мух і камароў.

Сядзібы так моцна награюцца ад сонечнага жару, што замежнікам цалкам немагчыма ў іх жыць. Так, напрыклад, Буртан быў вымушаны пасяліцца ў склепе.

«*Там* – паведамляе ён – *я хаваўся ўвесь час пасьля другога сьнядання. Я абліваў яго сьцены вадой і ляжаў цэлымі гадзінамі, распластаўшыся на цыноўцы*».

Вялікая частка сядзіб мае тэрасы, якія звычайна аточаны пярыламі, але наогул патрэбна заўважыць, што Мека можа здацца прыгожым горадам толькі таму, хто не бачыў гарадоў з прамымі завулкамі. Жыхароў Мекі Буркхарт налічыў не больш 25 ці 30 тысяч чалавек, у тым ліку 3 000 рабоў.

Большая частка багамольцаў праходзіць праз галоўную браму ў горад, і перад ёй застаецца толькі некалькі асоб жаночай статі. Гэта тыя, якія падчас свайго падарожжа не паспелі ўвайсьці ў канкубінат, таму што ніводная неадружаная жанчына не мае права здзяйсняць хадж. Неадружаныя павінны чакаць каля гарадзкой брамы да таго часу, пакуль нехта із мясцовых жыхароў не пагадзіцца часова ўзяць да сябе ў якасьці сваей жонкі. За падобную паслугу жанчына ім звычайна плаціць вызначаную суму грошай, і яе часовы чалавек мае ўсе правы законнага чалавека. І вось у Мецы існуе цэлы стан мужчын, адзіным заняткам якіх з'яўляецца адружвацца з нейкай прыбываючай да горада дзяўчынай ці ўдавой, што дае ім добры заробак. У апошні час гарадзкія ўлады, «каб пазбегнуць злоўжыванняў», абвясьцілі, што кожнае падобнае адружанне, каб быць законным, мае патрэбу ў іхнай згодзе, за што ўсе «кандыдаткі ў жонкі» павінны плаціць асобны падатак. Заканчэнне гэтых мімалётных паломніцкіх адружанняў супадае са сьвятам «курбан-байрам».



Мал. 98.
Унутраны двор Мекскага храма ў XX стагоддзі падчас збірання пілігрымаў. Пасярэдзіне кубічная каменная пабудова, накрытая чорным чахлом і адпавядаючая біблейскай «скініі» (г.азн. намёту) запавету з яе скрыжалямі запаветаў. У яе куце ўмайстраваны і яны зацэментаваныя аскепкі камяністага метэарыта.

«*Такія імправізаваныя адружанні*, – паведамляе Асман бей, – *часта былі нагодай да дзіўных прыгод. Так, напрыклад, бывалі выпадкі, калі чалавекі, даведаўшыся, што іхныя часовыя жонкі заможныя, не выпускалі іх із рук, не заручыўшыся прыстойным выкупам. Пад час разводу спрытны мусульманін абвяшчаў, што ён згодны на развод, але толькі з умовай – атрымаць ад сваёй жонкі такую-та суму грошай, і няшчаснай не заставалася іншага выйсьця, як пагадзіцца на падобную ўмову, інакш яе чалавек меў законнае права не даваць ёй развод. У караванах, рухаючыхся ў Меку, сустракаецца*, – кажуць, – *і да гэтага часу шмат спрытных мужчын, робячых свае справы за кошт жанчын. Жанчыны ведаюць гэта, аднак калі-нікалі трапляюцца ім у лапы, таму што «гэтага патрабуе закон Магамета*».

Але вось, усе неадружаныя жанчыны, так ці інакш, прыладзіліся да мекскіх кавалераў. Багамольцы, зайшоўшы ў Меку, накіроўваюцца да Каабы. І тут зноў мы бачым доказы фантастычнасьці нашых «першакрыніц жыцця Магамета». Вось што, напрыклад, паведамляе той жа Ібн-Батута:

«*Кааба – такой дзіўнай формы, і выгляд яе такі прыгожы, што язык дарэмна спрабуе апісаць яе дзівы, і ніякае апісанне не ў стане даць уяўленне пра яе хараство*».

А як жа мала гэта адпавядае рэчаіснасьці, пакажа наша далейшае выкладанне.

Як толькі вы заходзіце ў двор мекскай мячэці, як перад вашымі вачамі паўстае пабудова кубічнай формы, пакрытая чорнай шаўковай матэрыяй. Гэта і ёсць агаранская скінія запавету – Кааба. Згодна з вымярэннямі Буркхарта, яе даўжыня тады была 18 крокаў, шырыня 14, а вышыня ад 35 да 40 футаў. Плоскі дах і чорная накрыўка надаюць ёй выгляд куба (адсюль і яе назва Кааба).

Гэтая пабудова не мела ў сабе нават і ў XIX стагоддзі ніякіх сьлядоў мастацтва. Яна была змайстравана із вялікіх аскепкаў мекскага шэрага каменя, рознай велічыні, злучаных паміж сабой «дрэнным вапнавым растворам».

А Ібн-Батута паведамляе пра яе зноў жа няправільна:

«*Кааба пабудавана із вельмі цьвёрдых камянёў, злучаных паміж сабой вельмі дзіўным чынам, вельмі вытанчана і вельмі трывала, так што час не змяняе іх, і стагоддзі не пакідаюць ніякага сьледу*», і... цалкам замоўчвае пра яе шматразовыя разбурэнні.

У Каабу вядуць адзіныя дзьверы, знаходзячыяся на паўночным боку. Яны вышэй зямлі на 7 футаў, і таму для праходу праз іх неабходна падняцца па ўсходах, якія прыстаўляюцца толькі два ці тры разу на год. І дзверы і ўсходы Каабы (дасланыя із Канстантынопаля толькі ў 1633 годзе), аздоблены лістамі срэбра і ўпрыгожаны золатам. Палавінкі дзьвярэй былі забяспечаны срэбнымі лямпамі з пазалочанымі ўпрыгожваннямі і шматлікімі вісячымі замкамі. На парозе Каабы кожны вечар ставіліся невялікія запаленыя васкавыя свечкі і курыльніцы з мускусам, алоем і іншымі пахучымі рэчывамі. Багамольцы, падчас наведвання, збіралі свечкавыя недагаркі, попел ад курыльніц і пыл з парога і націралі сабе імі ілбы ці захоўвалі ў якасьці сьвятыні.

Даволі цікавай з’яўляецца цырымонія, якой суправаджалася адкрыццё дзьвярэй Каабы. Да дзвярэй падкочвалі ўсходы, меўшыя два колы.

«*Па гэтых усходах урачыста паднімаецца,* – паведамляе Ібн-Батута, – *кіраўнік Бэну-Хайба, трымаючы ў руцэ ключ. Яго суправаджаюць брамнікі, прыўзнімаючыя покрыва засланяючае дзьверы і маючае назву аль-барка* (заслонка). *Потым кіраўнік адчыняе дзьверы, цалуе ўслаўлены парог і заходзіць адзін у свяцілішча, зачыняючы за сабой дзьверы. Ён застаецца там некаторы час адзін, здзяйсняючы малітву, пасьля чаго заходзяць іншыя хайбіты, таксама зачыняючы за сабой дзьверы. Яны здзяйсняюць там малітвы і каленаапусканні напераменку. Пасьля гэтага ўжо адчыняюцца дзьверы, і народ таксама спяшаецца зайсьці*».

«*У Каабе,* – сведчыць Буртан, – *невыцерпна горача. Пот ліў із мяне градам, і я з жахам пытаў сябе, як бывае тут, калі ўвесь двор напоўнены фанатыкамі, у іхнай таўханіне і цісканіне*!».

Пасьля заканчэння тут малітвы, пілігрымы павінны больш-менш шчодра заплаціць за задавальненне.

Знадворку Кааба – як я ўжо паведамляў – пакрыта чорнай шаўковай матэрыяй, упрыгожанай на канцы залатымі махрамі. Трохі вышэй сярэдзіны гэтае пакрывала ўпрыгожана поясам, маючым назву Эль-хазем, на якім залатымі ніткамі вышыты магаметанскі знак веры. Тая частка кясвы, якая засланяе дзьверы, бывае прыгожа прыбрана срэбрам. У гэтай накрыўцы існуе адтуліна для аскепкаў мекскага метэарыта, якія амаль заўсёды застаюцца адкрытым для пацалункаў пілігрымаў.

«*Кясва* – паведамляе Ібн-Батута – *блішчыць сьвятлом і непараўнальным бляскам і пакрывае Каабу зверху да нізу*».

Дзякуючы таму што яна не шчыльна прылягае да Каабы, то пры наяўнасьці ветру яна калышацца і гэта лічыцца прыкметай прысутнасьці 70 тысяч анёлаў, крылы якіх вырабляюць такія ваганні, вітаемых з боку набожных багамольцаў малітвамі: анёлы, пільнуючыя Каабу, перанясуць яе ў рай, калі загучыць труба жахлівага суда. У наш час старая кясва здымаецца на 15-ы дзень месяца Дзгуль-Кагда, і на працягу двух тыдняў Кааба застаецца непакрытай. А на 10-ы дзень месяца Дгуль-Хаджу, г.азн. у дзень Арафа, пакрываецца новая кясва, старая ж, згодна са сведчаннем Крычтаана, перадаецца шэрыфу, які разразае яе на часткі і прадае па пяць франкаў за локаць.

Дзякуючы таму што дах Каабы цалкам плоскі, то для сьцёку з яго вады на заходнім боку зроблены знакаміты жолаб, ці мізаб. На яго заканчэнні прывешана так званая барада мізаба – вызалачаная дошчачка, па якой вада сьцякае на зямлю на

памост са шматкаляровай мазаікі, дзе згодна з паданнем, знаходзіцца магільня патрыярха Ізмаіла і яго маці Агары. Магіла першага пазначана зялёнай мармуровай дошкай. Каля яе, у іракскім куце, ляжыць другая таксама зялёная пліта, але круглая, дзе быццам бы спачывае Агар, якая ў магаметанаў мае назву Хэджар.

Але асаблівай павагай ва ўсіх карыстаюцца зацэментаваныя метэарытныя аскепкі – Чорны камень, Хаджуруль-асвад, з'яўляючыся цэнтрам усіх мекскіх сьвятыняў і ўсіх пілігрімстваў.

Ён зацэментаваны ў паўночна-усходнім куце Каабы недалёка ад яе дзьвярэй, на адлегласьці 4 ці 5 футаў ад зямлі, ці, згодна з Ібн-Батутай, на адллегласьці 6 пядзяў ад зямлі, «так што чалавек высокага росту павінен нагнуцца, каб пацалаваць яго, а нізкага росту павінен выцягнуць шыю для гэтай мэты». Ён мае выгляд няправільнага авала каля 7 цаляў у папярочніку і замацаваны даволі трывала, толькі, на жаль, невядома, наколькі глыбока ён замураваны ў сьцяну (мал. 99).





Мал. 99 (паўтор малюнка 88 на старонцы 481).
«Камень, кінуты богам з неба», самая вялікая сьвятыня сучасных магаметанаў і сярэдневечных агаранаў. «У наш час тут бачны пятнаццаць метэарытных аскепкаў, розных па форме і велічыні, але добра злучаных разам вапнавым цэментам і цалкам гладкіх (адшліфаваных незлічонымі пацалункамі вернікаў). Іхны, колер, – сведчыць Крычтан, – кававы, блізкі да чорнага, і ўсе гэтыя аскепкі аточаны рамкай, маючай у таўшчыню ад 2 да 3 цаляў. Рамка таксама чорнага колеру і ўяўляе сабой род цэменту, складаючагася са смалы і пяску. Метэарыт, якому належаць гэтыя аскепкі, быў із разраду камяністых. Яны падобны на лаву, змяшчаючую ў сабе часьцінкі бялёсага і жаўтлявага рэчыва» стар. 522). Ён умайстраваны ў паўночна-усходнім куце кубічнай пабудовы, надзвычай нагадваючай біблейскую «скінію запавету», дзе захоўваліся каменныя скрыжалі, дадзеныя богам з неба Майсею, вандраваўшага згодна з біблейскім паданнем якраз у гэтых месцах і зніклую потым з багаслоўскага далягляду без следу.

Адносна таго, чаму ён разламаўся на кавалкі, створана, вядома, не малая колькасць тлумачэнняў для задавальнення пілігрымаў.

Пры пажары ў Мецы, – кажуць нам адны, – пад час валадарання мяцежнага Яўзіда І, полымя раскалола нябесны камень на тры часткі. Неўзабаве пасьля гэтага ён быў злеплены і абцягнуты срэбным абручом, які быццам бы быў адноўлены і павялічаны Гарун-аль-Рашыдам. Другія паведамляюць, што падчас нашэсьця ерэтыкоў-карматаў, калі нябесны камень быў знесены із Мекі ў Хэджар, ён быў пабіты адным кармацкім жаўнерам яшчэ да таго, як у 950 годзе быў вернуты ў Меку. А трэцція сцвярджаюць, што каля 1020 года звар'яцелы ягіпецкі султан Хакем, прэтэндаваўшы на боскія ўшанаванні (а згодна з іншымі паведамленнямі, адзін падасланы ім чалавек), пад час здзяйснення звычаяў хаджу, тры разу стукнуў па ім жалезнай дубінай, схаванай да патрэбнага часу пад вопраткай, за што ўвесь ягіпецкі караван быў збіты і абрабаваны. Ад гэтых udараў адламаліся яшчэ тры кавалкі велічынёй з ногаць чалавека, якія былі расьцёрты ў парашок, якім, з дапамогай вапнавага раствору, замазалі шчарбіны. А з таго часу чорны камень заставаўся недатыкальным да 1674 года, калі пад час адной раніцы ён, разам з дзвярамі Каабы, выявіўся выпацканым чалавечым калам, так што кожны, хто цалаваў яго, вяртаўся назад з запэцканымі вуснамі. Былі западозраны персіяне, але сапраўдныя выканаўцы гэтай насмешкі не былі знойдзены. У наш час тут бачна 15 метэарытных аскепкаў, розных па форме і велічыні, але добра злучаных разам вапнавым цэментам і цалкам гладкіх. Іхны колер, – сведчыць Крычтан, – кававы, блізкі да чорнага, і ўсе гэтыя адломкі размешчаны ў рамцы, маючай таўшчыню ад 2 да 3 цаляў. Гэтая рамка таксама чорнага колеру і ўяўляе сабой род цэменту, які складаецца са смалы і пяску. Метэарыт, якому належалі гэтыя аскепкі, быў із разраду камяністых. Яны падобныя на лаву, змяшчаючай у сабе часцінкі бялёсага і жаўтлявага рэчыва.

«*Я,* – сведчыць Буртан, – *уважліва разгледзеў увесь камень, руплiва цалуючы яго і абмацваючы рукамі і ілбом, і знайшоў, што ён быў не чым іншым, як аэраліт*».

І гэта цалкам адпавядае паданню, што ён быў кінуты арханёлам Гаўрыілам.

Павага да яго дзіўная.

Яшчэ не даходзячы да яго, пілігрым працягвае да яго рукі, цалуе паветра і мармыча малітву. Ён прабіраецца праз густы натоўп сваіх аднаверцаў і лічыць сябе шчасьлівым, калі зможа дакрануцца да каменя правай рукой, а тым больш пацалаваць яго.

«*Гэта,* – сведчыць Вамберы, – *самая асноўная мэта ўсіх намаганняў пілігрымаў*».

Характэрнымі з’яўляюцца ў дадзеным выпадку і (апакрыфічныя) словы Ібн-Батуты:

«*Позіркі,* – выказваецца ён, – *бачаць у ім незвычайнае хараство, як у маладой; пры цалаванні адчуваецца задавальненне, якім цешацца вусны, і той, хто цалуе яго, жадае не перастаючы цалаваць яго зноў і зноў. Дастаткова згадаць словы прарока на гэты выпадак: сапраўды, ён з’яўляецца правай рукой бога на зямлі*».

І толькі Эль-Азракі паведамляе сведчанне некаторых быццам бы чуўшых халіфа Амара-Ібн-эль-Хітаба, вымаўленыя перад чорным каменем:

– «*Я ведаю, што ты – просты камень, які не можа ні пашкодзіць, ні дапамагчы мне. І я не стаў бы цалаваць цябе, калі б не бачыў, як гэта рабіў Магамет*».

«Вакол Каабы із мармуровых камянёў пабудаваны рознакаляровы памост, размешчаны на 8 цаляў ніжэй узроўню двара. Гэтая прастора, ўтвараючая

няправільнае кола, аточана 32 пазалочанымі калонамі, ці слупамі, кожны каля $7^{1}/_{2}$ футаў вышыні. Паміж кожнымі двума слупамі вешалася па сямі дрэнных шкляных лямпаў зялёнага колеру, якія запальваліся штоpазова пры захадзе Сонца, але іхнае сьвятло было вельмі слабым. На самім шырокім памосьце, у двары Каабы, знаходзіцца пяць «макамаў» (месцаў). Самай вялікай павагай з іх карыстаецца «макам Ібрагім», што азначае: месца Абрама (Бацькі Рыма). Яно знаходзіцца насупраць паўночна-заходняга кута Каабы, каля брамы Бабуль-Салям і ўяўляе сабой даволі вытанчаны павільён, падтрымліваемы шасьцю слупамі роўнымі 6 ці 7 футаў вышыні кожны. Чатыры з іх зверху да нізу аточаны добрай жалезнай рашоткай, за якой бачны футляр пірамідападобнай формы, змяшчаючы пад сабой значны камень. На гэты камень – запэўніваюць нас – некалі станавіўся Бацька-Рыма (Аб-рам), калі будаваў Каабу, і вернікі сцвярджаюць, што ён захаваў сьляды ног патрыярха, хаця ніводзін багамолец не бачыў гэтага, таму што футляр, пад якім ён ляжыць, заўсёды пакрыты чырвонай шаўковай матэрыяй.

Астатнія чатыры «макамы» сімвалізуюць чатыры артадаксальныя магаметанскія секты: хапіфітаў, ханбелітаў, шафеітаў і малекпітаў. Із іх Макам-эль-Шафеі складае верхні паверх таго будынка, у якім знаходзіцца студня Зям-Зям, але ўсе гэтыя макамы пабудаваны толькі ў XVII стагоддзі нашай эры.

Сюды прыходзяць у вялікай колькасьці багамольцы і п'юць ваду, прасоўваючы свае рукі з кубкамі праз жалезныя краты, прыстасаваныя ў вакне. Наглядальнік студні, маючы даволі значны ўплыў у Мецы, носіць дзіўны тытул «атрутнік», хаця вада студні Зям-Зям і лічыцца гаючым сродкам ад усіх хвароб.

«*Адна яе кропля, пакладзеная на язык паміраючага, пазбаўляе яго ад чысьцільні; адна кропля яе зберагае жаночую прыгажосць і знішчае бясплоднасць*».

У мекскай мячэці існуе яшчэ адно выдатнае месца.

Каля паўночнага боку Каабы, паблізу яе дзвярэй, знаходзіцца паглыбленне ў зямлі, у якім могуць вольна размясьціцца тры чалавекі. Гэтае месца мае назву «макам Джыбраіл» (месца Гаўрыіла), таму што арханёл абвясьціў тут Магамету загад наладзіць пяць штодзённых малітваў і сам здзяйсняў іх тут з прарокам, а на справе гэта і павінна быць адна із выбаін метэарыта, другі аскепак якога магчыма стварыў і студню Зям-Зям.

Усе гэтыя пабудовы на чале з Каабай аточаны даволі вялікім дваром, утвараючым сабой паралелаграм. Яго сьцены так блізка прылягаюць да атачаючых мекскіх сядзіб, што ў некаторых вокны накіраваны прама ў двор і іхныя ўласнікі здаюць іх у найм заможным пілігрымам за вялікія грошы. За больш-менш прыстойнае памяшканне з вокнамі выходзячымі ў двор мячэці, плацілася ў XIX стагоддзі пад час хаджу больш 500 піястраў.

«*Уздоўж сьцен у мячэці пабудавана даволі добрая каланада. Усіх слупоў тут больш 500, і яны маюць па 20 футаў вышыні і ад 11/2 да 13/4 футаў у дыяметры. Пабудаваны яны зноў жа толькі ў 1626 годзе. У некаторых месцах і сьцены, і калоны размаляваны жоўтай, сіняй і чырвонай фарбай, якія больш ўсяго шануюць магаметане. Калоны злучаны паміж сабой аракамі і аркі наверсе забяспечаны купаламі. Пасярэдзіне арак на пазалочаных ланцугах падвешана шмат лямпаў і некаторыя з іх запальваюцца кожную ноч*».

Ці ёсць тут нейкія ўказанні на тое, калі адбылося падзенне метэарыта, што дало пачатак мекскаму храму?

Адкінуўшы міфы, мы прыходзім да высновы, што «Эра збягання» (Геджра) мусульманаў і пачынаецца са збягання пры гэтай катастрофе. З такой здагадкай пагадняюцца і гістарычныя паданні.

Існаваўшы тут першапачатковы храм быў – паведамляюць нам – цалкам разбураны (ударам?). Патрэбна было знішчыць усе яго парэшткі, каб пабудаваць новы. Абдала (г.азн. служка божы) прапанаваў зрабіць гэта меканцам, але забабонны жах не дазволіў ім прыняць прапанову. Вельмі напалоханыя жыхары Мекі амаль усе пагалоўна выдаліліся ў даліну Міна і жылі там на працягу трох дзён, а потым прыйшлі дапамагаць Служцы бога (Абдале), Кааба была пабудавана з небывалай пышнасьцю. Горад Сана забяспечыў яе вапнай, гіпсам, мазаікамі, якія некалі былі прынесены туды абісінцамі, і мармуровымі калонамі; дзьверы былі абкладзены залатымі пласьцінкамі; ваўнянае пакрывала было заменена шаўковым, насычаным каштоўнымі водарамі. Пры гэтай перабудове, закончанай у 66 годзе Геджры (у 685 г.) ахвярнік метэарыта і атрымаў назву Кааба.

Да заканчэння першага стагоддзя пасьля агульнага збягання ад метэарытнага ўзрушэння (Геджры па-аравійску) спачатку была наладжана у мекскай мячэці каланада Валідам Ібн-Абдуль-Малекам, пілястры якой былі шмат дзе ўпрыгожаны залатымі пласьцінкамі прывезенымі, кажуць, із гішпанскага горада Таледа. А вось шчодры Гарун-аль-Рашыд, да вялікага здзіўлення ісламіцкіх гісторыкаў, нічога не зрабіў значнага для ўпрыгожвання Каабы, ды і цалкам пад час больш праўдзівага гістарычнага перыяда, пачынаючы з паловы X стагоддзя, г.азн. з часу вызвалення Мекі із пад улады карматаў, амаль да паловы XV стагоддзі, пра мекскі храм няма ніякіх паведамленняў.

Такім чынам, і ўсё, што я зараз паведаміў пра пабудову мекскага храма, робіцца падобным на міф, асабліва дзякуючы такой акалічнасьці. У другой палове XVII стагоддзя (у 1626 годзе) – кажуць нам – горад Мека разам з Каабай быў моцна пашкоджаны вялікай паводкай. Дажджавая плынь із Джэбель-Нура была такой значнай, што хутка затапіла увесь горад. Вада лінула ў мячэць. Амаль усе людзі, якія былі тут, патанулі. Выдатныя асобнікі Карана і іншыя каштоўнасьці, якія былі ў мячэці і ў атачаючых яе сядзібах, былі знішчаны; частка сьцяны Хэджара і тры сьцяны Каабы былі перакулены; у горадзе патанула да 500 чалавек. Але гэтае бедства было нагодай новай капітальнай перабудовы Каабы ў наступным 1627 годзе. Напачатку гэтага стагоддзя Кааба яшчэ раз значна пацярпела падчас аблогі Мекі вахабітамі, але вахабіты былі хутка прагнаны і восенню 1816 гада ў Меку прыбыла дастаткова значная колькасць мастакоў і працоўных, дасланых із Канстантынопаля. Гэта была ўжо апошняя перабудова. Такім чынам мы бачым, як палітычныя і рэлігійныя падзеі магаметанскага сьвету адклікаліся на лёсе Каабы. Але нягледзячы на ўсё, яна, згодна з перакананнем ісламітаў, з’яўляецца самай старажытнай пабудовай у цэлым сьвеце, існаванне якой спыніцца толькі перад заканчэннем сьвету. Тады, – запэўніваюць нас, – прыдуць эфіёпы, якія завалодаюць Аравіяй і разбураць Каабу, пасьля чаго яна ўжо ніколі не будзе адноўлена, «як паведамляе Аль-Джанабі». Згодна з іншым жа паданнем, Кааба перад заканчэннем сьвету будзе перасена анёламі на неба.

«*Адно з дзіваў гэтай мячэці*, – паведамляе нам Ібн-Батута, – *складаецца ў тым, што яна можа памясьціць у сябе такую колькасць народу, якую можа пералічыць толькі адзін бог. Гэта тлумачыцца тым, што анёлы таемна павялічваюць аб'ём пабудовы і памяншаюць велічыню кожнай молячайся асобы. Другі цудоўны бок той, што тут у кожны час дня і ночы здзяйсняюцца нечыя нябачныя абыходы вакол Каабы, што галубы, якіх тут шмат, не лётаюць над самой Каабай і ніводная птушка не садзіцца на яе, калі не хворая. Тады, сеўшы, яна ці адразу памірае, ці здаравее*».

Але ўсё ж мекская мячэць толькі падчас малітвы лічыцца сьвятым месцам, а ў іншыя часы яна губляе рэлігійны характар і ў ёй здзяйсняюцца разнастайныя

пабытовыя справы. У розных яе месцах знаходзяцца школы, у якіх увесь час можна бачыць, як палка настаўніка гуляе па спінах неразумеючых урок ці гарэзлівых вучняў. Тут сустракаюцца адзін з адным шмат гандлёвых людзей і жабракоў. Хворых, якія чакаюць ці цудоўнага вылячэння ад блізкай наяўнасьці сьвятыні, ці сьмерці, тут так шмат, што двор мае падабенства са шпіталем. Тут, у каланадзе, можна пабачыць і кухмайстраў, і разнастайных дробных гандляроў, і цырульнікаў. Сюды часта прыходзяць мекскія жыхары адпачыць пад халаднаватым ценем. Тут некаторыя із бедных пілігрымаў праводзяць увесь свой час, і ядуць тут, і спяць. Тут жа прасушваюцца просьціны і разнастайная бялізна, вымытая ў вадзе Зям-Зяма. Яна ахвотна раскупляецца хаджамі, якія вераць, што калі іхнае целы пасьля сьмерці будзе абгорнута ці апранута ў нешта такое, што было вымыта ў сьвятой вадзе Зям-Зяма, то іхная душа будзе мець лепшы доступ у рай. Мала гэтага. Тут у двары мячэці, паблізу каля першай рэлігійнай сьвятыні, Каабы, часам здзяйсняюцца, цалкам публічна, такія справы, пра якія сціпласць нашым еўрапейскім падарожнікам не дазваляе паведамляць. І што ўсяго выдатней, дык гэта тое, што такія справы не маюць наступствам ганьбаванне; яны выклікаюць у прастадушнай і распутнай публікі толькі сьмех. Паблізу брамы Бабуль-салям увесь час сядзяць з усімі пісьмовымі прыладамі арабскія шэйхі, прапануючыя свае паслугі для напісання лістоў, рахункаў, кантрактаў і іншых дакументаў. Імі ж прадаюцца разнастайныя магічныя выслоўі, кудмені і рэцэпты кахання, якія ахвотна раскупляюцца дарагім коштам пераважна бедуінамі. У Мецы, і асабліва ў мячэці, шмат галубоў, якія лічацца недатыкальнай ўласнасьцю Каабы. Ніхто не мае права забіваць іх. Усюды, то тут, то там, расстаўлены каменныя пасудзіны з вадой ім для піцва. Тутака ж сядзяць жанчыны і прадаюць зерневы хлеб, якім багамольцы кормяць галубоў.

Пры Каабе знаходзіцца шматлікі штат служак: валахаў, лямпаўшчыкаў, муэдзінаў, катыбаў, чытароў, улемаў, імамаў, муфтыяў і інш. Увесь гэты шматлікі штат атрымлівае вызначанае ўтрыманне ад мячэці і дабраахвотныя гасьцінцы пілігрымаў. Галоўнай афіцыйнай асобай у мячэці з’яўляецца наіб-аль-харам, захавальнік ключоў Каабы. У яго руках, акрамя іх, знаходзяцца ўсе прыбыткі ад ахвяраванняў рознымі асобамі; ён назірае за іхным правільным размеркаваннем. Усе выпраўленні Каабы робяцца пад яго назіраннем. За гэтай асобай (па ступені, важнасьці) ідзе ага, кіраўнік валахаў, абавязкі якіх збольшага паліцэйскія. Яны мятуць двор мячэці і назіраюць за чысьцінёй, і яны ж папярэджваюць хваляванні і ўсталёўваюць цішыню. У руках яны носяць доўгую палку, якой маюць права, грунтуючыся на сваіх меркаваннях, караць вінаватых.

Колькасць валахаў даходзіць да 40; і іхны штат часам папаўняецца за кошт падарункаў хлопчыкамі ад магаметанскіх валадароў. Усе валахі, службоўцы пры Каабе, атрымлівалі ад мячэці і із Канстантынопаля вызначанае ўтрыманне, гасьцінцы ад багамольцаў і вялікі прыбытак ад гандлю, які яны вялі ў Мецы. Таму ўсе яны да такой ступені матэрыяльна забяспечаны, што кожны трымае пры сабе па некалькі нявольнікаў. Начальнік валахаў, ага, выбіраемы імі самімі, мае значнаю ролю, як у мячэці, так і ў горадзе. Ён мае права сядзець у прысутнасьці пашы і шэрыфа. На чале ўсіх афіцыйных асоб горада Мекі стаіць гэты самы шэрыф, духоўны і свецкі кіраўнік. Яго імя вымаўляецца ў малітвах пасьля імені Канстантынопальскага султана, якому да сусветнай вайны належала ўлада над Аравіяй. Але дзякуючы свайму глухому месцаванню ён мае, вядома, толькі паказную ўладу.

Паглядзім зараз на апісанне славутага «хаджэння (хаджу)» сучасных нам магаметанаў.

Наведванню гары Арафа павінна папярэднічаць наведванне Каабы з абыходамі вакол яе і шэсьце паміж двума ўзгоркамі Сафа і Мярва. Здзейсніўшы «папярэднія абыходы» вакол Каабы і іншыя неразлучныя з імі цырымоніі, натоўп чужаземных багамольцаў пад кіраўніцтвам тамтэйшых спецыялістаў выходзіць із мячэці праз вароты Сафа «пры бачанні Каабы». Каля зялёных калон яны паскараюць сваю хаду да поўнай рысі і падчас гэтага бегу («сай», згодна з шарыятам), вымаўляюць пад дыктоўку важака малітву:

– «*О, пане, прабач і злітуйся! Забудзься пра тое, што ты ведаеш пра мяне, таму што ты самы лепшы і самы шчодры! Выратуй нас ад полымя пекла і правядзі бяспечна ў рай! О Пане, даруй нам шчасьце тут на зямлі і ў будучым жыцці і пазбаў нас ад пакут пекла!*».

Паднімаючыся на ўзгорак Мярва, багамольцы таксама крычаць:

– «*Праўда, Сафа і Мярва па-сутнасьці два Помнікі бога. Таму і бегаць ад аднаго да другога не будзе памылкай*».

Потым усё хутка бягуць з узгорка Мярва на ўзгорак Сафа, адтуль зноў – на Мярва і г.д., да сямі разоў. Пешыя, конныя і седзячыя на насілках, усе выконваюць звычай збягання. Усе спяшаюцца, пераганяюць адзін аднаго, няспынна выкрыкваючы гучным голасам адны і тыя ж малітвы. Тут жа, на вуліцы, сядзяць гандляры, паміж якімі ходзяць узад і наперад пакупнікі, прабіваючы сабе дарогу праз натоўп непазбежных на ўсходзе зявак. Шум і таўханіна вялізныя!.. «*Гэты звычай здзяйсняецца,* – пераконваюць нам, – *ісламітамі ў якасьці пераймання Агары, маці Ізмаіла, якая* (пры паданні метэарыта), *згодна з паданнем, сем разоў прабегла ад узгорка Сафа да ўзгорка Мярва, шукаючы вады для свайго паміраючага сына*». Падбягаючы да аднаго ўзгорка, яна чула з другога голас: «тут вада». Падбягаючы да другога, яна чула тое ж самае. Яе бег, натуральна, то запавольваўся, то паскараўся; яна бесперапынна аглядалася ў розныя бакі, шукаючы ваду. І вось багамольцы, пераймаючы ёй таксама паварочваюць пры перабяганні свае галовы ў розныя бакі, але толькі ўжо безсэнсоўна.

Але гэтае тлумачэнне перабежак, вядома, чыстая прыдумка, як і сама Агар, і нагодай да такога звычаю магло быць толькі рэчаіснае збяганне ад метэарытнай катастрофы.

Скончыўшы свае, так бы мовіць, прывітальныя звычаі (пасьля прыбыцця ў Меку), багамольцы шукаюць сабе кватэры на ўвесь час здзяйснення хаджу. Робяцца заўважальнымі прыгатаванні да падарожжа на гару Арафа, звычаі і цырымоніі на якой складаюць самую важную частку хаджа. Гэтая гара знаходзіцца ад Мекі на адлегласьці 7 гадзін шляху, і гісторыя прабацькоў чалавечага роду цесна злучана з ёй. Згодна з адным паданнем, запісаным Рабгузам у яго кнізе «Апавяданні пра прарокаў», Адам пасьля грэхападзення быў выдалены ў Індастан, а Ева на гару Джыда. Вінаваты іхнага грэхападзення, Ібіс (дз'ябал) збег – у Басру, змей – у Іспагань, а паўлін – на гару Міна. Доўга і шмат плакалі Адам і Ева пасьля адлучэння адзін ад аднаго і, нарэшце, пасьля шматгадовага падарожжа, увесь час шукаючы сваю сяброўку, Адам дайшоў да адной гары паблізу Мекі, дзе і сустрэўся з ёю. Гэтую гару яны назвалі «Арафа», што азначае «месца спазнання». На гэтай жа гары Адам быў навучаны арханёлам Гаўрыілам таму, як ён павінен маліцца свайму стваральніку.

Падарожжа на гару Арафа складае, згодна з шарыятам, першую прыступку абавязковасьці – пад час 7-ага дня месяца Дгзуль-Хаджа. Пад час гэтага дня ў горадзе і па арафацкай дарозе бывае вялікая мітусня. Адны багамольцы едуць на вярблюдах, другія на мулах, трэцція на аслах, але вялікая частка іх выпраўляецца ў шлях пешкі. Крык, сваркі і малітвы заглушаюцца ровам жывёлаў, якія да таго ж абчэплены званочкамі. Дзе-нідзе перад значнымі асобамі, выконваецца ўсходняя музыка. За багамольцамі ідуць разнастайныя гандляры са сваімі таварамі. У вёсцы і даліне Міна, дзе, згодна з паданнем, Каін і Авель прыносілі свае ахвяры богу, багамольцы павінны спыніцца і прабыць да ранішняй малітвы наступнага 8-га дня, але гэты наказ шарыяту не выконваецца з нагоды цеснаты даліны. Трэццяя і чацьвёртая малітвы таго дня здзяйсняюцца ў мячэці Мюздаляфа, якая стаіць направа ад дарогі за Мінай, дзе багамольцы ўсе разам вымаўляюць (пад дыктоўку важака) малітву:

– «*Божа мой! засьцеражы ад полымя маё цела, маю кроў, мае косткі і ўсе мае часткі! О, самы літасьцівы із істот літасьцівых*!».

Прайшоўшы горную цясьніну, пілігрымы прыходзяць у даліну Арафа, па якой адразу і рассыпаюцца, каб знайсьці месца для стаянкі, пры гэтым пазбягаюць, згодна з забаронай шарыяту, толькі мястэчка Бурана. Далёка за поўнач тут не сціхаюць шум і крыкі асоб, шукаючых адзін аднаго ў натоўпе і разбіваючых свае намёты. Нешматлікія праводзяць гэтую ноч у сне, а вялікая частка ў набожных (і даволі дзікіх) спевах ці ў коле вясёлых суразмоўцаў.

Двухразовы гарматны стрэл абвяшчае пра наступленне вялікага дня Арафа, 9 дня месяца Дзуль-хіджа, дня першай ранішняй малітвы, пасьля здзяйсненні якой усё спяшаюцца агледзець сьвятую гару.

Арафа ўзвышаецца амаль на 400 метраў над атачаючай яе мясцовасьцю, маючай у акружнасьці некалькі кіламетраў. З усходняга і заходняга боку на яе вядуць дастаткова шырокія каменныя прыступкі. Знізу, на ўсходнім, паўднёва-усходнім і заходнім баках раўніны мячэці і іншыя будынкі. З самой гары адкрываецца маляўнічы краявід на даліну, на якой Буркхарт, падчас свайго вандравання, налічыў да 70 тысяч, Буртан да 50 тысяч, а Алі-беі да 83 тысяч чалавек. Падчас знаходжання Буркхарта тут было да 25 тысяч вярблюдаў і 3 тысячы разнастайных намётаў, паміж якімі, грунтуючыся на сваёй прыгажосьці і багацці, першае месца належала намётам жонкі ягіпецкага пашы, Мухамеда-Алі.

Новы залп гарматных стрэлаў абвяшчае наступленне трэцяй штодзённай малітвы, да здзяйснення якой пілігрымы павінны прыгатавацца поўным абмываннем. Музыка абвяшчае шэсьце шэрыфа на гару. Народ, верхавы і пешы, бяжыць у бязладзіцы туды ж, імкнучыся заняць па-магчымасьці больш зручнае месца. «На чале працэсіі шэрыфа, – паведамляе Буртан, – ішло некалькі чалавек, нёсшых булавы, і яны згодна за звычаем даволі нецырымонна прабівалі сабе дарогу. За імі ішлі вершнікі пустыні з доўгімі дзідамі ўпрыгожанымі пэндзлікамі, потым вялі коней шэрыфа, пародзістых і маларослых... Чорныя рабы вялі іх за аброць і ў кожнага была вялікая стрэльба з кнотам. Потым, пасьля трох зялёных і двух чырвоных сьцягоў ехаў на муле ў белым адзенні з адкрытай галавой шэрыф, а за ім усё яго сямейства і прыдворныя. Шырокі зялёны парасон, шыты золатам, які нёс служка над галавой шэрыфа, быў адзіным адметным знакам яго годнасьці, і шэсьце заканвалася натоўпам бедуінаў, на конях і вярблюдах.

Гэтая працэсія павольна пасоўвалася да гары. Шэрыф і атачаючыя яго размясьціліся бліжэй да месца павучання, іншыя па-ўсяму спуску і нават каля

падэшвы гары. Тутэйшае павучанне заўсёды чытаецца з платформы мекскім кадыем па кнізе на працягу амаль трох гадзін да самага заходу сонца, і на працягу ўсяго гэтага часу прапаведнік павінен, наколькі магчыма часьцей, паднімаць свае рукі да неба, каб атрымаць дабраславенне звыш.

Спачатку багамольцы слухаюць павучанне моўчкі, але адпаведна таму як натхняецца прапаведнік, наэлектрызоўваецца рэлігійным фанатызмам і народная маса, усё часьцей і часьцей перапыняючы чытанне ўсклiканнямi: «ляббайка, іллягумма, ляббайка!» (я тут, пане, я тут!) Народ пры гэтым махае сваімі белымі іхрамамі і зялёнымі парасонамі, так што ўся мясцовасць набывае выгляд зялёнай сенажаці, як выказваецца Буркхарт.

І ў той час, як адны гучна крычаць, плачуць і б'юць сябе ў грудзі, шкадуючы пра свае грахі, ці плачучы стаяць моўчкі, іншыя бавяць час гучнай размовай, смехам і курэннем кальяна ці ж у атачэнні публічных жанчын.

Пасьля заходу сонца прапаведнік заканчвае чытанне, у апошні раз прамаўляе «ляббайка», і народ хутка кідаецца з гары. Адны пілігрымы спрабуюць апярэдзіць іншых, адзін караван спрабуе перагнаць другі, сыходжанне із Арафа ўяўляе сабой нейкі шалёны бег. Усе, як звар'яцелыя, гоняць вярблюдаў, насілкі ламаюцца, пешаходаў збіваюць з ног, нават вярблюды падаюць; бойкі з усіх бакоў, а часта і крывавыя сутычкі.

«*У цясьніне, праз якую патрэбна было прайсьці,* – сведчыць Буртан, – *зрабілася яшчэ больш жудасна. Вярблюды разам з насілкамі натыкаліся з шумам на сьцены. Ніхто не мог зразумець, што з ім робіцца. Гарматныя стрэлы і залпы бліскучых ракет яшчэ больш павялічвалі замяшанне жанчын і дзяцей, апантаных жахам. Музыка не сціхала, пілігрымы крычалі, што было моцы: – Ды будзе гэтае сьвята спрыяльным*!».

Дайшоўшы да мячэці Мяздалафа, адстаячай «на тры мілі» ад Арафа, багамольцы спыняюцца і віншуюць адзін аднаго з набыццём звання «хаджа». Раніцай 10 дня месяца Дзуль-Хіджа, пасьля першай малітвы, яны, падняўшы з зямлі па некалькі каменьчыкаў, ідуць далей. Яны абавязаны спыніцца ў даліне Міна для здзяйснення звычая «кідання камянёў» у трох месцах: пры ўваходзе ў даліну, пасярэдзіне яе і на яе заканчэнні, дзякуючы чаму тут утварыліся тры так званыя «кучы камянёў дз’ябла». Багамольцы кідаюць тут сем разоў па сем камянёў.

Я думаю, чытач сам разумее, што патлумачыць такі звычай можна толькі тым, што ў гэтым месцы пры метэарытнай катастрофе 622 года ўпаў цэлы град камянёў, і народная пагалоска патлумачыла гэтую з'яву збіццём богам дз’ябла. Але часта здараецца, што камяні, кідаемыя ў сатану, трапляюць у галовы нявінных багамольцаў, пасьля чаго паміж хаджамі адбываюцца бязлітасныя сутычкі.

На 10 дзень месяца Абуль-Хіджа багамольцы заколваюць у даліне Міна, цалкам як у біблейскіх апісаннях, ахвяру із аднагадовых авечак, із двухгадовых кароў і із пяцігадовых вярблюдаў[105], колькасць якіх разнастайная, гледзячы на стараннасць кожнага. Усе гэтыя жывёлы абвешаны шматкаляровымі стужкамі і цацкамі, і іхныя галовы падчас сьмерці павінны быць накіраваны да Каабы. Пасьля дадзенага сігнала, маса мяснікоў кідаецца ў натоўп багамольцаў і на

[105] «Прыгодныя для ахвяравання жывёлы: авечка аднагадовя, бык двухгадовы, вярблюд пяцігадовы. Недахоп рога, верцяжы і кароста на авечках, хаця б яны былі тлустымі і здаровымі, робяць іх непрыдатнымі да сьмерці перад богам. Вылегчаныя авены прыдатныя, калі яны не крывыя, сляпыя, хударлявыя, кульгавыя, калі пярэднія і заднія ногі іх не пашкоджаны, не адрэзаны вушы, і не шмат абстрыжана поўсць і хвост» (Д'Оссон, стар. 368).

працягу самага кароткага часу заколваюць (як і згодна з Бібліяй) тысячы жывёл, вымаўляючы пры гэтым малітву:

– «*У імя бога, міласьцівага, літасьцівага! Вялікі бог!*».

Імгненна ўся даліна пакрываецца струменямі крыві і набывае выгляд самай бруднай быдлабойні. Ахвярнае мяса тут жа на месцы з'ядаецца ахвяравальнікамі, іхнымі сваякамі і знаёмымі і шчодра раздаецца беднякам. Але жывёл заколваецца так шмат, што багамольцы не паспяваюць з'есьці ўсё і адбываецца тое, што значная колькасць мяса пакідаецца на месцы, дзе служыць ежай драпежным птушкам і жывёлам і распадаецца.

«*Ноччу,* – сведчыць Буртан, – *паветра было такім цяжкім, што я не мог спаць. Тут пачынала загніваць ад 5 000 да 6 000 забітых жывёл*».

Такое антысанітарнае становішча ўвесь час служыла падставай шматстайных хвароб, хутка набываўшых пашырэнне ў асяроддзі багамольцаў, і тлумачыць велічэзную смяротнасць паміж імі, як на працягу папярэднічаўшага шляху, так і ў самой Мецы, і асабліва падчас адваротнага шляху на радзіму. Згодна з падлікамі д-ра Шнэпа, у звычайны час, калі не бывае ніякай эпідэмій, гіне $^1/_5$ частка багамольцаў. Гэтым і тлумачыцца пастанова шарыята, якая патрабуе ад магаметаніна, жадаючага здзейсніць хадж, забеспячэння ў гаспадарчым дачыненні сваёй сям'і. Моцныя халерныя эпідэміі 1831 і 1865 гадоў былі занесены ў Яўропу із Мекі.

У гэты дзень багамольцы канчаткова набываюць тут тытул «хаджа». Уся даліна ў гэты час напаўняецца ўзаемнымі віншаваннямі і пажаданнямі шчасьця адзін аднаму. Адкрываецца кірмаш. Ноччу даліна палае феерверкамі, пацешнымі вогнішчамі і напаўняецца ружэйнымі стрэламі. Але забіццё сатаны не спыняецца і на гэтым. Апоўдні 11 і 12 дня месяца Аб-ул-Хіджа багамольцы (кідаюць па 7 каменьчыкаў у кожнае із трох месцаў, дзе з'яўляўся нячысьцік, так што за тры дні кожны багамолец перакідае да 63 камянёў.

Кінуўшы апошні камень, заможныя хаджы вяртаюцца ў Меку, тым часам як беднякі яшчэ застаюцца ў Міне, каб пабаляваць на парэштках загніваючага мяса і нарыхтаваць із яго запасы на адваротны шлях. Лустачкі, нарэзаныя із гэтага мяса, сушаць потым на сонцы на двары Каабы.

Апоўдні 12 дня месяца Аб-ль-Хіджа багамольцы пакідаюць Міну і з радасьцю, якая выяўляецца ў спевах, крыках, балбатні і смеху, вяртаюцца ў Меку, дзе бачаць Каабу апранутай у новае пакрывала. На другі дзень, у час пасьля ўзыходу сонца, адчыняюцца яе дзверы. Натоўп кідаецца ўсярэдзіну храма, часам праз галовы адзін аднаго. Валахі, стаячыя каля дзьвярэй шчодра раздаюць удары палкамі тым, хто пачынае сваркі і ўхіляецца ад платы за ўваход у Каабу. У гэты час усе, пачынаючы ад шэрыфа Мекі са срэбным ключом у руках да апошняга брамніка, патрабуюць сабе платы ад наведнікаў свяцілішча.

Пасьля заканчэння ўсіх звычаяў хаджа багамольцы здзяйсняюць яшчэ звычаі «гумра». Месцам іх правядзення служыць невялікая, бедна-ўпрыгожаная мячэць Эль-гумра, якая знаходзіцца ад Мекі прыкладна на адлегласьці паўгадзіны шляху на паўночны-ўсход. Дайшоўшы да кучы камянёў, якая, згодна з магаметанскім паданнем, пазначае месца, дзе Абу-Лахаб меў намер наладзіць засаду прароку Мухамеду і дзе сам знайшоў сабе сьмерць, багамольцы зноў кідаюць камяні, вымаўляючы праклён Абу-Лахабу.

– «*Праўда Сафа і Мярва*, – павінны яны зноў тут вымавіць, – *два помнікі божыя. Бегаць ад аднаго да другога не будзе памылкай для таго, хто здзяйсняе гумра*».

Потым багамольцы ідуць да цырульнікаў, дзе чытаюць, відавочна пад дыктоўку каго-небудзь наступную малітву:

– «*О Божа, мая галава ў тваіх руках! Даруй мне пад час дня ажывання сьвятло для кожнага воласа! О ты, самы літасьцівы із літасьцівых*!».

Потым ідуць у месцы нараджэння Магамета, Фацімы, Алі, Абу-Бекра і Абу-талеба (які лічыцца вялікім патронам Мекі), да помнікаў Хадыджы (жонкі Магамета) і Аміны (яго маці). На вяршыні гары Джэбель-Кабайсім паказваюць месца, дзе месяц раскалоўся згодна з жаданнем прарока на два; на Джэ-бель-Нур паказваюць невялікі грот, дзе анёл Гаўрыіл адкрываў Магамету розныя ўрыўкі Карана. Абыйшоўшы гэтыя і некаторыя іншыя рэлігійныя помнікі і вярнуўшыся ў Меку, багамольцы рыхтуюцца да адваротнага падарожжа.

Зараз хадж у строгім сэнсе слова закончаны: заставаліся не закончанымі толькі некаторыя звычаі рэлігійнага падарожжа. Багамольцы, на сваім адваротным шляху із Мекі, павінны яшчэ наведаць сьвятлейшую Медыну і пакланіцца тут так званай труне Магамета[106]. Ва ўсім мусульманскім сьвеце толькі адны вахабіты аспрэчваюць падарожжа ў Медыну з рэлігійнымі мэтамі, лічачы што тут труна падробленая, а сапраўдная вісіць, падтрымліваемая анёламі, паміж небам і зямлёй да жахлівага суда. Медынская мячэць, адпаведна надаваемай ёй павазе і ўшанаванню, – паведамляе Буртан, – займае сярэдняе становішча паміж мекскай Каабай і ерусалімскай мячэццю Амара.

Медына знаходзіцца на адлегласьці 10-11 дзён шляху ад Мекі па пустынях і адгор'ях і размешчана на краю вялізнай пустыннай нізіны Неджэда, паблізу гор, атачаючых яе з трох бакоў. Тут, у мясцовасьцях, дастаткова забяспечаных вадой, размешчаны мядынскія сады, якія выrabляюць чаруючае ўздзеянне на душу падарожніка, прайшоўшага вялізную пустыню. На поўдзень ад Медыны распасьціраецца неаглядная і бясплодная раўніна, праз якую праходзіць шлях у Меку. Медына так жа, як і Мека, уключаецца ў сьвятую тэрыторыю, межамі якой служаць на поўначы гара Аход (на адлегласьці 5 вёрст ад Медыны), на паўднёвым захадзе – гара Аіра, а з іншых бакоў гэтыя межы нявызначаны. Паміраючы ў гэтай сьвятой вобласьці, мае заступніцтва прарока ў дзень жахлівага суда.

У горад вядуць чатыры брамы, якія дастаткова масіўныя і прыгожыя. Умацаванне параўнальна з іншымі ўмацаваннямі Ўсходу знаходзіцца ў добрым стане. Яно абнесена сьцяной да 10 метраў вышыні, на якой размешчаны напаловукруглыя вежы з байніцамі, і аточана ірвом. Сядзібы тут пабудаваны ўсе із каменя і некаторыя вуліцы выбрукаваны каменем, а колькасць насельніцтва гэтага горада, згодна са здагадкай Буркхарта, у XIX стагоддзі даходзіла ад 16 да 20 тысяч чалавек. Мячэць так жа, як і ў Мецы, мае назву Эль-Харам, але часьцей яе называюць Месджыдуль-набі (мячэць прарока). Яна меншая чым мекскай мячэць, таму што мае ў даўжыню толькі 165 крокаў, а ў шырыню – 130, але, згодна са сваім уладкаваннем, яна падобна на першую: той жа адкрыты чатырохкутнік, аточаны з усіх бакоў крытай каланадай.

Калоны тут усе пабелены і толькі непадалёку ад уяўнай магілы Магамета абкладзены блакітам і ўпрыгожаны шматкаляровымі арабескамі. Яны таксама, як і мекскія, упрыгожаны на вярху белымі купаламі, а падлога ў некаторых месцах выкладзена мармурам. Яе галоўнае багацце засяроджана ў паўднёвай частцы, дзе сьцяна каля калон абкладзена мармуровымі плітамі і мае шырокія і высокія вокны са шклом. Гэтая частка медынскай мячэці ўтварае свяцілішча, тут быццам бы

[106] Некаторыя багамольцы выконваюць гэты абавязак пад час шляху ў Меку.

спачываюць парэшткі Магамета на адлегласьці 25 крокаў ад паўднёвага і 15 ад усходняга боку. Яна аточана жалезнымі кратамі зялёнага колеру маючымі назву Эль-Хеджр і ўтвараючая няправільны чатырохкутнік, і ўпрыгожана бронзавымі надпісамі, якія лічацца залатымі.

Аднак праз яе краты нічога не бачна!

Багамольцы глядзяць унутр праз вокны, якія знаходзяцца на вышыні 5 футаў ад падлогі, і адыходзяць засмучаныя. Патрэбна быць вельмі заможным чалавекам, каб атрымаць дазвол прайсьці ўнутр, але і тады пабачыце няшмат. Месца, дзе зараз лічыцца месцаванне так званай магільні Магамета, завешана заслонай із шаўковай матэрыі са срэбнымі кветкамі, арабескамі і залатым надпісам навокал. Ён пакрывае чатырохкутнае каменнае збудаванне, падтрымліваемае двума слупкамі, куды ўжо не прапускаецца ніхто. Тут, – паведамляюць цікавячымся, – і знаходзіцца труна Магамета, якая, адпаведна з цверджаннем некаторых, мае форму катафалка з мармуровай плітой навярху, упрыгожанай золатам.

«*Гэтае месца,* – сведчыць Буртан, – *пазначана вялікімі жамчужнымі ружанцамі і адным асаблівым упрыгожваннем, маючым назву «Сузор'е пярлін», якое прымацавана да фіранкі. Народ мяркуе, што гэта адна із каштоўнасьцей раю, а я палічыў яе за пробку ад графіна*»...

Тут жа, кажуць нам, – спачываюць парэшткі Абу-Бекра і Амара, двух сяброў Магамета, а сярэднявечнае апавяданне пра тое, што яго труна вісіць у паветры, прыцягваемая магутнасьцю двух вялізных магнітаў, аб'вяшчаецца зараз прыдумкай грэкаў і латынянаў, хаця гэта і відавочна няпраўдападобна: хрысьціянам не было ніякай патрэбы прыдумляць такія дзівы, пра аддаваемага імі анафеме чалавека. Наадварот, як я і выказваўся ужо раней, хрысьціяне, ды і то не раней адкрыцця імі магнетызму, толькі замянілі магнітамі ранейшых магаметанскіх анёлаў, а наступнае апусканне паветранай труны на зямлю рускія царкоўнікі яшчэ на прыканцы XIX стагоддзя тлумачылі хітрасьцю аднаго ўкраінца, які «ведаючы, што магніт не пераносіць часнычнага паху», і пракраўшыся паломнікам пад выглядам мусульманіна, раздавіў каля яго часнычную цыбуліну. Труна ўпала на зямлю, і пабілася на дробныя кавалкі».

А зараз яго маўзалей, падобны на велізную птушыную клетку, упрыгожаны наверсе высокім і прыгожым купалам, з пазалочанымі шарам і паўмесяцам, якія лічацца магаметанамі за залатыя.

У Медынскай жа мячэці знаходзіцца пакрытая, каштоўнай чорнай парчой без упрыгожванняў труна Фацімы, дачкі Магамета, хаця і сцвярджаюць, што яна пахавана не тут, а на мядынскіх могілках. Тут паказваюць таксама невялікае вакно ў сьцяне мячэці, праз якое некалькі разоў да Магамета прыходзіў анёл Гаўрыіл». Тутака ж, каля яго грыбніцы, пакінута месца для будучага пахавання Езуса Хрыста, калі ён зноў прыйдзе на зямлю перад усеагульным ажываннем і памрэ.

Кожны багамолец, жадаючы наведаць медынскую мячэць, абавязаны папярэдне ачысціць сябе поўным абмываннем. У двор мячэці ён заходзіць праз вароты Бабуль-Салям, пераступаючы праз іхны парог абавязкова правай нагой і чытаючы такую малітву:

– «*Божа мой, даруй мне мае грахі, і расчыні мне дзьверы тваёй літасьці*!».

Ён прама накіроўваецца да Радхе, чытаючы на шляху іншыя малітвы і яшчэ малітву з 4 апусканнямі на калені і паўтарае 109 і 112 главы Карана[107]. Адсюль усё

---

[107] 109 гл. Карана: «У імя бога міласьцівага, літасьцівага! Скажы: няверныя! Я не ўшаноўваю тое, што ўшаноўваеце вы, а вы не жадаеце ўшаноўваць тое, што ўшаноўваю я. Я не жадаю ўшаноўваць тое, што

накіроўваюцца да рашоткі Геджр, спыняюцца насупраць таго вакна, каля якога знаходзіцца ўяўная магіла прарока Магамета, падымаюць рукі ўгору і моляцца, паўтараючы словы чытаючага:

– «*Мір ды будзе на табе, Магамет! Мір ды будзе на табе, пасланнік божы! Мір ды будзе на табе, абраннік божы! Мір ды будзе на табе, сябар божы. Мір ды будзе на табе, годны ўхвал! Мір ды будзе на табе, улюбёнец божы! Мір ды будзе на табе, раздавальнік літасьцей! Мір ды будзе на табе, мой імам! Мір ды будзе на табе, апошні прарок! Мір ды будзе на табе, прынёсшы нам добрыя паведамленні! Мір ды будзе на табе апостал! Мір ды будзе на табе, самы паважаемы із дзяцей Адама! Мір ды будзе на табе, князь пасланнікаў божых! Мір ды будзе на табе, пасланнік стварэнняў божых! Мір ды будзе на табе, на тваіх нашчадках, на тваіх паплечніках, на тваіх цнатлівых жонках, якія лічацца маткамі магаметанаў! Я выяўляю табе большую падзяку, чый падзяка, якую выявіў богу прарок за свой народ і апостал за сваё племя. Ды будзе мір божы на нашым спадары Магамеце, ці будуць згадваць яго ў сваіх малітвах ці не. Я прызнаю, о пасланнік божы, што табе было дадзена апостальства, што ты пасеяў праўдзівую веру, што ты даў ратуючыя парады народам, што ты разагнаў змрок, і ішоў прама па шляху госпада, узнагародзіўшага цябе праўдзівымі ведамі. Мы прыйшлі наведаць цябе натоўпам, о пасланнік божы, із краін самых аддаленых, каб выканаць твае наказы. Я вітаю цябе і прашу цябе заступацца за мяне перад богам, таму што мае недахопы вялікія і мае грахі шматлікія; але ты заступнік, ад якога атрымліваеш усё, пра што просіш. Бог сказаў: калі людзі, зграшыўшы, папросяць у мяне даравання, і калі мой пасланнік заступіцца за іх, то ўсе яны знойдуць мяне літасьцівым* (Кар,, гл. 4, ст. 67). *Я прыйшоў сюды абцяжараны грахамі; заступіся перад богам і выпрасі мне ў яго літасць памерці ў тваім законе і ажыць у тваім грамадстве. Заступніцтва! заступніцтва! заступніцтва! О, пасланнік Божы!*».

Гэтая малітва вымаўляецца чытаром і ўсе паўтараюць яе, – сведчыць Вамберы, – са слязамі, крыкамі і выццём, так што немагчыма пачуць уласны голас. А тыя, якія ўслухоўваюцца ў словы чытара, але не ў стане, не разумеючы, паўтараць за ім, задавальняюцца тым, што пераймаюць рухі яго вуснаў. Потым багамольцы ўшаноўваюць уяўляемыя парэшткі Абу-Бекра і Амара. Каля гэтых магільняў часта адбываюцца хваляванні, якія нярэдка заканчваюцца крывавымі пабойкамі. Справа ў тым, што шыіты ненавідзяць абодвух, лічачы іх узурпатарамі, апярэдзіўшымі шануемага імі халіфа, Алі. І нянавісць да Абу-Бекра і асабліва да Амара, выяўляецца часта адкрыта. Сустракаюцца такія іранцы, якія, – сведчыць Вамберы, – замест звычайнага: «Йа Амар!» (о, Амар!), вымаўляюць хуткавымаўленнем: «Йа шымар!» (о, асёл!) і, прыйшоўшы дахаты, пахваляюцца такім учынкам.

Потым багамольцы ідуць да ўяўляемай труны Фаціми, для здзяйснення ўшанавання гэтай лепшай із жанчын, і нарэшце вяртаюцца ў Радху, дзе пасылаюць малітвы самому богу, чым і заканчваецца здзяйсненне звычаяў, злучаных з наведваннем мячэці прарока.

Гэтае наведванне, як і наведванне Каабы, спалучана з вялізнымі выдаткамі. Падаянні разнастайным жабракам і плата грубым валахам і мулам служаць нагодай таго, што шмат хто із багамольцаў вяртаюцца дахаты і жывуць ў нястачы з цалкам пустымі капшукамі.

* * *

---

ўшаноўваеце вы, калі вы не жадаеце ўшаноўваць тое, што ўшаноўваю я. У вас свой верастатут, у мяне свой верастатут». І глава 112 Карана: «У імя бога міласьцівага, літасьцівага! Скажы: ён – бог адзіны, вечны бог. Ён не нараджаў і не народжаны: роўнага яму нікога не бывала».

Паразважаем жа крыху над павядомленым.

Аж да XX стагоддзя мы бачым у караванах багамольцаў, накіроўваючыхся ў Меку, побач з малітвамі, грубыя, плоскія, жарты блазнаў, забаўляючых натоўп падарожнікаў. Каля самой брамы сьвятога горада публічна адбываецца найманне мужчын падарожніцамі для часовага адружання і безсаромная эксплуатацыя жанчын магаметанскімі лавеласамі, блізка каля іхнай сьвятыні, Каабы. Публічна ў храмах здзяйсняюцца такія справы, пра якія сціпласць нашых еўрапейскіх падарожнікаў не дазваляе нават і паведаміць. «Тым часам як некаторыя із больш набожных багамольцаў заняты слуханнем павучанняў, іншыя бавяць час у грамадстве публічных жанчын, якіх у Мецы дастаткова шмат»... Яшчэ ў XII стагоддзі тут існаваў цэлы квартал, заселены такімі жанчынамі, пра што сведчыць і магаметанскі пісьменнік Ібн-Фарад...

Сапраўдны занятак прадаўшчыц насення для галубоў на двары Каабы складаецца ў гандлі сваім целам... Іхныя шэрагі штогадова папаўняюцца з прыбыццём караванаў багамольцаў, як, напрыклад, у 1814 годзе, калі іх прыйшло ў Меку вельмі шмат... Час хаджу з’яўляецца часам народнага разгулу ў Мецы... Бухарскі эмір XVI стагоддзя Абдула, здзейсніўшы падарожжа дзеля ўшанавання ў Меку, вярнуўся назад з перакананнем, што яно «не было прыемна богу», – выказваецца Буркхарт... Ці не з’яўляецца гэта перажыткам стара-хрысьціянскага культу?

# Глава VII.

## Адкуль жа іслам?

Мы зараз разгледзелі галоўныя асаблівасьці ісламіцтва і прыйшлі да высноваў, якія ў наступным VII томе «Хрыста» падцвердзяцца і пры рацыяналістычным разбіранні сярэднявечнай гісторыі Візантыі:

1) Гэтая рэлігія пад час сярэдневечча была толькі адгалінаваннем арыянства, меўшая падставай свайго ўзнікнення метэарытную катастрофу ў Чырвоным моры, каля Мекі, і роднасная з візантыйскім іконазмагальніцтвам.

2) Каран носіць сляды вельмі пазьняй кампіляцыі розных біблейскіх паданняў, спеваў і разважанняў, напісаных рознымі аўтарамі і з розных нагод, аж да XI стагоддзя нашай эры і збольшага нават пазьней. Слова «Славуты» (Магамет па-карэйшыцку), часта ўжываемае ў гэтай кнізе, амаль заўсёды выкарыстана так, як быццам бы аўтар звяртаецца з такой назвай да самога чытача, то ад сябе, то ад імя бога, ці нават да нейкага валадара, які павінен узаконіць яго кнігу.

Але немагчыма сказаць, каб той валадар выключна меў найменне «Славуты» (Магамет). Гэта слова ўжываецца толькі так, як гаворыцца: «Ваша вялікасць», «Ваша сьветласць ці: «шаноўны», «высокашаноўны»... Пра тое, каб так звяртаўся канчатковы кампілятар Карана ад імя бога да самога сябе, дзіўна нават і падумаць.

3) Аравійская паўвыспа не магла быць выточным месцам якой бы то ні было рэлігіі ці рэлігійнай улады, а толькі выпадкова ўтварыўшымся месцам ушанавання для нейкай рэлігіі, шырока пашыранай раней у больш культурных краінах, ды і то толькі ў выпадку нейкай жахлівай метэарытнай катастрофы каля Мекі, накшталт той, якую мы бачылі пры ўзнікненні метэарытнага кратара ў Арызоне ці пры паданні Тунгускага метэарыта ў сібірскай тайзе.

4) Арыянскае ісламіцтва, меўшае назву пад час сярэдневечча агаранства, ізмаэліцтва і сарацынства, нічым не адрознівалася ад юдэйства аж да пярэдадня

крыжовых паходаў, калі ў Яўропе пашырыліся Евангеллі, прынёсшыя ў непадрыхтаваны тады сьвет замест усеагульнага братэрства – меч крыжака, і «сьвятую вайну» і ізмаілітаў, упершыню пачаўшых звацца магаметанамі.

5) Усе жыццяапісанні Магамета і першых «намесьнікаў» (каліфаў) такія ж міфічныя, як і жыццяапісанні Хрыста і яго намесьніка апостала Пятра ці іншых апосталаў.

Гэтым я мог бы і закончыць свой разгляд прававерʼя. Але абмяжоўвацца адной толькі адмоўнай часткай заўсёды нязручна. Патрэбна даць хаця б некаторыя шляхі для тлумачэння і таго, якім чынам узнік той складаны і псеўда-навукова распрацаваны міф, які мае назву «гісторыя Магамета і першых каліфаў».

Асноўнае яго зерне, відаць, утвараюць, як і ў іншых міфах, збольшага кабалістычныя прыёмы, збольшага запазычванні із чужых іншамоўных паданняў, зведаўшых некаторыя перамены дзякуючы перанясенню на новую глебу і збольшага ўласныя фантазіі «кемлівых» аўтараў. А размеркаванне дэталяў па розных гадах і нават месяцам VII стагоддзя нашай эры па ўсёй верагоднасьці зроблена з дапамогай астралагічных вылічэнняў, пры гэтым Сатурн і Юпітар, як найбольш лёгка вылічваемыя, павінны былі мець кіруючую ролю.

Мне цяжка тут даследаваць кабалістычную частку міфа пра Магамета, складаючуюся ў выкрыванні значэння ўласных імёнаў дзеючых асоб ці імёнаў мясцовасьцей, дзе яны адбываліся, таму што я не ведаю карэйшыцкай мовы. Але вось, напрыклад, хаця б радавод прававернага прарока ў яго «самага старажытнага» жыццяапісальніка Ібн-Хішама (калі ён не з'яўляецца, як можна быць амаль упэўненым, творам арыенталіста Пакока ў Оксфардзе) пры яго супастаўленні з пачаткам радаводу евангельскага Хрыста.

Зірніце толькі на прыкладзеную табліцу (табл. XVII) і вы самі пабачыце, што, пераймаючы Евангеллям Лукі і Мацвея, якія дадалі да жыццяапісання Бога-ратавальніка-Пасьвячэнца (па-грэцку Езуса Хрыста) яго радавод, славуты Ібн-Хішам таксама пачынае сваю «добрую вестку» із радавода Славутага прарока, як і Лука, ад Адама і лічыць прарока яго пяцідзясятым нашчадкам. Я памяшчаю гэты радавод Магамета тут, параўноўваючы нумар за нумарам з першымі пяцідзесяццю продкамі Хрыста згодна з Евангеллем Лукі, а ў дужках пазначаю іхныя імёны таксама згодна і з Мацьвеем ў тых выпадках, калі яны адрозніваюцца ад найменняў Лукі[108].

Вы самі бачыце, што радавод прарока прававерных ад Адама да Бацькі-Рыма (Абрама), за выключэннем нешматлікіх гукавых варыяцый у імёнах, тоесны з радаводам евангельскага Хрыста ў Лукі. Толькі паміж Арфаксадам і Шаліхам (Салой) нехапае Каінана II, якога няма і ў жыдоўскай Біблії. Ён дададзены толькі да грэцкай і лацінскай грунтуючыся на нейкіх новых кабалістычных меркаваннях.

А далей, ад Бацькі-Рыма да прарока ідзе варыянт, якому мы не можам надаваць значэння бяручы да ўвагі ўжо адно тое, што і ў радаводах евангельскага Хрыста імёны продкаў у Лукі не тыя, што ў Мацьвея. Мацьвей вядзе продкаў Хрыста па царскай лініі, праз Саламона, Раваама, Авію, Асу і іншых богаслявячых цароў, а Лука праз простых людзей, пра дзейнасць якіх нічога невядома. Цікава толькі, што як у родапачынальніка прававерных «Бога-пачутага» (Ізмаіла па-жыдоўску) – сына Бацькі-Рыма – было 12 сыноў, так і ў Якава Богазмагальніка, родапачынальніка богаслявячых (юдэяў па-жыдоўску). Ды і радавод цара Месіі (Рэ-

---

[108] Я карыстаюся нямецкім перакладам Вейля: D-r Hustav Well: Das Leben Mohammeds nach Mohammed Ibn Ishak, bearbeitet von Abd-el-Malik Ibn Hischam. Stuttgartt, 1864.

Месу іерогліфаў і Рамзэса па-грэцку), як мы бачылі яшчэ ў першым томе гэтага нашага дасьледавання, і яшчэ пабачым у другой палове гэтага тома, адрозніваецца ад радаводу Хрыста ў Евангеллі Лукі толькі іншымі найменнямі продкаў.

І цікава, што прарок тут выведзены якраз 50-ай асобай нашчадкаў Адама, а ў Евангеллі Лукі (гл. 3) яму адпавядае Касам (ад грэцкага космас – сусьвет), тады як уласным імем прарока лічыцца Абул-Касім, г.азн. бацька сусьвету.

У выніку атрымліваецца, што ўсё гэта толькі варыянты аднаго і таго ж радаводу, выводзімага рознымі асобамі грунтуючыся на кабалістычных меркаваннях.

Мацьвей, як і сам ён наіўна прызнаецца, падвёў іхную колькасць пад шэсць сямёрак:

«*Ад Бацькі-Рыма* (Абрама па-жыдоўску) *да Ўмілаванага* (Давыда па-жыдоўску) *было 14 пакаленняў* (дзьве сямёркі). *Ад Умілаванага да перасялення ў Браму Госпадаву* (Вавілон па-жыдоўску) – *14 пакаленняў* (другія дзьве сямёркі) *і ад перасялення ў Браму Госпадаву да Хрыста 14 пакаленняў* (трэццція дзьве сямёркі, Мацв. І. 47).

Лука не такі шчыры ў сваёй кабалістыцы, згодна з ім пералік «продкаў Ратавальніка» ад Адама да Хрыста прыстасаваны не да рэчаіснасьці, а да кабалістычнай лічбы 77, дзе маюць значэнне тыя ж сямёркі, як і ў пераліку продкаў цара Месіі (Рамесу-Рамзэса) на Абідоскай табліцы. Ды і тут у Ібн-Хішама мы знаходзім падвядзенне продкаў пад такую ж кабалістычную колькасць 7*7 = 49, а сам Магамет атрымліваецца 50-м.

І мы яскрава бачым, калі не пажадаем сьвядома заплюшчыць вочы, што ва ўсіх гэтых арыфметычных практыкаваннях бачны адзін і той жа першапачатковы радавод, распаўшыся на некалькі варыянтаў.

ТАБЛІЦА XVIII.

Параўнанне наймення продкаў Абул-Касіма Магамета ў Ібн-Хішама з найменнямі продкаў Касіма-Зера-Бабеля ў евангелістаў.

| У Ібн-Хішама | у Лукі | (у Мацьвея) |
|---|---|---|
| 50. Абул-Касім (Магамет) | 50. Касам | (Зора-Бабель) |
| 49. Сьш Абд-Алаха | 49. Сын Эўмадама | (Салатыіла) |
| 48. Сын Абд-Алмут-таліба | 48. Сын Іра | (Ехоніі) |
| 47. Сын Хашыма | 47. Сын Ёсіі | (Іякіма) |
| 46. Сын Служкі Менафа, празванага Мугіра | 46. Сын Елі-Езера | (Ёсія) |
| 45. Сын Хусейна | 45. Сын Ярама | (Амона) |
| 44. Сын Кілаба | 44. Сын Матата | (Манасіі) |
| 43. Сын Мураха | 43. Сын Левія | (Езекіі) |
| 42 Сын Каабы | 42. Сын Сымона | (Ахаза) |
| 41. Сын Луея | 41. Сын Юды | (Ёатама) |
| 40. Сын Галіба | 40. Сын Ёсіфа | (Асіі) |
| 39. Сын Фіхра | 39. Сын Янана | (Ёрама) |
| 38. Сын Маліка | 38. Сын Еліакіма | (Іасафата) |
| 37. Сын Надра | 37. Сын Малеая | (Асы) |
| 36. Сын Кінанаха | 36. Сын Майнана | (Авіі) |
| 35. Сын Хуцэймаха | 35. Сын Матафая | (Раваама) |
| 34. Сын Мудрыкаха, празванага Амір | 34. Сын Натана | (Саламона) |
| 33. Сын Альяса (Іллі) | 33. Сын Давыда | (Давыда) |
| 32. Сын Мудхара | 32. Сын Ясея | (Ясея) |
| 31. Сын Нізара | 31. Сын Авіда | (Авіда) |
| 30. Сын Маада | 30. Сын Вааза | (Вааза) |

| | | |
|---|---|---|
| 29. Сын Анана | 29. Сын Салмона | (Салмона) |
| 28. Сын Уда, а згодна з іншымі Удада | 28. Сын Насона | (Насона) |
| 27. Сын Мукавама | 27. Сын Амінадава | (Амінадава) |
| 26. Сын Навура | 26. Сын Арама | (Арама) |
| 25. Сын Тэйраха | 25. Сын Эсрома | (Эсрома) |
| 24. Сын Джадруба | 24. Сын Фарэса | (Фарэса) |
| 23. Сын Джашджуба | 23. Сын Юды | (Юды) |
| 22. Сын Набіта | 22. Сын Якава | (Якава) |
| 21. Сын Ізмаіла | 21. Сын Ісака | (Ісака) |
| 20. Сын Ібрагіма (Аб-Рама) сябра боскага | 20. Сын Аб-Рама | (Аб-Рама) |
| 19. Сын Тарыха, празванага Азер | 19. Сын Тары | |
| 18. Сын Нахура | 18. Сын Нахора | |
| 17. Сын Саруха | 17. Сын Серуха | |
| 16. Сын Рау | 16. Рагава | |
| 15. Сын Фаліха | 15. Сын Фалега | |
| 14. Сын Эйбера | 14. Сын Евера | |
| 13. Сын Шаліха (а ў грэцкай Бібліі сюды дададзены яшчэ Каінан (Cainan II) | 13. Сын Шалы | |
| 12. Сьн Арфахшэда | 12. Сын Арфаксада | |
| 11. Сын Сама | 11. Сын Сіма | |
| 10. Сын Нуха | 10. Сын Ноя | |
| 9. Сын Ламіка | 9. Сын Ламеха | |
| 8. Сын Матушэлеха | 8. Сын Мафусаіла | |
| 7. Сын Хануха («*які, як лічаць, быў прарок Ідрыс (адзін бог усёведаючы!) першы прарок і першы пісаўшы кійком»*) | 7. Сын Енаха | |
| 6. Сын Джарда | 6. Сын Ярэда | (Мацвей далей не ідзе) |
| 5. Сын Махліля | 5. Сын Малелеіла | |
| 4. Сын Кейнана | 4. Сын Каіаона | |
| 3. Сын Джаніша | 3. Сын Енаса | |
| 2. Сын Шэіта | 2. Сын Сіфа | |
| 1. Сын Адама | 1. Сын Адама | |

Я звяртаю ўвагу чытача на тое, што пад 42 нумарам у радаводзе Магамета стаіць Кааба, г.азн. само сховішча метэарытных аскепкаў у Мецы, а ў Лукі ў радаводзе Хрыста пастаўлены Сымон, г.азн. Знак боскі. Акрамя таго Абул-Касім-Магамет патрапіў у продкі евангельскага Хрыста пад імем Касама-Зора-Бабеля, г.азн. Кузьмы Чужога Вавілону на пяцідзесятым пакаленні ад Адама.

Такім з’яўляецца генеалагічнае падабенства ў жыццяапісаннях «заснавальніка прававерʼя» і «заснавальніка праваслаўя».

Ды і іншых запазычанняў із новага запавету дастаткова шмат.

Так, адпаведна часоваму ўсшэсьцю «евангельскага настаўніка» на неба пасьля слупавання (пры гэтым ён зноў спусьціўся, жыў з вучнямі і потым канчаткова паляцеў на купал неба), мы бачым легенду пра ўсшэсьце на неба і «настаўніка прававерных», а ў паралель да канчатковага адлёту «Хрыста» знаходзім легенду, зацята трымаўшуюся на працягу ўсяго сярэдневечча сярод прававерных, што труна Магамета разам з яго целам была паднята анёламі за аблокі і будзе там вісець да агульнага «ажывання памёршых».

Ды і ў ідэалогіі аўтара Карана і аўтараў Евангелляў шмат агульнага.

Так перадусім вучэнне пра заканчэнне сьвету, пра ўсеагульнае ажыванне памёршых і пра жахлівы суд.

Прыкметамі блізкага заканчэння сьвету будуць і згодна з Каранам чыста апакаліптычныя зʼявы.

«*Калі,* – паведамляе Каран, – *выканаецца слова над нявернікамі, тады мы выведзем для іх зьвера із зямлі..*, (цалкам адпаведна Апакаліпсісу). *Яго царства наступіць у той дзень, калі затрубіць труба* (67.3). *Прагучыць першы трубны гук, паднімецца зямля і горы сутыкнуцца і патрэскаюцца* (69.17), *і напалохаюцца ўсе на нябёсах і на зямлі, акрамя тых, каго пажадае выключыць бог». «Уся зямля будзе жменяй пылу ў руцэ бога, а нябёсы будуць кніжным скруткам у ёй. Прагучыць труба другасна і ўсё, што на нябёсах і на зямлі, памрэ як забітае маланкай, акрамя тых, каго пажадае пакінуць жывым бог. Прагучыць яна яшчэ раз, і памёршыя паднімуцца, аглядаючыся навокал. Зямля асьвеціцца сьвятлом свайго валадара, будзе адкрыта кніга, прывядуцца прарокі і пакутнікі і будуць асуджаны справядліва* (39, 67-69). *Усе скажуць: «Гора нам! Хто падняў нас із нашых ложкаў*?».

Параўнаеце, чытач, усё гэта з Апакаліпсісам – і лепш усяго ў маім літаратурным перакладзе, змешчаным у маёй кнізе «Адкрыццё ў навальніцы і буры», агульнага значэння якой ніхто не зразумеў пры яе з’яўленні на свет, і вы самі пабачыце, што ўсе гэтыя беды цалкам і літаральна выпісаны адтуль.

А потым ідуць і евангельскія выявы, непасрэдна із павучанняў Езуса, толькі з лёгкімі ўдасканаленнямі.

«*Патрапіўшыя ў рай за свае справы*, – працягвае аўтар Карана, – *узвеселяцца з жонкамі сваімі ў цені, і лягуць на ложках. Там для іх прыгатавана садавіна і ўсё, што патрэбна. Мір вам! І будзе ім слова прывітання ад літасьцівага госпада іхнага* (36, 55-58).

«*А паўстаўшыя са злымі справамі – будуць кінуты ўніз галовай ў полымя* (27. 92).

«*Расторгнуўшаяся неба будзе чырвоным, як дубленая скура* (55, 37). *Яно расчыніцца, як вароты, горы ссунуцца з месца і будуць выглядаць міражом. Для ўхіліўшыхся ад праўды будзе прыстанкам геена палаючая, і не будзе ім у ёй прахалоды і ніякага іншага пітва, акрамя кіпячай і смярдзючай вады*» (78, 25).

Як усё гэта падобна на евангельскія ўяўленні пра рай і пекла! Потым аўтар дадае зноў прама із Апакаліпсіса:

«*Мы* (г.азн. бог) *скруцім неба, як пісар скручвае свой скрутак... Пасьля закона* (Майсея) *мы запісалі ў Псалтыры* (гэта азначае і Псалтыр ужо прызнаецца напісаным самім богам!), *што Справядлівыя прымуць у спадчыну зямлю* (21. 105). *Надыдзе дзень, калі неба стане як расплаўленая медзь, калі гара будзе як наскубаная поўсць, калі самы шчыры сябар не запытае пры спатканні пра здароўе свайго лепшага сябра. У той дзень парушальнік закона пажадае адкупіцца ад пакарання нават коштам свайго ўласнага сына, сваёй жонкі, свайго брата і родных, душэўна схільных да яго, коштам усяго, што толькі існуе на сьвеце, абы выратавацца самому. Але не! Пякельнае полымя пацягне яго да сябе*» (70. 8).

А вось і яшчэ, зноў словы евангельскага Хрыста, хаця і з дадаваннямі, што сведчыць пра больш позні час стварэння:

«*Калі ўразіць Уражваючы, тады вы падзеліцеся на тры часткі* (56. 4.): *стаячыя налева, стаячыя направа і стаячыя наперадзе.*

*Наперадзе – будуць набліжаныя да бога. Яны будуць сядзець у садах асалод, абапёршыся на сядалішчы ўпрыгожаныя каштоўнымі камянямі* (56. 16). *Вечна юныя падлеткі будуць насіць сярод іх кубкі, куфры і чаркі з напоем, ад якога яны не ап'янеюць, з садавінай на выбар, з мясам і птушкамі якіх пажадаюць. Чорнавокія, з ласкавым позіркам дзяўчыны, падобныя на каштоўныя пярліны будуць ім узнагародай за тое, што яны рабілі раней. Там яны не пачуюць ні марнаслоўя, ні падахвочванняў да злачынства, а толькі словы: мір! мір!* (56. 25).

*Стаячыя на правым боку будуць сярод лотасаў без шыпоў, сярод бананаў з шэрагамі пладоў, у шырока распасьціраючымся цені, сярод бягучай вады, сярод*

*шматлікай садавіны, якая ніколі не заканчваецца і ніколі не забараняецца. Яны будуць ляжаць на высокіх ложках з дзяўчынамі, створанымі асобным тварэннем, якім прызначана быць зноў і зноў цнатлівымі, каханымі сваімі чалавекамі, аднаго і таго ж* (юнага) *узросту. Яны будуць прыгатаваны для стаячых на правым боку, як для процьмы ранейшых, так і для процьмы будучых людзей* (56,26-39).

*А стаячыя на левым баку будуць сярод гарачага самума і кіпячай вады, у цені чорнага дыму. Не будзе ім ні прахалоды, ні ўцехі! Да таго часу яны ад усяго атрымлівалі асалоду, каснелі ў вялікай няпраўдзе. Яны казалі: няўжо мы ажывем пасьля таго, як станем косткамі і пылам, і мы, і нашы ранейшыя продкі? Адкажы ім: так! І ранейшыя, і больш позьнія, усе будуць сабраны да часу наканаванага дня! Тады вы, заблудзіўшыяся і веручыя хлусні, будзеце есьці плады дрэва цакум,ім вы будзеце напаўняць свае страўнікі і будзеце запіваць кіпячай вадой, як п'юць вярблюды пакутуючыя ад ненасытнай смагі».*

*Такімі будуць іхныя лёсы пад час суднага дня*» (56. 40-56).

Я ўжо даводзіў чытачу, што ўсё гэта толькі варыяцыі хрысьціянскага жахлівага суда і ажывання памёршых, пры гэтым уся ідэалогія тая ж самая, як і ў евангельскіх хрысьціянаў, толькі з невялікімі варыяцыямі «пра вечна чарнавокіх прыгажунь», ды пра дрэва «цакум».

А што ж гэта за дрэва? Вельмі горкае? Уявіце сабе, цалкам не!

Дрэва цакум, – паведамляюць нам падарожнікі па Аравіі, не вызначаючы яго батанічна, і да гэтага часу сустракаецца ў аравійскіх пустынях, асабліва ў Арэху і Альгаўры. Яго кветкі згодна з формай нагадваюць язмінавыя, плады падобныя на фінікі, салодкія і вяжучыя на смак, а із іхных костачак здабываецца масла якое ўжываецца для лячэння некаторых хвароб.

Дык чаму ж аўтар гэтага месца палохае ім грэшнікаў?

Відавочна таму, што ніколі не жыў у Аравіі, інакш ён не напісаў бы: «*плады дрэва цакум, як галовы дз'яблаў*» (37. 63); «*гэтая ежа будзе кіпець у жываце, як расплаўленая медзь* (44. 45)».

Такім чынам, значная частка вучэння Карана ўзята з ужо распрацаванага евангельскага вучэння, г.азн. не раней IX стагоддзя. Паглядзім зараз на некаторыя астралагічныя паведамленні, дапасуючыяся да часу ўяўляемага жыцця заснавальніка прававерʼя.

Нас запэўніваюць, што ў рэчаіснасьці ён меў найменне Бацька Сьветабуду Сын Бога Бацькі і Лёсу (Абул-Казем, сын Абдал-лаха і Аміны, па грэка-арабску[109]) і нарадзіўся ў 571 годзе ў «Мецы», і якраз пры злучэнні Сатурна і Юпітара ў сузор'і **Справядлівасьці** – Шалях. Гэта адбылося – запэўніваюць нас – пры ўсходнім (г.азн. эліна-сірыйска-ягіпецкім) імператары Юстыніяне-Заканадаўцу. Цалкам непісьменны паганяты вярблюдаў, заснавальнік ісламу, – як я ўжо паведамляў грунтуючыся на сведчаннях яго больш пазніх арабскіх біёграфаў, – пайшоў працаваць правадніком караванаў да заможнай купецкай удавы Хадыджы і адружыўшыся з ёю, якраз пад час пераходу Сатурна із Ільва ў **Панну** і пры знаходжанні Юпітара ў **Скарпіёне** (спрыяльнае спалучэнне для адружанняў згодна

[109] Ад жыдоўска-арабскага Аб – бацька; Казем, ці Касьма – ад грэцкага Космас (Κόσμος) сьветабудова; ад Абд-Ала – Бог бацька, і ад жыдоўскага АМН (אמן) – лёс, Амэн. Не перакладаючы гэтыя словы, ранейшыя гісторыкі вымусілі сваіх чытачоў лічыць, што гэта і было сапраўдным імем заснавальніка «богашанавання» (ізмаэліцтва). Цікава, што ў гэты ж час (заканчэнне VI і пачатак VII стагоддзяў жыў і Кузьма Індыкаплеўст (г.азн. індыйскі плавальнік), якому прыпісваецца кніга «Хрысьціянская тапаграфія» на грэцкай мове (у Монфакона «Colectio nova patrorum graecorum» (1706 года).

з старажытнымі ўяўленнямі!) у 595 годзе нашай эры пры новым эліна-сірыйска-ягіпецкім імператары Маўрападобным (Маўрыкіі па-грэцку)[110].

Параўноўваючы гэта з візантыйскімі падзеямі, мы бачым, што, калі ён яшчэ вадзіў караваны вярблюдаў па аравійскаму берагу, Марскі Сабака[111] (Фока па-грэцку) забіў імператара Маўрападобнага. Потым і Марскі Сабака быў забіты Геркулесам (Гераклам па-грэцку), які сеў на яго месца ў 610 годзе, і ў гэтым жа годзе, «Бацька сьветабуду», пры злучэнні Юпітара і Сатурна ў Вадаліве, прагрымеў у «Мецы» сваім першым прароцкім павучаннем, але без поспеху. Пасьля некалькіх іншых павучанняў пра адзінага бога з такім жа малым поспехам, ён, згодна з евангельскім выслоўем: «ніхто не можа стаць прарокам на сваёй бацькаўшчыне» – пераехаў са сваім сябрам Абу-Бекрам у 622 годзе (пры пераходзе Сатурна із Рака ў Ільва і пры Юпітары ў Вадаліве) у «Медыну» і адразу схіліў гэты горад да чыстага адзінабожжа са знішчэннем і забаронай усіх мастацкіх выяваў. Потым ён здзейсніў тае ж самае з дапамогай зброі у «Мецы» (пры злучэнні Сатурна і Юпітара ў Шалях) у 630 годзе, пасьля чаго памёр праз два гады ў «Медыне», 8 чэрвеня 632 года, пры Сатурне ў Скарпіёне і Юпітары ў Стралку, пакінуўшы пасьля сябе дзевяць жонак. Следам за яго сьмерцю намеснік (каліф) Абу-Бекр насуперак асноўнаму закону пашырэння культуры ад больш адораных прыродай краін да менш адораных, заваяваў і далучыў да безіконня частку Сірыі (633 г.), а яго наступнік нават адваяваў Ягіпет і Персію ў непараўнальна больш мацнай, але тады яшчэ ўшаноўваючай іконы Візантыі пры цэзару Геркулесу (Гераклііі), які памёр у 641 годзе... Але ўсе сведчанні пра гэтую заваёву, маючы нашмат больш пазняе паходжанне, мала праўдападобныя і створаны хутчэй усяго пасьля хуткага пашырэння арыянства ў гэтых краінах, што я буду даводзіць у VII томе «Хрыста».

Такой з’яўляецца далікатная канва, на якой вытканы астатнія дэталі жыцця заснавальніка ўсходняй богапачутасьці ці богашанавання (ізмаэліцтва).

Я не буду тут сумнявацца ні ў праўдзівасьці існавання цэзара Марскога Сабакі – Факі, – ні ў існаванні Маўрападобнага грэцкага кайзера (кесара), забітага ў сваю чаргу (!) кайзерам Геркулесам, ні нават у дакладнасьці іхнага храналагічнага размяшчэння па гадах нашай эры. Я толькі выкажу некалькі меркаванняў адносна самога Абул-Казіма, г.азн. у перакладзе: Бацькі Сьветабуду.

Не так даўно прафесар Дрэўс у Германіі, а за ім і некалькі іншых безстаронніх дасьледчыкаў давялі, што ніякага заснавальніка хрысьціянскай рэлігіі пад імем Езус пад час першага стагоддзя нашай эры не існавала, таму што ў надзейных грэцкіх і лацінскіх першакрыніцах маючых дачыненне да таго часу ніякіх указанняў на такога чалавека няма, а евангельскія ці апостальскія ўказанні з’яўляюцца не менш фантастычнымі, чым казкі «Тысяча і адной ночы», і таму яны непрыдатныя для таго, каб іх браць у якасьці фактаў для сур'ёзнай гісторыі. Але ці не тое ж самае мы бачым і ў дачыненні да паданняў пра Магамета? У якіх надзейных грэцкіх і лацінскіх першакрыніцах існуюць згадванні пра яго?

Мы ўжо пераканаліся, што там пра яго – пустэча. Відаць грэкі сёмага стагоддзя, пры жыцці якіх адбыліся ўсе гэтыя змены ў іхнай краіне, яшчэ не ведалі ніякага Абул-Казіма-Магамета, само імя якога з’яўляецца алегарычным.

---

[110] Вывожу гэтае імя ад грэцкага μαυρός (Маўрас) – маўр, чорны і εἰκός (эйкас) – выява, абраз; адсюль гішпанская назва арабаў – moros, адсюль жа італьянскае moresco, – марыск, і alla moresca – згодна з маўрытанскім густам.

[111] Φώκη – марскі сабака.

Час здзяйснення ўсіх гэтых падзей, як я ўжо паведамляў, тут відаць вылічаны астралагічным шляхам: нарадзіўся гэты Бацька Кузьма ў «Мецы» якраз пры злучэнні Сатурна і Юпітара ў сузор'і Справядлівасьці – Шалях (571 г.); знішчыў у «Мецы» статуі багаў пры наступным злучэнні гэтых жа двух планет у Шалях (630 г.). Памёр праз два гады – пры Сатурне ў забіваючым Скарпіёне і пры Юпітары ў Стралку. Перайшоў із «Мекі» ў «Медыну» пры пераходзе Сатурна із Рака ў Ільва, і пачаў павучаць у Медыне – пры Юпітары ў дабрадзейным Вадаліве, першы раз адружыўся пры пераходзе Сатурна із Ільва ў Панну... Якія дзіўныя супадзенні! Абранне аравійскіх Медыны і Мекі, як цэнтраў пашырэння новай рэлігіі, пераможна лінуўшай на больш культурныя краіны, – як я ужо не раз выказваўся і не перастану паўтараць, – амаль такая ж няўдалая з геаграфічнага боку гледжання падзея, як і ўзвядзенне палестынскага Эль-Кудса ў званне Ерусаліма. Было б непараўнальна больш прыдатным для ўзнікнення легенды пра збяганне «Ўслаўленага прарока» балканскае старажытнае мястэчка Маке каля Цісы, прытоку Дуная, (адкуль паходзіць і назва Македонія, г.азн. Маке-Дунайская краіна), а для канчатковага месца збягання і для цэнтра пашырэння яго рэлігіі, з аднаго боку, на захад, аж да Гішпаніі, а з другога на Ўсход, аж да Сірыі, Ягіпта і Аравіі асабліва зручнай была б замест Медыны, ламбардзкая Мадэна. Але што ж тады застаецца ад наданага нам гісторыяй першапачатковага ўзнікнення ісламу на ўсходзе ў Аравійскай пустыні? Не больш чым і ад узнікнення месіянства і хрысьціянства на берагах Мёртвага мора! Атрымліваецца, што як быццам бы Майсей і Арон, Магамет і Абу-Бекр, Дыяклетыян і Арый – тыя ж самыя гістарычныя двайняты, легенды пра якіх распаліся на тры варыяцыйныя цыклы дзякуючы таму што распрацоўваліся ў розных краінах і на розных мовах, пад уздзеяннем розных аперцэпцый. І калі ў азіяцкіх богапачутых (ісламіцкіх) навукоўцаў – узнікненне арыянства храналагічна перамясьцілася замест пачатку IV стагоддзя на пачатак V, то гэта магло адбыцца таму, што Ўсход пад час сярэдневечча яшчэ не меў сваёй нацыянальнай гісторыі, і таму там лягчэй было перамясьціць храналогію наперад на 200 гадоў, чым перанесьці падзею на 1800 гадоў назад, як зрабілі іберы (г.азн. жыды-еўрапейцы) дзякуючы таму, што рымская і грэцкая гісторыя ўжо напоўніла класічнымі міфамі ўсе першыя стагоддзі да і пасьля пачатку нашай эры.

Каб хаця б неяк арыентавацца ў гэтым заблытаным пытанні, разгледзім спачатку некаторыя лінгвістычныя сляды.

Перадусім, адкуль паходзіць слова Яўропа? Відаць, яно мае падмурак ў абагульненні Іберыйскай паўвыспы з усім заходне-еўрапейскім кантынентам. Ібер, Івер, Эвер, габрэй, еўрапеец – усё гэта словы таго ж самага кораня і нават канчатак слова еўрапеец можна вывесьці із аб'яднання адзін з другім маўрытанскага Эвер і грэцкага опс (ώψ) – чало, твар, выгляд.

Адкуль паходзіць імя чалавека дачкі Бацькі-Светабуда, Фацімы, намесьніка (халіфа па-арабску) Алі[112] «першага мусульманіна», які лічыцца забітым у студзені 661 года ў месапатамскай Куфе, нікчэмнай вёсачцы, куды і зараз шыіты ходзяць ушаноўваць яго ўяўную магілу і адкуль, відаць дарэмна, лічыцца выйшаўшай куфічная арабская пісьмовасць, ужываўшаяся да X стагоддзя нашай эры?

[112] Алі-бэн, – Абу-Талеб.

Фаціма азначае – карміцелька, выгадаваўшая грудзьмі дзіцёнка. Імя Алі тое ж самае, што і наша Ілля, яно паходзіць ад жыдоўскага АЛ-ІЕУ (אל־יהו) – г.азн. бог-Іеве, бог-Іевіе, бог Іовіе-Патэр (Юпітар), а згодна з сэнсам бог-Грамабой.

Што ж тут выходзіць? «Першым мусульманінам, г.азн. заснавальнікам магаметанства з'яўляецца цалкам не «Магамет», а чалавек яго дачкі на імя Бог... І гэты бог лічыцца нават не першым, а чацьвёртым намесьнікам Бацькі-Светабуда.

Але пойдзем яшчэ і далей па гэтых лінгвістычных слядах. Алі і Ілія, як мы толькі-што бачылі, адно і тое ж імя ў двух разнамоўных вымаўленнях. Але ад таго ж кораня паходзіць і слова Іліён, г.азн. горад прарока Іліі, як звалася міфічная Троя. І, акрамя таго, мы ведаем, што і палестынскі Эль-Кудс, які хрысьціянамі лічыцца за Ерусалім, насамрэч сярэднявечнымі пісьменнікамі называўся Эліа-Капіталіна, г.азн. Іліён Пануючы[113], ды і само слова Эль-Кудс з’яўляецца толькі пераіначаным жыдоўскім Элі-Кадэш, г.азн. сьвяты Ілія. Гэта азначае што і Іліяда, прыпісваемая Гамеру, на справе з’яўляецца паэмай, апяваючай нейкі вялікі паход у Эль-Кудс, для вызвалення запалоненай Персам (Парысам) Грачанкі (Алены па-грэцку).

Будзем і тут перадусім кіравацца лінгвістычнымі слядамі.

Сутнасць апавядання складаецца ў тым, што Турак (па-старагрэцку Перс, ці Парыс), выкраў Грачанку (Алену па-грэцку[114], якая была адружана са спартанскім (лацінскім) царом Народамагутным (Менелаем па-грэцку[115], і павёз яе ў Палестынскі Ерусалім, меўшым назву пад час сярэдневечча Іліён (Ἡλιόν – Эліа-Капіталіна)[116]. Народамагутны цар разам са сваім сябрам – Пераможцам шляху (Адысеем па-грэцку[117], ўвасабляючым венецыянскае мараплаўства) выпраўляецца разам са сваімі віцязямі вызваляць яе із рук Турка, і пасьля розных прыгод здабывае гэты горад, як здабыў яго Готфрыд Бульёнскі ў 1099 годзе разам са сваімі рыцарамі.

Само сабой зразумела, што цяжка атаясаміць, хто із яго рыцараў апісаны пад імем Ахілеса, хто пад імем Аякса, і толькі адносна «брата Менелая – Агамемнона», коранем, імя якога служыць слова агамас – неадружваемы, можна здагадвацца, што гэта быў намеснік папы пры крыжаках, біскуп Адгемар Мантэйскі.

Гэтыя ж падзеі, перанесеныя на славянскую глебу, спарадзілі быліны і пра Іллю Мурамца, складаючыя ў сваёй савакупнасьці не меншую Іліяду, а таксама і паданні пра Траяна, імя якога сугучна з Трояй (Τροία), ад Трос (Τρῶς) – траянец, што ў сваю чаргу сугучна з Турас (τοῦρος), ці Таўрас (ταῦρος) – тур, бык, адкуль і назва Крыма Таўрыда. Прыметнік таўрыкос (ταυρικος), ці турыкос – належачы туру, – цалкам сугучны са словам турак, увайшоўшым амаль без змянення ва ўсе еўрапейскія мовы, і гэта мімаволі наводзіць на выснову, што яно і ўзнікла ад занятку анаталійцаў гадоўляй буйнага рагатага быдла ці магчыма ад ушанавання сузор'я Тура – Цяляці.

Так лінгвістычныя сляды, пачаўшыся на гістарычнай полі, паблізу Магамета, прывялі нас нечакана да Іліяды Гамера, але гэта амаль заўсёды так бывае, таму што гістарычнае поле дасьледавання, у сваёй пачатковай вобласьці, моцна занесена снегам і бязладна затаптана народамі.

---

[113] Гл. «Хрыстос», кн. II.

[114] Ελένη – Алена, грачанка, ад Ελλάς – Грэцыя. Спачатку было Ηλένη.

[115] Μενέλαος ад Μένας моц, магутнасць і λαός – народ.

[116] Ад Эліяс – бог Сонца, біблейскае Элаім ці проста Эл. А сярэднявечная назва палестынскага Эль-Кудса (псеўда-Ерусаліма) – Эліа-Капіталіна тое ж самае, што Іліён Пануючы.

[117] Ад όδός – шлях і ησσάω – перамагаю.

Вернемся ж назад да нашай пачатковай кропкі, да намесьніка Бацькі Сьветабуда духоўнаму і свецкаму правадыру Алі. Хаця яго імя па-жыдоўску і азначае проста бог, але паходзіць без сумневаў ад дагістарычнага солнцашанавання і прыйшло да магаметанаў ад грэкаў.

Халдэйскія словы Ал, Эл і грэцкае Эліас – Сонца – аднаго і таго ж кораня. Але ад грэцкага Эліас паходзіць і імя Юлій, а таму і першага «намесьніка» богапачутых мы можам сустрэць у грэцкіх пісьменнікаў пад імем Юлія, ці Юльяна, і тады легенда пра тое, што Алі быў забіты ў Месапатаміі, атрымлівае падцверджанне ў грэцкім паданні, што Юльян, званы хрысьціянскімі пісьменнікамі «адрачэнцам», сапраўды быў забіты падчас паходу ў Месапатамію.

Так усё нас прыводзіць да гіпотэзы пра жыдоўскае паходжанне ізмаэліцтва і да таго, што яно, як і ізраэліцтва, з’яўляецца толькі другім адгалінаваннем арыянства, але, відаць, ізмаэліцтва старэй за якавіцтва-юдаізм, ды і сямейнае ўладкаванне прававерных, як падмурак якой бы то ні было грамадзкасьці, ва ўсякім разе бліжэй да сямейнага ўладкавання біблейскіх цароў, чым побыт сучасных адзінажонцаў-жыдоў.

Усё, што нас тут цікавіць, гэта вызначыць момант, калі ізмаэліцтва ператварылася ў магаметанства? І шэраг меркаванняў прыводзяць нас да таго, што гэтая падзея адбылася не раней, чым Магамет Газнійскі заснаваў сваю вялізную Азіяцкую імперыю.

Пяройдзем жа і да гэтага пытання.

# Глава VIII.

## Храналагічныя вехі сярэднявечнага агаранства.

Бяручы да ўвагі асаблівую важнасць заўсёды мець пры чытанні гістарычных дасьледаванняў перад вачамі «храналагічныя вехі» свайго пытання ў выглядзе паслядоўнага спісу валадароў, грунтуючыся на якіх датуюцца ўсе сярэднявечныя першакрыніцы, я даю тут, як хранаграфічную мапу часу, рэестр прававерных духоўных валадароў Месапатаміі, склаўшы яго галоўным чынам грунтуючыся на А. Крымскім, але са сваімі характарыстыкамі.

Наколькі гэтыя вехі праўдзівыя?

Мне здаецца, што іхная гістарычная каштоўнасць блізкая да нуля грунтуючыся ўжо на адным тым, што ўсе паведамленні пра іх атрыманы не із Месапатаміі.

У лепшым выпадку мы маем іх із аддаленай ад яе Яўропы, із размешчанай на другім канцы сьвету Андалузіі, і не раней XVI стагоддзя, а ў горшым выпадку – із Брытанскай Індыі. Там у XIX стагоддзі шмат наадкрываў літаратурна-вытанчана напісаных і падрабязных арабскіх кніг пра прарока Магамета і пра першых халіфаў ужо вядомы чытачу доктар усходазнаўства Шпрэнгер, гэты Паджыа Брачыаліні XIX стагоддзі, на якім зараз і грунтуецца ўся гісторыя і храналогія сярэднявечнага ісламу.

І вось мы бачым наступную, вельмі дзіўную акалічнасць, якую я ўжо пазначаў і раней.

1. Ні ў Багдадзе, ні ў Масуле, ні ў Басры, ні ў астатняй, большай часткай пустыннай няплоднай Месапатаміі, сапраўднай радзіме арабаў-качэўнікаў, ніякіх рукапісаў, ні гістарычных, ні навуковых, ні белетрыстычных, не было знойдзена

ніводнага, і не існуе ніякіх мясцовых паведамленняў пра тое, каб яны там некалі існавалі.

2. За тры дзевяць зямель ад яе, у трыдзясятым царстве знаходзіцца на Іберыйскай (г.азн. у перакладзе: жыдоўскай) паўвыспе знакамітая пад час сярэдневечча сваёй жыдоўска-маўрытанскай культурай Андалузія (Vandalicia), куды пагэтаму мы і павінны дапасаваць усе паведамленні пра вандалаў сярэдневечча, а не ў адну Вандэю, на поўнач ад Іберыі.

Андалузія размешчана на абодвух берагах услаўленай у сярэднявечнай паэзіі ракі Гвадалквівір, якую апеў нават і ў нас Пушкін у сваім вершы з прыпевам:

Начны зефір струменіць эфір,
Шуміць-бяжыць Гвадалквівір.

І захапленне паэтаў перад Андалузіяй цалкам зразумела: яна з'яўляецца не толькі цэнтрам сярэднявечнай карэйшыцкай культуры, але і радзімай галантных рыцараў, паэтаў, казачнікаў і мараплаўцаў. Якая ж яна па свайму нацыянальнаму складу?

На прыканцы XIX стагоддзя ў ёй жыло каля $3^1/_2$ мільёнаў жыхароў маўрытанска-гішпанскага тыпу і ў тым ліку некалькі тысяч цыган, а пра яе знакамітыя гарады – Сявіллю, Кардову, Грэнаду, Малагу, Кадыкс з іхнай выдатнай сярэднявечнай культуры, цалкам як у казках із «Тысячы і адной ночы», – мне няма патрэбы нагадваць літаратурна-адукаванаму чытачу. Інтэлігенцкімі, і патрэбнымі для мараплаўцаў, міжнародна-гандлёвымі, а таму і літаратурнымі мовамі ў ёй былі пад час сярэдневечча (верагодна і пазьней) дзве гаворкі адной і той жа, відаць прыйшоўшай із Ягіпта, мовы: біблейская гаворка, якая называецца намі жыдоўскай (іберыйскай), і карэйшыцкая, называемая намі арабскай (таксама ад кораня ібер-эрэб). На першай гаворцы напісана Біблія, а на другой напісана збольшага папоўненае больш пазнімі ідэямі і шмат у чым скарочанае яе выкладанне – Каран (пры гэтым як Біблія, так і Каран у перакладзе азначаюць адно і тое ж: Чытанне).

Вось тут-та ў Іберыі, у старажытных кнігасховішчах Кордавы і іншых гішпанскіх горадоў, і былі знойдзены ўсе першакрыніцы так званай «арабскай» літаратуры, большай часткай у адзінкавых на ўсім сьвеце рукапісах (што заўсёды вельмі дзіўна), і збольшага ў якасьці цытат із нейкіх папярэднічаўшых манускрыптаў, быццам бы прыйшоўшых у Андалузію із чароўных царстваў далёкага і таму таямнічага Ўсходу...

А тым часам на гэтым Усходзе і да гэтага часу ніхто пра іх і не падазрае, за выключэннем тых, хто прачытаў пра такія свае рукапісы із нашых еўрапейскіх кніг, самаўпэўнена паведамляючых пра «вялікую мінулую культуру Ўсходніх краін».

3. За тры дзевяць зямель, у трыдзясятым царстве па другі бок ад пустынь той жа псеўда-шчаслівай Аравіі і ад амаль не менш нярадасных мясцовасьцей Месапатаміі, – дзе на адлегласьці некалькіх кіламетраў ад берагоў Еўфрата на амаль бязлюдных раўнінах з камяністай ці пясчанай глебай, паблізу ад рачных берагоў з іхнымі зараснікамі, бегаюць дзе-нідзе дзікія аслы, стравусы і антылопы, ды рыкае па начах леў, – знаходзіцца радзіма другіх нашых першакрыніц па чароўнай гісторыі Аравійскай паўвыспы і суседніх з ім, таксама нічога не падазраючых пра сваю старажытную культуру, мясцовасцей. Гэтая першакрыніца – паўночная Індыя з яе вялікімі і арыгінальна-культурнымі гарадамі, Дэлі, Лагорам, Хайдэрабадам і іншымі на берагах Інда і яго прытокаў.

Там, у 1001 годзе нашай эры, султан Магамет (звычайна называемы Махмудам) пашырыў – кажуць нам – рэлігію ісламу, а з ёю і яго мову, як адзіную

літаратурную і міжнародную. Толькі з гэтага Магамета і пачынаецца рэчаіснае магаметанства ў Паўночнай Індыі, ды і само слова «магаметанін» (ва ўсякім разе тут) павінна паходзіць ад імя гэтага Магамета-Махмуда, званага Газні, г.азн. Заваёўнік, хаця газнійскім, пераконваюць нас, ён празваны таму, што быў родам із афганістанскага мястэчка Газні. Але ці не прасьцей выказаць здагадку, што гэтае імя з'яўляцца злёгку пераіначаным арабскім словам ***газі*** – заваёўнік?

Ужо грунтуючыся на адным тым факце, што магаметанства з'явілася ў Індыйскім Пенджабе, ды і ў прылягаючым да яго Афганістане толькі напачатку XI стагоддзя нашай эры, здавалася б, цяжка чакаць, што ў ім мы знойдзем самую вялікую крыніцу для твораў гісторыі першых намесьнікаў (каліфаў) пустыннай Аравіі, размешчанай, як я ўжо паведамляў, за тры дзевяць зямель, у трыдзясятым царстве як адсюль, так і ад Андалузіі. І аднак жа якраз тут нямецкі арабіст доктар Шпрэнгер, гэты, як я ўжо сказаў, Паджыо Брачыяліні XIX стагоддзя, «знайшоў» цэлы шэраг выдатна і літаратурна напісаных на добрай карэйшыцкай мове біяграфій Магамета і першых «намесьнікаў» прарока і прадаў іх за вялікія грошы свайму знаёмаму, ангельскаму арабісту сэру Вільяму Мьюру (William Muir), а таксама і ў розныя еўрапейскія музеі. І толькі гэтыя «знаходкі», згодна са сведчаннямі ўсіх арабістаў, «паставілі гісторыю першых гадоў ісламу на сучасную нам вышыню».

Але ці праўда «знаходкі» Шпрэнгера больш праўдзівыя, чым класічныя знаходкі Паджыо Брачыяліні? Ужо бяручы да ўвагі адну толькі іхную лакалізацыю ў Індыі, такую аддаленую ад месца апісваемых падзей, дзе магаметанства да таго ж і з'явілася толькі праз 500 гадоў, атрымліваецца, што шпрэнгеравы першакрыніцы магаметанства яшчэ менш праўдападобныя, чым паджыянскія першакрыніцы старажытных лацінскіх класікаў.

З такімі перакананнямі я і прапаную чытачу гэтыя храналагічныя вехі нашай сучаснай гісторыі сярэднявечнага ісламу ў паўднёва-заходняй Азіі, якія могуць выявіцца проста вехамі андалузскіх памылак з дадаткам твораў гайдарабадзкіх містыфікатараў, спекуляваўшых на шчодрасьці ангельскіх лордаў і магнатаў, плаціўшых за кожную такую іхную «знаходку» вялізныя грошы.

## I. Легендарны перыяд.

Можна сказаць амаль з поўнай упэўненасьцю, што ў гэты час яшчэ не было ні Карана, ні паданняў пра Магамета, а пашыралася адно агаранскае арыянства, якое потым і было кааптавана прававерʼем, тым больш, што хрысьціяне пазьней ахвотна атаясамлялі арыян з ізмаэлітамі.

А. Міфічныя «намесьнікі» са сталіцай у Медыне (каліфы «праўдзівага шляху»):

(Ілжывыя вехі)

| | |
|---|---|
| Абу-Бекр | 632-634 |
| Амар | 634-644 |
| Асман | 644-656 |
| Алі | 656-661 |

Б. Легендарныя Амеяды – нашчадкі Амайі (са сталіцай у Дамаску).

(Сумнеўныя вехі)

1. Адгалінаванне, нашчадкаў Абу-Саф'яна:

| | |
|---|---|
| Маавія I, сын Абу-Саф'яна, са сваім усходнім суваладаром Зіядам пашырае агаранстваў Сірыі. | 661-680 |
| Іезід I (сын Маавіі I) | 680-683 |
| Маавія II (сын Іезіда I) | 683 |

2. Новае адгалінаванне – мерваніды: (Сумнеўныя вехі)

| | |
|---|---|
| Мерван I (дзядзька Ізіда I) | 683-685 |
| Абдал-Малік (сын Мервана I са сваім усходнім суваладаром Хаджажам) | 685-705 |
| Валід I (сын Абдал-Маліка) | 705-715 |
| Салейман (другі сын Абдал-Маліка) | 715-717 |
| Амар II Святоша (пляменнік Абдал-Маліка) | 717-720 |
| Іезід II (трэцці сын Абдал-Маліка) | 720-721 |
| Хішам (чацьвёрты сын Абдал-Маліка) | 724-743 |
| Валід II, «стралок Чытання» (унук Абдал-Маліка, сын Іязіда II) | 743-744 |
| Іезід III (другі ўнук Абдал-Маліка, сын Валіда I) | 741 |
| Ібрахім (брат папярэднічаўшага) | 744 |
| Мерван II, Устойлівы Асёл (дзядзька двух папярэднічаўшых) | 744-750 |

B. Першыя абасіды – нашчадкі Абаса (са сталіцай у Багдадзе). (Вельмі сумнеўныя вехі)

Абдул-Абас пашырае (агаранства) у Месапатаміі (Іраку) і робіць сваёй сталіцай Багдад).

| | |
|---|---|
| Абдул-Абас Сафах, г.азн. «Кровапралівец», «дзядзька прарока Магамета» | 750-754 |
| Мансур | 754-775 |
| Махдый | 775-785 |
| Люты Хадый | 785-786 |
| Гарун-аль-Рашыд (праслаўлены апякун паэтаў і літаратараў. Сучаснік Карла Вялікага, і як быццам бы спісаны з яго андалузскімі літаратарамі маўрытанскага перыяду з перанясеннем месца падзей із Ахена ў Багдад) | 786-809 |
| Амін | 809-813 |
| Мамун (сябар навукоўцаў і валяшанаючых філосафаў) | 813-833 |
| Матасым | 833-842 |
| Васік | 842-847 |
| Матавакіль | 847-861 |

## II. Больш верагодны перыяд.

1. Аб-дэр-Рахман I (пры гэтым Рахман з’яўляецца толькі асобным вымаўленнем слова Romanus – Рымскі) засноўвае ў Гішпаніі ў 758 годзе агаранства ў Кордаўскай вобласьці, якая з 929 года афіцыйна тытулуецца намесніцтвам (па-карэйшыцку «Каліфатам», 929-1031 гг.).

2. У паўночнай Афрыцы, праз 30 гадоў Ідрыс, уяўляемы праўнук намесьніка Алі, засноўвае ў Марока алійскую тэакратычную дынастыю ідрысідаў (788-985), сталіцай якой лічыцца горад Тудга. Астатняя, больш блізкая частка берага Афрыкі (Туніс і інш.) да яе не належаць, і намесьнік Аглаб робіцца заснавальнікам у Кайруване агаранской дынастыі аглабідаў (800-909).

«Звычайна, – выказваецца А. Крымскі, – культуру ісламітаў называюць «арабскай», таму што органам разумовага жыцця для ўсіх гэтых народаў зрабілася арабская мова. Таму і кажуць: «арабскае мастацтва», «арабская навука» і гэтак далей, але па-сутнасьці арабская мова не больш як абалонка. Так званае «арабскае мастацтва», «арабская навука» былі рознымі ў розных абласьцях зямнога шара. У Персіі яны былі спадчынай ранейшай пярсідзкай культуры (якая, як вядома, шмат што запазычыла із Грэцыі). А ў заходне-азіяцкіх абласьцях і ў Ягіпце мы назіраем пад час сярэдневечча развіццё рэштак візантыйскай культуры, падобна таму як у паўночнай Афрыцы, Сіцыліі і Гішпаніі бачны сляды культуры рымскай і рымска-

гішпанскай. Ніякай аднастайнасьці ў іх незаўважаецца, калі толькі выключыць злучаючае іх звяно – карэйшыцкуй мову».

Немагчыма не пагадзіцца з гэтым разважаннем А. Крымскага і таму адзіным дадаткам, які мне даводзіцца тут зрабіць, гэта толькі лагічная выснова із маіх геаграфічных і этнаграфічных меркаванняў, а таксама і з таго гістарычнага факта, што «магаметане» былі адлучаны ад Усходняй Хрысьціянскай царквы толькі ў траўні 1180 года (г.азн. праз 80 гадоў пасьля Магамета Заваёўніка (Махмуда Газні), сапраўднага заснавальніка каранічнага магаметанства, і прытым адлучаны толькі пры вялікім супраціўленні візантыйскага імператара Мануіла. І выснова із гэтага факта складаецца ў тым, што калі «магаметане» не былі адлучаны да 1180 года, то гэта азначае што і ўзніклі яны не задоўга да таго часу.

А таму і тыя, каго ў нашых гістарычных першакрыніцах называюць то сарацынамі (ад слова «сарак» – намесьнік), то агаранамі і ізмаэлітамі, то арабамі (і хутчэй не згодна з найменнем Аравіі, а пераінчваючы слова іберы-ірэбы-арабы), былі проста сярэднявечнымі перайначваннямі арыян, адметнай прыкметай якіх быў не Каран, а толькі «хадж», г.азн. хаджэнні для ўшанавання аскепкаў мекскага метэарыта. І гэтаму ўяўленню адпавядае іх асноўная дзейнасць.

Мірныя стасункі з суседзямі дазволілі агаранам пры абасідах выпрацаваць выдатны замежны паменны гандаль. З Кітаем яны стасаваліся праз Туркестан сухім шляхам, а морам праз Індыйскі архіпелаг. З волжскімі балгарамі і Руссю яны мелі спалучэнне праз Хазарскае царства. Яны гандлявалі па ўсёй паўднёвай Яўропе і па ўсходніх берагах Афрыкі (адкуль імі вывозіліся слановая костка і негры).

Маўрытанскія камерцыйныя тэрміны і да гэтага часу існуюць у сусветным ужыванні (такімі з’яўляюцца словы: тарыф, аварыя і г.д.). Купец і прамысловец – галоўныя героі агаранскіх казак. Іхныя высокапастаўленыя асобы, вайскаводы і навукоўцы, у адрозненні ад аравійцаў, не саромеліся дадаваць да сваіх тытулаў ні найменне Атар (маскатэльшчык), ні Хэйяг (кравец), ні Джаўхарый (ювелір) і інш.

Толькі «пры абасідах» – паведамляюць нам, – насуперак паданням пра старажытна-пярсідзкае царства, – паўстала «нацыянальнае» ўсведамленне персаў, дзякуючы іхнаму рэлігійнаму адасабленню і пры багдадзкім халіфе Мамуне (813-833), нягледзячы на яго персафільства, царкоўны сепаратызм Персіі выявіўся ў заснаванні дынастыі тахірыдаў у Харасане (821-873). Дзякуючы гэтаму Баўгарскі «намесьнік» (Каліф) Матасым (833-842) засноўвае, – кажуць нам – гвардыю цюркаў і вольнаадпушчаных наймітаў, на якую мог больш спадзявацца, чым на звычайных падданых.

А сын Матасыма Матавакіль (847-861) дзеля ўмацавання сваёй улады імкнецца з гэтай жа нагоды набыць сабе падтрымку памнажаючы суніцка-агаранскае сьвятарства. Пачынаючы з яго і адзначаецца гісторыкамі пераход улады да цюркаў, г.азн. ушаноўваючых сузор'е Цяляці (ад ταυρός – тур, цялец, бык).

Пасьля Матавакіля пачалося дзесяцігоддзе, на працягу якога «цюркі» – паведамляюць нам – пазбавілі пасады і ўзвялі ў Іраку пяцярых «намесьнікаў», імёнамі якіх – паведамляюць нам – былі:

| | |
|---|---|
| Мантасыр | 861-862 |
| Мастаін | 862-866 |
| Мотаз | 866-869 |
| Махтадый | 869-870 |
| Матамід (з энергічным суваладаром братам, намесьнікам Ірака Мавафакам, памёршым у 891) | 870-892 |
| Матадыд | 892- 902 |

| | |
|---|---|
| Мактафій | 902-908 |
| Абалах ібн-Матаз «халіф аднаго дня», выбітны паэт-лірык, але ён адразу быў пазбаўлены пасады 17 снежня | 908 |
| Мактадыр (ён перадаў усю сапраўдную ўладу ў рукі цюркскага правадыра, які яго ўзвёў на пасаду) | 908-932 |



Мал. 100.
Каірскі храм адзінаму богу і яго наваколлі.



Мал. 101.
Тыпы сучасных каірцаў. Вытворчасць розных вырабаў із дрэва і слановай косткі.



Мал. 102.
Горад Алжыр, узнікшы толькі ў Х стагоддзі нашай эры. Заваяваны французамі ў 1830 годзе і зараз напалову-еўрапейскі горад.





Мал. 103.
Тыпы сучасных каірцаў. Гандляр садавінай і гандляр фруктовым напоем.

Так пачалося кіраванне майярдомаў («эміраў над эмірамі»), пры гэтым і ў візіры да намесьніка (Каліфа) быў прыстаўлены майярдомскі прызначэнец **ібн-Макле** – навуковец і каліграф.

Вось імёны гэтых «прывідных намесьнікаў» у Багдадзе.

| | |
|---|---|
| Кахыр | 932-934 |
| Радый | 934-940 |

| | |
|---|---|
| Матакый | 940-944 |

«У асобе гэтых наступнікаў Матавакіля намеснік (каліф) із заканадаўцы шырокай імперыі ператварыўся – пераконваюць нас – у князя невялікай Багдадзкай вобласьці». Але ці сапраўды некалі існавала гэтая «шырокая імперыя» са сталіцай у Багдадзе, ахопліваўшая сабой палову ўзбярэжжа Міжземнага мора? Ці не здаецца вам, як і мне, што Багдад у якасьці сталіцы для такой імперыі як быццам бы быў не вельмі прыдатным ні ў эканамічным, ні ў культурным і асабліва ў стратэгічным дачыненні? І ці не лепш лічыць сур'ёзнай гісторыю Ірана і Ірака толькі пачынаючы з IX стагоддзя нашай эры?

У такім выпадку развіццё агаранства пачалося б прыблізна такімі вехамі.

У Персіі, пасьля Таірыдаў (821-873) мы бачым чатыры самастойныя дынастыі: сафарыды (867-903 гг.), саманіды (875-999 гг.), газневіды (962-1186 гг.), а ў Месапатаміі пачынаючы з 847 года пануюць цюркі, г.азн. прыхільнікі цяляці.

Ягіпет разам з Сірыяй знаходзіўся пад уладай тулунідаў (868-905), але пасьля падзення тулунідаў абедзьве гэтыя краіны на працягу 30 гадоў былі намінальна пад кіраваннем абасідзкіх намесьнікаў, а на самай справе іх цюркскіх «эміраў над эмірамі». Але гэта не магло доўга працягвацца грунтуючыся на геаграфічных умовах і каля 935 года Іхшыд засноўвае агаранскую дынастыю (935-969) у Ягіпце. З таго часу ніводная вобласць на захад ад Еўфрата не падначальваецца ўладзе багдадзкіх каліфаў, ды і Мека з Медынай таксама перайшла пад уладу іхшыдаў.

Але правы багдадзкіх намесьнікаў, як духоўных валадароў, намінальна прызнаюцца ўсюды. Сярод агаранаў (але яшчэ не магаметанаў) выбівалася, як і раней, правінцыйная манета з імем абасідзкіх халіфаў, і іх згадвалі пры грамадзкіх малебнах. Не рабілася гэтага толькі на крайнім захадзе – у Гішпаніі і Марока, дзе багдадзкіх каліфаў не лічылі законнымі.

Каля 864 года шыіцкая секта ізмаэлітаў ператварылася ў магутную палітычную сілу, асабліва адна із яе галін – карматы. У 909 годзе карматы змаглі заснаваць у паўночнай Афрыцы сярод бербераў дынастыю Фатымідаў (909-1171), якая ў 969 годзе забрала ў іхшыдаў Ягіпет і дамаскую Сірыю і абвясьціла там фатымідзкае духоўнае «намесніцтва» (каліфат), (названы так – запэўніваюць нас – у гонар Фацімы, міфічнай дачкі прарока Магамета). Уладу Фатымідзкага каліфата прызнала і паўночная (Алепская) Сірыя з яе дынастыяй Хамданідаў (929-1003).

А дзякуючы таму што і ў Гішпаніі амейяд Абдэррахман III таксама паспеў каля таго часу (929 г.) прыняць тытул «намесьніка», то ў IX стагоддзі мы бачым адразу тры агаранскія намесьніцствы: Ягіпецкае (Каірскае), Кордаўскае і Багдадзкае.

У заходняй і паўднёвай Персіі ў гэты час паднялася шыіцкая і вальнадумная дынастыя бавейхідаў, аддзяліўшаяся ад саманідаў у 930 годзе; з 945 года бавейхіды, захапілі Багдад, і валодалі ім больш за сто гадоў, павінна быць з тытулам султан. Там намінальнымі каліфамі былі:

| | |
|---|---|
| Мастакфій | 944-946 |
| Маты | 946- 974 |
| Тайй | 974- 991 |
| Кадзір | 991-1031 |
| Каім | 1031-1075 |

І менавіта ў гэта час на ўсім азіяцкім захадзе пачалася новая эпоха гістарычнага жыцця.

Цюркскі султан Махмуд-Магамед-Газні (998-1030), пасьля пагаднення з цюркамі Туркестана засноўвае вялізны султанат, далучуўшы да яго Афганістан і паўночную Індыю, і ўсюды пашырае відавочна толькі нядаўна перад гэтым створаны Каран, а потым цюркі (пад імем сельджукаў) пачынаючы з 1036 года прыступаюць да далейшых заваёваў пад сьцягам Карана. У 1055 годзе правадыр цюркаў-сельджукаў Таргулбек заехаў у Багдад, у 1058 годзе ўрачыста прыняў ад каліфа Кайма інвестытуру і атачыў яго вонкавымі знакамі павагі. **Так сярэднявечныя агаране, прыхільнікі метэарытных аскепкаў, пачынаючы з часоў Магамета Заваёўніка пачалі звацца магаметанамі, і былі пад гэтым імем ададзены ў 1180 годзе анафеме**.

Пасьля Кайма (памёр 1075), яго наступнікамі былі:

| | |
|---|---|
| Мактадый | 1075 –1094 |
| Мастазхір | 1094-1118 |
| Мастаршыд | 1118-1136 |

Усё яны жылі ў матэрыяльным дастатку і павазе, як прадстаўнікі мусульманскай царквы. Потым пачынаючы з 1095 года ў якасьці супраціўлення гэтаму напору магаметанства надышла эпоха крыжовых паходаў, але і яна не закранула аддаленых месцаў Азіі. Паслабеўшы сельджукід Масуд дараваў Мастаршыду (1118-1135) для самастойнага свецкага кіраванні Багдад і вялікую частку Ірака. Гэтыя вобласьці засталіся і за яго наступнікамі, імёны якіх былі:

| | |
|---|---|
| Рашыд | 1135 –1136 |
| Мактафі | 1136 –1160 |
| Мастанджыд | 1160-1170 |
| Мастадый | 1170 –1180 |
| Насыр | 1180 –1225 |



Мал. 104.
Танжэр, сталіца Марока ў XX стагоддзі.



Мал. 105.
Магазан, другі порт у Марока. Рынак жыдоўскага квартала.

А тым часам паспелі знікнуць два іншыя каліфаты.

Кардоўскі каліфат спыніўся сваё існаванне ў 1031 годзе, і застаўшыяся ўдзельныя агаранскія княствы, з нагоды цяжкага змагання з утварыўшымся пры Альфонсу VI хрысьціянскім Лявон-Кастыльскім каралеўствам, запрасілі да сябе ў 1086 годзе вельмі фанатычную і абскурантную марокскую дынастыю Альмаравідаў, якіх потым замянілі больш схільныя да філасофіі Альмахады (1130-1269).

А ў Ягіпце канец фатымідзкай дынастыі быў пакладзены Саладынам (1169-1193) і заснаваная ім ягіпецка-сірыйская дынастыя магаметанаў эйюбідаў (1169-1250) зноў пачала ўшаноўваць сьвятое імя багдадзкага каліфа.

А што ж у гэты час адбывалася ў самым Багдадзкім каліфаце?

Карыстаючыся слабасьцю распаўшайся сельджукскай дынастыі, энергічны каліф магаметанін Насыр (1180-1225) адважыўся пачаць змаганне з Махамедам ібн-Такаем, які вылучыўся замест сельджукаў, але не змог нічога з ім зрабіць.

Потым валадарылі:

| | |
|---|---|
| Захір | 1225- 1226 |
| Мастансыр | 1226-1242 |
| Мастасым | 1242-1258 |

Гэты Мастасым здаў Багдад войску Хулагу-хана 10 лютага 1258 года і праз 10 дзён быў пакараны сьмерцю з большай часткай асоб сваёй дынастыі.

Такім было заканчэнне абасідзкай дынастыі на багдадзкім каліфскім пасадзе, пратрымаўшыся крыху больш за паўтысячу гадоў. Але канчаткова яна не знікла нават пасьля падзення Багдада. Адзін із ацалеўшых багдадзкіх абасідаў збег у Ягіпет, і там мамелюкскі султан Бібарс (1260-1277 гг.), з мэтай мець для свайго султанату духоўную падтрымку, прызначыў яго на чыста-сьвятарскую пасаду «каліфа», пад імем Мастансыра (1261 г.) Нашчадкі гэтага ягіпецкага абасіда мелі па спадчыне той жа тытул і на працягу двух з паловай стагоддзяў заставаліся намінальна каліфамі пры ўсіх мамелюкскіх каірскіх султанах да таго часу, пакуль улада мамелюкоў не была скасавана асманскім заваёўнікам Сялімам I Грозным у 1517 годзе.

Такой з’яўляецца (за выключэннем нашай высновы, што агаранства перайшло ў магаметанства толькі з часоў Магамета-Заваёўніка каля 1000 года нашай эры, калі ўпершыню набыў пашырэннея Каран) артадаксальная схема напалову фантастычнай гісторыі прававерных дзяржаў на працягу ўсяго сярэдневечча.

Паглядзім жа зараз і на яе першакрыніцы.

# Глава IX.

## Візантыйскія паведамленні пра агаранскае прававерʼе. Аддзяленне магаметанаў ад візантыйскай царквы адбылося толькі ў 1180 годзе нашай эры, насуперак волі імператара Мануіла. Думкі з гэтай нагоды.

Дзіўную, хаця і цалкам псіхалагічна зразумелую дэталь заўважаем мы ў рэлігійнай літаратуры больш позьніх еўрапейскіх пісьменнікаў: па меры таго як у іхных вачах слабела хрысьціянская рэлігія і яны пачыналі аспрэчваць гістарычнае існаванне евангельскага Хрыста і шматлікіх старажытных сьвятых, – яны, насуперак гэтаму, выявіліся ў ролі адвакатаў гістарычнага існавання славутага прарока Магамета і апалагетамі яго годнасьцей.

Так Бэль і Вальтэр усхваляюць яго ў процівагу заснавальнікам хрысьціянскай рэлігіі ў такой моцнай ступені, што ён мог бы лічыць сябе цалкам задаволеным за ўсе тыя бэшчанні, якія сыпаліся на яго галаву ад артадаксальных хрысьціянскіх пісьменнікаў, калі б толькі пачуў такія ўхвалы. Нямецкі пісьменнік

Цыглер горача ўсхваляе правілы богашанавання прадпісваныя турэцкім катэхізісам і асабліва радуецца таму, што ў ім не адведзена такой шырокай прасторы для дзейнасьці дз’ябла, як гэта прынята ў хрысьціянскай веры. А Валь (Wahl) даходзіць нават да фанатызму ў сваіх ухвалах Магамету, змешчаных у яго нататках да перакладу Карана.

Да гэтага ж разраду прыхільнікаў Магамета патрэбна дадаць Ганье, Цюрпена і шмат каго із ангельскіх, нямецкіх і францускіх пісьменнікаў[118]. Больш умеранымі ў пахвалах яму выяўляюцца Прыдо, Клудый, Вейль і некаторыя іншыя, але і яны ні на момант не ўсумніліся ў гістарычнасьці гэтай асоба.

Так з першакрыніцамі ісламу і здарылася нешта процілеглае таму, што было з першакрыніцамі хрысьціянства. Тым часам як змест Евангелля і жыццяў сьвятых ужо быў зведзены да міфа, пры дасьледаваннях магаметанскіх рэлігійных кніг усе жадалі паказаць гістарычную каштоўнасць і праўдзівасць апісваемых падзей, за выключэннем толькі вельмі недарэчных паданняў, якіх і там вельмі шмат. Пры гэтым візантыйскім пісьменнікам надавалася вельмі мала даверу. Доктар Вейль, напрыклад, яшчэ адносна безстаронні дасьледчык іслама[119], не звяртае ніякай увагі на візантыйскія крыніцы, а Гас усе візантыйскія паведамленні пра іслам і яго заснавальніка называе смеццем. Сябар і пасьлядоўнік Неандэра, Уільман, выказваецца адносна паведамленняў пра іслам, перадаваемых Мікітай Ханіятам (памёр у 1216 г.) у яго «Скарбніцы Праваслаўя» (Θεσαυρός Ορθοδοξίας), што яны змяшчаюць грубыя пераіначванні магаметанскай веры, і ў якасьці доказу гэтага прыводзіць сведчанне Мікіты пра вучэнне мусульманаў, што ў раю як мужчыны-ісламіты, так і жанчыны-ісламіткі будуць мець па сорак дзетародных органаў і карыстацца імі ў юры безперапынна перад тварам бога, таму што бог не ведае ніякага сораму[120]. А гэта між тым выяўляецца цалкам праўдзівым. Нешта падобнае паведамляе нам і арабіст Г. З. Саблукоў. «Бог, – сведчыць ён грунтуючыся на апавяданнях знаёмых яму навукоўцаў мусульманаў, – надаў Мухамеду здольнасьці сарака мужчын, каб ён меў магчымасць сукупляцца часьцей і з вялікай колькасьцю жанчын, чым хто б там ні было ва ўсім сьвеце», і яго паведамленні ўзяты не із візантыйскіх, а непасрэдна із арабскіх крыніц і паказваюць на тое ж самае, што паведамлялі і візантыйцы. Ды і з рэлігійна этнаграфічнага боку гледжання тут няма нічога незвычайнага. Хіба ў індыйскай міфалогіі мы не бачым багаў з 40 галовамі і людзей з 40 рукамі і нагамі? Хіба сярэднявечныя аўтары не малююць нам грунтуючыся на Апакаліпсісе чатырох містычных жывёлаў «маючых шмат вачэй спераду і ззаду, навакал і каля»?

Дык чаму ж не выказаць думку, што ў рэлігіях юру, дзе практыкаваліся храмавыя вэрхалы, не магло існаваць меркавання, што ў іхных празелітаў у раю будзе па 40 дзетародных органаў «спераду і ззаду, навакол і каля»? Ужо із гэтага бачна, што сучасная навуковая крытыка не павінна пераймаць прыклад Вальтэра і ўсіх тых, хто маючы намер зняважыць Евангелле ставяць у прыклад яму Каран, а патрэбна паставіцца аднолькава да абедзьвюх кніг, як вынікаў не адзінкавай, а калектыўнай творчасьці шматлікіх пакаленняў. Гэта азначае, патрэбна шукаць адказ на пытанне не пра тое, хто іх напісаў, – а пра тое, хто быў іхным канчатковы

---

118 О. А. Курганаў: Нататка да пытанне пра візантыйскую супраць мусульманскую літаратуру. «Праваслаўны Суразмоўца», 1878 г. Кастрычнік.

119 Weil: Mohammed der Prophet und seine Lehre aus handschriftlichen Quellen und dem Koran geschopft und dargestellt. Stuttgart. 1843.

120 Quia Deus nullo pudore suffunditur.

рэдактарам, калі і дзе? І ў гэтым дачыненні адразу ж бачна, што Каран напісаны не Магаметам, ужо бяручы да ўвагі адно тое, што ён згадвае пра яго самога ўвесь час у трэццяй асобе.

Паглядзім жа без наданняў і на тое, што паведамляецца пра іслам у сярэднявечнай візантыйскай літаратуры. Са звычайнага боку гледжання, дапасуючага Каран да VII стагоддзя нашай эры, не можа перадусім не кінуцца ў вочы тут тая акалічнасць, што ўсе візантыйскія паведамленні пра «магаметанства» занімаюць вельмі нязначны аб'ём калі браць да ўвагі параўнальна працяглае палітычнае існаванне Візантыі побач з ім.

Для тлумачэння такой, са звычайнага боку гледжання цалкам немагчымай з'явы звычайна паказваюць, з аднаго боку, на ўнутраныя закалоты ў самой Візантыі, «меўшыя шкодныя наступствы для яе асьветы», а з другога – на забарону Магамета пад пагрозай сьмяротнага пакарання, «весьці якія б там ні было спрэчкі маючыя дачыненне да пытанняў веры». Але гэтае тлумачэнне вельмі наіўнае. У гісторыі рэлігій мы ўсюды бачым выпадкі, калі, нягледзячы на забарону весьці дыспуты па спрэчных пытаннях і пісаць з гэтай нагоды творы і не гледзячы на жорсткія пераследы за парушэнне гэтай забароны, усё ж вяліся вельмі жорсткія спрэчкі і ў вялікай колькасьці з'явіліся палемічныя творы. Не адпавядаюць рэчаіснасьці і ўказанні на заняпад асьветы ў Візантыі пад час сярэдневечча. Таму што нягледзячы на ўсе «ўнутраныя закалоты», у ёй усё ж з'яўляліся шматлікія творы па пытаннях, закранаючых унутраную сутнасць хрысьціянскага і юдэйскага вучэнняў і разнастайных ерасей. Дык чаму ж у іх няма нічога праўдзівага пра магаметанства?

Тут можа быць толькі адзін адказ: **таму што не было і самога магаметанства аж да таго часу, калі візантыйцы пачалі пра яго выказвацца**. Гісторыя сярэднявечнай Візантыі дае шэраг фактаў, бясспрэчна сведчачых пра тое, што яе навукоўцы, – як грэкі, так і славяне, былі знаёмы з арабскай мовай і маглі вольна чытаць арабскую літаратуру.

Я ўжо не буду згадваць пра розныя сярэднявечныя «слупы» хрысьціянства, творы якіх на дзевяноста дзевяць адсоткаў з’яўляюцца вельмі познімі апокрыфамі. Вось, напрыклад, Ян Дамаскін (685-755 гг.), дапасуемы да наступнага пасьля «Магамета» пакалення. Што ён пра яго ведае? Хаця ён, – пераконваюць нас усе яго біёграфы – займаў у Дамаску пасаду першага дарадцы пры халіфскім двары і таму, бясспрэчна ведаў як арабскую мову так і грэцкую. Вось Пятро, біскуп дамаскі, і другі Пятро, біскуп майюмскі, сучаснікі Яна Дамаскіна, якія, – запэўніваюць нас, – былі аддадзены на жорсткае пакаранне (адзін на высыланне, а другі нават пакараны сьмерцю) за тое, што пісалі супраць ісламіцтва і выкрывалі яго пасьлядоўнікаў... Але дзе ж іхныя абвінавачанні? Вось, – паведамляюць нам, – другі каліф із роду абасідаў, Абу-Джафар-аль-Мансур (754-775), прызначыў кіраўнікам Сірыі свайго дзядзьку Абдулу, а гэты Абдула, з мэтай спыніць якія б то ні было стасункі сірыйскіх хрысьціянаў з праваслаўнай Візантыяй, забараніў ім моднае да таго вывучэнне грэцкай літаратуры і загадаў навучаць усіх дзяцей выключна арабскай пісьмовасьці. Але менавіта дзякуючы гэтаму, паведамляюць нам, і пашырылася там хрысьціянства: набажэнскія кнігі хрысьціян, якіх не закрануў астракізм, былі перакладзены на арабскую мову, і царкоўныя настаўнікі пачалі навучаць на арабскай мове.

Я не ручаюся, вядома, за праўдзівасць падобнага загаду Абдулы, і нават за само яго існаванне ў той час. Наадварот, нашмат больш праўдзівыя першакрыніцы

паведамляюць нам цалкам адваротнае: узаемныя дачыненні хрысьціянаў і агаранаў былі, як пабачым, самымі найлепшымі.




Мал. 106.
Амаль поўная тоеснасць межаў Македонскай манархіі Аляксандра Вялікага з межамі ісламіцкай імперыі Магамета I (1413-1421) і Магамета II (1451-1481).

* * *

Само найменне магаметане невядома для сярэднявечнай візантыйскай ці лацінскай літаратуры. Усюды ісламіты, здзяйсняючыя хаджы ў Меку, завуцца агаранамі, ці ізмаэлітамі, ці сарацынамі. Першыя дзьве назвы вядомы і із Бібліі, а адкуль паходзіць слова сарацыны? Можна падумаць, што ад семітычнага СРК – намеснік, каліф, хаця звычайна кажуць, што яно атрымала свой пачатак ад жыдоўскага кораня сарак (שרק) – чырвона-буры, смуглы, як у Бібліі гаворыцца і пра гнядых коней (Захар. I, 8). Гэта тое ж самае, што па-грэцку маўры (μαυροί), г.азн. асмуглыя, адкуль паходзіць і назва мясцовасьці Маўрытанія, пад якой зараз маюць на ўвазе толькі Марока, Алжыр, Туніс і Трыпалі, а раней такое найменне пашыралася, напэўна, і на Гішпанію, і на Ягіпет.

Звычайна лічыцца, што маўры із Афрыкі каланізавалі Гішпанію і прынеслі ў яе культуру, але гэтая думка не адпавядае геаграфічным асаблівасьцям дадзеных краін. Цалкам наадварот. Культура на паўночна-заходні бераг Афрыкі магла пашырацца толькі із самой Гішпаніі, як больш забяспечанай як у металургічным, так і ў іншых дачыненнях. З лінгвістычнага ж боку гледжання можна дапусьціць, што жыдоўска-карэйшытская пісьмовасць была занесена ў Гішпанію із Ягіпта, але ужо пры поўным панаванні далёка-берагавога мараплаўства, і зноў жа не ўздоўж паўночнага берага Афрыкі, дзе гавані рэдкія, а толькі праз Грэцыю і Італію, пры

гэтым інтэлігентных рэлігійных перасяленцаў із Ягіпта магла завабіць у Італію больш за ўсё цудоўная пагалоска пра яе вулканічныя дзівы, а Гішпанія магла прыцягваць гандляроў дзякуючы сваім мінеральным багаццям.

Само сабой зразумела, што гэтыя асаднікі, хаця б яны і моцна распладзіліся, не змаглі б хутка асіміляваць сабе, грунтуючыся на гутаркавай мове, людныя краіны Італіі і Гішпаніі. Яны маглі ўтварыць у іх толькі гарадзкое насельніцтва, як і зараз у Марока, Алжыры і Тунісе, дзе вясковыя жыхары паўсюдна берберы, і адпаведна іхнаму найменню пад час сярэдневечча і ўся паўночная Афрыка, аж да Ягіпта, мела назву Берберыя, г.азн. варварская краіна.

Такім чынам, слова «смуглыя» (сарацыны-маўры), ужываемае ў сярэднявечных грэцкіх і лацінскіх хроніках яшчэ цалкам не паказвае, што пазначаемыя ім людзі мелі тады нейкае уяўленне пра сучасны прававерны Каран і, у прыватнасьці, пра Славутага прарока (Магамета – па-карэйшыцку).

Тое ж самае можна сказаць і пра іншыя сярэднявечныя назвы: агаране, ізмаэліты, увесь час ужываемыя для пазначэння тых жа «маўраў».

Згодна з агульнымі культурна-гістарычнымі меркаваннямі, просты народ і пад час сярэдневечча жыў яшчэ паўсюдна ў фетышызме, а інтэлігенцыя ў Паўднёвай Яўропе і ў прылеглых краінах Азіі і Афрыкі – у арыянстве, прызнаваўшым толькі вяршэнства бога Грамабоя, стваральніка неба і зямлі, жывёл, расьлін і чалавека, над усімі іншымі багамі і духамі, суіснаваўшымі спрадвеку з ім.

Усё гэта ўвесь час патрэбна мець на ўвазе пры чытанні сярэднявечных дакументаў, а не перакладаць, як зрабілі тэолагі Эпохі Адраджэння, а за імі і гісторыкі, словы: «сарацыны», «агаране», «ізмаэліты», «маўры», словам «магаметане» і навязваць ім веданне Карана і паданняў пра яго аўтара.

Вось, напрыклад, у «Кембрыджскай сіцылійска-сарацынскай хроніцы» (XI стагоддзе), у грэцкім тэксце напісана; ἐπίασαν οἱ χριστιανοί τά καράμια τῶν σαρακινῶν είς τό Ελλάδιν. Але замест: «забралі хрысьціяне караблі сарацынаў у Эладзе», гэтыя радкі перакладзены ў Амары: «забралі грэкі мусульманскія караблі ў Эладзе»[121]. І амаль паўсюдна так!

Зразумела, што ў чытача, які карыстаецца такімі перакладамі ўзнікае цалкам няправільнае ўяўленне, быццам бы назва мусульманін (ці магаметанін) ужывалася яшчэ пад час сярэдневечча. А калі гэтая няправільная тэрміналогія засвоілася і ўрасло ў мазкі няправільнае ўяўленне пра старажытнасьць Карана, то і мае высновы, што аравійскі Магамет – асоба міфічная, што Каран канчаткова адрэгаваны толькі падчас крыжовых паходаў, як адказ насоўваючымся на Ўсход прапаведнікам Евангелля, могуць здавацца фантастычнымі, нягледзячы на ўсе мае доказы, што Аравійская паўвыспа грунтуючыся на яе фізічных і геаграфічных асаблівасьцях не можа быць нічым, акрамя advertisement пасткі для сярэднявечнага вандруючага чалавецтва.

* * *

Для таго каб паказаць дачыненні паміж праваслаўнымі і агаранамі ў X стагоддзі нашай эры, я прывяду тут для прыкладу ўрыўкі із ліста грэцкага патрыярха Мікалая Містыка да крыцкага эміра ў 915 годзе[122].

*«Славутаму, самаму знакамітаму і шануемаму эміру Крыта* (піша мусульманіну (!) праваслаўны (!) патрыярх):

[121] Бяру гэта із кнігі А. А. Васільева: «Візантыя і арабы». 1902, II стар. 70.

[122] А. Васільеў: «Палітычныя дачыненні візантыйцаў і арабаў за час македонскай дынастыі» 1902.

*«Кожная зямная ўлада і падначаленне, сябар мой, залежаць ад падначаляння і ўлады звыш, і не існуе сярод людзей ніводнага валадара, які ўтрымае на зямлі ўладу дзякуючы ўласнай мудрасьці, калі валадар на нябёсах, цар і адзіны валадар, не пагадзіцца на яго ўладу»*.

*«Дзьве ўлады, сарацынская і рымская, перавышаюць усю ўладу на зямлі і блішчаць, як два вялікія сьвяцілы на нябеснай цьвердзі. І ужо дзякуючы аднаму гэтыму нам патрэбна ставіцца адзін да аднаго спагадліва і па-братэрску, і праз тое, што мы падзелены ладам жыцця, норавамі і рэлігіяй, не варта цалкам пазбягаць адзін аднаго»...*

*«Гэта і заахвоціла нас пісаць да вашай богам дадзенай улады і выправіць да яе амбасадараў»*.

«*Выспа кіпрыётаў* (Кіпр), *о шматслоўны правадыр сарацынаў, з тых часоў як кіпрыёты, заключыўшы з сарацынамі мір, сталі даннікамі вашай магутнасьці, да гэтага часу жыла пад аховай дамоваў, і ніхто із вашых продкаў, кіраваўшых сарацынскім народам, не парушаў дамовы і не толькі не рабіў ім ніякага зла, але, гледзячы на абставіны, прадстаўнікі ўлады тых часоў, добра і справядліва наладжаныя, шанавалі і выконвалі першапачатковыя пастановы іхных бацькаў, забяспечаныя пісьмовым падцверджаннем. Што ж мы скажам зараз? Выспа, быўшая вашым даннікам без малога на працягу трох соцень гадоў, ніколькі не заўважана ў імкненні да замены падначаленага стану, не зрабіўшая ніякіх навін ні адносна падаткаў, ні адносна іншых павіннасьцей, якія яны былі абавязаны даваць сарацынам, не даўшая нават ніякай нагоды да абвінавачвання праз ўтарапёнасць аднаго чалавека (Даміяна), адрокшагася ад хрысьціянскай веры і стаўшага ілжывым мусульманінам, апустошаным і загубленым. Хто із жывучых зараз, ці із тых, якія будуць потым, чуючы пра гэта, не абвінаваціць у вялікай несправядлівасьці здзяйсніўшых гэта?.. Чалавек, не паважаўшы хрысьціянаў і занядбаўшы сарацынамі, – гаворка ідзе пра Даміяна, – не звяртаючы ўвагі на сучаснасць, не падумаўшы пра будучыню, натхняемы толькі адной утарапёнасьцю і неразважаючым гневам, здзейсніў бязбожную справу, якая на вечныя часы будзе помнікам яго злосьці. Ён знішчыў, наколькі было для яго магчымым, шматлюдную выспу, аддаўшы на пагібель яе жыхароў.*

*Ты скажаш, што нехта запярэчыць: «існавала нагода, заахвоціўшая да гэтага!». Імерый жа, захапіўшы на гэтай выспе сарацынаў, вынішчыў іх. Але ж Імерый, зрабіўшыся правадыром рымскага войска і падначальваючы ворагаў, дзе толькі мог, паступіў тут належным чынам. Кіпрыёты ж не лічаць вас ворагамі. Яны не здзейснілі нічога дрэннага, і не былі ў стане запрацівіцца Імерыю і вырваць сарацынаў із яго рук.*

«*Такім чынам, чаму ж ты із-за гэтага ваюеш з кіпрыётамі і выліваеш на іх свой гнеў? Навошта замест таго каб імкнуцца адплаціць абразіўшага цябе, ты спаганяеш сваю крыўду на асобах, нічога непрыемнага табе не зрабіўшых?*

*Паглядзі на божае пакаранне, ты, чалавек, надзвычай разумны і здольны зразумець божыя рашэнні. Паразважай пра нябесны гнеў за здзейсненае беззаконнікам Даміянам. Хвароба, напаткаўшая яго з тых часоў як ён несправядлівымі забойствамі запляміў кіпрскую зямлю, і памаленьку знясільваючая яго, служыць доказам справядлівага боскага пакарання за няправасць. Доказам божага гневу служыць таксама і тое, што здарылася на моры з вашым флотам: пагібель вашых караблёў каля самай выспы, якую гэты злыдзень задумаў загубіць»*.

«*Я ведаю, што і без нашых слоў ты гэта разумееш і ўсведамляеш. Але ад дадзенай табе богам улады залежыць не толькі зразумець, але і выправіць адбыўшуюся памылку, і вярнуць няшчасным кіпрыётам падараваныя ім вашымі продкамі ранейшыя правы, бяспеку і спакой, пакінуць іх на ранейшых умовах міру, вольнымі ад якога б то ні было прыгнёту і гвалту, зробленага ім учора і раней грубіянствам і нялюдзкасьцю Даміяна. Не з'яўляйцеся парушальнікамі выдатных рашэнняў і дамоваў вашых продкаў, і замест належачага вам гонару і славы за справядлівасць, не рабіце адваротнага*».

Чытач сам бачыць адсюль, што яшчэ і ў X стагоддзі стасункі двух веравызнанняў былі цалкам сяброўскімі, і пра Магамета не было і згадкі...

Гэты факт моцна сведчыць на маю карысць.

Адзін толькі факт хуткага перакладання хрысьціянскіх кніг з грэцкай мовы на арабскую вымушае безстаронняга дасьледчыка зрабіць выснову, што тады ўжо існавала значная колькасць людзей сярод мясцовага насельніцтва, добра ведаючых як тую так і другую мовы.

Чаму ж ніхто з іх нічога не ведае пра вялікія падзеі ў Аравіі, пра Меку і Медыну, і пра гучныя прыгоды тамтэйшага прарока?

Праўда, – нам кажуць, – быццам бы імператар Леў III палемізаваў з каліфам Амарам II наконт прававер'я яшчэ ў 718 годзе, але ж сам спосаб палемікі са знакамітымі іншаверцамі – самы пашыраны прыём апакрыфістаў Эпохі гуманізму для таго, каб пашыраць свае нікому не вядомыя літаратурныя практыкаванні.

Само ж абвяшчэнне Ільва III імператарам прыпісваецца ініцыятыве і спрыянню галоўным чынам агаранаў. З часам сьмерці Ільва Ісаўраніна і Яна Дамаскіна супадае, – паведамляюць нам тэолагі, – нараджэнне Феафана Спаведніка (752г.), які напісаў вядомую хранаграфію. Феафан, – пераконваюць нас яны, – нарадзіўся ў Ісаўрыі ад набожнейшых бацькоў Ісака і Феадоты, атрымаў добрую згодна са сваім часам адукацыю, на 21 годзе прыняў манаства, дбайна займаўся вывучэннем гістарычнай літаратуры і выказваў асаблівую схільнасць да іконашанавання, за што неаднаразова зведваў жорсткія пераследы і высыланні... Але тут жа мы сустракаем і неадпаведнасць. Для таго ж вывучэння гісторыі яму патрэбна было мець пад рукой гістарычныя дакументы, г.азн. жыць паблізу нейкага значнага кнігасховішча, не інакш як у культурным горадзе. А што ж нам паведамляюць пра яго?

Вялікую частку свайго жыцця, – пераконваюць нас, – ён правёў на «Сігріянскай гары», размешчанай у Азіі ў месцы паблізу Кізіка, і такім чынам высмактаў свае веды, як мядзведзь у зімовай бярлозе, із лапы. Ужо адна тая акалічнасць, што прыпісваемыя яму апавяданні пра жыццё і веравучэнне Магамета адрозніваюцца ад апавяданняў Яна Дамаскіна і Хведара Абукары, яго вучня сведчыць толькі пра тое, што і ў IX стагоддзі пра магаметанства не было ніякіх уяўленняў, і што гэтыя ўрыўкавыя нататкі апакрыфічныя. Больш сур'ёзнае значэнне для вызначэння стаўлення візантыйцаў да мусульманства маюць толькі супрацьмусульманскія творы ад імя Варфаламея, эдэскага манаха, жыўшага не раней XIV стагоддзя, але і яго разуменні пра Каран вельмі невыразныя, хаця ён і ведае гэтае найменне.

– «*У тваім Каране*, – выказваецца ён, – *я знайшоў толькі выдумкі і непрыстойныя прамовы, але нічога не знайшоў такога, на што натхняе слова божае*».

І ён відавочна падманвае, кажучы, што жыццё Магамета складзена ім грунтуючыся выключна на халдэйскіх і арабскіх крыніцах і што для яго стварэння ён быццам бы вывучыў «усю арабскую пісьмовасць».

Толькі пад уладай сваіх новых мусульманскіх валадароў візантыйцы пазнаёміліся з магаметанствам.

Праўда, нас запэўніваюць, быццам бы імператары Міхал III (каля 866 г.) і Леў VI філосаф (886-912 гады) ужо вялі з «агаранамі» сяброўскае ліставанне па пытаннях веравызнання. Кажуць, што пабываць у Візантыі для тагачаснага адукаванага араба азначала тое ж, што для нашых навукоўцаў пабываць за мяжой, але ўсё гэта здагадкі ці тэндэнцыйныя апокрыфы. Адзін із твораў Мікіты

Візантыйскага[123] утрымлівае крытыку Карана, але перакладу Карана на грэцкую мову тады не існавала, і Мікіта нічым не выяўляе, што выказваецца пра той Каран, які мы маем зараз. Пра Яўхіма Зігабена (памёр каля 1118 г.), змясьціўшага ў сваім «Дагматычным поўным узбраенні» (Πανοπλία) раздзел і пра мусульманства Гас заўважае, што ён адзін «меў некаторае блізкае знаёмства з Каранам», што і магчыма, праз сто гадоў пасьля султана Магамета Газні, як першага праўдападобнага пашыральніка магаметанства, але ці сапраўды і яго «Дагматычнае поўнае ўзбраенне» не больш позні апокрыф? Імператар Кастусь Парфірародны (памёр у 959 г.) і гісторыкі: Кедрын (XI ст.), Занарас (памёр 1118 г.) і Мікіта Ханіят (памёр 1216 г.), напісаўшы, акрамя вядомага гістарычнага твору, таксама твор багаслоўскага зместу «Скарб праваслаўя», дзе ўласна і змешчана глава пра мусульманства, відавочна не чыталі арабскай літаратуры. Чатыры апалогіі і чатыры прамовы імператара Яна Кантакузіна (пісьменніка XIV ст.), уключаныя Бібліяндэрам у свай супраць мусульманскі зборнік, таксама па сутнасьці павінны быць палічаны апокрыфамі, таму што ён сам жа адружыў сваю дачку Фядору з віфінскім султанам Арханам. Нават жа і тэолагі прызнаюць, што «падобныя адружанні грэцкіх жанчын з мусульманамі, хаця б і не такога высокага становішча, як Фядора і яе чалавек Архан, не былі выключнай рэдкасьцю пры тагачасных палітычных дачыненнях».

І ўсё гэта паказвае на тое, што нават і ў XIV стагоддзі поўнай дыферэнцыяцыі ісламітаў і праваслаўных у Візантыі яшчэ не існавала.

Фактам з’яўляецца тое, што ўпершыню адлучэнне магаметанства было агучана праваслаўнай царквой толькі ў XII стагоддзі нашай эры, ды і то пасьля вялікіх спрэчак паміж патрыярхам і імператарам.

У гістарычнай навуцы мы павінны дакладна адрозніваць два роды першакрыніц: паведамленні безумоўна праўдзівыя і паведамленні ў праўдзівасьці якіх можна сумнявацца. І адзін неаспрэчны факт знішчае сваім існаваннем тысячы супярэчачых яму, праўдзівасць якіх не даведзена (хаця б яны і былі праўдападобнымі і пагадняліся адзін з другім).

У гісторыі ўзнікнення магаметанства я не змог знайсьці астранамічных пазнак, але я знайшоў адну пазнаку іншага роду, якая не нашмат горшая іх.

Вось падрабязнасьці гэтага важнага паведамлення.

Перакладаючы вызначэнне бога ў Каране ssamad – бясконцы, сферычны, словам «аласферас» – усясферны і пераіначыўшы яго ў еласфірас (όλόσφηρος) – усёвыкаваны, візантыйская царква ў XII стагоддзі ўпершыню вымавіла такую пастанову[124]:

«*Адлучэнне богу Магамета, пра якога паведамляюць, што ён з’яўляецца богам, увесь выкуты молатам, які не нараджаў, не народжаны, якому ніхто не падобны*»[125].

Але і тады імператар Мануіл Камнін у 1180 годзе (верагодна яшчэ ведаючы, што гаворка ідзе пра нябесныя сферы) угледзеўшы ў ёй паклёп на праўдзівага бога, запрасіў патрыярха Хвядоса і іншых архірэяў на сабор і прапанаваў ім скасаваць гэтую пастанову. Але праваслаўныя архірэі не пагадзіліся з імператарам. Яны «*не*

[123] Αντιρροησις καί άνασκευμή καί 'έλεγχος τής αλογοπατης και μυσαρατατης βίβλου **ς παρά τού 'άραβος πλαστογραφηθείσης, ήτοι τῆς τῶν Άγαρηγῶν πσευδομυμου, πίστεως.

[124] О. А. Курганаў: Да пытання пра візантыйскую супраць мусульманскую літаратуру («Праваслаўны Суразмоўца», 1878, Кастрычнік, стар. 119).

[125] Άνάθημα τῶ θεῶ τοῦ Μώαμετ, περί οῦ λέγει, 'ότι αϋτός έστι θεός όλόσφηρος ός οῦκ έγέννησε, οῦδε έγέννήθη, ούδέ όμοιος αύτῶ τις.

*жадалі нават і чуць пра яго прапанову, як не вядучую ні да чаго добрага і аддаляючую ад праўдзівага спазнання пра бога*».

«*Яны,* – паведамляе Мікіта Ханіят, – *пераконвалі, што такія словы пра бога служаць да спакусы і памылак хрысьціянаў, і тлумачылі, што тут хрысьціянскай царквой адлучаецца не бог цалкам, стваральнік неба і зямлі, а прыдуманы вар'яцкай бязглуздзіцай Магамета бог, які не народжаны і не нарадзіў. Хрысьціяне ж славяць бога-бацьку, якога пагарджаемыя бязглуздзіцы Магамета цалкам скасоўваюць*».

Імператар застаўся незадаволены адмовай архірэяў і выдаў пасьля гэтага непасрэдна асабіста ад сябе твор, у якім «абараняў буянства Магамета». Патрыярх рашуча паўстаў супраць такога своеўладнага ўчынка імператара. Ён баяўся, як бы дзякуючы пашырэнню царскага твора не пачалі славіць «замест праўдзівага бога нейкую вартую жалю прыдумку недалёкага розуму Магамета». пагэтаму ён не толькі не пагадзіўся з творам імператара, як з небяспечным і ўсталёўваючым новыя дагматы, але і іншых пераконваў асьцерагацца яго, як атруты. Цар пакрыўдзіўся, абсыпаў сваіх архірэяў лаянкай і назваў іх «сусьветнымі дурнямі».

Такім чынам праз «Магаметава бога», які не нарадзіў сына, ўпершыню паўсталі гарачыя спрэчкі толькі праз паўтысячы гадоў пасьля сьмерці яго меркуемага аравійскага аўтара!

Але на што ж гэта падобна?!

Толькі на тое, што і сам Магамет жыў і ствараў свае «вар'яцкія бязглуздзіцы» незадоўга да 1180 года, калі супраць яго паднялася ў Візантыі бура, працягваўшаяся тут больш двух месяцаў.

Для вырашэння паднятага пытання імператар склікаў у сваім палацы ў Скутары новы сабор, на якім сам прысутнічаць не змог з нагоды хваробы, а даслаў свайго сакратара, Хведара Мацука. Яму, як свайму ўпаўнаважанаму, ён даверыў свае граматы і загадаў перадаць іх, пасьля прачытання, адну – усяму сабору, а другую – асабіста патрыярху. У іх ён пагражаў архірэям склікаць новы, большы сабор, на якім бы прысутнічаў і рымскі папа, калі толькі яны не пагодзяцца з яго прапановай, і між іншым выказваўся:

«*Я быў бы няўдзячным і неразважлівым, калі б не ўшанаваў майго бога, валадара і цара ўсіх, хаця б самым малым гонарам за ўсе тыя даброты, якія я ад яго атрымаў, ужыўшы ўсе намаганні для таго, каб яго – праўдзівага бога – не аддавалі анафеме*».

Такім чынам, нават у XII стагоддзі візантыйскія імператары лічылі агаранскага бога і сваім богам...

Але архірэі – паведамляе праваслаўны аўтар – не спужаліся пагроз імператара і не прыслухаліся да яго красамоўства. Яўстафій, архібіскуп фесалонікскі, чалавек шырокай вучонасьці і валодаўшы вялікім дарункам красамоўства, перапоўніўшыся рэўнасьцю ад адной думкі пра тое, што, замест праўдзівага бога, будзе славіцца нейкі выкуты, адважна падняўся перад сходам і сказаў:

– «*Мозкі ў маёй галаве былі б патаптаны нагамі і я быў бы цалкам нявартым гэтага адзення* (мантыі, якая была ў яго на плячах), *калі б прызнаў праўдзівым богам быдлападобнага дзетаразбэшчвальніка, настаўніка і падбухторшчыка на ўсе гнюсныя справы!*».

«*Слухачы,* – заўважае Мікіта Ханіят, – *аслупянелі пры гэтых словах, таму што ён вымавіў іх гучна, і выразна паказаў, што гарыць рэўнасьцю па набожнасьці. Калі ж гэтыя словы былі перададзены імператару, то ён, як бы аглушаны імі, усклікнуў:*

– «*Ці я апраўдаюся і давяду, што не веру ў бога-педэраста і не дадаю скажэнняў у веру, і ў такім выпадку аддам на заслужанае пакаранне таго, хто вырыгвае лаянку на*

*памазанца госпада; ці ж я буду абвінавачаны ў тым, што слаўлю не таго бога, якога паважаюць носячыя найменне хрысьціянаў, і ў такім выпадку прынясу вялікую падзяку таму, хто адвёў мяне ад ілжывай думкі і навучыў праўдзе*».

Спатрэбіліся доўгія асабістыя сустрэчы патрыярха з імператарам, каб суцішыць яго гнеў і замірыць з Яўстафіем Фэсалоніцкім. Абодва спрачаючыяся бакі адмовіліся, нарэшце, ад некаторых сваіх дамаганняў і сышліся на кампрамісным рашэнні: замест вышэйпрыведзенай рэзкай формулы адлучэння магаметанаў яны пагадзіліся на больш мяккай форме абвяшчэння:

«***Адлучэнне Магамету і ўсяму яго вучэнню і ўсім яго паслядоўнікам***».

**Гэта было ў траўні 1180 года**. Праз чатыры месяца пасьля гэтага Мануіл памёр. З яго сьмерцю закончылася абвяшчэнне заклінаючай формулы, складзенай згодна з яго патрабаваннем. Абапіраючыся на аўтарытэт нібы-та ранейшых, а на самай справе падробленых бацькаў і настаўнікаў, упершыню пазнаёміўшыхся і пазнаёміўшых іншых з магаметовым вучэннем пра бога, царква захавала слова **ўсевыкаваны**, як дакладна характэрызуечае магаметанскае вучэнне пра бога, а таму і анафему такому богу прызнала правільнай і бязгрэшнай. І вось зараз і па-руску ў «*чыне, како пріімаці возраст ад сарацын*», паміж іншымі загаворамі мы чытаем перадусім пытанне:

– «*Ці адмаўляешся ад усіх лісьлівых і хулячых настаўнікаў турэцкіх і ўсіх блюзнерскіх і блядзівых баек магаметавых і па ім быўшых усіх, яжэ суць пра бога нейкага ўсекованага і, яка бязбожна, праклінаўшы ці яго*?».

– «*Ад усіх гэтых адмаўляюся і яка бязбожна існа праклінаю*» – павінен быў адказаць далучаючыся да праваслаўя.

Ды і ва ўсіх іншых статутах сьвята праваслаўя ў «анафематстваванні магаметанаў» бачацца выразныя сьляды ужо турэцкага валадарання. Вось, напрыклад, як у двух Архангельскіх і ў Іркуцкім сьпісах пышна згадваецца пра Магамета:

«*Усякепскія і богасупярэчныя агаранскія, турэцкі веры і ўсяго іх кепскага мудравання настаўнік, ілжэпрарок дэманскі, сын сатанін, Мехмет, пякельны сабака, неўтаймоўваемы воўк, лаяльнік Хрыстоў, спусташальнік хрысьціянскі, змей без галоўны, душазгубны звер, душы і целы разам пагубляючы і ў прорву пякельную пасылаючы, ім жа няма ўзнікнення! Із усімі паслядоўнікамі і стаўленікамі сваімі, ілжэнастаўнікамі, дз'яблавымі служкамі і з блядзівымі хрысціянахульнымі пісаннямі і душагубячымі злозаконапалажэннямі, і злахульных яго статутаў, або пастановамі валадароў і абаронцамі, – яка богамерзцы пасудзіны сатаніны, вядомыя злодзеі, неўтаймоўваемыя рабаўнікі, тыраны хрысьціянскія, служкі якой бы то ні было бязбожнасьці, тартары ўся, яка Дафан і Авірон: ад усёй царкоўныя паўнаты Хрыстова статку ды будуць праклятымі ў гэты век і ў будучыя*!»[126]

І вось мы бачым, што адлучэнне магаметанаў ад візантыйскай царквы было вымаўлена толькі ў XII стагоддзі нашай эры, якраз пад час разгару Крыжовых паходаў!

Хай жа чытач хаця б трохі паразважае над гэтым фактам. Ён жа належыць да разраду неаспрэчных фактаў і, такім чынам – усё, што супярэчыць яму, павінна быць адкінута[127].

---

[126] Із кнігі: «Анафемастваванне (адлучэнне ад царквы), здзяйсняемае ў першы тыдзень вялікага паста. Гістарычнае дасьледаванне пра чын праваслаўя Кастуся Мікольскага, сьвятара царквы Прачыстыя Найсвяцейшай Багародзіцы, што на Сянной. С.-Пецярбург, 1879 (стар. 176).

[127] Гэты факт не аспрэчваюць і самі царкоўныя гісторыкі, але спрабуюць адгаварыцца пустымі фразамі. «Праваслаўная царква не анафематызавала магаметанаў, – выказваецца сьвятар К. Мікольскі ў сваёй кнізе

А супярэчаць яму ўсе нашы ранейшыя ўяўленні пра адасобленае існаванне магаметанскай і візантыйскай цэркваў да XII стагоддзя нашай эры. Калі да таго часу магаметане не былі адлучаны, то яны маглі быць толькі мясцовым адгалінаваннем той жа ўсходняй царквы, ці сама візантыйская царква была адгалінаваннем магаметанскай, якая ў такім выпадку павінна быць прызнанай наступніцай арыянскай. Гэта магло выглядаць так жа, як быццам бы із існуючых двух прыходаў адзін прысвечаны богу-бацьку, а другі – богу-сыну; падобна таму як у адной вёсцы храм прысвечаны Спасу на водах, а ў другім – Мікалаю Цудатворцу, і чалавек пераехаўшы із адной вёскі ў другую, наведвае іншы храм, не лічачы сябе ад гэтага адлучаным ад ранейшага. Але чаму ж у такім разе не існуе пра гэта сярэднявечных паданняў?

Трэццім жа выйсьцем із цяжкасьці, і самым натуральным, будзе тая, што магаметанства – як я ўжо згадваў – і узнікла із арыянства толькі незадоўга да свайго адлучэння, і гэта надзіва супадае з некаторымі гістарычнымі фактамі.

Перадусім запытаем: хто быў гэты Магамет (Μώαμετ), пра бога якога згадваецца ў анафеме, як пра ненароджанага і не нарадзіўшага, насуперак вучэнню тагачасных хрысьціянаў пра бога бацьку і сына? Нам няма патрэбы выпраўляцца для адказу на гэтае пытанне ў аддаленую ад тагачаснага цывілізаванага сьвету Аравійскую пустыню і за палову тысячагоддзя ў мінулае. Я ўжо выказваўся, што якраз на памяці адлучыўшых яго візантыйскіх біскупаў існаваў Махмуд Заваёўнік (998-1030 г.г.), аб’яднаўшы пад сваім адзінабожным смьцягам шматлікія краіны Паўднёвай Азіі да Грэцыі і Месапатаміі на захадзе, да Бухары і Кашгара – на поўначы і да Дэлі і ўтокаў Інда – на паўднёвым усходзе.

Яго радзімай быў, – кажуць нам, – горад Газні ў паўночна-усходнім Афганістане на аднайменнай з ім рэчцы і на караванным шляху із Персіі ў Індыю, дзе і зараз існуе цытадэль і звыш 10000 жыхароў, ды і магільня Магамета там захоўваецца ў пашане да гэтага часу. Ён быў заступнікам навукоўцаў і паэтаў, і пры ім – паведамляюць нам – жылі знакаміты філосаф Авіцэна (памёр 1037 г.) і паэт Фірдусі (г.азн. Райскі, памёр 1020 г.). Яму прыпісваюць кнігуцароў (Шах-Намэ), у якую ўключана і рамантычнае апавяданне «Рустам і Зараб», так добра перакладзенае на рускую мову Жукоўскім.

Я не буду тут ні аспрэчваць, ні даводзіць праўдзівасць гэтых твораў і нават вырашаць пытанне, напісаны яны ў Афганістане ці ў Кардаве, а толькі пазначу, што менавіта ў гэты час ўпершыню і адбылося цалкам рэчаіснае наступленне із усходу на захад ваяўнічага «магаметанства». Дынастыю Махмуда-Магамета замянілі ў гэтых краінах сельджукі, із якіх Тагруль-бек (памёр 1063 г.), захапіўшы Месапатамію, паспяхова змагаўся з Візантыяй, а із яго наступнікаў Алі-Арслан у 1077 годзе знішчыў у Арменіі цэлае візантыйскае войска і нават захапіў у палон візантыйскага імператара Рамана Дыягена. Яны трымаліся ў Багдадзе да 1194 года, г.азн. нават і пасьля знакамітага адлучэння, а другая лінія магаметанаў – сельджукі – зацьвердзілася ў Сірыі, Палестыне, Персіі і ў Малой Азіі (1080 г.), і заснавала Румскі (Рымскі) султанат са сталіцай у Нікеі, існаваўшы і падчас іхнага адлучэння ад візантыйскай царквы.

---

«Анафематызаванне», – таму што яны не мелі дачынення да яе»... Але як жа не мелі? Яны ж жылі паўсюдна ўперамежку! Пазначу, што ў рускіх паданнях Магамет мае назву Бохміч, і гэта пераіначванне вырабляюць такім спосабам: Магамет, Мехмет, Бахмеч, Бохміч (там-жа, стар. 175). Пад гэтым імем ён часам даўней і анафематызаваўся).

**Бяручы да ўвагі ўвесь гэты гістарычны ход падзей мы бачым, што візантыйскімі біскупамі быў адлучаны ненароджаны і нерадзіўшы бог гэтага самага Магамета-Махмуда, паклаўшага пачатак новай імперыі, а не бог нейкага легендарнага і далёкага аравійскага Магамета, памёршага, быццам бы, яшчэ за паўтысячы гадоў таму назад.**

Але і пасьля Махмуда-Заваёўніка Каран быў толькі яшчэ ў зародку і быў пашыраны ў шматлікіх варыянтах, таму што, дапасуючы да гэтай эпохі паданне пра тое, што ён быў прыведзены да адзінага тэксту толькі пры каліфе (г.азн. намесьніку) Асману, даводзіцца прызнаць, што гэтым Асманам (ці Атманам) быў не легендарны зяць легендарнага аравійскага Магамета, а заснавальнік Атаманскай (турэцкай) імперыі Асман (Атаман) І, празваны Заваёўнікам (1259-1326). І цікава, што імя гэтага Атамана з’яўляецца толькі злёгку пераіначаным вымаўленнем ўкраінскага слова атаман.

Гэта азначае, што і Каран з'явіўся ўпершыню пад час таго ж перыяду... А што ж было да гэтага?

Усе візантыйскія пісьменнікі сцвярджаюць, што да яго ў ісламітаў быў культ Венеры, чым, можа быць і патлумачана ўзвелічэнне Каранам юрлівасьці, якая складае, згодна з ім, адну із прыступак асалоды як рэчаіснай, так і ў будучым жыцці.

Так, Кастусь Парфірародны (памёр 905 г.) у сваёй кнізе «Пра кіраванне імперыяй» сведчыць пра агаран:

Яны моляцца і зорцы Венеры, называючы яе Кубарай, і ў сваёй малітве усклікаюць: «Ала уа Кубар!» што азначае: Бог і Венера! Бога яны называюць Ала; “уа” ў іх з’яўляецца злучнікам “і” а словам Кубар яны называюць тую зорку.[128]»

Іншымі візантыйскімі пісьменнікамі, перадаўшымі нам тое ж самае, былі спачатку Ян Дамаскін (памёр 780 г.), а пазьней, у XII стагоддзі, Мікіта Візантыйскі, Яўхім Зігабен і Варфаламей Эдэскі.

Ян Дамаскін сведчыць, што боскасьцю, якую ўшаноўвалі «арабы», была «Ранішняя зорка», г.азн. Венера, якую яны на сваёй мове завуць Хабар (Χαβάρ).

Мікіта Візантыйскі ў XII стагоддзі называе гэтую боскасць Хубар (Χουβάρ) і лічыць за статую. Дакладна так жа і Варфаламей Эдескі піша: «*Арабы раней Магамета* (якога?) *верылі* (у бога), *якім з’яўляецца зорка Зараніца*»[129].

Ды і Яўхім Зігабен (памёр 1118г.) сведчыць, што сарацыны абагаўлялі Ранішнюю зорку Венеру, завучы яе Хабар, але не лічыць гэтае слова за ўласнае імя зоркі, як толькі-што згаданыя пісьменнікі: «*Да Магамета* – паведамляе ён, – *сарацыны ўшаноўвалі выявы і асабліва шанавалі Ранішнюю зорку Венеру, якая на іхнай мове звалася Хабар* (Χαβάρ), *што азначае – Вялікая*». А ў іншым месцы Зігабен паўтарае амаль тое ж разуменне пра бога, якое мы бачылі і ў формуле адлучэння магаметанаў ад візантыйскай царквы ў XII стагоддзі нашай эры. Вось яго ўласныя словы: «*Бога Магамет называе выкутым, сферычным. А гэта з’яўляецца формай нейкага цела і таму бог выяўляецца ў яго нейкім целам, як бы чымсьці шчыльным, сціснутым. Калі, згодна з яго разуменнем, бог з’яўляецца нейкім рэчаісным шарам, то зразумела, што ён нічога не бачыць і нічога не чуе*»[130].

---

[128] Προσεύχονται δε καί είς τὃ τής Ἀφροδίτης άστρον ό καλοῦσι άουβας і г.д.

[129] Οί Ἄραβες πρό τοῦ Μουχαμετ 'επίστευσαν (είς θεόν) όςέστιν ό έωσφόρος 'αστήρ (Hadriani Relandi de religione mohamedica libri duo (г. азн.. Адрыяна Рэланда пра магаметанскую рэлігію дзьве кнігі). Выданне другое, выпраўленае, Утрэхт, 1717. Стар. 242.

[130] Ὀλόσφυρον λέγει τόν θεόν ήτοι σφερικόν і г.д.

Прыпісаўшы магаметанам такое разуменне пра бога (як пра круглае Сонца), Зігабен паведамляе і яшчэ не менш дзіўнае ўяўленне ісламітаў пра паходжанне чалавека. Ён запэўнівае, быццам яны, грунтуючыся на Каране, лічаць, што чалавек нараджаецца із п'яўкі[131].

Адкуль паходзіць такое яго ўяўленне?

Г. С. Саблукоў[132] вырашае гэтае пытанне даволі ўдала: гэта чыстая кабалістыка. У арабскай мове існуюць два словы, ўтварыўшыяся із аднаго кораня і блізкія адно да другога як па напісанню так і па вымаўленню. Гэта «галак» – загусьцеўшая кроў, і «галака» – п'яўка. У Каране гэтыя абодва словы ўжываюцца ў першым значэнні (96, 1, 2, 22, 5.23, 14), але аравійскаму народу больш вядома другое.

Адсюль бачна, што візантыйскія пісьменнікі, пазначыўшыя такія плёткі магаметанаў пра паходжанне чалавека, паведамлямі, па свойму, праўду. Паглядзім зараз, ці не паведамлялі яны падобным жа чынам праўду і пра астатнія ўяўленні сучасных ім ісламітаў.

«Пры вывучэнні арабскіх слоў, існуючых у візантыйскіх пісьменнікаў – паведамляе Саблукоў, – перадусім звяртае на сябе ўвагу рознае вымаўленне імі аднаго і таго ж слова. Так Ян Дамаскін і Яўхім Зігабен вымаўляюць імя Венеры (якое ў перакладзе азначае: ушаноўваемая) – «Хабар», Мікіта Візантыйскі – «Хубер», Кастусь Парфірародны – «Кубар» (але можна яшчэ вымаўляць: хавар, хувар і кувар, таму што грэкі, не маючы ў сваім альфабэце адрознення для літар “б” і “в”, замяняюць іх літарай β, якая вымаўляецца імі прыдуўным спосабам, як злучанае бв). І ўсе яны пад гэтым словам разумеюць Венеру, і толькі адзін Зігабен надае слову – хавар – значэнне: «вялікая».

Адрозненні вымаўлення адных і тых жа карэйшыцкіх слоў грэцкімі пісьменнікамі можа мець падставай і тое, што яны жылі ў розны час і ў розных краінах, а таму той ці іншы із гэтых пісьменнікаў, пераносячы словы чужой мовы на сваю, мог вымаўляць іх не так, як іх вымаўляў другі пісьменнік, ды ён мог і чуць іх у неаднолькавым вымаўленні, таму што ў Сірыі вымаўленне некаторых літар, а таксама і слоў, адрозніваецца ад вымаўлення іх у Ягіпце і далей у Афрыцы. Бедуін унутранай Аравіі вымаўляе не так, як сарацын жывучы за яе межамі. Адрозненні вымаўлення маюць падставай і адрозненні граматычных формаў, у якіх перадаецца тое ж самае слова пісьменнікамі.

Ведаючаму мову Карана слова “**хабар**” сваім гучаннем выразна паказвае на сваю блізкасць да слова **акбарь** у магаметанскім малітоўным закліку: Алах акбарь (вялікі бог)! Акбарь з’яўляецца прыметнікам ў найвышэйшай ступені ад звычайнай ступені параўнання слова кабірь – вялікі.

Правільнае значэнне гэтага слова дае нам Зігабен, але і ён вымаўляе яго няправільна: «хабар» азначае – вялікі, а слову **вялікая** адпавядае **хубар**. І ён, і ўсе візантыйскія пісьменнікі пад абодвума словамі, хабар і хубар, разумеюць Венеру, асобу жаночай стаці і пагэтаму ім усім патрэбна было б пісаць хубар ці кубар, а не хабар».

Адкуль жа бярэ пачатак ўся гэтая блытаніна? Ад саміх тагачасных магаметанаў.

[131] Ἐξ βδέλλης ἀνθρωπον γίνεσται λέγει (із п'яўкі чалавек нараджаецца, кажа).

[132] Гл. «Праваслаўны Суразмоўца», 1878 г., снежань.

У іхных галовах на працягу ўсяго сярэднявечча існавала невыразнасць рэлігійных уяўленняў. Візантыйскія пісьменнікі, перадаючы словы ранішняга закліку са званніц іхных храмаў, перадалі разам з імі і тое, што чулі пра яго сэнс. Ад іх гэты заклік, злёгку перамяніўшыся, перайшоў і ў Каран.

Каран пералічвае па імёнах восем божышчаў із тых, якіх ушаноўвалі да яго (53, 19.20,71.22,23). Аднаго із гэтых васьмі божышчаў ён заве Алатай. Яна лічылася, як і дзьве іншыя пазначаныя разам з ёю, дачкой самага старэйшага бога і ў пералічэнні гэтых трох багінь пастаўлена першай (53, 21.16, 59.37, 149). Яе імя Алата з’яўляецца аднакарэнным са словам Ала (бог) і згодна са сваёй граматычнай формай уяўляе жаночы род гэтага імя, таму што ў літаратурнай арабскай мове імёнам жаночай стаці нададзены канчатак “т”, а словы Ала, Алах, Алаг – толькі розныя вымаўленні аднаго і таго ж слова «бог» і пры гэтым роднасныя з грэцкім словам Эліяс – Сонца. Кумір Алаты рабіўся ў выглядзе прыгожай жанчыны. У звычаі служэння ёй былі ўключаны абыходы вакол яе куміра, падобныя абыходам вакол Каабы. А дзякуючы таму што шмат якія малітвы багам пераходзілі ад аднаго народа да другога, то не патрэбна здзіўляцца і таму, калі ісламіты сваю Алату славілі заклікам, падобным таму, які некалі жыхары Ефеса далі шануемай імі багіні: «вялікая Артэміда!» (Здзяйсн., 19,28.34).

Засяродзіўшы нашу ўвагу на сведчанні Варфаламея Эдэскага, што магаметанскі заклік да малітвы ўзяты із паганскага, і што Зігабен і Кастусь Парфірародны другое слова ў магаметанскім закліку вымаўляюць хубар і кубар, мы прама можам зрабіць выснову, што ўшаноўваючыя Алату ў малітоўным закліку да яе вымаўлялі:

«Алату кюбра!» (вялікая Алата).

І гэта перайшло зараз у Алагу акбарь (велікі бог!). А словы Кастуся Парфірароднага і Зігабена паказваюць, што сучасныя ім агаране яшчэ не прызвычаіліся дакладна адрозніваць «Ала акбарь» ад шматбожнага «Алата кюбра».

Але чаму ж, запытаеце вы, візантыйскія пісьменнікі больш позьняга часу, дасьледуючы і абмяркоўваючы веравучэнне сучаснага ім магаметанства, яшчэ блытаюць з ім разуменне шматбожнікаў, замяняючы, напрыклад, Алаха Алатай? Чаму на месца Алаты ставяць боскасць із элінскай міфалогіі?

Словы візантыйскіх пісьменнікаў выяўляюцца справядлівымі, калі мы разгледзім тое, што паведамляе пра Алату Каран і магаметанскія пісьменнікі, і як ужывалася імя Венеры ў класікаў. Герадот згадвае гэтую боскасць пад імем Алілат (кніга 111,8), і паведамляе, што ісламіты пад гэтым імем ушаноўвалі багіню Неба (Уранію). Пад імем Алаты ўшаноўвалі дачку бога, а зоркашанавальнікі атаясамлялі яе з планетай Венерай. За імі з'явіліся пакаленні, якія ўжо ў імені Алаты разумелі як адну із дачок Алаха так і планету Венеру. І гэта цалкам пагадняецца з тагачасным зоркашанаваннем. Магаметанскія гісторыкі і тлумачальнікі Карана прама паказваюць, што племя Тай ушаноўвала зорку Канону (пад найменнем Сюгайль), племя Місаім – Альдэбаран, пакаленне Лахм абагаўляла планету Юпітар (Мюштарый), пакаленне Кенан – Месяц. А таму можна даўяраць і словам візантыйскіх хрысьціянскіх пісьменнікаў, што ўшаноўваючыя Алату ўшаноўвалі і Венеру, называючы яе на сваёй мове Зугара (сьветлая), калі яна з'яўлялася пасьля заходу Сонца, і Тарык (ідучая), калі ішла па небу раніцай, лічачы яе ў той жа час і дачкой Алаха (г.азн. Эліяса-Сонца).

Каран, паказваючы арабам, з аднаго боку, непрыемлімасць ушанавання Сонца, Месяца, зоркак (41,37), прымушае, з другога боку і самога бога клясьціся

зоркамі (91,1.2;53.1). А гэтая дваістасць паказвае, што і Каран не маналітны твор, а створаны шмат кім.

Выходзіць, што і магаметанская багаслоўская навука распрацавана нашмат пазьней, чым нас запэўніваюць. І сам Каран набыў канчатковы выгляд нашмат пазьней таго часу, чым нам кажуць. Не раней XI стагоддзя...

Артадаксальныя ісламісты сцвярджаюць, быццам бы яшчэ пад час трэццяга каліфа Асмана спрэчак пра праўдзівасць Карана ўзнікла так шмат, што ён загадаў асобнай камісіі зноў перагледзець яго тэкст і словы мясцовых гаворак ў ім замяніць на словы карэйшыцкай гаворкі, а спісы ранейшай рэдакцыі знішчыць. Але і гэта з’яўляецца міфам ужо дзякуючы аднаму таму, што і збіраць, і знішчаць, і нават пісаць копіі Карана тады не было каму ў Аравіі, таму што яна была пагалоўна непісьменнай. Толькі каля 720 года, ды і то не тут, а ў Басры – кажуць нам – з'явілася першая школа (дзе настаўнікам быў Хасан Басрый, г.азн. Басорскі, сучаснік Яна Дамаскіна). Толькі пры Абасідах – паведамляюць нам нават самі ісламіцкія артадоксы – складзена першае суніцкае ўкладанне Абу-Ханіфа. Толькі пры Абасідах азіяцкія ісламіты пазнаёміліся з навукамі еўрапейцаў, пераважна з іхнай медыцынай, астраноміяй, філасофіяй, што спрыяла з'яўленню ў іх шматлікіх сектаў: кадарытаў, джабарытаў, сіфатытаў, тагталітаў і іншых рознаіменных. Спрэчкі паміж імі былі гарачыя і можна думаць, што не ў часы легендарнага каліфа Асмана, а толькі пры Асману Вялікім (памёр у 1326 г.), быў зацверджаны сучасны нам тэкст Карана і сучасны набажэнскі рытуал. Вось чаму ён і не распаўся на варыянты.

Тое ж адбылося і з другой, пасьля Карана, крыніцай махамеданскага набажэнствы – з паданнем. У склад яго ўваходзяць як выказванні (хадысы), якія прыпісваюцца Магамету, так і апавяданні (рываяты) пра яго вернікаў. А іх без канца. Толькі Магамет-бэн-Ісмагіл аль-Бухары ў X стагоддзі – паведамляюць нам – із 600 000 сабраных ім хадысаў і рываятаў толькі 7 000 палічыў правільнымі і ўключыў у свой зборнік, назваўшы яго «Сахых» (чысты).

А якімі былі гэтыя «рываяты», чытач можа пазнаёміцца на прыкладзе адной із іх, пачутай мной яшчэ гімназістам ад татарскага мулы і перакладзенай мной некалі нават на вершы.

### ЗБЯГАННЕ МАГАМЕТА.

*Рываята.*

– Паведамі, Хасан-Алі, пра мінуўшчыну тваёй зямлі,
Як із Мекі Магамет збег на вольны сьвет.
Каля ручая, здзейсніўшы намаз, пачаў муфтый свае апавяданне:
– «Так! Не баязліўцам быў наш прарок! І збег ён у самы раз.
На абарону ад людзей заклікаў і птушак ён, і звярэй.
Усім крычаў ён бягучы на родных іх мовах:
– Ой, каровы, – ммы-ммы-ммы! – Ратуйце ад турмы!
Авечкі, козы, – бэ-бэ-бэ! – вядзіце ў стэп да сябе!
Вы, лэгушкі, – ква-ква-ква! – дайце шлях на выспы!
Конік, конік, – ігі-ггі! – дабегчы мне дапамажы!
Вы, каты, – мяў-мяў! – у зарасніках крыкніце: ау!
Ой, – гаў! гаў! – сабакі-псы! Станьце ноччу на варту!
Сёстры-качкі, – кра-кра-кра! – Вынясіце за моры!
Сябры сьвінні, – хру-хру-хру! – Паслужыце, як цару!
Так ён бэгаў шмат дзён, аточаны натоўпам звярэй.
Толькі свінні той зямлі з ім у Медыну не прыйшлі.
І за гэта наш прарок адлучэнне ім вымавіў.

І калі надышла раніца, ён у Каране напісаў:
Будуць усе ў раю без месцаў – хто свіннога сала з'есь!
Так у пустыні, у ранкавы час, закончыў муфтый сваё апавяданне.
І сказалі ўсё ў адказ: мае рацыю прарок наш Магамет!
Мудрым з’яўляецца бог на нябёсах. «Ля іллахі алліллах»!

Падобнымі ж з’яўляюцца і ўсе астатнія 600 000 рываят.

Само сабой зразумела, што навука ісламітаў, калі можна так назваць іхныя наіўныя тэалагічныя прыдумкі, была пашырана толькі паміж імамамі, а для народа была недаступнай. Рэлігійныя паведамленні даходзілі да яго павольна, і разуменне Карана народам не было агульным для ўсіх. Прасякнуты ў сваёй душы разуменнямі палітэістычнымі, балванашанавальнымі, фетышысткімі, нават адукаваны ісламіт не мог раптоўна перарадзіцца. З вучэннем Карана пра адзінага бога ён перамешваў традыцыйныя разуменні, і калі чуў у малітвах слова: «Ала акбяр (вялік Алах), ён не ўмеў выразна адрозніць іх па сэнсу ад ранейшых слоў «Алат кубра» (вяліка Алата). Візантыйскія пісьменнікі, блізка стоячы да магаметанаў, не без падставаў паведамлялі, што яны ўшаноўваюць Алаха, разумеючы пад гэтым словам Сонца, і Алату, разумеючы пад гэтым зорку Венеру. І толькі тады робіцца зразумелым, чаму сярод эпітэтаў Алы (імя якога сугучна слову Эліяс – Сонца) захаваліся прэдыкаты: шчыльны ці круглы (самад). Гэтымі эпітэтамі толькі перадаюцца тыя разуменні, якія заставаліся ў народа і пасьля таго, як ён прыняў іслам.

Але як бы ні паставіўся чытач да гэтых апошніх высноваў, а факт застаецца фактам: нават і ў XII стагоддзі адным із галоўных божышчаў «ісламіцкай царквы» была Венера. Пра гэта аднагалосна паведамляюць нам самыя асьвечаныя пісьменнікі X, XI, XII і XIII стагоддзяў у самай асьвечанай із усіх тагачасных усходніх краін – Візантыі, – а таму і не з’яўляецца безпадстаўнай і мая выснова, што Каран, высьмейваючы ўшанаванне «сыноў і дочак Алаха», мог быць адрэгаваны не пры легендарным халіфе Асмане ў VII стагоддзі нашай эры, а толькі ў XIV стагоддзі пры Асмане Вялікім, які ператварыў Візантыю ў Атаманскую імперыю і які зрабіў у ёй магаметанства дзяржаўнай рэлігіяй.

А сам Каран напісаны не «Магаметам» грунтуючыся ўжо па адным тым, што ў ім заўсёды гаворыцца пра «Магамета», як пра трэцюю асобу: «ён».



Мал. 107.
Султан Магамет Вялікі (1430-1451), заснавальнік Турэцкай імперыі і рэчаісны пашыральнік каранічнага магаметанства.

# Глава X.

## Агульны нарыс сярэднявечнай агаранской культуры і характарыстыка яе літаратуры.

Напачатку гэтай кнігі мы выказалі сучасныя нам уяўленні пра жыццё заснавальніка прававерʼя, без вялікіх падстаў дапасуемага да VII стагоддзя нашай эры, і бачылі, што яго жыццяапісанне больш падобна на раман, чым на матэрыял для гістарычнага дасьледавання. Але перш чым канчаткова вырашыць гэтае пытанне, кінем беглы пагляд на сярэднявечную ісламіцкую культуру і літаратуру.

Перш, чым атрымаць назву **магаметанства**, рэлігія абсалютнага адзінабожжа (з аскепкамі мекскага камяністага метэарыта, як цэнтра ўшанавання) звалася проста «**вера**» (па-карэйшыцку **іслам**) ці прававерʼе (па-карэйшыцку **маслем**, і гэтае слова еўрапейцы пераіначылі ў мусульманства).

Па сваёй сутнасьці гэтая рэлігія зʼяўляецца і да гэтага часу таксама і грамадзянскім, і крымінальным заканадаўствам, і яе служкі адначасова таксама і суддзі, што моцна запаволіла ў прававерных краінах, эвалюцыю грамадзянскасьці.

Паглядзім перадусім, што надаюць нам пра гісторыю прававер'я пад час сярэднявечча нашы артадаксальныя арабісты. Я не буду тут доўга разважаць пра два міфічныя царствы ў Аравіі да пачатку нашай эры, якія, – згодна са славамі саміх сучасных гісторыкаў, – «*былі ахутаны ва ўяўленні народаў Захаду смугой чароўных уяўленняў і з'яўляліся знакам цудоўнай шыкоўнасьці і бляску*». Народнае паданне (якое доўга лічылася і гістарычнай аксіёмай) пераконвае, быццам заняпад гэтых двух царстваў – Мінейскага і Саўскага, – і ўсёй гэтай старажытнай культурнай Аравіі адбыўся таму, што каля паловы II стагоддзя «пасьля Нараджэння Хрыстова» прарвалася нейкая арашальная Марыбская плаціна, пры гэтым паводкай і пясчанымі наносамі было зроблена ў Саве (яна ж Марыб!) непапраўнае спусташэнне і пасьля яго тамтэйшаму насельніцтву засталося толькі пакінуць сваю краіну і пайсьці на поўнач, у Хеджас і ў Цэнтральную Аравію, дзе гэтых высяленцаў з боем сустрэлі мясцовыя паўночнікі-качэўнікі. Паданне, што непапраўнае разбурэнне Марыбскай плаціны адбылося ў II стагоддзі – безумоўна няпраўдзівае, таму што із новазнойдзеных надпісаў мы ведаем, што такая плаціна спраўна працавала і ў VI стагоддзі нашай эры. А таму і легенду пра гэтае спусташэнне і перасяленне народа хутчэй за ўсё можна патлумачыць той жа самай метэарытнай катастрофай, якая выклікала і пілігрымства да адломкаў мекскага метэарыта. Але і гэтая катастрофа павінна была адбыцца толькі ў VII стагоддзі, калі лічыць «збяганне» (геджру) у 622 годзе, прызнаўшы сучасныя апавяданні пра Магамета за такі ж міф, як і легенды пра іншых заснавальнікаў рэлігій. Перад гэтым каля 572 года Йемен – як кажуць нам – самаахвотна паддаўся шаху Хазрою I Анушырвану і потым (у 597) – Хазрою II Парвізу і да VII стагоддзя працягваў быць спадчынным пярсідзкім намесьніцтвам. А па мове ён – надаюць нам, не заўважаючы як гэта няпраўдападобна – асіміляваўся са сваімі паўночнымі ворагамі, варварамі-хеджасцамі (гіксосамі ягіпцянаў).

Нам кажуць, што, кіраваныя наступнікамі прарока Магамета, «каліфамі», аравійцы (перастаўшы мыцца праз недахоп вады, як яны робяць зараз; вярблюжынай мачой) на працягу некалькіх дзясяткаў гадоў заваявалі і арабізавалі ўсю Месапатамію, Сірыю, Ягіпет, Паўночную Афрыку, Гішпанію, Сіцылію, Балеарскія выспы, Мальту і гэтак далей, і што з уступленнем на халіфскі пасад Абасідаў (з рэзідэнцыяй ужо ў больш прыдатнай мясцовасьці, Багдадзе) утварыўся пад аб'ядноўваючай абалонкай іхнай мовы нівеліруючы агульна-ісламскі настрой вынікам чаго была ўсенародная асіміляцыя ў Заходняй Азіі, прытым толькі ўсход каліфату – Персія – здолела захаваць сваё неарабскае нацыянальнае пачуццё. Дакладна так жа і жыхары заходне-халіфацкіх краін, ад Сірыі да Гішпаніі – кажуць нам – раптам арабізаваліся адносна мовы і пачалі называць сябе арабамі, хаця згодна са сваімі расавымі, антрапалагічнымі і псіхалагічнымі асаблівасьцямі яны далёка не падобныя з аравіцянамі. Так званыя зараз «арабы сірыйскія і месапатамскія» – гэта, па сутнасьці, арамейцы, прыняўшыя прававер'е; «арабы» ягіпецкія – тое ж, што і копты; «арабы» паўночна-афрыканскія – не што іншае, як берберы і маўры; «арабы» андалузскія з прававерными іберыйцамі і вестготамі – не што іншае, як гішпанцы; «арабы» міжземнаморскіх выспаў (Сіцыліі, Мальты і інш.) – проста італьянцы, прыняўшыя прававер'е. Так нас запэўніваюць усе гісторыкі. Але ці праўдападобна, што адзінабожнае «прававер'е» пашырылася ва ўсіх гэтых краінах з той геаграфічнай пасткі качавых народаў, пустыннай малалюднай Аравіі, цэнтральная частка якой і зараз менш даступная для падарожнікаў, чым палярныя краіны?

Гэтак жа праўдападобна, наколькі і кожная іншая чароўная казка.

Прававер'е (маслем) таго часу было хутчэй усяго толькі асобнай назвай арыянства, а калі мы згадаем, што Арый і Арон – адна і тая ж асоба, то пабачым цесную сувязь прававер'я і з месіянствам сярэдневечча. Вось чаму, не прадвызначаючы, што адкуль прыйшло, я канстатую тут толькі агульнае становішча існаваўшых тады прававерных краін, яшчэ не адлучаных, як мы ўжо бачылі, і ад візантыйскай царквы.

Нават і ў палове X стагоддзя, – паведамляюць нам, – Аравія, акрамя толькі двух сваіх сьвятых гарадоў, застаецца пад уладай сваіх асобных шэйхаў і эміраў. Месапатамія працягвае лічыцца намінальным валоданнем багдадзкага абасідзкага каліфа, а ў Паўночнай Месапатаміі і Паўночнай Сірыі знаходзіцца дынастыя Хамданідаў, прызнаючая ўладу ягіпецкага ці Фатымідзкага каліфата, у склад якога ўваходзіць Ягіпет, Паўднёвая Сірыя з Палестынай, Заходняя Аравія, значная частка Паўночнай Афрыкі і Сіцылія. У Марока валадараць нашчадкі Алі. Гішпанія ўяўляе сабой так званы Кордаўскі халіфат (з дынастыяй Амеядаў). Гэта азначае, у X стагоддзі існавала тры арабскія каліфаты: багдадзкі, ягіпецкі і кордаўскі. Які ж із іх стварыў Каран і яго ўладу? Які заўгодна, толькі не Аравія! Мы ж ужо даўно адзначылі, што Аравія і ў X стагоддзі, акрамя двух сваіх мястэчак сярод пустыні, трымаючыхся на некаторым культурна-рэлігійным узроўні выключна дзякуючы прыбыткам ад пілігрымаў, была яшчэ пад уладай, сваіх дробных незалежных шэйхаў. Таму зразумела, што культура і дзяржаўная ўлада не маглі прыйсьці ад гэтых дробных шэйхаў у буйныя халіфаты, а толькі ад буйных халіфатаў да шэйхаў. Якая б то ні было хваля распаўсюджваецца із вобласьці больш вялікага ціску да меншага, а не наадварот.

Потым ужо наступілі часы Крыжовых паходаў, калі аднымі мясцовасьцямі Палестына і Сірыя завалодалі каталікі крыжакі, а другімі мясцовасьцямі тых жа Сірыі і Палестыны (а з імі Паўночнай Месапатаміяй і Чырвонаморскім узбярэжжам Аравіі з яе Мекай і Медынай) завалодаў, – кажуць нам, – Саладзін (Салах-Эддзін), знішчыўшы таксама дынастыю Фацімідаў у Ягіпце, дзе потым і яго так званую «Эйюбідзкую» дынастыю змянілі мамелюкскія султаны (XIII-XVI стагоддзі).

Багдадзкі халіфат мы знаходзім у палове XIII стагоддзя пад мангольскай уладай. Сіцылію каталікі-нарманы забралі ў агаран яшчэ ў 1071-1086 гадах. А на Пірэнейскай паўвыспе ўлада ізмаэлітаў, моцна пахіснуўшаяся ў 1212 годзе, канчаткова знікла ў 1492 годзе. Выцесненыя із Гішпаніі прававерныя выдаліліся ў незалежную «маўрскую» Паўночную Афрыку. Потым у XVI стагоддзі туркі-асманы – ужо з Каранам у руках – аднавілі пад сваёй уладай усе межы ранейшай імперыі Юстыніяна. Незалежнымі ад іх тады засталіся толькі такія землі, як бедуінская Аравія і маладасяжная і малакультурная вобласць верхняга Нілу – Судан – які, дарэчы, у тыя часы быў аправаведаны толькі ў невялікай ступені. Дастаткова самастойнымі выявіліся, з паслабленнем асманаў пасьля XVI стагоддзя, і маўрскія краіны Паўночнай Афрыкі, – Трыпалі, Туніс, Алжыр і цалкам незалежным Марока, – якія да XVIII стагоддзя рабілі еўрапейцам шмат турбот сваім пірацтвам на Міжземным моры.

Такімі былі тапаграфічныя асаблівасьці тагачаснага прававерннага сьвету. Але якімі ж былі яго адрозненні ад тагачаснага праваслаўнага сьвету? Перадусім, вядома, яго міжнародная карэйшыцкая мова, блізкая да біблейскай, але моцна адрозніваючаяся ад тагачасных хрысьціянскіх міжнародных моваў – грэцкай і

лацінскай. Адкуль жа яна узнікла? Адкуль заўгодна, але толькі не із той пасткі качавых народаў, якой выглядае апісаная намі Аравійская паўвыспа.



Мал. 108.
Двор мячэці Эль-Майед у Каіры, адным із самых вядомых цэнтраў агаранства.

Лепшыя помнікі сучаснай нам царкоўна-літаратурнай мовы прававерных – гэта так званыя «даісламскія вершы» ў рэдакцыі VIII-IX стагоддзя і тоесны з імі ў граматычным дачыненні Каран. Гэта так званая карэйшыцкая выключна літаратурная і інтэлігенцкая гаворка. А ў сябе дома прававерныя размаўляюць на шматлікіх гаварках, даволі не падобных адна на другую: на аравійскіх, на сірыйска-месапатамскім, на ягіпецкай, на варварыйскай (маўрытанскай). У звязку з апошняй знаходзіцца і жаргон Мальты, а раней да гэтага ж маўрскага згуртавання належалі гаваоркі прававерных у Андалузіі і Сіцыліі.

Колькасць здольных размаўляць на карэйшыцкіх мовах, згодна з самымі сьціплым падлікамі, павінна быць у наш час звыш 50 мільёнаў, але ў

антрапалагічным дачыненні і ў афіцыйных і дзелавых стасунках паміж сабой яны вельмі розныя; можна думаць, што на Аравію, насельніцтва якой асабліва прыстасавалася да карэйшыцкай мовы дзякуючы штогадовым стасункам з праходзіўшымі праз яе пілігрымамі, якія, натуральна, не мелі магчымасьці размаўляць з імі інакш, як на мове Карана, прыпадае не менш 15 мільёнаў. Ніяк не менш за 5 мільёны прыпаддае на пярэдне-азіяцкую Турцыю (Сірыю і Месапатамію), больш 20 мільёнаў на Ягіпет з Нільскай вобласьцю, больш 10 мільёнаў на Паўночную Афрыку. Ва ўнутранай Афрыцы тэрыторыя арабскай мовы працягвала да апошняга часу значна пашырацца з кожным дзесяцігоддзем, таму што негры, далучаючыся да іслама і маючы гандлёвыя стасункі з прававернымі, засвойвалі і іхную літаратурную мову.

Такім чынам найбольш карэйшыцкай краінай з'яўляецца Ягіпет, адкуль грунтуючыся на геаграфічных меркаваннях гэтая гаворка магла на захадзе пашырыцца да Гішпаніі, а на ўсходзе да Пенджаба ў Індыі. Усе гаворкі на якіх прававерныя размаўляюць адрозніваюцца ад мовы Карана, але пісаць ўсе яны да гэтага часу прынцыпова імкнуцца не на сваёй жывой гаворцы, а на гэтай штучна створанай міжнароднай мове, хаця пад іхным пяром яна не магла пастулова не зведаць зменаў і ўхіленняў у напрамку жывой размоўнай гаворкі туркаў, калі не ў вобласьці скланенняў і спражэнняў, то ў вобласьці сінтаксісу і падбору слоў. Таму інтэлігенцкая гаворка сучасных нам прававерных стала вельмі не падобнай на мову Карана (як ні ставяць яны яе сабе за ўзор). Мова Карана адрозніваецца зараз, ад гэтай гаворкі падобна таму як царкоўна-славянская мова ад сучасных славянскіх гаворак.

Вершаваная форма так званых «даісламскіх твораў», рэдагаваных аднак ніяк не раней IX стагоддзя, старанна распрацавана. Іхнае вершаванне метрычнае, з абавязковай рыфмай, і вызначаецца распрацаванай тэхнікай, якая, вядома, не магла ўзнікнуць адразу і сама сведчыць за сваё больш пазняе паходжанне. Ды і рэдактары Карана імкнуліся надаць яму форму рыфмаванай прозы, хаця пад канец яны змарыліся, сталі нядбайнічаць і замест натхнення ў іх пайшлі доўгія і халодныя разважанні. Дзякуючы гэтаму Каран у большасьці выпадкаў і з'яўляецца зараз прозай толькі з рэдкімі рыфмамі.

Я не буду тут разважаць пра тое, ці быў вядомы Каран казачна-ўслаўленаму Гаруну-аль-Рашыду (786-809 гг.) ці персу Асбагу Сіджыстанскаму, напісаўшаму «Сіндыбадаву кнігу пра жаночае падступства», і іншым паэтам, пісаўшым пра свецкія справы амаль на той жа карэйшыцкай мове, як і ў Каране. У іх жа нічога пра Каран не паведамляецца гэтак жа, як – наколькі памятаю – і ў вельмі больш позніх казках 1001 ночы, якую я чытаў ужо даўно. А свецкая ж літаратура была значная!

Не раней X стагоддзя былі скампіляваны із разнастайных міжнародных апавяданняў «Падарожжы марахода Сіндбада», якія пазней былі ўключаны ў «Тысячу і адну ноч». Толькі тады да карэйшыцкай белетрыстыкі пачалі дадавацца апавяданні і пра вартае ўхвалы бедуінскае мінулае Аравіі ці заблытаныя кахальныя апавесьці пра пакутуючыя закаханыя пары як бедуінскага тыпу, так і ў гарадзкім асяроддзі. Не раней X стагоддзя з'явіліся і гумарыстычныя апавяданні пра прыгоды дасьціпных шарлатанаў-гаваруноў, да якіх дапасуецца, напрыклад, непрыстойны, але поўны захапліваючых побытавых падрабязнасьцей раман з месцам падзей, дапасаваным да Багдада, пад назвай: «Абуль-Косым Багдадец», пры гэтым імя Абуль-Косым з'яўляецца разам з тым і імем «прарока Магамета».

Але мы ніколькі не павінны лічыць, што кожнае апавяданне, дзеянне якога адбываецца ў Багдадзе ці ў Аравіі, там і напісана. Дапасаваць жа месца падзей да аддаленых, пакрытых арэолам цудоўнасьці краін было агульнай манерай пісьменнікаў сярэднявечча аж да Шэкспіра. Вось чаму не будзе нічога дзіўнага, калі выявіцца, што і сама «Тысяча і адна ноч» была напісана ў Кордаўскім каліфаце.

Відавочныя прыкметы незнаёмства з Каранам паказваюць так званыя бедуінскія вершы: «Песьня гераізму», «Нанізаныя вершы», вялізная «Кніга песень» Абуль-Фараджа Іспаганскага, X стагоддзя, і іншыя, дзе паэты культурна-гарадзкога абасідскага перыяду, спешчаныя раскошай, пісалі вершамі пра быццам бы пакінутыя імі качэўі, пра хараство жыцця ў пустыні, пра простыя, немудрагелістыя бедуінскія стравы і шатры і ў гэтую бедуінскую рамку дадавалі ўхвалы каліфам ці вяльможам-мецэнатам.

Сучасныя арабісты лічаць, што паэты X стагоддзя вельмі намагаліся наблізіцца да даісламскага бедуінскага «класіцызму»; але ці на самой справе сам гэты класіцызм не іх уласнае стварэнне? Цалкам аддаліцца ад патрабаванняў жывой сучаснасьці і ад культурнага пярсідзкага і грэка-сірыйскага ўплыву арабская паэзія не магла – ні ў змесьце, ні збольшага нават у форме. Фантастычныя легенды пра Гарун-аль-Рашыда і яго атачэнне ўтварылі пазьней (пасьля X стагоддзя) адзін із пластоў незавершанага яшчэ тады казачнага зборніка «Тысяча, і адна ноч». Пры двары Гаруна – паведамляюць нам – жылі філолагі – Абул-Абейда, Кісай і невычэрпны фальклярыст-апавяданнік Асмаый. А паэтаў – пераконваюць нас – была тады цэлая куча. Там, акрамя Абу-Новаса, былі: эротык Абас ібн-аль-Ахнаф і другі эроцік Сары-аль-Гавані (г.азн. «ахвяра прыгажунь») са сваім вучнем Дзі'білам. Тут-жа спяваў спявак-кампазітар Ібрагім Масульскі са сваім сынам музыкантам Ісакам, і кожнаму із іх пазьней быў прыдуманы нават і год сьмерці ў прамежку паміж 805 і 860 гадамі.

Але ўсе іхныя творы і нават імёны, як мне будзе нагода паказваць далей, былі толькі дадаткамі да казак із «Тысяча і адна ноч», а рэчаісная карэйшытская літаратура ўзнікла пазьней.

Толькі ў XI і XII стагоддзях і пазьней наступіла эпоха росквіту так званай «арабскай» (але ніяк не аравійскай) культуры, якая спарадзіла першакласных паэтаў і выдатных філосафаў, навукоўцаў, гісторыкаў, географаў. Толькі жывуць яны, як і патрэбна было чакаць згодна з этнаграфічнымі умовамі, ужо не «пры багдадскім двары», а ў Паўднёвай Яўропе, у Гішпаніі, дзе таленавітае вестгоцкае насельніцтва было здольным да прагрэсу ведаў і думкі, ды і да паэзіі – у самай вялікай ступені.

Нас запэўніваюць, быццам бы ў VIII-IX стагоддзях Багдад для Гішпаніі быў тым жа самым, што бліскучая сталіца для аддаленай глухамані і, каб давяршыць сваю адукацыю, андалузцы ездзілі на Ўсход. Але хіба гэта было лёгка? Ды хіба гэта і проста было праўдападобным? Грунтуючыся на ўсіх рэалістычных меркаваннях павінна быць наадварот.



Мал. 109,
Сучасная Сявілля, сярэднявечны агмень ізмаэліта-жыдоўскай культуры.

Кордаўскі ж двор з'яўляўся самым бачным мецэнацкім цэнтрам сярод усіх двароў прававернага сьвету ў X стагоддзі. Хаця твор «Каралі ібн-Абд-Рабіхі» лічыцца арабістамі збольшага плагіятам із «Крыніц вестак» багдадца Ібн-Катэйбы (памёршага быццам бы ў 889 г.), але ці праўда, што і сам яго твор не апокрыф? Ва ўсякім разе поспех андалузскай анталогіі ва ўсім мусульманскім сьвеце быў непараўнальна вышэйшы, чым багдадзкага арыгінала, калі такі сапраўды быў там напісаны. Пры сыну Абдэрахмана III, каліфе Хакаме II (961-976), стваральніку знакамітага кордаўскага храма, Андалузія – запэўніваюць нас – была пакрыта сеткай вышэйшых і сярэдніх школ. Хакам II сабраў – паведамляюць – вялізную бібліятэку, якая змяшчала 400 000 тамоў, і, згодна з гіпербалізаванымі сведчаннямі гісторыкаў, не толькі ўважліва прачытаў усе кнігі свайго кнігасховішча, але і зрабіў на іх палях свае прыпіскі.



Мал. 110.
Сучасны Таледа, сярэднявечны агмень ізмаэліцкай і жыдоўскай культуры.

Яго палац ў Кардаве кішэў перапісчыкамі, і каліф не шкадаваў грошай на пісьменнікаў. Так Абуль-Фараджу за першы асобнік яго «Кітаб-аль-Агоні» ён заплаціў – паведамляюць нам – 1 000 чырвонцаў. Кордаўскі ўніверсітэт славіўся ва ўсім сьвеце. Звыш духоўна-юрыдычнай адукацыі (патрэбнай для службовай кар'еры), гэты ўніверсітэт даваў і літаратурна-філалагічную адукацыю. А дакладныя матэматычныя навукі Кардоўскай акадэміі ў X стагоддзі прыцягвалі да сябе адусюль дапытлівых еўрапейцаў. Потым у XI стагоддзі галоўным культурна-літаратурным цэнтрам Гішпаніі зрабілася Сявілля, дзе, акрамя здольнага паэта-каліфа Матаміда, яго жонкі – паэткі Рэмэйкы і паэта-візіра Ібн-Амара, вельмі вылучаецца Ібн-Зейдун (1003-1061), які быў рамантычна закаханы ў кордаўскую паэтку Валяду, дачку аднаго із апошніх (1025 г.) амейядзкіх каліфаў.

І вось, чытач, уся гэтая літаратура выйшла не із Аравіі і не із Багдада, а із Гішпаніі, і, звыш таго, у ёй нават не пахне Каранам, а пра прарока Магамета ў ёй – наколькі мне вядома – нічога няма.

Як жа гэта так здарылася? І калі адбыўся магаметанскі клерыкальны пераварот?



Мал. 111.
Сучасная Сявілля, сярэднявечны агмень ізмаэліцка-жыдоўскай культуры.

«Асабіста мы лічым, – выказваецца А. Крымскі ў сваёй «Гісторыі арабаў» (стар. 55), што для Гішпаніі і Паўночнай Афрыкі цалкам адчувальнай паваротнай эрай можа служыць наляцеўшае панаванне фанатычных самых рэакцыйных клерыкалаў і душыльнікаў жывой думкі – бербераў альмаравідаў (1090), якое працягвалася больш паловы стагоддзя, а для Азіі – нашэсьце і панаванне цюрак-сяльджукаў і захоп Багдада ў 1055 годзе. Тады былі знішчаны ўсе абласныя арабскія і пярсідзкія дынастыі Азіі і заснаваны адзін вялізны прававерна-суніцкі султанат, дзе першым валадаром нават і прававерны напрамак набожнага імама

Шафыя здаваўся напалову ерэтычным. Аднак немагчыма не браць да ўвагі, што культурнае спусташэнне Азіі было пачата яшчэ раней, на мяжы XI стагоддзя, цюркамі-газневідамі (якім даў пачатак заваёўнік султан Махмуд, 998-1030), і таму Брокельмані мае свае падставы датаваць заканчэнне класічнага перыяду 1010 годам». Так выказваецца сам А. Крымскі, адзін із нашых буйнейшых арабістаў, і што ж атрымліваецца?



Мал. 112.
Сучасная Грэнада, сярэднявечны агмень ізмаэліцка-жыдоўскай культуры.

Калі гішпанскія і іншыя агаране былі проста арыянамі, мала адрозніваўшыміся па рэлігіі ад месіянцаў, то магаметанства, як рэлігія Карана, можа хутчэй усяго датавацца, як я ўжо і выказваўся, з гэтага Махмуда-Магамета. Гэта быў афганскі султан-заваёўнік, давёўшы межы свайго царства на захадзе да Грузіі і Багдада, на поўначы – да Бухары і Кашгара, а на паўднёвым усходзе – да Дэлі і ўтокаў Інда.

Толькі пры ім і магла быць створана для ўмацавання яго ўлады такая кніга, як Каран, і гэтая кніга, як і ўсе заканадаўствы, выпрацаваныя навукоўцамі пры тым ці іншым валадару, прыпісана яму, падобна таму як, напрыклад, было нядаўна з «кодэксам Напалеона». А таму даводзіцца зрабіць выснову, што канчаткова Каран быў адрэгаваны замест «каліфа Асмана» зяця прарока Магамета, пры Асмане-Заваёўніку з дапамогай нейкага Зеіда.

У гэты ж час перамяніўся і характар карэйшыцкай свецкай літаратуры.

Яна, вядома, не загінула адразу, хаця у ёй з'явіліся і новыя раздзелы, у тым ліку і клерыкальны. І ў гэты ж час упершыню была вымаўлена ў Візантыі анафема богу Магамета ў разгар каранічных рэлігійных войн і крыжовых паходаў супраць «магаметанаў»... Толькі з такога боку гледжання ўсё прыходзіць у лагічную сувязь.

Як прыклад пачаўшагася ў гэты час магаметанскага ханжаства (заўважу дарэчы, што і само слова ханжа з'яўляецца толькі трохі па іншаму вымаўленым словам «хаджы», г. азн., пілігрым да аравійскіх сьвятыняў), я прывяду толькі напісаныя ў XII стагоддзі выхадцамі із Гішпаніі і Сіцыліі два «дамастроі» для валадароў.

Складальнік аднаго із іх, больш сур'ёзнага – выхадзец іг г. Тартосы ў Андалузіі, Ібн-Абу-Рандака Тартушый (1059-каля 1126) пакінуў Гішпанію да ўварвання ў яе Альмаравідаў і пасяліўся пасьля шматлікіх падарожжаў у Фацімідаў у Ягіпце, дзе і стварыў у 1122 годзе сваю «Сьвяцільню для валадароў», якую і персы перавялі на сваю мову. Яму ж належыць і этыка-багаслоўскі трактат, дзе праводзіцца думка, відавочна не вельмі агульнапрынятая ў мусульманаў, што мастурбацыя з боку гледжання мусульманскай рэлігіі з'яўляецца грахом. Другі "дамастрой", складзены ў 1159 годзе з мэтай разганяць благі настрой сіцылійскага валадара Махамеда, быў цалкам белетрыстычны, гэта – «Жыватворная вільгаць» Ібн-Зафара Сіцылійца (памёр каля 1169); і для таго ж валадара Ібн-Зафар склаў зборнік анекдотаў із пярсідзкай гісторыі.

Але не загасла і звычайная літаратура. Да XII-XIII стагоддзяў дапасуецца стварэнне шматлікіх выдатных анталогій заходне-арабскай паэтычнай і празаічнай літаратуры, надзвычай блізкай да нашага еўрапейскага настрою. У араба-андалузскай паэзіі заўважаецца значнае падабенства з еўрапейска-рыцарскай паэзіяй і з яе ідэалістычным стаўленнем да дамы сэрца, без асобна-ўсходняй пачуццёвасьці.

Аднак у той жа час з'явілася і паэзія рэлігійнага характару – пераважна суфійска-аскетычная.



Мал. 113.
Сучасная Картагена, сярэднявечны агмень ізмаэліта-жыдоўскай культуры.

Да самага заканчэння знаходжання «маўраў» у Гішпаніі не пераставала квітнець мастацтва, выявіўшаяся пераважна ва ўслаўленай «маўрытанскай» архітэктуры, да якой належыць замак-палац аль Тамбра (па-гішпанску Alhambra) на гары ў Грэнадзе. Гісторык-філосаф Ібн-Хальдун (1332-1406) у сваіх «Гістарычных уводзінах» пазначае, што ў той час, калі ў іншых арабскіх краінах школьнае навучанне дзяцей накіроўвалася амаль выключна на Каран і сьвятыя паданні, у

мусульманскай Гішпаніі наадварот – дзеці з дзяцінства навучаюцца паэзіі і літаратурнаму складанню.

Цалкам інакш складалася палітычнае, эканамічнае і разумовае жыццё мясцовасьцей Усходу ад XI да пачатку XVI стагоддзя.

Як і патрэбна было чакаць згодна з геаграфічнымі ўмовамі той мясцовасьці, менш адоранай прыродай і менш разнастайнай, чым поўдзень Яўропы, тут творчасць была нашмат слабейшай і, акрамя таго (што вельмі паказальна!), усе самыя лепшыя літаратурныя і навуковыя творы толькі **прыпісваюцца** гэтай мясцовасьці, а «**знойдзены**» ў заходне-еўрапейскіх бібліятэках, нібы-та вывезенымі з Усходу выпраўляемымі туды шукальнікамі старажытнасьцей пры вельмі двухсэнсоўных абставінах (як я ўжо паказваў у IV кнізе «Хрыста» адносна астранамічнай літаратуры). Із навукоўцаў тут жыў – кажуць нам – Аль-Біруній і перс «Адбій» (памёршы каля 1036 г.), які рытарычна напісаў пераможную гісторыю цара Махмуда па-арабску і імкнуўся сваім квяцістым стылем толькі «падтрымаць кірмаш красамоўства», таму што там для нечага большага не існавала магчымасьцей. Харырый (1054-1122) у сваіх «Макамах», напісаных быццам бы ў Басры, з захапленнем малюе паспяховыя прыгоды адукаванага прайдзісьвета Абу-Зейда, гэтага «арабскага Жыль-Блаза». Амаль адначасова з Харырыем знаўца каранскіх розначытанняў Ібн-Сeрадж (як бы) Багдадзкі (каля 1027-1106) склаў із рамантычных матэрыялаў амейядзкага і пачатку абасідзкага перыядаў вялікі зборнік апавяданнаў: «Няшчасьці закаханых». Некаторае дачыненне да белетрыстыкі і паэзіі мае і кіраўніцтва па музыцы, напісанае (каля 1252) быццам бы ў Багдадзе Сафіеддынам Урмійскім. А пад час наступнага і больш праўдзівага «мангольскага перыяда» мастацкая творчая дзейнасць Месапатаміі адсутнічае, як і зараз, і гэта мімаволі наводзіць на вялікія сумневы і адносна яе ранейшага там росквіту. Патрэбна нарэшце асобна даследаваць, адкуль і калі з'явіліся ў заходнееўрапейскіх кнігасховішчах прыпісваемыя Месапатаміі і адсутнічаючыя як ў ёй так і на ўсім Усходзе выбітныя згодна са сваім зместам рукапісы. Ці не створаны яны ў Гішпаніі?

У Сірыі і Ягіпце XII і XIII стагоддзяў ішло змаганне з крыжакамі, якое наклала свой адбітак на цэлую серыю архаічных ваяўнічых раманаў, поўных нецярпімасьці да хрысьціянства, хаця б іхны сюжэт меў дачыненне і да эпохі да крыжовых паходаў. Такім, напрыклад, з’яўляецца фантастычны раман пра цара Амара-Намана і яго барацьбы з грэкамі, ці вельмі доўгі рыцарскі раман із 32 частак пра да-магаметанскага волата-мулата Антара, героя разнастайных адважных здзяйсненняў, які із раба зрабіўся шляхетным віцязем. Сюды ж далучаюцца «Аповесць пра султана Бейбарса» (цараваўшага ад 1260 да 1277) і бясконцыя аповесьці пра здзяйсненні вершнікаў «Бану-Хіляль», дзе выступаюць, з аднаго боку, лівійцы і крыжакі, а з другога – Цімур і персы.

Але і тут зноў узнікае фатальнае пытанне: дзе і калі знойдзены гэтыя рукапісы, дзе яны ўпершыню абнародаваны і пры якіх акалічнасцях? Ці не ў самой Яўропе?

У лірыцы, прыпісваемай дамангольскаму перыяду XII-XIII стагоддзяў, выдатныя з’яўляюцца экстатычныя вершы ад імя ягіпецкага суфія Амара ібн-аль-Фарыда (1181-1235), прасякнутыя жаданем пакінуць свецкае жыццё і аддацца містычнаму аскетызму.

У Ягіпце ж, – пераконваюць нас, – упершыню з'явіўся лялечны тэатр і неўзабаве атрымаў на Ўсходзе вялікае пашырэнне, асабліва дзякуючы турэцкаму пятрушцы – Карагезу.

Але калі празаічныя творы, прыпісваеммыя мамелюкскаму Ягіпту XIV-XV стагоддзяў, поўныя гумару і безклапотнасці, то ў сучаснай паэтычнай літаратуры адукаваных ягіпцянаў, згодна з характарыстыкай А. Крымскага[133], заўважаецца ўжо аскетычны песімізм, пераходзячы калі-нікалі ў ханжаства. Адрачэнню ад сьвецкага жыцця навучаюць і такія прызнаныя навукоўцы, як энцыклапедыст і паэт Саютый (памёр 1505 г.).

* * *

А што ж нам сказаць пра Каран?

Вельмі цяжка рабіць высновы пра праўдзівасць яго рукапісаў, як і рукапісаў Бібліі. Прывяду навочны прыклад іхнай фабрыкацыі. Некалі і, відаць не раней XIV стагоддзя, пашырылася паданне пра тое, быццам бы каліф Асман, калі яго забівалі, схапіўся за свой Каран і на ім засталіся сляды яго акрываўленых пальцаў. І вось, у адказ на гэтую легенду, «Каранаў Асмана» са слядамі яго крыві налічваецца ў мусульманскім сьвеце не менш, чым у хрысьціянскім парэшткаў «сумленнага (?) і жыватворчага (?) крыжа», і ўсе яны паказваліся, той у Ягіпце, той у Палестыне, той у Кардове (потым у Марока), той у Канстантынопалі, той у Самаркандзе (потым у Пецярбургу) і г.д., пры гэтым кожны прэтэндуе на непадробленасць. Само сабой зразумела, што існуе і Мядынскі (быццам бы самы старажытны), і Мекскі, і Дамаскі, і Басрыйскі, і Куфійскі, і Тыверыядзкі спісы. Існуе адзін, на выгляд вельмі старажытны, асобнік і ў Англіі, у бібліятэцы India Office; на ім, для папярэджвання сумневаў, існуе нават уласнаручны надпіс: «пісаны Асманам, сынам Афана». Там-жа існуе другі асобнік Карана, напісаны быццам бы рукой каліфа Алі (656-661). І ў нашай Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы з 1869 года таксама знаходзіўся захоплены Фон-Каўфманам у самаркандзкай мячэці Хаджы-Ахрара спіс Карана з бурымі плямамі, якія мясцовымі мусульманамі лічацца за плямы крыві Асмана, таму што згодна з іхным «паданнем», менавіта гэты рукапіс, а не ангельскі, прыцiскаў да грудзей «намесьнік», калі яго забівалі. Ды і у Каір, згодна са сведчаннем Макрызія (т. II, стар. 254-255), таксама быў прывезены асобнік са слядамі крыві Асмана і перададзены ў мячэць Амара. З такімі ж плямамі крыві Асмана маюцца рукапісы Карана ў Антартусе, Кардове і г.д. І ужо грунтуючыся на адной гэтай прыкмеце зразумела, што ўсё яны падробкі, хаця і даволі старажытныя. І такімі, вядома, з’яўляюцца і іншыя старажытныя рукапісы гэтай кнігі. Ды і надрукаваны Каран быў упершыню не мусульманамі, а хрысьціянамі ў Заходняй Яўропе, а адтуль пашырыўся па прававерных краінах.

Першая спроба (Паганіні) выдаць яго па-арабску ў Венецыі ў XVI стагоддзі была няўдалай: папа загадаў спаліць выданне, так што не засталося ніводнага асобніка, і нават год спробы дакладна невядомы. Толькі на прыканцы XVII стагоддзя, калі гэтая кніга ўжо набыла вядомасць у еўрапейскіх перакладах, былі зроблены два выданні арабскага тэксту: спачатку выданне А. Гінкельмана ў Гамбургу ў 1694 годзе і потым выданне Л. Марачы ў Падуі ў 1698 годзе, пры лацінскім перакладзе і лацінскім аспрэчанні.

---

133 А. Крымскі, Гісторыя арабаў, I, 66.



Мал. 114.
Венецыя, дзе ў XVI стагоддзі ўпершыню быў выдадзены Каран на яго арыгінальнай мове, стаўшай зараз «літаратурна-арабскай».

Але магчыма – запытае мяне чытач – існуюць нейкія перакладзеныя вытрымкі із Карана ў еўрапейцаў пад час сярэдевечча? На жаль! У той час, калі прававер'е пераможна заваявала палову культурнага сьвету ў выглядзе вялізнага каліфата, пра пераклады цытат із Карана ў Яўропе няма і згадкі. Падумалі пра пераклад толькі тады, калі пачаліся Крыжовыя паходы і было заснавана графам Балдуінам Ерусалімскае каралеўства, а хрысьціяне Пірэнейскай паўвыспы ўжо адваявалі ў слабеючых маўраў вялікую частку паўвыспы.

Толькі пасьля пачатку Крыжовых паходаў, незадоўга да паловы XII стагоддзя, Пятро Высокашаноўны, абат Клюнійскага кляштара (1122-1156), сябраваўшы з вядомым прапаведнікам другога крыжовага паходу Бярнардам Клервальскім і асабіста пабываўшы ў Гішпаніі, напаткаў на думку, што не дрэнна было б хрысьціянскаму сьвятарству пазнаёміцца з сапраўднай рэлігіяй сарацынаў.

І гэта не толькі не выклікала крытыку папы, але, наадварот, галоўны яго перакладчык Роберт Рэтынскі (Robertus Retenensis) неўзабаве быў прызначаны архідыяканам Пампелунскай царквы. І вось яго тэкст значна пашыраецца па шматлікіх месцах побач з сучасным афіцыйным, а гэта служыць новым доказам маёй думкі, што афіцыйны тэкст Карана ўзнік ужо пазьней гэтага перакладу пры Асмане І (1299-1326 г.), з якога і спісаны легендарны каліф Асман, зяць прарока Магамета. Гэта і ёсць «канчаткова зацьверджаны тэкст»; з яго і быў зроблены пераклад на лацінскую мову, надрукаваны ў Швейцарыі ў 1513 годзе пратэстантам Тэадорам Бухманам, ці, як ён сябе называў згодна з тагачаснай модай Бібліандрам. І цікава, што аўтар Карана «Махумат» там называецца **Сарацынскім царом**[134].

Гэтае выданне зведала, праўда, папскую праскрыпцыю, але не за сам пераклад Карана, а за пратэстанцкія прадмовы да яго і за нататкі, накіраваныя

[134] Machumatis, saracenorum principis, eiusque successorum vitae ac doctrina ipseque Alcoran. Базель, 1543 (існуе у Лазараўскім Інстытуце Ўсходніх моў, № 7848).

супраць каталіцызму і нават самога папы, і следам за ім безперашкодна з'явіўся італійскі пераклад Андрэя Аравабэнэ: L'Alcorano di Macometto (Венецыя, 1547); у 1698 годзе ў Падуі, ужо з дабраславення самога папы, быў надрукаваны лацінскі пераклад Марачы (з арабскім тэкстам і з аспрэчаваннем), маючы загаловак: Refutatio Alcorani, in qua ad Mahumetanicae superstitionis radicem securis apponitur et Mahumetus ipse gladio suo jugulatur.

Адзначым, што італійскі пераклад Андрэя Аравабэнэ L'Alcorano di Macometto (Венецыя, 1547) быў зроблены ўжо з бібліяндраўскага лацінскага выдання. А потым, праз больш чым сто гадоў, пашырыўся яшчэ французкі пераклад Андрэ дзю Рiэ (Du Rier: «L'Alcoran de Mahomet» Парыж, 1646). Пасьля яго, дзякуючы таму, што хрысьціяне пачалі спакушацца, кажучы, што ў Каране няма нічога блюзнерскага, сабор рымскіх цэнзараў пры папе Аляксандру VII (1655-1667) наклаў для каталікоў забарону на ўсе выданні Карана, але яна, вядома, не дапамагла. Із толькі што згаданых перакладаў рабіліся далейшыя на нямецкую, галандзкую, ангельскую і рускую мовы (1716), і сам дзю-Рiэ спакойна перавыдаваўся па-французку ў Парыжы. Пераклад сучаснага Карана Людовікам Мараччы у Падуі ў 1698 годзе паслужыў грунтам для ангельскага перакладу арабіста Джорджа Сэля[135], які і да гэтага часу працягвае перавыдавацца.

Першым перакладам Карана на рускую мову з'яўляецца вельмі рэдкая кніга: «Алкаран пра Магамета ці закон турэцкі, перакладзены з французкай мовы на расійскую» (СПБ., 1716 г.). Потым у 1864 годзе Мікалаеў даў нам пераклад з вельмі добрага французкага перакладу Казімірскага, які тут цытую і я, бо ён больш літаратурны, чым пераклад із арабскай Гардзея Саблукова (Казань, 1879, 2-я выд. 1896), дзе існуе шмат памылак, ды і склад жудасны.

Такім чынам Яўропа атрымала тоесныя з сучасным тэкстам Карана пераклады ўсяго гадоў дзвесьце таму назад. І гэта зноў, пацмацоўвае маю думку, што канчаткова адрэгаваны ён быў толькі паміж 1299 і 1326 гадамі, і што першы яго тэкст, напэўна, даволі блізкі да перакладу Роберта Рэтынскага (1143 г.), быў напісаны не сакратаром «прарока Магамета 622 гады ў Аравіі», а «сакратаром султана Махмуда із Газні» паміж 1000 і 1030 гадамі нашай эры, ды і то наўрад ці ў Месапатаміі, а хутчэй усяго ў Ягіпце ці ў Паўднёвай Яўропе.

З гэтага боку гледжання даводзіцца прызнаць апакрыфічнымі і цвердженні арабістаў, што ва ўсталяванні правільнага чытання каранскага тэксту бралі ўдзел «Абейд-ібн-Селям» (памёр каля 837) і Кісай (памёр 805) і што ў «Вялікай кнізе чытанняў» ібн-Мюджахіда (859-936) толькі сем «чытанняў» Карана былі прызнаны за правільныя, г.азн. за прававерныя і годныя кананізацыі, а ўсе астатнія – за недапушчальныя.

Тое ж самае даводзіцца сказаць і пра «каранатлумачэнні».

Усе тыя, якія датуюцца раней Махмуда і Асмана заваёўнікаў, павінны лічыцца апакрыфічнымі. Ды і Абул-Касым-Махмуд-Замахшарый, хівінец, жыўшы – кажуць нам – доўга ў Мецы і дапасуеемы амаль да таго ж часу (1074-1143 гады), дзіўным чынам супадае на імя з ісламіцкім прарокам Абуль-Касым-Магаметам, які дапасуецца да VII стагоддзя[136], і мог бы быць хутчэй аўтарам Карана, чым яго каментатарам. Толькі кадый Абдалах-Бейдавій (памёр каля 1286), які лічыцца

---

[135] G. Sale, Лондан, 1734.

[136] Чытач не павінен забывацца, што слова «Магамет» з'яўляецца толькі мянушкай азначаючай: «славуты» і што поўнае імя аўтара Карана згодна з вучэннем арабістаў было Абул-Косым-Махмуд, г.азн. «славуты бацька Кузьма, таму, што імя Касым грэцкага паходжання, як і наша Кузьма, што азначае: сьветабуд.

персам із горада Бейды пад Шыразам, можа лічыцца за першага рэчаіснага каментатара, але і гэты, згодна з Нельдэке, «вельмі недакладны і ні ў адной галіне не вычэрпвае прадмета цалкам дастаткова». З новага боку гледжання і каментары прыпісаныя Замахшарыю, з'яўляюцца толькі вытрымкамі із Бейдавія і першым сапраўдным каментатарам з'яўляецца толькі шэйх Джэлялэддзін-Саюты (1445-1505), які сапраўды напісаў шмат твораў па каранскай экзэгетыцы. А із больш позніх каментатараў варта згадаць хіба толькі Хаккы-Эфендзі (Канстантынопаль, 1306), чатыры тамы ў 3400 старонак.

Што да шыіцкіх каментараў на Каран, то ўсе яны вельмі позьнія. Штодзённы, выдадзены ў Тэгеране толькі ў 1829 годзе «Збор зразумелага тлумачэння» падпісваецца імем Абу-Джафара ібн-Хасана-ібн-Алія Тускага, дапасуемы да XI стагоддзя, але на самай справе – кажуць нам – належачы Рады-Ядыну-Абу-Алію-Табарсію (памёр 1153), а з новага боку гледжання і яшчэ пазней. Для характарыстыкі шыіцкіх каментатараў дастаткова пазначыць, напрыклад, што з нагоды слоў Карана: «у гэтай кнізе кіраўніцтва для вас (2: 1)», робіцца заўвага, што пад словам «кніга» патрэбна разумець каліфа Алі.

Якімі ж з’яўляюцца канчатковыя высновы з усяго павядомленага?

Выснова толькі адна. Калі нават мы будзем кіравацца толькі экзэгетычнымі меркаваннямі, то можам пераканацца, што Каран у сучаснай нам рэдакцыі афіцыйна зацверджаны не пазней 1543 года, калі яго выдаў у перакладзе Бібліандэр, і не раней 1122-1156 гадоў, калі Роберт Рэтынскі зрабіў яго пераклад, значна адрозніваючыся ў шмат якіх месцах ад сучаснага афіцыйнга тэкста. Арабскія ж рукапісы, вядомыя да гэтага часу, наўрад ці напісаны раней Бібліандэраўскага выдання 1543 года, бо інакш (пры немагчымасьці кантраляваць якую б то ні было рукапісную літаратуру, без яе праверкі грунтуючыся на друкаваных узорах) у іх не магло б існаваць поўнага адзінства тэксту і тым больш аднастайнасьці арфаграфіі.

# Глава XI.

## Ісламісцкае летазлічэнне.

Прававерная царква, а з ёю і тыя краіны, дзе прававерʼе з'яўляецца дзяржаўнай рэлігіяй, да гэтага часу вядзе сваё летазлічэнне ад 16 ліпеня 622 года нашай эры (а ісламіцкія астролагі ад 15 ліпеня)[137] і пры гэтым вельмі першабытным спосабам. Прававерны год складаецца із 12 месяцовых сінадычных абарачэнняў ад маладзіка да маладзіка, пры гэтым за пачатак месяца прызнаецца не злучэнне Месяца з Сонцам, калі бываюць сонечныя зацьменні, а вечар наступнага за гэтым дня, калі вузкі серп Месяца мажчыма заўважыць пасьля заходу Сонца над палаючай палосай вечаровага зарыва. У наш час дзякуючы няпоўнай дакладнасьці разлікаў, маладзік у прававерных ужо спазняюцца ў сярэднім на двое сутак параўнальна са злучэннямі Сонца і Месяца. Так у 1911 годзе месяц Джемадп-аль-

[137] Цікава, што пад час маладзіка 14 ліпеня 622 юліянскага года ў 5 гадзін 33 хвіліны ад грынвіцкай поўначы было сонечнае зацьменне, але яно ішло каля паўднёвага полюса Зямлі, накрыўшы яго толькі месяцовым паўценем, а ў наступным 623 годзе адбылося 17 ліпеня ў 14 гадзін 34 хвіліны ад грынвіцкай поўначы палавіннае (5"7) месяцовае зацьменне, але і яно было бачным толькі ва ўсходняй Азіі не больш на захад чым Афганістан вечарам.

Авел пачаўся 17 красавіка, тады як сонечнае зацьменне адбылося 15 красавіка, Дзюль-Хіджэ пачаўся 11 лістапада, а зацьменне Сонцы было 9 лістапада, і г.д.

Амаль пачаргова месяцы лічацца роўнымі то 29, то 30 дзён і складаюць для простых мусульманскіх гадоў толькі 354, а для іхных высакосных гадоў 355 дзён, так што прававерны год карацей юліянскага ці рыгарыянскага амаль на 11 дзён, што за тры гады дае больш чым месяцовую розніцу. У выніку ўсе месяцы, як карагод, круцяцца па ўсіх сезонах і цалкам непрыдатныя для якіх бы то ні было астранамічных вызначэнняў, нападобе тых, якія нам увесь час даводзіцца тут ужываць для праверкі старажытнай і сярэднявечнай храналогіі. Кожную астранамічная з'яву, ці будзе гэта спалучэннем планет ці зацьменне Сонца і Месяца, перш чым дасьледаваць яе, даводзіцца пералічыць тут на юліянскі ці рыгарыянскі каляндар з дапамогай распрацаваных для гэтага больш-менш складаных табліц. А тут я і рады прапанаваць чытачу вельмі простую табліцу, складзеную Л. Ф. Рысам і ласкава дадзеную мне (табл. XIX).

Яе верхняя частка складаецца із двух палавін: з левай (таблічка Гд), даючай мусульманскія гады геджры, і правай (таблічка Хр), даючай хрысьціянскія гады. Каля кожнага года ў табліцах Г і Х паказана колькасць дзён, адпавядаючая дадзенаму году, пачынаючы ад метэарытнай катастрофы ў Чырвоным моры паблізу Мекі, паклаўшай пачатак агаранскому летазлічэнню 16 ліпеня 622 года юліянскага злічэння.

Так, напрыклад, 1260 мусульманскіх гадоў змяшчае 446 502 дней. Хрысьціянскаму году 1800 згодна са старым стылем адпавядаюць 430 422 дні, (а згодна з новым 430 410), мінуўшых ад пачатку мусульманскай эры. У 32-х мусульманскіх гадах утрымліваецца 11 339 дзён, а ў 32 хрысьціянскіх гадах 11 688 дзён, і г.д.

ТАБЛІЦА XIX

Просты спосаб для перакладу мусульманскіх і агаранскіх дат у нашы еўрапейскія і наадварот (складзена Л. Ф. Рысам).

| Таблічка Гд (геджры) | | | | Таблічка Хр (Хрысьціянаў) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| мусульманскія | | | | хрысьціянскія | | | |
| Цыклічныя гады | Колькасць дзён | Гады высакосы | Колькасць дзён | Стагоддзевыя гады | Колькасць дзён | Гады высакосы Колькасць дзён | |
| 0 | 0 | 2 | 708 | Стары стыль | | | |
| 60 | 21 262 | 5 | 1 771 | 600 | 7 878 | 4 | 1 461 |
| 120 | 42 524 | 7 | 2 480 | 700 | 26 647 | 8 | 2 922 |
| 180 | 63 786 | 10 | 3 543 | 800 | 65 172 | 12 | 4 383 |
| 240 | 85 048 | 13 | 4 606 | 900 | 101 697 | 16 | 5 844 |
| 300 | 106 310 | ?15 | 5 315 | 1 000 | 138 222 | 20 | 7 305 |
| 360 | 127 572 | ?16 | 5 669 | 1 100 | 174 747 | 24 | 8 766 |
| 420 | 148 834 | 18 | 6 378 | 1 200 | 211 272 | 28 | 10 227 |
| 480 | 170 096 | 21 | 7 441 | 1 300 | 247 797 | 32 | 11 688 |
| 540 | 191 358 | 24 | 8 504 | 1 400 | 284 322 | 36 | 13 149 |
| 600 | 212 620 | 26 | 9 213 | 1 500 | 320 847 | 40 | 14 610 |
| 660 | 233 882 | 29 | 10 276 | 1 600 | 357 372 | 44 | 16 071 |
| 720 | 255 144 | 32 | 11 339 | 1 700 | 393 897 | 48 | 17 532 |
| 780 | 276 406 | 35 | 12 402 | 1 800 | 430 422 | 52 | 18 993 |
| 840 | 297 668 | 37 | 13 111 | 1 900 | 466 947 | 56 | 20 454 |
| 900 | 318 930 | 40 | 14 174 | 2 000 | 503 472 | 60 | 21 915 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 960 | 340 192 | 43 | 15 237 | | | 64 | 23 376 |
| 1 020 | 361 454 | ?45 | 15 946 | | | 68 | 24 837 |
| 1 080 | 382 716 | ?46 | 16 300 | | | 72 | 26 298 |
| 1 140 | 403 978 | 48 | 17 009 | 1 500$^{\Delta}$ | 320 837 | 76 | 27 759 |
| 1 200 | 423 240 | 51 | 18 072 | 1 600 | 357 362 | 80 | 29 220 |
| 1 260 | 446 502 | 54 | 19 135 | 1 700$^{\Delta}$ | 393 886 | 84 | 30 681 |
| 1 320 | 467 764 | 56 | 19 844 | 1 800$^{\Delta}$ | 430 410 | 88 | 32 142 |
| 1 380 | 489 026 | 59 | 20 907 | 1 900$^{\Delta}$ | 466 934 | 92 | 33 603 |
| 1 440 | 510 288 | ? – не ва ўсіх мусульман. | | 2 000 | 503 459 | 96 | 35 064 |
| 1 500 | 531 520 | | | І г. д. за кожныя 400 гадоў 146 097 дзён | | $^{\Delta}$ просты год | |
| І г. д. на каждыые 60 год 21 262 дзён | | | | | | | |

Таблічка M1

| Месяц | Гады па высакосу | | |
|---|---|---|---|
| | 0 | 1$^{\Delta}$ | 2$^{\Delta}$ |
| Махарэм (30 дзён) | 0 | 355 | 709 |
| Сафар (29 дзён) | 30 | 385 | 739 |
| Рабі-у’ль-Авель (30) | 59 | 414 | 768 |
| Рабі-у’ль-Ахіль (29) | 89 | 444 | 798 |
| Джэмадзі-ль-Авель(30) | 118 | 473 | 827 |
| Джэмадзі-ль-Ахір(29) | 148 | 503 | 857 |
| Раджаб (30 дзён) | 177 | 532 | 886 |
| Шабан (29 дзён) | 207 | 562 | 916 |
| Рамазон (30 дзён) | 236 | 591 | 943 |
| Шаваль (29 дзён) | 266 | 621 | 975 |
| Зуль-кадэ (30 дзён) | 295 | 650 | 1 004 |
| Зуль-хіджэ (30 дзён) | 325 | 680 | 1 034 |

Таблічка M2

| Месяц | Гады па высакосу | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 0 | | 1$^{\Delta}$ | 2$^{\Delta}$ | 3$^{\Delta}$ |
| I | 1$^{\Delta}$ | 0 | 366 | 731 | 1 096 |
| II | 32$^{\Delta}$ | 31 | 397 | 762 | 1 127 |
| III | 60 | | 425 | 790 | 1 155 |
| IV | 91 | | 456 | 821 | 1 216 |
| V | 121 | | 486 | 851 | 1 216 |
| VI | 152 | | 517 | 882 | 1 247 |
| VII | 182 | | 547 | 912 | 1 277 |
| VIII | 213 | | 578 | 943 | 1 308 |
| IX | 244 | | 609 | 947 | 1 339 |
| X | 274 | | 639 | 1 004 | 1 369 |
| XI | 305 | | 670 | 1 035 | 1 400 |
| XII | 335 | | 700 | 1 065 | 1 430 |

Тут 0 пазначае высакосны год, 1$^{\Delta}$ першы пасьля высакосу, 2$^{\Delta}$ другі па высакосу (чым у мусульманаў і абмяжоўваецца), а ў хрысьціянаў яшчэ існуе 3$^{\Delta}$ – трэцці пасьля высакосу.

У табліцах **М** дні знаходзяцца на скрыжаванні слупкоў гадоў з радкамі месяцаў, а для студзеня і лютага паказаны дзьве лічбы: пад час простага года для гэтых месяцаў бяруцца лічбы, падзначаныя знакам $^{\Delta}$, а для высакосных каля іх няма пазнакі. Так, напрыклад, пачатку месяца Раджаба для 2-га пасьля-высакоснага мусульманскага года адпавядае дзень 886-ы; а 12-му дню гэтага месяца 886 +12, г.азн. 898-ы дзень. Месяцу сакавіку 0-га, г.азн. высакоснага хрысьціянскага года адпавядае дзень 60-ы, такім чынам 1-му сакавіка гэтага года – дзень 61-ы. І наадварот, напрыклад, дню 933 адпавядае 933-912 = 21 ліпеня 2 года пасьля высакоса.

Кожнае перавядзенне аднаго летазлічэння на другое складаецца із двух аперацый:

а) із ператварэння дадзенай даты ў дні, і

б) із перавядзення знойдзеных дзён у дату другога летазлічэння.

**Ператварэнне дадзенай даты у дні.** Табліца ***Гд*** утрымлівае ў левай частцы мусульманскія гады праз 60 гадоў (гэта цыклічныя гады, адпавядаючыя сярэднявечным уяўленням, што ўсе планеты, у тым ліку і Месяц, вяртаюцца праз гэты тэрмін на сваё ранейшае месцаванне, што дайшло і да Кітая). А табліца ***Хр*** утрымвае хрысьціянскія гады праз 100 гадоў. У яе правай частцы знаходзяцца ўсе

высакосныя гады гэтых інтэрвалаў, а знізу, у табліцы **М2** – простыя гады і месяцы паміж двума паслядоўнымі высакоснымі гадамі. Пры разборы дадзенай даты бярэцца самы блізкі да яе меншы цыклавы, ці стагадовы год, потым самыя блізкія меншы із высакосных і, нарэшце, год, месяц і лічба пасьля высакоснага года. Тады сума адпаведаючых ім дзён пакажа нам колькасць дзён ад пачатку мусульманскай эры згодна з арабска-турэцкім народным календары, эпоха якога 16-VII-622 года.

Рэштка ад дзялення гэтай лічбы на 7 пакажа дзень тыдня, а менавіта: 0 – нядзелю, 1– панядзелак, 2 – аўторак, 3 – сераду. 4 – чацьвер, 5 – пятніцу і 6 – суботу.

А сама атрыманая намі колькасць дзён, прайшоўшых ад 16-VII-622 года, лёгка перакладаецца ў адпаведную дату еўрапейскага злічэння грунтуючыся на гэтай жа самай табліцы, што лепш усяго зразумець з канкрэтнага прыкладу.

Прыклад. Патрабуецца перавесьці ў дні дату: агаранскі 1309 год, Сафар 13.

Знаходзім згодна з вышэйпавядомленым:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Табл. Гд налева | 1260 | . . . . . . 0 | = | 446 502 |
| Табл. Гд направа | 48 | . . . . . . . . | = | 17 009 |
| Табл. М1 налева | 1 | сафар 0 | = | 385 |
| | | сафар 13 | = | 13 |
| год 1309[1] | | сафар 13 | = | 463 909 дзён |

Знойдзеную намі колькасць дзён (463 909), мінуўшых ад пачатку мусульманскага летазлічэння (геджры), нам патрэбна перавесьці ў нашы еўрапейскія гады і паказаць дзень тыдня.

Дзень тыдня вызначаецца адразу:

463 909: 7 дае рэштку 5, што азначае – была пятніца.

Зараз шукаем адпавядаючую дату еўрапейскага злічэння, грунтуючыся на самых прыдатных меншых лічбах табліц ***Хр*** і ***М2***

Атрыманая колькасць дзён Геджры (Гд) = 463 909

Самае блізкае да яго ў табл. Хр налева: 430 410 = 1800 год (новы. ст.).

Рэштка да 463909 = 33 499

Самая блізкая лічба ў табл. Хр направа = 32 142 = 88 гадоў.

Рэштка да 33499 = 1 357

Самая блізкая лічба ў табл. М2 направа 1 339 = 3 гады, верасень 0.

Рэштка да 1357 = 18

Усяго = 1891 год, вер. 18 (новы. ст.).

Пры разборы датавання грунтуючыся на «календары арабскіх астраномаў», г.азн. грунтуючыся на эпосе 15 ліпеня 622 года, гэтая лічба павінна быць паменшана на 1 дзень. Згодна з некаторымі крыніцах 15-ы год 60-гадовага цыкла лічыцца за высакосны, а згодна з іншымі – 16-ы; такая нявызначанасць улічана на правым боку табліцы Гд, дзе пастаўлены знак “?” перад гадамі 15 і 16, роўна як і перад 45 і 46 гадамі. Калі невядома, якой сістэмы высакосных гадоў прытрымліваўся дадзены аўтар, то розніца на 1 дзень атрымліваецца толькі ў датах 16 і 46 гадоў кожнага 60-гадовяга цыкла.

Калі ў датаванні пазначаны дзень тыдня, – гэтая няўпэўненасць знікае.

# Глава XII.

## Вынікі ісламу.

Рэзюмуючы ўсё, што павядомлена да гэтага часу, мы прыходзім да такіх канчатковых высноваў.

Аравія – гэта склеп Азіяцкага кантынента, із якога не можа і не мог выйсьці вонкі ніводзін прамень разумовага сьвятла інакш як у выглядзе цьмянага адбіцця, пракраўшагася ў яго звонку, чужога праменя. Там не можа і не магло з'явіцца ніякага прарока, здольнага аўтарытэтна размаўляць з атачаючымі Аравію больш культурнымі краінамі. Там на працягу ўсіх мінуўшых гістарычны часоў маглі існаваць толькі слухачы прарока, прыйшоўшага з іншых больш надзеленых прыродай краін, ды і то дрэнна разумеючых яго вучэнне.

Аравія – гэта пастка азіяцкіх качэўнікаў, трапіўшы ў якую яны рабіліся, з нагоды яе пустыннасьці, разрозненымі адзін ад аднаго і не здольнымі аб'яднацца для заваявання суседніх больш культурных краін, хаця і тыя, грунтуючыся на гэтых жа падставах, не былі здольнымі трывала яе падначаліць. **Усе паведамленні пра выйшаўшых адсюль першых каліфаў – чароўная казка, складзеная ў Заходняй Яўропе і прытым вельмі позна**.

Ні із Мекі, ні із Медыны да гэтага часу не выйшла ніводнай путнай кнігі, а такім чынам і апавяданні пра цэлую пляяду яе пісьменнікаў раптам з'явіўшыхся шляхам самаадвольнага зараджэння на прыканцы VII і напачатку VIII стагоддзя і знікшых потым шляхам самаадвольнага ж знішчэння – проста недарэчнасць.

Разгледзім жа з гэтага боку гледжання яшчэ раз тое, што нам паведамлялі пра яе падарожнікі аж да новага часу, і нават паглядзім, якімі ж з’яўляюцца будучыя перспектывы гэтай паўвыспы і асабліва яе сьвятых гарадоў.

У цэнтры Мекі, якім з'яўляецца самая шырокая і самая нізінная частка атачаючай даліны, стаіць Вялікая Мячэць з аскепкамі метэарыта. Дзякуючы таму, што яна размешчана ў самым глыбокім месцы даліны, то сядзібы падымаюцца вакол яе ярусамі з усіх бакоў, далей лепячыся самотна па схілах і выступах гор, дзякуючы чаму да яе сьцякае ўся вада моцных заліваў, калі-нікалі нахлынаючых на Меку. Пад час дажджлівай пары года, нясучыяся з гор ручаі злучаюцца ў адзін магутны струмень, імкліва імчачыся праз горад, разбураючы часам яго сядзібы. З гэтай нагоды, у Мецы **няма ніводнай пабудовы старэйшай чатырохсот гадоў**.

Пад час астатняй часткі года клімат Мекі настолькі сухі, што, згодна са сведчаннем аднаго паломніка, хлеб, пакінуты на некалькі гадзін непакрытым у якой-небудзь сядзібе на палічцы, здаецца выпечаным у другі раз і робіцца такім цвёрдым, што выдае металічны гук.

У дачыненні харчовага забеспячэння Мека цалкам залежыць ад іншых краін. З нагоды крайняй непладзючасьці глебы, нават такія жыццёва неабходныя прадукты, як рыс і мука, дастаўляюцца ў яе звонку. **Не будзь пілігрымаў, Мека даўно перастала б існаваць**, а дзякуючы пілігрымам яе насельнікі жывуць у той жа атмасферы пастаяннай дэмаралізацыі, у якой жывуць толькі гаспадары гатэлей у гульнявых курортах Яўропы. Сьвятары мячэці, праваднікі падчас рэлігійных цырымоній і шматлікія жабракі, – усе спаборнічаюць адзін з адным у эксплуатаванні даверлівасьці і забабонаў паломнікаў.

Час пабудовы сучаснага будынка Каабы не заходзіць за палову XVII стагоддзя і, як заўсёды бывае са старымі храмамі, яе першапачатковую пабудову таксама называюць «перабудовай, неабходнасць якой была выклікана пашкоджаннямі ад моцных паводак».

Аж да правядзення турэцкім урадам у 1908 годзе чыгункі ў Медыну, паломнікі прыбывалі туды моцна саслабелымі ад цяжкага і доўгага шляху і з

нагоды гэтага былі вельмі схільнымі да халеры. Пабываўшы ў Мецы, яны разыходзіліся потым па ўсіх краінах сьвету, разносячы з сабой гэтую хваробу. Пад час вялікай эпідэміі 1865 года ў адным толькі Ягіпце памёрла ад іхнай халеры 60 000 чалавек. Вярнуўшыяся мусульманскія паломнікі занеслі яе нават у Нью-Ёрк і Гвадэлупу, і з гэтай эпідэміяй не маглі справіцца аж да 1874 года. У 1893 годзе вуліцы Мекі ўяўлялі сабой ўзрушаючае відовішча, і людзі, праходзіўшыя па іх, імкнуліся глядзець прама перад сабой, каб не бачыць куч трупаў, ляжаўшых справа і злева. Большасць паломнікаў збеглі тады ў Джыду. Шмат хто із іх памёр падчас шляху па пустыні, іншыя захварэлі, дабраўшыся да гэтага порта. Усе дайшоўшыя да Джыды былі сагнаны ў адрыны. Тым, у каго закончыліся сродкі, карысталюбныя жыхары адмаўлялі ў ежы і вадзе, а тыя нешматлікія, у каго яшчэ заставаліся грошы, былі без літасьці абабраны вартай.

Рабаванне паломнікаў у Аравіі даведзена да дасканаласьці. Пасьля прыбыцця ў Меку кожны пілігрым павінен выбраць сабе правадыра (матуафа). Гэтая службовая асоба навучае яго малітвам і кленчанням, а таксама шукае для яго кватэру і стол. Паломнік цалуе «Чорны Камень», п'е ваду Зям-Зяма і прымае душ із гэтай вады, пры гэтэм яго грахі ападаюць разам з яе кроплямі, як пыл, і, пазбаўлены ад іх хаджы (ад наймення якога паходзіць і рускае слова ханжа), сем разоў прабягае ад аднаго канца вуліцы да другога, паміж сьвятымі гарамі Сафа і Мярва, «у якасьці ўшанавання пакутлівых пошукаў Агарру вады ў пустыні» (ці, дакладней, усеагульнага збягання ад метэарытнай катастрофы).

Толькі тады пілігрым можа і пагандляваць, і шмат хто выпраўляецца туды выключна з камерцыйнымі мэтамі. Галоўная вуліца Мекі часова ператвараецца ў кірмаш, і там прапануюцца для продажу вырабы ўсіх краін Усходу. Тут вы бачыце чырвоны і жоўты саф'ян із Марока і фескі із Туніса. Там еўрапейскі турак расклаў вышытыя матэрыі, а яго субрат із Анатоліі – шаўковыя дываны. Вока перабягае ад ангорскіх і выдатна зробленых афганскіх шаляў да шаўковых хустак і пярсідзкіх кашаміраў. Індус разаслаў тут свае пышныя тканіны і прываблівае бедуіна кляпанай, упрыгожанай інкрустацыямі, зброяй. Вось ляжаць шэрагі бурштынавых муштукоў, навалены кучамі варэнне і прысмакі. Араб із Йемена прывёз вырабы са скуры і змейчатыя трубкі. Негры із Судана даставілі больш сьціплыя тавары: папяровую тканіну і кошыкі. Жэмчуг, вострыя прыправы, сукны і шаўковыя тканіныі складалі (яшчэ згодна з выказваннем Бартэмы) «годны ўхвалы кірмаш шматлікіх каштоўных рэчаў».

Толькі гэтым і жыве Мека, а без гэтага яна памрэ.

Псеўда-магільня прарока ў Медыне пабудавана таксама не раней XV стагоддзя і ўяўляе сабой пабудову, маючую назву пакой. Яна мае форму няправільнага прастакутніка, і адкрыта зверху. Яе атачаюць, пафарбаваныя ў зялёны колер, жалезныя краты, прыгатаваныя на манер філігранавых. Краты ўсе пакрыты бронзавымі і срэбнымі надпісамі, так што яе ўнутраная частка можа быць разгледжана толькі праз адно із невялікіх вокнаў, якія знаходзяцца на паўднёвым баку. Гледзячы праз гэтае вакенца, бачыш адну накрыўку, і ніхто ніколі не бачыў, што за ёй знаходзіцца. Паведамляюць, што яна закрывае квадратную каменную пабудову, змяшчаючую быццам бы труны Магамета і яго наступнікаў на пасадзе каліфа, Абу-Бекра і Амара... Пад асобнай накрыўкай ляжыць быццам бы цела Фацімы, дачкі Магамета. У вонкавых кратах існуе чацьвёра варот, і паміж кратамі і накрыўкай, хаваючай псеўда-магільні міфічнага прарока Магамета, цягнецца вузкі

праход. Існуе там таксама пустая магільня, чакаючая Іса-бэн-Марыам (Езуса сына Марылі) пасьля яго другога прышэсьця.

Але і гэтая мячэць у сваім сучасным выглядзе існуе, як я толькі што выказаўся, толькі з пятнаццатага стагоддзя. Ды і усе іншыя тутэйшыя маўзалеі-магільні не больш старажытныя за яе. І мы ўжо ведаем, што аж да падарожжа Бартэмы ў 1503 годзе пра труну Магамета было пашырана паданне, быццам бы яна падтрымваецца анёламі да жахлівага суда паміж небам і зямлёй. Гэтае апавяданне без сумневаў выходзіла ад саміх ісламіцкіх паломнікаў, якім такім чынам мясцовыя праваднікі тлумачылі яе адсутнасьць. Зразумела ж, што ніводзін хрысьціянін не стаў бы складаць апавяданне раўназначнае цьверджанню, што Магамет – вялікі сьвяты. Цалкам наадварот. Зразумела ж, што чуючы такія апавяданні ад мусульманаў, хрысьціяне імкнуліся патлумачыць мусульманам гэтае дзіва натуральнымі нагодамі. Не адважваючыся аспрэчыць аднагалосныя сведчанні паломнікаў, яны выказвалі здагадку, што труна ў паветры падтрымваецца няйнакш як магнітамі і гэтае паданне было пашырана ў XV і XVI стагоддзях. Ды і у Расіі, як я ўжо паведамляў, аж да нашых дзён было пашырана паданне, быццам бы труна Магамета сапраўды некалі вісела пад столлю мячэці ў Медыне, але адзін хітры ўкраінец ведаючы, што «магутнасць магніту знікае ад часнычнага паху», прыкінуўшыся магаметанінам, прабраўся ў Медыну з некалькімі цыбулінамі часныку ў кішэні і, выпусьціўшы іх у натоўпе прыхільнікаў, раздавіў нагамі. Часнычны пах падняўся ўгару і труна Магамета з грукатам звалілася і пабілася на дробныя кавалкі.

Толькі Бартэма ў 1503 годзе першым пабачыў псеўда-магільню прарока. Мне невядома яго паведамленне пра сапраўдны стан «Магаметавай труны» пры наведванні ім Медыны, але, відаць, замест абуджаючага смех у тагачасных адукаваных магаметанаў падання, прыдатнага толькі для простага люду, мекскія сьвятары ўжо тады пабудавалі ў кутку мячэці маўзалей, дзе быццам бы спачывае іхны прарок.

Бадыя ў 1807 годзе быў першым еўрапейцам, які даў сьвету поўнае і сістэматычнае апісанне Мекі. Быўшыя да яго ў Мецы падарожнікі, Бартэма і Пітс, абмежаваліся ўрыўкавымі накідамі і нататкамі. А Бадыя вызначыў, з дапамогай астранамічных назіранняў, становішча Мекі і склаў план мячэці з указаннем яе памераў. Гэты план пазней быў перагледжаны Буркгардтам, вандраваўшым пасьля Бадыі. Бадыя апісаў таксама фаўну і флору Геджаса. Апошняя абмяжоўвалася чатырма ці пяццю відамі хмызнякоў і некалькімі відамі калючых дрэў. Ён сустрэў толькі адну кветку на працягу ўсяго шляху да Арафата.

Мастацтвы і навукі былі ў 1807 годзе, пры Бадыі, цалкам невядомымі ў Мецы. Не было каму заказаць нават такіх дробязных рэчаў, як замок ці ключ. Нешматлікія збройнікі былі такімі прымітыўнымі ў сваіх метадах, што ў якасьці горна карысталіся дзіркай у зямлі. Не існавала там ні школ, ні наогул нейкай сістэмы выхавання. Асобы, маючыя жаданне выкладаць, сядзелі каля калон мячэці і гучна чыталі з мэтай завабіць слухачоў. Увесь горад так-сяк вёў сваё існаванне, цалкам залежачы ад рэлігійнай стараннасьці вонкавага магаметанскага сьвету. Прыкметы жыцця і дзейнасьці заўважаліся толькі ў перыяды хаджу. Пад час гэтага перыяду палова насельніцтва Мекі займаецца здаваннем у найм паломнікам пакояў, робіцца брамнікамі і г.д., а другая палова служыць пры мячэці. Потым, пасьля заканчэння перыяду паломніцтва, Мека зноў апускаецца ў дзевяцімесяцовае спаннё.

«*Аравійская паўвыспа, аточаная морам з усіх бакоў, выключаючы адзін, аддаленая ад галоўных шляхоў спалучэнняў,* – выказваецца Бадыя, – *застаецца ў недасведчанасьці адносна новых вынаходніцстваў і набыткаў чалавечага розуму і адносна жыцця ўсіх народаў і пераваротаў у іным асяроддзі. Для вялікіх прагрэсіўных нацый яна мае не большае значэнне, чым патануўшая выспа Атлантыда. Струмень цывілізацыі затрымліваецца яе пясчанымі дзюнамі і камяністымі гарамі, а ў цэнтры гэтай пакінутай вобласьці размешчана Мека, з усіх бакоў аточаная сваімі пустымялі, як цяжка хворы захутаны коўдрамі, удалечыні ад шуму навакольнага сьвету*».

Не ў лепшым выглядзе малюе Меку і Медыну і Буркгардт, наведаўшы яе ў 1815 годзе і пазначыўшы дзіўнае становішча ў іх жанчын-пілігрымак.

«*Існуе* – паведамляе ён – *закон, забараняючы самотным жанчынам здзяйсняць хадж і патрабуючы ад адружаных жанчын, каб яны з'яўляліся на багамолле ў суправаджэнні сваіх чалавекаў. Але часам здараецца, што неадружаная жанчына ці ўдава таксама жадае наведаць сьвятыя месцы. У такім выпадку яна заключае часовае адружанне з адным із праваднікоў, які і суправаджае яе ў якасьці чалавека ў Меку і на Арафат. Пасьля заканчэння хаджу праваднік абавязваецца развесьціся з такой жанчынай, але часта патрабуе ад яе за гэта грошай*».

Мекканец часоў Буркгардта не быў культурным чалавекам. Ды і «*немагчыма чакаць* – выказваецца ён, – *каб адукаванасць і навука квітнелі ў такім месцы, дзе розум кожнага заняты пошукамі ці выгады, ці раю*».

Медына ў тым выглядзе, якой бачыў яе Буркгардт у 1815 годзе, была пабудавана толькі ў шаснаццатым стагоддзі. Культура там пры ім таксама цалкам адсутнічала. Адзіным імкненнем медынцаў было тое, каб набыць грошы і выдаткаваць іх на пачуццёвыя задавальненні.

Ды і маўзалей прарока расчараваў Буркгардта не менш чым горад.

«*Пярэстыя б'ючыя ў вочы фарбы з усіх бакоў, пакрытыя глазурай калоны,* – паведамляе ён, – *выдатныя дываны, каштоўная падлога, пазалочаныя надпісы на паўднёвай сьцяне і зіхацячыя краты на заднім плане, – усё гэта пад час першай хвіліны уражвае вока, але пасьля кароткага прамежку часу робіцца відавочным, што гэта толькі паказная мішуровая дэкарацыя, а не сапраўднае багацце*».

Ды і стыль пабудоваў не старажытны.

Ні ў адным месцы Аравіі і Бертан, пабываўшы там у 1853 годзе, не бачыў такога крайняга запусьцення, як паміж Мекай і Медынай.

«*Караван рухаўся,* – выказваецца ён, – *па камяністых ці глiністых з дамешкам жвіру раўнінах, аблямаваных  гарамі. Раўніны аддзяляліся адна ад другой праходамі, па баках якіх высіліся стромкія сьцены чорнага базальту. Вярблюды, спускаючыся з горных хрыбтоў, ступалі із каменя на камень, як робяць жыхары гор, але яны жаласна раўлі пры нечаканых паваротах шляху і пры выглядзе раскрытых паміж скаламі глыбокіх ям. Здаралася сустракацца і з пясчанымі смерчамі, якія арабы называюць «джынамі пустыні» і якія калі-нікалі нават збівалі з ног вярблюда*».

Характар мясцовасьці, па якой караван праходзіў у другой палове шляху, выявіўся яшчэ больш дзікім. Гэта была голая пустыня, у ёй чулася толькі рэха. Гэта было месца сьмерці. Пясчаныя смерчы віліся па раўнінах. Па абодва бакі шляху, на пясчана-гліністай паверхні, стаялі самотныя велічэзныя кучы камянёў. «Прырода, аскальпаваная і абадраная, паказвала ўвесь свой шкілет позірку гледача». Ноччу вярблюды спатыкаліся, падкідаючы пры гэтым свае насілкі так моцна, «як вялікая марская зыб падкідае лодачку». Пры спусканнях з крутога кража гор паганятыя вялі жывёл за аброць, падганяючы іх дзікімі крыкамі і рухамі. Падобна прывідам, рухаліся па чорнай базальтавай раўніне велічэзныя, невыразныя па сваіх абрысах, формы вярблюдаў. Пучкі іскраў ці дым з полымем, адарваныя ад паходняў

парывамі гарачага ветру, асвятлялі сваім чырванаватым сьвятлом рухаючыся ў змроку велічэзны караван.

Затапленне двара Каабы дажджавой паводкай назіраў у 1877 годзе Джон Кін. Каля заходніх калон вада дасягала вышыні трох футаў, а ў самай нізіннай частцы двара, вакол Каабы, шасьці футаў. Пасьля дажджоў адразу з'явілася халера, тыф і воспа. Паломнікі мёрлі, як мухі. На працягу толькі аднаго дня было пахавана шэсцьдзесят тры чалавекі.

Гутаркавая мова Мекі, – сведчыць Хургранье (Hurgronje ) у 1885 годзе, – мае выразна заўважаемы заходне-арабскі характар, хаця кожная нацыя пакінула ў ім свой след у выглядзе некалькіх слоў.

Із асоб, застаючыхся жыць у Мецы згодна з мірскімі нагодамі, ён згадвае і жанчын, пераважна ягіпцянак, прапануючых сябе ў якасьці жонак неадружаным мужчынам, і, у некаторых выпадках, адружанні маюць самы сумнеўны характар. Развод атрымаць там лёгка, і большасць жанчын Мекі адружваюцца тузін ці два тузіны разоў. Далёка не рэдкімі, дарэчы, з’яўляюцца і шлюбы па каханню. Дзяўчынкі да васьмі ці нават да дзесяці гадоў, г.азн. да часу, калі яны закрываюцца чадрой, вольна гуляюць з хлопчыкамі. Паміж дзецьмі нярэдка ўзнікаюць прыхільнасьці, якія маюць наступствам адружанні. Шматжонства звычайна сустракаецца толькі сярод заможных, а нетрываласць адружальных сувязей складае самую выбітную рысу грамадства Мекі.

Із гэтага зразумела, што прыпадкі істэрыі з’яўляюцца звычайнай з’явай сярод прыгожай паловы насельніцтва Мекі, але яны прыпісваюцца не ўмовам тамтэйшага адружальнага жыцця, а апантанасьцю нячысьцікамі, і лечаць іх старыя з дапамогай загавораў. Лячэнне амаль заўсёды суправаджаецца музыкай, і злы дух, перад сваім выхадам із хворай, часта вымаўляе ў чалавека нейкую каштоўную штучку ці новую сукенку. Хургранье робіць цікавую заўвагу, што меканцы шануюць нявольніц у якасьці жонак вышэй, чым жанчын вольных. Із нявольніц перавага аддаецца абісінянкам, якія валодаюць шматлікімі добрымі якасцямі і якіх у Мецы шмат з усімі адценнямі колеру скуры, ад сьветла-жоўтага да цёмна-карычневага. А чаркешанкі, невялікая колькасць якіх прывозілася із Канстантынопаля і паступаўшая на прадажу не на кірмаш, а іншым шляхам, мала шануюцца з нагоды іхнай крайняй патрабавальнасьці.

Толькі незадоўга да прыбыцця Хургранье, каля 1884 года, турэцкія ўлады наладзілі там друкарню, а да таго часу **адзінкавыя кнігі зрэдку дастаўляліся туды з Ягіпта і Індыі**. Галоўным прадметам вывучэння на прыканцы XIX стагоддзя з'ўлялася законазнаўства па Карану, і самай вялікай павагай карысталася мастацтва чытаць Каран нараспеў. Медычная справа была на прыканцы XIX стагоддзя ў стане вартым жалю. Мекскі лекар, прыяцель Хургранье, акрамя медыцыны займаўся таксама рамонтам гадзіннікаў і стрэльбаў, прыгатаваннем парфумаў, залачэннем каштоўных рэчаў, вырабам феерверкаў. Ён быў уладальнікам невялікай электрычнай машыны, якой уласна і быў абавязаны сваёй высокай доктарскай рэпутацыяй. Але ён не быў знаёмы з фізіялагічнымі адпраўленнямі розных органаў і з падставамі дзеяння сваіх уласных лекаў. Ён быў дастаткова кемлівы для таго каб вучыцца ў замежнікаў, але ў сваіх асабістых інтарэсах падтрымліваў апазіцыю «супраць франкскіх метадаў лячэння», практыкаваўшыміся лекарамі турэцкага войска.

Гэтым недахопам ведаў у вобласьці дакладных навук тлумачыцца і існаванне там шматлікіх забабонаў, шырокае пашырэнне кудменяў, талісманаў і г.д. Існуе

моцная вера ў дрэннае вока як нагоду хвароб ці няшчасьцяў. Шмат якія із гэтых забабонаў былі занесены ў Меку малайскімі, яванскімі, афрыканскімі і індыйскімі нявольніцамі, але некаторыя перайшлі і з мінулага. Сюды дапасуюцца і звычаі перад метэарытным каменем Каабы і трыма скаламі ў даліне Міны.

«*Іслам* – паведамляе на заканчэнне Хургранье – *з'яўляючыся афіцыйнай рэлігіяй, збліжае і злучае разам усе разнастайныя элементы мекскага грамадства, якія толькі зараз, пад уплывам еўрапейскай культуры, пачынаюць працэс развіцця. А з другога боку, іслам знітоўвае ў адно хаатычнае цэлае забабоны ўсіх краін*».

Як і ўсе іншыя наведвальнікі Мекі, Хургранье хваліць Буркгардта і самым уважлівым чынам зяртае ўвагу на некаторыя змены, адбыўшыяся з таго часу. Так, Буркгардт заўважае, што меканцы ўжываюць лаянку рэдка, а Хургранье, наадварот, знаходзіць іх нязменна цынічнымі. Нават шасьці гадовыя дзеці, пры кожным сама мала прыдатным выпадку, ужываюць самыя кепскія выказванні, але абодва пісьменнікі згодны ў тым, што як на вуліцах Мекі, так і ў мячэці пануе самая абуральная амаральнасць і прастытуцыя.

З часоў Буркгардта адбылася яшчэ адна змена фізічнага характару. Паглыбленне, дзе стаіць мячэць, стала глыбей, дзякуючы таму што атачаючая гэтую абгароджаную западзіну паверхня была прыўзнята прадуктамі разбурэння гор, знесенымі дажджавымі струменямі.

Але асабліва добра апісвае дзікую прыроду Аравіі Жэрве Куртэлемон, наведаўшы Меку ў 1894 годзе. Апрануўшыся ў «іхрам», Куртэлемон з некалькімі спадарожнікамі пакінуў гавань Джыды і ступіў на дарогу, падобную на высахшае рэчышча. Уздоўж усяго шляху змянялі адна другую горы, падобныя на патухшыя вулканы.

«*Вось засьцяць вам шлях чорныя, апаленыя сонцам, скалы і ў бязладна нагрувашчаныя камлыгі зямлі. Вы падыходзіце бліжэй і раптам перад вамі расчыняецца цясьніна, па якой пралягае шлях. Вы ідзеце па ёй і трапляеце на нейкую чорную арэну, круглую, нагадваючую сабой пастку* (накшталт метэарытных выбоін)... *Ноч настае раптам. Зоркі і сузор'і разліваюць бляклае, сумнае сьвятло, у якім з усіх бакоў абмалёўваюцца злавесныя прадметы. Там чырвонае сьвятло ліхтара паказвала нам на вайсковы пост у горах і вылучаў із цемры «бязбожны сілуэт турэцкага жаўнера». Тут былі відаць шырокія пясчаныя раўніны. Узышоў месяц. Насустрач трапіўся бясконцы караван вярблюдаў, якія рухаліся ціха і якіх, здавалася, вялі здані*.

А потым зноў пацягнуліся чорныя скалістыя тунэлі.

«*Што будзе са мной заўтра*?» – думаў Куртэлемон.

Згадаліся яму яго ранейшыя вандраванні, яго сядзіба, сям'я і сябры. Вось, быў дадзены сігнал спыніцца. Падарожнікі, загарнуўшыся ў свае палатнянае адзенне, ляглі спаць, нагадваючы ў сваёй нерухомасьці нейкія інэртныя масы. На світанні рушылі далей, і на павароце дарогі раптам апынуліся каля Мекі.



Мал. 115.
Агаране ў пустыні.

Перад заходам сонца Куртэлемон прыйшоў на шырокі двор мячэці, і жыва апісаў тое дзівоснае покрыва, якое дала прырода гэтаму месцу забабонаў і нялюдзкасьці. Услухоўваючыся ў меладычныя галасы муэдзінаў, прызываючых да малітвы з кутніх мінарэтаў, ён нават запаў у стан, падобны на транс. «*Усё купалася,* – выказваецца ён – *у ружовым сьвятле, а вакол Каабы, падобна белым прывідам, нягучна круціліся паломнікі. Гарызонт быў абмежаваны гарамі абступаўшымі горад, на крутых схілах гулялася сьвятло заходзячага сонца. На скалах трапятаў чырванаваты водбліск. Мармуровыя купалы і скляпенні мячэці адбіваліся на зямлі залатой аблямоўкай. Будынкі гарэлі як бы ў полымі. Толькі Кааба, самотная, велічная ў сваім чорным адзенні, заставалася ў глыбіні даліны некранутай гэтай мімалётнай пышнасьцю*».

За вечаровай малітвай было дваццаць тысяч чалавек. Мерная павольнасць іхных кленчанняў надавала яшчэ большую значнасць гэтай выяве. Золата заходзячага сонца замяніў ружовы водбліск, перайшоўшы потым у фіялетавы і жалезна-шэры колер. І вось, на ўсе гэтыя містычныя прадметы апусьцілася ноч. У цемры падняліся белыя прывіды паломнікаў і моўчкі пачалі круціцца вакол Каабы....

Але мы заўважаем на прыканцы XIX стагоддзя ўжо і некаторыя паляпшэнні ў сьвятым горадзе прававерных.

Пры Куртэлемоне, г.азн. у 1894 годзе, у Мецы налічвалася 100 000 чалавек. сядзібы былі ўжо добрага каменнага муравання, умацаваны папярэчынамі і ўпрыгожаны майстэрскай разьбой із індыйскага дрэва. Вуліцы ўтрымліваліся ў добрым парадку і былі нават асьветлены. Лямпы гарэлі ўсю ноч, смецце вывозілася на аслах. Гандаль амаль цалкам, знаходзіўся ў гэты час у руках індыйцаў і яванцаў, але большасць прывезеных прадметаў гандлю былі ангельскага ці галандзкага паходжання. Кожны год **із Індыі прывозіліся зараз сюды і кнігі па багаслоўю, па старажытнай гісторыі, па медыцыне, па магіі** і г. д.

**А ў Мецы ўсё яшчэ нічога не друкавалася** і турэцкая нацыянальная друкарня стаяла без патрэбы. Праходзячы побач з нямым будынкам, дзе яна размяшчалася, Куртэлемон думаў:

«*Ці прачнуцца калі-небудзь гэтыя спячыя народы*?».

Без сумневаў прачнуцца, – адкажам яму мы, – і нават хутка, а пакуль, у дадатак да фанатызму, там нараджаюцца толькі дзіцячыя казкі.

Так падчас аднаго са сваіх шпацыраў, Куртэлемон наведаў могілкі Маалу, дзе быццам бы пахаваны маці Магамета і яго каханая жонка Айша, і даведаўся, што яно мае таямнічыя ўласцівасьці. Адзін індыйскі князь пажадаў перасяліцца ў Меку, каб мець магчымасць закончыць там свае дні і быць пахаваным у межах сьвятога горада, каб павялічыць свае шанцы на атрыманне раю.

Але могілкі перамянілі яго намер.

Адзін із яго адукаваных сяброў параіў яму, у якасьці досьведу, правесьці ноч на Маале. Князь пагадзіўся, і апоўначы пабачыў, што ўсе могілкі напоўніліся нейкімі гіганцкімі ценепадобнымі формамі. Гэта былі вярблюды-здані, якія прыбылі з усіх канцоў зямлі з целамі людзей годных, але памёршых у аддаленых краях, каб замяніць імі целы людзей нявартых, памёршых у сьвятым горадзе. Усю ноч працягвалася выгрузка першых і нагрузка другіх, і перад світаннем караван духаў-вярблюдаў рушыў у адваротны шлях, вязучы ўдалячыню шмат пахаваных у Мецы людзей. Так індыйскі князь пераканаўся, што дарэмнай была яго спроба ашукаць лёс і атрымаць гонар без заслугі.

Але ж тут, чытач, адчуваецца ўжо разчараванне пілігрымствам!...

У сувязі з гэтай легендай знаходзіцца сучаснае паданне і пра іншага князя, сына маўрытанскага цара, які патрапіў у палон падчас вайны з хрысьціянамі. Працуючы ў палоне ў якасьці садоўніка, ён закахаўся ў адну хрысьціянскую князёўну, і на яго каханне яна адказвала ўзаемнасьцю. Кожны із закаханых прыкладаў усе намаганні да таго, каб павярнуць да сваёй веры другога, але, пад канец, саступіла князёўна.

Праз некаторы час іхнае каханне выкрылася. Князю прызначылі яшчэ больш зневажаючую працу, а князёўну заняволілі ў турму. Там яна захварэла і памёрла. Князь у роспачы прыйшоў на магілу сваёй каханай. У яго ўзнікла жаданне зняць з яе рукі просьценькі срэбны бранзалет, які ён неяк даў ёй, і забраць сабе на памяць. Але, раскапаўшы магілу, ён да свайго жаху пабачыў, што князёўна знікла з магілы і ў ёй ляжыць цела нейкага старога, сівабародага араба, каля якога ён заўважыў пышныя перламутравыя ружанцы. Ледзь разумеючы свае дзеянні, ён схапіў гэтыя ружанцы, закапаў магілу і збег без аглядкі.

Доўга блукаў ён па розных краінах і прыйшоў, нарэшце, у Меку. Але толькі толькі ўступіў ён на яе галоўную вуліцу, як да яго кінуўся адзін малады чалавек з крыкам:

– «Апаганшчык магіл, адкуль ты дастаў гэтыя ружанцы? Гэта ружанцы майго памёршага бацькі, пакладзеныя з ім тут у магілу на могілках Маалы».

Сабраўшыся натоўп пацягнуў князя да кадыя, дзе ён быў аддадзены строгаму вышуку. Ён паведаміў сваю гісторыю. Кадый з усімі прысутнымі выправіліся ў Маалу, адкрылі магілу і, – о, здзіўленне! – у магіле ляжала замест старога араба з ружанцамі князёўна, падобная на спячую дзяўчынку, і на руцэ яе блішчаў срэбны бранзалет...

Вярблюды-цені і тут зрабілі сваю справу...

Але вось мы бачым, што нават і Мека зведвае уплыў сучаснай еўрапейскай культуры. Нібур, наведаўшы Йемен на прыканцы 1762 года, паведамляе толькі пра трох невядомых хрысьціянах, якія пабываўшы ў Мецы, зніклі потым без следу. Ён чуў таксама пра француза, які ехаў у Меку служыць у якасьці лекара пры асобе эміра хаджы. Яму было абяцана, што яго не будуць пераследаваць з нагоды рэлігіі, аднак, калі ён прайшоў некаторую адлегласць, яго прымусілі, пад пагрозай сьмерці, адмовіцца ад хрысьціянства і толькі пасьля гэтага дазволілі працягваць шлях.

Прайшло 50 гадоў і ў 1815 годзе Томас Кіт, жаўнер 72 палка гайлэндэраў, быў узяты туркамі пры Разеце ў палон і таксама сілком далучаны да ісլама. Ён зрабіўся мамелюком, даслужыўся да чына ягі і быў прызначаны губернатарам Медыны. Але і пры ім ніхто, не прызнаючы Магамета прарокам, не мог відавочна з’явіцца ні ў Мецы, ні ў Медыне.

А жыццё ўсё ж ішло сваім шляхам, і вось, у жніўні 1908 года была атрымана вестка, што хіджазская чыгунка ўжо дасягнула Медыны і што праз два гады яна дойдзе да Мекі.

Думка пра пабудову гэтай чыгункі ўзнікла ў Канстантынопалі ў красавіку 1900 года, і ўжо праз некалькі месяцаў пасьля гэтага закіпела праца. Султан, у якасьці каліфа Ісламу, падпісаўся на 50 000 турэцкіх фунтаў і запрасіў да ахвяраванняў усіх сваіх адзінаверцаў. Па ўсяму мусульманскаму сьвету, акрамя двух сьвятых гарадоў Аравіі, праект дарогі быў сустрэты з вельмі рэдкім запалам. Праца, пад кіраўніцтвам нямецкага інжынера Мейснэра-Пашы, пасоўвалася наперад з незвычайнай хуткасьцю. Пабудова гэтай дарогі пабіла ўсе ўсталяваныя раней рэкорды.

Праца Мейснэра-Пашы закончылася ў Медані-Сале, мяжы Хіджаза. Цырымонія адкрыцця дарогі была праведзена ў Медыне ў прысутнасьці шматлікіх знакамітых ісламіцкіх асоб, і з гэтай нагоды ілжэ-магіла прарока была асьветлена электрычнасьцю. Справаздача пра цырымонію была размешчана ў газеце Times, **меўшай там уласнага карэспандэнта**, і цікава адзначыць, што гэтая справаздача была пратэлеграфавана медынскай паштова-тэлеграфнай канторай па-ангельску.

І вось, зараз чыгуначныя цягнікі штодня праходзяць праз Меку; «над маўзалеем прарока» прагулі прапелеры аэрапланаў, запаліліся электрычныя агні, загучалі тэлефон і грамафон, і, магчыма, нядоўга застаецца да таго часу, калі нейкі аравійскі Ленін дасьледуе «магаметаў маўзалей» і пакажа ўсім і кожнаму, што пад ім яго няма.

